# КУЗЬМА ЧОРНЫ

## ЗБОР ТВОРАЎ
## У ВАСЬМІ ТАМАХ



ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
МІНСК 1975

# КУЗЬМА ЧОРНЫ

ТОМ
СЁМЫ

П'ЕСЫ

НЯСКОНЧАНЫЯ РАМАНЫ

І АПОВЕСЦІ

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
МІНСК 1975

Бел 2
Ч 75

*Рэдактар тома*
В. В. БАРЫСЕНКА

*Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі*
А. Д. АТАЕВАЙ
і А. Ф. ХАРКЕВІЧ

**Чорны К.**
Ч 75 Збор твораў у 8-мі тамах (падпісное выданне). Том VII. Мн., «Маст. літ.», 1975.
584 с. з іл.

У сёмы том уключаны драматычныя творы: «Не пішы чорт ведае як», «З драмы» (урывак), «Вызваленне» (пралог да п'есы), «Лета», «Бацькаўшчына», «Базылевічава сям'я», «Ірынка» і іншыя; нясконачаныя раманы: «Вецер і пыл», «Трыццаць год», «Заваёва свету», «Судны дзень» і іншыя.

Ч $\frac{70303\text{-}199}{М\ 302(05)\text{-}75}$ 104-75 Бел 2

# НЕ ПІШЫ ЧОРТ ВЕДАЕ ЯК

## *Сцэна - сатыра*

### СЦЭНА

Нейкая не абы-якая ўстанова грашовых спраў. Вялікі пакой. Многа сталоў (чым больш, тым лепш). На кожным стале розных папер, папак з паперамі, усякіх канцылярскіх прылад — ліку няма. За кожным сталом сядзіць чалавек і кожны — то піша, то ляпае на шчотах, то так нешта вылічвае, чухаючы то пад носам, то яшчэ дзе іначай (дзе сам хоча, там і чухае). А напроці, перад публікай, пры самай задняй сцяне — абгароджанае балясамі невялікае месца (як катух) — гэта каса. З-за балясаў вельмі часта паказваецца шырокі, як калясо, з падстрыжанымі, трохі сівымі валасамі твар касіра.

### АСОБЫ:

Народу на сцэне чым бо́льш, тым лепш. На агульным фоне бухгалтараў, сакратароў, загадчыкаў, перапісчыкаў, рахункаводаў, рэгістратараў і людзей, якія прыходзяць за ўсякімі справамі, вызначаюцца яскрава вось якія асобы:

Мікалай Мірмановіч — малады чалавек, так год 23, перакладчык брашур, розных папер, артыкулаў (з гэтага хлеб есць). Адзеты так, як прыказана апошняю модаю: шэрая сарочка, увабраная ў порткі, амерыканскага фасону. Парожні партфель у руках.

Старшы бухгалтар, Бранзельс — малады і здаровы (чырвонага колеру і буйнога складу). Вялікі кіраўнік усімі сталамі.

Малодшы бухгалтар, Куніцкі — высокі, худы, востры, як ражон. Год пад 30. Мае доўгі нос.

Памочнік старшага бухгалтара, Верабей — быўшы стары чыноўнік.
Год яму пад 52. Гаворыць глуха і паважна. Вусы і тоўсты нос з вузенькімі ноздрамі.

Памочнік малодшага бухгалтара, Карась — год пад 40. Вусы, востранькая бародка і маленькі носік з вялікімі ноздрамі. Голас, як у сухотлівага: тоненькі, сіплы — ледзьве дух адцягае. А гаворыць скоранька, заікаючыся.

Памочнік памочніка старшага бухгалтара, Блізкабач — за барадою і вусамі твару не відно. Лысы. 65 год.

**Памочнікавага памочніка памочнік, Максім Максімавіч Гвозд-Угэтачны** — 40 год. Усё на ім акуратна: і падстрыжана, і падбрыта, і зашпілена. Усім стараецца дагадзіць. Усім прыветна ўхмыляецца.

**Антон Калістратавіч Барабаш** — загадчык усяго гэтага аддзела. Стары спецпрактык. І паджылы, і важны.

**Кур'ер Цімошка Віляй** — 40 год.

## ДЗЕЯ

Як паднімаецца заслона, усе сядзяць і пішуць. Прыгнуліся да папер і забылі ўсё. Толькі ўсе (і чым часцей, тым лепш) адкашліваюцца: гм, гм, кх, гм. Ляпаюць шчоты, скрыпяць пер'і. Раз-поразу чуецца, як хто-небудзь пачынае сабе пад нос: «Значыць, дваццаць пяць рублёў сюды, пятнаццаць сюды. Два нулі... 7785 з палавінаю рублёў!..» Уваходзіць Мірмановіч, аглядае ўсе сталы — куды б тут падысці. Нарэшце падыходзіць да Бранзельса. Дастае з партфеля паперку і кладзе на стол.

Бранзельс. Што вам?

Мірмановіч. Атрымаць грошы за пераклад брашуры.

Бранзельс *(разглядаючы паперу)*. Рэзалюцыя, значыць, тав. Барабаша ёсць, значыць, неўкасніцельна грошы выдаць, дваццаць адзін рубель і 98 кап. з палавінаю. Цяпер, акругліўшы суму, будзе 21 рубель і 99 капеек. *(Устае і абарочваецца цераз усю залу да Куніцкага і на тонаў 5 павышае голас.)* Тав. Куніцкі! Пакольк, значыць, гэты таварыш пераклаў брашуру, якую наша ўстанова выдае, пастолькі яму, гэтаму, значыць, таварышу, палагаецца выдаць 21 руб. і 98 кап. з палавінаю згодна рэзалюцыі тав. Барабаша ад сяго чысла на заяве гэтага, значыць, таварыша Мірвановіча.

Мірмановіч. Не Мірвановіча, а Мірмановіча.

Бранзельс *(наставіўшы палец)*. Тс-с-с!.. А акругліўшы суму, будзе 21 рубель і 99 капеек. *(Мірмановічу.)* Што вы хочаце сказаць?

Мірмановіч. Я не Мірвановіч, а Мірмановіч!

Бранзельс *(глядзіць на паперу)*. Не можа быць!

Мірмановіч. Як не можа, калі я сам тут і гавару!

Бранзельс. Не можа быць.

Мірмановіч. Чаму?

Б р а н з е л ь с. Бо тав. Барабаш не такі чалавек, каб накладаць рэзалюцыі абы на якіх паперах.

М і р м а н о в і ч. Чаму, якая ж мая папера?

Б р а н з е л ь с. А такая ваша папера, што вы стараецеся ўбіць мне ў галаву, што завецеся Мірмановіч, а ў вашай паперы напісана Мірвановіч.

М і р м а н о в і ч. Не можа быць.

Б р а н з е л ь с. Можа!

М і р м а н о в і ч. Я ж сам пісаў.

Б р а н з е л ь с. Няхай мне хоць сам камісар грашовых спраў піша, а я прадзелу праступіць не магу. *(Яшчэ павышае голас да немагчымасці і абарочваецца да касіра.)* Таварыш касір, можаце вы выдаць грошы па заяве ад сяго чысла і з рэзалюцыяй тав. Барабаша ад сяго чысла, на якой напісана Мірвановіч, а палучацель гаворыць, што Мірмановіч?

К а с і р *(высоўвае твар і калупае ў носе).* Не магу!

Б р а н з е л ь с. Грошай, значыць, не будзе.

М і р м а н о в і ч. За што ж я брашуру перакладаў?!.

Б р а н з е л ь с. Падніміце хадайніцтва нанова ды замест **в** напішыце **м**.

М і р м а н о в і ч. Дык там жа **м**.

Б р а н з е л ь с. Так **м** не пішацца. У **м** трэба, каб верхнія канцы былі роўныя, а тут у вас левы канец дык тырчыць угору, як у заядлага сабакі хвост.

Х р ы п л ы г о л а с з - з а з а д н я г а с т а л а, н е д з е з к у т к а. У заядлага сабакі хвост не вельмі тырчыць угору, а трохі як бы кілбасою закручаны.

Д р у г і г о л а с *(таксама недзе ззаду).* Няпраўда, Аляксей Іванавіч, таварыш старшы бухгалтар праў. Заядлы сабака заўсёды хвост угору носіць.

П е р ш ы г о л а с. Каму вы гаворыце!? Па-вашаму, значыць, я сабак ніколі не трымаў? Ды я нашчот сабак, сабаку з'еў.

Д р у г і г о л а с. Чаго не ведаю, таго не скажу. Можа вы і не аднаго сабаку з'елі, але я ўручаю галавой, што на сабачы хвост ніколі не прыглядаліся.

Раптам выходзіць на сярэдзіну пакоя к у р' е р.

К у р ' е р *(падыходзячы да стала, за якім спрачаюцца аб сабаках).* Аляксей Іванавіч праў. Нашто вам што: ды ў мяне ў самога, у маладыя гады, быў сабака. Паехаў я, значыць, раз у Палтаву, а адтуль думаў паехаць у Кацяры-

наслаў, аж бачу, у Палтаве на самай галоўнай вуліцы ідзе старшы мундзер-ахфіцэр з малодшым яфрэйтарам; я, праўда, узяў пад казырок...

Карась *(перабіраючы паперы).* Яфрэйтарскі чын быў адзін, ні малодшых, ні старшых яфрэйтараў не было... Занясіце, тав. Віляй, наверх таварышу Цынктатуру вось гэтыя паперы.

Кур'ер бярэ паперы і выходзіць.

Мірмановіч. Дык як жа будзе з грашыма?

Бранзельс. Пішыце новае хадайніцтва.

Мірмановіч. Я з прынцыпу не буду пісаць.

Бранзельс. Можаце не пісаць. *(Садзіцца і пачынае ляпаць на шчотах.)*

Мірмановіч *(з вялікім смуткам агледзеўшы ўсе сталы).* Доўга вы будзеце мяне за нос вадзіць?

Бранзельс *(раптам усхваціўшыся з крэсла і хватаючы паперу з рук Мірмановіча).* Ды паглядзіце вы самі. Што гэта — **м** ці **в**? У вас, малады чалавек, ёсць галава ці не? Таварыш Куніцкі, ці можа быць такое **м** ці не?

Куніцкі вылазіць з-за свайго стала і падыходзіць да стала Бранзельса. Глядзіць у паперу.

Куніцкі. Не магу точна сказаць... Таварыш Верабей, як па-вашаму?

Падыходзіць Верабей і глядзіць.

Верабей. Таварыш Карась,ідзіце гляньце.

Карась падыходзіць.

Карась. Чорт яго ведае, вельмі ж адзін канец угору задзёрся, добра кажа, як у заядлага сабакі хвост... Таварыш Блізкабач, можа, вы экспертызу зробіце?

Падыходзіць Блізкабач.

Блізкабач *(гнецца да паперы цераз спіны другіх).* Як мне здаецца, дык такога **м** не бывае і быць не можа. Трэба хіба пазваць Максіма Максімавіча Гвазда-Угэтачпага, ён на гэтым зубы з'ядае. Максім Максімавіч!!!

Голас з кутка. Панёс наверх ордэр падпісваць.

Голас Бранзельса. Пазавіце кур'ера.

Блізкабач выходзіць зваць кур'ера. Цераз хвіліну ўваходзяць яны ўдвух.

Б р а н з е л ь с. Тав. Віляй, пазавіце зверху Максіма Максімавіча.

Кур'ер выходзіць і прыходзіць з М а к с і м а м М а к с і м а в і ч а м.

Б л і з к а б а ч. Максім Максімавіч! Ці можа гэткае м быць?

М а к с і м М а к с і м а в і ч. А хто яго ведае. Цяперашнім светам чаго не можа быць!

Усе з вялікім расчараваннем адступаюць на крок ва ўсе бакі ад стала і, растапырыўшы рукі, стаяць і маўчаць.

К у р ' е р *(гледзячы ў паперу)*. **М** можа быць усякае. За старым нажымам, я памятаю, начальнік палаты ды, бывала, калі напіша, дык **о** ў яго, як **і** выходзіць, а **б** ні па адну літару не падобна, а больш усяго падобна да густога грэбня, якім бабы малым дзецям усякую брыду з галавы вычэсваюць. Так што, бывала, уг-га, каб мне столькі здароўя, колькі было ў канцылярыі клопату, пакуль яго пісаніну разбяруць. Аднак жа, нічога, разбіралі ды з гэтага хлеб елі. Уг-га, каб мне столькі здароўя!..

Г о л а с к а с і р а. Падавайце ардзяры! Публіка чакае!

Б р а н з е л ь с. Рабі тут што хочаш... Пазавіце хіба тав. Барабаша.

Кур'ер ідзе зваць Барабаша.

Б а р а б а ш. Што тут такое? Тэлеграма важная прыйшла?!

Б р а н з е л ь с. Вось тут ваша рэзалюцыя на паперы, у якой ні пачаткаў ні канцоў не відаць.

Б а р а б а ш *(перапалохаўшыся)*. Ну?!

Б р а н з е л ь с. Ці **м** ці **в** — чорт яго разбярэ! Рабі што хочаш.

Б а р а б а ш *(разглядаючы паперу)*. Дзела запутана. Я не прыглядаўся. Даручаецца вам, тав. Бранзельс, высніць справу і пасля паведаміць мне. Я чалавек точны!

Заварочваецца і выходзіць. Усе разыходзяцца і садзяцца за свае сталы.

Б р а н з е л ь с *(адзін перад Мірмановічам з паперай ў руках)*. Рабі што хочаш. Сам заварыў кашу, а цяпер расхлёбвай! Каб ім у жываце хлёбала!.. *(Крэкча і чухаецца.)* Ага! тав. Віляй, занясіце ўсю гэтую музыку наверх, аддайце таварышу Цынктатуру, няхай сам разбярэцца, ды раскажыце яму ўсё, у чым справа!

К у р ' е р *(выходзячы з паперай)*. Распачнуць, трасца іх мацеры, валынку, дый наводзяць цэлы дзень паніку. А ты насіся то ўзад, то ўперад, як ганчак... А каб іх ногі не насілі, каб іх! *(Ляпае дзвярыма.)*

Бранзельс садзіцца і пачынае гортацца ў паперах. Усе маўчаць, лічаць, шалясцяць паперамі, кашляюць, адхарквающца, моцна смаркаюцца. Касір выдае людзям з касы грошы. Мірмановіч адыходзіць убок, садзіцца на канапку і пачынае драмаць.

Б р а н з е л ь с *(сам сабе)*. Няхай разбіраецца там, ён на паўтара чырвонца больш бярэ ў месяц.

Ц і х і г о л а с у к у т к у. Не на паўтара, а на 15 руб. і 44 капейкі.

Д р у г і г о л а с. Таварыш Бранзельс акругляе суму.

П е р ш ы г о л а с. Ага!..

Зноў усё ціха. Раптам уваходзіць к у р' е р. Дае тую самую паперу Бранзельсу.

К у р ' е р. Таварыш Цынктатур заявіў, каб самі разабраліся.

Б р а н з е л ь с *(бярэ паперу)*. Ды яны ж і зубы свае з'ядаюць на тым, што ўсё заяўляюць! *(Мірмановічу.)* Вось што, малады чалавек! У нас сягоння серада, а вы зайдзіце ў пятніцу. Да пятніцы я пастараюся высніць справу.

М і р м а н о в і ч выходзіць. Бранзельс глядзіць на паперу; пасля паволі падсоўвае яе пад шчоты на стале. Круціць галавою, цмокае і закапваецца ў паперы.

Г о л а с к а с і р а. Ардзяры!

Г о л а с з к у т к а. Падпісваю.

Нехта за задннім сталом пачынае душыцца кашлем.

*Заслона*

# З ДРАМЫ

## АСОБЫ Ў ГЭТЫМ МАЛЮНКУ:

Сяргей — бяздомны валацуга, парабак, гадоў 36.

Стась Міхалінчык — селянін. Валасы такія рэдкія, што здаецца лысым; хітры, але хітрасць яго — не хітрасць злачынцы; любіць пакпіць над кожным; жартаўлівы; гадоў 45.

Лявон — лясны аб'ездчык. Чорны, драбнатвары; 38 год; спакойны чалавек.

Агата — гаспадыня, жонка аб'ездчыка; 34 гады; чарнявая, з колерам сялянскай утомленасці на прыгожым твары, але свежая і здаровая.

Таня — сёмы год } іх дзеці.
Міхалка — дзевяты год }

Якуб Якубоўскі — старшы музыка, былы дзяк, год сорак два; трохі сутулаваты ў шырокіх плячах.

Музыкі — (капэла). Скрыпкі, флейты, басэтля.

Заціпшы куток аб'ездчыкавага двара. Каля адчыненых дзвярэй пуні С я р г е й малюе калёсы, курыць махорку і спрытна наплёўвае на каляса. За пуняю — сцяна хвойнага лесу. Сонечны дзень у канцы ліпеня; далёка за поўдзень. Сяргей пробуе спяваць сабе пад нос невыразным напевам. Злева цераз пералаз звешваецца нага і пасля перакідаецца постаць С т а с я М і х а л і н ч ы к а ў палатанай камізэльцы і з пугаўём у руках; у губах папяроса, у руках запалкі; садзіцца на пералазе закурваючы; ад пералаза ідзе сабе як ішоў; раптам, убачыўшы Сяргея, схамянуўся, прыпыніўся, прыглядаецца, аж жахнуўся.

С т а с ь М і х а л і н ч ы к. Я цябе, здаецца, недзе бачыў.

С я р г е й. Можа, ты мяне дзе і бачыў.

С т а с ь М і х а л і н ч ы к. Дзе ж гэта я цябе мог бачыць? От уваччу ты ў мяне стаіш, як толькі глянуў я на цябе!.. От бо памяць у мяне, каб яна спрахла... Дзе ж гэта я...

С я р г е й *(углядаецца на Стася Міхалінчыка і пасля расцягвае твар жартаўліваю ўсмешкаю)*. А ты, падла, лысець пачаў. Чаго гэта ты? Гы-ы...

С т а с ь М і х а л і н ч ы к. Дык і ты мяне пазнаў?.. Ведаеш! Слухай... І голас знаёмы. Няўжо гэта?.. Ці не тут, на гэтым самым двары, мы з табою, браце ты мой... Гадоў чатырнаццаць таму назад... Пачакай, пакажы руку. *(Шпарка падыходзіць да Сяргея.)*

С я р г е й. Нашто табе рука, што ты так не пазнаў? Пазнаў жа.

С т а с ь М і х а л і н ч ы к. Закасай рукаў.

С я р г е й. І так жа пазнаў, калі пра руку ўспомніў. Галава!

С т а с ь М і х а л і н ч ы к. Сяргей, даўнейшы парабак старога аб'ездчыка? А бра-а-атка...

С я р г е й. Чаго ты, падла, аблысеў? Гэта ж, бывала, у Стася Міхалінчыка гэтакая рыжая чупрына была, а цяпер — аж мазгі свіцяцца. Не шануеш ты сваіх мазгоў. *(Закасвае рукаў. Стась Міхалінчык падступае бліжэй, глядзіць, Сяргей падміргвае яму ў твар, ціха высвіствае.)* Ну што, пазнаў?

С т а с ь М і х а л і н ч ы к. А братка... Зноў ты тут. Занясло ж цябе зноў сюды, праз гэтулькі год. А-я-й, Сяргей. Дзе ты гэтулькі бадзяўся?

С я р г е й. Хіба малы свет?

С т а с ь М і х а л і н ч ы к. Дык ты нідзе і не асеў за гэты час?

С я р г е й. А нашто мне асядаць?

С т а с ь М і х а л і н ч ы к. Як жа ты зноў сюды прыблытаўся?

С я р г е й. Ногі прывялі. Дый пацягнула нешта сюды. *(Маўчанка.)* Тут жа, брат... Ёмкае было тады лета!.. не забыўся? *(Зноў закасвае рукаў. Стась Міхалінчык зноў разглядвае руку. Сяргей задумёна пасвіствае.)*

С т а с ь М і х а л і н ч ы к *(задумёна)*. Я тады цябе быў здорава сцебануў... Думаў, што рука папалам. Думаю — зверне ён мне галаву, як выйдзе з больніцы, ажно ж ты згінуў недзе зусім адгэтуль... Даўно ты тут зноў?

С я р г е й. Ад нядзелі.

С т а с ь М і х а л і н ч ы к. Я чуў, што новы парабак у аб'ездчыка. Але што гэта якраз ты — дык... Лезу цераз пералаз, бачу — ты, і не ты.

С я р г е й. Хіба я стары гэтакі зрабіўся?

С т а с ь М і х а л і н ч ы к. Змяніўся. Што быў хлопец гадоў дваццаць, а што мужчына... А здаровы ты які зрабіўся, разбыўся як. Тады гэта, як сцебануў я цябе быў... па руцэ, дык напроці мяне ты быў як чарвяк, блазен... Злаваў ты тады на мяне доўга?

С я р г е й. Каб тады адразу ты мне дзе папаўся, дык я цябе не пашкадаваў бы.

С т а с ь М і х а л і н ч ы к. А цяпер?

С я р г е й. Што было, тое прайшло. Няма чаго старога ўспамінаць.

С т а с ь М і х а л і н ч ы к. Я цябе хацеў шмаргануць дзе па мяккім месцы, каб не скалечыць...

С я р г е й. А тут якраз, ліха ёй, рука падвярнулася.

С т а с ь М і х а л і н ч ы к. Але ж.

С я р г е й. І здорава ты мяне быў чыркануў. Тая і баба не варт гэтага.

Стась Міхалінчык. Ты думаеш не варт?

С я р г е й. Чорт яго за бабу біўся калі. Гэта адно што пад п'янку тады падкруцілася ўся гэтая музыка.

Стась Міхалінчык. А ты ж здаравейшы быў за мяне, і спрытнейшы... Маладзейшы... Гадоў на дванаццаць?

С я р г е й. Ты цверазейшы быў.

Стась Міхалінчык. А прызнайся, ты тады здорава нудзеў па ёй?

С я р г е й. Усяго было.

Стась Міхалінчык. Як жа ты адразу пасля гэтага прапаў быў, самахоць падаўся адгэтуль?

С я р г е й. А ты, прызнайся, стары д'ябал, рад быў, што я табе саступіў з дарогі, што пакінуў яе? Эх ты, лысы... Жывеш, кажаш? Добрая з яе табе гаспадыня выйшла? Колькі дзяцей напладзілі?

Стась Міхалінчык. Дзяцей?

С я р г е й. Але, дзяцей. *(Відаць, што неспакой нейкі апаноўвае яго.)*

Стась Міхалінчык. Дзяцей?.. З ёю?..

С я р г е й. Чаго ты гэтак?.. Падыдзі сюды!

Стась Міхалінчык *(нервова ўсміхаючыся).* Дык я ж з ёю не... гэтае... Ты што, ты слухай, кажаш ад нядзелі ты тут?

С я р г е й. Але.

Стась Міхалінчык. Ну, што, як табе яна?.. Як ты што гаварыў з ёю?

С я р г е й. З кім?

Стась Міхалінчык. З ёю.

С я р г е й. Дзе?

Стась Міхалінчык. Ну тут, ну.

С я р г е й. Чаму тут?

Стась Міхалінчык. Чаго ты дзівішся?.. Аг-га-а, вось як... ты... от што... Гаспадыні, аб'ездчыхі няма, здаецца, дома цяпер?

С я р г е й. Няма.

Стась Міхалінчык. Дык ты гаспадыні свае яшчэ не бачыў?

С я р г е й. Не. А што? *(Як бы ўстрывожана, падняўся.)*

Стась Міхалінчык. Як паехала ў нядзелю ў лясніцтва на сваю атаву, дык няма яшчэ... Вось яно... Дык, кажаш, не бачыў яшчэ гаспадыні. *(Хітра смяецца; адыхо-*

*дзіцца ад Сяргея, бярэ пугаўё пад паху, ціха пробуючы рагатаць, закурвае.)*

Сяргей *(шырока расплюшчанымі вачыма глядзіць на Стася Міхалінчыка)*. Чаго ты?.. Ты чаго? Чаму ты пра гаспадыню раптам загаварыў? *(Падступае бліжэй.)* Гавары, чаго ты рагочаш? Гавары! *(Маўчаць абое.)* Гавары, што ты мяне круціш?

Стась Міхалінчык. Хэ-хэ, узяло цябе за ныркі... Здагадаўся?

Сяргей. Што здагадаўся!? *(Пераскаквае цераз калясо, шпарка ідзе да Стася Міхалінчыка, той адыходзіцца задам да пералаза. Сяргей хватае яго за камізэльку, прыпірае да пералаза.)* Гавары, лысы грыб, не ўводзь мяне ў злосць!

Стась Міхалінчык. Дык ты гаспадыні не бачыў? *(Рагоча. Раптам сціхае зусім.)*

Сяргей. Чаго ты маўчыш? Зараз от скамячу ды калі пушчу на той бок плота. *(Трасе Стася Міхалінчыка.)*

Стась Міхалінчык. Пусці, ты!

Сяргей. Ну!

Стась Міхалінчык вырываецца. Убягае з плачам Таня.

Таня. Міха-алка-а! *(Плача.)* Дзе Міхалка? Конь у капусту ўлез.

Стась Міхалінчык *(сядзіць на пералазе, зашпільвае камізэльку)*. Чаго ты чэпішся, вар'ят. Што з табою зрабілася?

Таня. Дзе Міха-алка?

Сяргей. Ты не дасі рады каню?

Таня. Не-е-е.

Сяргей. Хадзем... Кудэю ён улез? Плот паламаны? Ці цераз верх ускочыў? *(Выходзіць з Таняю.)*

Стась Міхалінчык *(нагінаецца, паднімае пугаўё)*. От будзе работы! Няўжо ён і не здагадваецца, да каго зноў служыць папаў? Цікавае будзе спатканне, як прыедзе яна! Будзе штука! *(Ціха рагоча, ляпае пугаўём сабе па калошы. Ідзе ад пералаза да пакінутага Сяргеем каляса, разглядае, спрабуе фарбу пугаўём.)* От Лявону калёсы малюе, з жонкаю ў госці ездзіць. Ці не сам за фурмана сядзе? *(Задумёна смяецца.)*

Цераз пералаз пачынаюць пералазіць адзін за адным музыкі. З імі Якуб Якубоўскі. Трохі пад хмелем. Якуб Якубоўскі п'янейшы за ўсіх.

Якуб Якубоўскі. Здароў, Стась!

Стась Міхалінчык. Здароў. Адкуль вас гоніць цэлую капэлю?

Якуб Якубоўскі. На Якімовічаўскіх хутарох вяселле гралі. Ад нядзелі гулялі.

Першы музыка. Страшэнная моц колькі кілбас параелі. *(Садзіцца на калоду, падкручвае струны.)*

Другі музыка. І гарэлкі колькі перапілі! *(Прыпіраецца плечуком да плота.)*

Трэці музыка. А дзяўчат было!.. Багатая шляхта вяселле спраўляла.

Якуб Якубоўскі. Ціха, вы, майстры!.. Стась, маеш курыва?

Стась Міхалінчык. На.

Якуб Якубоўскі. А ў мяне дома ні кошана, ні вожана.

Стась Міхалінчык. А ты ўсё, падла, вяселлі граеш. Лягчэйшы хлеб!

Якуб Якубоўскі. Упраўлюся, калі захаджуся... Галава баліць... Братка ты мой!.. Лявон можа, і крыўдзіцца, што мы цераз яго двор ход зрабілі... *(Курачы, садзіцца каля недамалёванага каляса. Музыкі — некаторыя садзяцца, некаторыя топчуцца.)*

Стась Міхалінчык. Якуб!

Якуб Якубоўскі. Чаго ты?

Стась Міхалінчык. Ці памятаеш ты Сяргея?

Якуб Якубоўскі. Якога Сяргея?

Стась Міхалінчык. Што даўней, гадоў дванаццаць мо таму, тутака ў старога аб'ездчыка парабкам служыў.

Якуб Якубоўскі. Гэта якога ты цераз аб'ездчыкаву дачку чуць не скалечыў быў?

Стась Міхалінчык. Але. Нашто старое ўспамінаць.

Якуб Якубоўскі. Памятаю я яго.

Стась Міхалінчык. Дык ён цяпер ізноў тут.

Якуб Якубоўскі. Дзе?

Стась Міхалінчык. От тут, о! На гэтым самым двары зноў служыць наняўся.

Якуб Якубоўскі. Ну?!

Стась Міхалінчык. Без ну.

Першы музыка. Той самы Сяргей? І да тае самае папаў зноў? Тагды вельмі ж надаў за ёю — лоўкая была

дзяўчына — а гэта гаспадыня яго, самая сапраўдная... Як гэта ты тагды, Стась, думаў, што яна за цябе пойдзе? Ты ж напроці Сяргея стары і тагды быў.

Другі музыка. Няўжо Сяргей ізноў тут? Ці даўно? Нешта ж не відаць яго было.

Стась Міхалінчык. Ад нядзелі. І яе яшчэ не бачыў.

Якуб Якубоўскі. А што табе гэта ўкалола.

Стась Міхалінчык. Што?

Першы музыка. Як гэта, Якуб, ты казаў, тая полька граецца, калі сціхае ўтур, дык зараз на дзве струны хватаць?

Другі музыка. Але, на дзве. Бо другая струна павінна быць заместа ўтуру.

Першы музыка. О гэтак? *(Пробуе граць.)*

Якуб Якубоўскі. Ціха вы, майстры!

Стась Міхалінчык. Заграй, браце, заграй... Што ты яго сцішаеш, няхай заграе... Грай, не бойся.

Якуб Якубоўскі. Чаго яму баяцца... Хадзем. *(Паднімаецца, выцірае хустачкаю лоб і ў сярэдзіне шапку. На твары ў яго маўклівая, стомленая ўсмешка.)*

Стась Міхалінчык. Чаго хадзем, утнеце штонебудзь. Што вы гэтак патаміліся? Гультайскі хлеб не цяжкі.

Якуб Якубоўскі *(кпліва)*. Ах, як ужо ты, ліхенька табе, утаміўся, каля гэтага каляса курачы! *(Нешта гаворыць Стасю Міхалінчыку.)*

Першы музыка. Што ты нас гультаямі робіш!

Другі музыка. Але, работнік знайшоўся.

Першы музыка *(пробуе граць польку)*. Здаецца, гэтак у тым месцы? Якуб!

Якуб Якубоўскі. Га?!

Першы музыка. Гэтак? пытаю! *(Грае.)*

Якуб Якубоўскі. Не, не гэтак.

Першы музыка. А як?

Якуб Якубоўскі. Нешта я і сам не памятаю. У галаве ў мяне ўсё роўна як у цыгана за пазухаю.

Стась Міхалінчык. Чаму?

Якуб Якубоўскі. Цёмна і пуста. Ніякае перспякцівы.

Стась Міхалінчык. А ні-ні?

Якуб Якубоўскі. Ані каліва.

Стась Міхалінчык. То чаму ты дзякоўства кінуў?

Якуб Якубоўскі. Што ты мяне спавядаеш! Пайшоў ты!

Першы музыка. Халера яго ведае. У каторым гэта месцы на дзве струны трэба націскаць!

Ціха грае на скрыпцы. Адзін за адным далучаюцца да яго неўзаметку музыкі. Граюць усе. З'яўляецца Сяргей.

Стась Міхалінчык. Не лішне весела ад вашага гэтага грання. *(Моўчкі слухае. Да Якубоўскага.)* Ты дык не піў бы, не еў бы, абы каб граць табе.

Якуб Якубоўскі. Чаму не піў бы! Нашаму брату выпіць трэба.

Першы музыка. Наш брат дзе грае, там п'е і гуляе.

Другі музыка. А няхай яно згарыць, сабачая работа. Унь людзі сена возяць, а я каторы дзень лынды б'ю. Хоць дадому не ідзі! Чэрці яго ведаюць, з якога боку там пачыпаць цяпер.

Стась Міхалінчык. Я табе даўно казаў, што ты ў сабачую скуру пусціўся. От будзеш гэтак валачыцца па людзях ды ўсё граць на чужую пацеху, пакуль сам душэю заграеш.

Другі музыка. Можа ты і праўду кажаш. *(Садзіцца на берване.)*

Сяргей. Якую там праўду, брэша, падла.

Якуб Якубоўскі *(выцірае хустачкай лоб; углядаецца ў Сяргея)*. Здаецца, гэта ты і ёсць.

Сяргей. Але, гэта я.

Якуб Якубоўскі. Мне ўжо добрыя людзі казалі, што ты зноў тут. Ой, даўно ж я цябе не бачыў.

Сяргей. Дык паглядзі.

Якуб Якубоўскі *(падыходзіць да Сяргея)*. Здароў! *(Цалуецца з ім.)*

Сяргей. Э, ты ўжо сёння чарку выпіў.

Якуб Якубоўскі. Дый не адну... з вяселля іду.

Сяргей. Якім ты цяпер простым чалавекам стаў. А тады бывала... Памятаеш, як я табе сена вазіў... Дзякоўства мусіць кінуў ужо? Цяпер гэта не ў модзе?

Якуб Якубоўскі *(маўчыць, выцірае хустачкаю лоб)*. Ат... *(З'яўляюцца Таня і Міхалка.)*

С т а с ь  М і х а л і н ч ы к *(да дзяцей)*. Калі мама прыедзе?

Т а н я. Тата казаў, што мама прыедзе сёння.

М і х а л к а. Тата ў капераціў пайшоў па цвікі.

Т а н я. І па селядцы. І там будзе чакаць, пакуль мама будзе ехаць. Бо мама адна не пераедзе цераз масток: жарабіца баіцца.

С я р г е й. Дык як жа ты, Якубе, жывеш?

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Людзей музыкаю цешу.

П е р ш ы  м у з ы к а. Вяселлі граем.

С я р г е й *(кпліва да Стася Міхалінчыка)*. І табе ён вяселле граў?

С т а с ь  М і х а л і н ч ы к. От можа ён і табе неўзабаве заграе. *(Да дзяцей.)* Дык калі мама прыедзе?

Д з е ц і. Сёння.

Усе маўчаць і пераглядаюцца. Сяргей глядзіць на Стася, той холадна смяецца.

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Ціха, майстры.

М у з ы к а. Мы ж ціха.

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Ціха ты, маханік!.. Хадзем.

М у з ы к а. Ну і разбірае, каб на яе агні. Каб ведаў, дык не піў бы гэтакаю гарачынёю.

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Галава баліць, і сон марыць. Дурная галава заўсёды сама сабе пашкодзіць.

С т а с ь  М і х а л і н ч ы к. Галава-то твая разумная.

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Але дурань яе носіць.

Музыкі рагочуць. Сяргей, смеючыся, зноў бярэцца за калясо. М у з ы к і ідуць з двара. Якуб Якубоўскі бярэ пад руку Стася Міхалінчыка і ідуць астатнімі.

С т а с ь  М і х а л і н ч ы к *(кпліва да Сяргея)*. От зараз пабачыць сваю гаспадыню. *(Да Якуба Якубоўскага.)* Ён яшчэ не ведае, што ў яго за гаспадыня.

С я р г е й. Стась, я дагадваюся, няўжо? Гавары, гад!

С т а с ь  М і х а л і н ч ы к. А што табе гаварыць? *(Смяецца.)*

Т а н я  і  М і х а л к а. Мама прыехала. *(Бягуць з двара сустракаць. Сяргей нервова закурвае.)*

С т а с ь  М і х а л і н ч ы к *(да Сяргея, збянтэжана смеючыся)*. Твайго гаспадара мусіць хутка адсюль выселяць.

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Чаму?

Стась Міхалінчык. Пасёлкаўцы ўсю гэтую дзялянку адсудзілі ад лясніцтва.

Якуб Якубоўскі. Можа цяпер і мне зямлі падбавяць.

Стась Міхалінчык. Ты ж і гэтае ўрабіць не можаш. Ты прывык, падла, да лёгкага хлеба. Колькі ты разоў дзякоўства з сябе ні скідаў — усё роўна...

Якуб Якубоўскі *(цягнучы пад руку Стася Міхалінчыка)*. От я калі захаджуся, дык у камуну падамся.

Стась Міхалінчык. Які цябе чорт там прыме?

Якуб Якубоўскі. Чаму? Музыку і там любяць... Я ахвотна.

Стась Міхалінчык. Думаеш, там гарэлка дармовая будзе?..

Сыходзяць з двара. Чуваць, як Якубоўскі вітаецца з некім за сцэнаю. Праз двор праходзіць Агата, з ёю Лявон і дзеці.

Лявон. Вось чалавека я наняў на два тыдні памагчы касіць. Мне з сярэдзінаю за гэтыя дні яшчэ горш стала. Ледзьве хаджу.

Агата глядзіць на Сяргея. Пазнае. Твар у яе выцягваецца. Таксама ў маўклівым хваляванні глядзіць на яе Сяргей. У Агаты падае з рук пакунак. Цераз плот перавешваюцца цікаўныя твары Міхалінчыка і Якубоўскага. Цішыня.

# ВЫЗВАЛЕННЕ

СЦЭНЫ

## 1. На руінах

Адвечным шумам сваім стары лес не парушае жудаснае цішыні. Усё маўчыць і чакае, як перад пачаткам страшнае навальніцы. Ля самага лесу разбураная палякамі вёска — попелішчы хат, руіны. Дзве-тры апошнія хаты ў самым лесе ледзьве засталіся стаяць. На пярэднім плане — студня, вуліца тут шырокая, як бы пусты пляц. Ля студні двое дзяцей — Міхалка і Настачка, гуляюць у пяску з выстраленымі гарматнымі набоямі і вінтовачнымі патронамі. Больш нідзе нікога, і ад гэтае пустаты і ад спакойнага ляснога шуму — яшчэ большая жудасць лажыцца на страшныя руіны. Дзеці гавораць.

Міхалка. От мне было страшна, як мы хаваліся з мамаю ў склепе!

Настачка. Ты думаеш, адно табе было страшна! І мне таксама. І маме.

Міхалка. Не, мама не баіцца.

Настачка. Чаму?

Міхалка. Бо мама вялікая.

Настачка. А ты думаеш, вялікія не баяцца?

Міхалка. Не. Мама не баіцца. Тата таксама. Каб баяўся, дык не пайшоў бы ў лес з стрэльбаю.

Настачка. А мама ж казала, што гэта ён да дзядзькі на работу пайшоў.

Міхалка. Не, я ж ведаю.

Настачка. А чаго ж мама плакала ўночы, калі яна не баіцца?

Міхалка. А хіба яна плакала?

Настачка. Няўжо ж не! Я сцішылася і ўсю ноч слухала, а яна думала, што я сплю і нічога не чую... Я хі-і-трая!

Міхалка. Я таксама хітры.

Настачка. Чаму?

Міхалка. Бо я падгледзеў, як той дзядзька, што зранку прыходзіў, схаваўся ў нас на гары. Я сцішыўся ў сенцах пад жорнамі і ўсё бачыў.

Настачка. Я ведаю, чаго мама плакала.

Міхалка. Ну чаго?

Настачка. Мама думае, што тату забілі. *(Плача.)*

Міхалка. Дурная ты. Тата вялікі і смелы. Смелых не забіваюць.

З лесу выходзіць абарваны чалавек — Максім Пыліла. Крадзецца, аглядаецца.

Міхалка. Нехта ідзе!

Настачка. Міхалка, уцякайма ў хату, мне страшна. *(Нарыхтаваліся бегчы. Раптам пазнаюць.)*

Міхалка. Гэта ж тата!

Настачка. Тата!

Бягуць насустрач. Абнімаюць бацьку за ногі і гэтак ідуць з ім. Чалавек гладзіць іх галовы і падыходзіць з імі да студні.

Міхалка. Чаму ты кульгаеш?

Настачка. Табе баліць?

Міхалка. Нага?

Настачка *(праз слёзы)*. Кроў у цябе, тата-а-а.

Міхалка. На назе.

Максім Пыліла. Чортавая маўчанка. Каб хоць крыкнуў хто. Як анямела ўсё!

Міхалка. Ты больш не пойдзеш?

Настачка. Будзь дома.

Максім Пыліла. Палякаў не было тут цэлы дзень?

Міхалка і Настачка. Не.

Міхалка. Адно дзядзька нейкі схаваўся на гару.

Максім Пыліла *(павесялеў)*. Схаваўся? Зранку ці нядаўна?

Міхалка. Зранку. Мама выправіла нас на двор; як ён хаваўся, я падлез пад жорны і падгледзеў. Мама пасля і гаворыць мне, што дзед вады напіўся і пайшоў, а я адно маўчу!

Максім Пыліла ўсміхаецца, абнімае дзяцей і ідзе да самае апошняе хаты пад хвоямі. Знікаюць за хатаю. Пуста і ціха. За сцэнай тупат конскіх ног. Чуваць, як загаварылі раптам польскія салдаты. На сцэну выходзяць два польскія афіцэры — Дварацкі і Глянцэвіч і некалькі салдат з імі. Аглядаюць руіны і гавораць ціхавата.

Глянцэвіч. Вас хіліць дрымота?

Д в а р а ц к і. Не, я хачу піць.

Г л я н ц э в і ч. Як у сне я ехаў сёння цэлы дзень.

Д в а р а ц к і. Вы не спалі ўночы?

Г л я н ц э в і ч. Спаў. Але я еду па роднай зямлі, па сваёй зямлі, якую пакідаем бальшавіцкім кацапам.

Д в а р а ц к і *(абыякава)*. Ах, праўда, вы тутэйшы.

Г л я н ц э в і ч. Я разумею пана Пшэвідніцкага, калі ён агонь і меч раіць класці там, адкуль адыходзім.

Д в а р а ц к і. А я не разумею.

Г л я н ц э в і ч. Пшэвідніцкі? Тры дачкі яго замужам за тутэйшымі магнатамі. А Плашчавічы, самы буйны яго маёнтак, учора спалілі хлопы. А сына яго таксама забілі тут, на гэтай зямлі.

Д в а р а ц к і. Штаб! Дык гэта Плашчавічы Пшэвідніцкага маёнтак?

Г л я н ц э в і ч. Таму і спалілі, што там быў штаб. Хлопы, паўстанцы.

Д в а р а ц к і. Вы бачылі пасля гэтага Пшэвідніцкага?

Г л я н ц э в і ч. Так. Ён заўсёды нязменны. Цяпер вайна, і ён, як камень. Гэта жалезны чалавек і арыстакрат. Верны сын Жэчы Паспалітай, краёвы патрыёт.

Д в а р а ц к і. Я яго толькі раз бачыў.

Г л я н ц э в і ч. Ён ужо выязджае. Ён зараз тут праязджаць будзе... Ведаеце план? Сам генерал распрацаваў. Мы адыходзім. Чыгунку скрозь пакідаем ім цэлую. Гэта пастка. Хто-небудзь застанецца ў іх у тылу ўзарваць мост, як толькі цягнік іх з штабам, камандаваннем, ці як там будзе, даедзе да маста. Штаб іх арміі ў гэтым цягніку, адсюль цяпер кіламетраў пяцьдзесят.

Д в а р а ц к і. Загаду яшчэ не дадзена?

Г л я н ц э в і ч. Сакрэтны загад зараз будзе. Я Пшэвідніцкага бачыў у тую хвіліну, як прыйшлі весткі пра штаб і Плашчавічы, ён толькі сціснуў зубы. За лесам мой маёнтак. А народ гэты — былыя падданыя майго айца. Хлопаў тутэйшых усіх у твар ведаю. Там у той халупцы Пыліла Максім жыве. Стары Пыліла быў наш пастух, а я, малы, меў фантазацыю на ім верхам ездзіць. Бывала, заўсёды яго клікалі, я саджуся на яго, а ён ракам возіць мяне на сабе па дзядзінцы.

За сцэнай тупат конскіх ног. На сцэну выходзіць П ш э в і д н і ц к і з л ё к а е м. Ён падае Глянцэвічу руку. Ціха гаворачы, адыходзяць у глыбіню сцэны. Салдаты, што застаюцца ля студні, адразу вясялеюць, трымаюцца вольна, дастаюць і п'юць са студні ваду.

## 2. На дзіцячых вачах

У хаце Пылілава жонка закалыхвае дзіця. Цішыня, і чуваць, як тут жа за вокнамі шуміць лес. Жанчына ціха спявае дзіцяці і гаворыць сама з сабой.

Марыля. Божа мой, што я параджу адна. Аж дрыжу ўся сярод гэтае пусткі. Уночы ўсё неба ў агні, нават у неба глянуць нельга спакойна. Ніводнае нідзе мясцінкі няма... Спі, маленькае, спі... *(Спявае малому. На двары дзіцячыя галасы, шум. Марыля глядзіць здалёк у акно.)* Максім!.. Настачка! Міхалка!

У хату ўваходзяць — Настачка, Міхалка і Максім Пыліла. Марыля кідаецца да Максіма, смяецца, плача!

Максім. Хоць прысесці на хвіліну.

Марыля. У гэтакім жаху пабыла я ўсе гэтыя дні!

Максім. Пасля таго гвалту не былі больш?

Марыля. Тут не. Адно палілі залесныя хутаркі... Усе нашы суседзі ў лесе сядзяць — хто куды паразбягаліся, няма тут ужо дзе дзецца.

Міхалка *(паказвае на столь.)* От там ён схаваўся.

Марыля і Максім пераглядаюцца. У Марылі дрыжаць губы. Максім усміхаецца.

Максім. Ты дагледзіш усюды! Уладзімер!

Марыля. Я старалася, каб яны не бачылі.

Глядзіць на дзяцей, уся ўздрыгваецца. Відаць, што змучана яна за гэтыя дні, стрывожылася. У хату ўваходзіць Уладзімер — малады хлапец, аброс увесь барадою, адзежа на ім вывалена ў зямлі, твар абветраны. Максім садзіцца і кладзе ля сябе рэвальвер.

Уладзімер. Дзяндобры.

Максім. Ну?

Уладзімер. Ты расказвай.

Максім. Плашчавічы спалілі і штабную канцылярыю не ўспелі яны выратаваць.

Уладзімер. Гэта чуў.

Максім. А ты што?

Уладзімер. Я цэлы дзень прасядзеў тут. А ўсю ноч ішоў. Зараз пачнуць адступаць і з гэтага месца. Цяпер трэба вартаваць вёскі, каб не палілі і каб дабра не забіралі.

Марыля. Я не вытрываю тут адна і некалькі дзён... Абы ноч — усё неба ў агні, палае ўсё навакол... І адзінота гэтая... Што нам рабіць...

Максім. Не многа асталося перацярпець. Можа б, дзеці выйшлі з хаты на момант... Настачка, Міхалка, ідзіце на двор, пагуляйце крыху, зараз я вас паклічу...

Дзеці паслухмяна ідуць з хаты. У дзвярэй Міхалка спыняецца на момант, усміхаецца бацьку ў вочы. Максім гладзіць яго па галаве і зачыняе за ім дзверы.

Максім. Цяпер усе мы збіраемся ў лесе, за чыгуначным мастом. Я адно перавяжу нагу і рушым. *(Да Марылі.)* Пацярпі, перабудзь дзён колькі, тады навала адыдзе... Глядзі дзяцей.

За сцэнай гавораць палякі. Максім і Уладзімер кідаюцца хавацца, але ўжо ў сенцах хтосьці чуваць. Максім адчыняе акно і выглядае, але і там кагосьці бачыць. Кідаецца назад і ў роспачы зноў да акна, скача ў яго. Уладзімер следам за ім строіцца. Дзесьці ж за сцэнай хтосьці закрычаў, і Уладзімер застаецца ў хаце. Спакойна азіраецца, аддзірае ў кутку з падлогі дошку, лезе туды. Марыля накрывае дошку зноў. Дошка тырчыць, і яна кідае на яе ўсялякія лахманы. Цішыня. Настачка і Міхалка ўбягаюць у хату, кідаюцца да маці. Маці дрыжыць і плача, нагнулася над калыскаю.

Марыля. Божачка мой, калі гэта спакой будзе?! Максім! Пасіраціць ты захацеў дзеці свае. У людзей хаты папалены, але хоць самі могуць спакойна вярнуцца, хоць на попелішча сваё. А гэта — туляцца трэба... А жытцо тое — ні жаць яго, ні пакідаць намарна. Асыпаецца яно, пераспела, божа мой!.. Як неспакойна!.. Каб хоць спакой хутчэй, каб пажыць на свеце ціха...

Калыша дзіця. У хату ўваходзяць: Пшэвідніцкі, афіцэры — Глянцэвіч і Дварацкі і некалькі салдат. Марыля дрыжыць уся ад жудасці, туліцца да калыскі. Пшэвідніцкі зморана садзіцца ля стала і махам рукі запрашае сесці афіцэраў. Міхалка і Настачка туляцца да маці.

Пшэвідніцкі. Еду!.. Я думаю, панове,— мы вернемся.

Глянцэвіч. Выправадзіць бабу!

Дварацкі. Уцячэ.

Глянцэвіч. Дзіця пакінуць тут! Не ўцячэ!

Салдаты выпіхваюць Марылю з хаты, яна ля парога азіраецца на калыску, яе бяруць пад рукі і выкідаюць. Настачка і Міхалка аж зайшліся з плачу. Неўзабаве кідаюцца ў сенцы, следам за маці.

Глянцэвіч. Узарваць мост даручана будзе мне. Заставацца мне трэба будзе ў іхнім тылу. Штаб іхняй ар-

міі павінен паплысці пад мастом разам з усім цягнікам.

П ш э в і д н і ц к і. Ну, я выязджаю. Мы ўбачымся тут жа, у сваіх маёнтках, у лепшыя часы і неўзабаве.

Цалуецца з Глянцэвічам і развітваецца з Дварацкім. Выходзіць. Салдаты ўводзяць у хату М а к с і м а П ы л і л у. М а р ы л я ўбягае за ім з плачам. Настачка і Міхалка дрыжаць ад страху.

Г л я н ц э в і ч. Ну?

М а к с і м. Нічога, пане.

Д в а р а ц к і. Чаго ўцякаў?

М а к с і м. Напалохаліся ўсе мы, пане. Час неспакойны. Вайна.

Г л я н ц э в і ч. Ну! Плашчавічы паліў?!

У Максіма задрыжалі губы і твар пабялеў. Але ён зараз жа ўзяў сябе ў рукі.

М а к с і м. Чуў, паночку, што Плашчавічы згарэлі.

Д в а р а ц к і. Чуў? Ты чуў!

Г л я н ц э в і ч. Ты сам паліў!

Д в а р а ц к і. Ён мне самому пра ўсё раскажа. А не скажа — сам застрэлю, як пса.

Г л я н ц э в і ч. Трымаць яго.

Максіма збіраюцца выводзіць. Глянцэвіч не спускае з яго вачэй. Максім Пыліла таксама глядзіць на Глянцэвіча. Глянцэвіч раптам б'е яго па твары. Настачка і Міхалка закрычалі. Марыля падае на калені перад Глянцэвічам, той адыходзіць. Дык яна паўзе следам за ім.

М а р ы л я. Паночку, вы ж наш пан! Паночку, вы нас ведаеце. Вы нас...

Г л я н ц э в і ч. Прэч!

Максіма выводзяць. Марыля на каленях паўзе за Глянцэвічам.

Г л я н ц э в і ч. На допыт і... застрэліць. Паход!

Спыняецца, абарочваецца назад і ботам адкідае ад сябе Марылю. Яна ўсхватваецца, становіцца перад ім і кідае яму ў вочы, трымаючыся рукою за пабіты ботам твар: «Гад! Панская поскудзь! Кат!» Дрыжыць, кідаецца да калыскі, туліцца да яе, гаворыць: «Спі, сыночак, расці, каб моцны вырас, тады мо абароніш маці ад паноў!» Глянцэвіч асадкаю рэвальвера б'е яе ў плечы. Настачка і Міхалка кідаюцца ў куток. Глянцэвіч даў нагою ў калыску, калыска пахілілася на бок, і дзіцянё ўпала. Чуваць страшны, цвёрды стук, і дзіцянё нават не абазвалася. Г л я н ц э в і ч з выглядам ганарыстага пакутніка выходзіць з хаты. Марыля рве на сабе валасы, разрывае каўнер сарочкі. Як анямелая стаіць над нежывым дзіцём. На твары яе люструецца вар'яцтва. Яна спакойна бярэ з зямлі дзіцянё, кладзе назад у калыску і калыша. Пачынае спяваць калыханку. За

вокнамі ціха шуміць лес, жудасная цішыня спавівае ўсё, і ў ёй, як страшны дысананс, гучыць калыханка. І тут Марыля пачынае разумець усё. Азіраецца па хаце. Апомнілася, зразумела ўсё. Бачыць на лаве Максімаў рэвальвер, бярэ яго і кліча Настачку і Міхалку. Паволі ідзе да дзвярэй, з пакутаю на твары, і вядзе з сабою дзяцей. З-пад дошкі вылазіць Уладзімер, цвёрдасць на яго твары. Раптам за сцэнай галасы польскіх салдат, выдзяляецца Глянцэвічаў голас, дым засцілае вокны, шыбануў у акно агонь. Хата гарыць.

## 3. Без далікацтва і пакоры

Заняты палякамі горад. На цэнтральны пляц сыходзяцца некалькі вуліц, ад пляца яны ідуць у глыбіню горада, уніз. У глыбіні сцэны — адно насупраць другога — паабапал вуліцы, што проста ідзе,— касцёл і царква. Нядзеля, за поўдзень, у бажніцах адбываецца набажэнства; звоняць у царкве і касцёле. Па пляцы, з вуліц у вуліцы, праходзяць усялякія людзі. Ля касцёла лёкаі чакаюць паноў, дробная засцянковая і гарадская шляхта, там жа стаіць польская вайсковая варта: у касцёле на імшы шмат магнатаў і вайсковых чыноў. Ля царквы таксама народ, гарадское мяшчанства, ёсць і вясковыя сяляне, часта густа можна бачыць былога царскага чыноўніка, але ён ужо дапасаваўся да новае ўлады і дзяржавы — у яго ўжо часамі «бялы ожэл» на шапцы. Насупроць сярэдняе вуліцы, пасярэдзіне між царквой і касцёлам — старцы, некалькі лер, некалькі жаночых галасоў і мужчынскіх. Яны сядзяць на зямлі, перад імі разасланая дзяружка, на якую людзі кідаюць хто што мае з сабою. Непадалёку ад старцоў Марыля, яна на пярэднім плане, а ля яе Настачка і Міхалка. Спявае старэчы хор:

Матка боска глянула
На галодных сіротак,
Былі яны голыя,
Босыя, галодныя.
Матка боска сумелася,
Уся засмуцілася;
Небаракам-сіраткам
Колькі трэба хлеба
З неба спусціла.

Настачка і Міхалка з цікаўнасцю азіраюць людзей, места, прыглядаюцца, прыслухоўваюцца да ўсяго. Марыля сядзіць, апусціўшы вочы. У царкве звоняць. Пасля набажэнства з царквы ідзе епіскап. З царкоўнага ганка ён бласлаўляе старцоў і ідзе далей. Марыля раптам падымаецца, хапае за рукі Настачку і Міхалку, кідаецца да епіскапа. Ён думае, што яна гэта падводзіць дзяцей пад блаславенне, і ўзнімае руку.

Марыля. Айцец святы наш, злітуйся, паратуй нас, ты можаш...

Епіскап. У чым твая просьба, дзіця маё?

Марыля. Пусцілі мяне з малымі дзецьмі з торбаю па свеце, хатку спалілі, дзіцянё маё маленькае забілі аб зямлю галоўкаю, а яго, чалавека майго, пагналі страляць. Ён тут, нашы людзі мне казалі, яго сёння цэлы дзень водзяць з допыту на допыт. Папрасі, айцец наш, ты маеш сілу, каб яго пусцілі! *(Кідаецца яму ў ногі.)*

Епіскап. Калі ён невінаваты, яго пусцяць. *(Ідзе далей.)*

З касцёла выходзіць народ. Лёкаі ўслугоўваюць панам, і вайсковая варта выстройваецца. Выходзяць польскія афіцэры, з імі пані, паненкі і паны. Дварацкі і Глянцэвіч пад руку з дачкою Пшэвідніцкага. Сам Пшэвідніцкі ідзе крыху ззаду. Пшэвідніцкага дачка ў белым убранні, на ёй зіхаціць золата. І ўся кампанія навокал яе зіхаціць убраннем. Старцы строяцца падацца бліжэй да касцёла, паліцыянты адганяюць іх, таксама адціскаюць назад увесь просты народ. Марыля ўглядаецца ў народ ля касцёла, пазнае Глянцэвіча.

Марыля. А божа! *(Да Настачкі і Міхалкі.)* Унь той!..

Роспач на яе твары. Настачцы і Міхалку страшна. Міхалка азіраецца ў вуліцу, што за царквою. Адтуль вядуць арыштаваных сялян.

Міхалка. Тату вядуць!

Марыля прыглядаецца, паднімаецца насустрач, Настачка і Міхалка не адстаюцца ад яе. Арыштаваных падводзяць бліжэй. З імі спатыкаюцца тыя, што выйшлі з касцёла. Некаторыя паны спыняюцца і з цікавасцю разглядаюць арыштаваных. Глянцэвіч пазнае Максіма Пылілу і загадвае яго тут спыніць на момант. Усіх вядуць далей.

Пшэвідніцкага дачка. Хто гэта?

Глянцэвіч. Плашчавічы паліў.

Пшэвідніцкага дачка. Там згарэў статуй мадонны! Папа з Рыма прывёз! Не ўспамінайце мне пра гэта.

Глянцэвіч. Не ўспамінаць, значыцца, забыцца. А забывацца мы не можам.

Пшэвідніцкага дачка. Татусь!

Пшэвідніцкі выходзіць наперад і ўзіраецца ў Пылілу. Чуваць галасы з натоўпу.

Першы голас. Углядаецца.

Другі голас. Мужыка ніколі не бачыў, ці што?

Трэці голас *(ціха)*. Каб яму вочы павылазілі.

Чацвёрты голас. Каму гэта вочы? Ах, ты бальшавік!..

Глянцэвіч. Гэты паліў Плашчавічы.

Пшэвідніцкі. Паганы!

Глянцэвіч. А ў маім двары, як пачалася рэвалюцыя, гэта ж ты коні канфіскаваў! Цяпер я ведаю!

Глянцэвіч падаецца да Максіма. Максім сціснуў кулакі.

Настачка. Тату забіваць будзе!

Міхалка. Тата!

Марыля. Максім!..

Максім. Марыля, ты?! Чаму ты не дома?

Марыля. Няма больш у нас дома. Няма ў нас сыночка нашага. Дзе праўда?.. Максім, чуеш ты! Аб зямлю нашага, маленькага, забілі, забілі яго!

Максім. Хто забіў?

Марыля. О гэты!

Пшэвідніцкі падбягае раптам.

Пшэвідніцкага дачка. Татусь!

Максім падаецца наперад.

Глянцэвіч. Звязаць!

Максім. За што вязаць мяне!

Пшэвідніцкага дачка. Дарагі статуй мадонны, работу вялікага мастака, ты спаліў мне. Ты мне апалаці зруйнаваную культуру!

Максім. Аплаці мне пакуты маіх дзяцей! Чуеш? Ты!

Марыля. Дзіця забілі і хату спалілі!

Становіцца перад паненкаю, уся ў зрэб'і, абарваная, у зямлі. Яны абедзве нейкі час ядуць адна адну вачыма. Старцы абступаюць іх. Максім раптам кідаецца ў натоўп. Гармідар і тлум. Натоўп разбягаецца. Страляюць. Максім знік у бакавой вуліцы. Пляц пусцее. Навокал становяцца паліцыянты і вайсковыя патрулі. Марыля з дзецьмі знікае ў вуліцы налева.

## 4. За Краіну Саветаў

Прыгожая, вясёлая мясцовасць. Налева ўглыбіню ідзе лес, направа і скрозь мясцовасць адкрытая, зяленяцца поле і паплавы. Над ракою ўзвышаецца чыгуначны мост, рака схавана ў высокіх берагах, мост высока, і над самай зямлёю відаць толькі яго надводныя ўмацаванні; на самым краі малюнка далёка відаць палатно чыгункі. Сонечная раніца. Некалькі чалавек партызанаў туляцца да зямлі ў прыбярэжным хмызняку. Цішыня. І ўсё тут робіць уражанне бязмежнае шырыні. Пад мостам відаць адгэтуль ціхі, лёгкі рух аднаго чалавека ў польскай вайсковай форме. Ён туліцца да цымантовага муру і стараецца ўзлезці да таго месца, дзе на ўмацаваннях ляжыць мост. Неўзабаве, пад мостам, на самым беразе ля вады, з'яўляецца яшчэ некалькі чалавек, адзін падае першаму знакі рукою. Рассвітанне ідзе шпарка. Вайсковец, што падае

знакі, па ўсходах збоку ўзыходзіць на мост, баязліва азіраецца і ў бінокль азірае мясцовасць. Ён гнецца да парэнчаў, моцна здалёк шэпча чалавеку пад мостам, той падняўся ўжо вышэй і рыхтуецца закласці міну. Яго таварышы стаяць пад ім. Чалавек на мосце пасмялеў, ён становіцца роўна, і цяпер відаць, што гэта Глянцэвіч. Раптам ён заўважае штосьці ў тым месцы, дзе ляжаць партызаны — рух нейкі, рухавы, як бы цень. Ён сумеўся, зноў прыгнуўся і падаў знак камусьці за мостам. Тады адтуль пачынае выходзіць польскі атрад. Партызанскі правадыр моцна крычыць каманду, і партызаны з крыкам «ура» выбягаюць да моста і на чыгуначнае палатно. Частка партызан лажыцца пад схованю высокага берага ў баявы ланцуг з вінтоўкамі. З імі Марыля. Сакоча кулямёт, партызаны прыступам бяруць мост. Глянцэвіч збягае з моста, але яму на ўсходах перагароджвае дарогу Максім. Глянцэвіч падаецца назад уверх. І там яны схватваюцца з Максімам. Сутычка заціхае, палякі адыходзяць, партызаны ціснуць іх далей. На мосце Максім прыгнуў Глянцэвіча да парэнчаў, кідае Глянцэвіча ўніз у ваду. Некалькі партызан цэляцца туды, дзе ўпаў Глянцэвіч.

Неўзабаве праходзяць першыя франтавікі-чырвонаармейцы. Натоўпы сялян выходзяць спатыкаць іх. Настачку і Міхалку відаць у натоўпе. Пачынаюць праходзіць усё новыя чырвонаармейскія часці. Апошняя часць ідзе з музыкай. Марш; у ім чуваць асобныя мясціны «Інтэрнацыянала».

На мосце ладзіцца мітынг.

— Няхай жыве Краіна Саветаў!
— Няхай жыве Савецкая Беларусь! — крычыць натоўп.

2 Зак. 1924

# ЛЕТА

## *П'еса ў трох дзеях, сямі карцінах*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Л а д ы м е р — калгаснік, стары.
М і х а л ю ч о к — яго ўнук, хлапчук гадоў 12.
А л і м п а — Міхалючкова маці, маладая яшчэ.
Я ў х і м С т р ы г у н — доўгі на рост, павольны ў нагах і на язык.
Р а м а н П е с е н ь к а — дробны чалавечак.
Т э к л я — яго другая жонка, яшчэ маладая.
Г а л е н а — Раманава дачка, маладая дзяўчына.
Ё с е л ь — яўрэй, калгаснік, стары.
В і ц ь к а — хлопец, калгаснік.
С ы м о н М і к у ц ь — ціхі, слаўны чалавек, сярэдніх год.
Н а с т а с я — цёмная жанчына, сярэдніх год.
Я к у б Я к у б о ў с к і — старшы ў вясковай капэле. Былы дзяк.
П а ц і е ў с к і — кулак, шляхтаваты.
М і к а л а й — калгаснік, старшы брыгадзір.
К о с т у с ь — старшыня калгаса, малады хлопец.
Н а с т а ў н і к.
Р а ё н н ы г а л а в а ц я п.
П е р ш ы м у з ы к а.
К а л г а с н ы ц я с л я р.
М у з ы к і, к а л г а с н і к і, к а л г а с н і ц ы, с я л я н е, с я л я н к і, х л о п ц ы, д з я ў ч а т ы, н а т о ў п.

## ПЕРШАЯ ДЗЕЯ

### 1

Брыгада калгасных сталяроў у адрыне робіць новыя кары, правіць старыя вазы. Пілуюць, габлююць, мераюць, збіваюць...

Л а д ы м е р. Ну і дождж, ну і дождж, ах!..

Г а л а с ы. Але, раздаждж́ылася.

— От табе і касіць пара.

— Нічога, распагодзіцца.

— А няўжо ж.

Паўза.

Ё с е л ь. Сымон Мікуць сёння папар арэ.

Л а д ы м е р. Пад поўдзень прыязджаў сушыцца. Нагавіцы тыя на ім, як бляха: пруткія і цяжкія.

Ё с е л ь. Нешта ён і сам не свой сёння.

Н е к а л ь к і г а л а с о ў. Чаму?

Ё с е л ь. Сёння казаў мне, чорт яго, кажа, ведае, няхай яго агонь спаліць. Сёння нядзеля, а ён араць паехаў. Гэта ўжо не так сабе, ты ўжо мне не кажы.

Г о л а с. А ты яму што сказаў?

Ё с е л ь. А я яму — у калгас, кажу яму, падавайся.

Г о л а с. Дык ён што?

Ё с е л ь. Дык ён араць паехаў.

Паўза. В і ц ь к а высвіствае.

З а с ц э н а й г о л а с. Тпррр! Стой!

Убягае мокры С ы м о н М і к у ц ь.

С ы м о н М і к у ц ь. Памагай бог! *(Збянтэжыўся.)*

Г о л а с. Казаў бог, каб ты памог.

С ы м о н М і к у ц ь. Я і прыехаў памагаць... Сёння нядзеля, а я араў. Я ў бога не веру. Дальбог.

Чалавек двух ціха зарагаталі.

В і ц ь к а *(падае Мікуцю руку)*. Здароў, дзядзька Сымон.

Сымон Мікуць. Я прыехаў да вас.

Голас. Бачым, што да нас.

Сымон Мікуць. Зусім да вас прыехаў. Думаю сабе — дай, божа, добры час *(збянтэжыўся)*. Я ў бога не веру.

Ёсель глядзіць на Мікуця і ціха смяецца.

В і ц ь к а. А ты ж, дзядзька, як мае быць надумаўся?

Сымон Мікуць. А як жа.

В і ц ь к а. Ну дык прыходзь увечары на сход.

Л а д ы м е р *(паклаў гэбаль і падышоў да Мікуця)*. Заводзь каня ў гурт... Як жа гэта ты надумаўся?

Сымон Мікуць. Як надумаўся? Мы толькі ўдвух з канём былі сёння на полі. Дождж ідзе, а мы склеем удвух. От мяне і ўзяў одум. Усяго адразу не раскажаш.

Л а д ы м е р. Адразу і тут да раю не дойдзеш.

Сымон Мікуць. Я гэта ведаю.

Л а д ы м е р. Трэба тут на ўсё глядзець гэтакім вокам і трымаць гэтакаю рукою, што каб...

Сымон Мікуць. Я сам, здаецца, гаспадар і ведаю...

Раптоўна ўбягае Р а м а н П е с е н ь к а.

Раман Песенька. Дзень добры вам, добра здароўе. Ты такі тут, Сымон?

Сымон Мікуць. Чаго табе?

Раман Песенька. Я ў Яўхіма Стрыгуна ў дрывотні свайго пеўня шукаў.

Голас. Ну дык што, калі шукаў?

Раман Песенька. Дык тое, што сам Яўхім пры мне стаяў. Аж бачым — прэ Сымон Мікуць на кані, мокры, як кіндзюк, адно нагамі каню пад чэрава таўчэ. Ну, думаем сабе мы з Яўхімам, што гэта бог даў? Аж ён проста на калгасны двор, сюды да вас. Дык і мы сюды. Няўжо, думаем сабе... У каго ёсць закурыць?

В і ц ь к а. Ні ў кога няма.

Раман Песенька дастае капшук і закурвае. Рогат.

Ё с е л ь. Ты ўжо мне не кажы. Кажа, што яны разам з Яўхімам сюды рушылі, а прыйшоў адзін. Дзе ж Яўхім?

В і ц ь к а. Ну, у Яўхіма ногі павальнейшыя, а ў гэтага шпарчэйшыя.

Р а м а н  П е с е н ь к а. Кожны павінен прыглядацца на свае ногі.

Г о л а с. Што праўда, то праўда, браце Раман.

Павольна ўваходзіць Я ў х і м  С т р ы г у н.

Я ў х і м  С т р ы г у н. Сцібаў, сцібаў! Гразішча! Уліло дык уліло. Касіць трэба, а яно лье. Божа мой, божа, што гэта будзе. *(Да Рамана.)* Твой певень за гумнамі пахаджае. *(Да Сымона.)* Дык ты такі сюды прымчаўся. А мы прыйшлі глядзець.

С ы м о н  М і к у ц ь *(зазлаваў)*. Чаго глядзець?

Я ў х і м  С т р ы г у н. Як ты ў калгас будзеш падавацца.

С ы м о н  М і к у ц ь. Глядзець! Дык сам падайся дый глядзі на сябе. Што ты на некага глядзіш.

Я ў х і м  С т р ы г у н. Дык можа і я падамся.

С ы м о н  М і к у ц ь. Ну дык чаму ж не падаешся?

Я ў х і м  С т р ы г у н. Чаму, чаму!

С ы м о н  М і к у ц ь. Ну, але, чаму?!

Я ў х і м  С т р ы г у н. Чаму, чамууу!.. А можа я гэтае, а ён чамууу!.. *(Моцна пазяхае.)*

С ы м о н  М і к у ц ь. Вецер хмары, здаецца, пачаў разганяць. Павінна выпагадзіцца.

Л а д ы м е р. Дык будзеш так і сядзець?

С ы м о н  М і к у ц ь. Ай, ліха яго бяры ўжо сёння з работаю. Гэтакі дзень у мяне сёння... Вы сабе рабіце.

Р а м а н  П е с е н ь к а. А ў Агрэставічах, кажуць, у чатырох гаспадароў свінні ўшчэнт падохлі. Пацієўскі казаў.

Ё с е л ь. Пацієўскі? Гэта гэты, што раскулачаны, ці?..

Р а м а н  П е с е н ь к а. Раскулачаны. *(Маўчыць.)* Яно як сказаць. Я чалавек такі, што сюд-тут і гэтае. Праўда ці не? Тут пра здохлыя свінні гаворка, а не пра Пацієўскага. Я Пацієўскаму ні сват, ні брат. Праўда ці не? Ён мяне ўпікае Пацієўскім. А па-мойму, няхай ён, гэты Пацієўскі, разам з тымі свіннямі сам за платы ляжа. Праўда ці не?

Шпарка дакурвае і садзіцца ў далёкі кут. Убег М і х а л ю ч о к, закруціўся на адной назе, выцягваючы паперу з кішэні.

М і х а л ю ч о к. Костусь, Костусь!..

Л а д ы м е р. Які табе Костусь! Няма тут Костуся. Каму Костусь, а табе дзядзька. Пабратаўся, пісклянё малое.

М і х а л ю ч о к. Ну і напісаў я! От каб быў Костусь. А-а-а, Віцька тут... Паслухай, Віцька, што я напісаў.

С ы м о н  М і к у ц ь. Чаму канешне Віцька адзін павінен слухаць?

М і х а л ю ч о к. Ну і будзе, калі надрукуюць у газеце. От напісаў!

Л а д ы м е р. Што ты напісаў, жаба малая. Прысядзь ты, не круціся гэтак.

М і х а л ю ч о к. У газету напісаў, і нават верш. Слухайце адно... *(Не можа ўстаяць на адным месцы.)*

Гэтыя непарадкі ў сыраварні трэба зніпчыць. З самае вясны, у пятніцу, як заходзіла сонца, на вуліцу павыходзілі суседзі, як у святы дзень. А таксама павыходзіў і Раман Песенька. І таксама Мікалай Камароўскі, што за брыгадзіра ходзіць...

Р а м а н П е с е н ь к а *(з свайго кутка).* А каб з цябе дух павыходзіў, як ты і сюды свой нос уткнуў, каб ты яго ў гарачую смалу ўткнуў.

М і х а л ю ч о к. І гэтыя мужчыны зрабілі, як малыя дзеці. Гаварылі, пакуль не дагаварыліся да баб. Раман Песенька і кажа да Мікалая: але і ты да мае Тэклі ходзіш. А гэты як закрычыць, як з агню: што ты гаворыш! Давядзі! Давяду. Хто бачыў? Я сам бачыў, як ты быў у мяне ў хаце, а мяне дома не было...

Г о л а с. Як жа ён бачыў, калі яго дома не было?

Некалькі чалавек зарагатала.

Я ў х і м С т р ы г у н *(голасам як з-пад зямлі).* От каб табе чорт па скуры пісаў.

Відаць, што Ладымер злуе на Міхалючка і выказвае нецярплівасць.

М і х а л ю ч о к. А Мікалай яму — як да цябе, кажа, і ў хату нельга зайсці. А той яму: не хадзі. Ты да мяне хадзі, а то ты да жонкі. Мікалай яшчэ абазваўся, а Раман як загне лаянку і хацеў даць Мікалаю повуху. А Мікалаева швагерка і маці ўхапілі яго за руку і не далі біць. Раман ірвецца і крычыць — пусціце мяне, а яны трымаюць. То ён як грабянуў іх абедзвюх, дык яны і адкаціліся. Швагерка выцяла аб плацец локаць і трымаецца за яго, а Раман яшчэ хацеў, як конь, нагою ўбрыкнуць Мікалая. Тут падкульгаў на сваёй скалечанай назе Міхал Стальмаховіч...

Я ў х і м С т р ы г у н. Ах-г-г-г, яшчэ і дзедавага брата ўмяшаў сюды. Гадзюк.

М і х а л ю ч о к *(пафас яго дайшоў да найвышэйшага пункта).* Падкульгаў Міхал Стальмаховіч, то гэты, пад-

кульгаўшы, раптоўна як даў цягу, каб не бачыць і не чуць, як будуць біцца мужчыны.

Я ў х і м  С т р ы г у н. А што ж, каб за сведку ўпісалі?

М і х а л ю ч о к. Тут пачалі бегчы людзі. Бяжыць раскулачаны Пацієўскі. Што гэта там? То Міхал і кажа з торапу — стой, кажа, Пацієўскі, і не кратайся з месца. Няхай там хоць галовамі панакладаюць. А сам стаў і пазірае з-за вугла, каб самому ўсё бачыць і каб яго не бачылі. А там набеглі людзі, дык Раман драпануў да свайго ранейшага цесця, бо гэта ў яго ўжо другая жонка. У цесцевым двары ён ухапіў дручок, каб было чым даваць здачы. А пакуль да тае здачы, дык ён падпер гэтым друкам цесцевы вароты і адставіў нагу ўбок.

Я ў х і м  С т р ы г у н *(нецярпліва)*. Жаба ты малая, бачыў ты, ці ён там нагу адстаўляў, ці язык высалапляў! Язык у цябе каля вушэй матляецца.

М і х а л ю ч о к. А сам дастаў капшук і пачаў сыпаць махорку. А рукі аж калоцяцца ад злосці, ці ён і сам не ведаў, ад чаго. Дрыжаць, дрыжаць! А сам адно дыхае, дыхае, як дыхавічны конь! Гэтак ён пакурыў сабе, зноў узяў дручок і гусінаю хадою падаўся да Мікалая. Але людзі не пусцілі і пагналі яго ў хату. Шмат там было гуку — адно аднаму ўпікалі. Жонка Тэкля і дачка Галена. Усе ведаюць, што ён любіць выпіваць употай. Гэтак ён і есць, а сваім шкадуе. Дык яго дачцэ Галене брыдка ад людзей з-за гэтакага бацькі. Ён хваліцца ўсім, што ён механік, дык яму даручылі цэнтрафугу ў сыраварні ўлягаваць. Дык ён і дагэтуль яе ўлягоўвае, пакуль на той свет не ўлягуе, грошы выбраўшы наперад. А сам як пачне хваліцца і хлусіць — а гвалт! А тым часам усе ведаюць, што Мікалай гэта не да Тэклі прыходзіў, а натое, каб упісаць Тэклю ў брыгаду, бо яна сказала, што ў калгас ідзе. А Раман не хоча. Дык яму абы ачарніць перад людзьмі і Мікалая і Тэклю.

Хто хоча на камеду паглядзець,
Няхай ідзе да Рамана пасядзець.
Зацірка ў печы варыцца,
Дык ён і за тую сварыцца.
А як жонка Тэкля ўвойдзе ў хату,
Дык ён наробіць гуку поўную хату:
Ты зноў, кажа, сала ела,
Каб цябе скула раз'ела.
Так ён вантробы ўсім і пераядае,
Украдкі ад усіх выпівае і пад'ядае.

І гэтак пакутуюць у гэтай хаце ад таты да мамы
Бо баяцца камуністычнае і калгаснае праграмы.
А на агітацыю Раман не паддаецца,
Гэтак жыве і грызецца.

Ну што, добра я напісаў? От як надрукуюць, от Раман адразу і пазнае, што жыве па-свінячы.

Раптам Міхалючок убачыў Рамана. Ад страшнае збянтэжанасці ён сціх і акамянеў. Раман ідзе да яго, падступае.

Раман Песенька. Хто цябе навучыў? Хто навучыў, гавары! Шчанё ты малое. Аддай сюды паперу.

Яўхім Стрыгун. Што ён, ушчунак пад сабою мае, ці што? Дзіва што гэтакі распусны.

Раман Песенька. Ён пра чужыя сем'і піша, а, нябось, не напіша пра тое, што летась у вашым калгасе бульба асталася зімаваць нявыбраная. І што канюшына ў вас згніла... Дай сюды. Аддай!

Падбягае да Міхалючка. Той перабягае на другі бок караў. Да яго варочаецца ранейшая весялосць.

Раман Песенька. Аддай! Дай або парві. Гадзюк! Ну?

Адбірае. Міхалючок ускочыў на дошку, што ляжыць на нізкіх сталюгах. Дошка падае. З яе сыплецца начынне.

Ладымер. Што ты робіш, паскуднік! Лом у садзе ты пазбіраў?

Міхалючок. Пазбіраю яшчэ.

Ладымер. Пазбіраеш. Калі гэта будзе?

Раман Песенька *(гоніцца за Міхалючком)*. Парві або аддай!

Міхалючок кідаецца ўгару па лесках. Раман трасе лескі.

Міхалючок. Ой, упаду, дзядзька!

Усе абарочваюцца. Цішыня.

Ладымер. Я яго сам ушчуну.

Віцька. За што яго ўшчуваць?

Ёсель *(усхватваецца раптам)*. Ён мяне ўпікае, што летась бульба зазімавала! Што канюшына згніла! Дык што ты мяне ўпікаеш! Больш не згніе. Не згніе больш!

Раман Песенька. Я цябе ўпікаю? Цябе летась яшчэ і ў калгасе не было.

Ёсель. Быў!

Раман Песенька. Не было!

Ёсель. Быў!

Раман Песенька. Не было.

Ёсель. А калі не было, дык што? Я цяпер у калгасе, а ты на курыным седале сядзіш.

Віцька. І пеўня па чужых дрывотнях шукаеш, дзядзька.

Ладымер *(падышоўшы да лесак)*. Злазь.

Міхалючок. Няхай дзядзька Раман Песенька адыдзе, дык злезу.

Ладымер. Злазь. Я табе пакажу, як людзей чапаць. Цябе не чапаюць, і ты нікога не чапай. Ты павінен ведаць, што ты сірата. Што твайго бацьку на польскай вайне забілі. Можа табе прыйдзецца людское ласкі шукаць калі, дык не чапай людзей. Я стары, я на свеце доўга не пажыву. Злазь. Аддай паперу. Парві. Чуеш? *(Крычыць.)* Я табе, я табе! Зараз жа ідзі лом збірай! Я табе пакажу! Злазь!

Сымон Мікуць. Відаць, з яго будуць людзі, калі гэтак складна ўсё апісаў.

Ладымер. Няхай піша, што трэба. Расце, на лес гледзячы.

Віцька. Па якіх гэта ён чужых людзях будзе ласкі шукаць?

Ніхто не адказвае. Міхалючок баязліва злазіць. Ладымер стаіць над ім. Міхалючок задам адыходзіць да дзвярэй.

Ладымер *(крычыць)*. Не чапай людзей, калі цябе ніхто не чапае!

Міхалючок *(праз слёзы)*. Дзед, ты класавага ворага слухаеш.

Ладымер. Раман гэта класавы вораг?

Міхалючок. Ён таксама класавага ворага слухае.

Ладымер. Дык, па-твойму, гэта я?.. Гэта я?!.

Раман Песенька. Па-твойму, гадзюк малы, гэта мы з тваім дзедам?!.

Удвух наступаюць на Міхалючка. Сталяры пакідаюць рабіць. Некаторыя пасіўна глядзяць, але найбольш узрушаны: то на тым баку, то на гэтым. Кладуць начынне, хвалююцца.

Віцька *(крычыць)*. Эй вы! Малы праўду казаў, што вы класавага ворага слухаеце. Можа, хіба з Пацієўскім пасябраваліся?..

Раман Песенька. З Пацієўскім? Ён мне ні сват, ні брат.

Ладымер. Буду я Пацієўскага слухаць? Падумай, што ты гаворыш.

Ёсель *(усхватваецца)*. Гэта каб я Пацієўскага слухаў?

Голас. Ніхто пра цябе не гаворыць.

Ёсель *(не слухаючы)*. Каб я аглух, калі я яго буду слухаць. Абганяю гэта бульбу, а ён ідзе з гэтым Якубоўскім, што за дзяка быў. А ў мяне сашнік прыгнуўся, а я не маю яшчэ практыкі адагнуць назад. Як гэта, кажу, адагнуць? А ён мне — а ты ж калгаснік, кажа, павінен умець. Вы ж усё павінны ведаць. Носам, кажа, падзяўбі або лбом пастукай, дык і адагнецца. Каб ты лбом у сцену стукаў!

Раман Песенька. Ён мне ні сват, ні брат. А што пра агрэстаўскія свінні ён мне казаў, дык...

Ладымер *(да Міхалючка)*. Цераз цябе мяне з Пацієўскім блытаюць. Чуеш? Няма каб у маёй сям'і было ціха, дык не! Хіба ты сёння дадому не прыйдзеш. Я не пагляджу...

Міхалючок плача. Раман нервуецца. Яўхім Стрыгун актыўна чухае лыткі. Ладымер шпурнуў гэбаль. Віцька крычыць.

Віцька. А можа ў Міхалючка праўда, а вы ўсе тут вінаватыя!

Уваходзіць Тэкля, у варотах першага спатыкае Сымона Мікуця.

Тэкля. Я так і ведала, што ты гэта сюды ўпісвацца паехаў. Упісаўся?

Сымон Мікуць. Нейк як бы ўпісаўся.

Тэкля. Ну і я прыйшла. Мой Раман недзе з хаты выкруціўся.

Раман Песенька. Я тут!

Тэкля. Ну дык і добра. Я ведаеш чаго прыйшла?

Раман Песенька *(выпіхаючы яе)*. Ведаю. Ведаю. Ідзі дадому.

Тэкля. Дадому? Ты тут, здаецца, людзям перашкаджаеш рабіць.

Раман Песенька. Ідзі дадому, кажу табе.

Тэкля. Не пайду... Віцька, ты тут? Запішы і мяне. Я на сход увечары прыйду.

Раман Песенька. Гэтак адразу ўсё не робіцца. Дай адумацца.

Тэкля. Было ўжо часу адумвацца.

Віцька. Запішу.

Раман Песенька стаіць і пстрыкае ўвесь <час> рукамі з растапыранымі пальцамі.

Раман Песенька. Я такі чалавек. Я такі чалавек, што... Што я супроць калгасу, ці што? Хто гэта кажа. А можа я цяпер яшчэ пакуль што несвядомы, каб у калгас ісці. Як пасвядомею, тады пайду.

Тэкля *(да Віцькі)*. Дык мне можна ісці?

Віцька. Можна.

Тэкля выходзіць. Сталяры робяць. Паўза. За сцэнай гукі, як бы хто спрабуе музычны інструмент. Скрыпка чуваць, флейта. Уваходзяць адзін за адным музыкі. Якуб Якубоўскі зусім п'яны.

Якуб Якубоўскі. Дзяндобры ўсім!

Голас. А можа дабрывечар?

Голас. Адкуль вас гоніць цэлую капэлу?

Якуб Якубоўскі. На Баслаўскіх хутарцах вяселле гралі.

Першы музыка. Страшэнная моц колькі кілбас параелі.

Другі музыка. І гарэлкі колькі перапілі.

Трэці музыка. А гвалту было, гармідару! За куфар сварыліся. Мы граем, а яны сварацца.

Яўхім Стрыгун. За куфар, кажаш. Гы-гы-гы...

Першы музыка. Малады хоча новы куфар, а яны даюць стары! Дык мы граем, а яны сварацца.

Яўхім Стрыгун. Дык малады што?

Музыка. Дык ён не бярэ.

Яўхім Стрыгун. Дык яны што?

Музыка. Дык яны не даюць.

Яўхім Стрыгун. Дык ён што?

Якуб Якубоўскі. Дык ён што! Дык ён што! Сціхні ты, падла індывідуальная!

Яўхім Стрыгун. От ты ўжо калгаснік гэтакі знайшоўся! Ая-я-яй!

Якуб Якубоўскі. Я хоць і не калгаснік, але ў душы сваёй дык я...

Шмат галасоў. Дык што?

Якуб Якубоўскі. Я ўвесь і цалкам у камунічаскім дзейсцвіі.

Галасы. Ад аўторка ці ад пятніцы?

— Ад серады.

— Ды ўжо даўно пара табе, Якуб Якубоўскі, у людзі выходзіць.

Якуб Якубоўскі. У калгас заяву я падаў. У таварыша Віцькі мая заява.

Паўза.

Віцька. Ну, пара канчаць работу.

Ладымер. Можа б, ячнэ лёсткі пагаблявалі б.

Голас. Дык жа і лёсткі ўжо канчаем.

Ладымер. Ну дык канчаць можна. Сонца на заходзе.

Сталяры адзін за адным канчаюць, кладуць начынне і выходзяць. Гэтак да самага канца гэтае сцэны.

Сымон Мікуць. А ці памятаеш ты, Якуб, як ты быў за дзяка, а я ў цябе сена вазіў? А ты адно пахаджаеш, за зад рукі пазакладаўшы. А гэта дзякоўства кінуў. Цяпер гэта не ў модзе.

Якуб Якубоўскі маўчыць. Музыкі штосьці трумкаюць на сваіх інструментах.

Сымон Мікуць. Што вы граеце, як сем дзён не еўшы, не піўшы.

Першы музыка. Чаму не піўшы! Нашаму брату трэба выпіць.

Другі музыка. Наш брат дзе грае, там п'е і гуляе.

Якуб Якубоўскі. Ціха вы, майстры! Хадзем!

Сымон Мікуць. Што хадзем, няхай заграюць што-небудзь! Грайце, утнеце што-небудзь.

Якуб Якубоўскі. Можа хто і крыўдзіцца, што мы праз гэтую вашую паветку ход зрабілі. Браткі мае.

Раптам убягае Настася з лямантам.

Настася. Божа мой, божа! Прапасці давядзецца.

Галасы. Што? Чаго? Чаго ты, гавары?

Настася. Свіння есці не бярэ. Зараз зойдзецца. Каб яму вочы павылазілі, божачка дай.

Галасы. Каму? Хто? Што?

Настася *(штурхаючы кулакамі Ладымеру ў грудзі).* Твой гэты малы. Унук твой, Міхалючок гэты. Ты яго распусціў, як старэчую пугу.

Ладымер. Дзе ён?

Сымон Мікуць. Ты ўжо нават не пытаеш, ці вінават ён, а адразу — дзе ён.

Настася. Ці вінават, ці вінават! Свіння апарасілася, а ён не можа прайсці паўз свінух, каб не паглядзець у шчыліну праз дзверы. Здзівіў свінню.

Раптоўны рогат. Рагочуць усе, апроч Ладымера, Яўхіма Стрыгуна, Настасі.

Ладымер. Дзе ён?

Голас. Ты верыш, што ён здзівіў свінню?

Ладымер. Не.

Голас. Дык чаго ж ты?

Ладымер. Нашто ён людзей чапае. На кожным кроку ўсё скаргі на яго. Усё да мяне ідуць. Я не хачу гэтага. Не хачу. Людзі мяне не чапаюць, і я не хачу нікога чапаць.

Настася. Гэтакая была свіння! А божа мой!

Яўхім Стрыгун. У Агрэставічах дык у чатырох гаспадароў свінні, як горы, за платамі ляжаць. Што гэта будзе? Божа мой, божа! *(Пачынае ныць.)* Бяда будзе! Голад будзе! Згіненне на народ прыйдзе!

Настася. Чаму, Яўхімка, хіба чуваць што?

Яўхім Стрыгун. Хаця каб нас бог крыў чаго. Калі што якое, дык апошнюю бульбу з пограба пабяруць.

Настася. Апошнюю бульбу? *(Аслупянела.)*

Яўхім Стрыгун. І бульбу, і салому...

Віцька *(з свайго кутка).* І порткі сцягнуць!

Яўхім Стрыгун. Дзіва што сцягнуць!

Віцька. А пасля да споднікаў дабяруцца. Дык і будзеш хадзіць тады, як бізун, свецячы людзям у вочы чорт ведае чым.

Яўхім Стрыгун. Дзіва што свецячы! Нічога няма нідзе. Нічога не дастаць. Пагінем. Невядома яшчэ, што будзе. Можа вайна пачнецца. А можа так якая хуртовіна ўкоціцца. Будзеш тады гвалт крычаць, дый то не паможа.

Віцька. Ну, не можа быць, каб ужо гэта не памагло.

Я ў х і м  С т р ы г у н. Зямля цяпер спустошана, коні цяпер слабыя, народ цяпер здрабнеў, свет спарахнеў... Гвалт будзеш крычаць, будзеш енчыць, стагнаць...

М і х а л ю ч о к *(раптам выходзіць з кутка, садзіцца на кукішкі перад Яўхімам Стрыгуном, зазірае яму ў твар).* Будзеш крычаць, пішчаць, крактаць...

Я ў х і м  С т р ы г у н. Ратунку не будзе...

М і х а л ю ч о к. Будзеш ракам поўзаць...

Я ў х і м  С т р ы г у н. Бедаваць...

М і х а л ю ч о к. Скуголіць, выць...

Я ў х і м  С т р ы г у н. Тужыць, гараваць...

М і х а л ю ч о к. Чухацца, смэркацца...

Рогат. Міхалючок зусім пасмялеў.

Н а с т а с я *(да Міхалючка).* Нашто ты свінню здзівіў? Божа мой, вош ты!

М і х а л ю ч о к. Бог — вош? Цётка Настася, вы ж бязбожніца.

Н а с т а с я. А што, а што! Чулі, людзі добрыя?

Да гэтага часу адрына амаль пустая.

Л а д ы м е р. Хадзем дадому! *(Рвануў Міхалючка за руку.)*

М і х а л ю ч о к. Ты не слухай іх. Яны табе нагавораць! Хіба можна свінню здзівіць? Можа яшчэ Пацееўскага гэтага раскулачанага будзеш слухаць. *(Плача.)* Дзед, ты класавага ворага наслухаўся...

Дзед ірвануў яго за руку. Міхалючок вырваўся, пабег у вароты. Л а д ы м е р пайшоў. Міхалючок адскочыў убок.

Л а д ы м е р *(выходзячы).* Хіба ты дадому не прыйдзеш! Я ад людзей скаргі кожны дзень на цябе цярпець не буду. Ты і ў чужы свінух нос уткнеш.

М і х а л ю ч о к. Не слухай дурных!.. Зноў крычаць дома будзе. *(Стаіць у дзвярах.)*

Ё с е л ь. Замыкаць буду. *(Дастае з кішэні ключы.)*

Н а с т а с я. У нядзелю робяць...

Я ў х і м  С т р ы г у н. Але. Габлююць, стружаць, пілуюць, майструюць, рэжуць, не святкуюць, робяць...

М і х а л ю ч о к *(у дзвярах).* Шморгаюць, шаруюць, чухаюць, стогнуць, дрыжаць, калоцяцца, чмыхаюць *(рагоча)*, смэркаюцца, скрабуцца *(рагоча, аж заходзіцца)*, дурнеюць, не разумеюць... *(Пабег подскакам адгэтуль.)*

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Круці, круці, падкручвай! Класавы вораг — гэта паскудства. Класавага ворага біць трэба! Калгасы — патрэбная штука. Віцька, як мая заява? А, няма Віцькі. Бывайце здаровы. На сход я сёння прыйду, так, таварыш Ёсель, і скажаш там. *(Да Стрыгуна і Рамана.)* А вы — дурні, от што я вам скажу. Ты, Раман, пусціў туман, а думаеш, што месяц усходзіць... А чаму месяц?.. Я вам скажу, вы дурні. Дурні вы, от што. Бывайце здаровы. *(Выходзіць.)*

Я ў х і м  С т р ы г у н. Гэ, чаму гэта мы дурні. Чаму гэта канешне мы. Хіба на свеце больш няможна каго на гэта знайсці? Гэ!..

Выходзіць з Р а м а н а м  П е с е н ь к а м.

Ё с е л ь. Ох, ты ўжо мне не кажы, дурныя людзі. *(Адзін зачыняе дзверы.)*

## 2

Сенажаць. Нізкі плот з жэрдак.
На сцэне Р а м а н  П е с е н ь к а і Я ў х і м  С т р ы г у н. Яўхім Стрыгун, паставіўшы на плот нагу, закасвае калошу. Раман Песенька спяшае дакурыць папяросу.

Я ў х і м  С т р ы г у н. У Агрэставічах у чатырох гаспадароў свінні, як горы, за платамі...

Р а м а н  П е с е н ь к а. Дык, значыцца, ты заяўляеш, што я на паўсажня заняў твайго поплаву, ты заяўляеш.

Я ў х і м  С т р ы г у н. Тут ніякага ага няма і быць не можа. Тут табе кожны дурань скажа, што паўсажня майго поплаву, перуны яго ведаюць як, апынулася па той бок тычак... Калоша мокрая і пруткая, як бляха, сілаюгвалтам я яе падкасаў...: Тут табе кожны дурань скажа, што паўсажня поплаву...

Р а м а н  П е с е н ь к а. Дурань скажа. Я дурня і слухаць не буду.

Я ў х і м  С т р ы г у н. Не будзе ён слухаць. Эйш, які разумны.

Р а м а н  П е с е н ь к а. Не канешне ж усім дурнямі быць.

Маўчаць. Глядзяць адзін аднаму ў вочы.

Р а м а н  П е с е н ь к а. Так! То я, значыцца, па-твойму, злодзей, значыцца, па-твойму. Гавары!

Я ў х і м  С т р ы г у н *(перадражнівае).* Гавары, гавары.

Р а м а н  П е с е н ь к а. Ага. Калі я, значыцца, злодзей, дык зараз жа рагулярня ты мне давядзі, што я, дзе і ў каго калі ўкраў, давядзі рагулярня. Ты не давядзеш, а я магу на твайго дзядзьку сведкі прыставіць, што ён у Пацієўскага карову, за старым нажымам, украў быў і ў лапці абуў, каб каровечага следу знаць не было, калі ты хочаш ведаць. Чуў?

Абодва закурваюць моўчкі, кожны з свайго капшука.

Я ў х і м  С т р ы г у н. Падкасваўся я не дарэмна. Хадзем, будзем мераць.

Р а м а н  П е с е н ь к а. Хадзем. Думаеш, я баюся? Паўсажня майго поплаву ў цябе.

Я ў х і м  С т р ы г у н. Не твайго ў мяне, а майго ў цябе.

Ідуць. Становяцца ў позу, каб мераць.

Р а м а н  П е с е н ь к а. Але ж і варання. Сытыя, каб на іх упадкі.

Я ў х і м  С т р ы г у н. А што ж! Цяпер ім харчы па горла. Еш, хоць распе襯ажыся. Унь у Агрэставічах дык чатыры гаспадары ўсе свае свінні за платы павыцягалі. Мала там было падлы? Божа мой, божа, хаця каб нас бог крыў ад чаго ліхога. Што гэта будзе? Не будзе чаго каб і душу пражывіць. А божачка! Бяда будзе. Гвалт, што гэта будзе! Пазаходзіцца народ з голаду. Мы тут сядзімо, як у бога за пазухаю, і нічога не ведаем, а што па людзях робіцца!!.

Р а м а н  П е с е н ь к а. А што робіцца?! *(Аслупянеў.)*

Я ў х і м  С т р ы г у н. Што робіцца? Усё робіцца. Страх.

Р а м а н  П е с е н ь к а. Што! Гавары! Гавары ты мне выразна!

Я ў х і м  С т р ы г у н. Людзі не задарма гавораць. Бяда. Народ пагіне. Ты адно паглядзі. Не казаў я? Бачыш, дзе тычка летась стаяла, а ты куды яе перанёс. Бачыш? Бачыш? Якраз на паўсажня. *(Крычыць.)* Перастаў зараз жа тычку назад!

Р а м а н  П е с е н ь к а. Няхай табе праўцом вочы перастравіць. Перастаў! Перастаў! Табе ўжо бельмы паназягвала, ці што? Куды ты пальцам гэтым сваім тычаш.

Тыцні ім ведаеш куды? Я адно пры людзях гаварыць не хачу пра ўсялякае паскудства. Тычка унь дзе стаяла, а ты яе куды пераставіў. Перанясі зараз жа тычку назад. Ну? Паўсажня заняў?!

Яўхім Стрыгун. Не, гэта ты заняў.

Раман Песенька. Няхай таму духі зойме.

Яўхім Стрыгун. Няхай зойме. Ну! Думаеш, я баюся?

Раман Песенька. Ну дык і я ж не баюся.

Ідзе брыгада касцоў. Адтуль голас:

— Якія вы абодва раптам смелыя парабіліся.

Раман Песенька. Вы, калгасаўцы, ідзіце. А то вы і самі работу прыпыняеце і нам перашкаджаеце.

Рогат.

Яўхім Стрыгун. Але ж як і вымераў, браткі мае. Якраз на паўсажня ў маё ўлез.

Раман Песенька. Усё адно як каморніка наймаў. Якраз на паўсажня. Перастаў тычку, а то я пры людзях сам перастаўлю!

Голас ад касцоў. Як жа вы ведаеце, што якраз на паўсажня. Вы мералі?

Раман Песенька. На чорта яго мераць. Тут вокам кінь, дык і відаць.

Касцы праходзяць.

Яўхім Стрыгун. Ты тычкі пусціў наўскасы, дык з таго канца не то што на паўсажня, а на цэлую ляйчыну ты ў маё ўлез.

Раман Песенька. Ляйчыны да ляйчыны не прыраўняеш. Ляйчына бывае ўсялякая... Як бы я чужога хачу.

Яўхім Стрыгун. І я чужога не хачу.

Раман Песенька. Не хочаш ты?

Яўхім Стрыгун. А што ж, хачу? *(Раптам нагінаецца, хапае з-пад ног карчук і кідае ў кусты.)* Гра-а-а!! Каб табе зарвала! Разявіла горла, сядзіш, падтуліўшы хвост, каб ён табе адгніў!

Раман Песенька *(устрапянуўшыся)*. Што там?!

Яўхім Стрыгун. Варона, што ж.

Ідзе новая брыгада касцоў. Адтуль галасы:

— Вы яшчэ ўсё мераеце?
— Мерайце, мерайце.
— Эй, ударнікі!

Віцька. Самае важнае, дык гэта не трэба гарачыцца. Вы не спяшайцеся. Усё паволі зробіцца. Поплаў перамераецца, мяжа знойдзецца, а тады можна будзе і вячэраць дадому ісці.

Рогат. Касцы праходзяць. Ідуць ПацІеўскі і Якуб Якубоўскі.

ПацІеўскі. Мераеце?

Раман Песенька і Яўхім Стрыгун. Але.

ПацІеўскі. Мне такі казалі, што ў вас мяжа згубілася. Гэта якраз гэтакая справа была некаторага году на Баслаўскіх хутарцах, паміж Сымонам Пытлевічам з аднаго боку і Пшыкальскім з другога боку. Два дні яны мералі, а на трэці скасілі і падзялілі сенам. Па добрага паўвоза сена кожнаму прыйшлося. Толькі я вам гэтак рабіць не раю. Найлепш зрабеце ўсё на месцы, а то яшчэ гатова пачацца цяганіна.

Выбягае Міхалючок. Яшчэ здалёк, не разабраўшыся, хто стаіць, ён гукае:

— Дзядзькі, ці не бачылі каровы?

ПацІеўскі. Каровы?

Міхалючок. Але, дзядзька ПацІеўскі, каровы. Уцякла. Яна бегае, дык я яе да дзяка гнаў.

Усе *(апроч Якубоўскага)*. Да дзяка?!

Міхалючок. Да гэтага бугая, што ў дзяка Якубоўскага былі забралі. У вас, дзядзька Якубоўскі. Дык мы гэтага бугая дзяком празвалі. *(Рагоча.)*

Якуб Якубоўскі. От каб ты спруцянеў.

Яўхім Стрыгун. А якая карова, рыжая ці белая?

Міхалючок. Пярэстая.

Яўхім Стрыгун. А можа, чорная?

Міхалючок. Не, пярэстая.

Яўхім Стрыгун. Значыцца, ні белая ні рыжая? Не, ніякае тут каровы не было. Ні белае, ні рыжае, ні пярэстае.

Міхалючок бяжыць далей.

Якуб Якубоўскі. От каб на цябе агні. Да дзяка, кажа, гналі.

П а ц і е ў с к і. Каб з цябе вантробы выгнала. Яшчэ не хапала, каб ён жаробку маю, што, як раскулачвалі, забралі, каб ён жаробку гэтую Пацієўшчанкаю празваў.

Р а м а н  П е с е н ь к а. Яно і так сказаць. Чаго табе крыўдзіцца за тое, што яны бугая дзяком празвалі? Ты цяпер не дзяк. Ты дзякоўства адцураўся.

П а ц і е ў с к і. Ну, а як ён цябе ў газету прапісаў?! Ты думаеш, я не ведаю? Усе ўжо як у бубен б'юць, што пра цябе будзе ў газеце друкавацца. Ну, мяне раскулачылі. Добра. Ну, гэты самы Ладымер з гэтым самым малым у маёй другой хаце жыве. Забралі ў мяне і яму далі. Добра. Але што ён да цябе мае! Ты ж ім у кашу не напэцкаў.

Р а м а н  П е с е н ь к а. Не. Барані божа.

П а ц і е ў с к і. Ну, цяпер, скажам, гэты Ладымер пачаў нешта задумвацца. Пачаў нешта назад азірацца. Што ж, там непарадкі. Там калі цяпер з поля не прыбяруць, дык усе тады распаўзуцца, як рудыя мышы. А вас зараз будуць сілком гнаць. Але да гэтага можа не дойдзе. Каб адно пачалі па адным выходзіць яны самі.

Я ў х і м  С т р ы г у н. А няўжо ж! Не відаць, што робіцца?!

П а ц і е ў с к і. Трэба каб яшчэ больш рабілася. Каб якое няшчасце там у іх.

Я ў х і м  С т р ы г у н. Дай свет. Чулі? У Агрэставічах свінні...

П а ц і е ў с к і. Яны вельмі размахнуцца думаюць. Абору новую ставяць, каб на зіму жывёлу ўвагнаць. Стайню новую таксама пачалі. А тым часам яны ж не справяцца з гэтаю работаю! Яны стараюцца, каб як мага больш людзей да сябе ўгарнуць, каб чужымі рукамі жар заграбаць. З поля ім прыбраць трэба?

У с е. Трэба.

П а ц і е ў с к і. Будынкі ім паставіць трэба?

У с е. Трэба.

П а ц і е ў с к і. Дык і парабкі трэба. А вы, разявіўшы рот, ідзеце туды, рабіць на чорта лысага. А ён тады пра цябе ў газету ссарамаціць перад усім светам.

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Мне-то крыху іначай. Я заяву падаў.

П а ц і е ў с к і. Табе, вядома. А мяне не прымуць... От каб, здаецца, брыгад гэтых іхніх з пару адтуль выкаціла-

ся... Ах!.. Вы сабе мерайце поплаў, а то час праходзіць, а вы яшчэ касіць не пачыналі.

Пацієўскі і Якубоўскі ўзлягаюць жыватамі на плот і глядзяць, як Стрыгун і Раман мераюць, адышоўшыся далей.

Раман Песенька. Няхай той есці не хоча, хто чужога хоча. Эйш, які ты разумны.

Яўхім Стрыгун. Не канешне ж усім дурнямі быць.

Раман Песенька. Што ты мяне дурнем робіш!

Яўхім Стрыгун. Няхай таму ў грудзях робіць.

Зусім хаваюцца ў кусты. Зноў выходзіць Міхалючок. Глядзіць, як Якубоўскі і Пацієўскі нешта гавораць ціха над плотам.

Міхалючок. Эй, людзі, сюды! Класавыя ворагі згаворваюцца!

Пацієўскі. Усё чуў! Усё чуў! Шпіён гэты. Усё чуў.

Якуб Якубоўскі. У калгас мяне не прымуць. Ой! Ой!

Пацієўскі. Я яго прыбяру з гэтага свету. Я яго прыбяру.

## 3

У Ладымеравай хаце. Рана. Узыходзіць сонца, вокны ружовяцца. Міхалючок спіць. Ладымер і Алімпа збіраюцца на работу. Ладымер абуваецца ў боты.

Ладымер. Будзі малога. Няхай устае. Няхай варушыцца. Няхай у работу ўцягваецца.

Алімпа. Няхай паспіць яшчэ з часіну... Небарак... Маё ты дзіця! Учора наплакаўся, мой сынок... Без патрэбы ўшчунак гэтакі дурны. Не было яго за што ўшчуваць.

Ладымер. Не было! Кожны дзень ідуць да мяне на яго скардзіцца.

Алімпа. Дурны Раман можа прыйшоў або яшчэ дурнейшая Настася.

Ладымер. Няхай сабе дурні. Не трэба дурняў чапаць. Калі я яго ўшчунуў, дык не на кепскае яго вучыць хачу. Што, ён расце гэтак, як я некалі рос? Чарады ён не пасе. З дванаццаці год да плуга не стаў. Крывавых мазалёў на руках не мае. Я, бывала, у яго гады ўвесь пакалечаны, у мазалях, у крыві, мокры ад поту, з ног валюся, а ўстаю — яшчэ сонца і не думала ўставаць.

А л і м п а. Дык гэта добра было?

Л а д ы м е р. Дык от вядома ж што не добра. Хіба ён ведаць будзе, што значыць людское гора? Хіба ён, як вырасце, паспагадае, калі ў каго сэрца будзе крывёю аблівацца?

А л і м п а. Дык ты гэта і ўшчуваў яго ўчора за тое, што ён іначай расце, як ты некалі рос?

Л а д ы м е р. Маўчы. Ты не ведаеш, што я кажу. Твой дурны розум не зносіць гэтага.

Маўчаць абое. У хату ўваходзіць М і к а л а й.

М і к а л а й. Дзяндобры! Але ж і надвор'е яснае пасля дажджоў. От сена сохне. І жыта наспявае. Гэтымі днямі жаць трэба пачынаць. Ты, Алімпа, на сена сёння пойдзеш. Дзве жаночыя брыгады вас будзе. Як будзеш ісці, дык па Тэклю Раманіху зойдзеш, яна разам з табою ў адной брыгадзе будзе.

А л і м п а. Тэкля? Яна ўжо ў калгасе? Пайшла рабіць? А Раман жа?

М і к а л а й. Раман не, а яна ў калгасе. У хаце гвалт. Яны ўдзвюх з Галенаю, а Раман адзін на сваё пойдзе корпацца.

Уваходзіць В і ц ь к а.

В і ц ь к а. Дабрыдзень. Ваша брыгада, дзядзька Ладымер, сёння павінна скончыць усе вазы і кары: заўтра з цямна трэба будзе ўсім узяцца сена вазіць. Каб за два дні і каліва на паплавах не асталося, бо жаць трэба пачынаць.

Л а д ы м е р. Заўтра нядзеля.

В і ц ь к а. Дык жа мы з гэтага тыдня ўводзім выходны дзень у сераду.

Л а д ы м е р. А я хачу святкаваць у нядзелю.

М і к а л а й. А калі нагальная работа, дык і без выходнага дня папрацуем.

В і ц ь к а. Дзядзька, што з вамі? Вы нездаровы?

А л і м п а. Дай свет, Віцечка! Проста дзяцінець пачаў стары. Каб вы толькі ведалі, што з ім робіцца.

У Ладымера нешта дрэнна ўсцягваецца на нагу бот. Ён раптам шпурляе бот пад парог і з абутаю адною нагою становіцца пасярод хаты.

Л а д ы м е р *(пачынае гаварыць спакойна і ціха, моцным, гарачым шэптам)*. А калі з гэтага нічога не выйдзе? Ты думаеш, мы паробім усё? Я адзін усяго не параблю...

Алімпа. Чаму гэта ты адзін?

Ладымер. Мы з поля не прыбяром усяго, не то што ўсе гэтыя аборы, усе гэтыя стайні паканчаем. Мы старыя гаспадарскія хлявы паразбіралі, а новага не паробім, от на зіму і паставім коні на скавышы газеты чытаць.

Віцька. Дзядзька!!

Ладымер. Дзядзька! Дзядзька! Што ж ты думаеш, я так сабе гляджу і нічога не бачу? Ты думаеш, я гляджу, як сляпы ў торбу? Ты думаеш, я горшы за таго бугая, якому абору раблю?

Усе. Што ты гаворыш?!

Ладымер. Што гавару? Цаменту навезлі! Цаментавыя падлогі ў стайні! Вокны тыя ў пяць раз большыя, як у гэтай хаце. *(Паказвае на вокны.)* Дык што, гэты жарабец лепшы за мяне? У той праварыне я сам жыў бы, а не то што! Праварына тая, той катух таму бугаю лепшы за гэты мой катух, дзе я ў анучах сплю. Пра мяне хто падумаў?

Алімпа. А да леташняга года ты дзе жыў? Ты і гэтакага катуха не меў.

Ладымер. Не меў. Ну дык і не меў. І цяпер не маю.

Алімпа. Не маеш?

Ладымер. Ну... Маю! Маю! Маю Пацієўскага хату. У Пацієўскага было дзве, значыцца, хаты. Ну, яго раскулачылі, адну хату ў яго адабралі і сказалі, каб я ў ёй жыў. Чулі? Я гэта ведаю. І за гэтую вялікую ласку мой сын з польскае вайны галавы не прынёс. О! *(Паказвае на Міхалючка.)* Дзіця сіратою асталося.

Мікалай. Дык чаго ты, дзядзька, хочаш?

Ладымер. Нічога не хачу. Дайце мне спакой.

Віцька. Хадзем, дзядзька, сталярную работу сёння скончым. Вы старшы брыгадзір над сталярамі... Вы...

Ладымер. Я... Я... Я тры дні цыбулю з квасам ем. А мне, можа, трэба старому чалавеку сала з'есці і сметанаю закусіць. Я цяжка раблю.

Алімпа. Многа ты назакусваў сала сметанаю за свой век! Калі гэта ты закусваў гэтак!

Ладымер. Дык на старасць хачу... Летась бульбы з палову на полі зазімавала. А гэты год усё зазімуе, дык і хлеба з квасам не будзе. Як будзеш ты мне размяркоўваць ураджай, дык што ты мне дасі?!. На ваду ты мяне пасадзіш?!.

В і ц ь к а. Ты ж, дзядзька, гэтага хочаш, каб на полі ўсё асталося. Рабіць жа ты не хочаш ісці. Ты хочаш, каб табе, можа, Паціеўскі зрабіў? Дык ён табе зробіць, але ў другі бок зробіць.

Уваходзіць у хату Ё с е л ь.

Ё с е л ь. Ну, хадзем, Ладымер, я па цябе зайшоў.

Л а д ы м е р. Не пайду.

Ё с е л ь. Чаму?

Л а д ы м е р. Ідзіце. Вам пара.

В і ц ь к а *(стукае ў акно)*. Костусь! Костусь, зайдзі ў хату!

Л а д ы м е р. Костусь партыйны чалавек. Я ведаю, што ён скажа.

В і ц ь к а. Дык ты, значыцца, яго не любіш за тое, што ён партыйны чалавек?

А л і м п а. Ты, можа, бацька, палякаў хочаш?

Л а д ы м е р. Я не люблю Костуся?! Што ты языком менціш!.. Нашто вы людзей у маю хату ззываеце... Я палякоў хачу? Я не Паціеўскі. Я не Якуб Якубоўскі. Я не... Што вы мяне з імі раўняеце.

Міхалючок раптам усхватваецца, звешвае ногі.

М і х а л ю ч о к. Дык ты іх наслухаўся. Ты класавага ворага наслухаўся, дзед. Я ж ведаю.

Уваходзіць К о с т у с ь.

К о с т у с ь. Нашто я патрэбен?

М і к а л а й. Стары на работу не хоча ісці. Бунтуе. Кажа, што ўраджай усё адно не прыбяром.

Паўза.

К о с т у с ь. І пра сала з малаком гаварыў?

Л а д ы м е р *(насупіўшыся)*. А ты адкуль ведаеш?

К о с т у с ь. Я ўсё ведаю... Радзівон Бабака тое самае мне ўчора вечарам казаў.

В і ц ь к а. Дык гэты пра сала з смятанаю, а не пра сала з малаком.

Ё с е л ь. Ён ведае, што кажа. Малака да смятаны не прыраўняеш. Малако — ат, а смятана — ого!

М і х а л ю ч о к. Ад смятаны і сала разам дык жывот сапсуецца.

Віцька і Мікалай рагочуць.

Костусь. Дык я гэтую песню ведаю. Вы малайцы, хто гэтак кажа.

Міхалючок. Што ты гаворыш. Радзівона Бабаку ў насценную газету трэба.

Шпарка зноў лажыцца пад коўдру.

Ладымер. Чаму гэта мы малайцы?

Костусь. Дык калі так гаворыце пра сала, пра смятану, пра цымантовыя праварыны, дык і малайцы. Значыцца, добра. Гэтага і трэба. Значыцца, вы людзьмі сталі. Гразі ты цяпер ужо не хочаш. Маладзец, стары!

Ладымер. Што ты мяне хваліш! Што я, дзіця малое?

Міхалючок *(усхватваецца)*. Ты яму скажы гэтак, як учора гаварыў Радзівону Бабаку. Ты яму скажы пра свіное сала, што яшчэ не нарасло... Што ён не гэтак, <як> даўней — ён не кажа, што трэба жыць, як набяжыць... *(Становіцца на пасцелі, крычыць.)* За першую пяцігодку ўмацоўваюцца калгасы. За другую пяцігодку... За другую... За...

Костусь. Ну, ну, гавары, гавары, смялей, смялей...

Міхалючок. За другую пяцігодку будзе... будзе... сала і смятана.

Лажыцца. Усе глядзяць на Ладымера. Той адварочваецца да акна і глядзіць у яго. Паўза.

Міхалючок. Ты, Костусь, калі дзе што гаворыш, я ўсё слухаю.

Костусь. Ну? Хадзем, дзядзька Ладымер.

Ладымер. У мяне бот на нагу не ўлазіць.

Алімпа. Раптам цесны стаў.

Паўза.

Костусь. Ну? Хадзем. Сёння сталярку канчаць трэба.

Паўза.

Костусь. Ідзі, дзядзька Ёсель, займай месца старшага брыгадзіра ў сталярні. Хадзем.

Усе ідуць з хаты. Ёсель абварочваецца.

Ёсель. Бывала так. Якубоўскі курыць стамболю, а я куру харліпу. А Пацієўскі кажа мне цяпер — падзяўбі,

кажа, носам, дык сашнік адагнецца. Каб табе крумкачы вочы выдзяўблі. *(Крычыць.)* Гад ты нечаны!

Усе выходзяць. Ладымер адыходзіцца ад акна, Міхалючок адзяецца.

Міхалючок. Дзед, ты класавага ворага наслухаўся, от што я табе скажу.

Паўза.

Міхалючок. Дзед, я сёння насценную газету выклейваю. *(Памаўчаў.)* Дзед, я цябе ў насценную газету выклею.

Ладымер. Прыклей да зубоў свой язык. Выносся вон з хаты, каб мае вочы цябе не бачылі... *(Памаўчаў.)* У гэтую хвіліну.

Міхалючок кідаецца да стала, зграбае ў руку паперкі і бяжыць з хаты. З сянец варочаецца.

Міхалючок. Чаго ты на мяне крычыш? *(Пайшоў, зноў вярнуўся.)* Чаго ты на мяне крычыш? *(Памаўчаў.)* За што ты мяне набіў учора ўвечары... *(Плача.)* За што ты мяне?..

Ладымер. Божа мой, божа! *(Крычыць, сашчэмлівае кулакі.)* Калі табе раз забалела, дык... дык... А я не гэтак рос... А ўсе мае аднагодкі ў крывавых мазалях раслі... Па полі з плугам у твае гады поўзалі... Босыя ногі ў крыві — аб каменне і карчы паабдзіраны... Твой гэтак бацька рос. Бывала, маё сэрца крывёю абліваласся, калі я яго, малога, будзіў да работы з цёмнага. А ён плача, а ён енчыць, ён рукі мне цалуе, каб я яму яшчэ даў хвіліну паспаць. А я цягну яго з пасцелі. А я рву яго. Я хаплю яго і пастаўлю на ногі, дык ён, пакуль ачухаецца, дык яшчэ спіць стоячы. А я пайшоў бы ўтапіўся, каб не бачыць і не чуць гэтага. Я праклінаю, бывала, сябе, што пусціў яго на гэтакія пакуты. А ты... А ты вырасцеш, пражывеш век і нічога гэтага ведаць не будзеш.

Выцірае слёзы, душыць іх у сабе. Міхалючок моцна плача. Міхалючок паволі ідзе да старога.

Міхалючок. Дзед... Дзед...

Ладымер стаіць і не варушыцца. Маўчыць.

Міхалючок. Дзед... Дзед... *(Пастаяў, пайшоў. Высадзіў галаву з сяней праз дзверы.)* У табе нейкія мухі

жывуць... Мухі ў цябе ў носе. У табе нейкія жабы... Жабы... Тараканы, прусакі, кажаны... Казюлі...

Усё гэта моцна шэпча. Ідзе паволі. Праз паўхвіліны пацягнуў з двара акно. Акно адчынілася. Паглядзеў на старога. Пайшоў. Ладымер стаіць і не варушыцца. Пайшоў, лёг на Міхалючкову пасцель. Маўчыць. Гаворыць:

— Яны там сталярку канчаюць. Яны там робяць... Габлююць... Пілуюць...

Устаў, хапіў бот, усцягвае на неабутую нагу. Усцягнуў да паловы, сцягнуў, шпурнуў пад парог. Хацеў закурыць. Шморгаў, шморгаў запалкаю і шпурнуў запалкі вобземлю. Лёг зноў. Абутая нага на пасцелі, босая на падлозе. Моцным голасам:

— Божа мой, божа! Жыццё закончу...

Сеў. Матляе босаю нагою. Моцным голасам:

— Каб цябе агні спалілі! Каб цябе перуны!

*Заслона*

## ДРУГАЯ ДЗЕЯ

### 4

Калгасная кантора. Успёршыся локцямі на стол, стаіць К о с т у с ь. М і х а л ю ч о к клеіць насценную газету. Уваходзіць В і ц ь к а, аддыхваецца, выцірае рукавом пот з твару, п'е ваду.

В і ц ь к а. Ну, сталярная брыгада работу ўсю чыста скончыла. Заўтра зранку можна будзе вазіць сена.

К о с т у с ь. Ты думаеш заўтра зранку?

В і ц ь к а. А што? Хіба сена не пасохла? Не можа быць, гэтак смаліла.

К о с т у с ь. Я толькі што прыйшоў з сена. Сена ў копах. Рахункавод і той там сёння робіць... А каб гэта заўтра зранку жыта жаць пачаць?

В і ц ь к а. А сена? Жаць пачнём тады, як сена прыбяром.

К о с т у с ь. За паўтара сутак, пастараўшыся, мы сена можам прыбраць?

В і ц ь к а. Можам.

К о с т у с ь. Дык за сена нам трэба ўзяцца сёння нанач. Сёння ноч, заўтра дзень і пасля ноч, і ўсё прыбяром.

В і ц ь к а. Прыбяром. Але хто пойдзе нанач працаваць? Ну я пайду, ну ты пойдзеш, Ёсель, ну можа яшчэ Сымон Мікуць...

К о с т у с ь. Не, гэта мала. Трэба чалавек дваццаць. Трэба пусціць у работу ўсе коні і ўсе вазы, якія ёсць... Ладымер што, так і не прыйшоў рабіць?

В і ц ь к а. Не. З Яўхімам Стрыгуном вудаю рыбу лавіў.

К о с т у с ь. Яшчэ бо гэты Стрыгун, каб яго трасца стрыгла.

М і х а л ю ч о к. Дзед казаў, што ён рабіць не лянуецца, але, кажа, што колькі ні рабі, дык нічога не паробіцца. З поля гэтак, як летась, усяго не прыбяруць і абораў на зіму не паканчаюць. Дык ён кажа, што яму рукі апускаюцца.

К о с т у с ь *(стукае ў шыбу)*. Сымон, зайдзі сюды.

Уваходзіць С ы м о н М і к у ц ь.

К о с т у с ь. Што ты, дзядзька, рабіў сёння?

С ы м о н М і к у ц ь. Да паўдня з сталярамі рабіў, а з паўдня адпачываў, бо напач коні павяду.

К о с т у с ь. Пастаў усе коні на сена цяпер, а ўночы будзем прыбіраць сена... Ты, дзядзька, прыйшоў у калгас нядаўна. Ураджай у нас не кепскі. Калі мы ўсё прыбяром з поля ўпору, дык калгас наш тады ўмацуецца.

С ы м о н М і к у ц ь. Што ты мяне агітуеш, як той казаў. Што я, малы? Як трэба, дык трэба, дык я пайду ўночы сена вазіць.

К о с т у с ь. Добра, дзядзька. Віцька, ідзі збірай хлопцаў. Алімпе я казаў. Яна пойдзе жанок паспрабуе ўзварушыць. Толькі хто не хоча, яго воля, можа не ісці.

Праз акно ўсаджваецца галава Я к у б а Я к у б о ў с к а г а.

Я к у б Я к у б о ў с к і. І я скажу, як казаў Сымон Мікуць — раз трэба, дык трэба. І я пайду з вамі сена вазіць уночы. Раз ударніцтва ў гарачую пору, дык ударніцтва. Я хоць не калгаснік, але... але будучы калгаснік, але... але будучы калгаснік.

К о с т у с ь *(падумаў)*. Добра, ідзі.

Я к у б Я к у б о ў с к і. Вы, таварыш Костусь, казалі, што, чыя воля, той толькі няхай ідзе. А я думаў бы, я палагаў бы мысліць... Я склонен мысліць, што мужычка... мужычка ў рай дубінаю часам трэба падагнаць.

В і ц ь к а. Заткніся ты з сваім раем.

С ы м о н М і к у ц ь. Тут табе не царква, а мы не чарада бараноў.

К о с т у с ь. Вы не давайце нам парадаў. Хочаце ісці працаваць, дык ідзіце.

*Якуб Якубоўскі знікае.*

Костусь. От зараза! Ён думае, што я яго паслухаю і паганю ўсіх дубінкаю ўночы рабіць. А пасля з Пацієўскім будзе нагаворваць, што калгас — гэта паншчына. Ведаю я, чаго яму трэба.

Віцька. Дык на чорта ён на рабоце?

Костусь. Мы яму заплацім за работу. Работы ў нас многа. Дай яшчэ пяцьдзесят чалавек, дык работа знойдзецца.

*Уваходзіць Тэкля з Алімпаю.*

Алімпа. І Тэкля пойдзе.

Тэкля. Пайду. І Галена таксама. Сена ўжо мы ўсё ў копы склалі.

*Уваходзіць Ладымер з вудаю.*

Костусь. Ну, рыбку лавіў?

Ладымер *(нібы не чуе)*. Хоць здохні, няма ў каго закурыць. У каго тытунь ёсць? Сымон, ёсць?

Костусь. А вада каламутная?

Ладымер *(закурваючы ў Мікуця)*. Хоць ты лыткі ўздоўж лавы стулі, каб канаў, махоркі не дастаць.

Костусь. А вецер на ваду не дзьме?

Ладымер. Не. Не дзьме. Хоць ты выпрастайся пад абразамі, нічога няма.

Костусь. Значыцца, калі нічога няма, дык трэба чакаць, каб знайшоўся які-небудзь дзядзька і прынёс? Няма гэтакага дзядзькі... Рыбку, значыцца, лавіць можна. Гэта абы вада спакойная, дык рыбка будзе брацца. Бярыся, рыбка, малая і вялікая. Торк-торк, і плотка ў збанку.

Ладымер. Сціхні ты! Што ты мяне точыш! Маё сэрца на кавалкі разрываецца.

Сымон Мікуць. Дык трэба да доктара.

Ладымер. Што ты з мяне кепікі строіш! Я сам цябе ў калгас прымаў. Ты памятаеш, як я з табою гаварыў, калі дождж ліў?

Віцька. Ты яго, дзядзька, прымаў, а ён цябе можа зараз выкідаць будзе.

Костусь. Э, ты, малы! Ты гэта куды скачаш? Хто гэта будзе Ладымера з калгаса выкідаць? Ты яго выкінеш, а на яго месца Якубоўскага прымеш, а то можа яшчэ Пацієўскага? Выкінь Ладымера, а за ім яшчэ сяго-таго,

дык Пацiеўскi адно гэтага i хоча. Ты бачыш, як Якубоўскi ў калгас прэцца? Чаго гэта ён сёння да нас уночы пойдзе сена вазiць?

Ш м а т г а л а с о ў. Якубоўскi? Да нас сена вазiць?

К о с т у с ь. Праз некалькi дзён Ладымер будзе першы ўдарнiк. Усё ад таго, як мы пакiруем сваю работу. Вiцька, iдзi склiкай хлопцаў. Рабi брыгады на прыборку ўночы сена.

В i ц ь к а выходзiць. Уваходзiць некалькi чалавек — м у ж ч ы н ы i ж а н ч ы н ы.

Г а л а с ы: — Ну, дык добра, будзем вазiць уночы.
— Тады трэба падрыхтаваць людзей заўтра на жнiво.
— Пасля жняяркi снапы вязаць. Гэта бабам трэба iсцi.
— Чаму канешне бабам? Гэта гэтакая работа бабская як i мужчынская.

К о с т у с ь. Ну, дык браткi i сястрычкi! Iдзiце па хатах. Перадыхнiце з часiну, i рушым. Сонца на захадзе. Сымон, конi рыхтуй.

С ы м о н а ў г о л а с *(за сцэнай)*. Я пайшоў.

Л ю д з i выходзяць. Астаюцца толькi Ладымер, Костусь, Тэкля, Мiхалючок i Галена. Галена каля Мiхалючка чытае, што Мiхалючок выклеiў у газету.

Г а л е н а. Ой, i пра бацьку тут.

Т э к л я. Што, што? Гэта тое, што ён чытаў тады сталярам?

М i х а л ю ч о к. Тое самае.

Т э к л я *(падыходзiць, разглядае нагнуўшыся)*. А можа б... А можа... не трэба...

К о с т у с ь. Я табе, малы, казаў, гэтага не трэба. Ты прачытаў тады, i даволi.

М i х а л ю ч о к. А верш? Там жа верш мой!

Л а д ы м е р. Я маўчу. Няхай робiць што хоча. Хоць галавою хадзi.

К о с т у с ь. Як у вас там, Тэкля?

Т э к л я. Сам жа ведаеш. Я ў калгасе, а ён не хоча... Унь i Галена, яго ж, здаецца, родная дачка, i яна са мною, а ён i на яе вока цяпер не мае. За гэта... Тады як прыехаў... *(Азiрае ўсiх.)* Як прыехаў быў удавец сватацца да

мяне — голы, босы. У пазычаных ботах да мяне прыехаў! А ў хаце той — голыя куты, як прыйшла, угледзела тут. Так яно і дагэтуль асталося. Як ні стараліся — нічога не выстараліся.

Ладымер. Хаця каб ён не выпіваў. А то ён часта пацягнуць любіць.

Тэкля. Ён і піць з гора пачаў. Я яго шкадую.

Ладымер. Якая ты разумная жанчына! У нас бабы ніколі гэтак не гавораць. Найбольш пляткаркі ўсё.

Тэкля. Можа і я раней гэтакая была.

Ладымер. Дык што ты думаеш рабіць? Ты не бойся. Я ад шчырага сэрца.

Костусь. А вы з Галенаю яго ў калгас уцягніце...

Тэкля выцірае слёзы і выходзіць.

Галена. А мне Тэклі шкода больш, як бацькі. Ён проста як дурань. Ён крычыць, ён вар'юецца. Ён усё каб на яго выходзіла, хоць і па-дурному.

Ладымер. Э-э-э, у цябе розум зусім не гэтакі, як у Тэклі. Я гэта заўсёды кажу. Вы, маладыя, не можаце паспагадаць і разумець чалавека. Вы што! Але вы яшчэ не гэтак. Зусім маладое пакаленне *(паказвае на Міхалючка)* — от гэтыя, дык яны ніякага гора не будуць разумець. Як заспявае, бывала, наша жанчына над дзіцём калыханку, дык, здаецца, заткнуў бы вушы ды ўцякаў на край свету. Вы думаеце, на тое гэта калыханка спявалася, каб дзіця заснула? На тое яна спявалася, каб самой матцы выплакацца. А ты мяне ўпікаеш рыбкаю. А ты ў мяне пытаеш, ці каламутная вада. А я табе скажу...

Костусь. А ты памятаеш, як я малы на хутары ў шляхціча Азэмблы каменні рваў порахам, як быў за парабчука ў трынаццаць год? Я малы мог усялякую работу рабіць.

Ладымер. У цябе былі рукі залатыя.

Костусь. Але гэтыя залатыя рукі рабілі на чорта лысага. Мне было год дванаццаць, а я ўжо быў за парабка. Дык я не хачу больш. А нада мною маці што спявала? Не калыханку?

Ладымер. Я пра цябе не гавару. Ты спагадаеш, калі ў каго сэрца баліць.

Костусь. Мы робім гэтак, каб больш ні ў кога сэрца не балела.

Міхалючок. О! О! Секані яму праўду! Секані!

Ладымер патрэсае ў руцэ вуду, як бы спрабуе, ці гнуткае вудзільна.

К о с т у с ь. Ты думаеш, каб нехта прынёс гатовае. На, Ладымерка, няхай табе больш не будзе гора і бяды, няхай табе адно ясна сонца свеціць. Ты забыўся, што ніхто нічога гатовага не прынясе. А яшчэ стараецца, каб у цябе ўварваць. Мы самі павінны зрабіць. А таму, хто хоча, каб і над тваімі ўнукамі, гэтак, як над табою, калыханку выплаквалі, ты таму проста, не кажучы ні слова, па руках.

Г а л е н а выходзіць. Ладымер моцна страсянуў вудзільна, яно зламалася напалам. Л а д ы м е р пакруціў яго ў руках, паглядзеў на канцы і шпурнуў у кут. Стаіць моўчкі. Выходзіць. У парозе азірнуўся, нешта хацеў сказаць, не сказаў і пайшоў. Міхалючок выразвае нажніцамі з паперы. Костусь задуменна глядзіць у акно.

М і х а л ю ч о к *(клеіць на сцяну кавалачак паперы)*. Няхай хоць тут будзе прыклеена.

К о с т у с ь. Што гэта?

М і х а л ю ч о к. Верш пра Рамана... *(З крыўдаю ў голасе.)* Ты ж не хочаш, каб яго ў газеце людзі чыталі.

Костусь смяецца, бярэ Міхалючка за плечы, трасе.

— Ах ты, верабей. Ах ты, верабей.

М і х а л ю ч о к. Пусці, я не паспею газету наклеіць.

К о с т у с ь выходзіць. Астаецца адзін Міхалючок. Уваходзіць з віламі Я к у б Я к у б о ў с к і.

Я к у б Я к у б о ў с к і. А, нікога няма? Дзе ж усе?

М і х а л ю ч о к. Ну, а я ж тут.

Я к у б Я к у б о ў с к і. Што гэта ты робіш?

М і х а л ю ч о к. А нашто вам вілкі?

Я к у б Я к у б о ў с к і. Ну, а па сена ж паеду.

М і х а л ю ч о к. Ну дык рана ж яшчэ.

Я к у б Я к у б о ў с к і. Рана ці не рана... Я пачакаю. Тут усе збірацца будуць?

М і х а л ю ч о к. Не, не тут.

Я к у б Я к у б о ў с к і. Тут.

М і х а л ю ч о к. Кажу, што не.

Я к у б Я к у б о ў с к і. Адкуль жа ты ведаеш?

М і х а л ю ч о к. Хэ! Адкуль ведаю!

Нагінаецца над газетаю. Якубоўскі садзіцца на лаву.

Я к у б Я к у б о ў с к і. А газета ў цябе добрая выйшла?

М і х а л ю ч о к. Добрая.

Я к у б Я к у б о ў с к і. Нешта ты цяпер пакінуў з Сымонам Мікуцем па коні на пашу хадзіць. Хіба ты конна ездзіць не любіш?

Міхалючок. Чаму гэта не люблю?

Якуб Якубоўскі. Мікуць адзін заўсёды коні забірае.

Міхалючок. Адзін? Вельмі вы ведаеце! Гэта я сёння не пайшоў, бо газету мне трэба наклеіць. А то заўсёды.

Якуб Якубоўскі. Я як быў малы, гэтакі, як ты, дык вельмі любіў коні абвучваць.

Міхалючок. Як гэта?

Якуб Якубоўскі. А так, што як малады конь, жарэбчык або жаробка. Яшчэ не абвучаны. Яшчэ не ездзілі на ім. Ох, весела на ім ехаць! Ты сядзеш на яго, задзелзаеш, або і не закелзаеш, каб весялей ішоў і — но! Ён круціцца, а ты адно старайся падвясельваць яго. Весела, бывала. Пусціш, каб ён бег. Бывала, мы, гэтакія, як ты, толькі і абвучвалі маладых коней. От гэтак, як, напрыклад, сказаўшы, гэтая ў вас у калгасе раскулачаная Пацееўскага жаробка. Гэта ж табе праехаць на ёй — любата.

Міхалючок. Я на ёй хацеў раз праехаць.

Якуб Якубоўскі. Дык чаму ж не ехаў?

Міхалючок. Дзядзька Сымон Мікуць не дазволіў.

Якуб Якубоўскі. Чаму?

Міхалючок. Казаў — няможна. Казаў, што яна мяне скіне.

Якуб Якубоўскі. Ай, скіне, скіне! Што ты, баязлівец які, ці што? Ты будзь смелы. Я на тваім месцы толькі і ездзіў бы што на Пацееўскага жаробцы.

Міхалючок *(раптам устрапянуўся)*. Я на ёй праеду.

Якуб Якубоўскі. Праедзь. Ты адно чым-небудзь ёй пад бакі таркані. І тады пускай, няхай бяжыць. Ты з яе гэтыя кулацкія мухі павыганяй.

Міхалючок *(маўчыць)*. Нейк страшна патом, ліха на яго. Яна вельмі натурыцца.

Якуб Якубоўскі. Мала што яна натурыцца. Я ж кажу, пад бакі ёй чым-небудзь таркані. Павыганяй з яе кулацкія мухі.

Міхалючок. Калі пад бакі таркануць, дык яна ж яшчэ горш натурыцца будзе.

Якуб Якубоўскі. Гэта стары конь. А малады, дык пакуль неабвучаны, дык яшчэ не ведае, што ад гэтага трэба натурыцца. Пад бакі ёй, пад бакі, нічога не бойся.

Міхалючок. Чаго я буду баяцца!

Хоча напіцца вады. Пабразгаў у вядры конаўкаю — пуста. Пайшоў з конаўкаю з хаты шукаць вады.

Якуб Якубоўскі. Можа і праедзе на жаробцы, дурань гэты малы. Абы-толькі ён сеў — галаву скруціць.

Акно адчынена. Відаць, як паўз хату прайшоў Пацігеўскі. Пасля вярнууўся, заўважыў у хаце Якубоўскага. Паволі падыходзіць, нясмела зазірае ў акно.

Пацієўскі. Што ты тут робіш?

Якуб Якубоўскі. З калгаснікамі на сена нанач пайду.

Пацієўскі. У калгас прынялі?

Якуб Якубоўскі. Пакуль не. Можа прымуць.

Пацієўскі. Рабі. Рабі. Можа і прымуць.

Якуб Якубоўскі. А я толькі што агітацыю распусціў.

Пацієўскі. Якую?

Якуб Якубоўскі. Малога падгаварыў на тваёй жаробцы праехаць.

Пацієўскі. А-а-а, каб бог памог усадзіць яго на гэтую жаробку.

Пайшоў. Уваходзіць Ёсель.

Ёсель. Што ты тут робіш? Адзін.

Якуб Якубоўскі. З вамі ж разам па сена паеду.

Ёсель. Па якое сена ты паедзеш?

Якуб Якубоўскі. Раз ударніцтва, дык усім ударніцтва. Што, я не магу быць ударнік? Я так палагаю мысліць...

Ёсель. Ведаеш што, выйдзі ты адгэтуль. Яшчэ па сена рана ехаць. Тады прыйдзеш, як пара будзе. І зусім не тут збірацца будзем... Выйдзі, я кантору замкну. *(Той сядзіць. Ёсель крычыць.)* Выйдзі, ну? Я зачыняць буду. *(Той пайшоў.)* Ты ўжо мне не кажы. Сядзіць, халера ведае чаго. А, халера!

Уваходзіць Костусь.

Ёсель. Чаго гэта ён тут сядзеў з віламі?

Костусь. Хто?

Ёсель. Ну гэты Якубоўскі. Я прыйшоў, а ён сядзіць. Я яму кажу — ідзі, а ён сядзіць. Я крычу, а ён не ўстае. Я заеўся, а ён устаў і пайшоў.

Костусь. А Міхалючок жа дзе?

Ё с е л ь. Ат, Міхалючок, шміхалючок! Малы ў канторы не работнік. Ты ўжо мне не кажы. Я прыйшоў, а ён сядзіць. Чаго ты, кажу, сядзіш, а ён не ўстае. Ідзі, кажу, а ён не варушыцца. Ты ўжо мне не кажы.

К о с т у с ь. Ёсель!

Ё с е л ь. Ну?

К о с т у с ь. Сёння ўночы сена возім.

Ё с е л ь. Дзякуй табе, што сказаў. Я раней за цябе ведаў.

К о с т у с ь. А заўтра ўдзень не ўсе пойдуць на жыта і не ўсе на сена. Сталяры будуць дома на работу стапавіцца. Бо калі цяпер мы не скончым аборы і стайні, дык развал будзе.

Ё с е л ь. Дзе ж людзей узяць?

К о с т у с ь. Мы павінны знайсці іх у сябе на месцы. На месца іх на полі трэба, каб усе парабіліся ўдарнікамі.

Ё с е л ь. Ты адно не ганіся за гэтакімі ўдарнікамі, як гэты Якубоўскі. Ты ўжо мне пра яго не кажы.

К о с т у с ь. Мы яму заплацім, што ён рабіць будзе.

Ё с е л ь. А Ладымер?

К о с т у с ь. Ладымер неўзабаве стане на работу. От паглядзіш.

Ё с е л ь. Ну, няхай будзе як найлепш. Каб усё добра было.

Ё с е л ь выходзіць. Уваходзіць М і х а л ю ч о к.

К о с т у с ь. Чаму ты пакінуў тут аднаго Якубоўскага?

М і х а л ю ч о к. Бо што гэта за кантора!

К о с т у с ь. Чаму?

М і х а л ю ч о к. Гэта не кантора, а безгаспадарчасць нейкая. Гэта галавацяпства нейкае. Як гэта, каб у канторы, у калгаснай канторы, ды вады напіцца не было. Я ваду хадзіў піць.

Бярэ насценную газету, наклееную на фанерную дошку, і паднімае перад сабою.
Гатова.

5

Вуліца. Направа новыя сцены няскончанай аборы. На рыштаваннях брыгада калгасных цесляроў. К о с т у с ь сыходзіць з рыштаванняў.

К о с т у с ь. Як прыбяром жыта, дык тады да вас яшчэ чалавек колькі далучыцца.

Ё с е л ь *(з рыштаванняў)*. Ты ўжо мне не кажы. Настаялася гэтая абора наша без страхі. Дождж лье, а новыя сцены гніюць. Яны гніюць, а мы не робім. Гэта ты добра выдумаў вымеркаваць сярод самае нагальнае работы колькі чалавек сюды. Каб яшчэ, здаецца, сюды чалавек з пару!

К о с т у с ь. Нічога, браткі, не зробіш. Гэтакае гарачкі ў нас яшчэ не было.

К о с т у с ь ідзе са сцэны. Ідуць з граблямі і віламі Р а м а н П е с е н ь к а і Я ў х і м С т р ы г у н.

Я ў х і м С т р ы г у н. Памагай бог!

Ё с е л ь. Дзякуй за добрае слова.

Г о л а с. Ідзі ды памажы.

Я ў х і м С т р ы г у н. Прыйдзе пара — памагу, чаму не.

Ідзе брыгада к а л г а с н і к а ў, што накідалі ўночы на вазы сена. Тут Т э к л я і Г а л е н а.

Р а м а н П е с е н ь к а. Ты тут? Ты тут? Зараз здохнеш, работаю гэтак душачыся.

Т э к л я. Ах, як ты вельмі пра маё здароўе клапоцішся!

Р а м а н П е с е н ь к а. Я цябе больш не пушчу.

Т э к л я. Ты мяне не пусціш? Не пусціш ты мяне? *(Ідзе.)*

Р а м а н П е с е н ь к а *(кідаецца да Галены)*. Сядзі дома. Рабі гэтак, як усе людзі робяць: удзень на рабоце, а ўночы спаць.

Г а л е н а. Бацька, што ты мне гаворыш?! *(Ідзе.)*

Я ў х і м С т р ы г у н. Паншчыну варочаюць. Якуб Якубоўскі нездарма казаў.

Выходзіць з віламі Я к у б Я к у б о ў с к і.

Я к у б Я к у б о ў с к і. Але ж і папрацавалі! Цалюткую ночку! А вы ўжо на рыштаваннях? А мы дык за ноч гэтак справіліся, што палову сена, можна сказаць, прыбралі. Ну і падавалі ж мы на вазы! Як пачалі завіхацца!..

Я ў х і м С т р ы г у н. На паншчыне і ты, значыцца, быў, пане Якубоўскі?

Я к у б Я к у б о ў с к і. Ат... На якой там паншчыне?

Р а м а н П е с е н ь к а. А ты ж сам казаў, што паншчыну робяць і ўночы прымушаюць рабіць.

Я к у б Я к у б о ў с к і. Ат... Казаў... Казаў... Хто казаў?..

Раман Песенька. Яно і так сказаць. Нам дык ты казаў, а сам дык пайшоў. Чаму гэта?

Якуб Якубоўскі. Можа і казаў... Мусіць я тады п'яны быў. *(Знізіўшы голас.)* Ціха вы, дурні! Можаш прыйсці да мяне ў хату, там і пагаворыш, калі гэтак гаварыць захацеў.

Ідзе. Раман і Яўхім садзяцца на бервяне, закурваюць.

Яўхім Стрыгун. Яшчэ раса не зусім спала, пакуль копы разбіваць, можна і закурыць.

Раман Песенька. Я, патом, жонку з калгаса дастану. Я яе адтуль выму!.. Я яе выпішу!

Голас з рыштаванняў. Дык жа калгас раскідаецца.

Ёсель. Што ты жартуеш! Гэтакае жанчыны пашукаць!

Раман Песенька. Чорт яго бяры з калгасам. Я яе дастану. Я яе выму.

Паўза.

Яўхім Стрыгун. Кажуць, што ў нас будуць школу будаваць.

Раман Песенька. Ну, няхай.

Яўхім Стрыгун. Калі скажуць даваць на будоўлю, дык я нічога не дам. Няхай дае той, у каго дзеці. А ў мяне дзяцей няма.

Раман Песенька. А ў Агрэставічах дык, кажуць, старых вучылі. Кажуць, што хто не ідзе вучыцца, дык штрап накладаюць.

Яўхім Стрыгун. І плацяць?

Раман Песенька. Ат, хто плаціць, а хто так выкручваецца.

Яўхім Стрыгун. А што ж, кожны бароніцца як можа. На гэтым свет стаіць.

Раман Песенька. А некаторыя, кажуць, вучацца.

Яўхім Стрыгун. А што, у каго няма чым штрапу заплаціць... Што ён будзе рабіць? Раз няволя, пойдзе вучыцца... А хто табе казаў, што школу ў нас?..

Раман Песенька. Казалі. Кажуць, яшчэ і тэхнікуму нейкую.

Яўхім Стрыгун. І тэхнікуму?

Раман Песенька. Але. І яшчэ курсы нейкія.

Яўхім Стрыгун. Ну, тады ўжо накоцяць штрапу! Тады ўжо не выкруцішся! Тады — амэн!

Раман Песенька. А Якуба Якубоўскага капэла раскідаецца. Гэтыя музыкі яго ўжо зусім кідаюць.

Яўхім Стрыгун. Чаму?

Раман Песенька. Камсамольцы свой струмант купляюць і самі будуць вучыцца, а гэтых музык да сябе перацягаюць. А гэты, што ў Якубоўскага на першай скрыпцы граў, дык гэты ў іх за старшага будзе. Мала і іграць будзе, найбольш адно смыкам махаць... Дый то сказаць...

Яўхім Стрыгун. Што?

Раман Песенька. Гэтыя самыя хоць бы і музыкі. Той у калгас падаецца, а той у гэтае...

Яўхім Стрыгун. У якое гэтае? Куды?!

Раман Песенька. Ну, таксама ў калгас.

Яўхім Стрыгун. А-а-а, ці бач. А што гэта гэты Якубоўскі? Нешта ён і сам каля калгаса трэцца. Ну, гэты хітры.

Раман Песенька. О-о-о, гэта разумны чалавек.

Яўхім Стрыгун. А-а-а, не дурны.

Раман Песенька. А і то сказаць. Не дурны... не дурны, а чужым розумам жыве.

Яўхім Стрыгун. Як чужым?

Раман Песенька. А ён у Пацієўскага як чаляднік. Ён жа разу не ступіць, каб у Пацієўскага не папытацца.

Яўхім Стрыгун. Ну, кожны кіруецца, як яго розум зносіць... Што гэта унь за чалавек грэбляю лезе? Унь плюхаецца па грэблі?

Раман Песенька. А гэта, здаецца, новы агрэстаўскі настаўнік.

Яўхім Стрыгун. Мусіць гэта ці не наконт школы адно. Ну!

Раман Песенька. Можа наконт штрапу. Яно, калі сказаць праўду, дык гэта адно, што мы забываем вельмі хутка, дык нам не ў голаў, а яно, патом, і нам летась заказвалі хадзіць вучыцца. Мая жонка хадзіла ў самыя Агрэставічы і пісаць навучылася. *(З гонарам.)* Яна цяпер чытае і піша.

Яўхім Стрыгун. А можа і штрап. Хаця каб бог крыў. А-а-а, божа мой, божа, што гэта будзе! Барані божа чаго, дык ах, ах!

Уваходзіць настаўнік.

Настаўнік. Але ж і гразь у вас у канцы вёскі. Цэлы тыдзень сонца смаліць, а яна і не думала высыхаць.

Раман Песенька. Ого, каб вы паглядзелі, што ў нас увосень робіцца.

Настаўнік. Чаму вы не мосціце?

Раман Песенька. Яно і так сказаць. Мой палетак з гэтага канца, дык я там мала калі і еду. Нашто мне там масціць?

Яўхім Стрыгун. Гэтаксама і таму, што з гэтага канца ці з таго. Чорт яго яшчэ масціў. От, лета так-сяк перабудзецца, а ўзімку так укуе, што...

Настаўнік *(смяецца)*. Ага... Дзе гэта тут ваша калгасаўская кантора ці хто-небудзь з калгаскіх старшых?

Раман Песенька. Нашто вам?

Настаўнік. Я з раённае будаўнічае камісіі. А ў вас тут будавацца шмат чаго будзе.

Раман Песенька і Яўхім Стрыгун. Што?!

Настаўнік. Школа, лячэбны пункт, пошта... Ды яшчэ сход у вас трэба зрабіць.

Раман Песенька. Які сход?

Настаўнік. Увосень вы павінны паслаць хлопцаў і дзяўчат на рабфак і ў тэхнікум вучыцца. Дык цяпер трэба падумаць каго.

Яўхім Стрыгун. А тут гавораць, што ў нас на месцы гэтую тэхніку будуць адчыняць?

Настаўнік. Будуць. З таго года. І будынак будзе будавацца з гэтае восені... А вунь у вас на вуліцы зноў лужа.

Раман Песенька. Дык вы, таварыш, ідзіце паўззагуменню, там сушэй.

Настаўнік. Паўззагуменню?

Яўхім Стрыгун. Вы, здаецца, таварыш, агрэстаўскі новы настаўнік?

Настаўнік. Але.

Яўхім Стрыгун. Ці праўда, скажыце на міласць, што ў Агрэставічах у чатырох гаспадароў свінні, як горы, за платамі ляжаць?

Настаўнік. Свінні за платамі?

Яўхім Стрыгун. Але, што паморак на свінні ўкаціўся і рады няма. Мы тут тужым-тужым, хаця каб нас бог крыў.

Н а с т а ў н і к. Не. Я не чуў. Была там у аднаго чалавека свіння на тым тыдні здохла, але яна ад парасення. А так не чуваць пошасці.

Раман Песенька і Яўхім Стрыгун хітра ўсміхаюцца. Н а с т а ў н і к адыходзіць. Ідзе Т э к л я.

Я ў х і м С т р ы г у н. Мусіць партыйны.

Р а м а н П е с е н ь к а. Чаму?

Я ў х і м С т р ы г у н. Бач. Не кажа. Свінні дохнуць, а ён не кажа. Не верыць.

Р а м а н П е с е н ь к а. Не, які ён партыйны. Не.

Я ў х і м С т р ы г у н. Партыйны! Відаць адразу! Не верыць, што пошасць можа быць. Не верыць у няшчасце. У смерць не верыць!

Р а м а н П е с е н ь к а *(крычыць настаўніку)*. Дык вы паўззагуменню!

Я ў х і м С т р ы г у н. Дык жа там горшая гразь.

Р а м а н П е с е н ь к а. Няхай паплюхаецца. Боты, падла, добрыя на нагах мае ды яшчэ нават і ваксаю, здэцца, пацягненыя. Няхай памочыць. Якое яму ліха адходзіць. От, ходзіць ды зазывае гэтыя сходы.

Т э к л я *(падыходзіць, не спускае вачэй з Рамана)*. Нашто ты гэта робіш? Нашто ты гэта робіш?!

Р а м а н П е с е н ь к а. Я ж кажу нашто... Няхай глянцаваныя боты памочыць.

Т э к л я *(пасля паўзы)*. Гад ты!

Р а м а н П е с е н ь к а. Ты! Э! Перад людзьмі?

Т э к л я. Нашто ты пазамыкаў усё ў хаце. Дай ключы, паесці чаго дастаць. Нам з Галенаю адпачываць хутчэй трэба, бо з паўдня мы зноў сена вазіць будзем.

Р а м а н П е с е н ь к а. Не дам ключоў.

Т э к л я. Дай ключы.

Р а м а н П е с е н ь к а. Не дам.

**Р а м а н П е с е н ь к а ўстае і ідзе. За ім Я ў х і м С т р ы г у н. Тэкля колькі момантаў стаіць моўчкі. Заплакала. Гаворыць:**

— Я жыву, як у пекле.

**Паволі паварочваецца і ідзе назад. Гаворыць:**

— Каб у мяне дзень пабыў спакойны! Ні дня, ні часіны я гэтак, як добрыя людзі, не ведаю, як у калгас пайшла.

**Зусім сыходзіць са сцэны. Брыгада на рыштаваннях моўчкі працуе. Доўгая паўза. З рыштаванняў голас:**

— Дай там абухам зверху — бервяно не прыстае.

Ё с е л ь. Мохам таўсцей сцяліце.

З'яўляецца на сцэне М і х а л ю ч о к. Ён нясе перад сабою на фанернай дошцы наклееную насценную газету. Кладзе на зямлю, дастае з кішэні цвік, шукае на зямлі камень, паднімае газету і прыбівае яе да сцяны. Пасля адышоўся крыху, сеў на зямлю, глядзіць на газету і сам сабе смяецца. На рыштаваннях гарачая работа. Раптам Міхалючок усхапіўся, задзёр галаву на рабочых і крычыць.

М і х а л ю ч о к. Эй, ідзіце, чытайце. Тут пра што хочаце вычытаеце. Нават і пра наш тэхнікум, і пра непісьменных. Агрэстаўскі настаўнік самыя свежыя навіны прынёс, і ў самую апошнюю хвіліну мы іх выклеілі.

Адыходзіцца далей і крычыць, задраўшы галаву:

— Калі мы не прыбяром усяго з поля!..

Ё с е л ь *(з рыштаванняў)*. І не пабудуем усяго ў пору!..

М і х а л ю ч о к. Дык тады развал у нас будзе. Сам Костусь пра гэта казаў.

Адыходзіць убок. Ёсель паволі сыходзіць з рыштаванняў.

Ё с е л ь. Ну, хлопцы, здаецца, абед пачынаецца.

Рыштаванні пусцеюць. Раптам чуваць здалёк гул жняяркі. Гэты гул то мацней, то цішэй чуваць да самага канца гэтага малюнка.

Ё с е л ь. О, жаць пачалі. Жняярку, значыцца, наладзілі... Там на апошнім палетку злягла пшаніца пасля дажджу, прыйдзецца рукамі...

Рабочыя спыняюцца каля насценнае газеты.

Г о л а с. Ого, пра спаборніцтва.

— Каго з кім?

— Дзвюх брыгад, што ўночы сена вазілі. Узяла верх Алімпіна брыгада.

— А больш што?

— А больш, калі так далей будзе, дык сёння ўночы з вялікае сенажаці ўсё сена прыбяруць. Астанецца толькі самы хвосцік.

Рабочыя праходзяць. Міхалючок астаецца адзін. Ідзе Я к у б Я к у б о ў с к і.

Я к у б Я к у б о ў с к і *(да Міхалючка)*. Газету вывесіў? От маладзец! Ну, аб'язджаў Пацієўскага раскулачаную жаробку?

Міхалючок. Не яшчэ.

Якуб Якубоўскі. Паспрабуй. Павыганяй з яе кулацкія мухі.

Міхалючок. Дык я сёння ўвечары пайду з кімнебудзь па маладыя коні на пашу, от і праеду на ёй.

Якуб Якубоўскі. Я, бывала, як быў гэтакі, як ты, дык... эх, папаабвучваў гэтых маладых коней. Слупам, бывала, жарэбчык пада мной становіцца, а я калі прышпару, калі прышпару!..

Ідзе. Насустрач яму першы музыка, з сякераю.

Якуб Якубоўскі. Куды ты?

Музыка. А я з паўдня пры́стаўлены сюды на рыштаванні ў цяслярскую брыгаду. Дзе ж, нікога няма?!

Міхалючок. Абедаць пайшлі.

Якуб Якубоўскі. У калгас падаўся?

Музыка. Але.

Якуб Якубоўскі. Граць у мяне будзеш?

Музыка. Дзе бачыў. Цяпер жа з калгасам звязаны, дык не выпадае. Тут яны самі, хлопцы, струмант прывезлі, вучыцца самі будуць.

Якуб Якубоўскі. Ты паракамандуй ім мяне за старшага ў капэлу.

Музыка *(нейк ціха і нясмела ўсміхаецца)*. Я... скажу... там... Яны, сказаць праўду, мяне нібыта прыгаварылі за старшага быць у іх... Дык цяпер абедаюць яны?..

Шпарка выходзіць. У другі бок выходзіць Якуб Якубоўскі. Міхалючок раптам усхватваецца, лезе на рыштаванні, махае кудысьці рукою і крычыць:

— Эй, сюды, сюды!

Выходзіць натоўп вяскоўцаў. Міхалючок паказвае ім на газету. Чытаюць. Гармідар.

Галасы:

— Яны самі сябе падганяюць на рабоце.

— Але ж малайцы, яны сёння з сенам захадзіліся.

— Нічога не паможа. Сена прыбяруць, дык што іншае астанецца, панасявалі яны многа. Панахваталі. А ўрэшце — кожны стараецца, як можа.

Ідуць назад Раман Песенька і Яўхім Стрыгун. Пасля Якуб Якубоўскі. Глядач пазнае ў натоўпе тых музык, што ішлі з вяселля ў першым малюнку. Натоўп ля газеты павялічваецца. Міхалючок сядзіць над натоўпам на рыштаваннях і гойдае нагамі. Якуб Якубоўскі гаворыць з музыкамі.

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Выходзіць, што наша капэла раскідаецца?

М у з ы к а. Здаецца, так.

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Давайце тады ўсе гуртам у калгасную капэлу падавацца.

М у з ы к а. Дык жа мы ўжо, можна сказаць, усе там. Каго ў калгас прынялі, той там і рабіць будзе і ў музычным гуртку будзе.

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Ах, а от са мною дык нешта цягнуць усё.

Г а л а с ы  ў  н а т о ў п е:

— А ты паскардзіся якому-небудзь начальству.

— Мала што за дзяка быў! Але ты цяпер з працы рук жывеш.

— Яно ўсё адно не прымуць.

Расхрыстаная ўся, бяжыць Н а с т а с я з лямантам.

Н а с т а с я. А людцы добрыя, каб вы ведалі, што робіцца!

Г а л а с ы. Што? Дзе? Дзе ты што ўбачыла?

Н а с т а с я. Ой! Дайце адсапціся. Ад нашае вёскі і шпылу не астанецца!

Н е к а л ь к і  г а л а с о ў. Чаму?!

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Цемната вы, як сказаў Карл Маркс, вясковая. Цяпер новы час, новыя і парадкі. Калі ты камень, дык трымайся дна. Калі ты трэска, дык плыві на хвалях.

Н а с т а с я. Нашу вёску раскасіроўваюць...

Ідуць з віламі і далучаюцца да натоўпу Р а м а н  П е с е н ь к а і Я ў х і м  С т р ы г у н.

Н а с т а с я. Ад нашае вёскі і шпылу не астанецца.

Г а л а с ы. Гавары хутчэй! Не думай доўга, гавары!

Н а с т а с я. Раскасіроўваюць вёску! *(Паўза.)* Мікалай Тэклі казаў. Ён ёй гаворыць, а я слухаю. *(Лічыць па пальцах.)* Цэхніку робяць. Грэблі і вуліцу каменнямі мосцяць. Калгаснікам, у каго старыя хаты, дык ім новыя паробяць. Вучыцца ўсіх старых пагоняць. Мілізацу зробяць і ў горад на нейкі рабфук усіх маладых змібілізуюць. Мікалай кажа — усе, кажа, у калгасе будуць. Дзе яны, кажа, дзенуцца. Усе тут будуць. І вуліца наша пойдзе зусім у іншы бок. Цяпер яна ідзе з-пад грэблі туды, дзе Пацісўскі гумно быў паставіў. А цяпер нейк інакш закруціцца. Бо і анбула-

тору, і вiцінарніцу, і пошту, і цехніку наводшыбе, Мікалай казаў выразна, будуць рабіць. Вёску раскасіроўваюць!

Натоўп стаіць, як анямелы. Толькі адзін Яўхім Стрыгун завыў.

Я ў х і м С т р ы г у н. Аёй-аёй, аёй!

Цішыня. Усё стаіць і не варушыцца. Міхалючок на рыштаваннях навіс над натоўпам. Раптам ён пачаў рагатаць. Рагоча доўга, аж заходзіцца. Паказвае пальцам на натоўп і рагоча.

*Заслона*

## ТРЭЦЯЯ ДЗЕЯ

### 6

Тая ж самая дэкарацыя, што і ў папярэднім малюнку. Толькі што сцены аборы зроблены вышэй. На рыштаваннях гарачая работа. Цесляры моўчкі працуюць, толькі калі-нікалі чуваць там:

— Стукні там зверху!

Або:

— Прыпускай бервяно шчыльна!

За сцэнай то мацней, то цішэй чуваць гул жняяркі, стук калёс, галасы працы. Чуваць, як паганяюць коні. Да слупа пры рыштаванні прыбіты чырвоная і чорная дошкі. На чорнай чыста, на чырвонай напісаны прозвішчы калгасных ударнікаў. На сцэну выходзіць р а ё н н ы  г а л а в а ц я п. Ён паглядзеў на рыштаванні, пасля падышоў да чырвонае дошкі, чытае:

— Лепшыя ўдарнікі на прыборцы з поля ўраджаю: старшая брыгадзірша Тэкля... прозвішча невыразна напісана... Алімпа Стальмаховіч, Галена, Волька, Ганна... без прозвішча чамусьці напісалі... Старшы брыгадзір Сымон Мікуць, старшы брыгадзір Віцька... Зноў без прозвішча... Мікалай Камароўскі... Ну і гэтак далей... Аднак Костусь маладзец, як арганізаваў прыборку з поля. Толькі, аднак, ён нядобра робіць, што не прымае ў калгас... Хоць бы сабе гэтая заява Якубоўскага. Чаму яго не прыняць і на яго месца не разгрузіць ударнікаў? *(Задзірае галаву ўгару.)* Дзе тут знайсці вашага старшыню? Я ў канторы быў, дык там яго няма.

Ё с е л ь *(з рыштаванняў)*. Ён на полі. Зараз павінен тут быць.

Бяжыць С ы м о н  М і к у ц ь. Кусае з вялікага кавалка хлеба.

Раённы. Дзе ваш старшыня?

Сымон Мікуць. На полі. Нашто вам?

Раённы. Я з раёна. Едучы, па дарозе заглянуў да вас. Справа ёсць.

Сымон Мікуць. Я скажу яму. *(Хоча бегчы.)*

Раённы. Як у вас прыборка з поля ідзе?

Сымон Мікуць. Добра. *(Хоча бегчы.)*

Раённы. Што вы цяпер прыбіраеце?

Сымон Мікуць. Жыта возім і ярыну жнём.

Раённы. Што гэта, вам часу няма пад'есці?

Сымон Мікуць *(усміхнуўся)*. А такі і няма. Мы сёння перарыву на абед не робім. Так хвілін з дзесяць: кусанулі, што хто меў з сабою...

Пабег. Паўза. Ідзе Якуб Якубоўскі.

Раённы. Старшыні не бачылі?

Якуб Якубоўскі. Гэта калгаснага, вы разумееце, старшыні? Не. Не бачыў... Я, прызнацца, толькі будучы калгаснік.

Раённы. Чаму будучы?

Якуб Якубоўскі. А-а-а, цягнуць яны гэтую справу, як ката за хвост. Я ў раён скаргу падаў.

Раённы. Дык вы Якубоўскі?

Якуб Якубоўскі. Якубоўскі. А вы з раёна? Я вас з тэй пары ведаю, як тут Пацібўскага раскулачылі. Ёсць тут у нас кулачок гэтакі. Ну, цяпер ён нічога. Жыве на сваей норме, ціха сабе робіць... Яго-то, можна мысліць, і не зусім правільна раскулачылі. Ну, але ён сам цяпер можа ісці на мерапрыемствы савецкай улады... Я так палагаў бы мысліць...

Выходзіць Костусь. Якубоўскі шпарка ідзе са сцэны.

Раённы. Ну, як?

Костусь. Нічога, працуем.

Раённы. Як прыліў у калгасы?

Костусь. Пакрысе.

Раённы. Як з прыборкаю?

Костусь. Цяжка. Чалавек дзесяць ударнікаў трымаюць ударніцтва і прыкладам і розумам сваім. А ёсць такія, што неахвотна.

Раённы. З работаю ўпору справіцеся? На полі нічога не зазімуе?

Костусь. Стараемся. А як яно ўдасца. Калі на полі

хоць крыха чаго зазімуе, дык развал можа быць. Я гэта ведаю. Цяжка.

Р а ё н н ы. Дык нашто ты людзей на гэтай будове трымаеш?

К о с т у с ь. Нічога іначай не будзе. Мы стараемся і сярод работы на полі выкраіць некалькі чалавек на гэта. Дзе ж мы жывёлу на зіму паставім?

Р а ё н н ы. А от некаторых у калгас не прымаеш.

К о с т у с ь. Каго гэта?

Р а ё н н ы. Якубоўскага нейкага. Мала што там што калі было.

К о с т у с ь. Няхай ён рапей пакажа сябе. Тады прымем. Ён без Пацієўскага разу не ступіць. А Пацієўскага, я думаю, трэба было тады інакш раскулачваць. Я тады табе з самага пачатку казаў.

Р а ё н н ы. Ты мне казаў! Я свой розум маю. У цябе вельмі левая натура.

К о с т у с ь. Якубоўскага мы не прымем.

Р а ё н н ы. Вы яго павінны прыняць. Што ты рабочыя рукі ад калгаса адпіхаеш!

К о с т у с ь. А ты памятаеш, як сам некалі Радзівона Бабаку раскулачваў? А як націснулі на цябе, дык траха Пацієўскага ў калгас быў не ўпісаў. Не ідзеш дарогаю, а ўсё то ў ваду ўскочыш, а то ў агонь.

Р а ё н н ы. А я кажу, што вы павінны прыняць Якубоўскага.

К о с т у с ь. Што ён табе гэтак у вока ўпаў, гэты Якубоўскі?!

Р а ё н н ы. Вам рабочыя рукі патрэбны.

К о с т у с ь. Ён да нас на работу ходзіць. Мы яго рукі скарыстоўваем.

Р а ё н н ы. Я так і лічу, што ў вас тут тармозіцца прыліў у калгас.

К о с т у с ь. Лічы.

Р а ё н н ы. Я ў раёне на прэзідыуме пра гэта гаварыць буду.

К о с т у с ь. Добра, што ў прэзідыуме не ўсе гэтакія, як ты... От адно час патраціў тут, гаворачы ліха ведае пра што.

Р а ё н н ы. Ну... Ага... От як... Бач ты...

Пайшоў не развітаўшыся. Костусь астаецца адзін. На рыштаваннях пачалася гаворка, галасы ўсё мацней. Нарэшце двое злазяць уніз.

К о с т у с ь. Што?

Д в о е. Чорт яго гэтак рабіў! Мы ўчора больш як удвойчы норму сваю выгналі, а сёння зноў... Дык цяпер да заўтра пагуляем. Мы гэта з самага ранку Ёселю казалі. А ён работу гоніць, страшэнная моц.

К о с т у с ь. Чаго вы хочаце?

— Чаго мы хочам? Нашто нам лішняе рабіць.

— Мы норму сваю зрабілі.

Ё с е л ь *(з рыштаванняў)*. Ой, ведае ён, якая нам норма патрэбна! Што ты брыдкім словам брыдзіш! Наша норма — парабіць усё добра.

К о с т у с ь. Калі вы хочаце выйсці з калгаса або сарваць ударніцтва, дык вы зробіце паскудную справу.

Д в о е. Што ты! Не, мы не гэтак.

Ё с е л ь. Сюды лезьце. Лезьце назад! Ураджай прыбраць трэба? І трэба будынкі кончыць? Што гэта вы сабе думаеце.

К о с т у с ь. Мне няма часу доўга тут гаварыць. Усе ўдарнікі, а вы ў прагульшчыкі падацца ўздумалі? Усё як скончым, тады з гонарам адпачываць будзем.

Пайшоў. Тыя стаяць. Кураць. Маўчаць.

Ё с е л ь. Брыдка вам, хлопцы. Вы ўжо мне не кажыце. Я і слухаць не буду.

Змяркаецца. Ідзе П а ц і е ў с к і з граблямі.

П а ц і е ў с к і. Ах, і работа ж у вас! Як вы і трываеце!

Двое раптам лезуць на рыштаванні. Паціеўскі садзіцца на бервяно.

П а ц і е ў с к і. Гэта было яшчэ за старым нажымам. Паміж Пытлевічам, з аднаго боку, і Пшыкальскім, з другога боку. На Баслаўскіх хутарцах ішла сварка за студню. Ну, яны згадзіліся, што Пшыкальскі дасць Пытлевічу адступнога і Пытлевіч сабе сваю студню выкапае. Ну, дык я яму памагаў гэтую студню капаць. Рабіў я, рабіў і гэтак ад вялікае натугі падверадзіў нагу, што цяпер трымціць яна ў мяне, абы вільготна на дварэ. Не дай пане божа! Я ж кажу! Ого! Падвярод, няма нічога страшнейшага. А то яшчэ быў падвярод на Азэмблаўшчыне, у нябожчыка, калі памятаеце, старога Чухрэвіча, Зыгмусевага бацькі... Верадзіцца, цераз сілу рабіць, не дай пане божа!..

Г о л а с *(з рыштаванняў)*. Ну, гэта ты, мусіць, ад таго гэтакі лёгкі на ногі, што ў цябе падвярод?

П а ц і е ў с к і. Гэта як бог дасць. У аднаго ногі лёгкія, у другога цяжкія. Не зраўняў бог лесу, не зраўняў і людзей. І не зраўняе ніколі.

За сцэнай шум. Бяжыць Н а с т а с я.

Н а с т а с я. Ой, дайце перадыхнуць! Я заўсёды казала, што на чужым далёка не заедзеш. Чужое дабро праз бок вылезе! Ой! Ой! Што нарабілася! Бягу гэта я, аж бачу, Сымон Мікуць калгасаўскія маладыя коні з пашы бярэ. Ну бяры, думаю я сабе. У цябе свая работа, а ў мяне свая. Аж бачу, пры Мікуцю трэцца гэты малы Міхалючок. Валтузіцца з Пацієўскага жаробкаю. Сесці хоча, праехаць. А Мікуць не дае яму. Яна цябе скіне, кажа. Тут Мікуць адвярнуўся, а гэтага малога як чорт усадзіў на жаробку. Адно, падла, пятамі бліснуў. Не паспела я агледзецца, як ён ужо на жаробцы конна сядзіць. Тая натурыцца, а Мікуць крычыць злазь, а то яна цябе прыб'е. Ці гэта ён у брыдкую хвіліну сказаў, ці гэта бог так даў, адно не паспела я агледзецца, як Міхалючок торк жаробцы нейкаю ламачынаю, што ў руках была, пад чэрава; а яна як брыкне, дык гэты малы, як сноп! Ляжыць на зямлі. І духу не ўказвае. Ну, думаю я сабе. Не паспела я...

П а ц і е ў с к і. На смерць забіўся?

Н а с т а с я. Духу не ўказвае... А божа мой, божа! Чужое дабро заўсёды праз бок вылезе. На чужым доўга не паедзеш.

П а ц і е ў с к і *(сам сабе пад нос)*. Хваліць цябе, божа.

Шпарка выходзіць. Ёсель перавесіўся ўніз з рыштаванняў.

Ё с е л ь. Сціхні ты, каб табе зарвала, баба дурная!.. Што, ён не дыша?

Настася галосіць. Дзень меркне больш. Ёсель шпарка злазіць з рыштаванняў. Кідаецца бегчы за кулісы. Там тупат нечых ботаў. Неўзабаве чуваць Мікуцеў голас:

— Бяры, Ёселька, за ногі. Я нёс, нёс, цяжкі хлопец. Ах, які непаслушны. Казаў жа я табе, не чапай жаробкі! А маё ты дзіця! А жаба ты малая! А мой ты сынок!

Нясуць з Ёселем Міхалючка. У Міхалючка галава вісіць, як у нежывога.

М і к у ц ь. Казаў жа я табе. Каб жа я табе не казаў. А маё ты дзіця! Ой! Ой! А мой ты сынок!

Ё с е л ь. Ты ўжо мне не кажы. Яго нехта падвучыў.

Настася пабегла. Яшчэ больш змеркла. Цесляры злазяць з рыштаванняў. Раптам Н а с т а с я зноў тут.

Н а с т а с я *(да цесляроў)*. Я сама на свае вочы бачыла. Я ведала з самага пачатку, што гэта калі-небудзь будзе. Чужое дабро...

Ц я с л я р *(той, што рабіць не хацеў)*. Калі ты сціхнеш, сава! Якое чужое дабро?

Н а с т а с я. А што ж, не чужое?

Народ усё прыбывае. Ідуць з поля і з вёскі, і ўсе спыняюцца тут. Натоўп вялікі. У натоўпе Я к у б Я к у б о ў с к і. Гармідар. Бяжыць назад Ё с е л ь.

Ё с е л ь. Віцька! Віцька! Бяжы хутчэй запрагай каня. Імчыся па доктара. *(Віцька пабег.)* А маё дзіця! А мой ты сынок! *(Плача.)* Ён жа табе казаў. Сымон жа табе казаў! Каб жа ён не казаў табе. А то выразна казаў. Не лезь, казаў ён табе, на ліхое каняня...

Г о л а с. Жыў?

Ё с е л ь. Прыбіўся моцна. Жывы. *(Пабег назад.)*

Я к у б Я к у б о ў с к і. От табе і павыганяў з кабылы мухі.

Г а л а с ы:

— На чужым дабры доўга не паедзеш.

— Чужое дабро праз бок вылезе.

— Дурная гаворка! Якое гэта чужое дабро!

— Што гэта за чужое! Дурань!

Ц я с л я р. От плешчуць языкамі! Наша дзіця прыбілася, а яны тут пра нейкае чужое дабро.

Зноў прыходзіць Ё с е л ь.

Ё с е л ь. Нічога. Адно енчыць, небарак. Кажа, што баліць вельмі.

Г о л а с. Чужое праз бок вылазіць.

Ё с е л ь. Хто гэта кажа? Хто гэта кажа? Хто гэта горла разявіў з радасці, што наша дзіця прыбілася?!

Я к у б Я к у б о ў с к і. Старая цемната. Толькі дурань можа гаварыць пра сваё і пра чужое дабро. Не той свет цяпер.

Ё с е л ь. Ах, гэта ты? Я цябе даўно ведаю. Чаму ты мяне не абараніў словам, як Пацієўскі мне раіў носам сашнік адгінаць? А цяпер ты тут трэшся. Чаго ты тут каля нас трэшся? Ідзі ты адгэтуль.

Якуб Якубоўскі. Малы з каня зваліўся, а я тут пры чым!

Ёсель. Ты тут, можа, ні пры чым, але... але... вон ты адгэтуль! Вон!

Якубоўскі знікае. Натоўп вельмі ўзбуджаны.

Галасы:

— Чаго чалавека гнаць дарэмна?

— Бо чуваць, чым ён пахне.

Ёсель. Не кажыце мне. Я яго дух чую.

Ідзе Мікуць.

Мікуць. Халоднаю вадою прыклалі, пакінуў стагнаць, небарак. Ой! Ой! Як жа ён моцна прыбіўся. І ўсё паслухаў гада печанага!

Галасы:

— Каго паслухаў?

— Як гэта паслухаў?

— Што ты кажаш, Сымон! Кажы выразней.

Сымон Мікуць. Як прыклалі халодную вадою, дык боль адцягло. Дык ён, небарак, і пытае: ці я хаця, кажа, не памру?..

Ёсель. А мой сынку... *(Плача.)*

Сымон Мікуць. А пасля і кажа... Некалькі слоў адно сказаў...

Галасы:

— Што ён сказаў?

— Гавары хутчэй?!.

Сымон Мікуць. Мяне, кажа, Якубоўскі падвучыў праехаць на гэтай жаробцы, на Пацічушчанцы гэтай. Так, небарак малы, і сказаў. Гэта я, кажа, з Пацієўшчанкі мухі выганяў. Сказаў і нават цераз сілу ўсміхнуўся, небарак. А маё ты дзіця! Яшчэ і ўсміхнуўся, небарак. *(Раптам павысіў голас.)* Якубоўскі тут падкруціўся!

Ёсель *(моцна і грозна)*. Гэта Пацієўскага чаляднік. Гэта Пацієўскага рука, я ведаю.

Сымон Мікуць. Гэта ўсе ведаюць.

Ёсель. Вы ўжо мне не кажыце. Гэта ён наша дзіця прыбіў.

Бярэцца за галаву. Топчацца на адным месцы. Гармідар.

— От табе і ў калгас яго прымай.

— Але бач як трэцца...

Цясляр. Я гэта казаў. Не казаў я?

Натоўп неспакойна разыходзіцца.

Голас. Тут усё з імі — цацы-цацы, а яны табе вось як!

Паўза. Асталіся толькі Сымон Мікуць і Ёсель.

Сымон Мікуць. На ліха я яго не адагнаў зусім ад коней.

Ёсель. Ну, цяпер тужыць позна.

Раптам з'яўляецца Ладымер. Ён ідзе вельмі паволі. Стаіць і глядзіць кудысьці перад сабою. Дастаў з кішэні крэйду і падышоў да чорнае дошкі. Пачаў паволі пісаць на ёй. Пасля сцёр, пачаў нанава. Напісаў літару і прыглядаецца. Раптам заўважыў Мікуця і Ёселя.

Ладымер *(голасам, як з-пад зямлі)*. А, вы тут... Вы стаіце тут... Я не магу напісаць. Увечары вочы мае дрэнна бачаць. І пішу я не лішне... Сымоне, напішы ты. На крэйду.

Сымон Мікуць. Што напісаць?

Ладымер. Упішы мяне на чорную дошку, бо я прагульшчык. Вы колькі работы зрабілі, а я... а я... На, пішы хутчэй!

Сымон Мікуць бярэ крэйду і падступае да дошкі. Мерыцца, мерыцца і вінавата абварочваецца назад.

Сымон Мікуць. Я і так слаба пішу, а змрокам, дык і зусім... На, хіба ты, Ёсель.

Ёсель. Я толькі па-яўрэйску, і то слаба.

Ладымер. Ну дык што. Усё адно. Пішы. Ну, бяры крэйду і пішы па-яўрэйску.

Ёсель піша «Ладымер Стальмаховіч...» Спыняецца. Уздыхнуў.

Ёсель. Хоць ты гвалт крычы, нічога не бачу. Не магу больш. Памажы, Сымон.

Сымон Мікуць. Хіба памагу табе.

Дапісвае па-беларуску: «прагульшчык». Шпурнуў крэйду вобземлю. Усе ўтрох стаяць і маўчаць.

Ёсель. Ну, не думаў я ніколі, Ладымерка, што мне давядзецца калі-небудзь тваю гэтакую просьбу выконваць. Не думаў ніколі.

Сымон ківае галавою. Ладымер маўчыць. Доўгая паўза. Сымон Мікуць і Ёсель моўчкі ідуць. Ладымер стаіць адзін, апусціўшы галаву.

## 7

Тая самая дэкарацыя, што і ў папярэднім малюнку. Абора зусім скончана, рыштаванні з яе зняты. Ладымер адзін прымайстроўвае дзверы: спрабуе, ці добра ходзяць на завесах. Падмацоўвае цвікі малатком. Злева, на парозе свае хаты, сядзіць Яўхім Стрыгун, а крыху далей, на лаўцы, Якуб Якубоўскі. Яўхім Стрыгун пазяхае, маўчыць, пасля гаворыць. Якуб Якубоўскі стараецца перамагчы ікаўку.

Яўхім Стрыгун *(як бы сам сабе, ціха)*. Выходжу гэта я раненька на двор, аж бачу — палез у шпакоўню шпак. *(Паўза.)* А за ім шпачыха... Дык я глядзеў-глядзеў...

Якуб Якубоўскі. Ды і ты туды.

Яўхім Стрыгун. Дый я туды... Э, не, што ты мяне збіваеш. Я не туды. Ты і прывык усё людзей з толку збіваць.

Якуб Якубоўскі. Чорт яго. Як вып'ю, дык і вырве. Як толькі вып'ю, дык і вырве.

Яўхім Стрыгун. Дык табе, калі так, піць няможна.

Якуб Якубоўскі. Табе аднаму можна!

Яўхім Стрыгун. Мне няможна. Мне здароўе не пазваляе.

Якуб Якубоўскі. Я п'ю, а яно рве. Я яго туды, а яно назад.

Яўхім Стрыгун. Я ж кажу. Ты і прывык людзей з толку збіваць.

Чуваць музыку. Капэла недзе спрабуе граць. Сціхае і зноў пачынае.

Якуб Якубоўскі. Граюць. Рапяціца ў іх адбываецца. Нічога ў іх без мяне не выйдзе.

Яўхім Стрыгун. Без цябе нідзе нічога не выйдзе. Аднак жа нікуды цябе не просяць і ўсюды без цябе абыходзяцца.

Якуб Якубоўскі. Чаго ты мяне точыш. Што ты дурань, дык пры чым тут я? Я вінават, што ты дурань? Не я ж цябе на свет пускаў.

Яўхім Стрыгун. Не разабраць, як у іх робіцца. Калгасны выходны дзень, а Ладымер каля аборы корпаецца з сякераю... *(Крычыць.)* Гаворыце, пане Якубоўскі, што паншчына.

Якуб Якубоўскі. Якая табе паншчына. Калгас, а не паншчына.

Я ў х і м  С т р ы г у н. А ты ж казаў. Мала ты папаказаў?!

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Я гаварыў натое, каб ты не слухаў. А ты слухаў, вушы развесіўшы. Пры чым тут я?

Я ў х і м  С т р ы г у н. Ты ўсюды ні пры чым.

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Я вінават, што дурань нейкі слухае ліха ведае чаго. Мала што часамі скажаш. Дык гэта ўсё трэба слухаць? Хоць бы сабе гэты і малы. Я пажартаваў, а ён, дурань, і палез ехаць на гэтай жаробцы. На гэтай Пацієўшчанцы. Ой, граюць яны, граюць...

Я ў х і м  С т р ы г у н. Без цябе ж там не абыдзецца, ты кажаш.

Я к у б  Я к у б о ў с к і. А цяпер за дурняў расплачвайся. Ну, Пацієўскаму далі дыхту добрага, ну дык гэтаму варт. Гэта класавы вораг. А мяне за што пад суд аддалі? Гэта ўсё з Пацієўскага свет гарэў... Што я ў калгас не хачу, ці што?

Я ў х і м  С т р ы г у н. Ды ты ўсюды хочаш. Без цябе, як той казаў, нічога нідзе не абыдзецца. Збіваць людзей з толку ты майстар.

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Каго я збіваў?!

Я ў х і м  С т р ы г у н. А хоць бы і мяне. Мала ты мне папашаптаў, што калгас — гэта паншчына?

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Дык нашто ты слухаў?! Я не вінават, што ты дурань. Пры чым тут я.

Я ў х і м  С т р ы г у н. А што ж, я тут пры чым?

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Ну дык і не я ж! Ідзі ў Агрэставічы, пашукай вінаватага.

Я ў х і м  С т р ы г у н. Чаму гэта ў Агрэставічы?

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Там жа ў чатырох гаспадароў свінні, як горы, за платамі ляжаць. Стань над імі ды ный. *(Перадражнівае.)* А божа мой, што гэта будзе... А божа мой!..

Я ў х і м  С т р ы г у н. От папакруціш хвастом тады, калі ў адседку пасадзяць.

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Жывучы сярод гэтакіх дурняў, папасціся не штука.

Я ў х і м  С т р ы г у н. А-а-а, папасціся не штука! Ты хочаш, каб цераз цябе адно ўсё іншыя пападаліся. А ты ўсё каб як у бога за пазухаю быў. Разумны, падла. Эйш, галава!

Я к у б  Я к у б о ў с к і. Якая б там мая галава ні была, а ўсё ж я сваё галавы на тваю не прамяняю.

Я ў х і м С т р ы г у н. Галава-то твая разумная, але дурань яе носіць.

Я к у б Я к у б о ў с к і. Што, што?

Я ў х і м С т р ы г у н *(павышае голас)*. Галава-то твая разумная, але дурань яе на сваіх плячах носіць. Дурню яна папалася.

Якуб Якубоўскі плюе і адварочваецца. Ідзе Р а м а н П е с е н ь к а.

Я к у б Я к у б о ў с к і. Хадзі сюды, Раман, пасядзі.

Р а м а н П е с е н ь к а. Можа ты яшчэ дзе сядзеш, дык і я павінен з табою? Не. Сядзі адзін. *(Падыходзіць да Яўхіма Стрыгуна.)*

Р а м а н П е с е н ь к а. Граюць. Капэлу сваю зрабілі.

Я ў х і м С т р ы г у н. Але. Дзіва што зробяць. Зробяць.

Я к у б Я к у б о ў с к і *(кпліва)*. Верыць пачаў? Уверыў?! Уверыў, значыцца.

Я ў х і м С т р ы г у н. Голас нешта ў вас, пане Якубоўскі, стаў, як тандэтная кілбаса. Вялы нейкі і глухі.

Я к у б Я к у б о ў с к і. Як тандэтная кілбаса? Гэ! Ведаеш ты тандэтную і не тандэтную кілбасу.

Я ў х і м С т р ы г у н. Ты адзін усё ведаеш!

Я к у б Я к у б о ў с к і. Ну што ты ведаеш? Дзе ты быў? І што ты бачыў?! Прасядзеў увесь век свой узапечку, баючыся носа на людзі выткнуць.

Я ў х і м С т р ы г у н. І цябе слухаў.

Я к у б Я к у б о ў с к і. Ну і мяне слухаў!

Я ў х і м С т р ы г у н. А ты ўсё збіваў з толку. Рад!

Я к у б Я к у б о ў с к і. Цябе не было з чаго і збіваць. Дзе той калі ў цябе толк быў? Хто яго бачыў?

Раман Песенька раптам падыходзіць да Якуба Якубоўскага.

Р а м а н П е с е н ь к а. Колькі ты яшчэ дзён тут будзеш сядзець, пакуль цябе прыбяруць зусім адгэтуль?

Я к у б Я к у б о ў с к і. Чаго ты, чаго ты, Раман!

Р а м а н П е с е н ь к а. Я ў цябе пытаю.

Я к у б Я к у б о ў с к і. Не, ты скажы, чаго ты? Што я табе зрабіў?

Р а м а н П е с е н ь к а. Я цябе зараз вазьму за каўнер, панясу на мост і шпурну з размаху ў вір галавою. І ніякага граху не будзе. Скула ты! Скула пад бокам сядзіць!

Я к у б Я к у б о ў с к і. Ты мне скажы, чаго ты?

Р а м а н П е с е н ь к а. Я ведаю чаго.

Я к у б Я к у б о ў с к і. Ну дык скажы, калі ведаеш.

Р а м а н П е с е н ь к а. Ты ўвык усё на лягчэйшым

хлебе сядзець, людзей у лапці абуваць. А трасцы! А трасцы!

Адыходзіць. Якуб Якубоўскі пайшоў у хату. Раман Песенька гаворыць, стаўшы пасярод вуліцы.

Раман Песенька. Гэта адна кампанія. Усе гэтыя Якубоўскія, усе гэтыя Пацієўскія... А ты, як чорная мурашка, увесь век у гразі, сарочка тая на табе, як засланка... А трасцы, а трасцы!..

Ладымер *(ідзе з-пад аборы)*. Ты гэта, Раман, ці не ты? Нешта я цябе не пазнаю.

Яўхім Стрыгун. Чаму ты яго не пазнаеш?

Ладымер. Не пазнаю. Не даю веры, што гэта Раман Песенька гаворыць. Ты ж увесь, Раман, не той, што раней быў. На табе валасы іншыя параслі.

Яўхім Стрыгун. У вас усё гэтак гладка пайшло. Вы ж чорт ведае чаго нарабілі! За ўвесь гэты час.

Ладымер. Нічога, Раман, усё наша будзе пры нас. Тут мы за гаспадароў самі. Гляджу я адно і думаю. Памятаю, як Сымон Мікуць у той дажджысты дзень у калгас прыехаў быў конна. Дождж лье, а ён прэ! Прыйшоў да вас, кажа. А ты следам за ім прыйшоў глядзець. Колькі ўжо часу прайшло ад таго?

Яўхім Стрыгун. Ды ўжо такі парадкам часу прайшло.

Ладымер. Мы і з поля, збольшага, можна сказаць, прыбралі. І стайню і абору мы сабе скончылі. На той год новае што можна будзе пачынаць будаваць. Пастараліся мы. Я і сам, сказаць... Такі не пастараўшыся, дык нічога і не будзе. Я табе, Раман, скажу... Слухаю я цябе і сам сабе не веру... Ну, што ў цябе ў хаце робіцца?..

Раман Песенька. Нічога, добра.

Ладымер. У твае Галены залатыя рукі. А Тэкля? Што гэта за жанчына! Я гэта заўсёды казаў. Каля нас навокал ясната, золата, а мы — ат, што ўбіў, то ўехаў. Папрывыкалі. Я сам табе скажу. Бывала, як мы раслі. Як я малы рос, і як цяпер малыя растуць? Але ж не на нас толькі свет канчаецца. Я чуў, як табе Якуб Якубоўскі ўпікаў, што ты нідзе не быў. Гэтая гадзіна праўду казала. Дзе мы былі і што мы бачылі? Я на старасць угледзеў усё гэта. Але не на тваю карысць усё гэта казаў Якуб Якубоўскі. Ён-то табе кажа, а сам думае... Каб з яго галавы ўжо нечага гэтыя думкі ветрам выдзьмула! Ого, ён табе думае!..

Ідзе Ёсель.

Ёсель. Ну як, Ладымерка, скончыў?

Ладымер. Скончыў. Колькі там чаго было.

Ёсель. А хлопцы граюць. Весяляцца хлопцы. Рапяціцу робяць... Ну, што ж мы заўтра будзем рабіць?

Ладымер. Бывала заспявае над нашым дзіцём маці, дык вушы заткнуў бы ды ўцякаў бы, каб не чуць... каб не бачыць...

Шум. Ідзе колькі чалавек. Ідзе Тэкля і Галена. Тэкля падыходзіць да Рамана, і трымаюцца яны разам. Міхалючок перад сабою нясе вывешваць насценную газету. Натоўп ідзе за ім. Якуб Якубоўскі выткнуўся быў з сяней, убачыў Міхалючка і шмаргануў назад. Міхалючок паставіў газету перад сабою на зямлю, прыпёр да сябе, зарагатаў, загаварыў:

— Але ж шмаргануў!

Голас. Хто?

Міхалючок. Якубоўскі, адно як убачыў мяне.

Ладымер. На чорта гэты лямант на ўвесь свет! Рабі, што маеш, ціха!

Міхалючок падыходзіць да новае аборы і прыбівае да сцяны насценную газету. Збіраецца вялікі натоўп. Чытаюць. Гавораць.

Галасы:

— За прыліў у калгас, пішуць, і за ўзмацненне калгаса.

— Ты не кажы пра што пішуць, а чытай.

— Пішуць, што інжынеры прыязджаюць неўзабаве.

— Чаго?

— Калі?

— Ды от зараз павінны прыехаць.

— Апланоўваць усю мясцовасць. Тут жа будавацца ўсяго будзе — страшэнная моц колькі! Школы, тэхнікумы, больніцы, амбулаторыі, пошты, народныя дамы, бібліятэкі, дамы пад кватэры...

Падыходзіць Костусь. Ён стаіць крыху наводдалек. Да яго падыходзіць Раман.

Раман. Костусь! Таварыш Костусь! Я папытацца прыйшоў. Калі ў калгас хто хоча, дык куды яму, каму і як заяву падаваць, ці як гэта?

Костусь. А за каго вы гаворыце?

Раман. За сябе.

Падыходзяць да іх Галена і Тэкля.

Галена. Добра, тата, добра.

Падыходзіць Яўхім Стрыгун.

Я ў х і м  С т р ы г у н. То хіба ўжо і мяне ўпісвайце. Я таксама падаюся, што бог ні дасць.

Бяжыць Н а с т а с я.

Н а с т а с я. Што робіцца! Каморнікаў нейкіх ці ніжаняроў панаязджала. Страшэнная моц! Іду гэта я паўззагуменню, аж бачу...

Г о л а с. А колькі іх?

Н а с т а с я. Я двух бачыла.

Рогат.

Г о л а с. Дзе ж яны?

Н а с т а с я. Сюды, мусіць, ідуць. Нейкую жоўтую трыножку нясуць пры сабе. Прыпас нейкі: а што яны гэтым прыпасам будуць рабіць, аднаму богу вядома.

Г о л а с. Няўжо і вам, цётка, невядома?

Н а с т а с я. Не.

Рогат.

Г а л а с ы:

— Учора планавалі яны месца пад забудову нейкага льнаводнага тэхнікума.

— Дзе? У нас?

— Не, у мястэчку, каля нас.

— А ў нас што?

— А пазаўчора на Агрэстаўскім балоце былі. Тычак панатыкалі, паляў панаганялі.

— Я чуў, што чыгунку будуць рабіць і электрастанцыю таксама будаваць.

Костусь становіцца на нескарыстаныя рэшткі будаўнічага матэрыялу каля аборы. Паднімае руку. Натоўп заціхае. У гэты час па адным падыходзяць са сваімі інструментамі музыкі — калгасная капэла ў поўным складзе. Яны хаваюцца недзе наперадзе натоўпу, так што толькі дзе-нідзе льга заўважыць музыку з інструментам.

К о с т у с ь. Таварышы! Мы скончылі добра прыборку з поля збажыны. Мы, як ударнікі, працавалі з гонарам. Мы аддалі ўсе клопаты свае на ўзмацненне калгаса. Мы выраслі ў новай працы. Гэтая праца нам — справа гонару. Зменьваемся, каб жыць па-чалавечы, не толькі мы. Зменьваецца ўся мясцовасць. Да нас прыехалі інжынеры. На Агрэстаўскім балоце будзе будавацца вялікая электрастанцыя. Яна дасць святло і рухавую сілу нашым тутэйшым калгасам і саўгасам. Праца наша лягчэць будзе ад машын, ад электрычнасці. У нас жа, у гэтай спрадвеч-

най глушы, будавацца будуць школы, электрастанцыі... Няма больш глушы...

У часе яго прамовы з'яўляюцца інжынеры і рабочыя. Яны з інструментамі. Як толькі яны падыходзяць да натоўпу, гранула капэла. Спачатку толькі музыка, пасля, у адзін момант, да музыкі далучыўся хор людскіх галасоў. Натоўп і капэла выконваюць гімн калгасніка.

*Заслона*

# БАЦЬКАЎШЧЫНА

*Драма ў чатырох дзеях, сямі карцінах*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Леапольд Гушка.
Адась Гушка (яго сын).
Марылька (яго дачка).
Жонка Леапольда Гушкі.
Евель Цывін.
Павал Няміра.
Кастусь Суравец.
Міхал Такарчук.
Сымон Рапецька.
Ульяна.
Сурвіла.
Мазавецкі.
Першы мешчанчук.
Другі мешчанчук.
Паліцэйскі прыстаў.
Пан Ётка.
Уладыслаў Ётка (яго сын).
Барадаты салдат.
Сяляне, сялянкі, хлопцы, дзяўчаты, гандляры, музыканты, салдаты, паліцэйскія, рабочы.

## ПЕРШАЯ ДЗЕЯ

*За гадоў паўтара да імперыялістычнай вайны. Глухі гарадок на заходніх абшарах Рускай імперыі. Рыначны пляц у кірмашны дзень. Паверх дахаў узвышаюцца царква і касцёл. Направа, бліжэй, канцылярыя прыстава з шыльдай, двухгаловым імперскім арлом і паліцэйскай будкай ля ўвахода. Налева, насупраць канцылярыі, трухлявая даміна з шыльдай «Тракцір». Проста перад гледачом пляц упіраецца ў паўкруг дробных крам, увешаных замест шыльдаў узорамі тавараў: палова хамута, каса, чыгун, зашмальцаваная падушка, бочачка ад дзёгцю. З балкона свае канцылярыі прыстаў вялікасным позіркам акідае рынак, на якім не сціхае кірмашны гармідар.* Натоўп *залівае пляц. Звоняць касцёльны і царкоўны званы. На зямлі сядзіць гурт жабракоў з лірамі — сляпыя, крывыя, бязногія, так сабе бяздольныя людзі.*

Старэчы хор.

Матка божа глянула
На галодных сіратак:
Былі яны голыя,
Босыя, галодныя.
Матка божа сумелася,
Небаракам-сіраткам
Колькі трэба хлеба
З неба спусціла.

Гандлярка *(высаджваецца з крамы)*. Чалавек, колькі просіш за палатно?

Кастусь Суравец *(падыходзіць з палатном)*. А колькі дасі?

Гандлярка. А колькі просіш?

Кастусь Суравец. Мая цана — як аддаць.

Гандлярка. Каб мой вораг гэтулькі здароўя меў, колькі я хачу з твайго палатна нажыцца.

Кастусь Суравец. Лепш бы маё дзіця з гэтага палатна кашулю знасіла, дык не, на зямлю грошы патрэбны.

Гандлярка. Пакажы сюды.

Кастусь Суравец. Паказаць можна. *(Уваходзіць у краму.)*

Гандляр *(з другой крамы).* Мыла, газа, гусіны пух!

Сымон Рапецька *(выходзіць з гэтай самай крамы).* Гэта здзірства! За бутэльку дзёгцю на раз боты вымазаць ты скуру дзярэш!

Гандляр *(высоўваецца з крамы).* Дзёгаць — як масла!

Сымон Рапецька. Каб ты гэтае масла сам з'еў! *(Пайшоў.)*

Гандляр *(яму наўздагон).* Каб я так у бога здароўя не прасіў, колькі я з цябе лішняе прашу... Мо́жа цыбулю маеш на продаж?.. *(Крычыць.)* Мыла, газа, гусіны пух!..

Старэчы голас. За яснымі свячамі, за божымі імшамі, за галоснымі званамі, пры царквах, пры намастырах!..

Старэчы хор. Колькі трэба хлеба з неба спусціла.

Старэчы голас. Пакрый, божа, зямлю травою, мора вадою, рыбу лускою, неба зоркамі, а чалавека шчасцем.

Старэчы хор. Божа, акрасы штодня людзям і нам!

Адась Гушка ідзе з Ульянаю.

Адась Гушка. Дык і твой бацька надумаўся зямлі купіць? Дзе ж ён грошай возьме?

Ульяна. У таты было пяцьдзесят рублёў майго пасагу. А цяпер гэты пасаг на куплю зямлі ідзе. Можа ты мяне браць цяпер не захочаш?

Адась Гушка. Няўжо ты думаеш, што мне твой пасаг патрэбен?

Ульяна. Я ведаю, што ты не з-за пасагу мяне хочаш браць. Але каб спачатку было з чаго абжыцца. Ты так мала на гэтай фабрыцы зарабляеш.

Адась Гушка *(развёўшы рукамі, сумна).* Больш не плацяць.

Ульяна. Дык ты мяне без пасагу возьмеш?

Адась Гушка смяецца, трасе яе рукой за плячо. Пайшлі абое. Ідзе Павал Няміра з Марылькаю.

Павал Няміра. На сваёй зямлі чалавек заўсёды сам сабе пан.

Марылька. Павал! Тата на зямлю ўсё маё адзенне сёння прадасць. Ты мяне без пасагу возьмеш?

Павал Няміра. Няхай бацька твайго пасагу не чапае. Бачыш... я з сваім бацькам таксама хочам зямлі купіць.

Марылька. Не ведаю. Хіба можа вяселле адкласці?

Пайшлі. Насустрач Евель Цывін.

Цывін. Марылька, брата твайго тут няма?

Марылька. Добры дзень, дзядзька Евель... Адась недзе тут, яны павінны з бацькам убачыцца.

Цывін. А бацька таксама тут?

Марылька. Адзежу прадаваць будзе.

Цывін. Адзежу? Чаму?

Павал Няміра *(каб адчапіцца)*. Адась там! *(Паказвае рукой.)* З дзеўкай пайшоў.

Пайшлі з Марылькай. Цывін пайшоў у той бок, куды пайшоў Адась з Ульянай і куды паказаў Павал Няміра. Ідуць Сымон Рапецька, Кастусь Суравец і Міхал Такарчук. Яны канчаюць раней пачатую гаворку. За імі натоўп сялян.

Кастусь Суравец. Ах! Абы бог даў здароўя і сілы, а век чалавечы доўгі. Перагаруецца, тады зямля будзе свая.

Міхал Такарчук. А дзе грошай узяць? Дарэмна зямлі ніхто не дасць.

Сымон Рапецька. Сурвіла купляе ў пана агулам, а людзям будзе па кавалку перапрадаваць, на выплату, пакрысе.

Міхал Такарчук. І проціанты будзе дзерці.

Сымон Рапецька. Што ж яму быў бы за інтэрас, каб без процантаў.

Міхал Такарчук. Гэта трэба мець адвагу — без капейкі пры душы лезці ў такую справу.

Сымон Рапецька. Хто баіцца, то наб'юць і надрыжыцца. Трэба адважыцца, смеласці набрацца. Унь — я. Пазычаю грошы пад проценты і зямлю купляю. Ты глядзі на мяне!

Міхал Такарчук. Зайздрошчу, што ў цябе такая смелая натура. А я не магу адважыцца.

Сымон Рапецька. Патрыся паміж людзей, паглядзі, набярыся смеласці.

Міхал Такарчук. Не магу.

Кастусь Суравец. Унь гэты Леапольд Гушка, што ў гэтага самага пана Ёткі за парабка быў. Нашто ўжо, здаецца, бедны, нават хаты свае не мае, а і то...

М і х а л  Т а к а р ч у к. Што?

К а с т у с ь  С у р а в е ц. І ён зямлю купляе.

Г а л а с ы *(з натоўпу)*. Ён жа як стаіць!

М і х а л  Т а к а р ч у к. За што ж ён купіць?

С ы м о н  Р а п е ц ь к а. Праз Сурвілу. Казаў, што прадасць усё. Апошнюю кашулю, казаў, зніму. Гэтакі свайго дойдзе.

К а с т у с ь  С у р а в е ц. Ён практык!

М і х а л  Т а к а р ч у к. Што яму за карысць з тае практыкі. Практыка практыкаю, а жыве, як жабрак.

К а с т у с ь  С у р а в е ц. А што ты ад яго хочаш! Ён жа не тутэйшы. Тут бацькаўшчыны ніколі не меў і не мае. Бацька ж яму нічога ў спадчыну не пакінуў — ні хаткі, ні градкі. Сам ледзьве пражыў на свеце. І яшчэ рад быў, што з-пад шыбеніцы галаву ўратаваў.

Г а л а с ы *(з натоўпу)*. З-пад шыбеніцы?

К а с т у с ь  С у р а в е ц. А ты што думаў? Ён жа не тутэйшы быў. Сам Леапольд не раз мне пра свайго бацьку расказваў. З нейкай там, за светам, к чорту, Сілезіі. Ён быў ткач, гэты самы Леапольдаў бацька. Там, кажа, ткачоў тады многа было, і захадзіліся яны рэвалюцыю рабіць. Так узняліся, што ўсё трашчала і гуло. Ну і ён там нейкім завадатарам быў. А пасля паны зноў сілу ўзялі і як далі — дык ён ужо з астрога ратаваўся і аж тут апынуўся.

Г а л а с ы *(з натоўпу)*. Якраз як у нас, калі была вайна з японцамі.

М і х а л  Т а к а р ч у к. Усюды на свеце роўна ідзецца.

П а л і ц э й с к і я з'яўляюцца ў натоўпе.

П а л і ц э й с к і. Сабраліся на самым праходзе! Разыдзіся, а то свісток дам!

Н а т о ў п разыходзіцца. Е в е л ь  Ц ы в і н і А д а с ь  Г у ш к а ідуць з глыбіні сцэны, ціха гаворачы.

А д а с ь  Г у ш к а. Усе кідаюцца зямлю купляць. Іншы дык апошнюю кашулю з сябе знімае. У даўгі лезе. Пакуль да тае зямлі, дык гора набярэцца.

Ц ы в і н *(азіраецца, гаворыць ціха)*. Трэба, каб яны ўспомнілі, як у дзевяцьсот пятым годзе зямлю без грошай у паноў бралі. Не ўдалося раз, то ўдасца другі раз.

А д а с ь  Г у ш к а. Я тыя пракламацыі пераправіў у маёнткі.

Ц ы в і н. А рэшту дзе-небудзь паміж вазамі парассоўвай. А я тым часам пайду ў карчму, паміж людзей патруся.

Адась Гушка. Добра.

Цывін. А тады да мяне ў карчму падыдзеш. Я там буду цябе чакаць.

Падбягае Ульяна.

Ульяна. Ты ўсё ад мяне, Адаська, уцякаеш.

Адась Гушка *(вінавата глядзіць на Цывіна)*. Гэта... Ульянка... Мы з ёю згаварыліся пажаніцца. *(Смяецца.)*

Цывін. Ну што ж... Пакуль малады, то ў такіх справах марудзіць не трэба.

Ульяна *(ажывіўшыся)*. Адась усё адкладваў.

Цывін. Кажуць, што адклад не ідзе ў лад. *(Пайшоў у тракцір.)*

Адась Гушка. Ульянка, я цябе папрашу... Ідзі... там сярод людзей пашукай майго бацькі.

Ульяна. Я іх бачыла. І Марылька там.

Адась Гушка. Скажы ім, што я зараз да іх падыду.

Ульяна. Хадзем разам.

Адась Гушка. У мяне яшчэ справы... Я скора. Ах, якая ты!.. Я праз паўгадзіны...

Ульяна нехаця пайшла. Адась накіраваўся ў другі бок. Натоўп зноў збіраецца. Моцна спяваюць старцы. Ідзе пан Ётка з сынам Уладыславам. Уладыслаў Ётка ў форме афіцэра рускай службы. Стары Ётка абмахваецца ад гарачыні хустачкай, расшпільвае пыльнік.

Ётка *(да лакея)*. Знімі пыльнік.

Лакей пачаў раздзяваць пана. Раптам падскочылі два мешчанчукі, адапхнулі лакея і раздзелі пана. Пан кінуў ім рубель. Уладыслаў Ётка смяецца.

Першы мешчанчук *(адбегшыся)*. Цяпер піва смальнуць!

Другі мешчанчук. Пачакай, можа яшчэ каго бог пашле.

Насустрач Ётку дробным трухам бяжыць Мазавецкі. Кідаецца цалаваць Ётку ў руку.

Мазавецкі. Дзень добры, вяльможны пане!

Ётка. Дзень добры, Мазавецкі. Што скажаш?

Мазавецкі. Я, вяльможны пане, дачуўся, што робіце ласку прадаваць зямлю.

Ётка. А які інтэрас маеш?

Мазавецкі. Я, вяльможны пане, хачу купіць.

Ётка. Не купіш.

Мазавецкі. Няхай пан будзе ласкавы сказаць чаму. *(Ётка не адказаў і пайшоў.)* Няхай панічок будзе ласкавы сказаць чаму?

Уладыслаў Ётка. Ураздроб зямля не прадаецца. Згуртоўвай людзей на ўсю куплю зараз.

Мазавецкі. Я дазнаўся, што ваша ласка зрабіла ласку дагаварыцца наконт гэтага з Сурвілам.

Уладыслаў Ётка. Прыставай у хаўрус да Сурвілы. *(Пайшоў.)*

Мешчанчук *(падбягае да Мазавецкага)*. З вас, пане Мазавецкі, на піва.

Мазавецкі. На піва? За якую ласку?

Мешчанчук. За тую ласку, з якой пан меў ласку гаварыць з вашай ласкай. Хі-хі-хі! Каб не мы яго так спрытна раздзелі, то ён не быў бы ў такім гуморы і не падпусціў бы вашу ласку на вочы да свае ласкі. Хі-хі-хі!

Мазавецкі. А-а-а, разумненькі які! Ідзі зарабі, калі піва захацеў!

Мешчанчук. Жмінда шляхечая! Чалавеку на піва шкадуеш!

Мазавецкі. Цьфу! Цьфу! Смурод! Паскудства! *(Пабег. Далёка ў натоўпе заўважыў Сурвілу, махае к сабе рукой.)* Пане Сурвіла, а божа мой, пане Сурвіла!

Сурвіла падыходзіць. Ён нясе дзежачку з мёдам і мяшок з кілбасамі. Кладзе ўсё гэта на зямлю.

Сурвіла. Га?!

Мазавецкі. А божа мой, божа, тут кожны дурны галетнік забагацеў бы.

Сурвіла. Дзе гэта?

Мазавецкі. А от што пан зямлю прадае. Ураздроб не хоча, дык трэба добрым гаспадарам згуртавацца і адкупіць, а тады...

Сурвіла. Ну, дык што тады?

Мазавецкі. Ну і гарачыня сёння! Пячэ, пане мой, як агнём смаліць. А пылу, пылу...

Сурвіла. Праўда, пыл.

Мазавецкі. Жакетка на вас, пане Сурвіла, уся ў пыле. Гэта дзе-небудзь, стаўшы ля воза, абабіць пугаўём, выпыліць.

КУЗЬМА ЧОРНЫ

БАЦЬКАЎШЧЫНА

П'ЕСА
З ТРОХ
АКТАЎ

ЛІМ. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі

Вокладка п'есы «Бацькаўшчына».

Сурвіла. Я ведаю, што вы хочаце сказаць. Ну, давайце разам. Тады мы адразу паўмаёнтка зямлі і шарахнем.

Мазавецкі. Дзіва, што шарахнем, а божа мой! І тады будзем па кавалку прадаваць гэтым вясковым галетнікам.

Сурвіла. Я тады з вёскі на адлегласць выберуся.

Мазавецкі. Гэтаксама і я... Ах, мне ў гэтай справе чалавек патрэбен будзе.

Сурвіла. Які чалавек?

Мазавецкі. Не парабак, не. Але каб памог ён будавацца, абгароджвацца, абсталёўвацца... Ён можа і ніяк задатку не даваць, тады ён будзе як сем'янін свой. А пасля грошыкі выплаціць і праз колькі год дзесяцін дзве няхай сабе бярэ.

Сурвіла. Гаварылі з кім?

Мазавецкі. Тут ёсць адзін. Яго пан Ётка нядаўна з парабкоўства прагнаў, дык яму цяпер няма дзе дзецца. Ён не расійскі падданы, ён слянзак. А Сілезія тая нейкая — у Германіі. От ён і ёсць германскі падданы. А раз тут падданства не мае, дык ён тут і не мае права мець свае зямлі.

Сурвіла. Вы гаворыце пра Леапольда Гушку?

Мазавецкі. Ён самы... Ён. Ён.

Сурвіла. Дык ён ужо са мною ў хаўрусе.

Мазавецкі. А-а-а, не ведаў я...

Сурвіла. Я сам узяўся выклапатаць яму падданства. І сёння ён мне павінен даць пяцьдзесят рублёў задатку.

Мазавецкі. Пане Сурвіла... Пане Сурвіла... А божа мой, божа мой, пераступіце мне гэтага чалавека.

Сурвіла. Вы гаворыце як малое дзіця. *(Рагоча.)*

Навокал Сурвілы і Мазавецкага збіраецца натоўп. З-за крам паказваецца Леапольд Гушка.

Мазавецкі *(яшчэ зводдаля паказвае кудысьці за натоўп на Гушку)*. Унь і сам Гушка. А божа мой, божа, такі зручны быў бы чалавек.

Леапольд Гушка прабіваецца праз натоўп. Ён нясе за плячыма звязак усялякіх рэчаў. Відны боты, адзежа. Ён павольна, задыхаўшыся, спыняецца, азіраецца. За ім ідзе Марылька, жонка і Ульяна. Ён кладзе звязак на зямлю. Яго абкружае натоўп. У натоўпе Сымон Рапецька, Кастусь Суравец і Міхал Такарчук.

Г о л а с *(з натоўпу).* Што гэта, чалавеча, гэтулькі дабра прадаваць?

Д р у г і г о л а с. Можа выязджае куды чалавек?

К а с т у с ь С у р а в е ц. Гэта ж Леапольд Гушка. Мусіць, на зямлю гэта?

Л е а п о л ь д Г у ш к а. Зямлю купляю! *(Голас у яго моцны, гучны. Ён як сказаў, усе на момант прыціхлі.)* Зямлю купляю! *(Твар яго дыхае яснотамі.)* Я падумаў сабе — пара працавітаму чалавеку падацца на чалавечую дарогу.

Г а л а с ы. Пара, пара. Даўно пара.

Л е а п о л ь д Г у ш к а. Я падумаў сабе: з чаго чалавек не жыве, а гніе? З таго чалавек не жыве, а гніе, што ён уласнасці не мае. Май ты хоць які талент у руках, але калі табе на што ўласнае няма апаберціся, тады ты нуль.

Г а л а с ы. Нуль!

К а с т у с ь С у р а в е ц. Гэта праўда.

Л е а п о л ь д Г у ш к а. Я падумаў сабе: бацька мой, сілезскі ткач, перадаў мне ў спадчыну сваё радавітае парабкоўства. І парабкаваў я на панскім полі не кепска, пакуль мне пан воўчага білета не даў. Дык мне — во! *(Праводзіць пальцам сабе па горле.)* Хоць у вір галавою кідайся! А чалавек хіба на тое родзіцца на свет, каб у вір галавою кідацца? Чалавек родзіцца на тое, каб жыць. А жыць...

К а с т у с ь С у р а в е ц. А жыць — гэта не ў каравых анучах гніць.

Л е а п о л ь д Г у ш к а. Дык чалавеку жыць трэба. А як жыць, калі бацька мой нічога не меў, апроч дзвюх сваіх рук, і з-пад шыбеніцы галаву ратаваў. Я нічога не маю і думаю — ці не ў вір галавою мне кідацца?.. Я галодны пасяджу, а свае зямлі крыху агораю. Мне многа не трэба. Але каб гэтая зямля была мая. Каб ніякі чорт не меў права сказаць мне: вось табе воўчы білет, і ідзі ты, чалавеча, у вір галавою кідайся.

Ж о н к а *(галосіць).* Усё да апошняй ніткі пайшло на гэтую зямлю. Нават пад галаву нанач падкласці няма чаго.

М а р ы л ь к а. Тата!.. Ну, тата!

М і х а л Т а к а р ч у к. Іншаму бог даў такую адважную натуру. А я з сваёй натурай так і прападу, яна ў мяне, як гнілая салома. Не адважуся садраць з сябе апошняе кашулі.

Леапольд Гушка. Знайшоўся добры чалавек, вясковы каваль. Прадаў мне напавер сваю старую кузню. Я ж яму за год пакрысе гэтыя чатыры рублі выплачу. І з гэтай кузні я пастаўлю сабе якую-небудзь хаціну.

Марылька. Якая тая хата з кузні будзе!

Сымон Рапецька. Ён праўду кажа.

Міхал Такарчук. Яшчэ не ўгадана, можа прапасці чалавек.

Сурвіла. Дык што, зямлі купляць не трэба?

Галасы. Я купляю!

Падыходзіць перакупшчык.

Перакупшчык *(да Леапольда Гушкі)*. Ну, усё прынёс, што казаў?

Леапольд Гушка. Глядзі. *(Развязвае клунак, перакупшчык перакладае рэчы.)*

Перакупшчык. Боты, футэрка, маем святочныя штаны, жаночы каптан, дзявочая сукенка... Дзве прасціradлы, маем... яшчэ адны штаны... Ну, гэта дрэнь. Паўрубля трэба скінуць.

Галасы. Ніякага паўрубля скідаць не трэба.

Перакупшчык. Гэта не штаны, а парахня.

Кастусь Суравец. Сам ты парахня.

Перакупшчык. Ну, усё. От табе твае сорак шэсць рублёў за ўсё гэта і за тую бравэрку і падушкі, што я забраў учора. *(Дае грошы.)*

Сурвіла. А ну, накінь яшчэ чатыры рублі да паўсотні.

Перакупшчык. Пане Сурвіла, такое ўмовы не было. *(Звязвае рэчы і адыходзіць.)*

Сурвіла. Яму патрэбна даць мне задатак на зямлю. Якраз пяцьдзесят рублёў.

Леапольд Гушка. От вам, пане Сурвіла, гэтыя сорак шэсць рублёў.

Сурвіла. Менш як пяцьдзесят я не вазьму.

Леапольд Гушка. Ну можа я вам праз колькі дзён гэтыя чатыры рублі дзе-небудзь дастану.

Сурвіла. Нічога не будзе. *(Хоча ісці.)*

Леапольд Гушка. Эй, ты, перакупшчык, пачакай!

Перакупшчык падыходзіць. Леапольд Гушка скідае з ног боты і кідае перакупшчыку.

П е р а к у п ш ч ы к. Гэтыя боты трэба на сметнік выкінуць.

Леапольд Гушка скідае пінжак і кідае перакупшчыку.

П е р а к у п ш ч ы к. Спінжачок лепшы, але да чатырох рублёў мала.

Леапольд Гушка скідае камізэльку і шапку і кідае перакупшчыку. Гушкава жонка аж заенчыла з плачу.

Н а т о ў п. Божа мой, што гэты чалавек робіць?!

М і х а л Т а к а р ч у к. Што ты робіш, чалавеча, іншай рады ў цябе няма, ці што?

К а с т у с ь С у р а в е ц. Ты, перакупшчык, за боты, спінжак, камізэльку і шапку не чатыры, а дзесяць рублёў трэба.

П е р а к у п ш ч ы к. Скажы — дваццаць!

К а с т у с ь С у р а в е ц *(да Сурвілы)*. Не можаш ты чатырох рублёў чалавеку паверыць? Гад ты, а не чалавек!

С у р в і л а. Я заўтра павінен плаціць пану за зямлю!

П е р а к у п ш ч ы к. Тры рублі, больш не дам.

С у р в і л а. Дык ты больш не дажджэш тут нічога — ні купляць, ні прадаваць!

П е р а к у п ш ч ы к. Ціха! Ша! Набаўлю рубель! *(Дае Леапольду Гушку грошы.)*

С у р в і л а *(бярэ ў Леапольда Гушкі грошы)*. От так бы адразу, а то таргуецца, чортава душа!

П е р а к у п ш ч ы к. А божа мой, ці я ў яго прашуся? На чорта мне яго гэтыя транты! *(Пайшоў.)*

М е ш ч а н ч у к *(да Гушкі)*. Барыша трэба людзям паставіць, што памаглі таргавацца.

Л е а п о л ь д Г у ш к а. Барыша? Каму, за што?

С у р в і л а *(да Леапольда Гушкі)*. Цяпер прашэнне аб падданстве пішы.

Г а л а с ы *(навокал Сурвілы)*. От і мой задатак! От і мой! Можа якія распіскі будзеце даваць?

С у р в і л а. Хадзем у карчомку, там і абфармалімся.

Пайшоў у тракцір. Збоку каля яго Мазавецкі. Натоўп следам за ім. Сурвіла і Мазавецкі ўзыходзяць на тракцірны ганак, адчыняюць дзверы і зазіраюць усярэдзіну.

М а з а в е ц к і. А божа мой, божа, паўнютка народу. Як селядцы ў бочцы.

С у р в і л а. Няма дзе прытуліцца.

М а з а в е ц к і. Дайце ж рады, пане Сурвіла.

С у р в і л а. Дзе ж тут прыткнуцца, каб людзям распіскі выдаць?

Мешчанчук высоўваецца з куфлем піва з тракціра ў акно побач з дзвярыма.

М е ш ч а н ч ук. Вы гэта, пане Мазавецкі, на чужую гарэлку квапіце, ці што? Эйш які! А на піва дык пашкадаваў!

М а з а в е ц к і *(павярнуўся да мешчанчука)*. Барані божа! Няхай бог крые, не такі я чалавек! А божа мой, божа! Пане Сурвіла!

М е ш ч а н ч у к. Калі дасце адступнага на кварту гарэлкі, то я вам свой столік апаражню.

М а з а в е ц к і *(саскочыў з ганка і падбег да мешчанчука)*. Што васпан кажа, аж на цэлую кварту?

С у р в і л а *(з ганка)*. Можа на паўкварты сыдземся?

М е ш ч а н ч у к. Давайце!

С у р в і л а. Дайце там яму, Мазавецкі.

М а з а в е ц к і. А божа мой, божа, дробных няма!

М е ш ч а н ч у к. Я здачы дам.

М а з а в е ц к і. А божа мой, божа!.. *(Чухае патыліцу і раздумвае. Мешчанчук рагоча.)*

С у р в і л а *(да натоўпу)*. Колькі вас тут?

Г а л а с ы. Чалавек можа дваццаць будзе.

С у р в і л а. Па капеек дзве на кожнага прыйдзецца накінуць. Бачыце, што канцыляра была занята. Прыйшлося адступнага даваць.

Махнуў к сабе рукой і рушыў у тракцір. Натоўп — за ім, і ззаду Мазавецкі. Леапольд Гушка, які стаяў самы задні ў натоўпе, памкнуўся спачатку ісці, пасля астаўся. Марылька, Ульяна і Жонка таксама.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а *(развёўшы рукамі)*. Яшчэ ж трэба чалавека якога пашукаць, каб прашэнне напісаў аб падданстве.

М а р ы л ь к а. Няхай Адась напіша.

У л ь я н а. Ён зараз сюды прыйдзе.

Ж о н к а. Мы ж яшчэ не старыя людзі, мы яшчэ ў самым веку, каб жыць. Дык от табе — жыві, як хочаш.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Я табе кажу, што ўсё добра будзе. У мяне рукі здаровыя. Я да ўсялякай работы... А хто рабіць можа, той і жыць будзе.

Ж о н к а. Можа яшчэ на імшу паспееш... Але як жа ты пойдзеш гэтакі? Босы, раздзеты... *(Гладзіць яго па плячы.)* Нічога, бог паможа...

Ідзе А д а с ь. Убачыўшы бацьку, ён аслупянеў ад здзіўлення.

А д а с ь  Г у ш к а *(збянтэжана)*. Бацька, што з табой, дзе твая шапка, чаму ты босы?

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Зямлю купляю.

А д а с ь  Г у ш к а. І ты?

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. І я. Прадаў усё.

А д а с ь  Г у ш к а. Нават боты з ног? Шапку з галавы?

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Я цябе чакаў, каб ты мне напісаў прашэнне аб падданстве.

А д а с ь  Г у ш к а. Нашто?

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Не маючы тутэйшага падданства, я не маю права купіць тут сабе зямлі.

А д а с ь  Г у ш к а. Не купляй ты гэтае зямлі, ты яе купіць не можаш.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Парабак — гэта нявольнік. Дык не хачу больш быць за нявольніка!

А д а с ь  Г у ш к а *(азірнуўшыся)*. Нам зямлю трэба ўзяць, а не купляць!

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Мой бацька, а твой дзед браў сваё, а пасля галаву з-пад шыбеніцы ратаваў... Я нясу на сваіх плячах гэтакі цяжар, гэтакае ярмо мяне за шыю душыць!

А д а с ь  Г у ш к а. Ты яшчэ новае ярмо на сваю шыю ўсклаў!

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Сынок! Як ты не бачыш, што гэтымі словамі ты мне сэрца пераядаеш!.. Я лбом сцяну прабіваю.

П а в а л  Н я м і р а выйшаў з тракціра на ганак і слухае. Падыходзіць.

П а в а л  Н я м і р а *(да Адася)*. Адгаварваеш бацьку ад зямлі? Нашто ты гэта робіш?

А д а с ь  Г у ш к а. Павалка, я і цябе хачу адгаварыць.

П а в а л  Н я м і р а. Мяне не адгаворыш.

А д а с ь  Г у ш к а. Гэта я ведаю. Бацькі я, відаць, таксама не адгавару.

П а в а л  Н я м і р а. Ты думаеш — нехта табе гатовае з неба скіне. Чалавек, як умее, і кожны па-свойму, павінен станавіцца на ногі.

Адась Гушка. Гэтак ён на ногі ніколі не стане!

Павал Няміра. А як жа стане?! Не стараючыся? Ты бацьку з тропу збіваеш. Няма таго, каб памагчы, дык ты яшчэ на дарозе становішся.

Жонка *(да Адася з дакорам)*. Ты ўжо, мусіць, забыўся, якое гора нам жыць на свеце.

Адась Гушка. Як я магу забыцца?

Жонка. Дык што ж ты так бацьку гаворыш?

Адась Гушка. Здаецца, мае грудзі разрываюцца, калі я ўспомню пра вас.

Павал Няміра *(рагоча)*. Ай, які жаль у тваіх грудзях! Чаму ж ты такі да бацькі?

Марылька. Можа і праўда, Адася паслухаць?

Павал Няміра.<br>Жонка. } Чаму?

Марылька. Дагэтуль то хоць боты на нагах былі. А цяпер людзі пальцамі паказваць будуць. А пакуль ён адзенецца зноў, то і ўміраць пара будзе.

Леапольд Гушка. Дачушка мая, я ведаю, што я табе зрабіў бяду, што прадаў тваю адзежу. Але я адразу буду старацца, каб табе скора вярнуць гэта. Што я мог інакш зрабіць?

Марылька. Калі ў цябе пра гэта толькі клопат, то ты не бядуй аб гэтым.

Ульяна. Адась праўду заўсёды кажа... Ён заўсёды разважлівы.

Адась Гушка *(падыходзіць да Ульяны)*. Нявінная ты душа... *(Кладзе ёй руку на плячо.)*

Павал Няміра. Такая самая беспасажніца, хоць і душа...

Адась Гушка. Пасажнік! Ты глядзі сябе!

Леапольд Гушка. Можа тваё сэрца ўжо адпусцілася? Хадзем, напішы мне прашэнне аб падданстве.

Адась Гушка. Бацька, ты паслухай...

Жонка. Калі ж яму ёсць той час слухаць? Трэба зараз ісці ў канцылярыю і падаваць.

Леапольд Гушка *(злосна)*. Я знайду чужога чалавека, і ён мне напіша! *(Рушыў у тракцір. Усе за ім.)*

Адась Гушка. Бацька!.. Бацька!..

Пайшоў следам за бацькам. З глыбіні сцэны ідзе Міхал Такарчук і чытае пракламацыю, якую трымае перад вачыма. Па меры таго як ён прачытвае кожную фразу і ўдумваецца ў яе, да яго падбягаюць людзі. Пасля па адным выбягаюць з тракціра, і такім

парадкам збіраецца вялікі н а т о ў п. Натоўп аж кіпіць навокал Міхала Такарчука.

М і х а л  Т а к а р ч у к *(чытае)...* «Дамагайцеся зямлі без выкупу... Зямля павінна быць забрана ў паноў і перададзена народу... Падтрымлівайце рабочых і парабкаў, калі яны забастуюць...»

Г а л а с ы. А што ж, не праўда?

— Дзе гэта ўзялі гэты лісток?

М і х а л  Т а к а р ч у к. О, гэта дык яно! Каб гэта так, здаецца, зрабілася, як тут пішацца.

П а л і ц э й с к і. Разыдзісь! А то свісток дам!

П р ы с т а ў *(з'яўляецца ў натоўпе)*. Р-р-разыдзісь! *(Натоўп расступаецца перад ім. Ён ірве з рук Такарчука пракламацыю.)* Дзе ўзяў? Хто табе даў?

М і х а л  Т а к а р ч у к. Далібог, мне нехта на воз падкінуў. Я не ведаў, што гэта такое, і пачаў чытаць.

Прыстаў б'е Міхала Такарчука. Мешчанчук падбягае да прыстава і шэпча яму на вуха. Прыстаў паказвае паліцэйскаму на тракцір. Прыстаў з другімі паліцэйскімі падыходзіць да свае канцылярыі. Пляц пусцее. Н а р о д разыходзіцца. Прыстаў садзіцца на сваім ганку ў крэсла.

П р ы с т а ў *(да паліцэйскага)*. Ну?

П а л і ц э й с к і. Вінават, ваша высокаблагароддзе.

П р ы с т а ў. Пракламацыі па вазах раскідаюць, а вы нічога не бачыце! Што яшчэ?

П а л і ц э й с к і. Так што, ваша высокаблагароддзе, цыган хацеў кабылу затанна купіць, а мужык задорага прадаць.

П р ы с т а ў. Біліся?

П а л і ц э й с к і. Не магу знаць, так што я на другім канцы рынка за парадкам глядзеў.

П р ы с т а ў. Дурань!

П а л і ц э й с к і. Так точна!.. Кірмаш праходзіў у парадку, толькі яшчэ — сляпыя старцы біліся, калі грошы дзялілі.

П р ы с т а ў *(ажывіўшыся)*. Біліся? Як?

П а л і ц э й с к і. Пугамі секліся.

П р ы с т а ў. Чым скончылася?

П а л і ц э й с к і. Паўкварты гарэлкі на міравую выпілі.

П р ы с т а ў. Цьфу! Пайшоў вон!

Паліцэйскі стаў у будку. Першы паліцэйскі выводзіць з тракціра арыштаванага Адася Гушку. Следам выходзяць устрывожаныя Евель Цывін, Ульяна, Марылька, Леапольд Гушка і яго жонка. Адась Гушка на ганку спыняецца, быццам не хоча ісці далей.

Адась Гушка *(да паліцэйскага)*. Што гэта робіцца?

Цывін. Ужо і выпіць у тракціры няможна, ці што? Пагуляць жа, здаецца, нікому не забаронена.

Паліцэйскі. Ну дык і гуляй! Бяры от дзеўку *(паказвае на Ульяну)* і гуляй хоць да заўтрашняга дня. *(Да Адася Гушкі.)* А ты — марш!

Жонка. За што яго, божа мой?!

Леапольд Гушка. Што вы з ім робіце?!

Усе кідаюцца следам за Адасём Гушкам. Паліцэйскі выскаквае з будкі і загароджвае ўсім дарогу. Першы паліцэйскі ўводзіць Адася Гушку ў канцылярыю прыстава. Прыстаў сядзіць на ганку.

Другі паліцэйскі *(да ўсіх)*. Куды! Там і без вас абыдзецца!

Цывін пайшоў і знік у глыбіні сцэны.

Сурвіла *(выходзіць з мешчанчуком з тракціра з дзежачкай мёду і мехам кілбас. Спыняецца каля Леапольда Гушкі)*. Не бойся, твайго Адася выпусцяць, раз ён ні ў чым не вінаваты.

Леапольд Гушка. А ў чым жа ён вінават? Хіба ў тым, што жыве на свеце?

Сурвіла. Будзь смел. Папрасі яго *(паказвае на мешчанчука)*, каб напісаў прашэнне аб падданстве.

Мешчанчук. Хадзем, напішам.

Паліцэйскі. Марш адгэтуль!

Мешчанчук, Леапольд Гушка, жонка, Марылька, Ульяна — знікаюць за рогам тракціра. Сурвіла падыходзіць да прыстава. Прыстаў дае паліцэйскаму знак, і той знікае ў канцылярыі.

Сурвіла. Здрастуйця, ваша правасіяцельства!

Прыстаў. А, здрастуйця, гаспадзін Сурвіла! Якія навіны, з чым бог прынёс?

Сурвіла. З пудам кілбас і з другою дзежкаю мёду... Я ў калідор пастаўлю. *(Пайшоў у калідор прыстаўскай канцылярыі.)*

Прыстаў *(сам сабе)*. Эйш, мужлан! Не забывае сказаць, што гэта ўжо другая дзежка мёду. *(Сурвіла выходзіць з пустымі рукамі.)* Як жывяцё, гаспадзін Сурвіла?

С у р в і л а *(садзіцца каля прыстава)*. Як жывём, ваша высочаства? Жывём! Зямлю купляем. Я пра гэта і прашу міласці вашага правасхадзіцельства, каб ваша сіяцельства паспрыялі, калі дзе што якое каснецца случаем чаго... Вы сабе не можаце прадставіць, ваша благароддзе... Тут яшчэ адзін кручок зачапіўся: прашу, каб падданства даць паклапаціліся аднаму чалавеку. Зямлю са мной купляе. Я яму памагу, ён мне паможа. Рука руку мые.

П р ы с т а ў. І абедзве чыстыя.

С у р в і л а. І абедзве чыстыя. Толькі я прашу вашага вялічаства, каб з падданствам гэтым не лішне спяшаць. Год ці паўтара...

П р ы с т а ў. Панятна. Вы хочаце, каб падданства гэтае год ці паўтара паляжала ў мяне ў канцылярыі?

С у р в і л а. Сказаць праўду...

П р ы с т а ў. Как-с?

С у р в і л а. Так точна.

П р ы с т а ў. Панятна.

С у р в і л а. Свінні ў мяне, дзякуй богу, на кілбасы кормяцца; каровы ў мяне, дзякуй богу, на масла дояцца; пчолы ў мяне, дзякуй богу, на мёд рояцца; авечкі ў мяне, дзякуй богу, на мяса плодзяцца. Бог дасць здароўя — будзе і ўсё. Я такі чалавек.

П р ы с т а ў. Панятна.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а падыходзіць з прашэннем у руках.

С у р в і л а. А гэта той самы чалавек, пра якога я наконт падданства. *(Бярэ з рук Леапольда Гушкі прашэнне і перадае прыставу.)*

П р ы с т а ў. Інцярэсна... Зямлі захацеў свае?

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Але, паночку.

П р ы с т а ў. А як дагэтуль жыў?

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. За парабка быў.

П р ы с т а ў. А чаму больш не быў за парабка?

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Пан прагнаў.

П р ы с т а ў. Жыць думаеш на сваёй зямлі?

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Але, паночку. Мне абы бог даў падданства прыдбаць. Тады як-небудзь зямлю... І Адаська, бог дасць, пусцяць... Тады я гараваць больш не буду... Божа мой, божа мой...

П р ы с т а ў. Ну ідзі.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Паночку, пусціце Адася, ён не вінават, ён ніколі нікога не пакрыўдзіў...

Прыстаў. Ідзі адгэтуль!

Прыстаў пайшоў у сваю канцылярыю, Сурвіла за ім. З канцылярыі выходзіць паліцэйскі і жорстка глядзіць на Леапольда Гушку. Той нехаця адыходзіцца і знікае. Паліцэйскі становіцца ў будку. З тракціра выходзяць: Сымон Рапецька, Кастусь Суравец і Міхал Такарчук.

Міхал Такарчук. Ай-ай, што робіцца! Забралі і павялі. Добра, што хоць мы ў старане трымаліся. Яшчэ чорт даў мне гэтую пракламацыю прачытаць.

Кастусь Суравец. Няхай іх сляпых водзяць. А ў гэтай пракламацыі, сказаць праўду, між намі, праўда пішацца. Адзін, добра кажа, не ведае, дзе зямлі дзець, а другі павінен на гэтую зямлю дзяцей без кашулі пакідаць.

Сымон Рапецька. Што гэта ты гаворыш! Мала што цяжка прыходзіцца, але ж трэба, каб які-небудзь парадак быў на свеце. *(Азіраецца.)*

Кастусь Суравец. Калі жывеш як старац, то на чорта той парадак!

Сымон Рапецька. А згары ты, цераз тваю гаворку яшчэ і мяне гатовы забраць! *(Шпарка знік за рогам тракціра.)*

Міхал Такарчук. Баіцца.

Кастусь Суравец. Той не баяўся, хто гэтую пракламацыю складаў. *(Паволі сыходзяць з ганка. З'яўляецца Леапольд Гушка.)* Чаго ты, чалавеча, тут усё бродзіш?

Леапольд Гушка. Не ведаю, дзе дзецца на свеце... Свет не міл...

*Заслона*

## ДРУГАЯ ДЗЕЯ

### Першая карціна другой дзеі

Хата Леапольда Гушкі. Пустыя сцены, нізка навісла столь. Вяселле. Марылька ідзе замуж за Паўла Няміру. Вясельныя за сталом. Сярод іх Кастусь Суравец і Міхал Такарчук. Ульяна сярод моладзі. У хату ўваходзяць музыканты.

Леапольд Гушка *(да музыкантаў)*. Вы прыйшлі павесяліць нас, дык падсядайце, будзьце за сталом за гаспадароў.

Старэйшы музыкант. Наш брат дзе грае, там п'е і гуляе.

Музыканты падыходзяць да стала, выпіваюць па чарцы і адыходзяцца к сцяне, каб іграць.

Ж о н к а. Госцейкі, піце і закусвайце, чым бог даў.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Станем на ногі, на сваёй зямлі абжывемся, тады іншы пачастунак будзе... Сёння ў мяне такі дзень. Марылька, Павалка!..

Г о л а с. За здароўе маладых!

Госці п'юць. Вясёлы шум. Музыканты граюць.

М і х а л  Т а к а р ч у к *(да Кастуся Сураўца)*. Ты ўжо выплаціў Сурвілу за зямлю?

К а с т у с ь  С у р а в е ц. Дзе бачыў? Так і скачу цераз пень на калоду!

М і х а л  Т а к а р ч у к. Гэтаму Сымону Рапецьку не пашанцавала. Пазычыў тады на зямлю грошай, а цяпер грошы трэба аддаваць з працэнтамі. Дык ходзіць ды патыліцу чухае.

Ж о н к а. Людзі некаторыя павыплачвалі, зямлю забралі, а мы калі нават выплацім, дык падданства — другі год пайшоў як не прыходзіць. Не відно і не чутно — як у ваду...

К а с т у с ь  С у р а в е ц. Сурвіла клапоча перад канцылярыяй аб падданстве, дык можа ён наўмысле, каб ты яму, Леапольдзе, папарабіў? Ён з прыставам свае людзі.

М і х а л  Т а к а р ч у к. Тут справа дзяржаўная.

Ж о н к а. Хто яго ведае. А пакуль што — каторую пару́ памагаем Сурвілу забудоўвацца.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Прыйдзе падданства, быць не можа. Гадоў паўтара прайшло, гэта праўда. Другі год гарую, як ніколі, але за гэты час за паўдзесяціны ўжо выплаціў. Асталося яшчэ за паўтары. Дзве дзесяціны будзе свае зямлі! *(З ясным позіркам паварочваецца да жонкі.)* Маці, ты чуеш? Сёння ў мяне такі дзень! Марылька!.. Павалка!..

Г о л а с. За здароўе маладых!

Музыканты граюць.

Ж о н к а. Госцейкі... На мілае здароўе... *(Загаласіла.)* Мае вы людзі добрыя...

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Маці, чаго ты?

Ж о н к а. А Адась... А Адаська... У турме недзе гніе. Яму нават не суджана на Марыльчыным вяселлі пагуляць!

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Адась... Мой сын... *(Апускае галаву, маўчыць.)*

Ульяна *(падыходзіць да Леапольда Гушкі, усхваляваная).* Ходзяць чуткі, што яго неўзабаве выпусцяць. Я ўсюды слухаю, дзе пра гэта гавораць. Я нават у стражніка пыталася...

Жонка. Мала што табе стражнік скажа.

Ульяна. Ён жа нічога не вінен. Што Адась каму зрабіў? *(Плача.)* Ён такі быў добры... Я і ў Евеля Цывіна пыталася.

Леапольд Гушка *(устрапянуўшыся).* А што Цывін казаў?

Ульяна. Ён казаў, што праз нейкага знаёмага клапоціцца аб ім. Я яго сама прасіла і яшчэ буду прасіць.

Леапольд Гушка *(з горкай усмешкай абнімае Ульяну за плечы).* Ты як дачка мне...

Ульяна. Адась такі са мной быў... *(Госці смяюцца, збянтэжаная Ульяна таксама, выціраючы слёзы.)*

Леапольд Гушка. Такі ў мяне сёння дзень!

Музыканты граюць танец. Моладзь пачынае танцаваць. У часе танца ўваходзіць чалавек з кіем. У парозе зняў шапку.

Чалавек. Добры вечар у хату! *(Танец спыніўся. Усе слухаюць.)*

Леапольд Гушка. Добры вечар! Каго бог прынёс?

Чалавек. Я соцкі з воласці.

Леапольд Гушка. А з чым бог прынёс? *(Ідзе да чалавека.)*

Чалавек. Паперу з воласці вам... Ці не на вяселле я трапіў?

Леапольд Гушка бярэ ад чалавека паперу. Моўчкі разбірае. Напружаная цішыня.

Леапольд Гушка *(крычыць узнятым голасам).* Падданства!

Шум. Крык. Музыка. Шмат гасцей паднімаецца за сталом. Леапольд Гушка хапае чалавека з воласці за плечы.

Леапольд Гушка. Садзіся, чалавеча, садзіся з намі за стол! Ты мне прынёс гэтакую навіну!.. Ты сам не ведаеш, што ты мне прынёс! Маці, ты чуеш? Чалавеча, гуляй разам з намі! Я цяпер на гэтай зямлі гаспадар!

Музыканты граюць. Шумна. Весела. Леапольд Гушка садзіць поплеч сябе соцкага. Шумнае ажыўленне ўсё павялічваецца.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Жыве чалавек!.. Усё перад ім ідзе... Варушыцца чалавек на свеце... *(Раптам заспяваў.)*

Пакінем мы бяду далёка,
Зямлю і неба бачыць вока,
Вясёлы будзе дзень!
Вясёлы будзе дзень!
І ў добрых...

Паўза.

І ў добрых...

— забыўся, не памятаю, як далей...

Моладзь рагоча, гледзячы на яго.

М і х а л  Т а к а р ч у к. Што гэта, братка, за песня гэтакая?

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Бацькі мае спявалі. У Сілезіі. Ткачы. Ад бацькі я памятаю гэтую песню.

Музыканты граюць. Пачынаецца другі танец. У самы разгар танца хтосьці грукае ў дзверы. Усе прыціхлі.

А д а с ь  Г у ш к а *(у парозе)*. Добры вечар!

Ж о н к а. Адась!

Леапольд Гушка размятае рукамі ўсіх на сваёй дарозе, кідаецца да А д а с я.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Адась! Адася выпусцілі!.. Пачакай, пачакай, Адаська. Я цябе за стол так не пасаджу. Гэтакі дзень сёння! Марылька замуж ідзе, падданства прыйшло, Адась вярнуўся! Скінь з сябе, Адаська, гэтую арыштанцкую нейкую вопратку. Адзень што лепшае. Гэтакі дзень!.. Гэтакі момант!.. А што ты адзенеш? *(Кароткая паўза.)* На, адзень гэта!

Скідае з сябе пінжак, хоча ўсцягнуць на Адасёвы плечы. Жонка памагае яму.

Ж о н к а. Усю адзежу папрадалі на гэтую зямлю.

А д а с ь  Г у ш к а. Аставайся, бацька, у сваім пінжаку. Я так буду. Тут усе свае людзі. Усіх пазнаю.

К а с т у с ь  С у р а в е ц. Што тут казаць, свае людзі.

Адась абнімае за шыю бацьку, трасе яго рукі, падыходзіць да Марылькі і Паўла Няміры.

А д а с ь  Г у ш к а. Дык я на тваё вяселле трапіў, Марылька?

М а р ы л ь к а. Братачка, які ж ты стаў?!

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Гэтакі дзень!.. Гэтакі момант!..

Ульяна з самага моманту ўваходу Адася ў хату многа разоў парывалася кінуцца да яго і заўладаць усёй яго ўвагай. Але кожны раз гэтаму міжвольна перашкаджалі то Леапольд Гушка, то жонка. Цяпер Ульяна кідаецца да Адася, кладзе яму рукі на плечы і маўчыць.

Адась Гушка. Ульянка! І ты тут?

Ульяна *(быццам з крыўдай)*. Я... тут... даўно хацела... самая першая... падбегчы да цябе...

Моладзь рагоча. Ульяна стараецца прыгарнуцца да Адася, але саромеецца агульнага рогату і абмяжоўваецца тым, што праводзіць яго да стала.

Адась *(каля стала)*. Дык бачыш, Ульянка, і я вярнуўся!

Ульяна. Я ўсё прапытвала... пра цябе... *(Кладзе яму рукі на плечы, дзяўчаты рагочуць.)* Ай, якія вы... *(Збянтэжана адыходзіцца да дзяўчат.)*

Усе зноў за сталом. Адась сядзіць поплеч бацькі.

Жонка. Цябе ж, мой сын, зусім пусцілі? Ты ж з намі будзеш цяпер? Нікуды ты ад нас не пойдзеш?

Леапольд Гушка. Ты прыйшоў. А за мінуту да цябе прыйшло падданства. Ты цяпер будзеш дома. Адаська, на сваёй зямлі будзем! Нікуды я цябе ад сябе не пушчу. Мы разам на сваёй зямлі будзем! Мы за яе выплацім!

Адась Гушка. Зямля вам будзе без ніякіх выплатак. Вы на ёй робіце.

Міхал Такарчук. Хіба чуваць што?

Кастусь Суравец. Ты чуў там паміж людзей?

Леапольд Гушка. Гэтага дня я доўга чакаў! *(Устае з чаркай у руцэ. Агульнае ажыўленне.)* Гэтакі дзень!.. Гэтакі момант!.. *(Спявае.)*

Дай жа, божа, добры час
Як у людзей, так і ў нас,
І ў добрую гадзіну
Развесялім радзіну!

Яго песня канчаецца музыкай і трэцім танцам. Леапольд Гушка таксама танцуе, адзін, без пары. На двары ў гэты час нарастае нейкі шум, крыкі, плач.

Голас *(за сцэнай)*. Божа мой, што гэта будзе?

Госці кідаюцца да вокнаў.

Марылька *(прачыняе дзверы ў сенцы)*. Што там? Хто там крычыць?

Голас *(заглушае ўсё).* Вайна! Усім у салдаты ісці трэба! *(Марылька выбягае з хаты.)*

У адчыненых дзвярах рухавы натоўп. Госці з выгукамі «вайна, вайна!» пакідаюць хату.

Жонка *(стаіць як аслупянелая).* У які дзень Марылька замуж пайшла! Паўлу ж ісці трэба! *(Хапаецца раптам за галаву.)* І Адасю!

Адась выходзіць з хаты.

Леапольд Гушка. Я не тутэйшы падданы. Адась не пойдзе ваяваць за чужыну!

Жонка. Ужо ж падданыя. *(Выбягае з хаты.)*

Павал Няміра. Нашто ўсё гэтае вяселле было? Каб яшчэ бяда большая была? *(Выбягае з хаты.)*

Леапольд Гушка *(адзін).* Зямля!.. Падданства!.. Марылька замуж!.. Адась з турмы!.. За якую ваяваць бацькаўшчыну? Зямлі тутэйшае я яшчэ не каштаваў... Не трэба мне гэтае зямлі!.. Гэтакае зямлі!.. *(Стаіць як аслупянелы.)*

*Заслона перад карцінай*

## Другая карціна другой дзеі

Фронт. Куток акопа. Світае. Далёкая кананада рэжа неба чырвонымі маланкамі.

Адась Гушка, прыпёршыся да земляной акопнай сцяны, пры змрочным водбліску рассвітання, чытае пісьмо. Да яго募 стараецца прытуліцца Павал Няміра. Здалёк чуваць ціхі чалавечы енк.

Павал Няміра. Не вытрымаю, божа мой! Трэці дзень бесперапынна ён стогне. Гэта, мусіць, немец. Ляжыць паміж акопаў...

Адась Гушка. Гэта наш, ён крычаў, што ў яго патрушчаны ногі. Сціхні ты, не ный! Зараз у атаку пагоняць, тады яму хто-небудзь канцы зробіць, каб ён не мучыўся.

Павал Няміра. У атаку? Божа, выратуй мяне! Адаська, не выраблюся жывым, божа мой!..

Адась Гушка. Сціхні ты!.. *(Спакайней.)* Паслухай пісьмо з дому.

Павал Няміра. Хто піша?

Адась Гушка. Цывін, што разам са мной на фабрыцы працаваў.

П а в а л  Н я м і р а. То гэта ж не з дому!

А д а с ь  Г у ш к а. Ён пра нашых піша... *(Чытае.)* «А твая сястра Марылька асталася працаваць на фабрыцы. Яна маладзец! Я яе кожны дзень тут бачу. У яе радзіўся сын...» *(Гаворыць.)* Чуеш? У цябе сын радзіўся.

П а в а л  Н я м і р а. Што з таго сына, калі мяне заб'юць.

А д а с ь  Г у ш к а *(чытае)*. «Я з тваім бацькам таксама вельмі здружыўся. Леапольд Гушка залаты чалавек. Ён часта да мяне заходзіць пачаў... Я тут працую, як і раней... Беражы сябе, Адась, аставайся жывы і здаровы. Глядзі, каб явіўся дадому нават не ранены. Мы з табой яшчэ папрацуем!»

П а в а л  Н я м і р а. Як жа ўратавацца?

Г о л а с  к а м а н д ы *(паблізу, прыглушаны акопамі)*. Аддзяленне, ма-арш!

П а в а л  Н я м і р а. У атаку гоняць... Дзе мне дзецца, куды схавацца ад людзей... Каб аднаму астацца, а ўсе... няхай сабе хоць пагінуць. Каб ціха і цёмна. І так, каб доўга... Божа мой...

А д а с ь  Г у ш к а. Калі ты не сціхнеш, я цябе задушу!.. Слухай, прайдзі направа, там ёсць выхад у пустыя ямы. Там пасядзі, фронт пойдзе або туды, або сюды.

П а в а л  Н я м і р а. А тады што будзем рабіць, Адаська?

А д а с ь  Г у ш к а *(злосна)*. Тады будзе відна! Спяшайся, бо зараз гэты акоп займе рэзервная лінія салдат.

П а в а л  Н я м і р а знік. Адась Гушка сам пра сябе дачытвае пісьмо.

А д а с ь  Г у ш к а *(чытае)*. «Бывай, Адаська, будзь, як заўсёды, смелы і працавіты». *(Хавае пісьмо.)* Я яму напішу, што я працавіты.

Дастае з ранца пачак газет і раскідае па акопе. Знік за заломам акопа. Выбухае шум атакі. Чутны кулямёты, шпарка аддаляецца салдацкае «ўра». Акопы займае лінія салдат. У гэтым кутку акопа відаць толькі адзін б а р а д а т ы  с а л д а т і каля яго, справа, толькі часам паказваецца д р у г і, схаваны заломам акопнай сцяны. Барадаты салдат убачыў пакінутыя Адасём газеты, паднімае, глядзіць.

Б а р а д а т ы  с а л д а т *(суседу, направа)*. Глядзі — «Акопная праўда»!

Справа паказваюцца д в а  с а л д а т ы. Прыціснуўшыся адзін да аднаго, глядзяць у газету. Пасля ў гэты цесны куток уціскаюцца яшчэ д в а  с а л д а т ы.

П е р ш ы  с а л д а т. От, праўду піша! Быццам ён сам тут быў і ўсё сам бачыў.

Д р у г і  с а л д а т. Можа ён тут дзе сярод нас і ёсць? Можа таксама салдат? Я аднаго бачыў — гналі арыштаванага. Самы сапраўдны, радавы салдат.

Б а р а д а т ы  с а л д а т. Пазаўчора ў рэзерве па руках хадзіла пракламацыя. Я прачытаў і так падумаў, што каб хто ведаў мае думкі, то... *(Ад хвалявання не скончыў, зацягнуўся папяросай, і раптам глухія рыданні скрасянулі яго.)*

Уваходзіць А д а с ь  Г у ш к а і ўціскаецца паміж салдатаў.

А д а с ь  Г у ш к а *(да барадатага салдата).* Чаго, зямляк? Чаго? Чаго?

Б а р а д а т ы  с а л д а т *(нейкі час жорстка глядзіць на Адася Гушку).* Я ўспомніў худога каня, які некалі жыў на свеце.

А д а с ь  Г у ш к а *(мякка).* Я цябе, зямляк, па-шчырасці запытаў, а ты мне кпінамі адказваеш.

Б а р а д а т ы  с а л д а т *(з заўзятай раздражненасцю).* Быў конь у аднаго гаспадара. Гэты конь быў худы, стары і хворы. За ўсё сваё жыццё ён так з'ездзіўся і спрацаваўся, што ўжо ледзьве ногі валачыў. Я тады быў малады і бачыў, як гаспадар стараецца гэтага каня адкарміць і падняць на ногі, каб зарабіць на ім яшчэ апошніх дзесяць рублёў. Конь гэтую работу зрабіў і ўжо гатоў быў здыхаць, а гаспадар захацеў яшчэ новых дзесяць рублёў. Так было некалькі разоў, пакуль каню ўжо ніякі догляд не памагаў. Бачыць гаспадар, што конь больш не пажыве, як адны суткі. Дык як жа за гэтыя перадсмяротныя суткі не выціснуць з каня якую-небудзь карысць? І от ён сеў на яго конна і пагнаў за дзесяць вёрст, у яго былі там нейкія справы. Ён думаў так: конь больш не пройдзе, як вёрст восем, там здохне і астанецца мёртвы пры дарозе, і такім парадкам усё яго жыццё будзе выкарыстана да апошняга моманту. Я бачыў, як гаспадар на кані выехаў у вуліцу. Відно было, як у каня пад скурай ходзяць косці, і ён так стагнаў, што здавалася, гэта чалавек умірае, хочучы жыць. На восьмай вярсце конь упаў, і гаспадар пайшоў апошнія дзве вярсты і быў вельмі рад, што конскае жыццё да канца выкарыстана. Тут жа з'явілася чарада сабак, і яшчэ жывога пачалі рваць каня на кавал-

кі. Сабаку жывое смачней! А цяпер я сам стаў тым самым канём.

Салдат. Нічога, браце, трымайся!

Барадаты салдат. Глупства гаворыш — трымайся! Мяне трэці раз пасля ран і шпіталяў прыгналі сюды. Я думаў, што ўжо, нарэшце, паслухаюць, як скрыпіць у мяне ў грудзях, і пусцяць дадому, каб я мог прытуліць да сябе сваіх няшчасных, галодных дзяцей. Можа я, хоць не могучы, стараўся б там, каб ім лягчэй як жыць на свеце. Дык не. Хочуць, каб я яшчэ прайшоў апошнія восем вёрст. Зараз скамандуюць у атаку, дык я і пабягу, як вар'ят, крычучы «ўра».

Адась Гушка. А за што цябе так... Ваюеш за што? Ведаеш?

Барадаты салдат. Ведаю. Тут напісана. *(Паказвае «Акопную праўду».)*

Адась Гушка. Кажуць, за бацькаўшчыну?

Барадаты салдат. Хто цябе ведае, што ты за чалавек, але на апошняй сваёй вярсце я нічога не баюся, мне ўсё роўна. Няхай бацькаўшчыну гэтакую агні спаляць так, каб на яе месцы толькі попел з ветрам круціўся.

Адась Гушка. А ты адкуль сам?

Барадаты салдат. З-пад Саратава.

Салдат. А я з-під Палтавы.

Адась Гушка. Так што, як відаць, усё роўна, ці ты з Саратава, ці «з-під Палтавы». Я дык зусім адсюль блізка. А чакаючы, калі ў атаку пагоняць, ныю ўсёй душой, што мой стары бацька там жылы свае ў ярме рве. Нямецкаму салдату таксама кажуць, што ён ваюе за бацькаўшчыну, а ён таксама думае, што ў гэтай бацькаўшчыне яго дзеці недзе мучацца. Гэта не бацькаўшчына, калі ў ёй жыць не радасць, а гора. Калі мы зробім сабе сапраўдную бацькаўшчыну, дзе будзе брацтва народаў, дзе будзе чалавеку воля, дзе ён здзеку на сабе не будзе чуць,— за бацькаўшчыну тую і паваяваць з ворагамі можна будзе. А то гніем тут чорт ведае за каго і за што! Наце, пачытайце, тут усё напісана, што трэба рабіць, каб знайсці бацькаўшчыну сапраўдную... *(Да барадатага салдата.)* Трэба шанаваць сваю чалавечую годнасць і восем перадсмяротных конскіх вёрст ператварыць у доўгую радасную чалавечую дарогу... Вы чулі што-небудзь пра Леніна?

Барадаты салдат. Не. Я нічога не чуў.

С а л д а т. А хто ён такі?

А д а с ь  Г у ш к а. Гэта наш вялікі настаўнік. *(Бярэ ў салдата газету.)* Вось ён піша. Чытай!

С а л д а т ы *(кожны па слову).* «Рэвалюцыйны клас у рэакцыйнай вайне не можа не жадаць паражэння свайму ўраду».

А д а с ь  Г у ш к а. Бо гэты ўрад, гэтыя міністры, гэты цар прыгналі нас сюды ўміраць за іхняе шчасце і за нашы пакуты. А вось тут Ленін піша пра нашы сем'і, пра народ. Чытайце, тут навука, што трэба рабіць. *(Дае салдатам пракламацыю і адразу знікае за заломам акопнай сцяны.)*

С а л д а т. Я казаў, што яны такія самыя салдаты, як і ўсе.

Б а р а д а т ы  с а л д а т *(гледзячы ў пракламацыю).* Божа мой, божа мой, каб скарэй тая рэвалюцыя!

Г о л а с *(прыглушаны акопамі).* Аддзяленне, марш!

С а л д а т. Гоняць!

С а л д а т ы пайшлі. Самым апошнім за імі, вельмі павольна знікае б а р а д а т ы  с а л д а т. Акоп нейкі час пусты, пасля ўваходзіць А д а с ь  Г у ш к а.

А д а с ь  Г у ш к а. Забралі лістоўкі і газету? Ну, мы падбавім больш.

Раскладае па акопе пракламацыі. Шпарка ўваходзіць афіцэр У л а д ы с л а ў  Ё т к а.

У л а д ы с л а ў  Ё т к а. Ты чаму астаўся? Чаму ў атаку не пайшоў? *(Убачыў пракламацыю, бярэ, глядзіць.)* Што? Ты што?! Пакажы! *(Рве з яго ранец і дастае адтуль пракламацыі.)* Гэта што? *(Настаўляе на Адася Гушку рэвальвер.)* «Далоў цара»? «Няма за што ваяваць»? Кідай вінтоўку і марш наперад! Ну?! Застрэлю!

Адась Гушка кальнуў штыком Уладыслава Ётку. Той упаў з енкам. А д а с ь  Г у ш к а пайшоў, забраўшы ранец з пракламацыямі. Уладыслаў Ётка, лежачы, енчыць. Уваходзіць П а в а л  Н я м і р а.

П а в а л  Н я м і р а. Адаська, Адаська, там не ўседзець у тых ямах, там кулі лётаюць! *(Убачыў на зямлі Ётку і аслупянеў.)* Ой, божачка!..

У л а д ы с л а ў  Ё т к а. Слухай, падыдзі... Вынесі мяне з акопа, я тут кончуся адзін... Я тут памру... Занясі мяне да санітараў... Я табе дам белы білет... Назаўсёды дадому вернешся.

П а в а л  Н я м і р а. Ці магу я верыць, ваша высока...

Ё т к а. Вер.

П а в а л Н я м і р а *(углядаецца).* Ой, я вас ведаю, вы наш пан. Мы ў вас зямлю куплялі.

У л а д ы с л а ў Ё т к а. Я табе і белы білет і зямлі дам. Паўвалоку зямлі, дзесяць дзесяцін...

П а в а л Н я м і р а. Гляньце на неба... Ружова ад сонца... Сонца ўзыходзіць... Я да санітараў вас, от зараз... от зараз... Нейк сціхла на полі. Тут хмызняк за акопамі скрозь... Кусты... Ядловец... Беразняк... Алешнік..: От зараз... От зараз... *(Бярэ Уладыслава Ётку на плечы. Той стогне. Панёс акопамі.)*

*Заслона*

## ТРЭЦЯЯ ДЗЕЯ

### Першая карціна трэцяй дзеі

У хаце Леапольда Гушкі. Г у ш к а в а ж о н к а ляжыць на ложку, укрытая кучай парваных адзежын. Калыска з дзіцем. Л е а п о л ь д Г у ш к а каля калыскі.

Л е а п о л ь д Г у ш к а *(ставіць бутэльку на зямлю).* Малака ўсяго ў дне. Што гэта даць гэтаму дзіцяці?

Ж о н к а. Што гэта Марылька не ідзе гэтак доўга? Дзіцяці як адцуралася. Гэтае небарака дзіця радзілася як на пакуту. Яно высахла, выкрычалася... Там яшчэ яе ў гэтую забастоўку ўцягнуць... Кідала б яна нечага гэтую фабрыку, ці што?

Л е а п о л ь д Г у ш к а. Ты сама не ведаеш, што гаворыш.

Ж о н к а. Я ведаю, што гавару. Калі што трэба рабіць, дык і без нас зробяць. Мала Адася папацягалі па астрогах? А што за карысць? Ад гэтага нам лепш стала жыць, ці што?

Л е а п о л ь д Г у ш к а. Што ты гаворыш?

Ж о н к а. Я ведаю, што гавару. Бачыла я калі прасветлую гадзіну? Або Марыльчына дзіця ўрадзілася на вялікае шчасце? Калі я была галодная, дык не ела. Калі я была хворая, дык не лячылася.

Л е а п о л ь д Г у ш к а. Ты як бы мяне ўпікаеш? Што — я не стараўся, не рабіў, не біўся як рыба аб лёд? Калі я плечы разгінаў?

Ж о н к а. Я цябе не ўпікаю. Ты стараўся, ты рабіў, ты плеч не разгінаў. Што я табе на гэта скажу? Але,

можа быць... Можа хто спрытней мог павярнуцца на свеце, той мог і не гараваць, а жыць.

Леапольд Гушка. Дык што ты ад мяне хочаш?

Жонка. За ўсё жыццё цярплівасці мае не хапае. Чалавек не вытрымае так жыць.

Уваходзіць Ульяна.

Ульяна. Добры вечар!.. От жа мароз на дварэ!

Леапольд Гушка. Садзіся, Ульянка, грэйся.

Ульяна. Можа ад Адася пісьмо было?

Жонка. Нешта няма. Ці жывы ён?

Маўчанне.

Ульяна. А на фабрыцы паліцэйскія стаяць. Нейкі неспакой. Кажуць, што ў Петраградзе таксама... Я ў горадзе ўдзень была, дык чула...

Леапольд Гушка. Што?

Ульяна. Не то забастоўкі, не то салдаты бунтуюцца...

Леапольд Гушка. Народ вечна цярпець не будзе.

Ульяна *(з расчараваннем)*. А я думала, што ад Адася пісьмо было.

Марылька *(з'яўляецца ў дзвярах)*. Тата, выйдзі на мінуту ў сенцы. *(Выходзіць з Леапольдам Гушкам.)*

Жонка. Што там яшчэ? Божа мой...

Уваходзіць у хату Евель Цывін, рабочы, Леапольд Гушка і Марылька.

Леапольд Гушка *(да жонкі)*. Маці... Ты ў мяне заўсёды была маладзец, маці... Гэты чалавек у нас пабудзе некалькі дзён.

Жонка маўчыць, укрывае сябе лахманамі. Евель Цывін закурвае. Марылька нагінаецца над калыскай.

Цывін. Халаднавата ў вас у хаце, а каля лесу жывяце.

Жонка. Лес не наш.

Цывін. Не наш. Гэта праўда. Нас гэты лес не грэе.

Леапольд Гушка *(ціха да Цывіна)*. Я буду глядзець, каб ніхто... Будзь смела. *(Углядаецца ў акно, пасля выходзіць у сенцы, варочаецца ў хату.)*

Рабочы. Што будзем рабіць?

Цывін. Няма ніякага спосабу пакінуць фабрыку?

Рабочы. Салдаты з фабрыкі нікога не выпускаюць, прымушаюць рабіць сілком. Былі выпусцілі дваццаць ча-

лавек, і пакуль яны ўсе не вярнуліся, то больш не пусцілі нікога.

Ц ы в і н. Значыцца, трэба знайсці спосаб пакінуць фабрыку.

Р а б о ч ы. А як?

Ц ы в і н. Начальства цяпер напалохана: забастоўкі, стачачныя камітэты, бунт... Ходзяць самыя верныя чуткі, што ў Петраградзе неспакойна... А з напалоханым начальствам заўсёды лягчэй гаварыць. *(Падыходзіць да калыскі.)* О! Як завецца? *(Забаўляе дзіця.)*

М а р ы л ь к а. Віця...

Ц ы в і н *(да Ульяны)*. А ты ўсё пра Адася пытаеш? Здаровы і вясёлы вернецца твой Адась... Віця!.. Віцька!.. *(Забаўляе дзіця, адыходзіцца ад калыскі.)* А скажам мы начальству гэтак: фабрыка працуе на абарону бацькаўшчыны, вырабляе шынельнае сукно, дык мы перадумалі і забастоўкі рабіць не будзем, адно падбаўце нам крыху заработку... Толькі ж трэба паведаміць забастовачны камітэт... Папрацуем дзень, з фабрыкі выйдзем і больш туды ніхто не вернецца. І фабрыка стане, і пачнецца забастоўка. Патрабаванні будуць тыя самыя: васьмігадзінны рабочы дзень... ну і ўсё, як вызначана... Ты слухай, ты ў забастовачны камітэт пайсці не можаш?

Р а б о ч ы. Не магу. Мяне адразу возьмуць.

Ц ы в і н. Ну і я ж не магу.

М а р ы л ь к а. Я пайду.

Ц ы в і н. Ты пойдзеш? А як на фабрыку пройдзеш?

М а р ы л ь к а. Я адпрасілася да дзіцяці. А як выпускалі мяне, дык нейкі паліцэйскі чын нібыта пажартаваў: пабажыся хаця, кажа, што сёння назад прыйдзеш. От і скажу, што назад прыйшла. Зараз пакармлю дзіця і пайду.

Ц ы в і н. А ты ўсё чула, што мы тут гаварылі?

М а р ы л ь к а. Усё ведаю.

Ц ы в і н. Ага... ты ўсё чула, ты ўсё ведаеш... Ну, добра!

Жонка ўзпімае галаву, глядзіць на Марыльку. Марылька нагінаецца над дзіцем.

Ц ы в і н *(да рабочага)*. Ну, а табе ж трэба для сувязі, дык ніколі не садзіся там, дзе трэба ісці... дык ідзі.

Р а б о ч ы пайшоў. Марылька закалыхвае дзіця, спявае калыханку. Цывін сеў, утуліў рукі ў рукавы, задрамаў. А Леапольд Гушка ўглядаецца ў акно.

Ц ы в і н *(раптам узняўшыся)*. Холадна, вы казалі, у

вашай хаце, а я ўсё ж абагрэўся... Уга, цёпла стала... цэлы дзень быў я сёння на холадзе... *(Падыходзіць да печы, поркаецца ў попеле.)* А жару ў вас няма ў попеле, закурыць.

Марылька. За комінам запалкі ляжаць.

Жонка. Крэсіва і кнот там недзе.

Цывін. Крэсіва і кнот?

Леапольд Гушка. Нейкі чалавек ідзе паўз лес, проста сюды накіроўваецца.

Цывін *(устрывожыўся)*. А мой хлопец пройдзе яшчэ?

Леапольд Гушка. Э, ён жа там бокам пайшоў.

Цывін. Ну, дык я пайду. *(Глядзіць у вочы Леапольду Гушку.)*

Леапольд Гушка. За хатай у мяне пусты хлеўчук. Там крыху саломы ляжыць, дык ты...

Марылька *(да Цывіна)*. Дык я зараз іду.

Цывін. Ідзі. *(Выходзіць з Леапольдам Гушкам.)*

Жонка. Хто гэта? Што гэта за ён?

Марылька. Гэта Евель Цывін.

Жонка. Дык чаго ён туляецца ад людзей? Што ён забіў каго ці абакраў? Чаго ён да нас?

Марылька. Маці, слухай, маці! Я яго сама прывяла. Яго шукае паліцыя.

Жонка. Нікуды ты не пойдзеш!

Леапольд Гушка *(у дзвярах)*. Ціха ты. Ціха... *(Паўза.)* Яны кажуць... яны кажуць... скінуць гадзіны з рабочага дня... Я ім сказаў бы: скіньце вы ўсё тое, што жывога чалавека ў зямлю гняце. Не бойцеся нічога, скідайце!

Жонка. Што скідайце?

Леапольд Гушка. Цара скідайце!

Жонка *(усхватваецца)*. Маліся богу!

Леапольд Гушка. Колькі я яму за мой век маліўся? А што мне бог даў?

Жонка. Божачка ласкавы, узглянься на гора людское!.. Леапольдзе, адумайся!

Леапольд Гушка. Я ім сказаў бы: скідайце цара! За што пакутуе на фронце мой Адась? За што гніе ў акопах Павал Няміра?

Жонка. Гэта бог іх паслаў на пакуту!

Леапольд Гушка. Скажы ты мне, хто на маю шыю ярмо ўсклаў і не пускае, каб я яго скінуў?

Жонка. Гэтак ты ніколі ярма не скінеш. Не злосцю і не кулаком трэба ярмо скідаць.

Леапольд Гушка. А як?

Жонка. Сурвіла ўсклаў на цябе ярмо? Усклаў. А як жа Сурвіла будзе да цябе ласкавейшы, калі ты на яго як на звера глядзіш? Пан з парабкоўства прагнаў. А хіба ён мог цябе не прагнаць, калі ён сказаў на цябе «хлоп», а ты яму пажадаў, каб у яго ў жываце хлопала? А каб ты быў інакшы, дык і жыў бы, і не трэба табе было б немаведама каго па хлявах хаваць. Ты і яе на гэтую дарогу пацягнуў. *(Паказвае на Марыльку.)*

У дзвярах з'яўляецца Павал Няміра.

Павал Няміра. Добры вечар у хату!

Марылька. Павал! *(Кідаецца да яго.)*

Леапольд Гушка і жонка з момант маўчаць ад нечаканасці.

Жонка. Павалка, сынок!

Леапольд Гушка. Павалка, як жа гэта, на пабыўку ці як?

Павал Няміра *(урачыста)*. Можна сказаць, што зусім.

Марылька. Зусім? Няўжо гэта можа быць?

Леапольд Гушка. Вайна скончана?

Павал Няміра. Для мяне скончана.

Усе. Як гэта?

Павал Няміра. Няхай ваюе той, каму трэба.

Леапольд Гушка. Рэвалюцыя? Салдаты кінулі ваяваць? Я ведаю, што робіцца.

Павал Няміра *(як бы не слухаючы)*. Я выратаваўся... Мне пашанцавала.

Усе. А Адась? Ён жа з табою ў адной часці быў?

Ульяна. Павал! Як Адась? Што з ім?

Павал Няміра *(нікога не слухаючы)*. Пяць дзён трэслася зямля. Трэслася неба. Трэсліся зоры... Усё грыміць, усё канае, усіх смерць агортае. *(Усе з глыбокім стогнам уздыхнулі.)* Світала на пятыя суткі. Салдатам загадалі вылазіць з акопаў на зямлю. У атаку гналі. Вылезеш — смерць табе! Астанешся — або застрэляць, або не ўбачаць! І я астаўся.

Усе. А Адась?

Марылька. Цяпер жа, Павалка, разам будзем заўсёды! Ідзі глянь на сваё дзіця, ты ж яго яшчэ не бачыў!

П а в а л  Н я м і р а  *(рушыў да калыскі, але не дайшоўшы, спыніўся).* Грыміць усё... Стогне, енчыць... Я да зямлі прыліп, выйшаў у яму, увайшоў назад, бачу — пуста, ціха...

Л е а п о л ь д  Г у ш к а  *(з нецярплівасцю).* А Адась?

П а в а л  Н я м і р а. Толькі адзін на ўвесь акоп афіцэр Уладыслаў Ётка, нашага пана сын, канае пад маімі нагамі, ранены ў жывот. Ён глядзіць мне ў вочы гэтак пакорліва... Ну як жывёла глядзіць, калі яе рэжуць. Так просіць ён мяне. Я яго паслухаў. Я яго ўзяў на плечы і панёс да сапітараў. Каб не я — ён бы там кончыўся б. Я яго нёс, можа, дзесяць вёрст. Развіднела — я яго нясу. Сонца ўзышло — я яго нясу. Дзень у сілу ўвабраўся — я яго нясу, нясу, нясу... Прынёс да санітараў. І за гэта ён мне, праз свайго бацьку, белы білет і... паўвалоку поля! Белы білет і паўвалоку поля! *(Доўгая напружаная паўза.)* Я шмат прайшоў дарогі... Я ішоў ад санітараў да поезда, ад поезда да горада, ад горада да Ёткавага маёнтка... Снег скрозь пад нагамі рыпіць. Кусты стаяць. Дрэвы маўчаць. У лесе голая зямля без снегу. Голкі хвойныя. Я смалу нюхаў. Здаецца, што з-пад снегу грыбы пахлі. Папараць пахла. Трава пахла. Зямля пахла, мокрая ад дажджоў, з-пад плуга... Вайна недзе далёка асталася. Мне яна скончана. Яе няма больш мне. Няхай сабе там як сабе хочуць, і хто сабе хоча, і хто не хоча — ваююць. Няхай ваююць! Няхай хоць галовамі ў землянную акопную сцяну... Няма больш вайны мне, фронту мне, акопаў больш няма мне! Хай сабе ўсе як сабе хочуць! Марылька! На паўвалоцы зямлі будзем мы цяпер з табою, і больш нам нікога і нічога не трэба, Марылька!

М а р ы л ь к а. Што ж мы будзем рабіць?

П а в а л  Н я м і р а. Жыць!

М а р ы л ь к а. А Адась?

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. А ўсе, што з Адасём? Поўныя акопы людзей?

Ж о н к а. Табе мала аднае радасці?

П а в а л  Н я м і р а. Мне Адася шкада. А ўсе — што я пра ўсіх думаць буду? Што я каму памагу? Кожны чалавек выкіроўваецца па-свойму.

М а р ы л ь к а. А я зараз на фабрыку пайду. От зараз, от...

П а в а л  Н я м і р а. На фабрыку? Чаго цяпер, уначы?

Ж о н к а. Марылька, цяпер нікуды.

Марылька. А без мяне забастоўкі не зробяць.

Павал Няміра. Дык нашто табе цяпер дбаць пра гэта? Можа раней і не было табе іншай дарогі, а цяпер, пасля гэтакага шчасця мне? Цяпер мы самі сабе паны будзем.

Марылька. Што ты гаворыш!

Павал Няміра. Заўтра ж я мець буду паўвалоку зямлі.

Марылька. Ну дык што?

Павал Няміра. Ну дык і сядзі дома! Крыж пастаў на ўсіх гэтых забастоўках. Забастоўкі — гэта неспакой, гэта калі ніякае рады няма. А цяпер мы можам спакойна...

Марылька. Пайду.

Павал Няміра. Не пойдзеш!

Марылька. Пайду!

Павал Няміра. Не пойдзеш!

Марылька глядзіць на бацьку.

Леапольд Гушка. Пойдзе... І я пайду!

Жонка. Не! Марылька больш гараваць не будзе. Зямлі не купляўшы, яна будзе на вялікай зямлі сядзець.

Марылька. А вы з бацькам? А Адась? А ўсе? А вайна? А акопы? А смерць?

Павал Няміра. Няма для нас вайны больш!

Марылька. Ёсць вайна!

Леапольд Гушка. І смерць ёсць! І акопы ёсць! І ярмо на шыі ёсць! І жылы на чалавеку рвуцца! І пятля на шыю накладаецца! І шыбеніца над галавою стаіць! Я казаў — скіньце вы ўсё тое, што жывога чалавека ў зямлю гняце! Скіньце вы цара гэтага!.. А яна мне *(паказвае на жонку)* раіць богу маліцца. А бог...

Жонка. Бога не чапай!

Леапольд Гушка. Усё, што чалавека душыць, скіньце вы!

Павал Няміра. Няхай скідаюць.

Леапольд Гушка. А мы?

Павал Няміра. А я не на вайне больш. Я не парабак больш. Я не...

Леапольд Гушка. Марыльцы зараз ісці трэба.

Павал Няміра. Не пойдзе!

Марылька *(рашуча паварочваецца да дзвярэй)*. Пайду!

Павал Няміра. Не пойдзеш! *(Хапае яе за галаву.)*

Леапольд Гушка *(хапае яго за плечы)*. Ідзі адгэтуль! Да свайго бацькі ідзі!

Жонка. Марылька! Чуеш? Ён хату раскідае. Ён сям'ю раскідае! Ён губіць нас усіх!

Павал Няміра. Марылька, хадзем!

Марылька. Я на фабрыку пайду!

Павал Няміра. У мяне яшчэ сілы ёсць! *(Падымае над ёю кулакі.)*

Леапольд Гушка. Ідзі з гэтае хаты!

Бярэ яго ззаду за плечы і кідае ў дзверы. З дзвярэй насустрач мешчанчук, нечакана, як здань.

Мешчанчук. Добры вечар!

Леапольд Гушка. Добры вечар!

Мешчанчук. Холад які на двары! Рукі мае скарчанелі, без рукавіц выбраўся. Фурманак шукаю, заўтра сена войску везці...

Леапольд Гушка. Дык чаго вы да нас?

Мешчанчук. Можа, у фурманку паедзеце?

Леапольд Гушка. Няма ў мяне каня. І нічога, чалавеча, у мяне няма.

Мешчанчук. А каб быў конь — паехалі б, зарабілі б... Вайна ўсім не дае жыць. Калі скончыцца вайна, немцаў паб'ём, народ тады лепш стане жыць.

Леапольд Гушка. Усялякія ёсць і немцы: адзін жыве добра, другі кепска...

Мешчанчук. Ёсць, ёсць, вядома, народ не роўны... А ў вас быў конь... Хлеў у вас за хатаю... Самі на гаспадарцы жывяце?

Леапольд Гушка. Але. На добрай гаспадарцы.

Мешчанчук. Сказаць праўду, дык я не адзін. Тут яшчэ мой таварыш, таксама са мной наконт фурманак ходзіць. Я думаў, можа ён да вас зайшоў. Я яго шукаю, разам у горад ісці... Мы самі з горада. Не заходзіў да вас?

Леапольд Гушка. Не.

Мешчанчук. Не было, значыцца, нікога ў вас?.. Чорт яго... цяпер на дарогах... Уночы цяпер страшна дзе ў полі на дарозе. Народ усякі цяпер... На тым тыдні, не чулі? Каля самага горада чалавека зарэзалі, забралі грошы і каня... Нікога ў вас не было?

Леапольд Гушка. Не.

Мешчанчук. А то яшчэ раз было гэтак. Не вельмі далёка адсюль, так вёрст за дваццаць. На гасцінцы. Залез гад чалавеку ў хлеў, у салому, а той чалавек богу душой не вінен. Ну і знайшлі. А як выявілася, дык гэта падпальшчык. Вёскі падпальвае, людзей грабіць, робіць неспакой. Падгаварваў людзей, каб цара скідалі, каб забастоўкі ўсялякія... Аднаго злавілі ў хляве, у саломе, а другога ў склепе. Чалавек сам прызнаўся: не ведаў, кажа, хто такі. Мяне, кажа, злачынцы забіць хочуць, мне абы пераначаваць. Я і пусціў, паспагадаў. Ну, тых забралі, а чалавеку таму нічога. Чалавек жа не ведаў, пусціў, маючы добрае сэрца. Чалавека таго начальства і пальцам не кранула, раз ён сам прызнаўся і паказаў, дзе гады хаваюцца... Ну, рукі мае крыху абагрэліся... А мароз трашчыць!.. Я ішоў паўз лес... Тут недзе, думаю сабе, павінен быць мой чалавек, што разам са мною фурманак шукае... А на дварэ — ціха, ціха... Чуваць было, як у гарадку на ратушы гадзіны вызвоньваліся: дзінь-бом, дзінь-бом, дзінь... Іду, бачу след нейкі свежы пад вашу хату... Я па слядах проста і іду. Сюды, думаю сабе, зайшоў мой чалавек... Няйначай сюды зайшоў.

Жонка. Марылька, не ідзі! Я табе забараняю ўлазіць у гэтую забастоўку.

Мешчанчук *(падбягае да Гушкавай жонкі, кладзе ёй руку на плячо)*. У забастоўку?

Жонка. Яна не пойдзе, я яе не пушчу. Трэба не несці ўсякіх там вестак забастоўшчыкам, а спакойна жыць.

Леапольд Гушка. Як жа ты жывеш?! Як сабака, які ад пабояў і голаду ў бакі хістаецца!

Мешчанчук *(ціснe Гушкаву жонку за плячо)*. А чалавек той дзе?

Жонка. У нас, за хатай, у хляве схаваўся.

Марылька. Маці!

Павал Няміра. Хто схаваўся?

Леапольд Гушка. Ты! *(Усхапіўся з свайго месца.)*

Мешчанчук даў свісток. У хату ўскочылі паліцэйскія.

Мешчанчук. Нікога з хаты не выпускаць!

Мешчанчук выходзіць з паліцэйскімі, пакінуўшы аднаго паліцэйскага ў хаце.

Жонка. Чаму нікога з хаты пе выпускаць?
Паліцэйскі. Стой на месцы, не варушыся!
Леапольд Гушка *(да жонкі).* Ух! Ты!
Жонка. Ты гэтак сям'ю ратуеш?
Марылька. Маці!..
Паліцэйскі. Ціха! З месца пе кратацца!

Уваходзіць мешчанчук. За ім паліцэйскія ўводзяць Евеля Цывіна.

Мешчанчук. Ну?
Цывіп. Тытупь недзе з кішэніываліўся. Няма чаго закурыць.
Мешчанчук. Ты што, грэўся ў саломе?
Цывін. Грэўся.
Мешчанчук. Нагрэўся?
Цывін. Ці чорта! Паспрабуй сам у такі мароз нагрэцца за хатаю на сметніку.
Мешчанчук. Ты! Змоўкні! Чаго ты хаваўся ў саломе?
Цывін. Ну... такая ў мяне фантазія з'явілася.
Мешчанчук. Хто яшчэ хаваецца?
Цывін. Я не наймаўся ведаць, хто хаваецца, а хто напаказ сябе выстаўляе.
Мешчанчук *(да Леапольда Гушкі).* Гавары, каго ты яшчэ дзе хаваеш?
Леапольд Гушка. Шукай, ты з гэтага хлеб ясі.
Жонка. Ён не вінен, ён не хаваў, гэты сам схаваўся. Бярыце яго, а нас не чапайце.
Цывін. Мяне, гаспадынька, і так возьмуць, без вашай просьбы, нашто тут яшчэ прасіць.
Мешчанчук *(да Леапольда Гушкі).* Апранайся!
Жонка. Божа мой, ён не вінаваты.
Цывін *(да Паўла Няміры).* Можа закурыць маеш, служывы?
Павал Няміра *(баязліва адступае ў куток).* Не, пе, не, пяма... няма...
Мешчанчук. Ты хто такі?
Павал Няміра. Салдат. Я толькі што на пабыўку прыйшоў. От толькі што ў хату ўвайшоў. Я тут нічога не ведаю.
Марылька *(з пагардай).* Ён не вінен, гэты апёлак чысты!

Жонка. Леапольдзе! Леапольдзе! Сям'я раскідаецца, шчасце ўцякае. Божа літасцівы...

Мешчанчук *(да Ульяны, якая ўважліва сачыла неўзаметку за ўсімі сцэнамі)*. А ты хто такая?

Ульяна. Я прыйшла запытацца, ці няма ад іхняга сына пісьма?

Мешчанчук. А хто табе іх сын?

Ульяна. Я яго нявеста.

Мешчанчук. А дзе ён?

Ульяна. На фронце.

Мешчанчук *(да Цывіна і Леапольда Гушкі)*. Марш!

Жонка. Нявінны, нявінны... *(Хапае мешчанчука за нагу, цягнецца за ім па падлозе. Мешчанчук адпіхае яе нагой.)*

Леапольд Гушка *(да жонкі)*. Чаго крычыш? Паўвалоку зямлі маеш!

Цывін і Леапольд Гушка рушылі да дзвярэй.

Паліцэйскі *(да Марылькі)*. А ты чаго астаешся? Марш і ты!

Мешчанчук *(да паліцэйскага)*. Дурань! *(Да Марылькі.)* Ты нам не патрэбна.

Цывін, Леапольд Гушка, мешчанчук і паліцэйскія выходзяць. Марылька кідаецца да акна і ўглядаецца.

Жонка *(ападае перад абразамі на калені)*. Божа ласкавы... божа, божа...

Марылька рашуча накіроўваецца да дзвярэй. Павал Няміра загароджвае ёй у дзвярах дарогу.

Павал Няміра. Куды?

Марылька. Пусці! *(Хоча прарвацца ў дзверы. Павал Няміра адкінуў яе далёка ад дзвярэй.)*

Жонка *(становіцца ў дзвярах)*. Калі пойдзеш, то цераз мой труп пераступіш!

Павал Няміра. Цябе арыштуюць адразу за хатаю! Маці сказала, што ты забастоўшчыкам весткі панясеш. Ён ведае. Чаму ж ён цябе адразу не забраў? Ён цябе хоча злавіць там, на месцы?

Марылька пасля маўчання ўпала на стол тварам і затрэслася ад слёз.

Ульяна *(да Пайла Няміры)*. Не чапай яе!

Жонка *(да Ульяны)*. А ты чаго?

Павал Няміра *(гладзіць Марыльку па плячы)*. Ціха... распранайся! Садзіся за стол.

Марылька. Вон ад мяне! *(Рванулася з месца і знікла за дзвярыма.)*

Жонка. Ой, ой, яе там забяруць!

Ульяна. То я знайду спосаб прайсці на фабрыку і сказаць, што трэба! Я пайду з ёю. Я памагу ёй. *(Да Гушкавай жонкі.)* Цераз вас бяда такая! *(Кідаецца да дзвярэй, абарочваецца да Пайла Няміры.)* Які ты брыдкі чалавек!.. Як сабака... як... як свіння!.. *(Заікаецца ад хвалявання, выбягае.)*

Жонка *(узнімае рукі перад абразамі)*. Божа... не вытрымаю... не вытрымаю... *(Падае, страціўшы сілы.)*

*Заслона перад карцінай*

## Другая карціна трэцяй дзеі

Арыштанцкая камера ў гарадскім астрозе. У камеры Евель Цывін. Ен стукае ў дзверы. Дзверы крыху прыадчыняюцца, і ўсаджваецца напалову Сымон Рапецька ў адзежы турэмнага надзіраццеля.

Сымон Рапецька. Ну, чаго ты зноў стукаеш?

Цывін. Па-мойму, я цябе, чалавеча, ведаю. Ці не купляў ты разам з Леапольдам Гушкам і з усімі зямлю? Ты, здаецца, завешся Сымон Рапецька?

Сымон Рапецька. Ну то што, калі Рапецька? Мая служба такая, што я цябе ведаць не павінен.

Цывін. Ты сабе мяне не ведай, толькі скажы, ці не прыводзілі сюды маладой жанчыны?

Сымон Рапецька. Мала што прыводзілі. Але мне табе пра такія справы расказваць няможна.

Цывін. Не, не, ты не расказвай, табе ж няможна... А яе ўжо дапытвалі?

Сымон Рапецька. Ну дык што, калі дапытвалі?! Ты хочаш, каб я табе так адразу і сказаў!

Цывін. Не трэба казаць, табе ж няможна.

Сымон Рапецька *(з амбіцыяй)*. І няможна! Ты думаеш, служба гэта табе гульня ў цацкі?

БАЗЫЛЕВІЧАВА СЯМ'Я

ДРАМА Ў АДНОЙ ДЗЕІ

ДВБ • 1938

Вокладка п'есы «Базылевічава сям'я».



Сцэна са спектакля «Бацькаўшчына».

Ц ы в і н. Я ж не які-небудзь блазан, каб так думаць! А што ў горадзе робіцца? Не чуў, як там забастоўка? Ёсць яна, гэтая забастоўка, ці не?

С ы м о н Р а п е ц ь к а. Мне мая служба даражэй за тваю забастоўку. *(Хоча зачыніць дзверы.)*

Ц ы в і н. Пачакай, як жа ты з гэтай зямлёю? Раз ты купіў зямлю, дык чаму ж ты на ёй не жывеш, а служыш?

С ы м о н Р а п е ц ь к а *(зноў усаджвае галаву)*. Можна сказаць, што я гэтыя грошы, як сабаку пад язык уторкнуў. Грошы на зямлю пазычыў, а пасля прыйшлося грошы аддаваць і яшчэ з працантамі. Хоць з ноздры выкалупі, а аддай! Дык я зямлю назад прадаў і грошы аддаў. А на працанты пазычаў, дык зноў аддаваць трэба.

Ц ы в і н. Э-э, то ты спрытна ўсё вырабіў. Хэ-хэ! *(Смяецца.)*

С ы м о н Р а п е ц ь к а. Ты што тут кепікі гэтыя з мяне строіш? *(Хоча зачыніць дзверы, Цывін не дае.)*

Ц ы в і н. Якія кепікі, бог з табой. Ты зямлю прадаў скора, доўга не марудзіў, я кажу. Табе з гэтай зямлёю не пашанцавала. Я табе тады адразу не раіў яе купляць, а ты не паслухаў.

С ы м о н Р а п е ц ь к а. Мне бог памог на службу сюды ўмасціцца. Майго пасынка жонкі пляменнік узяў замуж Корбутавых Зосю. А ў гэтай Зосі было дзіця ад пісарчука з гэтага астрога. Дык мне бог даў розум праз Зосю дабіцца ад пісарчука хадатайніцтва аб службе. *(Зачыняе дзверы.)*

Ц ы в і н *(стукае)*. Ты кажаш, што забастоўка пачалася?

С ы м о н Р а п е ц ь к а *(прыадчыніў дзверы)*. З-за таго, што забастоўка пачалася, ты хочаш, каб мяне з службы прагналі? Ты хітранькі! *(Зачыняе дзверы.)*

Ц ы в і н *(задуменна ходзіць па камеры)*. Марыльку арыштавалі... Забастоўка пачалася...

Бразгае ключ у дзвярах. Дзверы адчыняюцца. Уваходзіць былы п р ы с т а ў. Ён цяпер у жандарскім чыне. Ж а н д а р уносіць за ім крэсла. Жандарскі чын садзіцца, жандар стаіць.

Ж а н д а р с к і ч ы н. Ну?.. Пагаворым? Што ж ты маўчыш?

Ц ы в і н. У мяне такая натура маўклівая.

Ж а н д а р с к і ч ы н. Хоць у цябе натура і маўклівая,

але ты скажаш мне, хто старшыня вашага падпольнага камітэта?

Цывін. Не скажу.

Жандарскі чын. Чаму?

Цывін. Бо не ведаю.

Жандарскі чын. А я ведаю, што ты старшыня падпольнага камітэта і ты ўзняў забастоўку на фабрыцы!

Цывін. То нашто ж вам пытацца, калі ведаеце?

Жандарскі чын. Мне дачка Гушкі расказала ўсё.

Цывін. Калі яна расказала, дык нашто, каб яшчэ я расказваў?

Жандарскі чын. Я магу прымусіць цябе гаварыць!

Цывін. Не думаю, каб мой голас быў вам вельмі прыемны.

Жандарскі чын. Хто кіруе забастоўкай на фабрыцы?

Цывін. Хто кіруе забастоўкай на фабрыцы? Мусіць жа кіраўнікі забастоўкі.

Жандарскі чын. Маўчаць!

Цывін. Я ж адразу казаў, што мой голас не будзе вам вельмі прыемны.

Жандарскі чын. Ты ведаеш, што табе пагражае тут, блізка фронту?!

Цывін. А што можа мне пагражаць? Я жыву, працую, на белы свет гляджу. Хіба гэта злачынства?

Жандарскі чын. Цябе хаваў Гушка?

Цывін. Калі пойдзе дождж, то верабей і сам знойдзе сабе кавалачак страхі.

Жандарскі чын. Маўчаць!

Цывін. То гавары, то маўчы. Ніяк вам не ўнаровіш!

Жандарскі чын. Гушка сам кажа, што ён цябе хаваў.

Цывін. Калі ён казаў, то вы, значыцца, ведаеце.

Жандарскі чын. Ведаю.

Цывін. Дык нашто ж пытацца?

Жандарскі чын *(да жандара)*. Гушку сюды! *(Да Цывіна.)* Будзеш глядзець яму ў вочы і расказваць мне ўсё. *(Жандар прыводзіць Леапольда Гушку.)* Ну, глядзі яму ў вочы!

Цывін. Я яго і так ведаю, нашто глядзець?

Жандарскі чын *(да Леапольда Гушкі).* Глядзі Цывіну ў вочы!

Леапольд Гушка. Здароў, Евель!

Цывін. Добрага дня.

Жандарскі чын *(падскочыў як ашалелы, але, каб вытрымаць паважнасць, прымусіў сябе гаварыць ціха, спакойна і вытрымана).* Ну так, прывіталіся, а цяпер глядзіце адзін аднаму ў вочы. *(Да Гушкі.)* Ну, ты гавары.

Леапольд Гушка. Я ўжо гаварыў.

Жандарскі чын. Ты ўсё кажаш, што табе было цяжка жыць. Больш ты нічога не кажаш. Ну, прысядзь... *(Не вытрымаўшы, крычыць.)* Садзіся!..

Леапольд Гушка *(садзіцца на нары).* Мне цяжка было жыць.

Жандарскі чын. Ты захацеў яшчэ цяжэй. Сам у турму палез.

Леапольд Гушка. З самых малых сваіх дзён я з турмы ніколі не вылазіў. Аднаму на свеце рай, другому турма.

Жандарскі чын. Прапаведнік!.. Чаго Цывін у цябе хаваўся?

Леапольд Гушка. Запытайцеся ў яго самога, чаго ён быў у мяне.

Жандарскі чын. А я хачу, каб ты сказаў... Ну... Маўчыш?.. Мне цябе шкада. Раскажы пра Цывіна ўсё, цябе караць не будзем.

Леапольд Гушка. А хіба вам цяжка яго самога запытаць?

Жандарскі чын. Ты просты чалавек. Ты гора ведаў. Ты можаш людзей любіць. А для гэтага трэба вылавіць усіх бунтаўшчыкоў, якія сеюць неспакой, трывогу, кроў, агонь... Як чалавек кажу табе: мне цябе шкада.

Леапольд Гушка. Я маю практыку, чым больш на мне жылы рвалі, тым больш мяне шкадавалі. А што да трывогі і крыві, то кроў льецца на вайне. А хіба вайны хацеў той, хто на ёй кроў лье?

Жандарскі чын *(паказвае на Цывіна).* Гэта ён так кажа?

Леапольд Гушка. Нашто ён, гэта я так кажу.

Жандарскі чын. Чаго ты хочаш? Ты сам скажы.

Леапольд Гушка. Хачу, каб чалавек не раў на

сабе жыл, не мучыўся, не гараваў. Каб яму сонца ясна свяціла, каб на яго ніякі гад ярма не ўскладаў. Хачу, каб народ зямлю ў паноў забраў...

Жандарскі чын *(падскочыў як ашалелы)*. У нас ёсць цар і яго законы, якія не дазволяць вам распараджацца тым, чым вы хочаце!

Леапольд Гушка. То я хачу, каб цара скінулі. Вас хачу на шыбеніцы бачыць. Вы ўсё мне пагражаеце то судом, то катаргай. Дык я кажу, што з малых сваіх дзён я не жыў, а быў, як у катарзе. Мне ў маёй хаце мала лепш, чым тут, у гэтым вашым астрозе. Мне няма чаго траціць. Вы думаеце, я не чуў, што ў Петраградзе і можа яшчэ дзе, бунты і забастоўкі?..

Жандарскі чын. Дзе ты чуў?! Хто табе казаў?! У Расіі рэвалюцыі быць не можа!.. Павешу!.. Галаву страціш!

Леапольд Гушка. І так дагэтуль з мае галавы, што хацелі, тое рабілі. Я гэтага больш не хачу.

Жандарскі чын. Я вас абодвух перадам ваеннапалявому суду!

Евель Цывін і Леапольд Гушка маўчаць, гледзячы адзін на аднаго. Жандарскі чын курыць і стараецца ўняць сваю раздражнёнасць.

Другі жандар *(з'яўляецца ў дзвярах)*. Ваша высокаблагароддзе! З тэлеграфа паведамляюць...

Жандарскі чын. Што? Ну што?!

Другі жандар. Дэпеша! *(Дае жандарскаму чыну дэпешу, той упіваецца ў дэпешу вачыма.)*

Жандарскі чын *(змяніўся з твару)*. Не можа быць! Паслаць на тэлеграф праверыць! *(Выходзіць з камеры.)* Замкнуць!

Жандары выходзяць. Сымон Рапецька з'яўляецца ў калідоры і замыкае дзверы.

Леапольд Гушка. Што гэта такое сталася?

Цывін. Нешта важнае робіцца. Можа з Петраграда якія весткі? *(Стукае ў дзверы.)*

Сымон Рапецька *(паднімае шкелка ў дзвярах)*. Я з свае службы хлеб ем!

Цывін. То няхай табе твой хлеб на здароўе пойдзе. І са мной ты лепш тут не гавары, бо табе няможна. *(Падзывае махам рукі Гушку.)* Ты яму скажы, што па свеце чуваць. Ён вельмі бедаваў, калі дачуўся, што табе з зямлёю не пашанцавала.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а *(змяняе Цывіна ў дзвярах).* Не пашанцавала, кажаш, табе?.. Што ў горадзе чуваць?

С ы м о н  Р а п е ц ь к а. Ты сабе сядзі тут спакойна, а я сабе служыць спакойна буду. На чорта мне гэты інтэрас! *(Захлопвае шкло.)*

Л е а п о л ь д  Г у ш к а *(стукае ў дзверы).* Вельмі нешта ты скора панам стаў!

С ы м о н  Р а п е ц ь к а *(паднімае шкло).* Братка, сціхні ты, прашу цябе, каб табе скула ў бок! Дай мне спакойна есці мой кавалак хлеба.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Я ж твайго хлеба ў цябе з рота не адбіраю. Ты скажы, што чуваць, і я табе слова не скажу.

С ы м о н  Р а п е ц ь к а. У Петраградзе, кажуць, не то войска, не то хто іншы цара слухаць не хоча.

Ц ы в і н. А больш што?

С ы м о н  Р а п е ц ь к а. А больш я нічога не чуў. *(Захлопвае шкло.)*

Ц ы в і н. Калі гэта праўда, то...

Л е а п о л ь д  Г у ш к а *(перабівае).* То нам не трэба тут лішне шапкаваць перад гэтым дапытнікам.

Ц ы в і н. Марыльку забралі, мусіць, па дарозе.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Я здагадваўся ўвесь час.

Бразгае ключ у замку. Уваходзіць ж а н д а р с к і  ч ы н.

Ж а н д а р с к і  ч ы н *(да Цывіна).* Хто перадаў тваё даручэнне, з якім яго дачка *(паказвае на Гушку)* ішла на фабрыку?

Ц ы в і н. Якое там даручэнне? Першы раз чую. Вы самі ўсё гэта выдумляеце.

Ж а н д а р с к і  ч ы н. Я абараняю парадак, бацькаўшчыну!

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Лепш у магіле гніць, чым жыць у такой бацькаўшчыне!

За сцэнай шум быццам вялікага натоўпу, грукат, галасы. Шум аддаляецца. Жандарскі чын трывожна прыслухоўваецца.

Д р у г і  ж а н д а р *(у дзвярах).* Ваша высокаблагароддзе, з тэлеграфа весткі пацвердзіліся!

Ж а н д а р с к і  ч ы н *(выбягае з жандарам).* Замкнуць!

Сымон Рапецька замыкае камеру. У калідоры чуваць грукат ног, беганя, трывожныя галасы. Пасля ўсё сціхае, але дзесьці за сцэнай выбухае гулкі шум.

Ц ы в і н *(стукае ў дзверы).* Эй, службіст, падымі шкло! *(Стукае.)*

С ы м о н Р а п е ц ь к а *(паднімае шкло).* Я не на тое служу, каб гаварыць з вамі.

Ц ы в і н. Якая табе тут служба! У твайго гэтага начальніка не такая служба, а і то зараз ён яе згубіць.

С ы м о н Р а п е ц ь к а. Не гавары лішняга! *(Захлопвае шкло.)*

Цывін стукае.

С ы м о н Р а п е ц ь к а *(паднімае шкло).* Пакінь стукаць!

Ц ы в і н. Скажы, што ў горадзе робіцца?

С ы м о н Р а п е ц ь к а. А пакінеш стукаць?

Ц ы в і н. Пакіну.

С ы м о н Р а п е ц ь к а. Пабажыся!

Ц ы в і н. Няхай твой бог будзе табе за сведку!

С ы м о н Р а п е ц ь к а. Салдаты прыехалі з фронту і флаг вывесілі.

Ц ы в і н. Які? Зялёны?

С ы м о н Р а п е ц ь к а. Не, чырвоны! *(Захлопвае шкло.)*

Ц ы в і н. Леапольд, чуеш?

У калідоры бягуць. Бразгаюць дзверы. Пасля ўсё сціхае. Цывін стукае ў дзверы.

С ы м о н Р а п е ц ь к а *(паднімае шкло).* Ты ж казаў, што больш стукаць не будзеш!

Ц ы в і н. Ты ж мяне да канца не даслухаў. Дзе ж твой начальнік?

С ы м о н Р а п е ц ь к а. Пабег некуды.

Ц ы в і н. А больш дзе начальства?

С ы м о н Р а п е ц ь к а. Усе паўцякалі.

Ц ы в і н. Дык ты адзін астаўся?

С ы м о н Р а п е ц ь к а. Адзін.

Ц ы в і н. Ну, то адамкні дзверы.

С ы м о н Р а п е ц ь к а. Нашто?

Ц ы в і н. Каб мы выйсці маглі.

С ы м о н Р а п е ц ь к а. Вы ж пад арыштам!

Ц ы в і н. Але ж у горадзе рэвалюцыя.

С ы м о н Р а п е ц ь к а. Няхай сабе, але я служу.

Ц ы в і н. Там народ будзе панскую зямлю дзяліць, а ты ўсё служыць будзеш?

С ы м о н Р а п е ц ь к а. Зямлю?

Ц ы в і н. А ты што думаеш? Адмыкай!

Сымон Рапецька. Каб жа я ведаў, што ты праўду кажаш!

Цывін. Глядзі, каб з-за гэтай службы ты зямлі не пратраціў.

Здалёк даходзяць гукі Марсельезы.

Сымон Рапецька. Каб жа ты гэта праўду казаў?

Цывін. Будзеш каяцца, але позна будзе.

Леапольд Гушка. Турэмшчыкам зямлі не дамо.

Сымон Рапецька *(нерашуча адмыкае дзверы)*. Хіба вы, браткі, калі што якое, дык скажаце, што гэта вы самі?

Леапольд Гушка. Скажаш, што мы цябе на порхаўку збілі і самі ўцяклі.

Сымон Рапецька адчыняе шырока дзверы. Леапольд Гушка і Евель Цывін выходзяць.

Цывін *(выходзячы)*. А ў якой камеры яго дачка? Ідзі адамкні.

Сымон Рапецька *(узгарэўшыся)*. Згары ты з яго дачкою! Адмыкай сам, у шостай камеры, у дзвярах з калідора ключ тырчыць! *(Адзін у пустой камеры.)* Ну, цяпер ці не ўскочыў ты, Сымон, у бяду? Гэта добра, калі зямля. А калі ні зямлі і ні службы?.. *(Чухае патыліцу.)*

*Заслона*

## ЧАЦВЁРТАЯ ДЗЕЯ

### Першая карціна чацвёртай дзеі

Хата Леапольда Гушкі. Леапольд Гушка адзін, сядзіць у задуменні. Уваходзіць Ульяна.

Ульяна *(садзіцца, маўчыць, быццам не асмельваючыся гаварыць)*. Можа ад Адася што чуваць?

Леапольд Гушка. Адась у Петраградзе.

Ульяна. Я ведаю. А пісаў што?

Леапольд Гушка. Раней пісаў.

Маўчанне.

Ульяна. Марылькі няма дома?

Леапольд Гушка. Яна пайшла даведацца, што з Цывіным.

Ульяна. Хіба што нядобра?

Леапольд Гушка. Недзе знік і ніякага слыху не падае.

Маўчанне. Уваходзіць Марылька, акідае вачыма хату.

Марылька. Нікога ў нас чужога няма?

Леапольд Гушка *(насцярожана)*. Няма.

Марылька. Трэба схаваць Цывіна. *(Адчыняе дзверы і ўпускае з сянец Цывіна.)*

Цывін. Ніколі не думаў, што і тады, калі царскай улады не будзе, мне таксама прыйдзецца хавацца.

Леапольд Гушка. Чаму?

Цывін. Эсэраўскі камітэт шукае мяне, каб арыштаваць... *(Да Ульяны.)* О, Ульянка... а ты ўсё тут? Ну і маладзец дзяўчына! Ты тады вельмі добра падмяніла Марыльку, калі яе забралі па дарозе на фабрыку.

Сымон Рапецька *(за сцэнай)*. Нядобра робіш, Павал! Гэтыя чатыры дубкі мае.

Павал Няміра *(за сцэнай)*. Я іх браў не ў цябе, а ў Ёткавым лесе!

Леапольд Гушка *(гледзячы ў акно)*. Паўла Няміру і Сымона Рапецьку чорт гоніць.

Цывін. Дзе ты мяне схаваеш? Не садзі толькі ў той хляўчук за хатай.

Леапольд Гушка. У клеці кладзіся на пасцель і спі... Правядзі, Марылька.

Цывін і Марылька выходзяць, за імі Ульяна.

Сымон Рапецька *(за сцэнай)*. Я гэтыя дубкі спілаваў, а ты забраў!

Павал Няміра і Сымон Рапецька ўваходзяць. Абодва ўзбуджаныя, спацелыя, расхрыстаныя, з сякерамі за папружкамі і пугамі ў руках. Наўзахапы адзін перад адным кідаюцца да вядра піць. Павал Няміра першы хапае конаўку і п'е без канца і без меры. Пасля конаўка пераходзіць да Рапецькі. Пасля зноў да Няміры. Крычаць, перарываючы пітво.

Павал Няміра. Адкуль я ведаю, што гэта ты іх спілаваў?

Сымон Рапецька. Кінь, кажу, гэтыя сабачыя штучкі!

Павал Няміра. Чаго ты ўцягнуўся сюды за мной? Я тут не жыву!

Сымон Рапецька. Аддай дубкі!

Павал Няміра. Скулу! Хочаш? *(Закасвае рукавы.)*

Леапольд Гушка. Ты не можаш цішэй быць у гэтай хаце?

Павал Няміра *(сцішэўшы).* Калі валачэцца следам! Чэрці яго ведаюць, чаго ён ад мяне хоча?

Сымон Рапецька. Я ведаю, чаго я ад цябе хачу. Я спілаваў чатыры дубкі, а ты забраў.

Павал Няміра. Я іх раней за цябе быў нагледзеў.

Сымон Рапецька. А я спілаваў.

Павал Няміра. А я нагледзеў.

Сымон Рапецька. А я спілаваў.

Павал Няміра. А я забраў! Вон адгэтуль! *(Закасвае рукавы.)*

Сымон Рапецька *(да Леапольда Гушкі).* Ну, чуеш, што за чалавек твой зяць!

Леапольд Гушка. Ты з ім не займайся, бо пасля рад не будзеш, у яго такая натура. Лепш пайдзі ў панскі лес ды спілуй сабе новыя чатыры дубкі.

Сымон Рапецька. Дык жа няможна ўжо больш. Ётка забараніў, сам у лес з нейкім павятовым камісарам прыязджаў. І камісар той сказаў, што каб больш не секлі, няма такога закону.

Павал Няміра. А то ж бо! Дзе ж цяпер іншых дубкоў узяць?

Сымон Рапецька. Аддай мне дубкі!

Павал Няміра. Зараз ты ў мяне сам як дуб станеш!

Сымон Рапецька *(доўга п'е ваду).* Давай напалам: табе два і мне два.

Павал Няміра. Бяры аднаго, калі гэта сапраўды ты іх спілаваў. Таго падкрыўчыстага бяры.

Сымон Рапецька. Ах, каб табе, чалавеча, ногі пакрывіліся!

Павал Няміра. Няхай крывяцца.

Сымон Рапецька. Ты глядзі! Круцячы, свет пройдзеш, але назад не вернешся! *(Садзіцца на лаву, маўчыць і закурвае.)*

Павал Няміра. Я хачу пагаварыць з жонкай і цесцем, і за сведку я цябе не прасіў. Вымятайся адгэтуль!

Сымон Рапецька. Пакуль два дубкі не аддасі, з хаты не выйду.

Павал Няміра. Гэта хата не мая, а яго! *(Паказвае на Леапольда Гушку.)*

Сымон Рапецька. Ён мяне з хаты не прагоніць.

П а в а л  Н я м і р а *(да Леапольда Гушкі).* Скажы яму, каб выйшаў адгэтуль.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Вы мне абодва не патрэбны — ні ён, ні ты.

С ы м о н  Р а п е ц ь к а. Э-э, пане браце! Я ж цябе з астрога выпусціў! Ты казаў, што зямлю дзяліць будзеце. Дзе ж тая зямля? Зямля як была ў пана, так і астаецца. Ужо з сягонняшняга дня нават і ламачыны ў лесе не высячэш. От табе твая зямля! Твой гэты Цывін толькі дакляроўваць умеў.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. То ідзі станавіся назад на службу.

С ы м о н  Р а п е ц ь к а. Каб тады не вы, то я і дагэтуль служыў бы. А то кінуў, спадзеючыся на вашы абяцанкі, а цяпер там ужо на маім месцы іншы чалавек, а я адно хаджу ды пачухваюся.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. От што я вам скажу абодвум. Выходзьце адгэтуль і дзе-небудзь там у мяне за хлявом хоць цэлую ноч дзяліце свае дубкі.

П а в а л  Н я м і р а *(да Сымона Рапецькі).* Чуеш, што ён кажа? Пайшоў вон адгэтуль!

С ы м о н  Р а п е ц ь к а. Але ж ён тое самае і табе кажа!

П а в а л  Н я м і р а. Мала што ён кажа! Тут мая жонка і дзіця! А ты чаго тут?

С ы м о н  Р а п е ц ь к а. Ну, пачакай жа, чортава душа! Ты ў мяне зараз адгэтуль пабяжыш, але позна будзе! *(Бразнуў дзвярыма і пайшоў.)*

П а в а л  Н я м і р а. Дзе Марылька?

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Няма дома.

П а в а л  Н я м і р а. Няпраўда! Яна толькі што ішла сюды з гэтым Цывіным. Ты думаеш, я не бачыў?

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Нічога ты не бачыў.

П а в а л  Н я м і р а. Не бачыў? Ты зноў ці не хаваеш гэта яго? На чорта табе гэта? І надалей гібець хочаш?

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Не, надалей я гібець не хачу.

П а в а л  Н я м і р а. Не хочаш? А што ты зрабіў для сябе?

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. А ты што зрабіў?

П а в а л  Н я м і р а. Я з Ёткавага лесу дзерава на дзве хаты навазіў. Цэлая гара дубу ў мяне на двары ляжыць. Дубовым парканам абгараджуся! Дубовая брама стаяць будзе.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Тады возьмеш мяне за парабка.

П а в а л  Н я м і р а. Калі будзеш такі, то ў парабках і век свой звякуеш. Вы заўсёды жылі галетнікамі, так у каравых анучах і ў магілу ляжаце, дурні.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Тваё горла волю пачула? Увесь свет глынуць хочаш? Хамула, хамскае горла! Як Сурвіла, хадзіць хочаш, за шырокі зад рукі заклаўшы. Зад адгадуеш!..

П а в а л  Н я м і р а. А ты чаго чакаеш? Можа, на Адася спадзяешся? Думаеш, можа ён табе паможа? Чаму ж гэта ён дадому не вярнуўся, калі ўсе варочаліся? Недзе цягаецца па свеце, шукаючы, мусіць, лёгкага і дарэмнага, каб без працы, хлеба.

Уваходзіць М а р ы л ь к а. Слухае.

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Не чапай Адася! Ты не варт падэшвы яго старога бота. Ён усяго сябе аддаў за народ.

П а в а л  Н я м і р а. А-а-а, Цывінавы словы!

М а р ы л ь к а. Чаго ты прыйшоў сюды крычаць?

П а в а л  Н я м і р а *(зменьвае тон)*. Я прыйшоў не крычаць, а пагаварыць з табой.

М а р ы л ь к а. Пра што ж ты хочаш са мной пагаварыць?

П а в а л  Н я м і р а. Марылька!.. Я тут астануся, або забірай дзіця і хадзем да мяне... Ну?.. Чаго ж маўчыш?

М а р ы л ь к а. Як жа я з табою жыць буду, з такім хамам?

П а в а л  Н я м і р а *(крычыць)*. Ага, Цывін настройвае цябе супроць мяне?! Ён і тады гэтай сваёй забастоўкай адарваў цябе ад мяне! Ён і цяпер збівае *(да Леапольда Гушкі)* з тропу цябе, а ты яе! Дзе ты яго хаваеш? Яго шукаюць, а ты хаваеш?!

М а р ы л ь к а. Нікога тут няма!

П а в а л  Н я м і р а. А ты ж яго вяла сюды! Дзе ён?!

Уваходзяць К а с т у с ь  С у р а в е ц і М і х а л  Т а к а р ч у к.

К а с т у с ь  С у р а в е ц. Добры вечар!

Л е а п о л ь д  Г у ш к а. Добры вечар.

М і х а л  Т а к а р ч у к. Змяркаецца. Сяджу гэта я ў хаце, аж ён прыходзіць. *(Паказвае на Сураўца.)* Закурылі мы, пасядзелі, а пасля ён і кажа мне: так і так, кажа,

можа, ці не пайсці да Леапольда Гушкі? Праўда, падумаў я, трэба ж раіцца, што рабіць?

Павал Няміра *(з раптоўнай заінтрыгаванасцю, бадай-што з крыкам)*. Пра што раіцца?

Міхал Такарчук *(з шчырай крыўдай)*. Чаго ты на мяне так вызверыўся?

Павал Няміра. Я пытаю.

Леапольд Гушка. Так не пытаюць!

Міхал Такарчук з непаразуменнем глядзіць на Паўла Няміру.

Кастусь Суравец. Гэта ж я табе, Павал, забыўся сказаць адразу... Мужык мужыком на векі вяком, падумаў я, ідучы паўз твой двор.

Павал Няміра *(задзірыста)*. Чаму гэта ты так падумаў, каля майго двара ідучы?!

Кастусь Суравец. Сымон Рапецька гэты ўзяў сваіх чатырох шваграоў, цесця ад першае жонкі, цесця ад другое жонкі, двух стрыечных братоў і пасынка. Уз'ехалі на твой двор з фурманкамі, кладуць на вазы дубовыя круглякі і крычаць, што ты не будзеш карыстацца Рапецькавымі дубамі. Як кірмаш у цябе на двары. Гармідару — на паўсвета.

Міхал Такарчук. От бо людзі, адзін аднаму гатовы горла перагрызці.

Кастусь Суравец. Я ж кажу: мужык мужыком на векі вяком.

Павал Няміра. А божачка! Вы не хлусіце?

Кастусь Суравец. Што мы маем хлусіць?

Павал Няміра. Ай! Ай! *(Рвануўся і знік з хаты.)*

Кастусь Суравец. Але ж і рвануў! *(Рагоча.)*

Марылька *(са спалохам)*. Ён жа пойдзе скажа! *(Выбягае.)*

Кастусь Суравец. Што скажа?

Леапольд Гушка. А-а, гэта так сабе!

Міхал Такарчук. Вельмі ж табе, Леапольдзе, зяць сквапны папаўся. Усё яму мала, мала...

Леапольд Гушка. Які ён зяць!..

Міхал Такарчук. Ды я чуў, што ў вас так пайшлося... Нічога, будзе неяк жыцца... Гэта адно што дзіця як без бацькі ў Марылькі.

Кастусь Суравец. Можна было б жыць, каб зямля... Думалася, што рэвалюцыя, што Ётку па шапцы, што зямля астанецца людзям. Думалася, што чалавеку

будзе на чым з працаю разгарнуцца. Аж яно неяк пайшлося, чорт яго ведае як! Пасеклі, пасеклі лесу, ды, як той казаў, і ўсе дуды вобземлю.

Міхал Такарчук. Вы тады, калі з скуры вылазілі, каб купіць зямлі, дык я думаў: от жа ёсць адважныя людзі, а я, мой божа, не адважуся апошнюю сарочку з сябе скінуць. А пасля, калі цара скінулі, я думаў: не трэба ўжо і кашулі скідаць, зямля будзе. Аж як прыйшлося, добра кажа, дык няхай такую рэвалюцыю пяруны высмаляць.

Кастусь Суравец. Думалася так: працуй сабе, чалавек, май, што трэба, і жыві, як табе трэба, аж не, парадкі тыя самыя. То быў цар, а гэта нейкі Керанскі чорт ведае адкуль узяўся. А Ётка сабе сядзіць, як сядзеў, хоць ты да яго ідзі ў парабкі прасіся. Добра той Цывін кажа: хоць ты яшчэ адну рэвалюцыю рабі.

Леапольд Гушка. Цывін казаў вам гэта?

Міхал Такарчук. Дзіва, што казаў. Ён нас цяпер так да сябе прыгарнуў, пасля таго, калі ты сказаў нам з ім пагаварыць. От бо чалавек гэты Цывін! Развагу мае разумную. Я яго раней, можна сказаць, і не ведаў. Мала, так... Бачыў часамі...

Марылька адчыняе дзверы, заглядвае ў хату, уваходзіць. Следам за ёю Цывін.

Цывін. Добрага вечара! *(Вітаецца з Такарчуком і Сураўцом.)* Як жывецца, браткі?

Міхал Такарчук. Жывем, як гарох пры дарозе.

Цывін. Як гарох пры дарозе? Чаму ж гэта? Як жа з зямлёй?

Кастусь Суравец. Ну, зямля ж у Ёткі.

Цывін. То можа няхай яна яму і астанецца?

Міхал Такарчук. То нашто ж было пацвельвацца з людзьмі.

Цывін. То, значыцца, Ётка павінен зямлю аддаць?

Кастусь Суравец. А што, ён гэтую зямлю сам рабіў, ці што? На ёй людзі пот лілі, на гэтай зямлі.

Цывін. Гэта праўда.

Кастусь Суравец. А што чуваць там з Петраграда? Там жа вышэйшая ўлада ўся. Можа закон які?

Цывін. Вы ж бачыце, які закон: як уладаў Ётка зямлёю, так і ўладае.

Кастусь Суравец. Ну дык што рабіць, божа мой!

Ц ы в і н. Ленін гаворыць з дня ў дзень, што трэба яшчэ рабіць рэвалюцыю, што рэвалюцыя не скончылася.

М і х а л Т а к а р ч у к. Няхай бы Ленін законам загадаў панам, каб яны аддалі зямлю.

Ц ы в і н. Гэты закон будзе, няйначай. Але гэты закон толькі пацвердзіць ваша сялянскае права на гэтую зямлю. І можа быць, мы хутчэй памаглі б гэтаму закону з'явіцца, каб самі заварушыліся. Чаму ўсе вёскі, што абкружваюць Еткаў маёнтак, не могуць сабрацца і сказаць Етку: вон, прахвост, адгэтуль!

М і х а л Т а к а р ч у к. Каб жа яно, даў бог, так сталася.

Ц ы в і н. Трэба гэта зрабіць. Леапольд, чуеш?

Л е а п о л ь д Г у ш к а. Каб Адась быў тут! Ён вайсковы чалавек, ён памог бы нам.

Ц ы в і н. Я табе, Леапольд, накажу, дзе нам убачыцца, каб пагаварыць, што рабіць, а цяпер пайду. Марылька кажа, што твой зяць бачыў, як я сюды ішоў. Не буду марудзіць. Бывайце, браткі! *(Развітваецца з усімі і выходзіць з Марылькай у сенцы.)*

Г о л а с *(у сенцах)*. Стой!

Ц ы в і н і М а р ы л ь к а ўбягаюць назад у хату. За імі ўваходзяць: н а ч а л ь н і к м і л і ц ы і часовага ўрада і м і л і ц ы я н е р.

Н а ч а л ь н і к *(да Цывіна)*. Рукі ўгару!

Ц ы в і н. А ты хто такі?

Л е а п о л ь д Г у ш к а. Э, я ж цябе ведаю. Ці даўно ты ў гарадку на рынку ўсякімі шахер-махерамі займаўся!

Н а ч а л ь н і к. Я начальнік валаснай міліцыі часовага ўрада.

Ц ы в і н. Ну, дык і прадстаўляй сабе свой гэты ўрад. А чаго ты ў чужую хату лезеш?

Н а ч а л ь н і к. Я не прыйшоў сюды з табою доўга гаварыць!

Л е а п о л ь д Г у ш к а *(рашуча накіроўваецца да начальніка)*. Адкуль ты гэтакі ўзяўся? Гэта ты ў маёй хаце так распараджаешся?

Н а ч а л ь н і к. Ты хто тут?! Хадзі сюды і ты!

Л е а п о л ь д Г у ш к а. От хто я тут! *(Хапае начальніка за каўнер і кідае к парогу.)* Вон, каб тут твайго і духу не было!

Н а ч а л ь н і к *(да міліцыянера)*. Чаго стаіш, як баба?

Міліцыянер. Што ж я ім зраблю? Яны як возьмуцца ўсе, дык нас дваіх у пыл змітусяць.

Цывін. Ідзі дадому.

Начальнік. Вы гэта скора ўспомніце. *(Пайшоў.)*

Кастусь Суравец *(да міліцыянера)*. Лаплявоз ты няшчасны, каб на цябе халера! Хіба табе іншай работы няма?

Міліцыянер. Вы мяне, браткі, не чапайце, я пайду.

Кастусь Суравец. Ідзі, каб ты па свеце не хадзіў! *(Міліцыянер пайшоў.)*

Цывін. Ну, цяпер яны чалавек дзесяць прышлюць. Бывайце! *(Пайшоў.)*

Міхал Такарчук. Ай-ай-ай... От адвагу, браткі, маеце! Каб на мяне, дык я ўжо і маўчаў бы.

Кастусь Суравец. Што ж цяпер рабіць?

Леапольд Гушка. Цывін жа раіў, што рабіць. Ён мне накажа, дзе ён будзе.

Кастусь Суравец. Яны таксама моцныя.

Павал Няміра ўсаджвае галаву ў дзверы, пасля ўваходзіць і садзіцца моўчкі на лаву.

Кастусь Суравец. Ну, як твае дубкі?

Павал Няміра. Адабраў назад.

Кастусь Суравец. А Рапецька зноў забярэ.

Павал Няміра. А я зноў адбяру.

Міхал Такарчук. Так будзеце і валаводзіцца, як пеўні. Хэ-хэ...

Леапольд Гушка. Скончыцца тым, што ён Рапецьку галаву растаўчэ, дык той і аціхне.

Павал Няміра *(узгарэўся)*. І растаўку, калі ў маё палезе! А ты аддаў бы адразу! Галетнік, стары дурань! Спадзяешся на Цывіна? А я калі прыдбаў ад Ёткі дзесяць дзесяцін зямлі, дык маё навек будзе! Марылька, я маю права забраць цябе сілай, калі не хочаш па-добрасці! Ну? Пайшла за мною!.. Не хочаш?! *(Хапае табурэт і замахваецца на Марыльку.)* Вы ў мяне ўсе танцаваць будзеце!

Убягае Ульяна, узбуджаная.

Ульяна. Ад Адася пісьмо! Я на пошту хадзіла! *(Дае пісьмо Леапольду Гушку.)* І табе, Павал, нейкі ліст. *(Дае Паўлу Няміру заклеены ліст.)*

Павал Няміра. Адчапіся з лістом!

Ульяна. Казённы, з воласці прынеслі!

Леапольд Гушка ўчытваецца ў Адасёва пісьмо. Павал Няміра бярэ пісьмо, распячатвае, углядаецца і раптам пачынае трэсціся. Ногі ў яго падгінаюцца, быццам ад слабасці, ён увесь звяў адразу, голас яго робіцца хрыплым, ён яго ледзьве адцягае.

Кастусь Суравец. Што там пішацца такоўскае?

Павал Няміра. Божачка мой, божачка, а-я-яй, ай, ай!

Кастусь Суравец *(падыходзіць, глядзіць у ліст, чытае)*. ...Явіцца для адпраўкі ў ваенную часць...

Леапольд Гушка. Дык цябе гэта Керанскі запрашае назад у войска? Хоць да Ёткі забяжы, падзякуй за белы білет.

Павал Няміра, хапіўшыся за галаву, выбягае. Усе збіраюцца навакол Леапольда Гушкі.

Леапольд Гушка. Адась піша, што бачыў Леніна і слухаў яго, як ён гаварыў з салдатамі.

Міхал Такарчук. А што цяпер Ленін робіць?

Леапольд Гушка. Нічога больш пра Леніна Адась не піша.

Кастусь Суравец. То можа так якія навіны?

Леапольд Гушка. Нічога такога. Жыў, здароў...

Усе маўчаць. Ульяна ўзяла ў Леапольда Гушкі пісьмо, паглядзела ў яго, аддала назад.

Кастусь Суравец. То ты хіба яшчэ раз перагавары з Цывіным і накажаш нам.

Леапольд Гушка. Ад Цывіна адразу да вас прыйду.

Міхал Такарчук. Ды і сам пабойвайся. Кінуў начальніка за каўнер пад парог і думаеш — гэта так табе абыдзецца?

Леапольд Гушка. Прыйдзецца што-небудзь прыдумаць!

Кастусь Суравец. Дабранач.

Кастусь Суравец і Міхал Такарчук выходзяць. Ульяна пасядзела з хвіліну за сталом, падпёршы твар рукамі, прыпала да цёмнай аконнай шыбы, прайшла па хаце, зноў села і паволі ціхом выйшла з хаты.

Леапольд Гушка. Марылька, пашукай у шуфлядзе кавалак паперы, калі дзе ёсць. *(Марылька дастае з шуфляды паперу і карандаш.)* Сядзь, дачушка, пішы Ада-

сю. Напішы ты яму, што хоць была рэвалюцыя, а Ётка зноў хоча, каб я ў яго быў парабкам. І што Цывіна зноў шукаюць, напішы яму. Напішы яму... Я вас пагадаваў... я... ярмо з шыі рваў. Я хацеў плечы разагнуць, стаць на ногі як чалавек... Я хацеў вас бачыць у шчасці і радасці... Я на ўсялякія пакуты ішоў, каб толькі вы не ўведалі таго, як церпіць чалавек, калі ў яго жылы рвуцца, а перад вачыма сцяна, да самага неба, не пускае ісці, засланяе свет, і ззаду чарада хамаў без душы і сэрца пхаюць у магілу каламі, ражнамі, абцасамі...

М а р ы л ь к а *(плача).* Табе цяжка?

Л е а п о л ь д Г у ш к а. Бацька мой быў добры, працавіты... Чысты душою чалавек. А з яго душу даставалі. Ён адцураўся свае радзімы, сюды ўцёк... І, уміраючы тут, душыўся смуткам, што я, яшчэ тады ў самым маладым веку, астаюся не жыць, а ў магіле гібець. Ён жа бачыў усё гэта ў свае апошнія хвіліны!.. Гэты боль засланіў перад ім і тое раскідзістае дрэва, якое расло там, над нашым домам, і якое ён кожны дзень успамінаў. Я яго ледзьве памятаю. Недзе яно там стаіць цяпер, стагодняе... Нехта жыве пад ім... Напішы Адасю, каб ён, калі зноў давядзецца яму ўбачыць Леніна, расказаў яму пра ўсё, калі гэта льга... *(Плача.)*

М а р ы л ь к а. Чаго табе так горна стала?

Л е а п о л ь д Г у ш к а *(пасля доўгай паўзы ўсхапіўся).* Яны будуць прыходзіць у маю хату распараджацца? Абараняць Ётку, які быў панам, а я ў яго парабкам?! *(Доўгая паўза.)* Дачушка, пра ўсё пішы Адасю. *(Апранаецца.)* Пішы, няхай Адась прыедзе, калі можа.

М а р ы л ь к а. Куды ты?

Л е а п о л ь д Г у ш к а. Будзь адна дома. Пайду шукаць Цывіна. *(Выходзіць.)*

*Заслона перад карцінай*

### Другая карціна чацвёртай дзеі

У Ёткавых пакоях. С т а р ы Ё т к а і яго сын У л а д ы с л а ў. Абодва вельмі ўзбуджаныя.

У л а д ы с л а ў Ё т к а. Вы павінны мяне паслухаць.

С т а р ы Ё т к а. Трэба тут перачакаць гэтую анархію. Гісторыя паказвае, што кожнай анархіі рана ці позна прыходзіць канец.

Уладыслаў Ётка. Я не хачу бачыць вашай крыві.

Стары Ётка. Але ж ёсць іншыя партыі, іх камітэты і органы ўлады. Можа гэта і няпраўда, што адбылося ў Петраградзе.

Уладыслаў Ётка. Гэтыя органы ўлады, на якія вы так спадзяецеся, не маглі нават знайсці і арыштаваць тутэйшага бальшавіка Цывіна. А ён за гэтыя дні падняў галаву. Ён упаўнаважыў забіраць нашу зямлю таго самага Леапольда Гушку, які быў у нас за парабка і якога вы некалі былі са службы выгналі. Вы ад яго чакаеце літасці?

Стары Ётка. Што ж рабіць?

Уладыслаў Ётка. З самага ранку стаяць запрэжаныя коні, а я вас не магу ўгаварыць. Выязджайце зараз жа да нашага фальварковага арандатара, ён чалавек дробны і нікому не патрэбен. Там лясная глуш. За ноч даедзеце.

Стары Ётка. А пасля што? А ты?

Уладыслаў Ётка. А я за гэтыя дні наладжу з пэўнымі людзьмі тую справу, за якую я ўжо заплаціў добра. Тыя, што вы казалі, камітэты і органы памогуць нам перабрацца за Баранавічы, а там дарога адкрыта на Варшаву. Там робіцца самастойная Польшча. І там я стану афіцэрам нашай айчызны. Уладзіўшы ўсё, я заеду па вас да арандатара, і мы пакінем гэтую раз'юшаную чэрнь.

Стары Ётка. І ўся наша радавітая ўласнасць пойдзе намарна?

Уладыслаў Ётка. Мы сюды вернемся, тут павінен быць польскі край. Яны вернуць нам наш маёнтак, нават калі і расцягнуць яго. Яны секлі наш лес, але асталася лаза. Пад гэтаю лазою яны пакажуць свае скрываўленыя спіны.

Стары Ётка. А гэтая маёмасць, якую ты парасылаў?

Уладыслаў Ётка. Два табуны лепшых коней і іншую маёмасць ціхом паразбіралі на хутары дробнай шляхты. Там гэта захаваецца да нашага прыходу сюды або да іншага ўсталявання парадку. Татусь, вось гэты спіс раздадзенай у схованы маёмасці аддайце арандатару, няхай ён хавае ў сябе гэтыя весткі, дзе што ў каго наша ёсць. *(Дае спіс бацьку.)* Не будзем марудзіць. Ідзіце адзявайцеся ў дарогу. Зараз выедзем.

Выправаджвае бацьку ў пакоі за дзверы, а сам дастае з пісьмовага стала рэвальверы і зарады да іх. Стук ва ўваходныя дзверы.

Уладыслаў Ётка *(устрывожана)*. Хто там?

Павал Няміра *(за дзвярыма)*. Паночку, дазвольце ўвайсці!

Уладыслаў Ётка адчыняе ўваходныя дзверы, Павал Няміра ўваходзіць. Ён у салдацкім адзенні, але без якой бы там ні было формы і выпраўкі. Трымаецца вольна, рукі ў кішэнях. На плячах два туга напакаваныя ранцы.

Уладыслаў Ётка. Што такое?

Павал Няміра. Вы, паночку, хіба не пазналі мяне? Памятаеце, я вас тады раненага нёс да санітараў, аж мае косці трашчалі.

Уладыслаў Ётка. Дык што ты хочаш?

Павал Няміра *(мнецца)*. Тут, паночку, так што... значыцца...

Уладыслаў Ётка. Гавары хутчэй і выразней.

Павал Няміра. Вы мне, паночку, заплаціце за тое, што я вас нёс. Вы можа, паночку, думаеце, што гэта вельмі лёгка? Вага ў вас не малая.

Уладыслаў Ётка. Што ты хочаш? За тваю фатыгу я даў табе белы білет і паўвалоку зямлі!

Павал Няміра. Э, паночку! На той белы білет, што вы мне выклапаталі, ніхто і глядзець не захацеў. Месяцы два таму назад мяне зноў былі загрэблі ў войска, разам з тымі, што без ніякіх белых білетаў з фронту ўцяклі.

Уладыслаў Ётка. А ты хочаш, навазіўшы з майго лесу дрэва на дзве хаты і дубу на паркан і дзесяць пагрaбоў, сядзець дома? А ваяваць за свабоду?!

Павал Няміра. Калі-бо, паночку, ніхто ваяваць не хоча, разбягаюцца ўсе зямлю дзяліць.

Уладыслаў Ётка. Якую зямлю?

Павал Няміра. Зямлю, значыць... Не адзін жа я ўцёк, усе ўцякаюць.

Уладыслаў Ётка. Дык гэта ты з фронту?

Павал Няміра. Ды от як сеў на цяплушку, ды артылерыйскім пастронкам як прывязаўся, каб ветрам не скінула, дык так чацвёра сутак і прасядзеў. Са станцыі дадому цягнуся. Добры інтэрас, тут будуць зямлю дзяліць, а я каб там сабою вошай карміў?

Уладыслаў Ётка. І адразу сюды?!

Павал Няміра. А што ж, паночку! Я ж вас тады

цягнуў на сабе, аж жылы мае рваліся. Белы білет — нацярна пайшоў, зямлю, што вы мне далі, то цяпер усе і так зямлю возьмуць. То мая ж фатыга астаецца неаплачанай.

Уладыслаў Ётка. Ты прыйшоў грошай вымагаць?

Павал Няміра. Што грошы! Грошы цяпер не ў цане. Вы мне крыху золатам... У вас павінна быць.

Уладыслаў Ётка. Што за нахальства такое!

Павал Няміра. Няхай сабе нахальства, а зараз сюды явяцца і без вашай ласкі зямлю адбяруць. Унь па той бок лесу, я праз вёску праходзіў, дык усе збіраюцца ісці. За што ж я вас валок на сабе гэтулькі вёрст? У мяне аж у вушах гуло.

Стары Ётка *(раптоўна ў дзвярах)*. Уладыслаў, яны ідуць! Мы не паспеем выехаць!

Уладыслаў Ётка. Вы яшчэ не адзеліся ў дарогу? Ах, божа мой!.. Я і двое ўзброеных слуг можам разагнаць выстраламі гэты зброд і паспець сесці на коней. Але вы чаго марудзіце?

Кідаецца за бацькам у глыб пакояў, чутно, як замыкаюць за сабою дзверы.

Павал Няміра *(спрабуе адчыніць за імі дзверы)*. Эй, эй, ваша высокаблагароддзе!.. Замкнуўся... Ты!.. Буржуй!..

Садзіцца за пісьмовы стол, выцягвае шуфляды, дастае адтуль дробныя рэчы, пхае ў кішэні, знімае са сцяны гадзіннік і бярэ пад паху, здзірае сукно са стала. Нагружаецца рэчамі. За сцэнай гул натоўпу. Грукаюць у дзверы.

Леапольд Гушка *(за сцэнай)*. Пане Ётка, адчыняй!.. А то мы самі адчынім!

Дзверы рванулiся. На парозе з'явіўся і застыў ад здзіўлення Леапольд Гушка.

Леапольд Гушка. Ты?.. Што ты тут робіш? Памагаеш Ётку рэчы ўпакоўваць? *(Уваходзіць.)*

Павал Няміра. Няхай цяпер гэты Ётка з дымам і агнём да пана бога на неба.

Леапольд Гушка. Так далёка, аж на неба? Цяжка будзе даставаць, калі зноў захочаш цягнуць яго на сабе.

Павал Няміра. Ты з мяне смешкі строіш? Ты хочаш, каб я цябе слухаў? Як хачу, так і павярнуся на свеце, і ты мне не ўкажаш.

Леапольд Гушка. У мяне за хлеўчуком куча гною ляжыць. Ідзі ляж носам у яе і ляжы сабе. І цёпла, і мякка, і спакойна. *(Ідзе да дзвярэй, за якімі схаваліся Ёткі, і стукае.)* Эй, пане Ётка! Выходзь сюды, нічога не паможа!

Павал Няміра яшчэ больш шукае рэчаў. На дварэ гул галасоў. Дзверы нясмела адчыняюцца, паказваецца стары Ётка, адзеты і сабраны ў дарогу.

Стары Ётка. Чаго вам?

Леапольд Гушка. Дзе ключы ад свірнаў і складаў?

Стары Ётка. Якія ключы вы хочаце?

Леапольд Гушка. Я сказаў.

Уваходзяць Міхал Такарчук і Кастусь Суравец.

Кастусь Суравец. Мы агледзелі ўсе стайні: там усяго васьмёра коней.

Леапольд Гушка. Дзе вы падзелі рэшту коней?

Стары Ётка. Вы зямлю хочаце ўзяць — бярыце, а маёмасць...

Леапольд Гушка *(нецярпліва)*. Дзе коні?!

Стары Ётка. Коні ў стайні.

Міхал Такарчук. Толькі васьмёра. А ў вас было каля сотні.

Кастусь Суравец. А нашто запрэжаныя коні каля ганка?

Стары Ётка. Вы хочаце, каб я пехатой ішоў? Я — стары чалавек?!

Леапольд Гушка. А куды вы ўцякаць уздумалі?

Стары Ётка. Маёнтак і зямлю забіраеце вы, што ж я тут рабіць буду? Я вам саступаю месца. Пусціце. Я пайду. *(Хоча ісці.)*

Леапольд Гушка. Чакай, чакай, пане! Садзіся і расказвай, дзе падзеў коні і маёмасць... Ну?! Нам часу няма тут важдацца з табою!

Павал Няміра. Дзе коні? Давай ключы! Я твайго сына на плячах валок.

Леапольд Гушка *(да Паўла Няміры)*. Адыдзі!

Кастусь Суравец. Цябе ніхто не ўпаўнаважваў.

Павал Няміра *(да Леапольда Гушкі)*. Сабе ўсё сам падгрэбці хочаш? Чакай жа, запрэжаная пара коней будзе мая! *(Выбягае.)*

Леапольд Гушка. Ідзіце, не дайце яму, гэта коні грамадскія. Няхай там не дадуць, скажыце.

Міхал Такарчук выходзіць. За сцэнай адразу гул натоўпу.

Галасы за сцэнай. Самаўпраўства! Коні грамадскія! Адыдзі, не маеш права!

Уладыслаў Ётка выходзіць з пакояў, таксама, як і бацька, гатовы ў дарогу.

Уладыслаў Ётка *(да Леапольда Гушкі)*. Ты хто тут?

Леапольд Гушка. Старшыня ўпаўнаважаных ад пяці вёсак.

Уладыслаў Ётка *(паказвае на Сураўца)*. А гэта хто?

Леапольд Гушка. Упаўнаважаны.

Уладыслаў Ётка. А ну, дай дарогу!

Леапольд Гушка. Ніхто табе, пане браце, дарогі не дасць. Дзе падзеў коні і маёмасць? Унь на двары ўвесь народ стаіць, з кім ты думаеш ваяваць? Нашы людзі такія, што пана па галоўцы гладзіць не будуць.

Уладыслаў Ётка. Таварыш Гушка...

Леапольд Гушка. Які я табе таварыш!

Уладыслаў Ётка. Пане Гушка...

Леапольд Гушка. Я не пан, я чалавек.

Уладыслаў Ётка. Давайце ціха разыдземся. Не будзем рабіць адзін аднаму зла.

Леапольд Гушка. Ці знойдзецца на свеце дурань, які паверыў бы панскаму слову? Ты не будзеш рабіць мне зла, пакуль ты ў маіх руках, а як толькі адчуеш волю, дык у цябе толькі і думкі будзе, каб на мяне хамут ускласці. Або зараз скажаш, дзе маёмасць, або кепска будзе!

Уладыслаў Ётка. Пра якую ты маёмасць гаворыш? Дом, будынкі, зямля — усё перад табою.

За сцэнай гул. Галасы: «Здароў, братка! Упару з'явіўся!» Уваходзяць мужчыны.

Адась Гушка *(убягае ў пакоі, адразу да Еткі)*. Што гэта, ты яшчэ жывы? Не кончыўся тады?

Уладыслаў Ётка. Зараз аддам спіс маёмасці.

Леапольд Гушка. Ты ж, здаецца, хацеў не аддаваць? *(Да мужчын.)* Вядзіце яго туды. *(Паказвае ў глыб пакояў. Мужчыны выводзяць туды Уладыслава Етку.)*

Адась Гушка. Бацька! *(Кідаецца бацьку на шыю.)*

У дзвярах Цывін, за ім увесь вялікі натоўп народу.

Е в е л ь Ц ы в і н *(паднімае ўгару друкаваную паперу).* Таварышы, яны сюды не дапускалі нічога, што ішло з Петраграда. Вось дэкрэт, падпісаны Леніным, аб зямлі. Адась Гушка прывёз. Уся зямля пераходзіць да народа!

Н а р о д. Ура!

Л е а п о л ь д Г у ш к а. Няхай жа ніводная паганая нага не ступіць на зямлю нашай бацькаўшчыны. І няхай ніколі на чалавечую шыю не вернецца ярмо!

Г а л а с ы. Не вернецца! Не дамо!

Ц ы в і н *(да Адася).* Твае плечы не аслаблі ад вялікай работы?

А д а с ь Г у ш к а. Такімі моцнымі, як цяпер, яны яшчэ ніколі не былі.

Евель Цывін і Адась Гушка цалуюцца. З натоўпу выходзіць У л ь я н а і кладзе рукі Адасю Гушку на плечы. Усе знікаюць у глыбіні пакояў. Астаюцца толькі Адась Гушка і Ульяна.

А д а с ь Г у ш к а *(абнімаючы Ульяну).* Цяпер твае вочы будуць вясёлыя.

У л ь я н а. Будзеш тут?

А д а с ь Г у ш к а. Калі навядзем тут парадкі, я паеду ў армію ваяваць з нашымі адвечнымі ворагамі, якія стараюцца вырваць з нашых рук наша шчасце. *(Стаяць, прытуліўшыся адзін да аднаго.)*

*Заслона*

# НА СКРЫЖАВАННІ ДАРОГ

## *Другая карціна з драмы „Аксеня Чадавецкая"*

У лесе, поблізу чыгуначнай станцыі — месца, дзе толькі што было вялікае бежанскае стойбішча. Пад канец ночы мноства людзей пакінула гэтае месца свайго кароткага папасу і рушыла далей у дарогу. Пад зорным небам засталіся датляваць толькі рэшткі вогнішчаў і каля іх параскіданае рыззё — непатрэбнае нават і гэтым, выгнаным у беспрытульнасці, людзям. Далёкая гарматная кананада чутна таксама, як і ў першай дзеі. З чыгуначнай станцыі даходзяць сюды крыкі паравозаў і грукат цягнікоў. На заднім плане шырока ўздымаецца ўгару дарога. На пярэднім плане стагоднія дрэвы. Таўшчэзнае стволле іх, як скала, узнімаецца з зямлі. У гэтым ціхім закутку, быццам адгароджаным ад кіпучага свету, прыткнуўшыся плячом да дрэва, стаіць Аксеня. Апанаваная одумам, яна быццам прыслухоўваецца да ўсяго навакольнага. Каля яе ног некалькі дробных клункаў. Падыходзіць Міхаліна. Аксеня глядзіць на сатлелыя рэшткі вогнішча ў сябе пад нагамі.

Міхаліна. Што ты маўчыш? У цябе языка няма? Ну? Ты ўжо стала яго жонка?

Аксеня. Мой няшчасны бацька застаўся жыць і выратаваўся ад пагібелі. Што мяне Цвірка зрабіў сваёй жонкай — гэта мая ахвяра за бацьку. Я і так перад ім вінавата. Ён не вечны калека, яму толькі трэба зрабіць аперацыю ног, і ён пачне хадзіць.

Міхаліна *(смяецца злым і скрыпучым смехам)*. Чым жа ты вінавата?

Аксеня. Тым, што не здолела зарабіць грошай на яго аперацыю.

Міхаліна. Нявіннае ягнё, святое стварэнне!

Аксеня. Я адразу ўбачыла, як толькі апамяталася, што мне самую сябе на ўсё жыццё прыйдзецца задушыць. А цяпер каб нават я і надумалася заплаціць Цвірку няўдзячнасцю, то позна ўжо думаць пра гэта. Хіба я маю права асіраціць тое дзіця, што ў мяне народзіцца? Што яно мне некалі скажа, калі вырасце без бацькі?

М і х а л і н а. Ангельскія словы, а хітрасць і воўчае сумленне так удала схаваны, што быццам іх і няма ў тваёй сабачай душы. *(Аксеня ўздрыганулася, усхапіла ўгару галаву, але зноў апусціла, саўладаўшы з сабой.)* Святая пакутніца! Ты думала пра тое, што сваім шчасцем ты выкапала яму другому?

А к с е н я. Не дай божа нікому такога шчасця.

М і х а л і н а. Як ты асмельваешся ўсё гэта мне гаварыць у вочы! У тваёй душы драпежніцкія пазуры гнездзяцца! Камень бы затросся, а ты нават не заплакала, калі твайго жаніха забралі і павялі. Не прайшло і паўгадзіны, як ты павісла на шыі другога! *(Аксеня страсянулася, але зноў саўладала з сабой. Садзіцца, дрыжачымі рукамі ломіць дубец і па кавалку кідае ў агонь.)* Жаніх арыштант і брадзяга, а тут не ў бежанцы едзеш, а дадому. І кульгавага хама вязеш.

А к с е н я. Не чапай кульгавага хама! Мой бацька ніколі пры панскім карыце не карміўся, а жыў з працы сваіх рук!

Copyright, etc.? no.

Стараецца перамагчы сваю горкую ўсхваляванасць. Падыходзіць на сваіх мыліцах Ч а д а в е ц к і. Ён спакойны, ураўнаважаны, пакурвае люльку, з сталым выглядам кідае ў агонь дробную ламачыну.

Ч а д а в е ц к і. Нездаровіцца мне нешта цэлы дзень... Задрамаў крыху... *(Да Аксені.)* Няхай бы ты прылягла, заснула, пакуль Цвірка прыйдзе з вакзала, а то сядзіш... Не думай ты так многа, не забівай галавы. *(Да іх абедзвюх.)* Мoжа, і ўдасца Цвірку ўпрасіць чыгуначнага начальніка, каб далей ехаць нам цягніком. Цяжка ўзбіцца на цягнік, народ не толькі што, а зверху на вагонах вісіць. Вайна гоніцца следам. *(Да Аксені.)* Ляж дзе-небудзь, засні. *(Памаўчаўшы.)* Кажуць, што на станцыі салдаты бунтуюцца, на фронт ехаць не хочуць...

Паволі пайшоў, пакурваючы. Міхаліна праводзіць яго злым позіркам.

М і х а л і н а *(пагардліва).* Нічога, мужычок спакоен. Яго сабе вязуць, а ён пакурвае. Спі спакойна, дачушка, я таксама спакойна сплю. Прыйдзе Цвірка — ён павязе. Хамы!

А к с е н я *(не могучы вытрымаць здзекаў, з прылівам скаргі і горнасці прыхінаецца галавой да дрэва).* Татуля мой дарагі! Валодзя заўсёды гаварыў, што будзем жыць

разам, збяром грошай і выратуем цябе ад калецтва. А тут дбаць прыйшлося аб тым, каб ты толькі жывы застаўся. Дзе цяпер Валодзя?

Міхаліна *(змяніўшы адразу тон)*. Ты сапраўды любіла Палея? І не пакідаеш думаць пра яго? Паслухай, калі так, то тут сапраўды не будзе табе радасці. Кінь Цвірку. Я табе дам на дарогу далей грошай. Паедзеш з людзьмі.

Аксеня *(у задумёнасці)*. Як бы я хацела ісці разам з усімі, хоць бы як жабрачка. *(Устрапянулася.)* Я пайду! Не трэба мне тваіх грошай. Я пайду. *(Устала, азіраецца.)* А бацька са мной не можа ісці... А дзіця ў мяне народзіцца. *(Села і апусціла галаву.)*

З цемрыва вырысоўваецца Цвіркава постаць. Ён стаіць і прыслухоўваецца да таго, што гавораць Аксеня і Міхаліна.

Міхаліна. Бацьку на дарогу я дам грошай. І нашто ты сама маеш ісці як жабрачка?

Цвірка *(падбягае да Міхаліны)*. Зялёнае паскудства! Больш ты са мною не паедзеш! Вон!

Ён увесь трасецца ад злосці, сашчэмлівае кулакі, гатовы біць Міхаліну. Яна баязліва адступае назад і знікае. Цвірка вяртаецца да Аксені, бярэ ее рукамі за твар, трасе яе.

Цвірка. Чым ехаць са мной, то табе лепш быць жабрачкай?! *(Апускае рукі, углядаецца ў Аксенін твар; перамагаючы сваю шалёную злосць, зменьвае тон голасу.)* Аксеня... Зноў гэтая ведзьма нацкоўвала цябе на мяне. Больш яна з намі не паедзе. А калі будзе перціся, я дзенебудзь сапхну яе ў рэчку. *(Цягне Аксеню да сябе, прытульвае. Аксеня стаіць як нежывая. Вырысоўваецца постаць Чадавецкага. Цвірка заўважае яго і адступае ад Аксені.)* Не спіцца, бацька?

Чадавецкі. Недабрыцца мне. Грудзі, жывот...

Цвірка. Усё люльку курыш, бацька? Мусіць, ужо і тутунь увесь пакурыў? *(Дастае з кішэні два пачкі тутуню і дае Чадавецкаму.)* На, куры сабе на здароўе, я табе два пачкі тутуню дастаў.

Чадавецкі. Ото ж дзякую вам. Ах, у дарозе тутунь добра.

Цвірка. Ідзі, бацька, засні. Я цябе кажухом сваім накрыю, каб не змёрз.

Узяў яго пад паху і паволі павёў. Аксеня пільна сочыць за ўсёй гэтай сцэнай.

**А к с е н я.** Дзеля мяне ён бацьку глядзіць і шануе. Ці маю я права быць яму няўдзячнай!

Ц в і р к а вяртаецца назад і садзіць Аксеню поплеч сябе на рэштк і паваленага дрэва.

**Ц в і р к а.** Няма чаго і думаць сесці, калі ўсім на цягнік. А яшчэ ў такі дзень, калі поўная станцыя ўзбунтаваных салдат. Але за грошы начальнік цягніка, што адыходзіць з самага ранку, можа ўзяць у свой кут аднаго чалавека. Хіба, можа, з якога выпадку другое месца знойдзецца, але вельмі спадзявацца на гэта нельга. Паедзеш ты адна, альбо, калі ўдасца...

**А к с е н я** *(перабівае).* Альбо з бацькам?

**Ц в і р к а** *(падскочыў як ашалелы).* З бацькам? І паедзеш зусім не туды, куды я хачу? Міхаліна ўгаварыла? Ужо, можа, дала грошы на дарогу?

**А к с е н я.** Сціхні! Чаго ты вар'юешся! Хіба дзіва, што я люблю свайго бацьку? Ты хацеў бы, каб я яго ненавідзела?

**Ц в і р к а.** Думай пра тое, што ты народзіш маё дзіця!

**А к с е н я.** Але ж яно будзе таксама і маё!

**Ц в і р к а.** Паедзем з табой удваіх, калі знойдзецца другое месца.

**А к с е н я.** А бацька?

**Ц в і р к а.** Ён прыедзе з Міхалінай крыху пасля.

**А к с е н я.** То ты гаворыш, што яна зусім з намі далей не паедзе, то хочаш, каб яна везла бацьку?

**Ц в і р к а.** Паедзеш ты адна, другога месца няма, а я з бацькам сяду на які-небудзь іншы цягнік. Не бойся ты, бацька не малое дзіця!

**А к с е н я.** Але ж ён калека!

**Ц в і р к а.** Я ж буду з ім! Ты павінна бачыць, што нават каб я і не любіў яго, то дзеля цябе шанаваць яго буду.

**А к с е н я.** Я гэта бачу.

**Ц в і р к а.** Ты прыедзеш у горад, дасі рамізніку адрас, і ён прывязе цябе на кватэру. Будзеш чакаць нас. А ўсе адразу мы ніколі на цягнік не сядзем... Бацька няхай сабе дажывае веку пры нас, майго ці твайго месца ён на свеце не займе. Нешта ён скардзіцца сёння на нездароўе.

**А к с е н я.** Гэта мяне трывожыць...

**Ц в і р к а.** Знябыўся ў дарозе, што ж, не маладзенькі. Як пачне світаць, я цябе завяду на станцыю і пасаджу ў вагон. Ідзі, засні, пакуль ісці. Ляж на рэчах. Ідзі.

Аксеня паволі ўстае і ідзе задумёная. Цвірка адзін сядзіць і маўчыць. Падыходзіць Чадавецкі. Не заўважаючы спачатку Цвіркі, ён падкідае ў спапялелае вогнішча лом.

Чадавецкі *(сам сабе)*. Жар ператлеў. Каб вецер падзьмуў, то разгарыцца. *(Убачыў Цвірку.)* Выбачайце, я не заўважыў вас. Вы, можа, падумаць што хацелі ў адзіноце, то я не буду перашкаджаць. *(Адыходзіць.)*

Цвірка. Аксеня спіць?

Чадавецкі. Лягла.

Цвірка. Як з здароўем?

Чадавецкі. Недабрыцца. Аслабеў. *(Пайшоў.)*

Цвірка *(яму наўздагон)*. Няхай бы яна ўжо цябе зусім задушыла, гэтая твая хвароба, каб я цябе не вёз больш, чорта бязногага. Дзе цябе падзець, падлу на мыліцах, божа мой, божа! Можа, праз дзесяткі год прыйдзецца трымаць яго на карку. Мужыка, парабка за бацьку мець прыйдзецца! І Аксеня будзе ўсё з ім цацкацца. Хіба каб атруты якое даў!

Рвануўся з месца і пайшоў. Праз хвіліну ён вяртаецца назад з Міхалінай.

Цвірка. Я толькі што ажаніўся, а вы нацкоўваеце на мяне маю жонку. Хіба я магу не злаваць на вас? Падумайце.

Міхаліна. Што тут думаць.

Цвірка. Зрабіце мне паслугу. Я вам аддзякую. Я вас з Аксеніным бацькам пасаджу ў вагон, і вы паедзеце, а я з Аксеняй прыедзем другім цягніком. На адзін цягнік усім не ўдасца сесці.

Міхаліна. Вы хочаце сплавіць бязногага з свае шыі, а мяне адапхнуць ад блізкага суседства. Вы думаеце, я дурненькая? А самі паедзеце зусім не туды, куды нас выправіце? Я вас навылёт бачу.

Цвірка. Пайшла вон, сука!

Міхаліна пайшла, азіраючыся, і ціха, са злым здзекам, рагочучы. Як толькі яна знікла, Цвірка некалькі разоў прайшоўся ўзбуджана каля вогнішча і пачаў разварушваць дробныя клункі з рэчамі.

Цвірка *(мармыча сам сабе)*. У гэтага бязногага чорта ёсць добрая прывычка — есці і піць з свае пасуды, каб не пэцкаць мае.

Дастае з аднаго клунка кубак і пхае сабе ў кішэню. Забраўшы клункі, знік у цемрыве. Уваходзіць Міхаліна з бляшаным чайнікам у руках. Ставіць чайнік і абгортвае яго жарам.

Міхаліна *(стаіць, ускінуўшы галаву ўгару)*. Гадзіна выфранчаная! Гоніш вон і называеш сукай? Мусіць, думаеш, што я не магу бачыць, дзе ты і як паварочваешся? Бязногага мужыка атруціць надумаўся? Труці, сам чорт лепш не прыдумаў бы. Тады лягчэй будзе і цябе самога закапáць. Як я цябе любіла, так цяпер зненавідзела!

Прыслухоўваецца і шпарка знікае.
Уваходзяць Цвірка і Аксеня.

Цвірка. Мала табе задрамаць прыйшлося. Хутка дзень, не трэба марудзіць... Пойдзем на станцыю... А можа, мы з табой удваіх паехалі б?

Аксеня *(заўзята)*. Значыцца, удваіх можна ў вагон сесці? То я паеду з бацькам!

Цвірка. Ціха, ціха, я так сабе гавару. Толькі адно месца ў вагоне. Паедзеш адна.

Аксеня. Мне страшна пакідаць яго аднаго.

Цвірка. Я ж з ім застаюся! Ціха, Аксенька.

Падыходзіць Чадавецкі.

Аксеня. Бывай, татуля.

Чадавецкі. Бывай, дачушка, бог дасць — неўзабаве ўбачымся. Пра мяне лішне не клапаціся, глядзі сябе.

Аксеня. Беражы здароўе. Трымайся яго *(паказвае на Цвірку. Абнімаюцца. Аксеня рыдае. Цвірка бярэ Аксеню пад руку і вядзе. Знікаюць у цемрыве.)*

Чадавецкі *(адзін, Аксені, наўздагон)*. Няхай табе, дзіця маё, будзе шчаслівa на свеце ўсё... Апынуўся адзін сярод усяго свету... Пачынаецца дзень... Зоры цмеюць...

Гаворачы гэта, ідзе ў цемру, праз момант зноў прыходзіць з кубкам у руцэ. Налівае з чайніка ў кубак, намерваецца піць. З цемрыва перад ім вырастае постаць Міхаліны.

Міхаліна. Не пі! Тут атрута! Табе Цвірка насыпаў атруты ў кубак.

Чадавецкі. Нашто?

Міхаліна. Каб ты атруціўся.

Чадавецкі. Чаму?

Міхаліна. Бо ты яму замінаеш на свеце.

Чадавецкі. Як жа я яму замінаю?

Міхаліна. Вязе ён цябе? Жыць у яго будзеш? На чорта ты яму? *(Бярэ ў яго з рук кубак і шпурляе на зямлю.)* А ты жыві яму на злосць, з'явіся да яго, доўгія гады

атручвай яму жыццё сваім існаваннем на яго шыі. Будзь яму горкай прыкрасцю.

Чадавецкі *(страсянуўся ад жаху)*. А дзе ж ён цяпер?

Міхаліна. Аксеню ж на станцыю павёў. Забыўся?

Пайшла. Чадавецкі прыпіраецца плячом да дрэва, пасля, быццам аслабелы, апускаецца на зямлю. Скурчаны, ён сядзіць як уліплы ў стагодні ствол дрэва. З'яўляецца Цвірка. Усхваляваны і трывожны, ён заўважае Чадавецкага, ціхім крокам падыходзіць бліжэй, глядзіць на яго, пераводзіць позірк на яго кубак на зямлі, пасля зноў глядзіць на Чадавецкага і з моцным шэптам: «Не жывы!» — кідаецца ў цемру і знікае. Чадавецкі, апаматаўшыся, падымаецца, становіцца на сваіх мыліцах, адыходзіць ад дрэва.

Чадавецкі. Няшчаснае маё дзіця, святая душа, усю сябе аддала на мой ратунак. Ад той радасці, якой з малых дзён чакала, нічога сабе не пакінула. Навек сябе згубіла з-за мяне. Хіба я воч не маю, каб не бачыць усяго гэтага? Бачу я, шэльма старая, нянавісць яе да Цвіркі і як яна душыць сама сваё сэрца і праз гвалт над сабой трымае сябе пры ім. На агні спаліць мяне мала! Я сам сабе ўбіў у галаву, што мае вочы фальшывяць і што ёй добра, стала быць, на свеце. З-за майго нікому не патрэбнага жыцця яна сваё маладое згубіла навек. Паехала, сама не ведаючы — куды, нашто і павошта. Дзе я знайду цябе і як загладжу сваю гадаўскую віну перад табою?

Шпарка ўваходзіць Міхаліна, уся нагружаная клункамі.

Міхаліна *(узбуджана)*. А Цвірка ўцёк! Няма ні самога, ні коней, ні воза. Паскідаў на зямлю мае рэчы і ўцёк. У-у-у — гад! Цяпер толькі застаецца яго самога злавіць і атруціць. Мацней падпірайся сваімі мыліцамі і паўзі хоць на ўсе дарогі адразу. Бывай. А я пайду на цягнік. *(Шпарка пайшла.)*

Чадавецкі *(пастаяў, пакуль апаматаваўся)*. А куды ён Аксеню адправіў? У які горад Аксеня паехала?!

Рвануўся з усіх сіл следам за Міхалінай. Знікнуў са сцэны. Стомленай хадой уваходзяць Палей і Вялічка.
Палей у салдацкім абмундзіраванні, якое ляжыць на ім не вельмі гладка — ён увесь расхрыстаны, ускалмачаны. Абодва яны садзяцца каля пакінутага вогнішча. Вялічка падкідае ў жар дроў і раздзьмухвае агонь. Палей задуменна глядзіць, як клапоціцца Вялічка.

Палей *(быццам сам сабе)*. Нават на след яе не папаў. Дарэмна я шукаў яе ў гэтым бежанскім стойбішчы: тут

найбольш людзі ледзь паўзуць, а яна з Цвіркам — на пары коней. Так ні бацькі, ні дзяды — ні яе, ні мае не ездзілі. А ў такі момант! Знайшла сабе за што ўчапіцца, каб не толькі не згінуць, але каб наверсе быць над усімі такімі, з якімі сама была змалку роўная. Жаночае сэрца! Бабская душа заўсёды была лжывая. І калі баба працыўная з выгляду і на яе мала хто глядзіць — яна застаецца сапраўдным чалавекам. Калі ж яна прыгожая і да яе ліпнуць, яна тады нават вокам не міргне і адразу прадасць сваю прыгажосць, сумленне і ўсю сваю ранейшую шчырасць, якая ў яе была ад таго, што яна нарадзілася сярод простых людзей. Што ёй да таго, што я, як выгнаны сабака, бадзяюся па гэтых дарогах!

Вялічка. Ну, зноў завёў песню.

Палей. Яна ўжо недзе далёка і тут, мусіць, зусім не была. Дарэмна я тут цэлую ноч прабадзяўся сярод гэтых людзей, выгнаных на жабрацтва.

Вялічка. Сціхні ты лепш. Не магу слухаць, калі чалавек сам на сябе напусціць таго, у што і сам не верыць, і раскалупвае сам сябе бесперастанку. Гэта называецца не жыць, а пэцкацца.

Палей *(не слухаючы)*. Ну, няхай сабе яна! Але бацька! Стары чалавек! І так адразу! Я ў яго быў як сын родны!

Вялічка. Ты ж не ведаеш, як гэта ўсё адбылося! Можа, усё яно было так, што ніякі чорны цень не можа ўпасці на тваю Аксеню.

Палей. З беспрытульнага арыштанта я стаў брадзячым салдатам з чужым імем і дакументамі, каб толькі не быць сапраўдным салдатам і не класці галаву чорт ведае за што... А яна...

Вялічка. Ты толькі натое прыняў імя забітага на вайне чалавека, каб не ісці на вайну?

Палей. Ты сам ведаеш, што не толькі таму. З гэтага толькі пачалося.

Вялічка. Што і казаць, ты мне дапамог многа ў гэтым эшалоне, але не рабіся ты такім — як гнілая салома.

Палей. Калі ты не верыш у мяне як чалавека, то падумай пра тое, што апроч гэтай дарогі, на якую ты мяне ўзвёў, мне няма куды падацца.

Вялічка. Калі ты цяпер ступіў на гэтую дарогу таму, што табе не было куды падацца, то павінен стаць такім,

які не сыдзе з гэтай дарогі і тады, калі раптам знойдзецца і куды інакш падацца.

Палей. А я табе скажу, што гэтая дарога была мне вызначана змалку.

Вялічка. Я думаў, ты гэта з самага пачатку скажаш... Унь два салдаты ідуць, ці не дэзерціры з эшалона. Пагавары з імі.

Падыходзяць два дэзерціры.

Дэзерцір. Пасуньцеся крыху, браткі, дайце салдату нос абагрэць, ноч халодная.

Палей. У гурт хочаш? Баішся, каб наводшыбе на цябе не лішне прыглядаліся непатрэбныя вочы?

Дэзерцір. А ты адкуль ведаеш, чаго баюся, а чаго не?

Палей. Відаць, што ў водпуск ідзеш.

Дэзерцір. А ты едзеш?!

Палей. Ездзіць той, хто мае на чым, а я прывык пешкам хадзіць.

Дэзерцір. Уцякаеш з эшалона?

Палей. З якога?

Другі дэзерцір, які ўвесь час сачыў за гэтай гаворкай, раптам усхапіўся, гатовы з кулакамі кінуцца на Палея.

Другі дэзерцір. Падшпіёньваеш, куды з эшалона салдаты разбягаюцца? Многа вас тут парассядалася навакол. Ну?!

Вялічка *(які ўвесь час сядзеў сцішыўшыся)*. Пачакай, сядзі спакойна.

Другі дэзерцір. А ты хто тут? Такі самы, як і ён? *(Ківае на Палея.)*

Вялічка. Такі самы, але ж ты яшчэ не ведаеш — хто ён. На. *(Дастае з-за пазухі лістоўку і дае дэзерціру. Дэзерціры чытаюць.)*

Дэзерцір. Не злуй, мяне ўзяла злосць на ўсіх гэтых, што падшпіёньваюць.

Вялічка. Ты адразу і прызнаўся, што на фронт ісці не хочаш, а ўцякаеш. Заўсёды май асцярогу, так адразу не кажы, а спачатку добра разгаварыся з чалавекам, а тады дай яму вось гэта *(дае яму пачак пракламацый)*, а тады, калі можна, то і пра сябе раскажы. Такім парадкам усе гэтыя лістоўкі і раздай па дарозе.

Дэзерцір. Гэтыя самыя лістоўкі ў нас у эшалоне салдат раздаваў сёння ўначы.

Вялічка. Можа, гэта я?

Дэзерцір. Не, здаецца, я цябе ў сваім вагоне не бачыў.

Вялічка. То можа ён? *(Паказвае на Палея.)* Прыгледзься добра.

Дэзерцір *(прыглядаецца на Палея)*. Гэта ж ты быў звечара да нас у вагон улез! Як гэта я цябе адразу не пазнаў!

Палей *(да Вялічкі)*. Усё, што ты мне казаў, я ўсё зрабіў.

Дэзерцір *(да Палея і Вялічкі)*. Вы асцеражней, тут шпікаў многа ходзіць.

Вялічка. Я прывык... зараз пайду.

Дэзерцір. Мы і то драла павінны даваць, а не марудзіць тут. *(Да другога.)* Пагрэліся і — марш. Хадзем.

Вялічка. Азірайцеся на ўсе бакі. Шчасліва.

Дэзерціры пайшлі.

Палей. У мяне ўся хандра скончылася.

Вялічка. Чым больш ты будзеш у гэтую справу ўваходзіць, тым ты будзеш шчаслівейшы. Ты станеш зусім іншым чалавекам. Калі ты да канца пойдзеш гэтай дарогай так, як пачаў, то праз шмат год, азірнуўшыся назад, узрадуешся сам аб сабе.

Палей. Але сум па Аксені мяне будзе часта мучыць.

Вялічка. Каб ён цябе не мучыў, то ты быў бы бервяно, а не чалавек. Я тваё Аксені не ведаю, але і мне горка.

Палей. Не будзем больш пра гэта гаварыць. Што мне цяпер рабіць трэба?

Вялічка. Ты падавайся ў гэты прыфрантавы горад, пра які я табе казаў. Адрас, што я табе даў, прывядзе цябе да чалавека, які табе скажа, што рабіць. У гэтым горадзе, відаць, і застанешся на правах адпускнога салдата. Там прамысловы цэнтр і, апрача таго, там асядае многа бежанцаў. Праз месяцы два ў гэты самы горад прыеду і я. Убачымся. *(Падумаў.)* Можа, і на яе след там нападзеш... Такі горад... Вялікі прыфрантавы цэнтр...

Палей. А можа, і не трэба ўжо мне нападаць на яе след. Толькі я шкадую яе скалечанага бацьку. Ён у маёй душы застаўся як родны.

Вялічка. Ты слаўны чалавек, Валодзя. Бывай! Будзь асцярожны. Паважай сябе за тую вялікую справу, за якую ты ўзяўся. Некалі мы спаткаемся і шчасліва ўспомнім усё

гэта. Да таго часу мая Настачка вырасце вялікая... Рэвалюцыю даўно ўжо да таго часу зробім... Так будзем жыць!.. Шчасліва, Валодзя, шчасліва.

Цалуюцца, ціснуць адзін адпаму рукі, і Палей паволі адыходзіць і знікае. Вялічка адзін сядзіць на рэштках паваленага дрэва.

Вялічка *(сам сабе, гледзячы на лес і на зямлю)*. Зараз будзе ўзыходзіць сонца... Восень... ясныя дні стаяць... Трава жоўкне, лес пахне... Што цяпер Настачка дома робіць? Спіць, малая... *(У дрымоце пацягваецца.)* Холадна пад дзень... *(Дрэмле.)*

Падыходзіць паранены салдат. Галава і рука ў яго забінтаваны. Ён усім целам горнецца да агню, калі-пікалі ціха стогне. Вялічка скідае з сябе дрымоту, глядзіць на параненага.

Паранены. Цела ные... Да вечара цягніка чакаць.

Вялічка. Што ж ты, пехатой ідзеш?

Паранены. Пехатой... Пасля перавязкі так і цягнуся... Ледзьве жыву... Смага мучыць.

Кладзецца тварам на руку і ціха стогне.

Вялічка *(падсядае да яго, дае піць з сваё пляшкі)*. Сядзеш на цягнік, заедзеш у шпіталь, падлечышся, паздаравееш, рэвалюцыя будзе, лёгка жыць будзем... *(Гладзіць яго плячо.)*

Паранены. Дзякую, братка, за добрае слова.

Вялічка. Вазьмі пляшку, захочаш яшчэ піць. Праўся... Шчасліва табе...

Даў яму пляшку і пайшоў. Паранены салдат яшчэ адпіў з пляшкі і, прыўзняўшы галаву, глядзіць моўчкі ў агонь. Прыбягае Аксеня.

Аксеня *(сама сабе ў роспачы)*. Ужо апусцела гэтае месца. *(Да параненага.)* Тут старога чалавека на мыліцах не было цяпер?

Паранены. Не было.

Аксеня. І нікога?

Паранены. Салдаты нядаўна былі і пайшлі.

Аксеня. А бежанцы? Вялікі натоўп людзей?

Паранены *(паказвае дарогу)*. Там я спаткаў многа людзей.

Аксеня *(сама сабе)*. Усе пайшлі... разышліся... Бацька з Цвіркам паехаў... Не ўпільнавала я яго... *(Да параненага.)* А на пароконны воз стары не садзіўся?

Паранены. Параконнага воза я не бачыў.

А к с е н я. Я збаялася пакінуць аднаго бацьку з Цвіркам. Мне ўсё здаецца, што ён яго згубіць... Я ўцякла з цягніка назад сюды, я не вытрымала смутку... Ах, праўда, ты нічога не ведаеш... *(У роспачы азіраецца ва ўсе бакі. Чутна, як дзесьці пайшоў цягнік.)* Цягнік пайшоў без мяне... *(Да параненага.)* Слухай, у цябе ёсць дзеці?

П а р а н е н ы. Ёсць.

А к с е н я. Што лепш для дзіцяці: ці калі яно зусім без бацькі, ці калі ў яго бацька — гад і панскі сабака?

П а р а н е н ы. Лепш без бацькі.

А к с е н я *(сама сабе)*. Я пайду разам з усімі людзьмі... Цяпер і Валодзя мяне не асудзіць... *(Шпарка пайшла ў дарогу.)* Як я знайду цябе, дарагі татуля!..

Знікла ў дарозе. З другога боку выходзіць Ч а д а в е ц к і.

Ч а д а в е ц к і. Бяда апанавала... Гора душыць... Аксеня... Валодзя... Дзе мне шукаць вас?

Штосьці мармыча сабе пад нос, падыходзіць да кучы лахманоў, пакінутых бежанцамі, разварушвае іх мыліцай. Не пакідаючы мармытаць, нагінаецца, выцягвае анучы, парваныя мяшкі, нарэшце знаходзіць дзве торбы. Мармытанне яго робіцца галаснейшым, ён накрыж па-жабрацку надзяе на сябе торбы і заўважае каля агню параненага салдата. Штосьці хоча яму здалёк сказаць, той падзывае яго кіўком пальца. Чадавецкі падыходзіць, салдат шукае ў кішэнях, дастае медную манету і працягвае Чадавецкаму. Чадавецкі з неўразуменнем глядзіць, нясмела ўзяў манету, быццам не ведаючы, што з ёю рабіць, развёў рукамі, няспрытна павярнуўся на сваіх мыліцах і пайшоў паволі. Відаць, як ён знікнуў у дарозе.

# БАЗЫЛЕВІЧАВА СЯМ'Я

## *Драма ў адной дзеі*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Максім Базылевіч — калгаснік, здаровы стары, год 68.
Волька Базылевіч — яго нявестка, удава, год 48.

Мікалай — ваенны інжынер, год 28.
Вера — настаўніца, год 23.
Леанід — студэнт медыцынскага інстытута, год 20.
(Вольчыны дзеці, унукі Максіма Базылевіча.)

Рыгор Прановіч — стары калгаснік, таварыш Максіма Базылевіча.
Рытвінскі — польскі шпіён.
Начальнік участка граніцы.

Дзея адбываецца ў прыгранічным калгасе ў 1938 годзе. У хаце Максіма Базылевіча. Ранні вечар. Заходзіць сонца. Пасярод хаты стол, прыгатаваны як для святочнай вячэры. Белы прасаваны абрус звешваецца да самай падлогі, на стале настаўлена ўсялякай яды, стаіць гарэлка і віно. Волька заклапочана каля стала: расстаўляе талеркі, падсоўвае крэслы, нарэзвае каўбасу. Максім курыць і ўглядаецца ў акно. Мікалай выціраецца ручніком, прычэсваецца перад люстэркам.

Волька *(да Мікалая)*. Што, сынок, табе ўжо, мусіць, надакучыла чакаць?

Мікалай. Надакучыць не надакучыла, але, прызнацца, я нічога не меў бы супроць таго, каб хутчэй сесці за гэты стол. *(Разглядае стол.)*

Волька. І нешта доўга няма Веры і Лявонкі. Можа яны і не прыедуць зусім.

Мікалай. От табе і раз. Як гэта не прыедуць. Раз пісалі — значыцца прыедуць.

Волька. Вера-то ўжо скончыла заняткі ў сваёй школе, цэлае лета будзе вольная.

Мікалай. А ў Леаніда ў інстытуце таксама заняткі павінны ўжо скончыцца. Пісаў жа, што к сённяшняму дню прыедзе.

Максім. Чэрці яны абое. Яны маладыя і не думаюць пра тое, як дзеду хочацца з імі выпіць хоць першую чарку. А калі спозняцца, то прыйдзецца ім без мяне піць.

Мікалай. Чаму?

Максім. Сонца заходзіць, і зараз я пайду калгас вартаваць. *(Знімае са сцяны стрэльбу і правярае.)*

Нехта ў сенцах шукае на дзвярах клямкі.

Волька. Нехта ідзе! *(Хапае ручнік і шпарка выцірае рукі.)*

М а к с і м. Гэта няйначай Вера. Эмтээсаўская машына павінна была прыйсці ўжо з горада. *(Ставіць стрэльбу, накіроўваецца да дзвярэй.)*

М і к а л а й *(стараецца забегчы дзеду наперад)*. Я першы яе спаткаю.

М а к с і м. Не, ты ўжо дай мне старому першаму спаткаць сваю ўнучку.

Мікалай адыходзіць к сцяне. Максім становіцца каля дзвярэй. Адчыняюцца дзверы, і паказваецца сівабароды твар Рыгора Прановіча. Мікалай і Волька зарагаталі, збянтэжаны Максім адступае ад дзвярэй.

М а к с і м. Каб ты згарэў, а я думаў, што гэта... *(Рагоча.)*

Са стрэльбай за плячыма ўваходзіць Р ы г о р П р а н о в і ч.

Р ы г о р. Э-э, дык ты чакаеш некага, калі так стол прыгатаваў?

М а к с і м. Унукі да мяне з'язджаюцца ў госці... А ты гэта вартаваць хіба ідзеш? Сёння ж мая чарга. Але калі ўжо выбраўся, то і добра: павартуеш сёння за мяне, а я другі раз за цябе. Я хоць з унукамі пасяджу сёння за сталом. Зараз павінны быць.

Р ы г о р. Не, нам сёння ўдвух прыйдзецца вартаваць.

М а к с і м. Удвух?

Р ы г о р. Наконт гэтага старшыня да мяне прыходзіў... І ён будзе з намі... І яшчэ некаторыя спаць сёння не будуць.

В о л ь к а. А што ж такое?

Р ы г о р. Тут такая справа выйшла, што... *(Раптам убачыў Мікалая і змоўк.)*

М а к с і м. Ну, кажы.

Р ы г о р *(мнецца)*. Выйшла такая справа, што... выйдзем у сенцы, там скажу.

М і к а л а й. Хіба ты мяне, дзед, не пазнаў?

Р ы г о р *(углядаецца ў Мікалая)*. А хто цябе, сынку, ведае, што ты за чалавек.

В о л ь к а. Вы не пазналі майго Мікалая?

Р ы г о р. Дык гэта Мікола, нябожчыка Паўла сын? Гэта ж я цябе не пазнаў, каб я жыў. То здароў хіба. *(Падае Мікалаю руку.)* Даўно ж ты, сынку, не быў у нас. Ты ўсё вучыўся. Кім жа ты цяпер?

М а к с і м. Ваенны інжынер... Учора прыехаў.

Р ы г о р. О-о-о! Паўлаў сын! А ваенны інжынер гэта...

гэта ён што?.. Хе-хе... *(Бянтэжыцца.)* Я, прызнацца, сам ваенным інжынерам не быў, дык добра не ведаю, які ён участак работы трымае.

М і к а л а й. Дык што такое здарылася?

М а к с і м. Ты яго не бойся, гавары смела. Ён не так сабе ваенны інжынер, ён камуніст. Так што мы можам яму давяраць. Я за яго ручаюся.

Р ы г о р. Ага... Ты, Міколка, выбачай, што я так спачатку... Можа у вас там дзе і інакш, а ў нас, каля граніцы, трэба ўмець як валодаць і вачыма, і вушамі, і языком.

М і к а л а й. О, гэта трэба.

Р ы г о р. Дык такая справа выйшла, што... *(Зніжае голас.)* Учора ўночы нейкі чалавек наткнуўся на граніцы на пагранічнікаў, і ўдалося яму ўцячы назад і скрыцца. І ўсе сляды паказваюць, што ён недзе тут каля нашага калгаса ходзіць. Дзень, відаць, ён перасядзеў недзе ціхом, а ўночы заварушыцца. Прыехала некалькі пагранічнікаў, нашы людзі ўжо выйшлі скрозь на дарогі і сцежкі, а мы з табою будзем у самым калгасе глядзець.

М а к с і м *(ірвануўся)*. То давай хутчэй пойдзем.

Р ы г о р. Не, яшчэ з паўгадзіны можам пасядзець. Там яшчэ брыгадзіры і так людзі...

М а к с і м. Калі так, то мы з табой, пане-браце, паспеем яшчэ па маленькай чарцы.

В о л ь к а. А і праўда. Адзін госць ёсць, а Вера і Лявонка зараз явяцца. *(Садзіць Мікалая за стол.)* Садзіцеся, дзядзька Рыгор.

Р ы г о р. Можна падумаць, што я назнарок явіўся туды, дзе смажаным пахне. *(Садзіцца.)* Толькі на адзін момант. Зараз трэба ісці.

Максім налівае чаркі. Волька садзіцца.

М а к с і м *(паднімае чарку)*. Хачу аднаго: каб так, як цяпер у нас, заўсёды было і было. Што год пройдзе, дык і лепш робіцца жыць. Усё лепш і лепш. Чалавеку воля. Чалавеку ўсюды права дадзена. Такім унукам, як у мяне, бывала б, і поп, і пісар, і пан пазайздросціў бы.

Р ы г о р. Дык нашага ж пана сын быў ваенным інжынерам!

В о л ь к а. Зараз явяцца Верачка і Лявонка...

М а к с і м. Дык мы давайце і вып'ем.

Выпілі і закусваюць.

Р ы г о р. Памятаеш, Максім, як мы з табою сварыліся за сенажаць. Мне здавалася, што ты ў мяне перакасіў, а табе здавалася, што я ў цябе перакасіў.

М а к с і м. Цьфу, няхай яно згарыць, брыдка ўспамінаць.

В о л ь к а. Каб не савецкая ўлада, то мае дзеці былі б парабкамі.

Уваходзіць В е р а. Спачатку яе не заўважаюць. Усміхаючыся, яна падыходзіць да стала.

У с е. Вера! Верачка! Дачушка! Сястрыца! Унучка!

Усхватваюцца з-за стала, вітаюцца з Верай, абнімаюць яе.

Р ы г о р. Аж зайздрасць бярэ. Каб я жыў, што напішу сваёй Ганне, каб прыехала ў госці. Вельмі ж добра дзяцей сустракаць, калі і ў іх усё добра, і ў цябе ўсё шчасліва... Але яна не прыедзе, у яе заўсёды справаў многа.

М і к а л а й. А дзе ваша Ганка цяпер?

Р ы г о р. Не вельмі далёка адгэтуль, старшыня сельсавета.

В е р а *(да Мікалая)*. Даўно мы з табой, братка, не бачыліся.

М і к а л а й. Гадоў ужо тры, напэўна.

В о л ь к а. За стол... калі ласка...

М а к с і м. Не, дзеткі. Вы сабе садзіцеся і чакайце Лявонкі, а мы з Рыгорам пойдзем.

Р ы г о р. Трэба ісці.

М а к с і м *(цалуе Мікалая і Веру)*. Гуляйце весела... *(Маўчыць, трасе галавой.)* Явіцца Лявонка і... разам усе... мы ўспомнім, што гэтымі днямі будзе роўна васемнаццаць год, як загінуў ваш бацька... *(Адварочваецца, выцірае слёзы, гаворыць быццам сам сабе.)* Мой... сын... Павал...

Моўчкі бярэ на плечы стрэльбу і разам з Р ы г о р а м выходзіць з хаты. Нейкі час усе маўчаць.

В е р а. Мікола, ты памятаеш тату?

М і к а л а й. Памятаю.

В е р а. Даўно мы з табой не бачыліся і не ўспаміналі разам яго. Раскажы мне пра яго, які ён быў.

В о л ь к а. Сядзьце, дзеткі, за стол.

Усе садзяцца.

Мікалай. Ён быў высокі, вясёлы...

Волька. Хоць і цяжка было жыць, а ён усё, небарак, жартаваў.

Вера. Мне часам здаецца, што я яго магла б успомніць.

Волька. Не, дачушка, табе тады было толькі пяць год.

Мікалай. Я памятаю, што тады быў вельмі сухі і гарачы дзень.

Вера. Мама, раскажы пра татаву смерць.

Волька. Як ён паміраў, я не бачыла.

Мікалай. Ён быў партызан і прыйшоў уночы ў вёску на разведку, і палякі яго злавілі. У жандармерыі да самага дня і пасля цэлы дзень мучылі і дапытвалі. Ён ім нічога не сказаў, ён маўчаў. Ніводнага слова яны з яго не выцягнулі. Наш бацька быў бальшавік, герой. І яго павялі на расстрэл.

Волька. Яго мучыў і расстрэльваў жандар Рытвінскі. Я яго ведала добра, ён не раз здзекаваўся з мяне, дапытваючыся, дзе партызаны.

Мікалай. Наш бацька ляжаў непахаваны ў чыстым полі. Два дні мы нічога не ведалі. А пасля людзі знайшлі яго.

Волька *(ад слёз ледзьве выгаварвае словы)*. Памятаеш, сынок, мы з табой засыпалі яго магілу... А пасля ты, Верачка, падрасла і пачала насіць на магілу кветкі. *(Доўгая паўза. Волька стараецца спыніць слёзы. Сціхае.)*

Мікола. Што гэта з Лёнькам, пісаў, што напэўна сёння прыедзе?

Волька. Верачка, а твае кветкі ўсе цэлыя, растуць перад вокнамі.

Вера паволі ўстае, падыходзіць да цёмнай шыбы, углядаецца.

Вера. Цёмна.

Мікалай падыходзіць да Веры, абое ўглядаюцца ў акно.

Мікалай. Памятаеш, мы былі малыя, і гэты клён ледзьве паднімаўся вышэй агарожы. А гэта ўжо бачыш, якое вялікае дрэва!

Вера. І мы з табой, братка, выраслі ўжо вялікія. Мне толькі дваццаць тры гады, а колькі я ўжо дзяцей выпусціла са сваёй школы!

Мікалай. Верачка, ты тут астанешся з мамай, а я пайду.

В о л ь к а. Куды ж ты пойдзеш?

В е р а. Куды?

М і к а л а й *(да Веры).* Тут шпіёна ловяць. Я пайду. *(Адзяецца, выходзіць.)*

В е р а. Мама, і я пайду.

В о л ь к а. Куды?

В е р а. Як куды? Тут ловяць шпіёна, а я каб у хаце сядзела?

В о л ь к а. Без цябе ёсць каму шпіёнаў лавіць.

В е р а. Не, я пайду. *(Выходзіць.)*

В о л ь к а. Калі так, то і я пайду. *(Выходзіць.)*

Нейкі час сцэна пустая. Пасля адчыняюцца дзверы і высоўваецца ў хату Л е а н і д а ў т в а р, на якім яшчэ ў сенцах расплылася на ўсю шырыню ўсмешка. Агледзеўшы хату, ён зганяе з твару ўсмешку.

Л е а н і д. Нікога няма? Дзе ж яны падзеліся? І навіны няма каму сказаць. А спісваліся ж з Мікалаем і Верай разам прыехаць. Можа, пахаваліся дзе? *(Пералазіць цераз парог, ставіць на падлогу цяжкі чамадан.)* Эй, дзе вы тут, чэрці?! У мяне навіны, якіх вы і не чакалі ніколі. *(Азіраецца.)* Можа не прыехалі? *(Падыходзіць да стала.)* Э-э, прыехалі, пілі і закусвалі і мяне не чакалі. Пачакайце ж, чэрці, я перад вамі ў крыўду не дамся, я сваю частку і без вас вазьму, калі вы такія. І пасля пашкадуеце, што вас не было ў гэты момант, калі я з такой навіной увайшоў у хату. Ну і навіна! Вось вестачку, дык вестачку старшыня прывёз! *(Садзіцца за стол, разглядае бутэлькі.)* Гарэлка! Гм... Ці няма чаго смачнейшага... Віно? О, гэта і хворым даюць. *(Налівае, выпівае і накідаецца на яду.)* Панасмажвала маці ўсяго. *(Моўчкі есць.)*

Уваходзіць Р ы г о р  П р а н о в і ч.

Р ы г о р. А, Лявонка! Дык гэта ты ўжо явіўся, сынок? А тут цябе чакалі, чакалі і ніяк прычакаць не маглі. Прызнацца, і я на гэтае чаканне быў трапіў.

Л е а н і д. Лезьце сюды, за стол.

Р ы г о р. Але ж ты, браце, і цярэбіш здорава.

Л е а н і д. Памагайце, дзядзька Рыгор, кажу вам.

Р ы г о р. Няма, пане-браце, часу. Я забег на адну хвілінку, напіцца, ваш Мікалай мяне падмяніў. Такая смага мучыць... Тут недзе ў вас квас стаяў. *(Чэрпае з вядра, п'е.)*

Л е а н і д. Дзед Рыгор, адну ўсяго чарку, кажу вам.

Р ы г о р. А я табе кажу, што не маю часу.

Л е а н і д. А што вы дзе такое робіце?

Р ы г о р. Хочаш, каб я табе так адразу і сказаў? Ты камсамолец, ці як?

Л е а н і д. Камсамолец.

Р ы г о р. Пабажыся.

Л е а н і д. Дальбог, камсамолец.

Р ы г о р *(раздумвае)*. Варашылаўскі стралок ці не?

Л е а н і д. Стралок.

Р ы г о р. Пакажы знак.

Л е а н і д. Вось ён. *(Паказвае на сабе знак.)*

Р ы г о р *(падумаўшы, знізіўшы голас да шэпту)*. Шпіёна ловім. *(Моцна.)* Мы стаім на сваім месцы, а ён не ідзе, халера. А мяне калі апанавала смага. А тут якраз ваш Мікалай... Ну, забалбатаўся я з табой. *(Пабег з хаты.)*

Л е а н і д. Гм... шпіёна ловяць? Пабягу і я. *(Усхватваецца, на хаду налівае віна, адным глытком выпівае, пхае ў рот закуску.)* Там ім і навіну скажу, толькі каб ведаць, дзе яны там. Папацёмку ці знайду, ды можа і не да гэтага будзе.

Пабег. Чуцен стрэл, далёкія галасы, пасля другі стрэл. Зноў галасы, ужо бліжэй, каля самае хаты, пасля ў сенцах. Убягае В о л ь к а, шырока адчыняе дзверы. М і к а л а й і В е р а ўводзяць у хату М а к с і м а, падтрымліваючы яго пад рукі.

М а к с і м. Чаго вы так мяне трымаеце, я і сам іду.

В о л ь к а. Мала што сам.

Садзяць яго на ложак, знімаюць з нагі бот. Глядзяць нагу.

В е р а. Кроў сочыцца.

В о л ь к а *(падбягае з чыстым палатном, прыкладае да раны)*. Гэта каб Лявонка быў дома, ён паглядзеў бы.

М а к с і м. Праз год доктарам будзе... Баліць...

М і к а л а й. Унь жа яго чамадан каля дзвярэй. Мама...

В о л ь к а. Пабягу, гукну, можа, дзе паблізу. *(Пабегла.)*

М а к с і м. Дык, напэўна, яго злавілі?

М і к а л а й. Пры мне было. Злавілі.

М а к с і м. Калі я яго спыніў, ён кінуўся ўцякаць. Я за ім пабег і закрычаў: «Стой, страляць буду». Ён азірнуўся і стрэліў у мяне з нагана, але я таксама паспеў яшчэ стрэліць. Ён пабег.

Мікалай. Там яму загарадзіў дарогу начальнік участка граніцы, і ён ужо хацеў страляць, але ззаду яго хапіў за рукі Рыгор Прановіч.

У хату шпарка ўбягае Леанід.

Леанід. Шпіёна злавілі! Вы ведаеце, што я чуў ад старшыні сельсавета па дарозе? Я з ім ехаў.

Мікалай. Гэты шпіён дзеда раніў, ідзі глядзі.

Леанід адразу змоўк, падбягае да ложка, на якім ляжыць Максім, і глядзіць рану. Уваходзіць Волька.

Волька. Не знайшла... А, ён ужо тут.

Леанід. Куля сядзіць, але не глыбока, косці не зачапіла, нічога, зараз дастану. Глупства. *(Кідаецца да чамадана, дастае бінты і хірургічныя інструменты.)*

Мікалай. Інструмент з табой?

Леанід. Я з ім ніколі не разлучаюся.

Дастае кулю, забінтоўвае нагу, Максім стогне.

Максім *(стогнучы)*. Якую ж ты навіну пачуў?

Леанід. Старшыня сельсавета, з якім я ехаў са станцыі, атрымаў на станцыі пошту. Па дарозе распячатваў яе. У адным пісьме з нейкага завода быў афіцыйны запрос, ці сапраўды Павал Базылевіч, які там працуе, родам з нашай вёскі, як ён сам сцвярджае, і ці сапраўды ён быў партызанам, як гэта напісана ў яго старых дакументах.

Максім *(рвануўся, зноў сеў, крывячыся ад болю)*. Не можа быць. Мой сын загінуў як герой.

Волька. І я не веру. Памятаеш, Мікалай, як мы яго хавалі?

Вера. Вы маглі не пазнаць яго мёртвага.

Леанід. Жыццё такая складаная рэч, што ўсё можа быць.

Усе маўчаць, усхваляваныя, гледзячы адзін аднаму ў вочы.

Максім. Лявон, гэта праўда, што да старшыні такі пакет прыйшоў?

Леанід. Праўда. Пытаюць пра Паўла Максімавіча Базылевіча.

Максім. Правяраюць! Нешта там правяраюць. Калі гэта так... Ой-ой... *(Са стогнам падае на пасцель.)*

Леанід. Ты ляжы, трэба, каб твая нага была ў спакоі.

Кладзе яго на падушку. Усіх апаноўвае маўчанне. Вера прыпадае тварам да сцяны і плача, Мікалай садзіцца і маўкліва падпірае твар рукамі. Волька плача, седзячы на краю ложка, дзе ляжыць Максім, Леанід хавае ў чамадан свае інструменты. Нехта ў сенцах шукае на дзвярах клямкі, Леанід адчыняе дзверы. Уваходзіць пануры Рыгор Пpановіч, становіцца пасярод хаты і доўга маўчыць. Пасля, заікаючыся, прыцішаным голасам гаворыць.

Рыгор. Гэтага шпіёна я хапіў ззаду за рукі, калі ён, раніўшы цябе, адбегся і намерыўся страляць у начальніка ўчастка граніцы. Ад яго адабралі наган і дакументы. Я стаяў пры гэтым. Начальнік граніцы зірнуў у дакументы і калі прачытаў, як ён завецца, дык я за галаву хапіўся. Браткі мае родныя, падумаў я сабе. Гэта ж... гэта... Ён прачытаў у дакументах — Базылевіч Павал Максімавіч.

Усе павярнулі свае застыглыя твары да Рыгора. Максім становіцца на ногі.

Максім. Ты выдумляеш!

Рыгор. Такую рэч выдумляць, то няхай лепш у маёй галаве мазгі высахнуць.

У сенцах голас начальніка ўчастка граніцы: «Вы стойце тут, у сенцах». У адказ голас: «Ёсць, таварыш начальнік». У хату ўводзяць шпіёна і за ім начальнік участка граніцы з наганам у руцэ. Рыгор становіцца са сваёй стрэльбай насупраць шпіёна, гатовы ў кожную мінуту страляць.

Начальнік. У дакументах яго напісана, што ён якраз адгэтуль родам. І прозвішча яго сыходзіцца з вашым.

Максім *(кідаецца на пасцель, вачыма да сцяны)*. Калі б ён быў калі-небудзь маім сынам, то я яго пракляну ў той момант, калі ўбачу, што гэта ён.

Начальнік. Як твая нага, стары?

Леанід. Нічога, скора зажыве.

Волька, Рыгор і Леанід углядаюцца ў шпіёна.

Начальнік. Стары, павярніся, глянь на яго.

Максім. Лепш бы мае вочы на свет не глядзелі.

Начальнік. Нічога, стары, бывае ўсё на свеце. Глянь, памажы следству.

Леанід падбягае і памагае Максіму павярнуцца. Максім доўга ўглядаецца ў шпіёна.

Волька *(дрыжыць ад узбуджанасці і хвалявання)*. Гэта ён...ён... той самы!

Максім. Пазнаў! Гэта ён! Той самы жандар, што расстраляў майго сына!

Волька. Рытвінскі, жандар Рытвінскі!

Рыгор. І я пазнаю! Той самы. *(Падступае да шпіёна.)* А ці памятаеш, пане Рытвінскі, як ты мяне спаласаваў бізуном, што на мне ніводнага жывога месца не асталося... васемнаццаць год таму назад...

Начальнік *(да шпіёна)*. Ты расстраляў партызана, забраў у яго дакументы, астаўся ў нас і, прыкрываючыся гэтымі дакументамі, шпіёніў тут васемнаццаць год? І цяпер прабіраўся ў Польшчу? Усё ясна. А ну?

Максім. Забойца!

Волька *(падбягае з кулакамі)*. Гад! Згубіцель! Крывапійца!

Рыгор. Звер! Панскі сабака!

Начальнік. Марш!

Шпіён ідзе з хаты, за ім начальнік з наганам і Рыгор са стрэльбай. Чуцен у сенцах тупат ног і стук знадворных дзвярэй. Начальнік уваходзіць у хату.

Начальнік *(падыходзіць да Максіма)*. Ну што ж, да мяне ў машыну і паедзем да доктара?

Леанід. Я думаю, што не трэба, куля сядзела зверху, я зрабіў усё як належыць.

Максім. Мусіць і праўда, што не трэба ехаць. Ён хутка паўнапраўны доктар будзе. А ў мяне — пабаліць і пакіне. На маім вяку ўсяго здаралася.

Начальнік. Ну, дзякую, што памаглі нам.

Максім. Гэта мы вас павінны дзякаваць, гэта ж вы нам памагаеце.

Начальнік *(садзіцца на край ложка)*. У 133 артыкуле Канстытуцыі СССР сказана: «абарона бацькаўшчыны ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна СССР». Гэтыя вялікія словы грунтуюцца на народнай волі і сіле, якая так выяўлялася толькі што, калі мы змагаліся з ворагам. Ты ведаеш, якую перамогу мы сёння маем? У гэтага шпіёна былі вельмі важныя матэрыялы, якіх суседняя фашыстоўская дзяржава толькі і чакае.

Максім. Нічога ў іх не выйдзе. Быць зноў у няволі? Не, дзякуй за ласку... У мяне да вас просьба. Калі маеце вольную гадзінку, можа б, пабылі крыху ў нас. У мяне, бачыце, сёння ўнукі паз'язджаліся. Пабудзьце ў нас госцем.

Начальнік. З вялікай ахвотай.

М а к с і м. Знаёмцеся. Гэта Вера, настаўніца. Гэта Мікалай, ваенны інжынер. А гэты пстрыкун *(паказвае на Леаніда)*— хутка выйдзе за доктара.

Начальнік знаёміцца з усімі. Усе садзяцца за стол і падымаюць тост.

*Заслона*

# ІРЫНКА

## *Драма ў 4-х дзеях*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Ксавэры Лямэнт — асаднік, чалавек жвавы, рухавы, мае пяцьдзесят год.

Юзэфа (Юзя Тамашэўская) — Лямэнтава наймічка, дзяўчына год трыццаць.

Чарноцкі — буйны дзяржаўны чыноўнік у адным з міністэрстваў Польшчы. Маёнткі яго асталіся на тэрыторыі БССР. Мае год шэсцьдзесят.

Ярашэвіч — дэфензіўны чын у павеце, малады пан. Яму было не больш дзесяці год, калі бацька яго страціў свой маёнтак на тэрыторыі БССР. Служыць таму, што не мае іншага спосабу жыць.

Зыгмусь — Ярашэвічаў шафёр.

Хартановіч — год пад сорак. Некалі ўцёк з БССР у Польшчу.

Канстанцін Міхалковіч — дырэктар прыгранічнай МТС, у былым маёнтку пана Чарноцкага. Мае год шэсцьдзесят. Яшчэ з тысяча дзевяцьсот пятага года паміж ім і Чарноцкім устанавілася вялікая варожасць.

Мікалай Міхалковіч — сын Канстанціна Міхалковіча, мае год сорак, жыве з сям'ёй каля граніцы ў Польшчы на зямлі пана Чарноцкага. Плаціць арэнду за займаемае месца. Зямлі ў Чарноцкага тут асталося не больш дзесяці дзесяцін. На гэтых мізэрных астачах ад колішніх вялікіх уладанняў ён ужо не можа панаваць.

Насця — Мікалаева жонка, спрацаваная і хворая жанчына. Калі яна гаворыць са сваёй малой дачкой Ірынкай, на твары яе часта з'яўляецца ціхая ўсмешка і вочы гараць вялікім імкненнем. Тут яшчэ асталіся рысы ад мінулай маладосці.

Ірынка — дачка Мікалая і Насці. Ёй год дзесяць.

Валя — унучка Канстанціна Міхалковіча. Бацька яе — сын Канстанціна Міхалковіча — палкоўнік Чырвонай Арміі. Яна госціць у свайго дзеда. На два гады старэйшая за сваю стрыечную сястру — Ірынку.

Чырвонаармеец.

## ПЕРШАЯ ДЗЕЯ

*Чысты пакой у доме Ксавэрыя Лямэнта. Абразы, на камодзе крыж з Хрыстом, радыёпрыёмнік, люстэрка, паляўнічыя стрэльбы і карабін, піяніна. Партрэты Пілсудскага і Рыдз-Сміглы, цвёрдая дзеравяная маляваная канапка, стол, камін, букет з вяргінь. Вечар. Гарыць лямпа, збіраецца на дождж. Чуецца далёкі, глухі гром. Маланка часта прабягае па чорных шыбах пакоя. З кожным разам грымоты бліжэйшыя.*

*Ксавэры Лямэнт, у высокіх ботах, у плашчы і шапцы, гатовы некуды ісці, знімае са сцяны стрэльбу. Гэта чалавек бадзёры і рухавы. Ён любіць сябе і ад усялякага пярэчання адразу ўспыхвае злосцю. Цяпер ён у вельмі добрым настроі. Паварочваецца лёгка, спрытна — і таму, што ўсім на свеце задаволен, і таму, што пяцьдзесят пражытых год не гнятуць яго якім-небудзь нездароўем або адчуваннем блізкай старасці, і таму, што каля яго маладая жанчына. Юзя Тамашэўская змятае гусіным крылом у талерку недаедкі са стала, на якім у непарадку стаіць яшчэ некалькі талерак. Яна працуе павольна і трымае сябе так вольна, быццам яна тут адна і ніхто на яе не глядзіць. Яна адзета проста, як да работы, але чыста і з прэтэнзіяй на какецтва. Ксавэры Лямэнт не зводзіць з яе вачэй.*

Лямэнт. Для таго, каб ачысціць стол, трэба казаць. Сама не ведаеш?

Юзя *(весела і хітра)*. Адкуль жа я магла ведаць, што вы сёння дадому прыедзеце. Вы ж, як пайшлі пазаўчора, дык аж да сённяшняй раніцы.

Лямэнт. Дык тры дні гразь на стале.

Юзя. Гэта ж вы з гасцямі елі.

Лямэнт. Гразь... Каўбасы вывешвала на сонца?

Юзя. Ці свінні елі, ці шляхта папаску мелі.

Лямэнт. Пра каўбасы пытаю.

Юзя. Гэтыя каўбасы даўно ўжо з'есці пара, а то ўжо іх чэрві ядуць.

Лямэнт. Чаго адгырkваешся? Хто ты тут у мяне?

Юзя *(рагоча)*. Служанка.

Лямэнт кладзе стрэльбу на стол, заходзіць ззаду да Юзі і хапае яе за плечы. Юзя адбягаецца. Лямэнт, растапырыўшы рукі, ловіць яе. Ён раптам размяк, асалавеў, гордая пастава яго сышла на нішто, ад усяго яго тхнула старасцю.

Лямэнт. Гадаўка... Калі зарагоча, дык не вытрымаць... Юзя.

Юзя. Толькі ж чатыры дні, як вы жонку пахавалі.

Лямэнт. А пры жонцы які я да цябе быў?

Юзя *(рагоча)*. Такі самы. *(Круціць гусіным крылом па яго твары.)*

Лямэнт *(з успышкай злосці)*. Што робіш, крыло мокрае. *(Плюецца, адыходзіцца да люстэрка і выцірае твар.)* Ты... Я цябе, можа, замуж хачу ўзяць, а ты...

Юзя. Э, я ад вас гэта ўжо другі год чую...

Лямэнт *(перабівае)*. Дык тады ж яна жыва была.

Моцны грукат грому з маланкай. Пачынае шумець дождж. Лямэнт устрапянуўся, бярэ стрэльбу.

Юзя *(прымірэнчым тонам)*. Ноч, гром, дождж... Куды вы зноў напроці ночы?

Лямэнт *(увесь распаліўшыся)*. А ты што, мяне шкадуеш, што я змокну. *(Доўга глядзіць на Юзю.)* Бач, якая стала... Раз'елася... Круглая, гладкая... А прыйшла сюды, як дубец... *(Кладзе стрэльбу на стол, падыходзіць быццам украдкам да Юзі, абнімае. Юзя моўчкі стаіць. Выбух грому і маланка. Лямэнт хапае стрэльбу і выходзіць.)* Патушы лямпу. *(Пайшоў.)*

Юзя *(адна)*. Куды ён ходзіць начамі? Старая падла. Божа, які праціўны, гадкі.

Забірае талеркі, гусінае крыло, тушыць лямпу і выходзіць. Гром і маланка бесперапынку. Чутна, як за вокнамі струмені дажджавой вады булькаюць і па зямлі і зверху. За сцяной гадзіннік б'е дванаццаць. Спачатку, прыглушаны навальніцай, чуецца аўтамабільны гудок працяглы, пасля нецярплівыя кароткія гудкі і чалавечыя галасы. Убягае Юзя, запальвае лямпу. Падыходзіць да акна. Маланка асвечвае вокны, гудкі не спыняюцца.

Юзя *(схамянуўшыся)*. Зыгмусь! А божачка мой!

Выбягае ў сенцы. На ганку стукаюць у дзверы. Юзя ўводзіць у пакой Чарноцкага і Ярашэвіча. Зыгмусь нясе за імі чамаданы. Усе яны мокрыя. Ярашэвіч без шапкі.

Ярашэвіч *(да Зыгмуся)*. Ты дарогі не ведаеш.

Зыгмусь. Няхай ласкавы пан даруе, але такі дождж. Дарога, як мора.

Я р а ш э в і ч *(да Юзі)*. Пераадзецца. А тут *(паказвае на камін)* прыгатаваць, як і заўсёды.

Ю з я. Проша.

Зыгмусь шпарка перадае Юзі адзін чамадан, і яна вядзе Чарноцкага і Ярашэвіча ў бакоўку. Зыгмусь тым часам адчыніў другі чамадан, дастае адтуль бутэльку з каньяком і дзве чаркі, ставіць на стол. Рэжа і кладзе на сподак лімон і пасыпае цукрам. Пасля выбягае праз сенцы і неўзабаве варочаецца назад з бярэмем дроў. Кладзе дровы на падлогу ля каміна. Убягае Ю з я і шпарка ідзе да яго. Ён кідаецца да яе. Доўга стаяць абняўшыся.

З ы г м у с ь. Дык памятай: калі хочаш шчасця, то ні ў якім разе не згаджайся вянчацца з ім... пакуль ён не перапіша па цябе ўсё — і дом, і зямлю, і пяхай грошы па цябе перапіша. Яшчэ раз кажу табе.

Ю з я *(сумна)*. Што за карысць. Яму хоць пяцьдзесят год, але ён такі здаровы, што доўга яшчэ будзе жыць на свеце.

З ы г м у с ь. Ты зноў раздумваеш?

Ю з я. Не трэба яго, а адразу з табой павянчацца.

З ы г м у с ь *(ускіпеў)*. Тады мне да самай старасці служыць трэба будзе, каб мець дом і ўсё, што к дому.

Ю з я. Што ж рабіць?

З ы г м у с ь *(злым шэптам)*. З тваёй галавы ўсё вылятае к чорту. Няхай ён на цябе ўсё перапіша, вянчайся з ім, а тады яго старасць не вытрымае тваё маладосці і ён памрэ.

Ю з я. Не памрэ ён так скора.

З ы г м у с ь *(з выбухам злосці)*. Вядома, што сам не памрэ, а мы з табой яго памром.

Ю з я *(з жудасцю ў голасе)*. Што? Гэта ж забойства!

Гром. Адскочыла ад яго. З бакоўкі ўваходзяць Ч а р н о ц к і і Я р а ш э в і ч, пераадзетыя. Юзя і Зыгмусь шпарка накладаюць дровы ў камін і запальваюць.

Я р а ш э в і ч *(да Зыгмуся)*. Можаш ісці. *(Зыгмусь выходзіць.)* Дзе гаспадар?

Ю з я. Проша пане, пайшоў са стрэльбай некуды. *(Ставіць ля каміна два крэслы.)*

Я р а ш э в і ч. Ідзі. Будзь блізка.

Ю з я пайшла. Ярашэвіч налівае каньяк. Чарноцкі садзіцца перад камінам. Ярашэвіч дае яму чарку, садзіцца каля Чарноцкага. Яны п'юць каньяк і грэюцца перад агнём. Навальніца была заціхла і цяпер выбухае з новай сілай. Чарноцкі сядзіць у глыбокім задуменні. Постаць яго нерухомая, твар быццам у дрымоце. Здаецца, ён дрэмле перад агнём, хоць вочы яго шырока расплюшчаны і гля-

дзяць кудысьці ў прастору па той бок каміна і сцяны. Ярашэвіч трымаецца жвава і часта паглядае на Чарноцкага, быццам чакаючы яго слова.

Чарноцкі *(быццам у сне)*. Дзе мы?

Ярашэвіч. У доме асадніка Ксавэрыя Лямэнта.

Чарноцкі. А далёка яшчэ адгэтуль да граніцы?

Ярашэвіч. Як настане дзень, мы з вокан гэтага дома будзем бачыць граніцу. *(Чарноцкі, устрапянуўшыся, устаў з крэсла і зноў сеў. Ярашэвіч, пры ім схіліўшыся, паслужліва да яго.)* У вас нейкі асаблівы настрой.

Чарноцкі. Калі я гляджу на вас, мая душа плача. Вы вельмі падобны да свайго нябожчыка айца, майго друга. Няшчасны чалавек. Выгнаны з уласнага маёнтка, ён памёр на самоце і ў сумоце.

Ярашэвіч *(шчаслівы ад Чарноцкага слоў)*. Вы стаміліся за дарогу. А тут яшчэ такая навальніца...

Чарноцкі. Гэтая дарога магла б быць мне лёгкай разрыўкай у які-небудзь іншы час. Міністэрства павінна было паслаць давераную асобу аб'ехаць скрозь усходнюю граніцу. У міністэрства пішуць, што ўсё тут добра. Але міністэрства само хоча бачыць, сваімі вачыма, у часе такой трывогі і няпэўнасці...

Ярашэвіч *(далікатна перабівае)*. Асмелюся запытаць, аб якой трывозе і няпэўнасці вы гаворыце?

Чарноцкі. Я верыў у нябожчыка вашага айца і хачу верыць у вас. Як гэта вы пытаеце так мяне. Вы ж дзяржаўны чалавек. Якая трывога і няпэўнасць! А Германія. Яна вісіць над намі.

Ярашэвіч. Гэта старая справа.

Чарноцкі. Яна таму і страшная, што старая. І ўсход мне не дае спакою.

Ярашэвіч. На ўсходзе ў нас ціха.

Чарноцкі *(жорстка глядзіць на Ярашэвіча)*. Гэта была б ганьба наша... *(Маўчыць.)* І от я паехаў сам ад міністэрства. У мяне калацілася сэрца, калі я думаў, што праеду праз гэтую мясцовасць. Я спадзяваўся, што гэта будзе радасць і шчасце, якое сцішыць боль мае душы ў гэтыя страшныя мае дні... Што гэта за месца тут?

Ярашэвіч. Ну, гэта ж і ёсць тыя самыя рэшткі вашай зямлі.

Чарноцкі *(як ад агню адшатнуўшыся ад спінкі крэсла)*. Значыцца, адгэтуль можна ўбачыць мой родны дом.

Ярашэвіч *(падышоўшы да акна)*. Я не адзін раз праз гэтае акно паглядаў, як з-за вашага дома ўсходзіць сонца.

Чарноцкі. Вы глядзелі праз бінокль?

Ярашэвіч. Не, я глядзеў без бінокля.

Чарноцкі падыходзіць да акна і ўглядаецца ў цемень. Навальніца сціхаецца, але маланка ўспыхвае яшчэ даволі часта. Пры кожнай успышцы Чарноцкі стараецца штосьці разгледзець у далечыні за акном.

Чарноцкі *(нецярпліва)*. Бінокль.

Ярашэвіч бярэ з чамадана бінокль і дае Чарноцкаму. Пры ўспышцы маланкі Чарноцкі стараецца разгледзець далечыню ў бінокль, пасля нездаволена кладзе бінокль на стол і садзіцца на ранейшае месца перад камінам.

Ярашэвіч. Да раніцы недалёка, тады ўсё будзе відно.

Чарноцкі. Божа мой, божа мой... я шкадую, што ўзяў на сябе місію аб'ехаць граніцу. Нават у такія дні майго гора мне было куды лягчэй у Варшаве, як тут. А я думаў, што будзе наадварот.

Ярашэвіч. У дні вашага вялікага гора, якое ёсць таксама маё гора, не трэба паддавацца смутку.

Чарноцкі. У Варшаве я пакінуў свежую магілу яе... нябожчыцы. І ў дзень мае жалобы я думаў тут утаймаваць смутак. Дваццаць год я не бачыў гэтых мясцін. А цяпер, прыехаўшы сюды, чым больш думаю, тым больш бачу, што ўсе старыя раны адкрыліся і раз'ядаюць свежую рану. У гэты момант мне хочацца ўбачыць мой родны дом і памерці. А я не магу прайсці нават да магілы свайго айца. *(З гнеўнай скаргай.)* На маёй дарозе стаіць бальшавіцкі салдат, можа, які-небудзь сын або ўнук якога-небудзь Міхалковіча... *(Паўза. Чарноцкі стараецца ўняць сваю ўзбуджанасць.)* Вам знаёма гэта прозвішча?

Ярашэвіч. Не, мой ласкавы.

Чарноцкі. Гэта жах і ганьба. У хвіліны смутку і жалобы я не магу думаць аб высокіх рэчах і аб сваёй душы, а думаю толькі аб гэтым халопе. Божа!

Ярашэвіч. Не магу асмеліцца запытаць, што гэта за чалавек?

Чарноцкі. Цяпер, калі я ў старасці астаўся адзін, мне відна, як праз усё маё жыццё ён стаяў у мяне на дарозе. Яшчэ ў маёй маладосці гэты мой парабак трос мае маёнткі. Дваццаць год назад ён выгнаў мяне з майго

дома. Я нават не паспеў развітацца з усім дарагім майму сэрцу. Калі я пазаўсёды выязджаў у Варшаву, ён каля Нясвіжа, з гуртам парабкаў, западніў мяне на дарозе. Але той дарогай адступаў наш полк, і я выратаваўся. Ён жа паспеў адабраць у мяне маё фамільнае золата, якое я не даверыў везці нават самым верным маім слугам, а вёз сам. Я аж дагэтуль адчуваю сябе так, быццам мяне вядуць на смяротэльную пакуту... Божа, я магу быць міністрам, але я ёсць жабрак. Я толькі праз бінокль магу глядзець на свае ўладанні... Я распараджаюся дзяржаўнымі справамі, але ў мяне апусцелае сэрца. *(Маўчыць, з узбуджаным дакорам пераводзіць вочы на Ярашэвіча.)* Лепш бы мне там памерці, як праз усё жыццё насіць у сэрцы боль, што я не магу адпомсціць... *(Маўчыць.)* У маім доме жывуць мае парабкі?..

Ярашэвіч. Мусіць, так.

Чарноцкі. А хто?

Ярашэвіч. У мяне ў канцылярыі ёсць спісы, але на памяць я не магу сказаць.

Чарноцкі *(з успышкай нездавальнення)*. Такія рэчы пан Ярашэвіч павінен ведаць на памяць.

Ярашэвіч. Няхай пан мне ласкавы выбачыць, але абсяг маёй службы шырокі...

Чарноцкі. Але ж служба такая абы-каму не даецца. Я гэта меў на ўвазе, калі даў загад з Варшавы аб прызначэнні вас. Я памятаў маю дружбу з нябожчыкам вашым айцом.

Ярашэвіч. Я благаслаўляю ваша імя.

Чарноцкі. Што-небудзь там захавалася на месцы?

Ярашэвіч. Дакладна не магу сказаць.

Чарноцкі. Але ж там бывае хто-небудзь адгэтуль, ці ўсе паведамленні так выдумляюцца?

Ярашэвіч. Бываюць... Я загадаю зрабіць пасцель.

Чарноцкі. Сон не дасць мне ўтаймавання.

Ярашэвіч *(быццам не чуе)*. Вы стомлены вялікай дзейнасцю. Калі вы станеце міністрам, вы зробіце ў дзяржаве ўсё, як думаеце.

Чарноцкі *(з гнеўным дакорам)*. Вам далі айчызну гатовую, а мы свае душы высушылі ў марах па айчызне... *(Змаўкае.)*

Ярашэвіч стаіць перад ім. Навальніца прайшла. Толькі калі-нікалі яшчэ ўспыхвае далёкая маланка, і дождж шуміць ціха і роўна. Чарноцкі зноў паглыбляецца ў свае думкі.

Чарноцкі *(з успышкай хвалявання).* Тады, перад выездам, у самую апошнюю хвіліну, яна, нябожчыца, села за фартэпіяна, каб развітацца назаўсёды з усім тым... родным... вечным... Але ён раптам увёў у яе будуар натоўп мужыкоў...

Расхваляваны ўстаў і зноў сеў. Ярашэвіч нясмела адышоўся ад акна. Маўчанне. Чутна, як на ганку грукаюць ботамі. Пасля чутны людзі ў сенцах, і ў пакой уваходзіць Хартановіч. Ён убачыў паноў і адразу застыў на месцы. Шпарка сарваўшы з галавы шапку, ён стаіць, страшны сваёй разгубленасцю і жахам, які напаўняе ўсю яго істоту. Твар яго быццам у крывых шрамах, адзежа ў многіх месцах парвана, увесь ён вывалены ў зямлі і гразі.

Лямэнт *(з сянец).* Твая адзежа тут, на сцяне, зараз унясу. Пераадзявайся ў сухое... Юзя, халера, ніколі не паслухае. Казаў патушыць лямпу, а лямпа гарыць...

Уваходзіць з Хартановічавай адзежай. Убачыў Чарноцкага і Ярашэвіча і збянтэжыўся ад нечаканасці. Сарваў з галавы шапку і застыў у лакейскай позе.

Ярашэвіч *(да Чарноцкага).* Гаспадар дома. *(Паказвае на Лямэнта.)* Дзе хадзіў, Лямэнт?

Лямэнт. Хадзіў на спатканне чалавеку, пане. *(Паказвае на Хартановіча.)*

Ярашэвіч *(урачыста перад Чарноцкім).* Чалавек прыйшоў адтуль?

Лямэнт. Так.

Чарноцкі *(да Хартановіча).* Ты быў там? *(Хартановіч глядзіць на Лямэнта, пасля на Ярашэвіча і маўчыць.)*

Ярашэвіч. Адказвай.

Чарноцкі. Табе ўдалося?

Хартановіч. Мне ўдалося... але, паночку, гэта такі жах, што валасы старчма становяцца. Калі яшчэ раз прыйдзецца, то, калі з душой не разлучуся, дык навек вар'ятам стану. Я жывот парваў паўзучы. *(Хоча падняць кашулю і паказаць жывот.)*

Чарноцкі. Але ж ты здолеў прайсці.

Хартановіч. Гэта таму, паночку, што я там кожную сцежку ведаю, я адтуль родам. Як мяне раскулачвалі, я забіў міліцыянера і сюды ўцёк. Даўно ўжо. *(Раптам кінуў шапку на падлогу, падбег да Чарноцкага, пацалаваў яму ў калена і адбегся назад.)* Паночку, ласкавы, я

прашу вашай святой ласкі, каб перадышка якая, каб больш мне не ісці. Паночку, галаву згублю.

Ярашэвіч. Уцёкшы сюды, ты знайшоў сабе тут айчызну і дом і не хочаш мець абавязкаў перад айчызнай?

Хартановіч *(паварачваецца да Ярашэвіча)*. Не, паночку, я толькі, каб хоць гадоў са два мне спакойна пажыць.

Чарноцкі *(не слухаючы)*. Ты быў у маёнтку «Чарноцкім»?

Хартановіч. Быў, паночку. Толькі гэтае «Чарноцкае» называецца ў іх «Воля».

Чарноцкі. Калі ты быў там?

Хартановіч. Учарашнюю ноч я там быў.

Чарноцкі. Што там цяпер?

Хартановіч. Там цяпер эмтээс.

Чарноцкі. Гавары дакладней.

Хартановіч. Там безліч машын стаіць. Па ўсёй воласці яны зямлю ўрабляюць. Я два дні ў аўсе ляжаў. Навакол мяне ўсё гуло. Аж зямля дрыжала. Падбяруцца пад мяне, я перапоўзваю ў іншае месца. А яны з гэтым сваім гудам быццам гоняцца за мной. Цяпер калі жук праляціць над вухам, дык я калачуся. Гэта не жарты, паночку.

Чарноцкі. А хто жыве ў доме?

Ярашэвіч *(растлумачвае)*. У панскіх пакоях хто жыве?

Хартановіч. Самы галоўны, хто там жыве, то гэта Міхалковіч.

Чарноцкі *(заварушыўшыся)*. Хто?

Хартановіч. Міхалковіч Канстанцін. Але там і больш жывуць. Даўней там парабкамі былі, і канцылярыя эмтээса там... Паночку, выслухайце маю просьбу...

Чарноцкі. Чым займаецца гэты Міхалковіч?

Хартановіч. Ён там дырэктар гэтага эмтээса. Нядаўна туды прыехаў. *(Становіцца на калені.)* Паночку, выслухайце...

Чарноцкі *(з дзікай злосцю)*. Выйдзі адгэтуль. *(Лямэнт выводзіць Хартановіча ў бакоўку і варочаецца назад. Чарноцкі ўвесь у злоснай трывозе.)* Хто жыве на маёй зямлі тут?

Ярашэвіч *(да Лямэнта)*. Хто тут жыве?

Лямэнт *(мнецца, гаворыць неахвотна)*. Тут стаіць

пяць хат, што асталіся ад маёнтка панскай ласкі па гэты бок граніцы. Яны тут і здаўна жылі, як былі парабкамі, але панскай зямлі тут асталося маргоў, мусіць, не больш як дзесяць. Яны плацяць арэнду за месца на зямлі.

Ярашэвіч. Вы не хацелі знаць гэтай зямлі і ніколі ёю не цікавіліся.

Чарноцкі *(з выбухам гневу)*. Я сам ведаю свае справы. Але хто тут жыве? Хто яны?

Лямэнт *(быццам яго здушылі за горла і ён не можа вытаварыць слова)*. І Шулешка жыве, і Аляшкевіч жыве... *(Маўчыць.)* Я ж кажу, даўней тут парабкамі былі...

Чарноцкі *(аж закалаціўшыся ад гневу)*. Казаць баішся? Лічы парадкам, ад першай і да апошняй хаты.

Лямэнт *(перапалоханы)*. Першы ад дарогі жыве Міхалковіч з жонкай і малой дачкой...

Чарноцкі. Міхалковіч! *(Да Ярашэвіча.)* Я памыліўся, што лічыў вас вартым вашага нябожчыка айца. *(Да Лямэнта.)* Колькі год гэтаму Міхалковічу?

Лямэнт. Яму гадоў 35.

Чарноцкі *(да Ярашэвіча)*. Сын таго Міхалковіча?

Ярашэвіч *(перажывае жудасную непрыемнасць)*. Я не магу сказаць.

Чарноцкі. Што гэта значыць?

Ярашэвіч разгублена глядзіць на Лямэнта, і той гаворыць.

Лямэнт. Вяльможны пане, ніхто нічога не ведаў пра яго бацьку. Там да самага апошняга часу дырэктарам быў іншы чалавек.

Чарноцкі. Пасля мае смерці вы скажаце, што сышла ў магілу старая Польшча, а самі згубіце айчызну навек.

Пакрыўджаны Ярашэвіч паціскае плячыма і з дакорам паказвае Чарноцкаму на Лямэнта, які стаіць у лакейскай паставе.

Ярашэвіч *(да Лямэнта)*. Ідзі.

Чарноцкі. Пачакай. *(Лямэнт спыніўся.)* Каб зараз жа быў тут гэты Міхалковіч.

Лямэнт. У хвілю. *(Выйшаў.)*

Чарноцкі *(доўга не зводзіць з Ярашэвіча дапытлівага і гнеўнага позірку)*. Таго сюды, што прасіўся да спакою.

Ярашэвіч выходзіць у бакоўку, Чарноцкі сядзіць у задуменні. Уваходзяць Ярашэвіч і Хартановіч.

Чарноцкі. Расказвай мне, як там.

Хартановіч. Там, паночку, не падобна ўжо на тое, як было раней. Адно што дом на месцы стаіць.

Чарноцкі. Ты ў доме быў?

Хартановіч. У доме, паночку, я не быў.

Чарноцкі. Парк астаўся?

Хартановіч. Парк астаўся, але пры ім малады засаджан. Я ў тым парку ад раніцы да ночы праляжаў пад кустамі.

Чарноцкі. А што яны робяць у тым парку? Крадуць дзерава?

Хартановіч *(паціскае плячыма)*. Парк цэлы.

Чарноцкі. Што ў парку рабілася, калі ты ляжаў там?

Хартановіч. Было ціха ў парку.

Чарноцкі. Лжэш.

Хартановіч. Нашто ж я маю перад вамі лгаць, паночку?

Чарноцкі *(ён стаў падобен на вар'ята)*. Што было ў парку?

Хартановіч *(як адурнелы)*. За паркам дзяўчаты спявалі.

Чарноцкі. Ну, а яшчэ?

Хартановіч. Перад вечарам у парку на фартэпіяне грала малая палкоўніцкая дачка.

Чарноцкі *(са злосным недавер'ем)*. На фартэпіяне пад кустамі?

Хартановіч. Там у іх ёсць будыніна з размаляваных дошчак. Гэта завецца ў іх «Зялёны тэатр». Дык там.

Чарноцкі. Якога палкоўніка дачка?

Хартановіч. Бальшавіцкага, паночку. Гэты палкоўнік — маладзейшы з сыноў дырэктара эмтээс Міхалковіча. А гэтая, што грала, яго дачка, і цяпер госціць у дзеда.

Чарноцкі. А фартэпіяна ты бачыў? З гербамі?

Хартановіч. Я не бачыў, але з гербамі.

Чарноцкі. А з фартэпіяна што яны робяць заўсёды?

Хартановіч. Ну што ж, паночку мой, не магу сказаць, што заўсёды робяць. *(Паціскае плячыма.)*

Чарноцкі. Што яшчэ ты там бачыў?

Хартановіч. Сам-то я, мой паночку, мала што там бачыў.

Чарноцкі. Чаго ж ты хадзіў туды?

Х а р т а н о в і ч *(дрыжыць, як прыгавораны к смерці).* Той мне вось сюды зашыў... Я яшчэ не паспеў распароць... *(Мацае падшэўку пінжака.)*

Ярашэвіч падбягае да Хартановіча і памагае яму скінуць пінжак. Адыходзіць з пінжаком убок, аглядае падшэўку, асцярожна кладзе пінжак на крэсла.

Я р а ш э в і ч *(Хартановічу).* Ідзі.

Хартановіч ідзе, але раптам кідаецца назад і ў вялікім адчаі падае на калені перад Чарноцкім.

Х а р т а н о в і ч. Злітуйцеся, вяльможны пане. Не пасылайце мяне больш. Я не пайду туды: або з жыццём разлучуся, або вар'ятам стану. Паночку, ласкавы... Я ж ужо хадзіў. Я верна служыў. Няхай хто іншы пойдзе. Тут жа, паночку, і чалавек ёсць такі, што ён млее душой, каб якнебудзь туды трапіць.

Я р а ш э в і ч. Хто гэта?

Х а р т а н о в і ч. Тут жыве Міхалковіч Мікалай. Радня яго ўся там жыве, ён ірвецца, каб хоць пабачыцца з бацькам.

Я р а ш э в і ч *(твар яго ажывіўся, нешта падобнае да ўсмешкі асвятляе яго вочы).* А як жа яго пасылаць туды, калі там яго бацька. Ён жа там і астанецца.

Х а р т а н о в і ч *(з практычнай развагай).* Як жа ён там можа астацца, калі яго сям'я тут будзе. Яна ж будзе ў нашых руках.

Ч а р н о ц к і *(закалаціўшыся ад гневу).* У тваіх руках?

Х а р т а н о в і ч *(зразумеў непрыстойнасць свайго тону).* У вашых, паночку, руках.

Чарноцкі сціскае зубы і паварочваецца да Ярашэвіча.

Я р а ш э в і ч *(крычыць на Хартановіча).* Выйдзі.

Х а р т а н о в і ч бадай-што выбягае ў бакоўку. Ярашэвіч разрывае падшэўку ў Хартановічавым пінжаку, дастае некалькі дробных паперак і стараецца шпарка прагледзець іх, пакуль перадаць Чарноцкаму. Узяўшы ў рукі паперкі, Чарноцкі праглядае іх і становіцца перад Ярашэвічам.

Ч а р н о ц к і *(такім тонам, ад якога Ярашэвіч упадае ў страх).* Сын таго жыве тут, на маёй зямлі, пад вашай апекай.

Я р а ш э в і ч *(у адчаі).* Пад маёй апекай? Ці сапраўды я гэта чую?

Чарноцкі *(аддае Ярашэвічу паперкі)*. Вы не варты вашай службы. Пакіньце мяне аднаго.

Ярашэвіч *(тонам просьбы)*. Я вас не пакіну. Вы ў такім настроі...

Чарноцкі *(ён разарваў бы Ярашэвіча на кавалкі)*. Пакіньце мяне аднаго... Вы нават за два гады не маглі знайсці забойцу вашага паліцыянта, асмельваліся расказваць мне пра гэта. *(Ярашэвіч паволі ідзе да баковачных дзвярэй, каля іх спыняецца хмуры, збянтэжаны, спалоханы, разгублены, пачынае нясмела гаварыць, каб зноў упасць у Чарноцкага ласку.)*

Ярашэвіч. А каб гэта яго сапраўды паслаць туды. *(Пасмялеў, падышоў бліжэй да Чарноцкага.)* Гэта была б помста. Прымусіць яго служыць супроць бацькі. *(Бачачы, што Чарноцкі маўчыць і не варушыцца, ён падыходзіць яшчэ бліжэй і робіцца яшчэ больш смелым.)* Яго можна будзе звязаць сям'ёй. *(Сказаўшы гэта, ён пачынае пільна сачыць за Чарноцкім. Бачыць, што той ажывіўся, падняў галаву, на момант узвёў на яго вочы.)* Я павялічыў бы ў гісто разоў лік такіх людзей. Іх мала. На граніцы яны гінуць, як мухі.

Чарноцкі *(хмурна, сурова, з іроніяй, але крыху змякчэлым тонам)*. Пан Ярашэвіч стараецца граць роль дзяржаўнага чалавека.

Ярашэвіч *(быццам не пачуўшы)*. Скора дзень. Вам адпачыць трэба... *(Раптам узгарэўся.)* Я прымушу яго згубіць там свайго бацьку... Так, каб усё гэта перавысіла боль вашай душы...

Чарноцкі нічога не адказвае. Ярашэвіч з прыкрасцю ўгнуў галаву і стаіць перад ім, чагосьці чакаючы. Уваходзяць Лямэнт і Мікалай Міхалковіч.

Лямэнт. Чалавек прыйшоў, пане.

Чарноцкі *(паварочваецца да Мікалая, акідвае яго позіркам з ног да галавы)*. Як завешся?

Мікалай падступіў крок бліжэй і застыў на месцы. Ён босы, абарваны. На ўсёй яго постаці і на твары ляжыць пячаць таго, што ён заўсёды ў вялікім горы. У гэты момант ён узнепакоен і, здаецца, чакае, што на яго галаву ўпадзе ўвесь цяжар свету.

Мікалай. Я завуся Міхалковіч.

Чарноцкі. Як завецца твой бацька?

Мікалай. Канстанцін Міхалковіч.

Чарноцкі. Дзе твой бацька?

Мікалай. Там... недзе... Калі жывы яшчэ.

Чарнацкі. А дзе?

Мікалай. Не ведаю, пане. Можа яго і жывога няма. *(Чарнацкі доўга маўчыць і не зводзіць вачэй з Мікалая, быццам сам не верачы, што перад ім такі чалавек. Мікалай, быццам не вытрымаўшы невядомасці чакання, паварочваецца да Лямэнта.)*

Мікалай *(да Лямэнта)*. Гэта, мусіць, наконт нявыплачанай арэнды. *(Лямэнт паціскае плячыма. Мікалай паварочваецца да Чарнацкага.)* Мы памятаем, паночку, мы самі ведаем, што не заплацілі арэнду за месца на зямлі. Гэта не тое што мы не хочам заплаціць. Гэта вялікае гора не дае, але мы заплацім. Што ж, у мяне сям'я такая: я сам яшчэ так-сяк трымаюся здароўем, а жонка зусім хворая. І ёсць дзяўчынка малая. Малое дзіця зусім. Ірынка. Немагушчая, згаладалася. Чараду пасе і зранку ад слабасці ўстаць не можа. Калі яе раніцой будзім, каб уставала, а яна просіцца — татачка, родненькі, каб хоць мінутачку яшчэ паспаць, дык абліваецца крывёй сэрца, на яе гледзячы. Здаецца, стаў бы перад ёю на калені, пацалаваў бы ёй ногі і сказаў бы ёй: даруй ты мне, дзіця маё, што я пусціў цябе на свет. Каб вы, паночку, бачылі гэтую няшчасную Ірынку...

Заўважыўшы, што Чарнацкі ўвесь час глядзіць на яго ўедлівым і, разам з тым, магільным позіркам, ён жахнуўся, змоўк і адступіў назад.

Чарнацкі *(ціха, стрымана)*. Дык зусім малая твая дачка?

Мікалай. Зусім малая.

Чарнацкі. Нашто ж ты ёй спаць не даеш?

Мікалай. Лёгка вам сказаць, паночку. А жыць жа неяк на свеце трэба. Хворую жонку карміць трэба. Арэнду за месца плаціць трэба? Заробку шукаць трэба? Хлеба з мае гаспадаркі не пад'ясі, а з цямна да цямна сілу на яе прыходзіцца класці. Усе так жывуць у нас, усе з цёмнага няшчасных дзяцей будзяць. Ніхто не можа, як бы ні стараўся, пашкадаваць сваё дзіця. Ад дзядоў і прадзедаў пракляты лёс гэты вісіць над чалавекам.

Чарнацкі. А там, дзе твой бацька, можа лепш жывецца?

Мікалай. А хто яго, пане, ведае.

Чарнацкі. Хочаш пабачыцца з бацькам?

Мікалай *(памаўчаўшы)*. Хацеў бы.

Ярашэвіч. А граніца?

Мікалай. Я ж, пане, не вінават, што граніца. Ён там, а я тут. Гэта ж не я гэтую граніцу выдумаў.

Чарноцкі *(са злым бляскам у вачах)*. Праўда, што нядобра гэтая граніца тут. Яе трэба было б куды-небудзь перанесці? Га?

Мікалай *(з хітрым недавер'ем глядзіць на Чарноцкага)*. Я просты чалавек. Пра такія справы ў такіх людзей ніколі, паночку, не пыталі.

Чарноцкі. А да бацькі хочаш ісці?

Мікалай. Не, я не хачу ісці. Мне толькі нядобра, што я яго ўбачыць не магу.

Чарноцкі. А нашто табе яго бачыць? *(Стрымліваецца, каб не кінуцца з кулакамі да Мікалая.)*

Мікалай. Бо ён мой родны бацька... Паночку, можа вам льга было б пусціць мяне дадому цяпер. Я магу прысягнуць, што арэнду заплачу праз чатыры дні, у суботу вечарам. Мне ўжо трэба ісці на работу.

Чарноцкі *(да Лямэнта)*. Таго сюды. *(Лямэнт ускочыў у бакоўку і неўзабаве вывеў адтуль Хартановіча.)* Расказвай яму. *(Кіўнуў на Мікалая.)* Дзе там і як усё.

Хартановіч радасна ажывіўся, ён падумаў, што яго пасылаць больш не будуць, і ён павінен перадаць сваю практыку Мікалаю Міхалковічу.

Хартановіч *(да Мікалая)*. Там, калі ўвойдзеш ад лесу ў «Чарноцкае», цяпер называецца «Воля», то там будзе парк стары, дык ты не думай пра тое — гладка ўсё ідзе ці не гладка, а адразу кідайся на зямлю і перачакай, прыслухоўваючыся. *(Заікаецца з радасці.)* Толькі, беражы цябе божа, пакуль відна — не варушыся і духу не ўказвай.

Чарноцкі *(нецярпліва, яму абрыдла слухаць)*. Змоўкні, выйдзі. *(Хартановіч выходзіць, Чарноцкі гаворыць да Ярашэвіча.)* Вам даручаю ўдасканаліць усю справу.

Ярашэвіч *(да Мікалая)*. Пойдзеш туды. *(Мікалай, нічога не разумеючы, глядзіць на Чарноцкага.)* Чаго глядзіш так? Туды пойдзеш.

Мікалай. Чаго, пане?

Ярашэвіч. Табе скажуць чаго.

Мікалай *(адчуваючы нешта нядобрае)*. Як жа я

пайду? Мне трэба на работу ісці. Я ж не здатны да гэтага.

Я р а ш э в і ч *(аж кіпіць)*. Пойдзеш, усё там спаліш.

М і к а л а й. Не.

Ч а р н о ц к і *(бадай-што ў істэрыцы)*. Пойдзеш. Твой бацька там жыве ў маім доме, там, дзе жыў я. Яго ўнучка грае на маім фартэпіяна. Я дваццаць год нашу смутак па ўсім тым, дзе пануе цяпер твой бацька. Ты спаліш там усё, каб усё там прапала і загінула. І каб твой бацька загінуў навек.

М і к а л а й *(усё яшчэ не разумеючы)*. Хто ж гэта роднаму бацьку можа рабіць бяду такую?

Ч а р н о ц к і. Ты зробіш.

М і к а л а й. Ці гэта я сню, ці сапраўды чую. Чыя ж рука можа падняцца на такое злачынства? Лепш бы таму чалавеку на свет не радзіцца, які гэтулькі зла зробіць людзям і навек згубіць роднага бацьку.

Ч а р н о ц к і. Калі ты гэтага не зробіш, то сам да смерці будзеш бачыць толькі турэмныя сцены і змрок у каменным мяшку. Будзеш енчыць перад богам, каб прыйшла смерць. Будзеш біцца аб турэмныя камені, просячы смерці, але смерць так скора не прыйдзе.

М і к а л а й. Гэта хіба не сон?

Ч а р н о ц к і. А ў той самы час і жонка твая пойдзе за табою. А гэтая твая Ірынка, пра якую ты тут так заўзята расказваў, стане валачашчым шчанём. Адна будзе цягацца з торбамі пад чужымі вокнамі, пакуль не зойдзецца на дзікай дарозе.

Я р а ш э в і ч. Выбірай... Або бацька, або яны і ты сам.

М і к а л а й. Паночку, пашкадуйце няшчаснае дзіця. Вы стары чалавек.

Ч а р н о ц к і. Хам! *(Мікалай задрыжаў і задам адыходзіцца да дзвярэй.)* Не выходзіць! Тут стой! *(Мікалай стаіць як анямелы. Чарноцкі не зводзіць з яго вачэй.)* Ты мне гаворыш пра маю старасць. Перад кім ты стаіш? Ты перада мной, як трава пад маімі нагамі.

Мікалай вяне ўсёй сваёй істотай. Калені яго падгінаюцца, і здаецца, што ён зараз грымнецца вобземлю.

М і к а л а й. Пане, я справядліва жыў заўсёды на свеце. Я вока нікому не запарушыў. Галодным будучы, я чужога не зачапіў ніколі. За якія ж грахі я і маё няшчаснае

дзіця павіппы несці такую пякельную кару?.. Злітуйцеся, пане.

Чарноцкі. Як ты асмельваешся?

Мікалай узнімае галаву. Пакрысе з яго асядае яго ранейшая прыбітасць. Ён выпрастоўваецца ўсёй істотай сваёй і ўзнімае вочы на Чарноцкага.

Мікалай. А што мне асмельвацца ці не асмельвацца? Калі я радзіўся на свет, то мне ж трэба хадзіць па зямлі. Калі я чысты душой, то я магу смела глядзець на свет. Што я магу страціць? Калі такое жыццё яшчэ далей працягнецца, то ўсё адно жонка і так памрэ ад сухот, і Ірынка прападзе. Яна і так ужо ледзьве жыве. А мне — торба ці турма — чым ты мяне, пане, устрашыш? Не ўзніму я рукі на роднага бацьку.

Мікалаеў твар асвятляецца цвёрдай рашучасцю. Ён робіць некалькі крокаў да Чарноцкага, і той міжвольна адступае да баковачных дзвярэй, не зводзячы вачэй з Мікалая.

Ярашэвіч. Заўтра ты будзеш там.

Мікалай. Я дарогі не ведаю.

Ярашэвіч. Цябе правядуць.

Чарноцкі. Таго сюды.

Лямэнт уводзіць Хартановіча.

Ярашэвіч. Загадаю — і пойдзеш. Сілком выкіну на той бок.

Хартановіч *(трасецца з радасці)*. І знаку не будзе. *(Стараецца падбадзёрыць Мікалая.)* З завязанымі вачыма пяройдзеш, а не то што каб... Толькі нагамі ціха старайся ступаць...

Чарноцкі *(да Ярашэвіча)*. Сам пан давядзе ўсё да канца.

Хартановіч *(цалуе Чарноцкаму ў калена)*. Дзякую, літасцівы пане, што зрабіў ласку ўважыць маю просьбу. Цяпер я ажанюся, у мяне, ласкавы пане, кабеціна на прымеце...

Ярашэвіч. Ты сам пойдзеш з ім.

Хартановіч *(аж пахіснуўся з адчаю)*. Папочку!..

Ярашэвіч. Ты айчызне служыць не хочаш?..

Чарноцкі выходзіць, Лямэнт за ім, Ярашэвіч садзіцца за стол з выглядам выканаўцы службовых абавязкаў.

Цяпер будзем удакладняць. *(Да Мікалая.)* Можаш ісці дадому. Ён па цябе зойдзе і яшчэ прывядзе сюды. Я сам буду выпраўляць вас.

Мікалай. А калі я не пайду?

Ярашэвіч *(рагоча)*. А хто ж будзе пытаць твае згоды? А ўрэшце ты выразна чуў, што можа быць з тваёй той Ірынкай, ці як ты там яе называў.

Мікалай моўчкі пастаяў і нерашуча выйшаў, некалькі разоў парываючыся вярнуцца і нешта яшчэ сказаць. На двары днее, вокны святлеюць.

Ярашэвіч. Ты пойдзеш разам з ім. Дайшоўшы да месца, адправіш яго да бацькі. Пакуль яны будуць там прывітвацца, той чалавек, што цябе там прымае і хавае, пабяжыць і скажа іхняй пагранічнай варце, што да Міхалковіча пайшоў нейкі невядомы падазроны чалавек. А ты ў той жа час падпаліш. Вымяркуеш так, каб пажар быў якраз, калі да Міхалковіча ўвойдзе пагранічная варта. Адным словам, чуеш — на цябе ўскладаецца зрабіць усё так, каб старога бальшавіка Міхалковіча і яго сына з'елі самі бальшавікі. А пасля гэтага будзеш спакойна жыць сабе са сваёй кабетай. *(Рагоча.)* Можаш ісці.

Хартановіч паніклы і сумны паволі выходзіць праз сенцы. Ярашэвіч сядзіць адзін ціха, падспеўвае. Пасля ўпадае ў задуменнасць. Уваходзіць Лямэнт і стаіць у лакейскай позе. Ярашэвіч сціскае губы і глядзіць на яго.

Ярашэвіч. Ну, Лямэнт *(трасе пальцам)*. Як ты мог так.

Лямэнт *(падыходзіць бліжэй)*. Тут недагляд, вялікі недагляд. Але каб сам анёл з неба сеў тут на маё месца, то нічога за гэтымі людзьмі не ўбачыў бы. Яны былі ціхія і ў працы заўсёды. А пра бацьку яго ані нічога нават і падумаць нельга было. Даруйце мне. Я богу душою не вінен. Вядома, іх цяпер, усе шэсць хат, трэба зараз жа сагнаць адгэтуль.

Ярашэвіч. Няможна марудзіць.

Лямэнт. Хіба я сам не ведаю.

Ярашэвіч. А з зямлёй гэтай што рабіць? Як думаеш?

Лямэнт. Пад казну зямля пайсці не можа, гэта ўласнасць пана міністра. Я да панскай ласкі маю такую просьбу: каб ласкавы пане замовілі слова перад вяльможным панам міністрам. Вяльможны пан міністр на гэты кавалачак зямлі і глядзець не хоча. Было б дзіўна, каб вяльможны пан міністр дбалі аб такім мізэрным кавалачку зямлі.

Ярашэвіч. Дык чаго хочаш, Лямэнт?

Лямэнт. Каб пан міністр аддаў мне ва ўладанне і на догляд гэтую зямлю. Не так, не так, а за высокую плату. *(Кладзе на стол грошы.)*

Ярашэвіч *(хавае грошы і грозіць пальцам)*. О, хітры, Лямэнт. Дык ты хочаш за адным разам дзве справы зрабіць?

Лямэнт. Я ж павінен дбаць аб ачышчэнні гэтай зямлі.

Ярашэвіч. І сам глыбокія карэнні тут пускаеш? Ты маладзец, Лямэнт, толькі што ты бяздзетны.

Лямэнт *(зніжаным тонам)*. Будуць дзеці.

Ярашэвіч. Ты ж гэтымі днямі жонку пахаваў.

Лямэнт. Мой шчыры пане, але ж я астаўся жыць.

Ярашэвіч. Ого! *(Быццам знайшоўшы забаўку.)* Дык ці не жаніцца хочаш, Лямэнт?

Лямэнт. Як жа я, шчыры пане, жыць буду адзін?

Ярашэвіч. Хэ-хэ... Маладая? Прыгожая?

Лямэнт *(бянтэжыцца)*. Кожны чалавек густ сабе мае.

Ярашэвіч. Хэ-хэ, Лямэнт! *(Ляпае Лямэнта па плячы, рагоча.)* Пасцель гатова, Лямэнт?

Лямэнт. Яго высокая мосць пан міністр адпачывае.

Ярашэвіч. Ага.

Ярашэвіч выходзіць у бакоўку. Лямэнт правёў яго, варочаецца назад, стаіць пры стале і задуменна выстуквае пальцамі. З бакоўкі выходзіць Юзя з пасудай і прыладдзем для панскага снедання і пачынае рыхтаваць стол. З усмешкай уладара гэтай жанчыны Лямэнт доўга глядзіць на яе, пасля падыходзіць і па-гаспадарску абнімае.

Лямэнт. Калі будзем вянчацца?

Юзя. Я тады буду тут поўнай гаспадыняй?

Лямэнт. Жонка — значыць гаспадыня.

Юзя *(вызваляецца з яго абдымкаў)*. Толькі каб на мяне было перапісана ўсё — і дом, і зямля, і грошы...

Лямэнт. Нашто? Я цябе кахаю.

Юзя. Вы ўмееце кахаць і служанак. А я хачу быць жонкай і гаспадыняй.

Лямэнт *(асалавеў ад кахання, стары, жоўты, агідны пасля бяссоннай ночы, абнімае Юзю)*. Добра... Добра... Усё на цябе перапішу.

У сенцах кашляе Зыгмусь, грукае аб падлогу ботамі. Лямэнт адышоўся ад Юзі, прыслухоўваецца, задаволена, па-гаспадарску ўсміхаецца, гледзячы на Юзю. На пальчыках выходзіць у бакоўку. Уваходзіць з сянец Зыгмусь.

З ы г м у с ь. Ты ў мяне глядзі, не давай тут яму лішне абнімацца, ведай меру.

Ю з я. Чаму гэта?

З ы г м у с ь. Я з сянец праз дзірку ў замку бачыў, як ён тут каля цябе хадзіў. *(Абнімаецца з Юзяй.)* Добра, што ён на цябе ўсё перапіша. Тут жа яшчэ нам пашанцавала з табою. Ён можа забраць гэтую Чарноцкага зямлю, я чуў з сянец. Ты яго падварушвай, каб ён чым скарэй дамагаўся гэтай зямлі. І каб адразу ж зганяў з яе тых мужыкоў.

Ю з я. Навошта ж іх зганяць?

З ы г м у с ь. А што ж, каб на нашай зямлі сядзелі падобныя на жабракоў арандатары?

Ю з я *(з горкай усмешкай адыходзіцца ад яго)*. На нашай зямлі?

З ы г м у с ь. А што ж такое? Ён перапіша зямлю на цябе, ты аўдавееш, мы павянчаемся і запануем на фальварку ў шчасці.

Ю з я. Чаму так на свеце зроблена страшна: каб знайсці шчасце, трэба другога пусціць у няшчасце.

З ы г м у с ь. Пра што ты гаворыш?

Ю з я. Кожную раніцу адтуль прыходзіць дзяўчынка Ірынка Лямэнтавых кароў выганяць. Яна такая няшчасная. А што будзе з ёю, калі адтуль выганяць. Яна не будзе мець страхі над галавой.

З ы г м у с ь. Твае рукі астануцца чыстымі, гэта ўсё зробіць Лямэнт сваімі рукамі.

Ю з я. Але ж я за яго павінна замуж ісці і жыць з ім.

З ы г м у с ь. Праз паўгода ты аўдавееш.

Ю з я. Але ж ён на мяне гэтую сірочую зямлю перапіша. Я павінна буду жыць на чужым горы. І яшчэ я павінна ўгаварваць яго, каб усё гэта ён зрабіў як найскарэй і найлепш. Божа, як цяжка знайсці шчасце.

З ы г м у с ь. Табе трыццаць год. Ты без бацькоў і без пасагу. Увесь век хочаш пражыць старой дзеўкай, наймічкай, пакідзішчам. Для шчасця нашага, Юзя...

Хоча зноў абняць Юзю. Юзя плача і адыходзіць ад яго. У бакоўцы гавораць Чарноцкі і Ярашэвіч. Зыгмусь выбягае ў сенцы. З бакоўкі ўваходзяць Ч а р н о ц к і і Я р а ш э в і ч. Ю з я ціхом выходзіць у бакоўку.

Ч а р н о ц к і. На момант мне было здалося, што я магу заснуць. *(Углядаецца ў акно. У вокнах відзён усход, відно, як ружавее неба.)*

Я р а ш э в і ч. Яшчэ не развіднела. Яшчэ цяжка што ўбачыць.

Чарноцкі нічога не адказвае і моўчкі ў глыбокім задуменні адыходзіцца ад акна. Вочы яго ўпалі на піяніна, ён падыходзіць да інструмента, адкрывае, задуменна стукае пальцамі па клавіятуры, абярэ акорд. Раптам ірвануў да сябе крэсла, сеў, пачаў іграць. Абарваў музыку, паклаў лоб на клавіятуру, праз мінуту ўстаў і зноў падышоў да акна.

Ч а р н о ц к і *(з гнеўнай скаргай)*. Пальцы не служаць. Я дваццаць год не іграў... Пальцы адвыклі і адзервянелі... і старасць скавала пальцы... і смерць за плячыма стаіць... *(У голасе яго чуецца адчай.)*

На дварэ відна. Неба ўспыхнула сонцам. Чарноцкі ўстрапянуўся, навёў бінокль праз акно ўдалечыню. Ярашэвіч стаіць поплеч яго таксама з біноклем.

Я р а ш э в і ч. Унь людзі ходзяць каля вашага дома.

Чарноцкі выпусціў з рук бінокль. Бінокль са стукам упаў на падлогу, Чарноцкі адварачваецца ад акна. Яго душаць спазмы.

*Заслона*

## ДРУГАЯ ДЗЕЯ

У хаце Мікалая Міхалковіча. Усё тут бедна, і ўсё самае неабходнае, без чаго ўжо чалавек не можа абысціся ў сваіх зведзеных да прымітыўнасці патрэбах. Толькі што пачаўся дзень. Усходзіць сонца. Ружовае святло залівае хату. Усё ў гэтых бедных сценах зіхаціць, і адчуваецца, што ў шырокім свеце, за вокнамі, многа прастору. За акном уся залітая святлом не зварухнецца лісцем старая груша. Пачатак восені крануў яе залатой жаўцізной: у самым акне на грушавай галіне зялёнае лісце перамешваецца з жоўтым. Каля стала на тапчане, на голым сенніку, моцна спіць І р ы н к а. Яна акрыта бацькавым лёгкім пінжаком. Н а с ц я толькі што ўстала і прыводзіць у парадак на дзень пасцель на палу ад печы да вулічнай сцяны. Яна заспаная, ад бессані хістаецца ў бакі і робіць усё быццам у бяздум'і. Яна часта адрываецца ад сваёй работы і ўглядаецца ў акно на вуліцу або падоўгу стаіць у глыбокім одуме. Выходзіць у сенцы і неўзабаве варочаецца ў хату з скруткам белага тонкага палатна, кладзе палатно на пасцель і стаіць над Ірынкай.

Н а с ц я. Моцна спіць малая... Ірынка, уставай, пара... Спіць... Мікалая няма цэлую ноч. Уставай, дачушка, нам з табою на работу ісці... Задушаны працай гэтай.

Доўгая паўза. Ціха ўваходзіць у хату М і к а л а й. Ён увайшоў так ціха, што Насця яго не заўважыла спачатку. Здаецца, што ён ад-

*чувае сваю нейкую віну перад Насцяй. Ён стараецца не глядзець на яе, позірк яго не можа спыніцца на адным месцы. А пасля яго ўвагу прыцягвае да сябе Ірынка. Як анямелы, ён стаіць над ёю. Нарэшце Насця ўбачыла Мікалая. Ціхая ўсмешка радасці прайшла па яе твары.*

Н а с ц я. А, ты прыйшоў... Куды цябе Лямэнт зваў на цэлую ноч? Сонца ўзыходзіць.

М і к а л а й. Як чыста і зелена стала пасля дажджу.

Н а с ц я. Грымоты сціхлі пад самы дзень.

М і к а л а й. Скрозь вада стаіць. Бяда, вялікая бяда.

Н а с ц я. Гэта за арэнду будзе вялікая бяда?

М і к а л а й. За арэнду, ты кажаш?

Н а с ц я. Я дастала з куфра тонкае палатно.

М і к а л а й. Будзеш шыць Ірынцы плацце?

Н а с ц я *(з гнеўнай скаргай)*. Прадаць, каб арэнду заплаціць.

М і к а л а й *(быццам толькі цяпер адумаўшыся)*. Што робіш? Як жа тады з ёю *(паказвае на Ірынку)*. Праз колькі год, будзячы яе зранку, мы цешылі яе, што хаваецца для яе тонкае палатно і, як вырасце яна, то будзе ёй вышытае плацце. Яна ж і нітак назапасіла вышываць.

Н а с ц я *(з гордым дакорам)*. Хіба не я гэтае палатно ткала, бяліла?

М і к а л а й. Я ж пра гэта і гавару.

Н а с ц я. Дык чым жа ўтхланіць ім горла з гэтай арэндай?

М і к а л а й. Я спадзяваўся на суботні разлік за работу. Але... Не гарыць жа, пачакай.

Н а с ц я. Што? То хіба цябе не наконт арэнды звалі?

М і к а л а й. Не.

Н а с ц я *(павесялела)*. А чаго?

М і к а л а й. Ай, там мала што...

Н а с ц я. А я ж думала... Ірынка, уставай... Будзі яе...

М і к а л а й. Ірынка... Не, ты будзі.

Н а с ц я. Я тры дні будзіла яе, а ты з хаты выходзіў. Будзі сёння сам. *(Рашуча адыходзіцца.)*

М і к а л а й *(вінавата азірнуўся)*. Ірынка...

Н а с ц я. Падыдзі бліжэй да яе.

М і к а л а й *(падыходзіць, нагінаецца над Ірынкай. Вялая ўсмешка праходзіць па яго твары)*. Спіць малая. *(Не адрываецца позіркам ад Ірынкі.)* Дзіця расце ў сне.

Н а с ц я. Што ж рабіць?

М і к а л а й *(падыходзіць да акна)*. Сонца яшчэ толькі

папалавіну выйшла з-за паплавоў. Калі выйдзе ўсё — тады пабуджу. *(Не адрываецца вачыма ад акна, глядзіць, як усходзіць сонца.)*

Насця *(глядзіць у акно).* Сонца паднялося.

Мікалай. Пачакай, няхай з тае травінкі цень сыдзе, тады пабуджу. *(Абое чакаюць. Паўза.)* Ірынка... Ірынка...

Ірынка вяла паднімае галаву, працірае вочы, садзіцца.

Насця. Маладзец, дачушка!

Ірынка. Сонца ўзышло?

Мікалай. Узышло. Памыйся халоднай вадой, дык сон пройдзе.

Ірынка *(вочы яе заплюшчаны).* Татачка, родненькі, я яшчэ хоць трошачкі пасплю. Як ты налічыш да дваццаці, тады я ўстану.

Паволі хіліцца да падушкі, падае на пасцель. Мікалай гладзіць яе па галаве.

Мікалай. Спіць. *(На пальчыках адыходзіцца да акна. Лічыць да дваццаці, стараючыся, каб як надалей расцягнуць гэты працэс. Пасля слова «дваццаць» нейкі час маўчыць, пасля падыходзіць да Ірынкі.)* Ірынка!

Ірынка шпарка ўсхватваецца і пачынае адзявацца. Насця выходзіць у сенцы.

Мікалай *(палівае Ірынцы ваду на рукі, і яна мыецца).* Ты ж раней лягчэй уставала.

Ірынка. Здаецца, што долатам у вуха дзяўбуць — так галава баліць.

Мікалай. Гэта ў цябе толькі сёння?

Ірынка. Кожную раніцу. А калі выйду на двор, так і пакідае.

Мікалай. Чаму ж ты не паскардзілася ніколі? Чаму ж ты маўчыш? *(Устрывожан.)*

Ірынка. Мама бедавала б, і ты нудзеў бы.

Мікалай *(прыкідваецца вясёлым).* А вот і няпраўда, чаго ж нудзець, ты паздаравееш.

Ірынка. Ты заўсёды нудзішся, і мама бядуе.

Мікалай. Гэта табе здалося.

Ірынка *(выціраецца ручніком).* Вы хітрыя. Вы думаеце, я нічога не бачу і не ведаю. А я ўсё бачу і ўсё ведаю. Я таксама хітрая.

Мікалай. Што ж ты ведаеш?

Ірынка. А чаго мама ўчора не вячэрала разам з на-

мі, а казала, што раней пад'ела. А калі ты заснуў і я ляжала, дык яна ў той гаршчок, з якога вылівала нам вячэру, наліла гарачай вады і ела тую ваду з хлебам. Яна думала, што я сплю і не бачу.

Мікалай *(жахнуўся)*. Што гэта ты гаворыш?

Насця *(уваходзіць)*. Ты за мной падглядаеш, а сама не лепшая. Чаму ні разу не сказала, што ў цябе галава баліць.

Ірынка паказвае маці язык і робіць грымасу. Гэты поўны дзіцячай наіўнасці, жартаўлівасці ўчынак уводзіць усё ў нармальную раўнавагу. Ірынка бярэ з кутка дубец і выходзіць. Мікалай і Насця глядзяць ёй услед у сенцы, пасля адыходзяцца ад дзвярэй. Праз момант Ірынка ўсаджвае твар з двара і зноў робіць тую ж грымасу.

Мікалай. Ах ты, малая!

Ірынка знікае з-пад акна. Паўза.

Насця. Радзілася на такое жыццё дзіця.

Мікалай. А як жа без яе сонца ўсходзіла б. Каб толькі Чарноцкі з Лямэнтам глядзелі на свет?

Насця. Дзе цябе Лямэнт трымаў цэлую ноч?

Мікалай. Ён думае, усё для яго на свеце. Усё яму, а чалавеку нічога. Каб нават ступаў нагамі так, як яму заманецца.

Насця. Чаго ж ён хацеў ад цябе?

Мікалай *(быццам не слухаючы)*. Гэтулькі ў ім злобы, гэтулькі неміласэрнасці, што, здаецца, гэта не чалавек. Ніякага спачування, ніякай ласкі. На дне магілы, напэўна, ясней, як у яго на душы. Магільны камень мякчэйшы і ласкавейшы. Як гэта, каб усё гэта было ў чалавеку.

Насця. За што ж ён так?

Мікалай. Як пачаў ён гаварыць, колькі бяды ён зробіць нам, дык усё роўна як бы гэта ён піў у смагу. Аж душой ажыў, калі расказваў мне, як Ірынка будзе канаць пад чужымі вокнамі з торбаю цераз плечы.

Насця. Божа мой! *(Уздрыганулася ад жаху.)*

Мікалай. Калі гаварыў, што я праз усё жыццё буду ў турэмных сценах тужыць аб сонцы і зялёнай траве, дык — ну проста гэта яму шчасце будзе.

Насця. Гэта Лямэнт?

Мікалай. Гэта не Лямэнт.

Насця. А хто? *(Падступае бліжэй.)*

Мікалай. Гэта Чарноцкі. Я яго пазнаў. Я яго даўно-даўно раз бачыў.

Насця сочыць за кожным Мікалаевым рухам.

Н а с ц я *(ахопленая жахам)*. Ён хоча, каб мы тут не жылі?

М і к а л а й. Не то што каб тут, а каб на свеце не жылі.

Н а с ц я. Чаго ж ён на нас? Трэба зараз жа прадаць палатно і заплаціць арэнду. Не трэба чакаць да суботы.

М і к а л а й. Што яму гэтая няшчасная арэнда. Я і сам не ведаю, што тут такое. Можа, ён хіба пачуў што пра бацьку. Ён сказаў мне, дзе мой бацька.

Н а с ц я. Дзе ж ён? Чаму ён табе сказаў?

М і к а л а й *(вядзе яе да акна, паказвае ў акно)*. Унь у тым белым доме жыве.

Н а с ц я. Гэта ж даўней быў яго дом.

М і к а л а й. За гэта ён помсціцца. Там бацька начальнік, нейкі, мусіць, вялікі чалавек. Ён мне сказаў ісці туды і загубіць свайго бацьку.

Н а с ц я *(маўчыць, здзіўленая)*. Не ідзі. Лепш з дому сыдзі, у лесе захавайся, а не ідзі.

М і к а л а й. Я і не думаю ісці.

Н а с ц я. Што яны табе зробяць? Не пойдзеш — і ўсё.

М і к а л а й. Яны могуць многа зрабіць.

Н а с ц я. Ну, што ўжо можа быць горш, як цяпер?

М і к а л а й. От я ж гэта і думаю: што можа ўжо горш быць, калі Ірынка ледзь жыве, ты, як цень, ходзіш... Я ў турму не дамся. Я сыду з дому. Выганяць з хаты — людзі не дадуць вам прапасці. Ці торба, ці такое жыццё.

Н а с ц я. Выганяць з хаты? Гэта ж ты толькі так гаворыш. Што можа быць горш, калі ў дзіцяці няма страхі над галавой.

М і к а л а й. Дык мне ісці губіць бацьку? Я ўжо не думаю пра тое, што прападу сам.

Н а с ц я. Паслухай, а каб бацька забраў нас туды?

М і к а л а й. Гэтага нешта не чутна нідзе.

Н а с ц я. Ну, дык сыдзі з дому.

М і к а л а й. А вы?

Н а с ц я. І мы пойдзем.

М і к а л а й. Куды ж вы дзенецеся?

Н а с ц я. Ці малы свет?

М і к а л а й. Які ж тут свет? Скрозь жа Польшча, а кругом граніца.

Н а с ц я. Ну, дык усё адно сыходзь з дому.

М і к а л а й. Дык гэта трэба зараз жа рабіць, а то прыйдуць.

Н а с ц я. Ідзі.

М і к а л а й. Ну, добра. *(Адзяе той пінжак, якім акрывалася Ірынка.)* Дай мне тую, меншую торбачку. *(Насця дастае з кутка і дае яму торбу. Ён яе камечыць і хавае ў кішэні.)* Калі мяне прыйдуць пытаць, скажы, што пайшоў некуды далёка работы шукаць, а куды,— скажы,— не знаю. А сама ведай, што я падамся ў Гайнава, да таго самага Іваса...

Н а с ц я. Да якога гэта Іваса?

М і к а л а й. А да таго, што ў пазалеташнюю восень двое сутак ляжаў у нас у прыгрэбцы ў саломе.

Н а с ц я. Што з табой на будоўлі быў і захварэў?

М і к а л а й. Ён не быў хворы, яго тады шукалі.

Н а с ц я *(у трывозе)*. То гэта ён забіў паліцыянта?

М і к а л а й. Ці забіў, ці не — але яго шукалі.

Н а с ц я. Ты мог бы згубіць і яго, і сябе, і нас усіх.

М і к а л а й. Няўжо ж я выганю свайго чалавека, калі яны яго шукаюць? Пра тое забойства мне сёння ўночы нешта ўспаміналі. Можа, дазналіся пра што...

Н а с ц я. Прапалі мы.

М і к а л а й. Цяпер Івась няхай мне паможа... А я там старацца буду дзе-небудзь прымасціцца на работу. Пайдзі ў суботу на пільню і забяры мой заробак за гэтыя дні. Прадай палатно і заплаці за арэнду. Цяпер самае важнае, каб з хаты не выгналі.

Н а с ц я. Добра... На, вазьмі на дарогу ў торбу. *(Дае яму кавалак хлеба.)*

М і к а л а й *(кладзе хлеб на стол)*. Няхай вам будзе, а я ў людзей разжывуся. Бывай здарова. *(Цалуе Насцю.)* Я неўзаметку прайду палеткам і пагляджу яшчэ на Ірынку. Няхай вам будзе ўсё шчасліва. *(Яшчэ цалуе Насцю.)*

Н а с ц я. І табе таксама.

Мікалай шпарка рушыў да дзвярэй. Трымаючы на яго плячы руку, Насця ідзе разам з ім. У гэты час за хатаю чуцен Юзін голас і забразгала клямка ў сенечных дзвярах. Мікалай ужо адчыніў у сенцы дзверы і раптам адступіў крок назад, адным махам шырэй адчыняючы дзверы.

Ю з я *(у сенцах)*. Асцярожненька ступай, Ірынка.

Ашаломленыя Мікалай і Насця застываюць на месцы, і Ю з я ўводзіць у хату І р ы н к у. Усмешка з'явілася на Ірынчыным твары, калі яна спаткалася вачыма з бацькам. Юзя падтрымлівае яе, абняўшы адной рукой.

М і к а л а й. Што з ёй?

Ю з я. Я пайшла па пакошу карову даіць. Гляджу — думаю, гэта Ірынка спіць седзячы. Аж як паглядзела — дык яна, як травіна ў суш,— вочы заплюшчаны, сама хіліцца к зямлі і нічога не чуе, што я кажу ёй.

І р ы н к а. Вельмі ж сонца пякло. *(Усе ўтраіх кладуць Ірынку на пасцель. Яна заплюшчвае вочы і ляжыць так нерухома.)*

Ю з я. Я ж пабягу к каровам. Няхай яна ляжыць, не чапайце яе.

М і к а л а й. А чарада?

Ю з я. Я да чарады хлапчука пашлю. Я яшчэ забягу сюды, як падаю каровы. *(Шпарка выходзіць.)*

У хаце цішыня. Мікалай і Насця стаяць над Ірынкай, гледзячы адно аднаму ў вочы. Раптам Мікалай дастае з кішэні торбу і кідае яе ў кут.

Н а с ц я *(угадваючы Мікалаевы думкі)*. Яна *(паказвае на Ірынку)* памрэ без страхі над галавой. *(Садзіцца каля Ірынкі, гладзіць яе па галаве. Ірынка садзіцца на пасцелі. Мікалай моўчкі стаіць. Ціха адчыняюцца дзверы, усаджваецца Хартановіч.)*

Х а р т а н о в і ч *(счакаўшы, пакуль Мікалай заўважыў яго)*. Хадзем. *(Да Насці.)* У нас там аб дрывах пагавараць.

М і к а л а й *(прыгортвае да сябе Ірынку)*. Будзь здарова, Ірынка.

І р ы н к а. Куды ты ідзеш?

М і к а л а й. Недалёчка, унь сюды, за рэчку. *(Паказвае рукой у акно.)* Блізка.

І р ы н к а. Адно ж скора прыходзь. *(Мікалай не адказаў, моўчкі пагладзіў па галаве Ірынку, кіўнуў галавой Насці і выйшаў услед за Хартановічам. Неўзабаве Мікалай усаджвае галаву ў акно з двара.)*

М і к а л а й *(у акне)*. Праўся, Ірынка, будзь здаровая, расці шчаслівая.

І р ы н к а *(усміхаецца бацьку)*. Сарві мне унь той жоўты лісток з грушы.

Паказвае ў акно. У яе словах прабіваюцца ноты дзіцячага свавольства, якое пры іншых умовах і ў іншы момант вылілася б у бурную весялосць. Мікалай зрывае з грушы і дае Ірынцы жоўты лісток.

І р ы н к а *(гладзіць сябе па твары лістком і нюхае яго)*. От пахне лісток. Здаецца, як увосень.

М і к а л а й. А ўжо ж і восень.

Хартановіч *(дзесьці з двара)*. Ну, хадзем. *(Мікалай хоча ісці.)*

Ірынка. Тата, я з табой прайду да рэчкі.

Мікалай. Не, малая, адпачывай сабе.

Ірынка. Дык я толькі да поплава.

Мікалай. Я раней яшчэ туды зайду. *(Паказвае кудысьці рукой.)*

Ірынка *(усхватваецца)*. Ну то я прайду з табой да кляноў.

Выходзіць з хаты. Мікалай знікае з акна.

Насця. Ах, малая, непаслушная... Няхай пройдзе пад кляны, можа апошні раз бацьку бачыць. *(Выходзіць з хаты.)*

Неўзабаве ў хату ўваходзіць Юзя з поўным збанком у руках. Ставіць збанок на стол, садзіцца і аддыхваецца ад стомы — відна, што яна шпарка ішла або бегла.

Юзя *(сама сабе)*. Дзе ж усе дзеліся, нікога няма?

Зыгмусь *(усаджваецца ў акно)*. Следам за табой ганюся. Крычаў, а ты не чула. *(Шпарка ўваходзіць у хату.)* Дома я цябе не мог знайсці нідзе.

Юзя. Я думала, што ты з панамі паехаў.

Зыгмусь. Стары пан пад граніцу пешкам пайшоў. Адзін... Што ты робіш у гэтай хаце адна?

Юзя. Любы мой, дарагі. Паслухай мяне. Ты службу маеш, мы будзем жыць з табою. Нашто нам той фальварак, калі ён дастанецца нам праз чужую кроў і праз чужыя слёзы. Мне страшна.

Зыгмусь. Дык што ты хочаш?

Юзя. Я не пайду за Лямэнта замуж, я толькі за цябе аднаго хачу.

Зыгмусь. У такую мінуту ты так гаворыш? Усё ж ужо зроблена. Гэтая зямля і хата гэтая — ужо наша.

Юзя. Як гэта?

Зыгмусь. Чарноцкі падараваў гэтую зямлю Лямэнту. *(Ад радаснай узбуджанасці пацірае рукі.)* Адразу. Доўга не думаў. Ён толькі сказаў, каб Лямэнт бярог чыстату гэтай зямлі, каб на ёй ніхто ніколі нячысты не жыў. Добра Лямэнт пастараўся для нас з табой. Так што табе не патрэбна ўжо і падгаварваць яго на гэта. Няхай твая душа будзе спакойная. Толькі адно табе асталося, самае малое,— каб ён адразу на цябе зямлю гэтую перапісаў. А мужыкоў ён згоніць і сам, без твайго ўгавору.

Ю з я. Я на ўсё згодна. Нават на смерць Лямэнта згодна. Толькі — гэтая зямля не дасць мне век спакою ў душы. Любы мой, няўжо табе мала майго кахання, Зыгмусь? *(Глядзіць яму ў вочы.)*

З ы г м у с ь. Што за гавэнда! *(Злуе.)* З сённяшняга ж дня пачні з ім аб перапісцы на цябе зямлі.

Ю з я. Я гэтага не буду рабіць. Я не хачу панаваць на зямлі, з якой няшчасныя людзі пойдуць у свет жабракамі.

З ы г м у с ь. Дык тады можаш сабе і не ісці за Лямэнта замуж.

Ю з я. Як я табе ўдзячна, Зыгмусь, што ты, нарэшце, на мяне глянуў, а не на Лямэнтава дабро. Я ж сябе для цябе берагла.

З ы г м у с ь *(у шалёнай злосці)*. Тое, што ты там для мяне берагла, то гэта маё. А рэшта — няхай будзе Лямэнту.

Ю з я. Што я чую? Я табе зусім не патрэбна?

З ы г м у с ь. Без Лямэнтавага фальварка! Без гэтай зямлі! Дык калі беспасажніца, дык у мяне знойдуцца дзяўчаты па васемнаццаць год, а не трыццаць.

Ю з я *(апанаваная жахам і горам)*. Зыгмусь, не пакідай мяне, забяры мяне ад Лямэнта. Выратуй мяне з гэтага пекла. Ты можаш, ты служыш, ты зарабляеш. Я так цябе кахаю. Не дай мне прапасці. Я гатова самую сябе прынесці ў ахвяру Лямэнту, каб толькі з табою быць пасля шчаслівай.

З ы г м у с ь *(зменьвае тон)*. Ну, дык чаго ж ты?

Ю з я. Я не магу мець шчасця на чужым горы. Чаму ты такі бессардэчны?

З ы г м у с ь. Ну, дурная, ну, любая... Ну чаго ты... *(Абнімае Юзю.)* Я зменшу тэрмін. Не праз паўгода, а раней ты аўдавееш.

Ю з я *(у яго абдымках)*. Не, не трэба за Лямэнта, калі кахаеш — так бяры...

З ы г м у с ь. Ну, дурная, ну, любая...

У дзвярах з'яўляецца Л я м э н т з палкаю ў руках. Ён бачыць Юзю ў Зыгмусевых абдымках. У першы момант ён аслупянеў ад нечаканага малюнка, шырока расплюшчыўшы вочы. Пасля жудасная ярасць ахапіла яго. Падняўшы палку, ён з крыкам кідаецца наперад, забыўшыся пра ўсё.

Л я м э н т. Гадаўка! Сцерва! Я гляджу, дзе яна. *(Зыгмусь кідаецца ў кут. Юзя адбягаецца ў другі бок.)*

Што гэта? *(Падступае да Юзі, узняўшы палку. Калоціцца ад гневу.)*

З ы г м у с ь *(хітра і смела)*. Ну і ўпартая ж ваша Юзя, пане Лямэнт. Ужо з год дамагаюся, каб хоць раз яе пацалаваць — і не ўдаецца. Я да яе, а яна або ўцякае, або пазурамі дзярэцца, як кошка.

Л я м э н т *(паварочваецца да Юзі, крычыць)*. Што робіш у гэтай хаце, чаго ты тут?

З ы г м у с ь. Яна даіла каровы, а я да яе прыбег. Яна наўцёкі, я за ёю. Яна сюды, ад мяне ратуючыся, і я следам. Тут я яе злавіў, а яна да мяне з кулакамі.

Л я м э н т *(замахваецца палкай)*. Нешта ты вельмі ахвотна расказваеш пра свае няўдачы каля яе.

З ы г м у с ь. Шчырая праўда. Дамагаюся, каб хоць раз яе пацалаваць, і не ўдаецца.

Л я м э н т *(трасецца ад рэўнасці і злосці)*. Дык каб гэта было апошні раз. Яна зараз будзе мая жонка.

З ы г м у с ь. Пане Лямэнт, што чую. Каб жа я гэта ведаў, то і не глянуў бы на яе, шануючы вас. Чаму ж пан Лямэнт мне раней нічога не казаў? О, я зайздрошчу вам. Ох, каб мне такая жонка! Ну, то дай бог здароўя. Бог сведка — без злое думкі, нічога не ведаў.

Л я м э н т. Ну, ідзі там сабе куды трэба.

З ы г м у с ь. А што ж, калі так... *(Выходзіць.)*

Л я м э н т *(да Юзі)*. Ты! *(Узнімае кулак і грукае палкай у падлогу.)*

Ю з я *(з крыўдай і гонарам)*. З якой гэта прычыны вы так на мяне? А можа я за вас замуж зусім і не пайду.

Л я м э н т. Як-то?

Ю з я. Дзе вы ўзялі права па мяне з кулакамі кідацца? Я ніколі гэтага не дазволю.

Л я м э н т *(абвяў, яго апанаваў смутак)*. Ты з ім цалавалася?

Ю з я. Не. Але каб і цалавалася, то хто мне можа забараніць?

Л я м э н т *(з новым выбухам злосці)*. Я. Ты мая жонка... зараз будзеш.

Ю з я. А калі я ніколі не буду вашай жонкай?

Л я м э н т *(раптам змяніў тон)*. Юзя... Юзечка... Юзя... *(Хапае яе за рукі.)* Я цябе азалачу... Ты і не ведаеш, што і зямля гэтая нам прыбавілася... Зганю адсюль мужыкоў і на цябе і зямлю гэтую перапішу... Будзеш, як пані... *(Юзя*

*адыходзіцца далей.)* Хадзі сюды. Чым ты нездаволена? Ну, ідзі. Ах, дзікая...

Ю з я. На гэтай зямлі жывуць няшчасныя людзі. Не трэба іх зганяць.

Л я м э н т *(увайшоў у сваю роль)*. Няможна. З такой умовай і зямля гэтая мне падаравана. Самому пану нязручна, яму трэба быць ласкавым да людзей. А людзі гэтыя тут жыць не павінны. Праз некалькі дзён або іх тут не будзе, або я буду мець вялікія непрыемнасці.

Ю з я. Праз некалькі дзён?

Л я м э н т. Адразу. Мы з табой тут запануем. *(Хоча падысці да яе, і вочы яго ўпалі ў акно.)* Ах, пся косць яго. Ён стаіць тут, гад. Цябе чакае, ці што? Хадзем дадому.

Ю з я. Я следам за вамі пайду. Дайце мне адумацца.

Л я м э н т *(глядзіць у акно)*. Стаіць, халера. Ну, каб скора была дома. Я ж яго ўпяку, пся лытка яго. *(Шпарка выходзіць.)*

Ю з я *(адна)*. Божа мой, божа! На якую дарогу яны мяне павялі! Кахаць аднаго, а ісці замуж за другога. І рукі ў крыві будуць. І чужое гора спакою не дасць. І сумленне мучыць будзе, і шчасця, значыцца, не будзе. І гэтыя няшчасныя людзі. Будзь ты праклята, такое жыццё!

Уваходзяць І р ы н к а і Н а с ц я. Абедзве ўзбуджаныя і стомленыя.

І р ы н к а. Тата ж пайшоў не туды, куды казаў. Вы мне казаць не хочаце... Ой, здаецца, долатам у вуха дзяўбуць.

Ю з я. Я табе, Ірынка, прынесла малака. Пі на здароўе. Увечары яшчэ прынясу.

Н а с ц я. Дзякую, Юзечка. У цябе добрае сэрца. Ты сама была сіратой. *(Кладзецца на пол.)* Дыхаць цяжка... Пайшоў наш татка... Пайшоў... Бяда вялікая з намі будзе, я гэта чую.

Ю з я *(пасля доўгай паўзы. Глядзіць на Ірынку)*. О, як скора заснула Ірынка. Спіць ужо. *(Ціха падыходзіць да Насці.)* Насця, я табе скажу, каб ты загадзя ведала: гэтымі днямі вас з хаты прагоняць, з гэтага месца.

Н а с ц я *(узбуджана паднімаецца)*. Гэта, можа, раней было... Не, Мікалай жа пайшоў... Сам Чарноцкі паслаў Мікалая на такую справу, за якую нас тут пакінуць, не прагоняць, чапаць не будуць.

Юзя. А гэта зробіць Лямэнт, Чарноцкі яму зямлю аддаў. Лямэнт вас выганіць. *(Насця задрыжала.)* Я павінна ісці замуж за Лямэнта. *(Падае грудзьмі на стол і плача.)*

Насця *(пасля жудаснага маўчання)*. Бяда вялікая прыйшла. Гора апанавала... Мікалай навек сышоў... Жыццё канчаецца. Юзя, не пакінь Ірынку ў бядзе вялікай, Ірынку, дачушку... Не пакінь Ірынку... Ірынку... Спіць Ірынка...

Абняможаная лажыцца, бадай-што падае. Юзя стаіць як анямелая. Запаноўвае вялікае маўчанне.

*Заслона*

## ТРЭЦЯЯ ДЗЕЯ

У кватэры Канстанціна Міхалковіча. Вялікі пакой з шырокім шкляным выхадам на адкрытую веранду, проста перад гледачом у кірунку на захад. Сонца блізка стаіць да захаду, і выхад на веранду ўвесь заліт чырвонымі водсветамі. Неба быццам гарыць, калі само сонца ў момант захаду вогненным шарам праходзіць па небасхілу і хаваецца за дрэвы і лясы. Тады густыя колеры ператвараюцца ў ціхія водблескі, неба бляднее і цямнее, фарбы яго сплываюць у прастору, і пачынаецца змярканне. У пакоі стол з букетам палявых кветак, гнутыя крэслы, такая ж канапка пад гарнітур крэслам, піяніна пры сцяне, і над ім партрэты Леніна і Сталіна. Масіўная тумба з вазонам. Тэлефон на сцяне. Валя грае на піяніна, яна ўся ахоплена музыкай і нічога, апроч яе, не заўважае. Яна ў тонкай стракатай светлай сукенцы, у сандалях на босую нагу. У валасы яе наўтыкана кветак, не дзеля хараства, а дзеля свавольства. З саду на веранду ўваходзіць Канстанцін Міхалковіч і ідзе ў пакой. У дзвярах ён спыніўся і слухае музыку. Гэта моцны стары, з густымі і сівымі валасамі, зачэсанымі назад. Твар яго ў загары. Калісьці дарагі, цяпер паношаны гарнітур ляжыць на ім вельмі зграбна, хоць, як відаць, сваёй адзежы ён не шмат аддае ўвагі. Пінжак расшпілены, гальштук падняўся з-пад камізэлькі. Ён стаіць моўчкі. Валя скончыла граць і глядзіць кудысьці паверх піяніна, некалькі разоў, час ад часу, яна бярэ самыя апошнія акорды і прыслухоўваецца да іх. Міхалковіч шпарка накіроўваецца да Валі. Валя азіраецца на стук яго крокаў, саскочыла са свайго месца і пайшла яму насустрач.

Міхалковіч *(абнімаючы Валю)*. Ах ты... малая ты мая... З парку чутна... За таполямі ішоў — чуў тваю музыку... *(Падводзіць Валю да піяніна.)* Ты ўжо шосты дзень іграеш, а нават не пацікавілася, нашто тут у мяне піяніна стаіць.

Валя. Можа ты сам іграць умееш?

Міхалковіч. Гэтымі пальцамі? *(Растапырвае пальцы.)* Гэтае піяніна — я яго купіў табе, перад самым тваім прыездам. Калі ты такая здольная да музыкі, дык май на чым вучыцца.

Валя. Дзядунь, любенькі!

Кружыцца навокал яго і цягне яго за сабой. Ён хапіў яе аберуч за плечы і стараецца яе спыніць. Яна рагоча і вырываецца ад яго.

Міхалковіч. Пусці. Пстрыкун! *(Яна адбягаецца ад яго і не можа ўстаяць на адным месцы — ёй хочацца кружыцца, бегаць. Міхалковіч садзіцца.)* Ну, хадзі сюды, пстрыкун. Ну, ідзі! *(Валя падыходзіць, ён трымае яе за руку.)* Ты ж у мяне адна-адзіная... унучка... Уцеха мае старасці.

Валя *(дзяцініцца)*. А мяне адну пакідаеш на цэлы дзень.

Міхалковіч. Ты ж гаспадыня. Хіба цябе пільнаваць трэба.

Валя. Вядома, што гаспадыня. Бачыш, як усюды чыста. Падлогу вымыла, пыл адусюль выцерла... Ой... *(Рагоча.)* Я ў абору хадзіла... *(Не можа гаварыць, рагоча.)*

Міхалковіч. Ну, што там у аборы было такое?

Валя. Я карову даіла.

Міхалковіч. Ну...

Валя. Як толькі пачала даіць, дык карова азірнулася і ўбачыла, што гэта я, і як дасць нагамі ў вядро...

Міхалковіч *(перабівае)*. А вядро як пабяжыць ды як закрычыць.

Валя. Няпраўда... А даярка як пабяжыць ды як закрычыць.

Міхалковіч. Ну, я ж і кажу, што і бегалі, і крычалі.

Валя *(надзьмулася, але так і відно, што ёй хочацца зарагатаць)*. Не буду расказваць.

Міхалковіч *(стараецца надаць як мага больш свайму голасу жаху)*. Чаму?..

Валя. Ты заўсёды мяне абсмейваеш.

Міхалковіч *(упрошвае са смехам)*. Ну, расказвай, ну, расказвай.

Валя. А дзе ты быў цэлы дзень, што я цябе знайсці не магла?

Міхалковіч. Запыталася б і знайшла б мяне.

Валя. Не мела я ахвоты бегчы за пяць кіламетраў у поле.

Міхалковіч. За якія табе пяць. За садам, па той бок мастка.

Валя. А што ты там рабіў? У канторы цябе няма і няма. Я два разы прыходзіла.

Міхалковіч. На дарозе правілі сапсаваны трактар.

Валя. Ты сам правіў?

Міхалковіч. Правіў механік, а я глядзеў.

Валя. Механік правіць, а ён глядзіць. От работнік!

Міхалковіч. Я хацеў павучыцца, што рабіць, калі па дарозе трактар стане...

Валя. Навучыўся?

Міхалковіч. Не яшчэ.

Валя. Дык гэтак ты і вучыўся. Пра нешта іншае думаў.

Міхалковіч. Праўда. Я табе яшчэ букет ірваў.

Валя *(жартаўлівым тонам)*. Ну?

Міхалковіч *(разводзіць рукамі)*. О такі букет. А кветкі якія: лебяда, чартапалох, драсён, трыпутнік, лопух, леташні быльнік і шаснаццаць каліў крапівы.

Валя. Хацела б я паглядзець, як бы ты ішоў з такім букетам. Эх, ідзе сабе важна, букет трымае... *(Маршыруе па пакоі, паказвае, як ён нёс бы букет.)*

Міхалковіч. Не ўдалося той букет прынесці.

Валя *(хоча выразіць голасам страх, ледзь стрымліваецца, каб не зарагатаць)*. Чаму?..

Міхалковіч. Паклаў той букет пры дарозе, а прыйшла карова, языком як лізне, дык ад твайго букета і следу не асталося. От толькі ў каровы з рота вырваў. *(Дастае з кішэні пучок сініх і чырвоных кветак.)*

Валя *(хапае кветкі, скача па пакоі)*. А трактар як пабяжыць ды як закрычыць... Як тое вядро...

Міхалковіч. Не, унучка, уся бяда ў тым, што трактар і не закрычаў і не пабег, аastаўся стаяць на месцы.

Валя *(бачыць, што ў яго голасе менш жартаўлівасці, і сама сталее)*. Дык што ж будзеш рабіць?

Міхалковіч. Ну, што ж рабіць? Правіць, пакуль не пабяжыць і не закрычыць.

Валя. Ой, дзядунь!

Міхалковіч. Ну, што яшчэ, пстрыкун?

В а л я. Сёння, як каровы даілі, дык от цёткі гаварылі пра цябе.

М і х а л к о в і ч. Што ж яны гаварылі?

В а л я. Гаварылі, што ты хацеў Чарноцкага пана злавіць, калі ён у Варшаву ўцякаў.

М і х а л к о в і ч. А ў нас усё жыццё з ім было так: то я яго лавіў, то ён мяне, то ён мяне біў, то я яго. Тут непадалёку ў лесе ёсць зямлянка, дзе год дваццаць таму назад я хаваўся ад яго. Туды да мяне прыходзілі людзі, і к канцу зімы ў нас быў вялікі партызанскі атрад.

В а л я. Пакажы мне тую зямлянку.

М і х а л к о в і ч. Пакажу.

В а л я. А дзе цяпер той Чарноцкі пан?

М і х а л к о в і ч. А яго ўжо, напэўна, і жывога на свеце даўно няма.

В а л я. Дзядунь! Давай сёння ўвечары ты мне будзеш расказваць пра партызанаў і тую зямлянку... І пра вайну... Толькі каб доўга расказваў.

М і х а л к о в і ч. Э, не, унучка. Я зараз пайду адпачну, а пасля пайду ў кантору гаварыць па тэлефоне з раёнам, а пасля з Мінскам.

В а л я. Дык я цябе буду чакаць.

М і х а л к о в і ч. А спаць калі ты будзеш? Я прыйду не раней гадзіны ночы.

В а л я *(штучна напускае на сябе сумнае нездавальненне)*. Ты мала мне расказваеш... і мала са мной бываеш...

М і х а л к о в і ч *(гладзіць Валю па галаве)*. Я ўсё азіраўся сёння на дарогу — можа, думаю, мільгаціць дзе паміж палеткам твая гэтая сукенка... Ты ж не ходзіш, а ўсё бегаеш.

В а л я *(прытуліўшыся да Міхалковіча)*. Дзядунь, я табе яшчэ заграю.

М і х а л к о в і ч. Твой бацька і твайго бацькі брат Мікалай таксама ў маленстве былі здольныя да музыкі. Яны самі навучыліся былі рабіць з дзерава дудкі і гралі на іх.

В а л я. А мой тата расказваў, што тая хата, дзе вы некалі жылі, калі ён быў малы, цяпер у Польшчы.

М і х а л к о в і ч. Гэта маё гора, унучка. Твайго таты брат, Мікалай, таксама там. Часам, калі я гляджу на цябе, мне здаецца, што стаіць поплеч цябе нейкае другое дзіця — няшчаснае, змучанае, і калі ты граеш, я адчуваю гэта больш, як калі.

В а л я. А цяпер?

Міхалковіч. Мне здаецца, што стаіць побач цябе хлопчык Мікалай, Міколка, такі, якім ён астаўся ў маёй памяці з таго часу, калі я служыў парабкам.

Валя. А чаму ты пра тату так не думаеш?

Міхалковіч. Твой бацька ўвесь час жыў са мною. Цяпер ён важны і шчаслівы чалавек. А Мікалай з малых год быў аратым у пана Чарноцкага. Я яго памятаю толькі малога і няшчаснага. Калі пасля вайны я вярнуўся быў сюды — граніца ўжо адмуравала яго ад мяне. І я выехаў быў адсюль далёка. З таго часу ніякага слыху. Ці жывы ён, і што з ім, і з кім ён жыве, і як. І хто ў яго ёсць з блізкіх яго? У шчасці і радасці да самай смерці тужыць буду... Ты ж у мяне адна, мая ўнучка... Ясным надвор'ем я тую хату бачу простым вокам.

Валя. Пакажы мне тую хату.

Міхалковіч *(становіцца ў выхадзе на веранду. Валя стаіць пры ім, трымаючы яго аберуч пад руку)*. Унь, бачыш тры вялікія дрэвы. Блішчаць ад сонца. *(Паказвае направа цераз веранду.)*

Валя *(углядаецца)*. Бачу.

Міхалковіч. Дык яшчэ правей хата. Унь, бачыш бляск. Гэта, мусіць, сонца ад шыб адсвечвае.

Валя. Бляск бачу. А хата там?

Міхалковіч. Там. Я пад тым адзінокім дрэвам часта некалі адпачываў пасля работы, і маленькі Міколка ў мяне на руках сядзеў. Я цяпер цалаваў бы кару на тым дрэве.

Валя. Не відна хаты. *(Раптам падскочыла, убегла на сярэдзіну пакоя.)* Бацька пакінуў свой бінокль. *(Выбягае праз бакавыя дзверы ў памежны пакой і неўзабаве вяртаецца назад з біноклем. Наводзіць бінокль. Глядзіць.)* Не бачу. *(Дае Міхалковічу бінокль.)* Знайдзі сам і скажы, куды глядзець.

Міхалковіч *(углядаецца праз бінокль)*. Адзінокае дрэва, як жывое, перад вачыма. Унь і камень вялікі на месцы пры дарозе. І хата. Сонца свеціць проста ў вокны. Людзі ходзяць. Многа людзей з хаты выходзіць. Ідуць некуды, нешта нясуць...

Раптам Міхалковіч уздрыгануўся. Рука з біноклем упала ўніз, неяк бездапаможна ён азірнуўся, пасля рэзкім рухам ускінуў руку з біноклем зноў да вачэй, і зноў так жа рука яго ўпала ўніз.

Валя. Што гэта ты неяк? *(Міхалковіч зноў глядзіць у бінокль і зноў апускае руку.)* Дай, дай мне, я пагляджу.

*(Вырывае з яго рук бінокль і глядзіць сама.)* Гэта з хаты тыя людзі выйшлі?

Міхалковіч. З хаты.

Валя. А што гэта яны нясуць? Чаму гэта яны нясуць наперадзе крыж?

Міхалковіч *(адказвае не адразу. Поўны трывогі, ён маўчыць, нібы ён гэта хоча перачакаць раптоўны боль у сабе. Пасля ён пераводзіць вочы на Валю)*. У той хаце нехта памёр. Хаваюць некага ў той хаце...

Ён абнімае адной рукою Валю і прыгортвае яе да сябе. Раптам ён выхватвае з яе рук бінокль і праз яго прыпадае вачыма і ўсёй постаццю да далечыні перад ім. Рух гэты яго падобен на тое, быццам ён кінуўся на свой ці на чый ратунак. Гэта толькі адзін момант. Ён кладзе бінокль на край веранды. Валя забірае яго і сама глядзіць. Міхалковіч шпарка ўваходзіць у пакой.

Міхалковіч. Мікалай, сынку мой, што яны з табой зрабілі... Я ж нядаўна быў у Крамлі. Я ж нядаўна бачыў Сталіна. Чаму я не сказаў Сталіну — ратуй, бацька родны, майго хлопчыка Міколку!

Не знаходзіць сабе месца і позы. Валя доўга глядзіць на верандзе ў бінокль. У гэты час на самым небасхіле, насустрач выхаду на веранду, паказваецца вогненны шар сонца і хутка заходзіць і знікае. Згушчаецца вячэрні змрок. На небе запальваюцца зоры. Міхалковіч шпарка рушыў з пакоя праз веранду ў сад.

Валя. Дзядунь, куды ты?

Міхалковіч. На граніцу. Можа там на заставе бліжэй бачылі. Можа хоць здагадацца можна, каго хаваюць.

Валя. І я з табой пайду.

Абое знікаюць у глыбіні саду. Нейкі час сцэна пустая. Пасля каля веранды з'яўляюцца Мікалай і Хартановіч.

Хартановіч. Прыйшлі. Тут жыве твой бацька. Проста ў дзверы ідзі.

Мікалай. А ты?

Хартановіч. А я? Ты ж сам ведаеш.

Мікалай. Што я ведаю?

Хартановіч. К бацьку ідзі. Што ў цябе, сэрца каменнае? Абнімі яго, як сын. Год жа дваццаць пяць яго не бачыў. Ты ж да яго, як з таго свету прыйшоў.

Мікалай *(сурова)*. Мне ж паліць трэба ісці.

Хартановіч. Дык я ж табе кажу — нічога табе паліць не трэба. Не пэцкай рук. Нашто ты сам будзеш роднаму бацьку рабіць бяду такую?

М і к а л а й *(не разумеючы)*. Значыцца, не трэба нічога рабіць, што сказаў Чарноцкі?

Х а р т а н о в і ч. Ц-ц-ці-ха... Не ўспамінай тут гэтага прозвішча. Ідзі з бацькам вітайся. І сабе тут будзь. Не думай ні аб чым. Спакойна сядзі ў бацькі.

М і к а л а й. А ты пойдзеш паліць?

Х а р т а н о в і ч. Я... *(Маўчыць.)*

М і к а л а й. Хадзем удвух к майму бацьку. Як чалавек ідзі.

Х а р т а н о в і ч. Вар'ят шалёны, што ты гаворыш?

М і к а л а й. Хадзем.

Х а р т а н о в і ч *(адыходзячыся ў сад)*. Ён звар'яцеў. *(Адыходзіцца яшчэ ў глыб саду.)*

М і к а л а й *(хапае яго за адзежу)*. Стой, не ідзі. *(Бадай-што сілком прыцягнуў Хартановіча назад да самай веранды.)*

Х а р т а н о в і ч. Што ты робіш? Ты забываешся, адкуль мы прыйшлі.

М і к а л а й. Ты пойдзеш паліць. Ці ты спаліш, ці я — гэта на пагібель майму бацьку.

Х а р т а н о в і ч. На якую пагібель! Тут будзь! *(Страціў цярплівасць, баязліва азіраецца, зноў адыходзіць у сад.)*

М і к а л а й. Стой!

Х а р т а н о в і ч *(апанаваны жахам)*. Не крычы!

М і к а л а й *(кідаецца следам за Хартановічам)*. Буду крычаць, калі пойдзеш. *(Цягне Хартановіча назад к верандзе.)*

Х а р т а н о в і ч. Што ты хочаш рабіць?

М і к а л а й. Ты хочаш людзей губіць і майго бацьку.

Х а р т а н о в і ч *(моцным шэптам, грозна)*. Ідзі да свайго бацькі! Ну!

М і к а л а й. Ты ідзі наперадзе, а я за табой пайду. *(Хапае Хартановіча за плечы.)*

Х а р т а н о в і ч. Ідзі! *(Выхватвае з кішэні нож.)*

М і к а л а й. Дык ты вось як! *(Абхватвае Хартановіча аберуч і, перамагаючы яго супраціўленне, бадай-што ўносіць, упіхвае яго праз веранду ў пакой.)*

Х а р т а н о в і ч *(шэптам)*. Пусці, дурань! Сам сваю сям'ю губіш. Калі не будзе зроблена, там тваёй сям'і... От бачыш, я табе дабра хачу, а ты...

М і к а л а й. Ты мне дабра хочаш! Тут будзеш!

Х а р т а н о в і ч *(вырываючыся з Мікалаевых рук)*.

Дай дарогу. Закалю, як сабаку. *(Наступае на Мікалая.)*

М і к а л а й *(ён загарадзіў сабой выхад на веранду).* Чакай! *(Шпарка азіраецца ў бакі, быццам чагосьці шукаючы.)*

Хартановіч кідаецца к выхаду, наставіўшы на Мікалая нож. Мікалай, не пакідаючы выхада, кінуўся ўлева і працягненай рукой халіў тумбу з-пад вазона. Вазон з грукатам бразнуўся на падлогу. Хартановіч уздрыгануўся і рынуўся бліжэй да Мікалая. Яшчэ секунда,— Хартановіч усадзіць нож у грудзі Мікалаю. Мікалай з усяго размаху апусціў тумбу на галаву Хартановіча. Хартановіч падае і застывае на месцы. Мікалай, знясілены і ахоплены жахам, адбягаецца назад да выхада на веранду, растапырвае рукі на ўвесь выхад, быццам загароджвае яго сабою, і стаіць, як застылы, нерухомым позіркам бачачы адтуль Хартановіча ў вячэрнім змроку. Праходзяць мінуты, змрок згушчаецца, хутка робіцца цёмна. Мікалай адыходзіць к сцяне. У садзе чуюцца галасы В а л і і М і х а л к о в і ч а.

В а л я. Гэта ўжо на тым беразе малюсенькай рэчкі і Польшча?

М і х а л к о в і ч *(сурова).* Польшча.

В а л я. А чаму гэта яны крыж неслі наперадзе?

М і х а л к о в і ч *(відна, што ён не разабраў ці не зразумеў, што кажа Валя, бо пачаў гаварыць тады, калі яна яшчэ не скончыла).* Я табе не раз казаў — не прывыкай абыходзіцца з светам і людзьмі, як з цацкамі. *(Здаецца, ён сам не заўважае сваіх слоў.)*

Уваходзяць у пакой. Мікалаеў сілуэт вырысоўваецца на фоне белай сцяны.

В а л я. Дзядунь, ну чаго ты так?

М і х а л к о в і ч. Я павінен аледзянець, каб не бачыць і не думаць.

В а л я. Дзядунь, мала што з той хаты труну выносілі. Можа там дзядзька Мікалай і не жыве ў той хаце!

Мікалай, які дагэтуль стаяў пры сцяне ціха, зрабіў раптоўны рух на сярэдзіну пакоя.

В а л я. Дзядунь, тут нехта ходзіць.

М і к а л а й *(бадай-што адначасна з Валяй).* Гэта Ірынка памерла, калі з тае хаты труну панеслі.

М і х а л к о в і ч. Хто тут? *(Кінуўся да выхада на веранду і загарадзіў яго сабой. Валя з ім разам.)* Валя, святло ўключы, зараз жа!

В а л я. Баюся ісці.

Міхалковіч. Хто тут? Валя, святло!

Моцна тупаючы нагамі, Валя пабегла да супрацьлеглай сцяны, у момант уключыла святло і так жа шумна і шпарка падбегла назад да Міхалковіча. Пакой заліўся яркім святлом. Мікалай стаіць пасярод пакоя. Міхалковіч насупроць яго, наставіўшы на яго наган. Міхалковіч бачыць перад сабою абарванага, аброслага, учарнелага чалавека.

Міхалковіч. Хто ты? Што за чалавек?

І раптам рука Міхалковіча задрыжала і ўпала ўніз, і ўвесь ён сагнуўся, асунуўся ў момант вока і, апанованы радасцю, здзіўленнем і жахам, застыў на месцы. Але ў наступны момант парыў радасці перавысіў усё ў душы Міхалковіча. Ён гатоў кінуцца да Мікалая, Мікалай гатоў кінуцца да яго.

Валя *(нечаканы крык)*. Ай! Чалавек на падлозе ляжыць. *(Хапаецца за Міхалковіча і трымаецца за яго.)*

Глыбокае маўчанне цягнецца некалькі мінут. Раптам Хартановіч заварушыўся і застагнаў.

Хартановіч *(хрыпіць, ледзьве адцягвае голас)*. Ён хацеў тут спаліць усё, а я не даваў, і ён забіў мяне... Я яго загнаў сюды... Я тутэйшы чалавек... Дакументы ў кішэні... А ён шпіён... з Польшчы прыйшоў... *(Змоўк.)*

Мікалай выпростваецца, з яго зыходзіць разгубленасць, і так ён стаіць у рашучай позе, з суровым выглядам.

Мікалай. Я думаў — у мяне будзе першая за ўсё маё жыццё мінута вялікага шчасця і радасці — спатканне з бацькам. Але, бачу, радасць на свеце даецца вельмі цяжка. Мне трэба яшчэ дадумацца, як паказаць перад табою сваю чыстую душу. Я не даў яму губіць і цябе, і тутэйшых людзей. Гэта ён ішоў паліць вас. *(Паказвае на Хартановіча.)* Як добра, што я забіў яго. Як я шкадую, што пакінуў яшчэ жывога большую гадзіну — Чарноцкага.

Міхалковіч. Каго?

Мікалай. Чарноцкага. Ён ведае, што ты тут жывеш у яго доме. Ён выгнаў мяне сюды, каб я згубіў цябе навек. А калі я не згублю цябе — дык ён згубіць там Ірынку. Ёсць там Ірынка, твая ўнучка. Ратуй яе ад гібелі. Я пакінуў яе хворую і ў Чарноцкага руках. Такое дзіця... *(Глядзіць на Валю.)* Як гэтая... *(Ён здзівіўся вялікаму Валінаму падабенству да Ірынкі.)* Чыя ты? Я мог бы падумаць, што ты Ірынка. Твар. Вочы. І пастава... Што я гавару... Не гэта трэба гаварыць... Божа мой, божа мой...

Валя. Дык гэта, можа, вы Мікалай. Мой бацька — гэта ваш брат.

Мікалай. Ты Валодзева дачка... Была ў цябе сястрычка Ірынка...

Валя. А дзе яна цяпер?

Мікалай. Вы бачылі, як з тае хаты труну вынеслі... Не трэба маёй цяпер Ірынцы ніякага ратунку... Што ж я стаю... Чаму я валасоў на сабе не рву... *(Робіць крок да Міхалковіча.)* Там суседзі мае асталіся з няшчаснымі дзецьмі. Ад вёскі да вёскі дарогі. Усюды людзей многа, усюды бяды і гора поўна... Хіба з дубінай я цяпер пайшоў бы туды.

Міхалковіч. Мікалай... Сын мой... Які ты... Што яны з табой зрабілі... *(Стаіць, прыпаўшы плячыма да сцяны, як умураваны ў яе.)* Мікалай... Падыдзі да мяне бліжэй...

Міхалковіч робіць крок да Мікалая, Мікалай робіць крок да Міхалковіча. Так стаяць нерухома, імкнучыся душой і сэрцам адзін да аднаго. Хартановіч заварушыўся і сеў. Усе паварочваюцца да яго.

*Заслона*

## ЧАЦВЁРТАЯ ДЗЕЯ

У хаце Мікалая Міхалковіча. Ноч. Цёмна. Знадворку чуцен голас Лямэнта.

Лямэнт *(на двары)*. Юзя... Юзя... *(Уваходзіць у хату, запальвае электрычны ліхтарык, абводзіць ім сцены і куткі.)* Юзя! *(Ліхтарык асвяціў лямпачку на акне. Лямэнт тушыць ліхтарык, чыркае запалкай і запальвае лямпачку. Азіраецца па хаце.)* І тут няма яе. А божа мой, божа мой.

У хаце пануе разруха і непарадак. Усё параскідана і зрушана з свайго месца. Пасцель на палу зграмозджана ў кучу, на падлозе валяюцца рэчы, стол не на сваім месцы, тапчан, на якім у другой дзеі спала Ірынка, стаіць голы, без пасцелі, пасярод хаты. Адна фортка ў акне знята з крукоў і стаіць з пабітым шклом пры сцяне. Груша на двары пад акном бадай-што ўжо голая: апошняе зжаўцелае лісце яе ападае ціха і беспераставку. Лямпачка на акне асвятляе грушу. За хатаю спяваюць пеўні. З пала да самай падлогі звешваюцца лахманы. Частка іх ляжыць на падлозе. Лямэнт пагаспадарску аглядае хату, падыходзіць да акна, бярэ з падлогі зпятую фортку і надзявае яе на крукі.

Л я м э н т. Гм... Нехта ўжо і шкло высадзіў... *(Адыходзіцца на сярэдзіну хаты, садзіцца на тапчан.)* Божа ласкавы, прымі плач крывавы. Што гэта будзе, што гэта робіцца? Вайна лютая, жорсткая. З Варшавы ўсе сюды ўцякаюць, у наш ціхі куток. Дзякуй богу, што я тут жыву. Божа, выратуй айчызну! *(Адыходзіць да кучы лахманоў, разварушвае іх палкай. Застукалі дзверы ў сенцах. Лямэнт падняў галаву.)* От, яна ідзе. Знайшла сабе тут прыпынак, са мною сварачыся... Халера. А можа, гэта да яе сюды Зыгмусь з'яўляецца? Але ж больш за месяц не відно яго ўжо... Ну, дзе ж яна?..

Нецярпліва робіць крок да дзвярэй і спыняецца, прыслухоўваючыся. Ціха адчыняюцца дзверы, і на парозе з'яўляецца І р ы н к а. Цераз плячо яе вісіць торба.

І р ы н к а *(адчыняючы дзверы)*. Юзя... *(Убачыла Лямэнта, збянтэжылася і змоўкла.)*

Л я м э н т *(здзіўлена, перажываючы непрыемнасць)*. Гэта ты... Вярнулася...

І р ы н к а *(нясмела)*. Я толькі... Не, я зноў пайду.

Л я м э н т. А чаго ты прыйшла?

І р ы н к а *(памаўчаўшы)*. Холадна. Я прыйшла цяплей адзецца.

Баязліва паглядаючы на Лямэнта, падыходзіць да кучы лахманоў, дастае адтуль нейкі кароткі ватовы кафтан, адзяе на сябе, закасвае непамерна даўгія на яе рукавы, адзяе торбу паверх кафтана. Усё гэта яна робіць у глыбокім і панурым маўчанні і паволі.

Л я м э н т. А чаму ты адразу не адзелася як мае быць?

І р ы н к а. Тады яшчэ было цёпла.

Л я м э н т *(злосна)*. Дык гэта ты адразу намерылася далёка ад хаты не адыходзіць?

І р ы н к а. Я зараз пайду.

Л я м э н т. Я гэтую хату раскідаць буду.

І р ы н к а *(з наіўнай баязлівасцю)*. Добра.

Л я м э н т. Няхай табе бог дасць усё шчасліва.

Ірынка спынілася непадалёку ад дзвярэй. Лямэнт стаіць перад ёю.

І р ы н к а. Дзе мой тата?

Л я м э н т. А ты не ведаеш, дзе твой тата?

І р ы н к а. Не.

Л я м э н т. Дык адкуль жа я ведаю?

Ірынка нешта хоча сказаць і доўга не адважваецца.

І р ы н к а. Мама, калі ўмірала, сказала мне, што гэта вы згубілі нас навек і майго тату.

Л я м э н т *(трывожна ўздрыгануўся, як ад раптоўнага ўдару)*. Я згубіў вас? І твайго тату?

І р ы н к а *(баязліва, задам, адышлася к самаму парогу)*. Вы і той пан Чарноцкі. *(Шпарка хапаецца за клямку дзвярэй і адчыняе іх. Глядзіць Лямэнту ў вочы. Адчуваючы, што яна самае важнае ўжо асмелілася сказаць, яна павышае голас да самых высокіх нот і перазагае сваю нерашучасць дасказаць усё да канца.)* Мама сказала, каб я не баялася вам сказаць. І што калі я вырасту, каб ніколі не даравала і за тату, і за яе, і за сябе каб не даравала... І мама тады памерла.

Вочы яе пачырванелі, твар гарыць адчаем і страхам. Яна шпарка пайшла з хаты.

Л я м э н т. Стой, пачакай! *(Ён хапіў з акна лямпачку, падбег да дзвярэй і свеціць у сенцы.)* Дарэмна твая мама казала так. А колькі год вы тут жылі, не маючы па гэта права? *(Баіцца, і ад вялікага страху, быццам чакаючы немінучага ўдару, ён уцягнуў галаву ў плечы, асцярожна азірнуўся па хаце.)* Чакай! *(Палез у кішэню.)* На табе злоты, вазьмі. *(Працягвае грошы ў цемень сянец, крычыць.)* Бяры, калі даю. Жаба. *(Аддаў грошы кудысьці ў цемень. У сенцах бразнулі дзверы.)* Пайшла, дзякуй богу! *(Шпарка ставіць лямпачку на тапчан, кідаецца да пабітага акна, адчыняе, высаджваецца на двор.)* На Нясвіжскую дарогу ідзі, там часта людзі ходзяць, прасіся, каб хто падвёз. *(Перавешваецца ў акне ўправа, вісіць у акне бокам, доўга ўглядаючыся ў цемень, пасля адыходзіцца ад акна. Стаіць.)* Як камень з душы! *(Маўчыць.)* Дай божа, каб усё добра было. *(Падыходзіць да дзвярэй, трывожна прыслухоўваецца, адыходзіць, садзіцца на тапчан.)* Божа мой, божа мой, ратуй айчызну! *(Застукалі дзверы ў сенцах. Лямэнт падняў галаву.)* Вярнулася! Ах ты, ліхая гадзіна! *(Глядзіць на дзверы і слухае.)* Ніяк з хаты не выбавіць!

Ціха ўваходзіць Ю з я са збанком у руках. Убачыўшы Лямэнта, яна збянтэжылася і нясмела паставіла збанок у кут на падлогу. Лямэнт глядзіць на яе ўедлівым позіркам, і па меры таго як цягнецца маўчанне, яна смялее і становіцца перад ім у рашучую позу. Лямэнт таксама стаіць перад ёй у рашучай позе.

Л я м э н т *(пастукаў палкай у збанок)*. Няма яе...

Ю з я. Нават сярод ночы вы яе выганяеце з хаты.

Л я м э н т. Я не маю права не рабіць гэтага. Я службовы чалавек. Гэта такая сям'я.

Ю з я. Дзе ж такая сям'я? Няма ўжо сям'і. Асталося адно няшчаснае дзіця.

Л я м э н т *(ён убачыў, што сказаў глупства і што варта было б саўладаць са сваім гневам)*. Тут жа я ўсё перабудоўваць буду, трэба рабіць гаспадарку, даваць лад зямлі.

Ю з я. У вас няма чалавечага сэрца.

Л я м э н т. Хіба я забараняў табе насіць ёй малако і карміць яе? Хіба я не даў ёй грошай на дарогу?.. *(Раптам адумаўся.)* Чакай, а адкуль гэта ты ведала, што яна сёння вернецца?

Ю з я *(з пагардай да Лямэнта)*. Ведала.

Л я м э н т. Чаму гэта?

Ю з я. Таму, што я хачу ўзяць яе сабе за дачку.

Л я м э н т *(здзівіўся, змоўк, задумаўся, надаў сваім словам тон просьбы)*. Дык гэта мне ж прыйдзецца быць яе айчымам?

Ю з я. Няўжо вы яшчэ і дагэтуль думаеце, што я пайду за вас замуж? Ніколі я за вас не хацела ісці.

Л я м э н т *(як звер)*. Дык ты гэта са мной так сабе, як з цацкай, хацела гуляць?

Ю з я. Ой, якая цацка! Ну, проста лялька!

Л я м э н т *(страшэнна зняважаны, калоціцца, ледзьве стрымліваецца, каб не ўдарыць Юзю палкай)*. Што б там ні было, а зямля гэта мая. Няшчасная служанка, хамка! Ты яшчэ будзеш думаць аба мне многа.

Ю з я. Я не буду пра вас думаць. Вы страшны, бессардэчны. Вы ж не чалавек!

Л я м э н т. Гэта ўсё з-за гэтае малое?

Ю з я. З-за каго б там ні было.

Л я м э н т. То можа з-за Зыгмуся?

Ю з я. Старая вы трухліна.

Л я м э н т *(абвяў, апусціў рукі. Гаворыць, быццам просіць)*. Што табе гэты Зыгмусь? Ён табе не дасць дабра. Ён цябе высушыць. Ён цябе ашукае. Ён голы, у яго нічога за душой няма. Ён распуснік. Ён цябе нават і замуж не возьме. Гэта ён так сабе.

Ю з я. Ён такі самы гад, як і вы.

Л я м э н т *(быццам павесялеў нават)*. Я табе дарую ўсе гэтыя твае словы... Юзя... Ты ж бачыш, які час на-

стаў. Хто яго ведае, што можа быць. Калі айчызне суджана загінуць... *(Уздыхае, дастае хустачку, адварочваецца ад Юзі, выцірае вочы. Увесь згорбіўся, сціснуўся, стаў як зусім немагушчы стары.)* Тады прыйдзецца ціха жыць на зямлі... Цяпер ужо цэлы фальварак будзе. Фармальная паперка на гэтую зямлю ад Чарноцкага пры мне... Юзя, з табою ў мяне душа лягчэйшая заўсёды будзе... Ты ў мяне панаваць будзеш... Ты да мяне стала, як чужая. Ты ўжо нават і гаварыць не даешся. Чаму гэта?.. Не адыходзь ад мяне. Ну добра. Я гэтай малой дам сто злотых, з такімі грашыма яна не прападзе на свеце.

Ю з я. Я за вас замуж не пайду. І яе ад сябе не пушчу.

Л я м э н т *(павышае тон)*. Пусціш!

Ю з я. Не.

Л я м э н т *(крычыць)*. Пусціш!

Ю з я. Вы ўжо даволі паказалі, што вы за чалавек. Ці ваша просьба, ці ваш крык — для мяне ўсё роўна.

Л я м э н т. Каяцца будзеш, наймічка! *(Рэзка павярнуўся і з гордым выглядам выйшаў з хаты.)*

Юзя садзіцца на тапчан і сядзіць нейкі час моўчкі. Вельмі ціха, быццам крадучыся, уваходзіць у хату І р ы н к а. Убачыла Юзю, і радасная ўсмешка засвяцілася на яе твары. Юзя шпарка ўсхапілася са свайго месца і ступіла крокаў два насустрач Ірынцы.

Ю з я. Я думала, у які бок ісці цябе шукаць.

І р ы н к а. Ён ужо ведае, што я далёка не адыходжуся ад хаты. Я думала, што гэта ты тут была.

Ю з я. Ён цябе выгнаў адразу?

І р ы н к а. Я вярнулася ўжо даўно і стаяла за вуглом, чакала, пакуль Лямэнт з хаты выйдзе. Мне было відна, як ты ў хату ўвайшла. А на дарозе ціха, ціха. Дык яшчэ горш страшна. Толькі к Лямэнту аўтамабіль паехаў.

Ю з я *(захвалявалася)*. Калі?

І р ы н к а. Калі я назад варочалася. *(Юзя садзіцца на тапчан і маўчыць.)* Чаго ты, Юзя, так... спалохалася?

Ю з я. Гэты аўтамабіль заўсёды прывозіць няшчасце.

І р ы н к а. Які ж гэта аўтамабіль? *(Садзіцца побач Юзі і прыхінаецца да яе.)*

Ю з я. Што ж нам рабіць цяпер з табою, Ірынка?

Доўга моўчкі сядзяць адна пры адной. Зыгмусь знадворку ўсаджвае руку праз выбітую шыбу і адчыняе акно, заглядвае ў хату.

З ы г м у с ь. Ты тут? *(Знік з акна.)*

І р ы н к а. Ён па мяне зноў будзе крычаць, што я тут.

Ю з я. І ён крычаў?

І р ы н к а. Я яго баюся. Я пабуду ў сенцах. *(Шпарка выбягае ў сенцы.)*

Уваходзіць З ы г м у с ь. Ён нечым незадаволены і ўстрывожаны. Боты яго ў гразі, плашч знізу мокры. Ён садзіцца далёка ад Юзі і глядзіць сабе пад ногі.

З ы г м у с ь *(стараецца гаварыць спакойна)*. Ну, я прыехаў. Чаму ж не кідаешся мне насустрач? *(Маўчанне.)* Што сталася? Чаму Лямэнт сам сказаў мне, дзе ты, і нават не памкнуўся бегчы следам глядзець, што я буду з табой рабіць? *(Доўга маўчаць абое.)* Я цэлы месяц быў у службовых раз'ездах і не мог прыехаць да цябе. Я быў упэўнен, што за гэты час ты ўжо ўсё зрабіла. Я думаў, што ты Лямэнтава жонка, і ўжо ўсё на цябе перапісана. *(Павышае голас.)* Што ты зрабіла? Ты мяне згубіла навек.

Ю з я. Ты звар'яцеў? Як гэта я цябе згубіла навек?

З ы г м у с ь. Ты ж бачыш, што Польшча гіне. За гэты нечаканы месяц гэтулькі нарабілася, што каб за дзень да пачатку гэтага ўсяго хто сказаў мне, што так будзе, дык я таму вочы выдраў бы. *(Зніжае тон, стараецца гаварыць ціха і спакойна.)* Ты, мусіць, не ведаеш усяго таго, што робіцца? Ты ведаеш, каго я толькі што прывёз сюды? Я сюды прывёз самога Чарноцкага. Сядзіць цяпер у Лямэнта, не ведаючы, што рабіць.

Ю з я *(машынальна, у бяздум'і)*. Чаго ж ён зноў сюды прыехаў?

З ы г м у с ь. А чаго ўсе з Варшавы сюды прыперліся? Ад немца ўцякаюць. Вось што робіцца, а ты ўсю справу загубіла.

Ю з я. Якую справу?

З ы г м у с ь *(ускіпеў)*. Не прыкідвайся такой прос-ценькай. *(Стараецца знізіць тон, але гэта яму мала ўдаецца.)* Мне выпала шчасце, і табе разам са мною. Быў бы ў нас фальварак, тут, о, на гэтым месцы. Польшча прападзе, ну і чорт яе бяры разам з маёй службай, раз у мяне быў бы фальварак. Гэта была б законная ўласнасць, абфармаленая паперамі нябожчыка Лямэнта табе, удаве. Ты была б шчаслівая. Ты ж мяне любіш... Чаму не пайшла замуж за Лямэнта? Ты разбурыла маё шчасце. Калі і сюды дойдзе немец, я на сваёй уласнасці

жыў бы, як прыватная асоба. Цяпер я павінен галаву ламаць, што будзе, калі ляснецца Польшча. А так, дык я і вухам не шманаў бы... Мне на цябе глядзець праціўна.

Ю з я *(гнеўна)*. Я ўжо даўно бачу, што ты мяне зусім не любіш. Табе патрэбна толькі Лямэнтава дабро.

З ы г м у с ь. Я цябе любіў бы.

Ю з я. Пакуль не ўграб бы сабе ў рукі Лямэнтаў фальварак. От на што я табе была патрэбна.

З ы г м у с ь *(апанованы злосцю, поўніцца нахабнай цынічнасцю)*. На гэтым свет стаіць.

Ю з я. На чым? На такім шальмоўстве?

З ы г м у с ь. Не на шальмоўстве, а на здаровым розуме. Ты не вырвеш для сябе з Лямэнтавых рук, дык і здыхаць будзеш, дык і будуць цябе папіхаць, як суку, да самай тваёй магілы. А здолееш вырваць, дык сама будзеш распараджацца другімі.

Ю з я. Няўжо толькі на гэтым свет стаіць?

З ы г м у с ь. А на чым жа яшчэ?

Ю з я. А праўда? Чыстая, чалавечая, літасцівая, міласэрная, ласкавая праўда.

З ы г м у с ь. Гэтую тваю праўду глыбока ў кішэні носяць. А папросіш, каб хоць паказаў, каб хоць зірнуць на тую праўду, дык гэты ласкавы і справядлівы пакажа табе фігу.

Ю з я *(не слухаючы)*. Чыстая, добрая праўда. Дзе хапіць другога за горла так жа страшна, як самому легчы ў магілу. Дзе любяць чалавека за тое, што ён чалавек, а не за тое, каб праз яго нажыцца.

З ы г м у с ь. Ніхто нідзе так не любіць.

Ю з я *(быццам і не чуючы Зыгмусёвых слоў)*. Некалі я чула, як чыталі кнігу. Там апісвалася, як хлапец любіў дзяўчыну. А яна захварэла страшнай заразнай хваробай і, каб яна не заразіла другіх людзей, яе кінулі ўміраць за жалезныя краты. Хлапец праз краты не мог нават дакрануцца да яе. А душа яго рвалася на часткі — так ён нудзеў па ёй, і без яе яму страшна было аставацца жыць. Тады ён узяў палку і канцом палкі дакрануўся да свае дзяўчыны праз краты і пацалаваў той канец палкі. I ў той жа момант заразіўся той страшнай хваробай. I абое разам яны памерлі паабапал тых жалезных крат. Гэта любіў чалавек сваю дзяўчыну. I па-чалавечы.

Юзя змоўкла і, расчуленая сама ад сваіх слоў, ахопленая марамі, маўчыць і нерухома глядзіць кудысьці ў прастору. Зыгмусь, за-

няты сваімі меркаваннямі, таксама маўчыць. Ён упарта думае і нешта ў думках вымяркоўвае.

Зыгмусь *(асцярожна, ціха)*. Юзя, ты не раз магла ўпэўніцца, што я цябе люблю па-сапраўднаму. Захацеўшы, усё можна зрабіць, яшчэ і цяпер не позна... Ну, слухаеш ты ці не? Калі ты чым пакрыўдзіла Лямэнта, дык папрасі ў яго прабачэння, здолей дамагчыся таго, каб ён табе дараваў, пакажыся перад ім, як прывабная жанчына, так, каб гэты стары пацук аж самлеў ад нуды па жанчыне. І давядзі справу да канца так, каб праз некалькі дзён гэты стары смурод узяў цябе замуж.

Юзя *(з гнеўным сарказмам)*. Ты мяне так любіш, што хочаш, каб я ішла замуж за старога гада?..

Зыгмусь *(не зменьваючы тону)*. Ты ж сама ведаеш, што ненадоўга. Наадварот, цяпер, у часе такой страшнай завірухі, вельмі зручны момант табе аўдавець.

Юзя. А пасля гэтага ці падбярэцца табе зручны момант аўдавець?

Зыгмусь. Дык ты не хочаш? Не? Ну, ну...

Юзя. Ідзі ад мяне.

Зыгмусь. Ты мяне не любіш?

Юзя *(не адважваецца адразу сказаць)*. Ты — вялікшая шэльма. Я цябе ненавіджу.

Зыгмусь *(ідзе на кампраміс)*. Ну, дык ты са мной жыць не будзеш. Давай так. Як толькі ты законным парадкам заўладаеш Лямэнтавай маёмасцю і грашыма, дык тады падзелім папалам і разыдземся, каб адзін аднаму не перашкаджаць жыць. І абое шчаслівымі будзем. Ну? Згодна? Ты ж тады станеш багатая, а я табе памагу, каб ты магла найлепш уладавацца. Так нават яшчэ і лепш будзе.

Юзя *(гнеўна і рашуча становіцца перад Зыгмусем)*. Калі ў маіх руках апынецца Лямэнтава багацце, дык я яму і адна, без цябе, дам рады.

Зыгмусь. Ах, так... Апошняе тваё слова. *(Падыходзіць да Юзі.)*

Юзя. Не падыходзь да мяне.

Зыгмусь *(падняўшы кулакі, крычыць)*. Ты яшчэ вернешся прасіцца да мяне.

У дзвярах з'яўляецца Лямэнт і з адзервянелай усмешкай глядзіць на апошнюю сцэну.

Юзя. Не ад першай гадзіны я чую, што прасіцца і каяцца буду.

Л я м э н т *(пераступае парог, напаўняецца пахмурай злосцю).* Гэта ты пра мяне?

З ы г м у с ь *(падступае да Юзі).* Гэта ты пра мяне?

Юзя адбягаецца да сцяны і стаіць, гатовая абараняцца. Зыгмусь і Лямэнт здалёк глядзяць на яе, а пасля сустракаюцца вачыма адзін з адным.

Л я м э н т *(са зларадпай ірoніяй).* Ну што, нацалаваўся?

З ы г м у с ь. Нацалаваўся.

Л я м э н т *(устрывожана).* Праўда? Калі?

З ы г м у с ь. З самага пачатку.

Л я м э н т *(закалаціўся ад рэўнасці, рушыў да Юзі).* Гадаўка, ты тут сядзіш цэлую ноч. Я павінен за табой бегаць, шукаць цябе. Марш дадому зараз жа! Пану міністру яду трэба прыгатаваць у момант, а ты тут сядзіш. Ну!

Ю з я шпарка выходзіць з хаты, Лямэнт і Зыгмусь глядзяць адзін на аднаго.

З ы г м у с ь *(са злым здзекам).* А я ўсё спадзяваўся на вашым вяселлі пабаляваць.

Л я м э н т. Паспрабуй ты яе вазьмі! *(Хоча ісці.)*

З ы г м у с ь. Яе трэба ў турму зараз жа адправіць, а не замуж браць!

Л я м э н т *(спыніўся каля парога).* Як гэта?

З ы г м у с ь. Што б ні зрабілася, то вам, пане Лямэнт, ад яе прыкрасці будзе многа.

Л я м э н т. Як-то?

З ы г м у с ь. Вы ведаеце, што яна мне сказала. Калі я запытаў яе, чаму яна не пайшла за вас замуж, яна так проста і сказала: за гэтага старога смурода, кажа, каб я замуж ішла.

Л я м э н т. Што? *(Аж змяніўся ў твары.)* Так і сказала?

З ы г м у с ь. Чакайце, не гэта самае важнае.

Л я м э н т. Як жа гэта за мяне хацела раней ісці... Усё ўжо было згаворана...

З ы г м у с ь. І патрабавала яна ад вас, каб вы на яе ўсю маёмасць і грошы перапісалі?

Л я м э н т. Так, патрабавала.

З ы г м у с ь. Вы ведаеце, што гэта значыць? Гэта значыць, што як толькі вы на яе ўсё перапісалі б і

павянчаліся б, яна адразу ж, заўладаўшы вашым дабром, зжыла б вас са свету.

Л я м э н т. Што?.. Як?..

З ы г м у с ь. Магла б атруціць. І тады б, уладаючы фальваркам, пайшла б замуж за маладога.

Л я м э н т *(закалаціўшыся)*. А адкуль пан Зыгмусь ведае?

З ы г м у с ь. Яна мне прызнавалася ў каханні і раскрыла гэтыя планы, жадаючы мяне завабіць на жыццё з ёй... па вашым дабры.

Л я м э н т. Чаго ж вы не сказалі мне, што я пад такой пагрозай?

З ы г м у с ь. Чакайце. Я спачатку не паверыў. Як гэта, думаю сабе, у жанчыне можа гнездзіцца такая жудасць? Я, вядома, расказаў бы вам, але ж, самі ведаеце, быў увесь час у далёкіх раз'ездах. Ды і патрэбны былі доказы. Сведак тады не было пры гэтым. А цяпер яна гаворыць, што і рада, што не пайшла за вас. Бо, кажа, што вам усё адно прыйшоў канец.

Л я м э н т. Як?

З ы г м у с ь. Яна кажа: Польшча гіне, а калі будзе што-небудзь новае — яна зробіць усё, каб загінулі і вы. Немцы прыйдуць — яна, кажа, нешта ведае пра вас, што за гэта вас — фюйць, і няма вас. Вы ведаеце, што яна бальшавічка? Гэта ў дадатак да ўсяго. А калі Польшча зноў паднімецца, вам будзе бяда, што пад вашым носам яна рабіла свае справы, а вы нават яе замуж хацелі браць і бегалі за ёю, як малады дурань-блазан. Я яе адразу раскусіў...

Л я м э н т. А вы ж з ёю нядаўна цалаваліся?

З ы г м у с ь. Гэ, баба ёсць баба, хто б яна ні была. Вам не трэба марудзіць, а адразу яе прыбраць. Як яна вас збіралася, так і вы яе, падушкай у цёмным кутку.

Л я м э н т *(увесь аж гарыць)*. На чорта падушкай! У павеце яшчэ дзейнічае пан Ярашэвіч. Усё законна зробім. Вы пацвердзіце ўсё гэта, што казалі?

З ы г м у с ь. Дзіва што! Адразу.

Л я м э н т. І яна там пайшла ўслугоўваць пану Чарноцкаму!

З ы г м у с ь. Яна пана міністра атруціць, не марудзьце.

Л я м э н т. Зараз яе на свеце не будзе. *(Пабег з хаты.)* Я ёй не дарую! *(Знік.)*

З ы г м у с ь *(адзін)*. От ты і ажаніўся, стары смурод. *(Задаволена пацірае рукі.)* А ты, мая каханенькая, дорага расплацішся за тое, што не пусціла ў мае рукі Лямэнтаў фальварак. *(Шпарка выходзіць і знікае.)*

Сцэна пустая. Пануе вялікая цішыня. Ніадкуль не чутна ніякага гуку, быццам ноч за вокнамі застыла і анямела. Баязліва і ўкрадкам уваходзіць у хату І р ы н к а. Яна прыслухоўваецца спачатку каля дзвярэй, потым каля акна.

І р ы н к а. Як ціха... І пеўні пакінулі спяваць... Зараз дзень пачнецца. Каб хаця Лямэнт не прыйшоў, пакуль развіднее. Тады пайду повідну... *(Маўчыць, азіраецца па хаце. Падыходзіць да разверненай пасцелі.)* Тут мама спала... *(Глядзіць на калодку на падлозе.)* А тут тата абуваўся зранку заўсёды. *(Паднімае галаву, чагосьці шукае вачыма і так стаіць на месцы. Твар яе ўздрыгануўся, з вачэй выкаціліся дзве слязіны і застылі на тва-ры. Пануе вялікая цішыня. Застукалі дзверы ў сенцах. Шпарка ўбягае ў хату Юзя. Яна растрапаная, узбуджаная, яна спяшаецца выгаварыць адразу ўсе словы.)*

Ю з я. Лямэнт і Зыгмусь мяне забіць хацелі. Мне тут доўга быць няможна.

І р ы н к а. Яны цябе не будуць забіваць, а цябе ў астрог пасадзяць.

Ю з я. Адкуль ты ведаеш?

І р ы н к а. Я чула з сянец.

Ю з я. Давай, Ірынка, разам з табой пойдзем адгэтуль далёка, далёка.

І р ы н к а. Мне далёка адгэтуль няможна адыходзіць. Я кожны дзень буду падыходзіць да гэтай хаты.

Ю з я. Чаго?..

І р ы н к а. А калі тата вернецца, дык мы ж тады не знойдзем адзін аднаго.

Ю з я. Не, Ірынка. Калі твой тата вернецца, дык знойдзеце адзін аднаго.

І р ы н к а. Чаму ты так гаворыш? Значыць, ты ведаеш, што мой тата не вернецца. Дзе мой тата? Скажы, ну, скажы!

Ю з я. Твой тата вернецца не скора.

І р ы н к а. А дзе ён?

Ю з я *(паказвае рукой)*. Унь там, у дзеда твайго.

І р ы н к а. У мяне ёсць дзед?

Ю з я. Я табе пасля раскажу. Скарэй хадзем, бо яны зараз явяцца. Тады я прападу, і цябе ўсё адно выганяць.

Толькі што я неадзетая, холадна.

Ірынка *(падбягае да лахманоў на палу)*. Тут мамін ватовы кафтан, адзявай яго.

Дае Юзі кафтан, Юзя шпарка апранаецца. Стаяць абедзве, гатовыя ў дарогу.

Юзя. Хадзем, Ірынка.

Ірынка. Чаму так ціха?

Юзя. Скора дзень будзе. Перад днём заўсёды ціха.

Ідуць да дзвярэй. Ірынка адчыняе дзверы. Выходзяць у сенцы.

Ірынка *(у сенцах)*. Ну, расказвай пра тату.

Юзя *(у сенцах)*. Чакай, выйдзем на дарогу... Раней паслухаем, ці няма каго на двары за дзвярыма.

Запаноўвае цішыня. Так ціха некалькі мінут. Раптам зводдаля чуецца, вырастае і шырыцца гул. Ён усё мацнее і ўсё блізіцца, вось ужо зусім блізка, дзесьці ўжо тут за вокнамі. Здаецца, усё трасецца, дрыжыць і рушыцца. Адчуваецца, што тут, навокал хаты, адбываецца вялікі, няспынны і магутны рух. Юзя і Ірынка ўбягаюць у хату, збянтэжаныя, устрывожаныя, стаяць у вялікім здзіўленні і слухаюць. Гул глушыць усё, толькі рух за сценамі пануе цяпер усюды і над усім. Часам чутны чалавечыя галасы, крыкі. Пасля ўсё пачынае заціхаць і аддаляцца, але чалавечыя галасы і рух людзей чуваць яшчэ доўга. Пачынаецца дзень. У вокнах святлее і пачынаюць вызначацца белыя палосы ранішняга неба.

Ірынка. Гэта, мусіць, вайна сюды прыйшла. Што нам цяпер рабіць, Юзя? Зараз Лямэнт прыйдзе.

Юзя. Ірынка, пабудзь адна, а я выйду на двор пагляджу.

Ірынка. Не адыходзь далёка. Толькі з двара зірні.

Юзя. Ірынка, я цябе не пакіну.

Ірынка слухае, як зачыняюцца за Юзяй сенечныя дзверы, падыходзіць да акна і глядзіць, пасля шпарка адчыняе яго, высаджваецца праз яго на двор і крычыць.

Ірынка. Юзя, куды ты пабегла? *(Шпарка зачыняе акно і прыпіраецца плячыма да сцяны.)* Мусіць Лямэнт з Зыгмусем ідуць. Яна ад іх уцякае.

Баязліва туліцца да сцяны, да ўсяго прыслухоўваецца. Над хатай чутны самалёты. Ад гуду дрыжаць аконныя шыбы. Ірынка садзіцца пры сцяне на падлогу. За вокнамі чутны чалавечыя галасы, і стукаюць сенечныя дзверы. Ірынка ўсхапілася, прыслухоўваецца.

У хату ўваходзіць чырвонаармеец з вінтоўкай.

Чырвонаармеец. Хто ў хаце ёсць?

Ірынка *(глядзіць здзіўлена)*. Я.

Чырвонаармеец. А яшчэ хто?

Ірынка. Больш нікога.

Чырвонаармеец заглянуў ва ўсе куткі, Ірынка сочыць за кожным яго рухам.

Чырвонаармеец. Як жа ты адна? Дзе ж бацька, маці?

Ірынка. Мама памерла. А тата... Майго таты няма...

Чырвонаармеец. Дык ты жывеш адна?

Ірынка. Я не жыву... Не... Я ў гэтай хаце... Я зараз пайду адсюль.

Чырвонаармеец. Ты нешта не дагаварваеш да канца? Цябе хто-небудзь пакрыўдзіў? Не бойся, гавары, больш цябе ўжо ніхто не будзе крыўдзіць. Ты ведаеш, хто я? Я чырвонаармеец. Сюды прыйшла Чырвоная Армія.

Ірынка *(зазіраючы чырвонаармейцу ў вочы)*. Пан і Лямэнт майго тату некуды забралі.

Чырвонаармеец. А хто такі Лямэнт?

Ірынка. Тут яго дом... Я ў яго каровы пасвіла.

Чырвонаармеец. Значыцца, таксама пан, або кулак.

Ірынка. Не, ён асаднік.

Чырвонаармеец. А чаму ў цябе торба?

Ірынка. Каб у людзей хлеба прасіць. Лямэнт мяне з хаты выгнаў, ён не ведае, што я вярнулася.

Чырвонаармеец прыхіляе да сябе галаву Ірынкі, гладзіць яе па галаве.

Чырвонаармеец. Скідай з сябе торбу! *(Зрывае з Ірынкі торбу і кідае яе на падлогу.)* Смела будзь у хаце. Калі прыйдзе Лямэнт — гані яго вон. Смела глядзі на свет белы. Як поўная гаспадыня будзь усюды, дзе толькі захочаш. *(Цалуе Ірынку ў галаву.)* А як цябе зваць?

Ірынка. Ірына.

Чырвонаармеец *(адыходзіцца ад Ірынкі, глядзіць на яе)*. Ірына... Бач якая... Ірынка... Ну, бывай, Ірынка, мне трэба спяшацца... Памятай, што я табе сказаў. Нас праслаў сюды Сталін. Ніколі не забывай гэтага. Бывай, Ірынка! *(Махае Ірынцы рукой.)*

Чырвонаармеец выходзіць. Ірынка з ясным тварам падбягае да акна, адчыняе яго і доўга глядзіць чырвонаармейцу ўслед. Пасля ўзбуджана адбягае ад акна і выбягае з хаты. Нейкі час

хата пустая. На дварэ ўжо зусім відно. Ціха, крадучыся, уваходзяць у хату Чарноцкі і Лямэнт. Чарноцкі пераадзеты ў сялянскую адзежу.

Лямэнт. Тут вашай ласкавай мосці будзе смялей. Гэтая хата пустая. Было тут адно малое, ды і тое сёння ўначы пайшло. Мы тут доўга не будзем. Паўгадзіну якую, не больш. Вы ж самі бачылі, што да майго дома пачынаюць сцягвацца мужыкі.

Чарноцкі. Божа, якія ў іх твары, вочы як агнём гарань.

Лямэнт. Гэта ў мяне служанка языкастая, каб яе пярун ясны! Няйначай, яна гэта разнесла чутку, што вы да мяне прыехалі.

Чарноцкі. Што вам казаў той хлоп, што ў кухню ўваходзіў?

Лямэнт. Ён пытаў, ці праўда, што я хаваю пана міністра.

Чарноцкі. Божа!

Лямэнт. Гэта бог даў шчасце неўзаметку прыбегчы нам сюды. Калі схлыне і адкоціцца першая навала, мы пяройдзем дарогу і поплаў і апынемся ў лесе... Паўгадзіны ціха пасядзець тут.

Чарноцкі *(з-за сцяны баязліва пазірае ў акно)*. Лямэнт, ратуй мяне.

Лямэнт. Не глядзіце ў акно.

Чарноцкі адыходзіць ад акна і прыпадае к сцяне. Шпарка і весела ўбягае ў хату Ірынка. Убачыўшы пасярод хаты Лямэнта, яна інстынктыўна падалася назад.

Лямэнт. Ну, будзеш дома цяпер. На табе яшчэ грошы, хоць на хлеб. У цябе ж нічога няма. *(Працягвае грошы.)* Унь у кутку на падлозе малако табе стаіць, Юзя прынесла. Ад маіх кароў. Ну, бяры грошы, дочка.

Ірынка *(задам адыходзіцца к дзвярам, твар яе гарыць вясёлай узбуджанасцю)*. Мне сам чырвонаармеец сказаў, каб я... *(З вялікай дзіцячай наіўнасцю.)* Вон з мае хаты!

Чарноцкі *(разгублена глянуў на Лямэнта)*. Лямэнт!..

Лямэнт. Ціха выходзьце з хаты і ў лес. Упоперак праз дарогу. Толькі бегчы няможна. Здаецца, паціхэла.

Чарноцкі. Там жа яны ходзяць, іхнія салдаты.

У гэты момант на парозе з'яўляецца Валя. Адразу відно, што яна моцна бегла. Яна задыхалася, але ўсё адно не можа спакойна ўстаяць на адным месцы. На парозе яна пастаяла момант і ўляцела ў хату.

Валя. Дзе Ірынка?

Лямэнт. А от яна.

Валя. Ірынка, я не верыла, што ты памерла.

Яны стаяць адна насупроць адной. Валя, поўная прагнасці гаварыць, дзейнічаць, расказваць, не быць на адным месцы. Ірынка — ашаломленая, напалоханая ўсёй гэтай ноччу, збянтэжаная перад Валяй. Чарноцкі шпарка рушыў да дзвярэй. У дзвярах з'яўляецца Канстанцін Міхалковіч. Так, як і Валя, ён задыхаўся ад шпаркай хады.

Валя. Дзядунь, Ірынка жыва.

Міхалковіч. Ірынка... Знайшлася мая ўнучка.

Валя цягне Ірынку да Міхалковіча. Міхалковіч раптам сустракаецца вачыма з Чарноцкім. Міхалковіч і Чарноцкі, здзіўленыя, моўчкі глядзяць адзін на аднаго. Чарноцкі адступае да дзвярэй.

Зыгмусь *(шпарка з сянец пераступае парог хаты, паказвае пальцам на Чарноцкага)*. Вось ён дзе, пан міністр. Не паможа табе, пан Чарноцкі, што ты пераадзеўся на мужыка. А ну, ходзь сюды. І ты, пане Лямэнт. Мінула ваша панаванне. Тут з вамі будзе расправа кароткая.

Юзя *(у парозе)*. Новага фальварка шукаеш?

Зыгмусь. Хто там яшчэ? *(Шпарка выбягае.)*

Міхалковіч. Я думаў — цябе на свеце няма, пане Чарноцкі.

Ірынка. А дзе мой тата? *(Плача.)*

Міхалковіч. Чым ты выкупіш пакуты гэтага дзіцяці? На гэта не хопіць усёй тваёй панскай Польшчы.

З'яўляецца Мікалай. Чарноцкі і Лямэнт з жахам адступаюць перад ім.

*Заслона*

# УРЫВАК З НЯСКОНЧАНАЙ П'ЕСЫ

## ПЕРШАЯ ДЗЕЯ

*У доме Марціна Пранушкі. Хоць тут мэблі і рэчаў не многа, але здаецца, што ўсяго цесна панастаўлена. Нізкі жалезны ложак пры сцяне, пасланы цвёрда і пляската і засланы ватовай коўдрай. На незасланым стале пачатая булка хлеба, папяросы і махорка. На падлозе пустая ад піва бутэлька і шкляны слой, напханы паперай. Здаецца, усё навакольнае тут не бярэцца на ўвагу і ўсё ўяўляецца, як дробная часовая неабходнасць і нават як непатрэбства. Бо ў душы чалавека жыве нешта большае, усеабдымнае, што падначальвае сабе ўсё, і чым толькі адным на ўсё жыццё зацікаўлен чалавек. Вельмі можа быць, што гэта якая-небудзь мара, блізкая да таго, каб стаць маніяй.*

*Ранні вечар. Зайшло сонца, і за вокнамі зпікае з неба апошняя ружовасць. Чутно, як бразгае ключ у замку і грукаюць сенечныя дзверы. Уваходзіць Марцін Пранушка, з лічыльнікамі і абшморганаю папкаю з паперамі. Кладзе гэтае сваё прыладдзе на стол, дастае з сподняй пінжачнай кішэні бутэльку піва, бярэ з шафы вялізны куфель, налівае і п'е.*

*Ён шчуплы чалавек, гадамі ў сярэдзіне шостага дзесятка, але на ім яшчэ не відно старасці. Ён здаровы чалавек. Уражанне можа быць такое, што ён быццам прысутулены, хоць гэта і не так.*

Пранушка *(п'ючы піва)*. Смажыць цэлы дзень... *(Закурвае, завешвае вокны, каля аднаго незавешанага становіцца і глядзіць на неба.)* Вось і дзень скончыўся... Мілы мой божа... І пятнаццаць год ляснула, як у праламку. І знаку няма. Адзін у магіле даўно згіпуў, а другі... Можа і другога жывога няма. І старасць блізка падкралася, як злодзей. Праз усю маладосць стараўся, цягнуў адусюль, а гэта... Пятнаццаць год чакаць, што калі-небудзь можа пачну жыць спачатку... Божа мой, божа мой. *(Завешвае акно, запальвае лямпу.)* Каб узяў ды памёр... *(Садзіцца к сталу, корпаецца ў паперах, лічыць на лічыльніках.)* Прамтаварная затаваранасць... Дзве тысячы трыста... Сто дваццаць пазад... Цялята... *(Думае.)* Куды ж утрэсліся чатырыста рублёў?.. Сямёра цялят... *(Думае, раптам адпіхае ад сябе*

*лічыльнікі і паперы, шпарка ўстае.)* Згарэце вы, з цялятамі!.. *(Закурвае.)* Сёння роўна пятнаццаць год. Такі ж самы быў ясны і гарачы дзень. *(Кладзецца з ботамі на пасцель. Стогне, курыць, варочаецца.)* Пятнаццаць год! Божа мой найвышшы...

Бразгаюць сенечныя дзверы. Марцін Пранушка нездаволена падняў галаву і прыслухоўваецца. Ціха і як бы нясмела ўваходзіць Юрась Нявада. Год яму, як і Пранушку, на шосты дзесятак. Ён узбуджаны, на твары яго прага сказаць штосьці незвычайнае. Разам з тым ён быццам прыбінтэжаны, як баіцца, што патрывожыў гаспадара дома. Гэта асабліва заўважаецца ў тоне яго першых фраз. Пранушка глядзіць на яго з маўклівым непаразуменнем і нездаваленнем, што патурбавалі яго адзіноту.

Нявада *(асцярожна)*. Добры вечар.

Пранушка *(садзіцца на пасцелі)*. Добра здароўе. *(Моўчкі чакае.)*

Нявада *(шукае з чаго б пачаць гаворку)*. Сонца чыста зайшло... Заўтра дзень пагодны... Чаго я да цябе прыйшоў, каб ты ведаў?

Пранушка. Ты да мяне так мала калі заходзіш, што я...

Нявада *(перабівае)*. Ты адзін? *(Падыходзіць бліжэй.)*

Пранушка *(здзіўлена)*. А хто ж у мяне яшчэ можа быць?

Нявада. Я ўсё думаў: ці сказаць табе, ці можа не трэба цябе растрывожваць?

Пранушка *(заварушыўся, устрывожыўся)*. Што ты маеш сказаць?

Нявада. Усе гэтыя тры дні я рваўся душой, каб прыйсці да цябе. А пасля думаю сабе: што растраўляць тваю душу? Можа, за пятнаццаць год усё зарасло і зраўнавалася.

Пранушка *(усхапіўся)*. Слухай!

Нявада. А пасля падумаў: ты адзінокі, няшчасны. Я з Вольгаю раіўся. Яна сказала, што як мне падкажа маё сумленне, так каб і зрабіў. Дык я не вытрымаў і прыйшоў.

Пранушка *(ад страшнай трывогі калоціцца)*. Ну што?!

Нявада. Як ты ведаеш, мой зяць Лукашэвіч стаіць цяпер з сваею часцю ў Брэсце. Ну, Вольга цяпер з сваею Настачкаю і прыехала адтуль да мяне на цэлае лета. І калі яны ішлі там на вакзал, каб ехаць сюды, Вольга ўбачыла

там твайго Адама. *(Пранушка як стаяў, так раптам сеў, пасля зноў усхапіўся і стаў перад Нявадам, як аслупянелы.)* Я ж і баяўся гэтага, што так цябе растрывожу.

Адбываецца маўклівая сцэна. Падобна, што Пранушка перажывае вялікі боль. Ён не можа знайсці сабе месца, абвяў, аслабеў. Нявада бездапаможна апусціў рукі, з выглядам чалавека, які нарабіў вялікай бяды.

Пранушка. Як жа яна яго бачыла?

Нявада. Змяркалася. Ён ішоў, стаў наводшыбе і доўга на яе глядзеў... Не трэба было цябе трывожыць.

Пранушка *(адумаўся, паспакайнеў, першы парыў яго ўзбуджанасці скончыўся).* Што там — трывожыць! Абы яму добра было на свеце.

Нявада. Вядома што. Ты бацька. А бацькава сэрца магло за доўгі час залячыць крыўду.

Пранушка *(увесь загарэўся, устрапянуўся, спыніў на Няваду позірк удзячнай прыхільнасці).* Павер, што пятнаццаць год вытравілі з мяне памяць аб тым забойстве. Таго, старэйшага, я можа і больш любіў за Адама. Але той даўно ў зямлі згніў, і яго ўжо не вернеш. А гэты, можа, горка выхвараў сваё злачынства, туляючыся і хаваючыся па свеце. Можа, братазабойства гняло яго ў зямлю. Ён жыў, як сабака, пад чужымі платамі.

Нявада. Значыцца — ты дараваў яму?

Пранушка. Ёсць тое што ёсць: я адзін дажываю веку, ён, родны мой сын, немаведама дзе бадзяецца пятнаццаць год. Жыццё яму не ўдалося. Яно яму як хамут на шыі.

Нявада. Добра кажаш.

Пранушка. А як жа ён жыве, што Вольга кажа?

Нявада. Як жа яна магла б гаварыць з ім?

Пранушка. Чаму б не магла? Хто гэта там ведаў бы ў далёкім горадзе ды яшчэ праз пятнаццаць год, што яна гаворыць з тым самым, што ад суда хаваецца.

Нявада *(збянтэжыўся).* Хіба ж пра гэта гаворка? Ты ж ведаеш, што паміж імі было тады, калі яна не захацела ісці за яго замуж. Твой Адам быў круты хлопец.

Пранушка. А што ж ён ёй такое быў зрабіў?

Нявада. Ён ёй нічога такога, але калі пачаў пагражаць пры спатканні, то...

Пранушка. Няўжо ж яго доўгае няшчасце не змякчыла яе душу? Чаго ёй цяпер крыўдзіцца на яго? Яна ў поўным шчасці, а ён як у магіле.

Н я в а д а. Наконт іх абаіх я скажу, што тое, што было ў маладосці, тое цяжка забываецца. А пра тваю трывогу — то чаму ты думаеш, што ён як у магіле. Няўжо ж чалавеку ўвесь век падтульваць плечы і азірацца ад страху?

П р а н у ш к а *(выпрастаў плечы).* Праўда, браце, праўда.

Н я в а д а. Здарылася бяда. Чалавек памучыўся, перахварэў душой, сам перад сабой каяўся, боль душы цярпеў. Прайшлі гады, усё забылася, твой Адам жыў, цвярдзей глянуў і жыць стаў. А колькі чалавеку трэба для шчасця? З шырокім горлам шчаслівы не будзеш.

П р а н у ш к а. Браце ты мой! Чаму ты раней ніколі так са мною ні разу не пагаварыў? За ўсе годы хоць бы раз. Я падумаў бы і весялей на свет глянуў бы.

Н я в а д а. Што ж тут гаварыць? Кожны чалавек, як трава к сонцу, да лепшага горнецца.

П р а н у ш к а. Усё адно як ты мне душу ачысціў... Можа, і праўда, што мой Адам жыве.

Н я в а д а. Вядома, што жыве.

П р а н у ш к а. Звечара мне было як бы хто мяне за горла душыў. Сёння якраз пятнаццаць год. Як цябе аддзякаваць, што ты прыйшоў да мяне?

Н я в а д а. Чалавек пры чалавеку заўсёды павінен быць блізка. Тады будзе добра кожнаму.

П р а н у ш к а. Чалавек чалавека не заўсёды ведае.

Н я в а д а. Мы ж з табой змалку дзён адзін у аднаго на вачах жывём.

П р а н у ш к а. Дык не пра нас гаворка... Садзіся, Юрась, чаго ты стаіш?

Н я в а д а. Дык і ты ж сам стаіш.

П р а н у ш к а. Дык і я сяду. Ты садзіся к сталу. К сталу падсядай. Я — раз, два і гатова. *(Заклапаціўся, носіць з шафы і ставіць на стол яду і бутэльку з гарэлкай.)*

Н я в а д а. Чаго ты так заклапаціўся? Пачакай...

П р а н у ш к а. Пасядзімо, пагаварым. Ты з маёй душы як камень зняў.

Н я в а д а. Значыцца — добра, што я прыйшоў?

П р а н у ш к а. Добра, браце. *(З раптоўным уздымам.)* Я табе век буду ўдзячан за навіну і за добрае слова пра Адама.

Пасадзіў Няваду, сам сеў, наліў у дзве шклянкі. Чокнуліся. Закусваюць.

Нявада. Сала добра ўляжалае.

Пранушка. А як ён, Адам, ішоў, ці як яна яго ўбачыла?

Нявада. Кажа, што ішоў на выхад з горада. На змярканні было.

Пранушка. Хоць бы яна запытала ў яго, дзе ён і як гэтыя ўсе годы жыў?

Нявада *(з вінаватым выглядам).* Не запыталася. Паглядзелі адзін на аднаго і разышліся.

Пранушка *(налівае).* Яшчэ па адной.

Нявада. Я не адказен. *(Выпілі і моўчкі закусваюць.)*

Пранушка. Каб гэта ён вярнуўся, ды каб за дванасцю год, ці як, ужо яму нічога не было за тое, ды каб ён спакойна тут са мной жыць астаўся... Яму яшчэ і ажаніцца не позна, яшчэ я і ўнукаў меў бы... Божа мой, жыць можна было б.

Нявада. Ды, можа, ён і цяпер жанаты і дзеці мае.

Пранушка *(з раптоўным уздымам).* Чорт яго там бяры з усім, што раней думалася: каб багацце вялікае мець. Не на тое на свеце пайшлося. Абы-толькі каб ён вярнуўся.

Нявада. Я заўсёды казаў: чалавек не можа спажыць больш, чым можа. Шырокае горла заўсёды на згубу вядзе... Мой зяць Лукашэвіч з беднасці выйшаў, а вучыўся і дайшоў свайго.

Пранушка. У вялікіх чынох ужо?

Нявада. Палкоўнік.

Пранушка. Партыйны твой зяць?

Нявада. А ўжо год чатыры.

Пранушка. Вольга мусіць кожны дзень дзякуе бога, што тады за майго Адама не пайшла?

Нявада. Нашто ты мне з такой крыўдай пра гэта гаворыш?

Пранушка. Не думай нічога кепскага. У мяне душа баліць. Я зайздрошчу таму, хто шчаслівы... Давай хіба яшчэ па адной вып'ем.

Нявада. Можа, будзе?

Пранушка. «Будзе» скажаш тады, калі вып'еш.

Налівае сабе і Няваду. Абое адчуваюць, што паміж імі ёсць нейкая недагаворанасць, ці прынамсі — стан іх у жыцці не аднолькавы: адзін шчаслівы тым, што і як у яго ідзе ў жыцці, другі не мае ў душы шчасця ад сваіх жыццёвых спраў. Моўчкі выпілі і закусваюць.

Н я в а д а. Сала гэта ў цябе каапэрацыйнае?

П р а н у ш к а *(з крыўдай)*. Я пятнаццаць год ярука не калоў.

Н я в а д а *(збянтэжаны)*. Вельмі ж добрае сала.

П р а н у ш к а. Сала падхадзяшчае. *(Маўчанне.)*

Н я в а д а *(шукае тэмы для гаворкі)*. Я сёння ў сельсавеце сказаў: што гэта, кажу, у нас за млын, калі ён толькі меле, а пытлю няма. Дык я іх угаварыў. Увосень буду вальцы ставіць.

П р а н у ш к а. Ну пэўна што. *(Маўчаць.)*

Н я в а д а. Пайду хіба.

П р а н у ш к а *(быццам спалохаўся)*. Пойдзеш ужо?.. *(Маўчыць.)* Мне лепш цяпер будзе на сэрцы, як ты мне сказаў пра Адама. Божа мой, божа мой, я век не забудуся на тваю сардэчнасць. Ты такі чалавек для мяне стаў! У адзін момант, прыйшоў і стаў мне як друг. *(У гэты момант асабліва відно, што ён падвыпіў і не можа затаіць у сабе сваіх думак.)* Братка ты мой! *(Цалуе Няваду.)* Як толькі ты пачуў — адразу прыйшоў да мяне, як блізкі чалавек.

Н я в а д а *(і ён падвыпіўшы)*. Я хацеў ад сэрца, каб табе якую ўцеху сказаць.

П р а н у ш к а. Гэтулькі мы пражылі адзін на вачах у другога, і адзін аднаго не ведалі. Я таксама шчыры чалавек. Заходзь часцей. Я табе век буду ўдзячан за шчырасць і што ты мне добрага хочаш.

Н я в а д а. І ты заходзь. Каб толькі ўсё ў цябе добра было.

Яны пацалаваліся і паціснулі адзін аднаму руку. Пранушка правёў Н я в а д у ў сенцы, чутно, як замкнуў за ім дзверы, вярнуўся ў хату, сеў на ложак, курыць, думае.

П р а н у ш к а *(курачы цэдзіць па слову)*. Справядлівы чалавек. Добры. Сэрца мае. Такі чалавек ніколі ў бядзе не пакіне. Юрась Нявада. О-о, з такім чалавекам век быць у злагадзе... Ах, божа мой, божа мой... Адам, сынку мой. Бог з табой што там калі было...

Уздыхае, курыць, кладзецца з ботамі на ложак, выплёўвае недакурак, варочаецца, дрэмле. Так праходзяць хвіліны. Цішыня. Раптам чуецца асцярожны, вельмі ціхі стук у акно. Падобна, што скрабуць пальцам па шыбе. Пранушка падняў галаву, прыслухаўся і зноў лёг. Стук мацнейшы. Пранушка ўсхапіўся, адхіліў фіранку і прыпаў тварам да цёмнага шкла, пасля адшатнуўся адразу.

П р а н у ш к а. Стаіць нехта. *(У вялікай трывозе.)* Божа мой, найвышшы мой! Плечы шырокія, рост не высокі. *(Хапаецца за каўнер рубашкі.)* Дыхаць цяжка... *(Шпарка рушыў у сенцы, адтуль чуцён яго голас, ціхі, устрывожаны, асцярожны.)* Хто там?.. Зараз... адчыняю... ужо... ужо...

Ён доўга бразгае жалезам. Пасля плячо ў плячо разам ён уваходзіць з нейкім чалавекам. Гэты чалавек мае год трыццаць пяць, але яго выгляд не паказвае, што ён яшчэ даволі малады мужчына. Ён непаголены, вываленьі ў зямлі. Ён узбуджаны, вочы яго блішчаць, твар цёмны. Пячаць цяжкай бессані ляжыць на ім. Пранушка і ён стаяць адзін напроці другога, здзіўленыя нечым страшным, што яны за ўсё сваё жыццё толькі цяпер быццам бы ўбачылі.

А д а м. Бацька, гэта я прыйшоў.

П р а н у ш к а *(стаіць як анямелы. Здаецца, яму цяжка выгаварыць слова. У яго словах гучыць вялікая трывога, страшная здогадка і чаканне катастрофы).* Чаму ты ўночы прыйшоў?

А д а м. Мне ўдзень няможна.

П р а н у ш к а. Значыцца, яшчэ ўсё цягнецца хвост ад таго, што тады было? Яшчэ ўсё трэба скрывацца?

А д а м *(цвёрда, упэўнена).* Які там к чорту хвост! Зараз прыйдзе час, што я ім усім пакажу такі хвост, што яны будуць прасіцца ў мяне: ты забіў свайго брата? На, забі майго, толькі мяне не чапай.

П р а н у ш к а. Божа мой! Я не ведаю, што ты гаворыш!

А д а м. Перш за ўсё памятай: барані божа, каб ні адна жывая душа не дазналася, што я тут.

П р а н у ш к а *(з жальбой).* Дык няможна, каб ты адкрыта перад усімі жыў дома, як чалавек?

А д а м. Цяпер скора павінен прыйсці канец таму, што не давала жыць. Ты адзін? Я разуюся, а то мае ногі як бярвенне пасталі.

Пранушка, як апантаны, кінуўся да Адамавых ног і сцягнуў з іх боты. Адам развязвае ўнізе калошы штаноў і дастае з іх пачкі новенькіх трыццатак.

П р а н у ш к а. Што гэта?

А д а м. Схавай дзе-небудзь у патайное месца... У цябе ёсць што-небудзь каб паесці?

П р а н у ш к а. Дзіва што ёсць, божа мой! *(Заварушыўся, пачаў ставіць на стол усё, што было ў шафе. Адам*

*адразу накідаецца на яду. Ён, здаецца, забыўся на ўсё, нічога больш не памятае апроч яды, і ў гэты момант нічога, здаецца, яму больш не трэба. Ён пхае ў рот кавалак за кавалкам, запівае ўсім, што пад рукамі на стале трапляецца. Пранушка не зводзіць з яго вачэй.)* Божа мой, божа мой, які ты галодны!

Адам. Я тры дні нічога не еў.

Пранушка. Чаму?

Адам. Я тры дні навокал твае хаты бадзяўся. Па лесе, па кустах, па канавах.

Пранушка. Чаму ж ты адразу не ішоў да мяне?

Адам. А хіба я ведаў, што ты тут жывеш? Таго ж нашага дома няма. Я гэтае хаты не ведаю.

Пранушка. Адкуль жа ты прыйшоў, сынку?

Адам. Здалёк, бацька.

Пранушка. Ну як здалёк?

Адам. З Германіі.

Пранушка *(з жахам).* Гэта аж туды ты павінен быў скрыцца?

Адам *(ён ужо наеўся, толькі раз-поразу п'е малако, ваду, піва).* О, бацька! Я мог бы тады і дзе бліжэй скрыцца. Але ў Нясвіжы тады ж спаткаўся з маладым Тоўхартам. Памятаеш сына тутэйшага княжага ўпраўляючага? Ён там быў па дарозе к сабе ў Германію. Я яму расказаў пра сваё няшчасце, што скрываюся ад арышту. Ён за мяне проста-такі ўхапіўся.

Пранушка. Як гэта?

Адам. Ён забраў мяне ў Германію, і пятнаццаць год я быў пры ім.

Пранушка. Чым жа ты займаўся пры ім?

Адам. Я жыў не кепска. Я цёр воскам падлогу, капаў грады, даглядаў кароў, ездзіў з ім у яго гарадскі дом услугоўваць яму. Але ўсё гэта было не для мяне, а для яго. Я ныў душой.

Пранушка. Дзіва што ныў, божа мой, божа!

Адам. А пасля Тоўхарт мяне накіраваў на дарогу. Ён пачаў уводзіць мяне ў адну справу. Мне адразу ўсё стала ясна. Галаву на плячах я маю. Пасля ён мяне ў адну школу назначыў.

Пранушка. У школу? У твае годы? На каго ж ты вучыўся?

Адам. Калі мяне сюды паслалі, то цяпер, мусіць, падыходзіць той час, які ўсё змяце адсюль к чорту. Бо не

толькі мяне аднаго сюды паслалі. Многа людзей павінна было сюды прыйсці.

П р а н у ш к а *(узнепакоены)*. Ціха... Якіх людзей?

А д а м. Я цвёрда ведаю, што мне тут рабіць. Я і табе скажу, што і табе рабіць. Нас не толькі саміх вучылі, а вучылі і іншых вучыць. Зараз можа так здарыцца, што ў адзін дзень вернецца ўсё тое, чаго мы доўгія гады не мелі. Будзе канец маёй валацужнай бяздомнасці і твайму сабачаму жыццю.

П р а н у ш к а. Што ты ўсё гаворыш?

А д а м. Пятнаццаць год майго жыцця прапала. Але я пачну жыць спачатку. І ты, бацька, пачнеш жыць спачаткy. Усё вернецца... Я ўжо і не думаў нават, што мне суджана яшчэ пажыць як я хачу. Я думаў, што тыя сцены яшчэ стаяць, дзе я малы быў. Я так нудзеў па тых сценах! У тым доме так тады ўсё было добра!

П р а н у ш к а. Як іржавым нажом па душы мне водзіш! Божа мой, найвышшы мой! У тых сценах маё сэрца лягло на гарачае кавадла пад стопудовы молат, калі ты быў забіў яго... Антона...

А д а м *(усхвалёвана)*. Што было, тое прайшло, бацька! Ты сам не ведаеш, адкуль тваё няшчасце! Дзе той дом падзеўся? Чаму ты жывеш у гэтай свінячай хаце?

П р а н у ш к а *(дрыжачым голасам)*. Той дом я сам спаліў.

А д а м. А чаму ты яго спаліў?

П р а н у ш к а. Мне здавалася, што ўсе на дом пальцамі паказваюць. Я баяўся і калаціўся ад кожнага гуку.

А д а м. Дык няхай бы ім гэтыя пальцы каламі пасталі! Чаго табе? Мне трэба было скрыцца з дому, а не табе! Не цябе шукалі, а мяне!

П р а н у ш к а *(быццам яго ўкалолі)*. Пачакай, ты не ведаеш. Я астаўся адзін. Гаспадарка была вялікая. Зямлю абрэзалі і пакінулі мне на маю душу тры дзесяціны. Зрабілі мяне трохдзесяціннікам. Дык жа які-небудзь ранейшы галетнік Юрась Нявада, які нядаўна сядзеў вось тут за гэтым самым сталом, стаў са мною на роўную нагу. Калі так — дык няма чаго вам усім на мяне пальцамі паказваць! Вазьміце вы сабе назад вашыя тры дзесяціны! Я ўшыюся ў ваш гурт і ніхто і пальцам не ткне, што я Марцін Пранушка. Так мне будзе смялей жыць. Няхай і аб доме памяці не астаецца, так як не асталося аб маіх думках у маладосці. Раз душа стала зломаная, дык няхай і ўсё ломіцца. Ні сы-

ноў няма, нічога няма... Я ўлез у гэтую хату і пайшоў служыць у кааперацыю.

А д а м. Вось адкуль тваё няшчасце! Але чаму ты сам гэтага не бачыш?

П р а н у ш к а. Я табе выказаў усё, што думаў. Жыву ў гэтай хаце. А Юрась Нявада выбудаваў сабе дом на дзесяць вокан. Ён цяпер жыве так, як некалі жыў я. Вось табе мы і зраўняліся!

А д а м. Адтуль, адкуль я кажу, прыйдзе і твой ратунак.

П р а н у ш к а. Каб, здаецца, гадоў дзесяць яшчэ пажыць як я хачу.

А д а м. Я ў гэтай хаце не буду жыць. Такі самы, як той, я пастаўлю дом.

П р а н у ш к а. Як жа гэта ўсё будзе? Чаму ты нічога выразнага не кажаш?

А д а м *(не слухаючы)*. Я многа начай не спаў. З ног валюся.

Пранушка падбег да ложка, адкінуў коўдру. Адам расшпіліў каўнер рубашкі і, не раздзяючыся, кінуўся на пасцель.

П р а н у ш к а. Чаму ж ты не раздзеўся?

А д а м. О не, не. На ўсякі выпадак. Напагатове быць не пашкодзіць.

П р а н у ш к а. І цяпер, небарак, дрыжыць і калоціцца. *(Падсоўвае к ложку табурэт, садзіцца і не зводзіць вачэй з Адама.)* А можа... А можа гэта, бог дасць, вайна пачнецца?

А д а м *(сонным голасам)*. О, Тоўхарт цвёрды чалавек. З розумам. Я яму веру, як богу. *(Змаўкае, сонны.)*

П р а н у ш к а. Спі, сынку... Мусіць жа, нешта ёсць, калі так гаворыць... Тоўхарт... Тады яшчэ малады хлопец быў.

А д а м *(раптам прахапіўся)*. А чаго гэта сядзеў у цябе гэты Юрась Нявада? Цераз яго я не мог звечара ў хату да цябе ўвайсці.

П р а н у ш к а. Ён мне прынёс навіну, што яго Вольга цябе ў Брэсце бачыла.

А д а м *(аж прысеў на пасцелі)*. Гэта такі была яна?

П р а н у ш к а. Што ты яшчэ ўсё пра яе думаеш?

А д а м *(лежачы, сонным голасам)*. Чорт з ёю.

П р а н у ш к а *(не адыходзіць ад Адама, не зводзіць з яго вачэй. І чым больш так стаіць, тым больш постаць яго*

*выпростваецца і з усяго яго спадае ранейшая быццам прыбітасць).* Адам... Ці праўда, што яно будзе так, што мы пачнём жыць спачатку? Адам... Ну, спі сабе... Многа ты меў бяды і турбот за пятнаццаць год. Няхай табе бог дасць... *(Адыходзіцца, прыслухоўваецца.)* Каб дзе, здаецца, гармата ляснула... *(Быццам засаромеўся сам сябе, зноў сеў на табурэце каля Адама.)* Божа мой, божа мой...

Адам *(раптам прахапіўся).* Хто тут?!

Пранушка *(мяккім голасам).* Гэта я... я... спі...

Адам *(хіліцца на падушку).* Каб аніводная жывая душа не ведала, што я тут.

Пранушка. Будзь смел. Я цябе буду аберагаць, Адамка.

Адам *(прыўзняў галаву).* Калі сюды з'явіцца Тоўхарт, ёсць тут дзе яго прыняць так, каб ён быў задаволен мной? Каб бачыў, што я яму верны да канца?

Пранушка *(спалохаўся).* Сюды явіцца Тоўхарт? То як жа? Цябе аднаго я ўхаваю, а дваіх — цяжка будзе. Тут усюды людзей многа.

Адам. Калі сюды з'явіцца Тоўхарт, то тады ўжо хавацца не трэба будзе. Ён з'явіцца сюды як гаспадар. Усе тут перад ім стануць на калені. У каго тут самы лепшы дом?

Пранушка. Самы лепшы дом тут у Юрася Нявады.

Адам. Дык у Нявадавым доме мы і прымем Тоўхарта.

Пранушка. У чужым доме?

Адам. Толькі плюючы на чужое, дойдзеш да свайго!

Пранушка. Ты мяне навучаеш на такую бяду для Юрася Нявады?

Адам. Табе падабаецца сваю ўласную бяду на карку насіць? Дык я табе скажу: калі той дом мне спадабаецца, дык я і свайго ставіць не буду. Тоўхарт мне яго аддасць.

Пранушка. Я нічога не ведаю, што ты гаворыш. Гэта ж не Тоўхартаў дом.

Адам. Тоўхартава тут будзе ўсё.

Пранушка. Бацька гэтага Тоўхарта калісьці мне многа зла зрабіў, калі я судзіўся з маёнткам за мяжу на поплаве. Ён мяне раз нават сабакамі ўцкаваў, і мне сабакі нагу парвалі, я паўгода кульгаў пасля гэтага. А гэты малады, тады яшчэ гімназіст, рагатаў, на мяне гледзячы.

Адам. Калі моцны цябе крыўдзіць — падзякуй яму, тады будзеш жыць, і сам будзеш мець пад сабой слабей-

шых. Тоўхарт нас вучыў, што гонар — гэта пустая выдумка.

П р а н у ш к а. Але ж я век буду ўдзячан Юрасю Няваду за яго шчырасць. Як родны брат, ён пашкадаваў мяне. Ён прыйшоў абнадзеіць мяне, што ты жывы.

А д а м. А ты глядзі яму ў вочы і думай, што гэта не чалавек. Так вучыў мяне Тоўхарт. *(Падае на падушку і спіць.)*

П р а н у ш к а. Божа мой, божа мой, і жыць хочацца, і... нанава жыць пачаць... Я ж сам свой дом спаліў, плюючы на іх усіх... *(Павышае голас, быццам апраўдваецца перад Адамам.)* Я не толькі баяўся, не толькі хацеў паказаць, што ў мяне няшчасце і каб пашкадавалі мяне! Я і гонар меў. А гэта — каб усе ткнулі ў цябе сотняю пальцаў...

А д а м *(злосным шэптам)*. Дык і цяпер гонар май і плюй на іх усіх і на іх пальцы! Хіба мала ты цярпеў ад іх? Ведай толькі адно, што калі пачнецца, дык Сталін першы кіне ўсё і пабяжыць. Я веру Тоўхарту. *(Спіць.)*

П р а н у ш к а *(пасля доўгага маўчання адыходзіцца)*. Я табе спаць не даю... што гэта будзе?.. Я так чакаў, каб нанава жыць пачаць, а гэта одум і страх бярэ. Божа мой, божа мой... Страшна першы крок ступіць... Спі, Адамка... *(Цвёрдым рухам бярэ ў зубы папяросу.)*

*Заслона*

Другая дзея пачынаецца ў момант, калі ўжо ідзе вайна, але яшчэ ніхто не верыць, што немцы прыйдуць сюды. Усе ўпэўнены, што Чырвоная Армія неўзабаве адаб'е немца. У сям'і Астаповіча гавораць, што дарэмна Вольга не жыла тут, а ўсё ездзіла па гарадах. Яна гаворыць, што не заўважала, што яе душа тут. Гавораць аб скорай перамозе. Уваходзіць ранены чырвонаармеец ад Лукашэвіча і гаворыць, што па шашы прайшлі нямецкія танкі (два) і дэсант.

З'яўляецца Пранушка і гаворыць, што Сталін уцёк немаведама куды. Уваходзіць нямецкі салдат і загадвае ўсім падняць рукі ўгару.

# ВЕЦЕР І ПЫЛ

*(Аповесць)*

## I

Зусім маўчаць дрэвы: не шумяць тонкім веццем, не варушаць голлем — голыя, пры зямлі аброслыя шчуплым зеллем, жаўтаватым лішаём... Учора з вільготнае раллі рваўся густы вецер, і поле згінала падсохлы быльнік пры дарогах і межах. І на ўзгорках не відаць было птушак. Вецер шырокімі грудзьмі прыпадаў да пасінелых ад хмурных колераў сцен.

Лішай на дрэвах зыходзіць да зямлі, прападае ў траве. А трава цяпер халодная, ад першых маразоў пазеляне-лая, і скрозь яе свеціцца зямля. І як жа яна востра пахне, гэтая шчуплая, прымарожаная трава! І якім уздымам вее зямля! — трэба моцна любіць і глыбока адчуваць, каб ведаць аб гэтым.

Неба густое, з цёмнаю сінню, і далёка пацямнелі кусты — мусіць хутка ляжа глыбокі снег. А цяпер хочацца босымі нагамі адчуваць зямлю, хадзіць па траве,— так, як гэта ў канцы лета, жоўтымі адвячоркамі, шырокімі днямі.

Цяпер у нас малоцяць. Пасля пылу ў гумне, калі выйдзеш агародамі к рэчцы,— дзіўна нейк, што асака пры вадзе такая, як і ўлетку — зялёная, жывая, толькі з пажаўцелымі вяршкамі. За рэчкаю ралля таксама мае мясцамі летні выгляд — яшчэ цёплымі днямі павылазіла з-пад чорных пліт лясная трава,— спрадвеку раслі тут ядлоўцавыя кусты; мы іх талакою выкарчавалі і ўвосень заараллі новы кавалак поля. І цяпер лясная трава не паддаецца з першага разу — пасля зімы многа тут яшчэ будзе работы; ралля зялёнымі лапінамі зусім зліваецца з фонам лесу, да якога даходзіць... Там спакойна і вялікасна шумяць хвоі; там мякка пад нагамі і вельмі зацішна; і таму, мусіць, так прытульна здаецца на малым пасёлку, што некалькімі новымі хатамі прыткнуўся да гэтае сцяны старых хвояў.

На пасёлку няскончаныя платы, не абгароджаныя яшчэ

агароды, абы-як, на адну толькі зіму, збітыя з аполкаў хлявы, абложаныя сухім бульбянікам і кулявою саломаю,— год пяць пройдзе, не менш, пакуль акуратна забудуецца пасёлак.

Тут яшчэ, бліжэй да крайняй хаты, накідана і рассыпана гліна, і цяпер з суседніх хутароў прыязджаюць браць яе, каму трэба,— яшчэ ў канцы лета выкапалі тут калодзезь. Тады была вялікая спешка — навальная работа не давала дыхнуць, і калодзезь капалі спяшаючы, прыхваткамі. Міма калодзезя вазілі снапы і на суседнія хутары і ў суседнюю вёску.

І, праязджаючы міма, людзі па-рознаму глядзелі на спешную работу пасёлкаўскіх хлопцаў. Гэтая неаднолькавасць вельмі востра выяўлялася ў хутаранцаў. Францішак Даніельскі, напрыклад, заўсёды нізка склоніцца і далікатна скажа:

— Бог на помач!

— Дзядзька Даніельскі, закурым!

Даніельскі прыпыняе каня, спешна злазіць з драбін, падбягае да хлапцоў і круціць папяросу з іхняга тытуню.

— Да вады яшчэ далёка?

— А хто яго ведае,— дыпламатычна адказвае хто-небудзь,— мы, прызнацца, не практыкі, першы раз капаем. Будзем прасіць дзядзькі Даніельскага, можа, вы тут нам абгледзіце, як і што.

Францішак Даніельскі з выглядам вялікага знаўцы ўсякіх рэчаў важна аглядае глыбока ўжо выкапаны калодзезь і заяўляе:

— Заўтра павінна пайсці вада.

— Наўрад ці пойдзе!

І гэта гаворыцца для таго, каб працягнуць гаворку. Хлопцам весела глядзець на высокую і грузную, але нейкую слабую постаць Даніельскага. А ён яшчэ раз аглядае калодзезь і трохі ўжо не так упэўнена гаворыць:

— Павінна пайсці.

І падыходзіць да воза і едзе далей.

Адзін раз, назаўтра пасля такое гаворкі, Даніельскі вёз воз грэчкі. Хлопцы крыкнулі яму:

— Вады няма!

Ён прыпыніўся і гукнуў:

— Не можа быць!

— Няма.

— А-а-а! Што ж такое.

І, паглядзеўшы, сказаў яшчэ рашуча і цвёрда:
— Нядобрае месца... Суш...
— Дык жа вакол балоты.
— Гэта нічога.
— Нічога?
— Нічога. Бывае такая мясціна.
— І часта бывае?
— Не скажу каб часта, але бывае. Нашто вам што! — пекалі я сам, як быў малодшы, капаў калодзезь у Цецераўцах, дык вады няма і няма, а пасля калі р-рванула!..
— А-а-а!
— Верна!.. Тутунь маеце?
На трэці дзень найшла вада, і Даніельскі сказаў:
— Я ж казаў, што зараз павінна пайсці... Дай божа ў добры час... Цяпер, як вы сабе хочаце, а пагуляць павінны...
І ён усміхнуўся добраю, чуць хітраватаю ўсмешкаю.
— Пагуляем... Будзем прасіць дзядзьку Даніельскага, каб з скрыпкаю падышлі.
— Я не адмаўляюся.
І ён паехаў, адчуваючы ў сабе блізасць да гэтых вясёлых пасёлкаўскіх хлапцоў.
Зусім іначай адносіцца да пасёлкаўцаў другі хутаранец — Зыгмусь Купрыяновіч. Ён увесь час моўчкі вазіў снапы. І хлопцы яго не чапалі. Толькі раз нехта гукнуў:
— Дзядзька Купрыяновіч, ці няма запалак!
Купрыяновіч прыпыніўся і падышоў. Ён закурыў і сам, пачаставаў сваім тытунём хлопцаў. Пакуль закурвалі, ён сказаў:
— Капаеце?
— Капаем.
— М-гу... Дрэннае месца тут.
— Нічога, дакапаемся.
— Ды дакапацца можна, пачаўшы дакопвацца... Дакапацца ўсюды і да ўсяго можна. І да вады, і да чалавека...
— Чаго ты, дзядзька, на нас злуеш!
— Я, браткі, на вас ні за што не злую. За што мне на вас злавацьі?! Толькі скажу адно — можна было абрэзку зрабіць іначай, каб гэта ўсё рабілася па-чалавечы. А то больш палавіны зямлі адхвацілі, і дзела з канцом. Добры інтэрас!
І адышоўся, пастаяў і паехаў паволі, пускаючы гус-

ты дым з-пад тоненькіх, кепска падкручаных вусоў.

Пасля ўжо ўвосень, як пачала мерзнуць зямля, шукаў ён пад вечар каля пасёлка сваіх гусей. Над калодзезем стаяў новы зруб, і пасёлкавец Антось Макарэвіч корпаўся там каля яго з сякераю. Купрыяновіч падышоў, цяжка шаруючы ботамі па няроўна раскіданай гліне, даў «добры вечар» і сказаў:

— Значыцца, скончылі, зруб стаіць, вада свая... хаты пазабудоўвалі, усё ў парадку.

Антось Макарэвіч раптоўна разгладзіў вусы, паправіў на галаве заячую шапку і скоранька прагаварыў:

— Дзе б-бачыў, далёка яшчэ да парадку. Хата — хатаю, а хлявы, а платы, а ток... ой, яшчэ не ўсё...

— Паставіцца...

— Ды як-небудзь паставіцца, так не будзе... Але пагараваць то прыйдзецца...

— А што ж, ты хочаш, каб табе само ўсё зрабілася без жаднага клопату.

— Хочаш! Мала што хто чаго хоча... Што я не гарую, ці што? Я стараюся, раблю...

— Стараешся і робіш на сябе...

— Пэўна, што на каго рабіць не буду.

— Та-ак... А-г-га!

Яны памаўчалі. Падышло больш людзей, і Макарэвіч сказаў:

— Табе было лягчэй хутар заводзіць, ты спрадвеку быў фальваркоўцам.

Купрыяновіч ускіпеў:

— Калі я і быў фальваркоўцам, дык сам усё прыдбаў... А які там фальварак, ці гэта фальварак — калі ў мяне было якіх валок тры, дык гэта найбольш.

І, сказаўшы гэта, прыпомніў, што сказаў «папросту» і тут жа паправіўся:

— Найвенц тры валокі, я ж кажу, гэта ад сілы, найвенц! Але гэтулькі не было.

Антось Макарэвіч нешта хацеў сказаць, але Купрыяновіч кіўнуў галавою і пайшоў, азіраючыся, па полі. Відаць было, што ён не пакідае злаваць.

Такія былі ў нас адносіны між людзьмі.

Пасля Купрыяновіч зусім пакінуў заходзіць на пасёлкі і, канчаючы ўвосень апошнюю работу на полі, нават раз быў адвярнуўся, каб не даць «дзень добры» аднаму пасёлкаўцу. Тады хлопцы, што былі тут жа на

полі, падышлі бліжэй і моцна, каб чуў ён, пачалі гаварыць аб тым, што на веспу трэба будзе выкарчаваць кусты аж да самае рэчкі,— у Купрыяновіча там каля рэчкі свая паша, і яму прыйдзецца наймаць другога пастуха, каб каровы яго не заходзілі тады на чужое поле, так як цяпер заходзяць у гэтыя кусты... Так яго і даводзяць заўсёды да злосці.

Цяпер на мёрзлым полі пуста. Толькі дзікія птушкі чорнымі камякамі варушацца на цвёрдай шэрані...

Неўзабаве ляжа снег.

## II

У зорныя вечары месячны лес чула прытаіў галасы зімовых птушак, птушкі дрэмлюць, і далёка ўнізе пад імі мох — моцны, густы і свежы. У адліжныя дні вецер гладзіць сакаўное зяленіва яго кашлатых галовак.

Начамі відната, і зацішны холад лажыцца на поле. І моцна чуваць, як на хутарах шуміць вада і стукаюць пад ёю млынавыя калёсы; рэчка яшчэ чорная, нават пры берагах без лёду, і самыя плыткія месцы ў ёй здаюцца цяпер глыбінёю...

Змрокам пакідаюць стукаць цапы, гусці малатарня; сціхае шумець салома, і вечары сустракаюцца чулым маўчаннем дарог.

У такі час, позна, прыйшоў да мяне Антось Макарэвіч. Нешта ён хацеў сказаць, быў нечым занепакоены, але раней паволі падаў мне руку, прайшоў два разы па хаце і сказаў тады:

— На хутарах у млыне пехта, па злосці, мусіць, праламаў у свірне падлогу, і многа жыта ўцякло і зглумілася.

— А невядома хто?

— Невядома... Чаго я да цябе прыйшоў?!

— Чаго?

— Напішы ты ліст да Надзі, няхай, мусіць, прыязджае.

І я пад яго блытаную дыктоўку напісаў у горад да яго дачкі Надзі, што захварэла маці, што няма каму даглядаць усё дома, што іншая рада не служыць, як прыехаць ёй дадому.

— Прыпішы яшчэ, што як будзе ехаць, дык няхай — маці вельмі прасіла — каб прывезла які з фунт цукру, а то мала тут ёсць вельмі чым ёй паправіцца.

І ён застаўся яшчэ трохі пагаварыць.

— Дзе коратка, там і рвецца, ліха яму.

— А што ў жонкі?

— Застудзілася, і вельмі сіберна ў боку коле. Нядаўна доктара прыводзіў — мусіць, будзе запаленне лёгкіх, казаў... Неасцярога, а цяпер бяда...

— А нашто Надзю выпісваць з горада, можа, хвароба і пройдзе, і не варта яе з месца зрываць.

— Нічога, мусіць, не будзе. Дома без гаспадыні ўсё развальваецца,— каторая пара, як ляжыць баба... А калі пойдзе, як той казаў, на паправу, дык тады — каб толькі так адно сталася — тады будзе і спосаб які-небудзь.

Ён маўчаў і курыў, пасля зноў сказаў:

— Калі што якое здарыцца, дык не ведаю... якое гора спасцігне...

Невысокі, абвязаны па каўняры салдацкім башлыком, стаяў ён сярод хаты; у кароткім кажушку, у старой заячай шапцы. Была ў ім панурасць і, разам з тым, вострыя агні ў вачах.

Цяпер больш паўгадзіны мы маўчалі, пасля пачалі гаварыць аб рэчцы, аб бярозавых дровах, аб новай веснавой раскарчоўцы кустоў пад поле. Цяпер ён падвесяліўся,— сеў, цвёрда стукнуў рукамі па каленях, загойдаў нагамі.

— За два гады я гумно пастаўлю.

— Паставіцца як-небудзь.

— Мне цяпер абы гумно як-небудзь склапаць... Хата добрая, як звон.

— Добрае дрэва папалася... Смольная хвоя.

— Але...

У яго вачах загарэліся агні. Як бы гэта вялікае захапленне чым-небудзь нечаканаю вастратою прайшло па гэтым, прышыбленым кагадзе твары — так ажывіўся ён. Падобным ён быў у першыя асеннія дні, калі раней за ўсіх пазвозіў авёс, і даручылі яму былі паставіць зруб над калодзезем. Стукаў ён сякераю па сырым дубе і весела гукаў на дарогу, калі хто ехаў.

Ён пацёр рукі.

— Снег зараз пойдзе... Трэба будзе якую раду даваць шчэпам у саду,— цяпер зайцом жыўнасці больш, а тады, каб яны павыдыхалі, пачнуць у сад учашчаць.

І яшчэ аб лясах мы пагаварылі з ім у той вечар і аб

капыце ў мельнікавага каня,— капыт гэты быў збіты летам аб камень на дарозе і цяпер адрастае.

Ён сказаў:

— Летам такі капыт адростаць не лішне будзе,— як конь стане на гнаі, дык парнасць пад капытамі, тады капыт гэты лепш адростае...

І ён пайшоў ад мяне такі, як і заўсёды быў — гаваркі і лёгкі, з ціхім смехам у словах.

І ў вачах яго не пакінулі гарэць агні.

## III

Нас некалькі чалавек завознікаў сядзіць у млыне на мяшках.

Дрыжыць падлога, пахне мука. Шумна ад вады і каменняў і прытульна ад змрочнае цеснаты... Заядлыя гаворкі веселяць, і яшчэ вясёлы настрой ад таго, што трэба крычаць, каб заглушыць млынавы шум.

Кіраўніком гаворкі з'яўляецца шавец з мястэчка Сёмка Чаркас — чорны і белазубы чалавек, вясёлы і хітраваты. Напроці яго, на другім мяшку, сядзіць местачковы царкоўны стараста Аляксандар Махлак — гэты нізкі і таўставаты не па росту; тоўстыя рыжаватыя вусы падкручвае і моцна стукае ботамі, ходзіць паважна, перакідаючыся, як качка, з нагі на нагу.

Усіх нас чалавек дзесяць — і пасёлкаўцаў, і хутаранцаў, і местачкоўцаў.

Чаркас раней усё расказваў, як і ў каго ён дзе быў за свата, пасля пастараўся давесці да прыяцельскае гаворкі Аляксандра Махлака з Зыгмусем Купрыяновічам. Гаворачы, ён усё весялеў, весялеў, пасля раптам перарваў на паўслове сваю гаворку, ляпнуў Махлака па плячы і гукнуў яму ў вуха, з вельмі моцнымі адценнямі кпін у голасе:

— На якіх фабрыках цяпер вырабляюцца царкоўныя свечкі?!

Аляксандар Махлак адшатнуўся ў бок ад Чаркасавага крыку і адказаў:

— Цяпер акуратных свечак няма.

— Як няма, калі ёсць.

— Няма. Абы-толькі народ насапе духу, дык адразу мякчэюць і аб'язджаюць; камякамі робяцца і хоць ты тут гвалт крычы.

— Што ж гэта за ліха?

Голас у Чаркаса стаў раптам мяккі, гумарыстычна-спачуваючы. Махлак пачаў уваходзіць у гаворку:

— Як належыць не ачышчаецца воск.

— Э-э-э!.. Я не пра воск!

— А-а-а! Гэта ты, значыць, пра лаёвыя свечкі! Ага. Дык я табе скажу, што гэтыя свечкі добрыя. Лой самы акуратны.

— Авечы?

— Хто яго ведае, ці авечы, ці гавяджы; чаго не ведаю, таго не скажу, але лой добры. Гэта факт, я ж ведаю.

— А чаму, кажаш, з воску цяпер свечкі ерундоўскія? — запытаў Зыгмусь Купрыяновіч, зацікавіўшыся гаворкаю і падыходзячы бліжэй.

Цяпер Чаркас змоўк у вясёлым чаканні. Аляксандар Махлак зразу адказаў:

— Выраб не добры. Фабрык, сказаць, няма, а рукамі так не зробіш.

Чаркас падаў голас:

— Ну, пэўна. Рукамі — гэта саматужніцтва, а ты мне разві індустрыю, разві!

І маргнуў адным вокам.

Як бы разважаючы сам з сабою, Аляксандар Махлак выказаў думку:

— От каб гэта выдумаў якую-небудзь такую прыстройку для ачысткі воску...

— Хіба для ачысткі мазгоў,— маргнуў Чаркас.

Рогат змяшаўся з млынавым шумам. Антось жа Макарэвіч са смехам растлумачыў:

— Вазьмі ты, браце Аляксандар, на пракатным пункце арфу або трыер, дый прапусці ўвесь воск, можа, і ачысціцца.

— Ах, якім ты вельмі разумным зрабіўся!

— Аб чым ты гаворыш. Ты ж поле нячышчаным насеннем сееш, а галаву ломіш над ачысткаю воску. Каб ты прапаў, каб ты, гэтакі чалавек.

Зыгмусь Купрыяновіч пастараўся прыйсці на дапамогу Аляксандру Махлаку:

— Можа гэта яшчэ ад таго, што вы воску добра не вымешваеце. Даўней мы рабілі свечкі ў касцёле, дык наймenш па дзве гадзіны мясілі. А воску клалі мала — найвенц фунтаў дзесяць, тады ён добра вымешваўся.

Чаркас зноў не сцерпеў:

— Ну, табе добра было і мясіць, у цябе да гэтага адмысловыя рукі — як чарпакі. Ты аднэю рукою ліха ведае колькі воску агорнеш за адным махам... Што ты да сябе Аляксандра раўняеш, колькі ў яго тае ручкі, як вераб'іная лапка.

Аляксандар Махлак, убачыўшы кпіны, адказаў злосна:

— Я ніякага воску мясіць не збіраюся.

І адышоўся трохі далей, ківаючыся, як качка, у бакі. Зыгмусь Купрыяновіч пакрыўдзіўся:

— Чорт ведае чаго выскаляюцца. Знайшлі з чаго смяяцца.

Тады і Аляксандар Махлак пасмялеў.

— Але, добра кажа, знайшлі прычыну смяяцца.

— Дурны смех.

— От смяецца... Самому дык нічога не трэба, як быдлячына жыве — пад'еў ды ў хлеў.

Чаркас бліснуў вачыма і абазваўся:

— Нешта, пане Купрыяновіч, вы цяпер пакінулі надзяваць кошму на касцёльных адправах.

— Я не арганісты.

— Ну, то закрыстыян.

— І не закрыстыян.

— Не?

— Гэта маё дзела.

— Ага.

І нешта яшчэ хацеў сказаць Зыгмусь Купрыяновіч, ды, мусіць, не мог успомніць; прыплюшчыў вочы, пастаяў так з паўхвіліны і выйшаў да коняй. Чаркас вяла агледзеў падлогу, і выгляд у яго раптам стаў кіслым.

— Ах, забыўся я сказаць яму, ці зараз ён адсудзіць лес.

Аляксандар Махлак глядзіць на Чаркаса і нехаця пакручвае вусы. Так ён стаіць доўга, вяла ўхмыляецца, мусіць, з Чаркаса. І гэтая ўхмылка яго падобна на мокрую дзяругу на ветры; так яна цяжка скручвае губы і чуць падварушвае вусы. Раптам Аляксандар Махлак гаворыць Чаркасу:

— За што ты не любіш Купрыяновіча?

Антось Макарэвіч устаў з мяшка, абцёр рукамі ад мукі ззаду порткі і адказаў за Чаркаса:

— За што нам яго не любіць?

— Правільна,— сказаў Чаркас.
— Я ж кажу, за што нам яго не любіць.
Тады Чаркас, як бы што раптам прыпомніўшы, павярнуў у другі бок сваю думку; гледзячы на Макарэвічаў твар, ён весела сказаў:
— От ты ліха табе, ад вельмі вялікіх любасцей да Купрыяновіча вясною самы першы да лепшага кавалка зямлі з яго хутару будзеш прагнуць, як толькі пачнецца абрэзка.
— Ну, гэта зусім другое дзела.
— Ну, дзела, ну... от табе і ўся механіка.
— Маханіка... Тут зусім другое. Але лішняе зямлі мне не трэба. На чорта яна мне.
Аляксандар Махлак пачаў выказвацца.
— Чалавечае вока не пэўнае. Гэта дарма, што іншы тут развядзе гаворку, што лішняга яму не трэба; а калі давядзецца дзе што якое, дык чорт яго тады спыніць. Чалавека ніколі няўтхланіш, чалавек — як бочка без дна.
— Ты гэта што, сам па сабе ведаеш? — радасна абазваўся Чаркас.
— Я ж кажу, чалавек — як з рэшата пасудзіна для вады.
— Ага, то ў ім, значыцца, нічога не застаецца, колькі ты яго не тхлань. Скрозь яго ўсё, што належыць, пройдзе, а ён высахне, і тое самае...
— Не пра гэта я гавару.
— Як не пра гэта?
— Не пра гэта... Чалавеку ўсё на карысць. Загэтым ён і грабе да сябе, як можна больш. Гэтак усякі.
— А я, слухаючы цябе, падумаў,— сказаў Антось Макарэвіч,— што чалавек — нейкая цэнтрыфуга. Як праз цэнтрыфугу малако, так праз яго ўсё. Скажам, цэнтрыфуга — дык там смятана, скажам, налева, сыроватка налева, а сама цэнтрыфуга, як стаяла, так і стаіць. Так ты гаварыў ці не?
— Да чаго ты прыраўнаваў!.. Што ты, вар'ят, ці што?
Чаркас падміргнуў і звярнуўся да ўсіх, хто толькі быў тут:
— Ну, што ты яму на гэта скажаш?
На гэта яму ніхто нічога не паспеў сказаць — яго зараз жа пазвалі на гару засыпаць жыта, і ён прыгнуўся і палез па скрыпучых усходах, глушачы стукам падкаваных ботаў гул падлогі.

Купрыяновіч увайшоў і спакойна запытаў у Антося Макарэвіча:

— Як твая баба?

— Хворая.

Макарэвіч адышоўся да дзвярэй і моўчкі глядзіць на падмерзлае поле, пустое і змрочнае. Купрыяновіч, назнарок моцна, каб чуў Макарэвіч, гаворыць:

— От гэтак заўсёды: чалавек цягне-цягне, капае з усіх канцоў, а тут раптам памрэ, от табе ты і збіраў. Праўда ці не, Антось?

Антось маўчыць.

— А ж кажу, збірае-збірае, а ў зямлю ўсё роўна з сабою не пабярэ. Антось, праўду я кажу?

— Ідзі ты к чорту,— нема і дзіка крыкнуў Антось Макарэвіч,— чаго ты да мяне вяжашся?.. От зараз схвачу за каўнер ды боўтну ў гэтую рэчку, і ніякага граху не будзе.

І раптам азірнуўся на ўсіх Антось. Быў ён у тую хвіліну страшны нейкі, ускудлачаны. Вочы востра блішчалі над аблезлым каўняром з старое аўчыны. Купрыяновіч адзін момант глянуў на яго і скоранька пайшоў на гару. Махлак кінуў папяросу і нанава пачаў спешна закурваць. Макарэвіч прайшоў міма мяшкоў, раптам зноў стаў ціхім і, гледзячы некуды паверх людскіх галоў, папрасіў:

— Дайце, браткі, хто закурыць.

Пастаяў так яшчэ трохі і пайшоў на гару да Чаркаса.

## IV

Аляксандар Махлак зусім пакінуў galіцца, і на яго круглым твары зарунела мяккая шэрсць. Адзін раз у мястэчку на сходзе Купрыяновіч падышоў да яго з гаворкаю. Гаворка пачалася з няголенае барады. Купрыяновіч пачаў яе так:

— Чаму вы, пане Махлак, пакінулі галіцца?

— Ат, не ў галаве.

— Чаму?

— Так... Я лічу — дажыву веку і няголеным.

— А я гэтак не лічу.

— Усякі лічыць, як яму выпадае.

— Якое там выпадае... Мала што выпадае... А я не такі чалавек, каб абкапцанець за жывую галаву. Пагля-

дзі ты на мяне, а я не мёд агортваю да сябе. Праўда ці не?

Збоку пачуўся голас:

— І-і-і! — дзіва, што праўда, табе яшчэ варта ў данскія казакі падацца, і дзела з канцом.

Купрыяновіч не спыніў гаворкі:

— У мяне абрэзку зрабілі?

— Зрабілі.

— Вяспою яшчэ будуць рабіць?

— Будуць.

— Лесу я не адсудзіў?

— Не.

— От бачыш.

— От бачыш,— сказаў Чаркас,— аднак ты кожную суботу падгладжваешся і, добра кажа, у данскія казакі можаш смела падавацца, і ніхто табе слова не скажа.

Купрыяновіч плюнуў і адышоўся. Чаркас сказаў Махлаку:

— А яно верна, што табе варта бараду ачысціць. На каго ты падобен!

— Я заўсёды падобен сам на сябе.

— От гэта і дрэнна, што ты ніяк не можаш пакінуць быць падобным на самога сябе.

— Чаму?

— Часамі гэта невыгоднае дзела.

— Ну, а ты як?!

— Я за лішнімі выгадамі не ганяюся.

— А я, па-твойму, дык што?

— Нічога, згалі бараду.

— А што табе?

— Нічога мне... Чаго ты дзьмешся?

— Няхай яно згарыць.

— Што?

— Усё.

Ён памаўчаў, пасля яшчэ сказаў:

— А яно, калі падумаць, дык якое табе ліха адходзіць,— пашыў боты — падай грошы, і кончана дзела.

— Ну, а на што ты крыўдзішся? Ну?

— Табе канечне, каб я крыўдзіўся.

— Ну, а як жа! Раз ты маеш якую-небудзь крыўду, дык скажы хоць людзям.

— Прычым тут людзі?!

— Цьфу, каб ты згарэў гэтакі чалавек.

Аляксандар Махлак весела глянуў на Чаркаса:
— Дык от я ж табе скажу, калі ты хочаш ведаць — вароты паламаны, платы параскіданы... Колькі ў нас карослівых коней?!
— На кожную сотню адзін.
— Колькі карослівых коней? — пытаю.
— Я сказаў.
— Мала што ты сказаў.
— Не лічыў.
— Не лічыў ты!..
— А колькі здаровых коней, чаму ты аб гэтым не пытаеш!
— А што ж, ты хочаш, каб на адных карослівых конях свет трымаўся!
— То так бы ты і даўно гаварыў, а то ўбіўся ў гэтую каросту, як чорт у грэблю, і апроч яе нічога не бачыш.
— Чаму не бачыш!.. Яны нам паткнулі гэтыя кусты, ліха матары іх з кустамі, няхай сабе забіраюць, я там жывёлы не напасу.
— І добра зробіш, не канечне ў тваіх гадах у пастухі падавацца, няхай дзеці пасуць.
— От ты заўсёды жартуеш.
— Якія тут жарты, што, не праўда?!
— Чаго рагочаце, ліха мат-тары вашай... Усё раскідаецца, распоўзваецца...
Чаркас засунуў кулакі ў кішэні і крыкам перарваў яго:
— Ну і раскідаецца няхай, распоўзваецца... Валі, церусі, шморгай, трасі!.. Як усё распаўзецца, тады навозім лесу, зробім дамоў з дзесяць, кожнаму кватэру і...
— І, і... Ты ўсё заўсёды ікаеш і нічога ніколі не выікаў... Ну то што тады будзе?..
— Усё будзе, дарма, што ты ўсе коні залічыў у карослівы штат.
— Ніякіх коней у ніякія штаты я не залічаў... Калі гэтае «ўсё» будзе?! Дай мне на рукі факт.
— Ты яго ўсё роўна не ўбачыш.
— Чаму ў Цецераўцах людзі даўно жывуць як мае быць!
— Ну, а ты ж кагадзе гаварыў, што ўсюды ўсё разваливаецца!
— Ды от у мяне, у цябе.
— Ну, то хто табе вінават, што ты гэтакі гаспадар!

— Ага...

Купрыяновіч падаў голас:

— То на чорта абрэзку тады рабіць, калі самахоць дапускаць, каб усё развальвалася... Аж па два разы яе рабіць.

— Абрэзалі раз, абрэжуць і два!

Нехта ўмяшаўся:

— Ціха, на чорта гэты крык, зробім усё ціха, на чорта паднімаць вэрлах...

Аляксандар падняў галаву, паверх усіх, нешта разгледзеў і падаўся да стала.

## V

Надзя прыехала ў апошнія дні перад снегам, і вось у познюю раніцу яна стаіць пры калодзезі на мёрзлай гліне...

Ападае з вуліцы ядлоўцавы дым на зямлю, і над каляінамі халодная трава ў бязгучнасці. Яснее дзень...

Каля гліны яшчэ валяюцца дробныя пачарнелыя трэскі,— за іх у пачатку восені злосна пасварыліся дзве пасёлкаўскія жанчыны, пасля сварка забылася, а трэскі так і засталіся ляжаць непрыбранымі. Цяпер яны гніюць і надаюць гэтаму малому кавалку зямлі выгляд прытульнага ажыўлення... На дарогу пасцякала вада.

Мусіць, Надзя — гэтая дзяўчына ў чорным, памятым пры рабоце плацці — адвыкла трохі ад гэтага спакою, так слухае яна, як маўчыць высокая сцяна вільготнага лесу і дарогі маўчаць. Яна стаіць на прамёрзлай гліне.

Цяплее дзень, і гліна патроху растае. І запахла мокрым, свежым дрэвам.

Да калодзезя падыходзіць другая жанчына,— ад гаматное самаробнае хусткі галава яе здаецца вялікаю. Губы ў яе, ад спешнае і моцнае, мусіць, нядаўняе гаворкі, мокрыя. Ідзе яна моцнымі крокамі, і ў размашных руках яе прарэзліва пішчыць восілка жалезнага вядра. Надзя перад ёю здаецца малою і ціхаю. Яны абедзве чэрпаюць ваду, і між імі адбываецца такая гаворка:

— Маме горш, праўда? — гаворыць жанчына.

— Маме лепш з учарашняга дня,— адказвае Надзя,— сягоння сядзіць і хочацца ёй па хаце прайсці.

У жанчыны з'яўляецца патрэба падступіць бліжэй, і большае ажыўленне апаноўвае яе. Надзя перад ёю здаецца моцна задуменнаю. Жанчына зноў гаворыць:

— Дзякуй богу.

Надзя трохі маўчыць, пасля пачынае гаварыць:

— Я сёння добра спала, а ўчора зусім спаць не давялося,— вядома, каля хворае... А сёння зусім добра, прайсці па хаце парываецца... Можа, я зноў паеду, трохі пасля, калі ўсё добра будзе...

Жанчына перабіла:

— Бацька твой зусім стары, ён зараз абняможа; я ведаю, як мой нябожчык, у такіх самых гадах быў, дык якая з яго работа...

Надзя з непаразуменнем глядзіць на яе.

— Я от думаю, думаю часта, табе трэба прымака браць, няйначай... Я табе дам такога хлопца, такога высватаю...

— Нашто вы пра гэта гаворыце мне?..

Жанчына нічога не кажа.

— Чаму вы аб гэтым клапоцііцеся?

— Я от гляджу на цябе і ўсё думаю... Патрэбен чалавек у хаце, гэта ж, можна сказаць, нанава заводзіцца гаспадарка, а бацька стары; ён за майго нябожчыка маладзейшы ўсяго на якія-небудзь пяць год...

— Гэта толькі маё дзела.

І многа адценняў вастраты прабегла па Надзіным твары.

— Я пайду,— сказала жанчына.

І пайшла спешна. І ў яе постаці было як бы ўвасабленне радаснай павольнасці сярод усякага непарадку ў рэчах, які ад прывычкі даўно ўжо зрабіўся парадкам.

Надзя яшчэ стаяла каля калодзезя, пакуль не знікла з вуліцы жанчына...

У той дзень, пад вечар, у нас усе гаварылі, што каваліха сватала Макарэвічавай Надзі прымака, і за гэта Надзя пасварылася з каваліхаю. Надзя, мусіць, і не слухала гэтага, а жанчынам было радасна гаварыць аб гэтым. Каторая гэта з нашых жанчын, седзячы ў хаце, можа чуць гаворку з-пад самага калодзезя за апошняю хатаю?

Антось Макарэвіч пад вечар укопваў слупкі для новай загарадзі перад хатаю; моцна стукаў абухам па дзераву, путаўся па вільготным, кагадзе раскапаным жвіры — пад вечар зусім адпусціла замаразь — і быў вясёлы. Скінуў башлык, расшпіліў каўнер і сказаў некаму ў процілеглы двор:

— Цёпла сёння, як вясною... Як па вялікадні якраз...

А бабе маёй зусім лепш сягоння...

І стаў абсыпаць жвірам слуп... Налёг грудзьмі на абчэсаны кавалак яліны, паставіў яго раўней і застукаў рыдлёўкаю. І ўсё аглядаўся, каб з кім пагаварыць.

## VI

Далёкі сваяк Антося Макарэвіча — Макарэвіч Міхал — позна вечарам сядзіць каля печы на палку, дробна гойдае босымі нагамі, і гаворка яго выходзіць з палажэння, што трэба жыць як набяжыць. Ён у белых палатняных споднiх портках, якія заўсёды служаць яму і за верхнія; сарочка яго таксама белая і на фоне змрочнага свету ад газоўкі здаецца вельмі тонкаю. Слухаем яго мы, суседзі-пасёлкаўцы, чалавек нас пяць сядзіць у яго хаце. Шырокі лоб яго здаецца чырвапаватым, белыя валасы — мяккімі... І хто яго ведае, чаго ў яго гаворцы больш — жартаў ці абсалютнай сталасці:

— От, абы жывы чалавек...

— Ну, а вы ж самі, як бралі нябожчыцу Юстыну, то чаму вы канечне яе бралі, нашто ж вы выбіралі, калі вам абы чалавек?

— Вядома, я быў малод.

— А цяпер, як агрыбелі, дык вам абы чалавек, вядома...

— Я не вельмі стары.

— Ну, колькі вам год?

— Шэсць дзесяткаў гатова.

— Э, то вы яшчэ зусім малады!

— Малод, малод! Я не малод, але мой, скажам, бацька жыў за дзевяноста...

— Чаму вы, дзядзька, не жэніцесь?

— Ат, што ты гаворыш... Што ты гэта... Хто яго ведае, яно і не выпадае, сказаць, і не гады, можа, і нейк... ну што ты сам не ведаеш, ці што...

— А што я ведаю?!

Міхал памаўчаў і сказаў:

— А от Агата Уласавых ёмкая баба...

— Вы, мусіць, як былі малодшым, дык вельмі за дзяўчатамі смалілі?

— Шпарыў здорава.

— Ёмка?!

— Не глядзеў ні вока ні бока.

— І ўсё добра сыходзіла?

— Што т-ты мяне спавядаеш, што табе за інтарэс... Глядзі сябе...

— Да гэтага дзела каму няма інтарэсу?!

— Ат... Я лічу, што калі чалавек здароў, то яму, значыць, і ўсё добра... значыць. Ён тады і з'есць добра, мае значыць апетыт...

— Што вы, дзядзька, з гаворкаю падаліся зусім у іншы бок!

— Куды я падаўся, я нікуды не падаўся!.. Толькі, значыць, я не вельмі на палатках, як кажуць, заседжваюся... Што я, не чалавек, ці што?! Нявестка часам буркане,— чаго ты, кажа, значыць, усюды нос уткнеш, усюды ўмешваешся. Выходзіць, што калі я дзе гаворку падам, дык гэта ўжо нос утыкаеш... дурная галава...

Выходзячы з прасніцаю з хаты, нявестка абазвалася:

— Бо і лезеш усюды, дзе табе не трэба... Сягоння раніцаю добра пагаварыў!..

І стукнула дзвярыма. Нехта запытаў:

— А што гэта было раніцаю?

— Нічога не было. Паіў я коні, а Антось браў гліну, дык вельмі ж скардзіцца, што рука правая дрымціць — ён яе з замаладу падверадзіў, кажа — рабіць трудна; а я кажу — бяры прымака да Надзі, а ён кажа — гэта няхай так, як яна сама, я тут, кажа, значыць, не хачу слова ёй гаварыць, яе дзела, бо я, кажа, сам маладым быў. А я кажу яму, што і я быў, усякі быў маладым, і ведаю, што тут дзела такое, што не канечне, каб яна сама і выбірала што і як, а даць ёй добрага хлопца, значыць, прымака, дык і пойдзе ўсё ў цябе ў хаце як мае быць... Вясною гумно паставіш. Тады ён кажа мне, што за гумно і за сваю звярэджаную руку не аддасць дачкі за ўсякага. А я, праўда, сказаў яму, што няхай яна сама сабе выбера хлопца. А тут падышла Надзя, дык калі наробіць на мяне крыку — чаго вы, кажа, значыць, тут палошчаце языком, стары чалавек... Ліха ёй, брыдота, слова не дасць выгаварыць — якое, вам, кажа, усім да мяне дзела, дзе мне, кажа, дзецца ад гэтых апекуноў... А людзі чулі,— там і больш ваду бралі... Антось, праўда, слова не сказаў, моўчкі падыбаў дадому, а яна за ім. А мне няёмка, чорт яе ведаў... Я проста ведаю, што годзе ёй цягацца так; што, не пара ёй замуж?! Што, яна не жывы чалавек, ці што...

— А ў вас, дзядзька, таксама падвярод, у назе...

— Эт, плёвае дзела... Гэта я нядаўна стаў трохі накульгваць, а так яна ў мяне здаўных — пабаліць трохі і пакіне... Я, значыць, от думаю — жывеш чалавек, жывеш, а навошта жыць, каб абы пражыць. Не гэтак трэба жыць, жыві ты мне з сокам, пакуль жывеш!..

— Ну, а вы ж раніцаю агітавалі Надзю, каб ішла абы за каго, от абы чалавек. Што ж там было б за жыццё, жыла б тады, абы пражыць...

— Які там чорт гітаваў, ці я гітаваў?! Я іначай гаварыў — чэзне от дзяўчынаю, а ў Антося рука падвярэджана... Ува ўсякага жывога ўсё па-жывому, адзін чорт, ці то наш брат, ці то баба... Чалавек жыве, а нашто ён жыве? На тое, каб жыць! Іншы думае, што ён вельмі ж дайшоў да ўсяго. Ну, можа, ён і дайшоў, я не кажу. І нічога я проці яго не маю. Я і сам да многага дайшоў, але калі ты што робіш, дык рабі, пане мой! Калі пляскаць па вадзе, дык пляскай ты мне не пугаю, а дошкаю, каб аж берагі самлелі, а калі табе спадабалася — плясні яшчэ раз; мала што хто будзе гаварыць — «унь, ліха яго матары, па вадзе з-за вуха лупіць». А тут і ўся музыка, што з-за вуха, а не з-пад носа. Рыба, скажам, у вадзе — ну, дык яна ў ёй і сядзіць. Каб шчупакі, скажам, пайшлі, значыць, на спацыр па паплавах, павылазіўшы з вады, то што тады з імі было б? Дык от ты не думай лішне, чаму я тут, а не там, а калі цёплая вада і добра табе купацца — купайся! Зусім не думай, што от я магу гэтую ваду з рэчкі спусціць, тады тут павырастае асака, а з асакі накашу сена... сена ты касі на паплавах, дровы вазі з лесу, а ў рэчцы для цябе вада і рыба...

Чаркас прынёс яму боты. Пастаяў, паслухаў і сказаў:

— А каб зрабіць так, каб дровы даставаць з рэчкі, а шчупакоў развесці ў лесе.

— Папробуй!

— Папробую.

— Ну, папробуй, ну!

— А я табе кажу, што нічога іначай не будзе. Калі з сена больш карысці, чым з шчупакоў — к чорту іх з рэчкі, адвесці ім кватэру дзе іначай, а ў рэчцы разводзь сена.

Міхал адкінуўся галавою к сцяне і пачаў рагатаць. Рагатаў ён доўга і задуменна, ківаўся ў бакі, успёршыся рукамі па дошкі. Пасля пашавяліў растапыранымі пальцамі і весела запытаў:

— Ну, а калі я цяпер, значыць, пайду... ну... да Агаты Уласавых. Я не пайду, бо ты скажаш, што не трэба хадзіць, што можна было так, а можна было гэтак, а мне не гады, а я стары... Ты ўсё пачнеш браць на свой розум — гэта павінна быць тут, а гэта там. А да ўчарашняга дня сена касілі на паплавах, а з учарашняга дня для сена адведзена і рэчка. Гэты вось кавалак для сена, гэты для шчупакоў, а гэты для дроў... Да Агаты павінен пайсці той, а для мяне гэтая вось печ. Усё вымерана, падгаблёвана, падскрэблена... А калі я зараз жа шалыгну з гэтае печы, а ты сабе вазьміся ў бокі ды парагачы: мне што! Тады што?

— Ды я ж для таго і кажу, што сягоння твой вучастак — печ, табе тут няёмка, дык я табе перамераў — хочаш ісці да Агаты — смалі! Мала сена з паплавоў — касі яго на вадзе, няхай яно і там расце, калі табе трэба.

— Для гэтага трэба вельмі быць мацаком.

— Будзь.

— А калі я ім не радзіўся?!

— Радзіся нанава. Няхай табе вочы на лоб вылазяць, а ты раджайся.

Міхал паціснуў плячыма. Чаркас глядзеў яму ў вочы і смяяўся ўсёю постаццю сваёю. Густа закашляў Міхал.

— А от ты кашляеш.

— Нічога. Гэта зусім не шкодзіць... Раз грудзі моцныя — чалавек здароў.

І зноў густа кашлянуў. Устаў, паправіў порткі і ўскінуў на плечы кажух.

Правёў ён усіх за вароты і застаўся стаяць на вуліцы — шырокі і цвёрды.

## VII

Аляксандар Махлак не вельмі любіць доўга гаварыць, любіць паслухаць, як хто гаворыць, любіць паўхмыляцца над чужою гаворкаю, а сам гаворыць паважна, тоўста расцягвае губы, калі ўхмыляецца, і ўсё ў яго павольна і густа, так, як нясе ён у царкве падсвечнік перад папом — паставіць і памацуе рукою, ці моцна стаіць. А калі пачне ён табе гаварыць аб тым, што бярозавыя дровы больш даюць цяпла за хваёвыя, то пачне ён гаворку так:

— Маючы двое коней, ды раней паснедаўшы, то ты, пане мой, можаш паўсажонка дроў прывезці за адзін

дзень. Коней ты лішне не паганяй, бо што за карысць, калі ты сцебанеш яго па хвасце, а ён ледзьве плішчыцьме сырую бярозу, конь гатоў знаравіцца, як бачыш, і канчана дзела.

Сягоння ён стаіць пасярод пакоя ў будынку местачковае школы і нешта думае, затуліўшы на грудзях новы кажух і злажыўшы рукі.

Да яго падыходзіць Міхал Макарэвіч — гэты можа гаварыць колькі хочаш, нават калі ніхто яго і не слухае; ён найбольш усё разважае нават сам з сабою. Ён з аднолькавую цікавасцю пагаворыць і аб дровах, і аб гурках, і аб дзяўчатах...

І вось ён падыходзіць да Аляксандра Махлака, моцна становіцца, і яны ўдвох так стаяць і маўчаць, наводшыбе ад усіх.

Сягоння тут усе — сабраліся і хутары, і мястэчка, і пасёлкаўцы. Зыгмусь Купрыяновіч сядзіць на лаўцы і курыць; Сёмка Чаркас бурна ходзіць з кутка ў куток, і з ім стараецца справіцца, каб поплеч хадзіць, Францішак Даніельскі і нешта ўсё яму стараецца расказаць. Можа, Чаркас і слухае, але відаць, што моцна заняты ён сваім нечым. Францішак Даніельскі напроці Чаркаса — буйная постаць, але выгляд мае ён нейкі ўдушлівы — шырокія плечы трохі сагнуты, прыгорблены — буйна і кругла, і відаць, ён утаміўся ад гэтага шпацыру. Чаркас — трудна разгаданая істота — цяпер, як ходзіць ён, здаецца, што зараз пойдзе, стане дзе-небудзь высока, ні на што не глядзячы, будзе бачыць усё і пасля пойдзе ўніз да чаго-небудзь прыгледзіцца і раптам пераставіць на другое месца, тады сама перад ім зменіцца ўстаноўка рэчаў. Калі ж ён сядзе пагаварыць з Аляксандрам Махлаком, тады нават адценні ўсяго гэтага прапалі ў яго. Тады гэтая постаць набывае адценні яснага дня, калі ідзе дождж перагонамі. Наставіўшы руды каўнер суконнага халата, Сёмка Чаркас ідзе дарогаю, мокры ад нядаўнага дажджу. Сонца свеціць на мокрую зямлю, пад нагамі вада, а ногі ў гразі — праз дзіравыя боты нацякло яе папалам з размоклай зямлёю. Халат цяжкі. Пад ім таксама мокра. І раптам дождж нейк гумарыстычна зноў пачынае палівацць чалавека, пасля зноў ясна робіцца. І вось, калі прыйдзе ён куды трэба яму, дык і стаіць на адным месцы, нагніся — з галавы халодная вада заколе ў спіну. І смешна, весела ад гэтага і непрыемна. Маючы такі выгляд, Чаркас смя-

ецца, гаворыць, пакеплівае. І раптам можа змяніцца, зусім іншы стане і трудна прыраўнаваць яго да ранейшага Чаркаса Сёмкі. Гэта не то што Міхал Макарэвіч — ён і смеючыся, і плачучы, і злуючы заўсёды адзін і той жа. Ён скажа: «Агата Уласавых добрая кабета» — і скрывіць губы ад нясмешнае ўсмешкі. Пасля скажа: «Уночы кагадзе падвярод у назе мучыў мяне так, што я не ведаў, дзе мне дзецца ад болю»,— скажа і памаўчыць. І ўвесь час вочы яго не пакінуць разважаць — «ліха яго ведае, ці гэта ў гэтай яме вада ад дажджоў застаецца, ці гэта яе заўсёды падліваюць сюды».

Аляксандар Махлак раптам пакідае стаяць напроці Міхала Макарэвіча, далучаецца на хаду да Чаркаса і Даніельскага і гаворыць:

— Чаркас!

— Чаго табе.

— Ну, а ты як?

— Што?

— Як, па-твойму, ці варта гэта рабіць? Што гэта яны выдумалі.

— Хто што выдумаў?!

Аляксандар застаўся на адным месцы. Прапусціў міма сябе два разы Чаркаса з Даніельскім, пасля зноў далучыўся да іх:

— Гэта згуба для вобчаства.

— Ты не згінеш.

— Я клапачуся аб вобчастве.

— Ну?!

— А што, не праўда, што згуба. Пашу тады адапхнуць, значыцца, за паплавы, а пасёлкаўцы за чужым клопатам забагацеюць.

— Каб ты так збяднеў, як яны з гэтага забагацеюць.

— Што ты пра мяне; мне што... усё мястэчка...

Падышоў Зыгмусь Купрыяновіч і сказаў:

— Яно праўда, што тут дзела аб вобчастве, але з каго ж тое вобчаства, як не з нас усіх.

Чаркас сказаў:

— Я жыў не буду, калі не зробім сягоння так, што кусты аддаць пасёлкаўцам, няхай раскарчоўваюць...

— Мястэчка без пашы застанецца!

— ... Поля ім мала, а пашы тут хоцiць...

— Раз яны аддзяліліся ад мястэчка, няхай як хочуць; кусты патрэбны, звязаць мятлу — пад бокам вецце...

— Дык гэта ўсяго для гэтага?
— Для вобчаства!
Купрыяновіч злосна крыкнуў:
— Тады ніякае абрэзкі не павінна быць, раз зямлю яны сабе раскарчуюць... Да чаго гэта падобна...
Даніельскі ціха сказаў:
— А ў нас некаторым зямлі не трэба?
Чаркас сказаў усё зараз:
— Кусты — пад пасёлкаўцаў, абрэзаную зямлю з хутароў — і пад хутары і пад пасёлкаўцаў. Норма павінна быць!
І тады падняўся крык. Аляксандар Махлак крычаў:
— Што ты арудуеш! Ты рамеснік! Тваё дзела — пашыць боты, грошы за работу ў кішэню і свішчы. Што ты, на зямлі калі сядзеў, ці што?
Нехта тонкім голасам памагаў яму:
— Не падацца, браткі, што гэта за работа! Куды ён улазіць, ці даўно сам у мяне на аджон картоплю сеяў!
Другі голас спрачаўся:
— Што ты гэтым хочаш сказаць, што ён у цябе на аджон картоплю сеяў, да чаго ты тут гэтую картоплю прыткнуў! Ён і яшчэ будзе сеяць, але можа і не ў цябе. Ты гавары пра дзела, калі маеш што сказаць...
Іншыя местачкоўцы крычалі:
— Усё правільна, раз у іх зямлі не хапае, ну то даць ім кусты, а рэшту з хутароў, добра кажа, абрэзаць...
— Абрэзаць і даць...
— Можаш абрэзаць у свайго каня хвост і даць каму хочаш. Што ты чужое рэзаць збіраешся...
— Як чужое, што я кустамі не карыстаюся!
— Дурны, калі не хочаш яшчэ карыстацца.
— У цябе лішне пытаць не будуць.
— Хто гэта не будзе?
— Той, хто не будзе!
— Ну?!
— Але!..
Нехта яшчэ стараўся растлумачыць:
— Няправільна... Калі Савецкая ўласць, значыць, гаворыць, каб гаспадарка ўверх ішла, то, калі, скажам, хутар Зыгмуся Купрыяновіча дае табе прыклад, як гэтую гаспадарку ўверх паднімаць, то тут табе ясна — абрэж ты яго — тады гаспадарка ўніз паедзе! Праўда ці не?
— Праўда, яй-богу праўда.

— Ідзі пашукай праўды ў Купрыяновічавых свірнах!
— У пустых свірнах не то што праўды, нічога не знойдзеш!
— А-а-а! Калі гэта ты паспеў ужо згледзець гэтак. Калі гэта ты?!
— Тады, калі ты вельмі такім разумным стаў.
— А ты і хацеў бы, каб усе былі дурні, а ты адзін над усімі быў разумны...
— Ну але, хацеў!
— А калі ў каго хлеба няма!.. Купрыяновіч будзе там паказваць у сваю кішэню, як там угору нейкі хутар вісці, а я буду глядзець ды падаваць голас — а-а-а, от жа лоўка ўгору хутар пайшоў... А сам хіба чупрыну буду ўгору падымаць?.. Добры інтэрас! Падай зямлю, тады я табе ўсё падніму...
— Ага, усё, значыць, паднімеш!
— Падніму!..
Міхал Макарэвіч стаяў усё на тым самым месцы, глядзеў, як Чаркас слухаў крык, глядзеў, як Аляксандар Махлак перад Чаркасавым тварам махаў рукамі. Так стаяў, пасля падышоў да ўсіх і сказаў:
— Крычаць, крычаць, а яно ўладзіцца як мае быць...
— Уладзіцца?
— Уладзіцца.
— А калі ты кустоў не захочаш аддаць?
— Я кустоў не шкадую.
— А чаго ты шкадуеш?
— Чаго я шкадую? Я нічога не шкадую. Няхай усякі, як найлепей...
— Усякаму не ўнаровіш.
— Каму не ўнаровіш, той сам падцягае, каб унаравілася, так яно і ідзецца.
— То чаго крычаць усе, калі і так усё ўладжваецца... Галава...
Міхал націснуўся да сцяны, уцягнуў галаву ў плечы і змоўчаў. Так прастаяў увесь сход, выказваўся, што кусты можна аддаць, а абрэзку — як хочуць, так няхай і робяць.
— Хто гэта хоча і робіць?
— Хто?! Усе... не я ж адзін.
Пасля стаяў каля стала, глядзеў, як пісалі пастанову, і заўважыў:
— Піша, падла, добра... лоўкі пісарчук.

— А чаму не пісар?

— Якія цяпер пісары... Ён-то дзела павядзе, але сам па сабе віду не мае. Што ж ён... Просты хлопец...

— А табе, канечне, каб ён крывы быў?

— На чорта ён крывы... Не пра гэта я гавару...

## VIII

Уночы плакаў лес. Падала вада ад мокрага снегу, і хвоі пахлі па ўсяму полю. Многа снегавое вады сцякло ў рэчку, і рэчка папаўнела і затапіла чорны і мяккі ад марозаў сітнік; плыла і плыла. Пахлі і мох, і зелле, і зямля была ў снегавой вадзе.

Такая была ноч.

Над зямлёю стаялі хмары, як жоўты і шэры дым; у адным месцы скрозь іх скардзіўся і смяяўся жоўты водным блеск,— месяц не мог прабіцца скрозь хмары. І ў тым месцы далёка відаць была зямля — роўнасць у ясным змроку; поле поўна было вялікае чуласці да цішыні і зыкаў.

І зямля плакала.

Плакала мохам і ядлаўцом і травою на каляінах пахучых дарог. Плакала і радасцю вострага паху свайго і ціхім сном зімовых птушак — прытаіліся яны ў куп'ях за ядлаўцом і аерам, і пер'е іх ад туману ў мяккай вільгаці; днём падніме птушка жаўтаватую дзюбу і клюне галоўку выпетраўшага зелля. Вецер абвее птушку зямною волян, і вялікая тонкасць гляне з прастораў — тонкасць дзяцей і птушак.

Цыбатая, жаўтадзюбая птушка засталася ад сваіх і не вылецела на зіму. Прыбілася да агароду і занудзела на пустых градах.

Хлапчукі крычалі:

— Трэба яе забіць!

— Нашто яе біць.

— А нашто, каб мучылася.

— А можа, з яе мяса ядуць.

— Худая, што з яе за карысць; мерзлая, хворая... Наедку з яе!..

Надзя злавіла яе і прынесла ў хату. Птушка прыбілася да сцяны пад тапчаном і стаяла ў вялікай роспачы. Ніхто яе не чапаў — не хацелі палохаць.

Уночы ў хаце чуць светла было ад месячных хмар.

Ціха спалі.

Птушка стаяла пасярод хаты, сонна жмурыла слабае вока і зазірала ў акно — плылі на дварэ месячныя хмары з чорнымі камякамі густаты свае. Акно зусім ясным было.

Птушка кінулася на яго і забілася крыллямі ў шыбу. Лапатала пер'ямі і закрычала.

Устала Надзя, зняла птушку з акна і паставіла на зямлю. Птушка зноў кінулася на акно. З крыкам зноў білася ў шыбы — угары плылі месячныя хмары, унізу снегавою вадою плакала зямля і гарэлі адценні яснасці.

Надзя забрала яе і вынесла ў сені. Там птушка стала крычаць.

Дзяўчына затуліла птушку хусткаю і панесла ў канец <вёскі,> — на размяклай гліне каля калодзезя яна паставіла яе на ногі, пагладзіла крыллі, прыпала губамі да мяккае галавы. Пусціла рукі, і яшчэ раз крыкнула птушка і кінулася ўцякаць. Доўгаю здалася і тонкаю і згінула недзе ў палях,— падлятала і бегла, падлятала і бегла.

І вось Надзя стаіць адна, абапершыся на калодзезь.

Дзе цяпер птушка, ці бяжыць яшчэ ўсё, падлятаючы, ці стаіць дзе, панурыўшыся?

Ноч глядзіць у вочы дзяўчыне.

І хто гэта ходзіць тут; такая высокая постаць.

Падышоў з палявое дарогі, заўважыў дзяўчыну каля калодзезя і павярнуў; блізка стаў — Чаркас.

— Гэта вы так позна па ваду прыйшлі?

— Не,— адказвае дзяўчына.

— То што вы тут робіце?

— Так...

— Чакаеце каго?

— Не.

І маўчаць.

— Каб вы цяпер ішлі дадому, я вас правёў бы.

— Цераз пяць хат і праводзіць?

— Ну то што, калі цераз пяць?

І зноў маўчаць.

— А дзе вы тут ходзіце ў такую пару?

— З хутароў іду дадому.

— Ну дык ідзеце, пакуль да мястэчка дайсці.

— Колькі тут тае дарогі... Унь бачу ліпу над крайняю хатаю...

— Ідзеце.
— Чаму вы хочаце, каб я ішоў?
— А чаго вам стаяць тут.
— Дадому ніколі не позна.
— А што вам жонка скажа?
— А што?!

І яны пайшлі разам у вуліцу. Каля хаты Чаркас падаў ёй руку і пайшоў. Надзя стаіць у двары і нічога не можа думаць — і птушка енчыць крыкам ці панурым маўчаннем у пустым полі; і Чаркас, моцны мужчына, нясмела глядзіць ёй у вочы; і ісці некуды хочацца, можа, гэта яшчэ пагаварыць з Чаркасам, і цішыня гэтая непрыемна палохае...

Дзяўчына стаіць адна, доўга.

Ясныя хмары плывуць, усё плывуць з чорнымі лапінамі. Вось пачынаюць яны плысці мацней, на зямлі пачынае варушыцца свет і змрок. Вострым халадком цягне з прастору, а блізкая сцяна лесу пачынае гусці. Сінія адценні з'яўляюцца на ўскудлачаным небе.

Недзе птушка ў роспачы глядзіць на хмары.

Дзяўчына выцірае слёзы... І мацней пачынае плакаць.

Цёмная постаць яе робіцца высокаю, і твар бялее. Чорныя фалды плацця кладуцца густатою вакол ног і калышуцца... як ноч у ранні час.

І яшчэ стаіць, і яшчэ плача.

Хто што скажа?

І хто будзе што гаварыць?

Гэта ў нас так называецца, так гавораць:

«От плача, ліха ведае чаго».

Ці многа чалавек гаворыць сваёю душою?!

## IX

У нядзелю вечарам на хутарах збіраецца капэла.

Прыадзеўшыся па-святочнаму, прыходзіць Францішак Данільскі, моцна дыхае ў вусы і ціска скрыпку пад левою пахаю. Прыходзіць другі скрыпач Смігельскі, флейтысты — Лазоўскі. Яшчэ з нейкаю дудкаю з'яўляецца бацька флейтыстага Лазоўскага — Лазоўскі Вінцэнты. Яшчэ з трубою зяць Зыгмуся Купрыяновіча — Шпаргальскі і швагер яго Мацюкевіч — з бубнам.

Дзяўчаты аб нечым гавораць; з імі і з музыкантамі — хлопцы.

Музыканты яшчэ не зусім скора заграюць. Даніельскі яшчэ гаворыць:

— Струна, значыць, ад'язджае; закрутка — не дай бог.

І трумкае пазногцем вялікага пальца па струне.

І дзяўчат і хлопцаў поўная хата. Местачковыя хлопцы падыходзяць да музыкантаў, і гаворка іх з Францішкам Даніельскім, дударом Лазоўскім Вінцэнтым глушыцца прарэзлівым крыкам флейты — Лазоўскі малодшы робіць пробу.

Смігельскі рыхтуецца да маршу:

— Цябе, Францішак, пусцім пад утур, Вінцэнты — трымай альта...

Між местачковымі хлопцамі і Францішкам Даніельскім і Вінцэнтым Лазоўскім адбываецца гаворка:

— Чаму ў вас, дзядзька Вінцэнт, дудка вільготная?

— Я ў яе перад вечарынкаю заўсёды кварту вады ўліваю.

— Нашто?

— Разасхлася... замачваю... Вільготная, дык яна тады званчэйшая.

Даніельскі падае голас:

— А от скрыпка, барані божа, завільгатнее — прапала. Скепсціцца голас, і кончана дзела. Яна ў мяне заўсёды вісіць у каморы на хатняй сцяне.

— А калі сырое надвор'е?

— Яна ў футарале.

Гаворыць Вінцэнты Лазоўскі:

— А дудка, я ж кажу, заўсёды вільготная — званчэйшая... Толькі фальшывіць — самае апошняе дзіркі ніяк не магу пальцам закрыць як мае быць... фальш...

— Чаму?

— Няправільная... Вельмі вялікая дзірка, дзеці раскалупалі...

— Нашто ж вы даеце дзецям струмант, каб яны калупалі?

— Яна ў мяне ляжала ў сенцах на бэльцы, а дзеці ўлетку звалаклі ды давай цацкацца. Пакуль я агледзеўся...

— А музыкант дапасавацца павінен,— гаворыць Даніельскі,— раз перайграў — вось табе і акзамінт, гатова, і ведам колькі прыціснуць і дзе хватаць...

Іграецца марш. Лазоўскі Вінцэнты дзьме ў дудку і паглядае на хлопцаў так, як бы хоча сказаць: «я ж гаварыў,

што фальшывіць і вельмі ж трудна музыканту. Бач, як я спраўляюся...»

Флейта Лазоўскага малодшага глушыць усё.

На дварэ цёмна і цёпла; растае мокры снег, і весела маўчаць сады. Пахне мокраю зямлёю і сенам, і яшчэ звоніць вада з вядра каля калодзезя... І вось з хаты, дзе граюць, выходзяць двое і стаяць.

— Пройдзем у гэты бок,— гаворыць хлопец.

— Толькі недалёка,— адказвае дзявочы голас,— мне холадна.

— Вам холадна?.. Вы зусім прыехалі ці яшчэ паедзеце?..

— Мусіць, зусім. Няма як цяпер з дому.

І яны ідуць па мокрай і цвёрдай дарозе. Чуць прасвечваюцца святлейшым за зямлю колерам камені, збоку мізэрныя астаткі снегу нейкаю жаўцізнаю вызначаюцца на зямлі.

— А я вас раней зусім не ведаў... як вы жылі яшчэ ў мястэчку.

— Я ж тры гады не жыла дома.

— Вы служылі дзе ў горадзе?

— Служыла.

— Дзе?

— За дамашнюю работніцу.

— А я адзін раз бачыў вас, першы раз; вы стаялі каля калодзезя, а я ішоў з мястэчка... і глядзеў на вас...

І яму яшчэ больш хочацца гаварыць; гаварыць аб тым, аб чым ён сягоння не гаварыў, сказаць тое, чаго не сказаў ёй. І от ён паварочвае галаву і глядзіць на яе збоку. І абое маўчаць.

— Хадзем назад,— гаворыць яна.

— Хадзем.

І зусім не тое адказаў, што хочацца яму сказаць, нічога не сказаў ён.

І от ён бярэ яе пад руку і так ідуць яны, не гаворачы ніводнага слова. Каля варот яна гаворыць.

— Дык гэта Купрыяновіч Зыгмусь ваш бацька?

— Мой бацька...

Ізноў маўчаць.

— Я змерзла.

— Так цёпла і вы змерзлі?

У хаце іграюць польку. Душна. Многа пар скача, і весела глядзіць на іх старшы музыкант Смігельскі. Васпа-

ваты твар яго напружаны ўсімі рысамі ад радасці музыкі, падуладнай яму, ён ведае, што доўга яшчэ пакуль давядзецца пакінуць іграць гэтую польку, і рукі яго ходзяць спакойна. У некаторых месцах ён падморгваннем падае знакі Мацюкевічу, і той рад — з вялікім захапленнем ён мацней б'е ў бубен. Смігельскі не пакідае падаваць знакі, Мацюкевіч пачынае глядзець яму ў вочы з запытаннем — не ведаю, што трэба. Раптоўная злосць у адзін момант крывіць набок васпаваты твар Смігельскага. Ён усхватвае руку з смыкам угору і растапырыў пальцы. Даніельскі скеміў, што нешта здарылася, і падмяніў старшага — раптам з утуру перайшоў на самую польку і глядзіць, калі старшы зноў пачне граць і зноў трэба будзе хваціць утурам. Дысцыпліна! Смігельскі крыкнуў Мацюкевічу, у рытм полькі са злосцю:

— Таль-леркаю накрый!

— Р-р-раз! — ухнуў Мацюкевіч і «накрыў талеркаю». Талерка ляснула і аддзяліла другую частку полькі. У цеснай хаце ляснула ўва ўсіх і ў вушах, але рытм паправіўся, і вось ужо захапленне пачалося полькаю.

Смігельскі нездаволены, ён зусім не грае і крычыць у самае вуха Мацюкевічу:

— Трэба было раней; няўжо ты не можаш дагадацца, заўсёды паскудства выйдзе, а не работа!..

Мацюкевіч цяпер найбольш налягае на талерку, і траскучы і пляскаты кароткі звон усё павялічвае адрывістасць такту. Па ходу полькі Смігельскі раптам здагадваецца, што Мацюкевіч бадай-што ў самы раз накрыў талеркаю барабан, і вось ён ужо грае. Францішак Даніельскі сачыў за кожным яго рухам, і як толькі ўпаў яго смык — перайшоў на ўтур.

І цяпер стаіць вышэй усіх галавою, прыгнуты трохі круглымі і слабымі плячыма сваімі, распусціў вусы — няма як падкруціць іх, рукі заняты — і кідае смык уніз і ўгару роўна і невысока. І глядзіць на ўсіх... Можа б, дзеравам, глухім і сухім, абзывалася яго скрыпка, каб чуваць яе было з-за прарэзлівага крыку флейты вёрткага Лазоўскага, можа, яна тады, каб пачуў хто яе, сказала б — «як сабе хочаш, можаш не слухаць, не слухай. Але я патрэбна ўдушліваму, вялікаму ростам, прыгнутаму Францішку Даніельскаму, што, закінуўшы худому каню на ноч сена, прыйшоў сюды з цеснае хаты свае. І цяпер забыўся і на гэтую хату, бачыўшую за свой век столькі думак

і слёз, забыўся і на надакучыўшыя з малых дзён клопаты — за што б гэта падкаваць каня, на ўсё забыўся, нават на слаўную і ціхую дзяўчынку — дачку сваю, што тут вось скача пад яго музыку... І стаіць ён тут вышэй усіх ростам, глядзіць на ўсіх у дзейнасці сваёй, і агні гараць у вачах яго. Гараць і не меркнуць. І так гарэлі яны многа раз, калі слухаў ён у местачковым касцёле, як пад пярэста размалёванай столлю, на хорах, на малой фісгармоніі арганісты выконваў грымучыя і вялікасныя кантаты. І тады мары ўзносілі яго на хоры. І вось ужо ён вырас большым за ўсё істотаю сваёю, і з-пад яго пальцаў льюцца слёзы і грыміць радасць. І раптам падаюць вялікасна і паволі, размалёваныя ў жоўтыя сланечнікі, тонкія дошкі, што закрываюць яго на хорах ад людскога натоўпу... І вось закалыхаліся самі касцёльныя хоры і няма ўжо іх, і няма касцёла. І зямля ачысціла прасторы ад гор і лясоў, каб не было ніякіх пялёнак для вока людскога, і свет напоўніў усё навокал прадстаўнікамі сваімі. Перад імі, на вялікай зямлі, грыміць вялікасць усіх вялікасцей музыкі — і гэта ж ён дзейнічае тут сіламі істоты свае, і творыць, і напаўняе!

Блізкі мой і родны! Як павяду цябе сягоння ў вялікія скляпенні людскіх сімфоній? Якія персімфансы пакажу табе? І ў які дзень суджана мне спаткацца з табою на ціхіх загонах узнятай табою раллі — у вострым і тонкім разуменні тваім — твае скрыпкі і вялікасных сімфоній?!»

Францішак Даніельскі ідзе позна дадому. Утомлены, але яму не хочацца ісці ў хату. І ён стаіць адзін уночы на змрочнай дарозе. І міма яго шмат праходзяць... Ідзе пасёлкаўская Надзя і з ёю сын Зыгмуся Купрыяновіча — праводзіць яе дадому. Даніельскі чуе іх гаворку:

— Калі мы яшчэ будзем бачыцца?

Яна нічога не гаворыць, мусіць, думае, ці трэба і ці варта ёй з ім бачыцца.

— Я не ведаю калі.

— Заўтра.

— Я не ведаю.

— Чаму?

— Не... не заўтра...

— Я прыйду заўтра.

Яна думае трохі, пасля гаворыць:

— Заўтра мяне не будзе дома, я пайду ў мястэчка плацце шыць.

— Дык я прыйду правяду вас.

Яна зноў думае.

— А я не ведаю, у які час выйду з дому.

Ён больш не набіваецца. Ён трохі злосны. Выфранчапы і акуратны, ён далікатна трымае яе пад руку і моцна размахвае левай рукою. Ад яго моцна пахне ружовым мылам.

І вось іх не відаць ужо; блізкі пасёлак патануў у ясным змроку, і толькі чарнеюць канавы ўздоўж дарогі. Местачковыя хлопцы, пакуль звернуць напрамік паплавамі, ідуць хутарскою дарогаю, і Даніельскі далучаецца да іх.

— Чаму гэта першы марш ямчэй выйшаў за апошні?

— Усякія прычыны... От і Вінцэнтага дудка высахла... А то ўтаміліся... Без прычыны нічога быць не можа, а прычыны могуць быць усякія.

— У тую нядзелю ў нас маецца быць спектакль, трэба будзе з Смігельскім пагаварыць...

— Не ведаю; калі не паедзем граць вяселле. Таксама наказвалі, яшчэ ў тую пятніцу...

Яны ціснуць руку Даніельскаму, яны трохі гумарыстычна настроены, моцна ўзбуджаны, але сёння не могуць нейк звычайна па-прыяцельску пакпіць з яго. Так ідуць паплавамі, а Даніельскі адзін зварочвае налева і мокраю сцежкаю ідзе дадому. Маленькі, раскіданы хутар яго чарнее сярод маўклівых палос раллі.

Дома ён гаворыць сваім:

— Зыгмусеў Ясь увесь вечар не адыходзіў ад Макарэвічавае Надзі з пасёлкаў. І цяпер праводзіць яе дадому.

Жонка падняла на ложку галаву, працерла заспаныя вочы і запытала:

— Адзін пайшоў з ёю?

— Адзін.

— І скакаў увесь час з ёю?

— Найбольш з ёю.

— А я яе нават і не бачыла яшчэ цяпер.

— Вельмі лоўкая дзяўчына.

— А як яна адзета была?

— У нейкае кароткае сіняе плацце... Прыйдзе зараз Юзэфа — раскажа.

— А дзе Юзэфа?

— Там яшчэ забавілася.

Юзэфа прыйшла ўслед за бацькам. Невялікая і зграбная. Слаўны твар цяпер здаваўся ўвасабленнем дзявочага хараства. Маці запытала:

— Ясь пайшоў з Макарэвічаваю Надзяю?

— Што вам за інтэрас, хто з кім ходзіць. Чаму вы не спіцё?! З кім хто ходзіць — гэта яго дзела.

— Як то яго!.. Я ж іх абаіх добра ведаю, што мне, не цікава, ці што.

І была нездаволена, што дачка нічога ёй не сказала. Такім чынам, у нас з заўтрашняга дня пачнецца гаворка, што Макарэвічава Надзя з пасёлка гуляе з Ясем Купрыяновічам. Доўга будуць гаварыць.

. . . . . . . . . . . . . . . .

У тую ноч, пад дзень, востры вецер абвеяў зямлю і замарозіў ваду. Зямля мерзла ўвесь наступны дзень і наступную ноч. Жытняя рунь на мерзлай раллі здалася раўнейшаю і густою. А перад трэцяю ноччу ўпаў сухі снег, і чорныя зараснікі пакалечанае быдлам крывое бярозы здаліся сінімі. Неба стала густым і панурым.

Уночы падыходзілі да хутарскіх хлявоў ваўкі. Пасля перайшлі да пасёлкаў, нічога не ўзялі і падаліся полем у бок местачковых прысад,— глыбокія сляды парушылі роўную бель.

Зімовыя птушкі аселі на хвоях.

Уночы скардзіцца заяц. Смяецца і плача.

# МІХАЛ МАКАРЭВІЧ

*(З рамана «Вецер і пыл»)*

Можна сказаць, з таго часу ў нас усе пачалі заўважаць, што Сёмка Чаркас вельмі часта з'яўляецца на пасёлку. Цяпер заўсёды сам пачаў прыносіць ён на пасёлак боты, каму б з пасялкоўцаў ён ні шыў ці ні правіў іх. Каваліха нават бачыла раз, што Чаркас позна ўночы нешта нёс пад пахаю да Макарэвіча Антося. Нешта гаматное, укручанае ў газету. І чамусьці ўсе паверылі, робячы ўсялякія здагадкі, хоць і ведалі, што не магла нічога гэтага бачыць каваліха, бо не было яшчэ такога здарэння, каб яна адна ўночы выходзіла на двор. Гэта ж ёй і заўважыў быў Ясь Зыгмуся Купрыяновіча, які якраз быў пры гэтай гаворцы:

— А хто больш гэта бачыў?

— Ніхто больш не бачыў.

— Вы толькі адны?

— Адна.

— Дык жа вы, цётка, адны ніколі ўночы на двары пе бываеце. Гэта ўсе ведаюць.

— А от можа і была якраз.

— Не можа гэтага быць.

— А от і можа.

— Усё роўна вам ніхто не паверыць.

Тут каваліха пачала зварочваць увагу сваіх слухачоў у другі бок:

— З замаладу я не баялася ўночы, пакуль раз мяне нешта не напалохала.

— І здорава вы перапалохаліся?

— Не дай божа нікому добраму. Ворагу свайму не пажадаю, не то што.

Яна пачала расказваць, як некалі нешта было яе перапалохала гэтак, што яна чуць не захварэла з перапалоху.

— А што гэта магло быць? — не ўнімаўся Купрыяновіч Ясь.

— А хто яго ведае, мусіць, ліхое нешта.

— Дык вы з тых часоў гэта баіцеся вечарам адны на двор выходзіць?

— Баюся. А што ж вы думаеце.

— А як жа вы, цётка, бачылі, што Чаркас нешта позна вечарам нёс да Антося Макарэвіча?

— А от і бачыла. А калі не я, дык людзі бачылі. Але бачылі. Папытайся ў каго хочаш, калі гэтакі цікавы.

— А што б гэта ён мог несці гэтакае?

— Што несці? А чорт яго ведае, можа які падарунак для Надзі. Тут ніякае гаворкі быць не можа, бо ўсім вядома, што ён да Надзі цягаецца. Ты, галубка, з гэтым не ўхаваешся, калі завяла распусту, дык не ўхаваешся. Ды яшчэ ў бацькаўскай хаце. Жартачкі! Пабыла некалькі год у горадзе, дык адразу набралася распусты. Жанатаму чалавеку дазваляе хадзіць, ды яшчэ вечарам. Гэта ўжо ўдалася гэтакая. Унь Даніельскага Юзэфа гэтаксама на старане ў людзях служыла, а потым, калі яна добрая ды сумленная, дык нічога гэта ёй і не пашкодзіла. Якая была, гэтакая і ёсць — чыстая, як анёлак.

— А я ведаю, што гэта Чаркас нёс да Макарэвіча.

Каваліха радасна ўстрапянулася:

— Ну, няўжо ведаеш?!

— Гэта ён Макарэвічу боты шыў ды прыносіў.

З нудным расчараваннем каваліха пастаралася не паверыць:

— Гэта ты толькі здагадваешся. Каб боты, дык ён мог бы іх і ўдзень прынесці. Дзеля гэтага чаго яму канешне вечарам цягнуцца.

— Можаце запытацца ў самога Макарэвіча або ў Чаркаса. Макарэвіч у новых ботах ходзіць. Але найлепш запытайцеся ў Чаркаса. Ідзеце ў мястэчка і запытайцеся. Таксама запытайцеся, чаго гэта ён так часта хадзіць пачаў сюды, калі Надзя прыехала.

— Чаго ты з мяне старое кепікі строіш! Што я табе, таварышка, ці што! Што ты на мне злосць спаганяеш! Я ведаю і пра цябе. Ты ж таксама да Макарэвіча стаў учашчаць, як Надзя прыехала. Ты ж жаніцца не думаеш, а так гэта. А тая, нябойсь, Чаркаса прыняла. Ты думаеш, я не ведаю, як яна цябе пратурыла к чортавай матары?! Я ведаю. Я ўсё ведаю. Ты ад мяне не ўхаваешся.

Гаворка гэтая адбывалася на хутарах у нядзелю. Былі

людзі пры гэтай гаворцы, і Ясь засаромеўся. І пачаў старацца перакруціць усё гэта ў жарт:

— Ды напэўна, што ад вас нішто нідзе не ўхаваецца. Чуеце і бачыце вы далёка.

— А што ж ты з мяне кепікі строіш, што ж ты! Калі я пачала гаварыць, што гэта распуста, дык хіба ж не! А пра цябе няпраўда, ці што! Чаго да Надзі падлазіў! Яна, можа, была б дзяўчына як дзяўчына, каб не гэтакія вісусы, як ты. Што ж ты з сваімі гэтымі смешкамі каля мяне старое пакручваешся, знайшоў таварышку!

— Вы яшчэ, цётка, у самай сіле, вам яшчэ можна, каб прыйшлося, нанава шлюб браць. Чаму мне каля вас не пакруціцца.

— Ах ты, шляхцюк ты глянсаваны!

Тут ужо Купрыяновічаў Ясь не мог цягнуць далей жартаў:

— Чаго вы языком трэплеце? Што вам за інтэрас пра каго, глядзелі б сябе. За сабою дык вы нічога не бачыце!

Каваліха нарабіла лямanту, у вялікай сваёй крыўдзе выводзячы на чыстую ваду ўсе Ясевы захады каля Макарэвічавае Надзі, якія яна магла толькі прыдумаць.

Але Ясь не чуў іх. Ён плюнуў і пайшоў. Тады каваліха радасна заўважыла, што праўда заўсёды вочы рэжа. І пасля гэтага пачала гаварыць з хутарскімі кабетамі пра фальбону ў святочнай спадніцы Макарэвічавае Надзі.

Зусім інакшай успрыняў усю гэтую плынь чутак і здагадак Міхал Макарэвіч. Гаворка адбывалася адлежным адвячоркам у нядзелю на пасёлкаўскай вуліцы. Нас было там чалавек з восем. Міхал Макарэвіч стаяў у сваіх адмысловых ботах, шырока растапырыўшы ногі. Трымаў пальцы ў рукавах вышмарганага і пакарабачанага кажушка і гаварыў:

— Гэта гадоў таму мо з шэсць ужо, як я гэты кажушок быў спляжыў. Ды, прызнацца, значыць, у дух палажыў адразу. От яго і скруціла. Дык цяпер у ім ты нікуды ў людзі, значыць, не выйдзеш, а так на плечы ўскінуць.

Нехта з гурту запытаўся:

— А боты?

Боты былі з вострымі наскамі, нізенькімі і шырокімі халявамі. А халява скрозь у фалдах, як кавальскі мех, у гармонію. Усе як і запамяталі, дык Міхал усё насіў іх, мо ужо гадоў з трыццаць. Сёмка Чаркас нават жартаваў быў раз, што Міхал у гэтых самых ботах шлюб браў. Але гэта

і сышло за жарт, бо ўсякі чуў, што Міхал Макарэвіч ажаніўся вельмі маладым. І мусіць памятаў гэты Чаркасаў жарт Міхал, бо пастараўся не даць гаворцы пра боты:

— Ат, чорт іх.

І пачаў гаварыць зусім пра іншае:

— Сказаць, пашыць цяпер новыя спрэс боты, дык утрайне як раней было. Ці гэта грошы цяпер таннейшыя, ці гэта тавар дарог стаў...

Пасля, з паўхвіліны памаўчаўшы:

— Яно-то шыюць, ні глядзяць ні вока ні бока. Каторы чалавек у гадах, сям'ю мае, дык той — то прышвы, то надтачкі, а маладыя дык францяць усе ў новых ботах. Маладыя цяпер строяцца! Модаў гэтых сабе навыдумлялі, то добра кажа, гэтае галіфэ, то... францяць! Інакшы век, ого! Даўней гэта, памятаю, хадзілі мы ў гэтыя самыя, значыць, Цацераўцы на вечарынкі...

— Вы, дзядзька, мусіць некалі на вечарынках вельмі вялікі зух былі?

— Пачакай ты, дай ты мне, значыць, гэтае...

— Но, але, дай ты сказаць.

— ...Дык прыходзім раз на вечарынку, музыка рэжа!..

— А якая была музыка?

— От была нейкая... Дык музыка рэжа, а тут адзін марцовы кавалер выскачыў наперад, дзеўку за руку, ды калі прайшоў з ёю польку. А сам босы і ў белым зрэб'і ўвесь. Порткі на адным гузіку трымаюцца, ніякіх зашпілек, нават, значыць, больш і няма. Дык ён, небарак гэты, прарэх свой набок адразу і ссунуў, каб, барані божа, значыць, не раз'ехаўся пры гэтых скоках... А цяпер што, цяпер на маладых аж міла паглядзець...

— Вы, мусіць, дзядзька, самі і цяпер маладым сябе пачуваеце.

— Ат... Яно, значыць, гэтак. Я ж кажу, з чалавекам тут гэта... Калі чалавек яшчэ мацуецца трохі, дык яно, значыць, і гэтае... і сілу, значыць, чуе. Гэтак з усякім, не адно са мною. А маладыя, вядома, яшчэ жывейшыя. Унь Чаркас гэты самы, Сёмка. Якое дзіва, што ён на Надзю Антосеву прыглядзеўся, значыць, гэта не дзіва. Жывы чалавек! А жываму чалавеку патрэбна навіна заўсёды. Вы думаеце, што гэта чалавек можа, значыць, прывыкнуць да чаго, дык і забыцца на ўсё, што больш ёсць на свеце? Чалавек — гэта тхлапь. Гэта як калі што падшыбе чалавеку. Унь Чаркас Сёмка...

Тут Міхал цмокнуў языком і страсянуў галавою:

— ...дык ён і сам, значыць, не ведае добра, чаго яму трэба. От ён мае, значыць, жонку і дзяцей, а да дзяўчыны от прыгледзеўся, прыгледзеўся і цяпер сам з сабою нічога зрабіць не можа. Ну то што ён тут табе вінават; гэта не то што іншы кажа — тое, значыць, ды гэтае. Тут, я ж кажу, чалавек, значыць, сам над сабою не гаспадар.

У нас ніколі не зводзяцца кепікі. Нехта заўважыў:

— Вам, дзядзька, відней, вы самі практык.

— Нашто тут практык. Раз чалавек здароў, дык ён табе, значыць, ніколі не будзе спаць у шапку, ці як тут, значыць, сказаць.

— Як гэта вы, дзядзька, жывеце халасцяком?

— А яно, сказаць, усяго, значыць, бывае з жывым чалавекам. От, пахаваў тагды, некалі, жонку, а цяпер гэта падвярод у назе... Ці як тут вам выказаць... От жыву...

Гаворыць ён ціха, зківамі і моргамі, кожную хвіліну зменьвае выразы твару, варушыць пальцамі, пачухвае імі локці і лоб. Ён доўга можа так гаварыць, а пасля пайсці дадому, дадумацца да чаго-небудзь і ўпарта трымацца свайго. Тады яго ніхто не перайначыць, пакуль само гэта ў яго не пройдзе, так, як і прыйшло.

— Вы да Агаты Уласавых яшчэ ходзіце?

— Яно тут можна, значыць, сказаць, што жывому чалавеку...

І раптам перарваў сам сябе:

— Што ты мяне спавядаеш?

— Не, я не спавядаю.

— Не спавядаеш? Як жа не!

І пачухаўшы локці:

— Чаркас баявы хлопец. Ого!

# МЕСТАЧКОЎЦЫ

*(З рамана «Вецер і пыл»)*

Адлежным днём Аляксандар Махлак абходзіў хутары і пасёлак — запісваў, хто веруе ў бога. Па хутарах хадзіў ён трохі шпарчэй, бо рупіла яму, што хутар ад хутара далёка, абысці ўсіх трэба. А як прыйшоў на пасёлак, дык тут ужо стаў сам сабою. Уваходзіў у хату і заклапочана кракатаў:

— А-а, якая ж слізговіца на дарозе. Дзяндобры ў хату!

— Дабрыдзень.

— От тым часам неўзабаве і вечар.

— Але, колькі цяпер таго дня.

— І саміх жа трэба, мусіць, запісаць?

— Куды гэта?

— А от парахвіян запісваю, хто веруе.

І, не чакаючы адказу, слініў цвёрды аловак, куплены за тры капейкі нейкім чынам яшчэ перад вайною, і пісаў буйнымі літарамі. А калі ў каторай хаце былі маладыя, або нават і малыя хлопцы, дык ён тутака абмяркоўваў з усіх бакоў. А пасля, як шчыры прыяцель, часамі гаварыў:

— А цябе, браце, дык я запісваць не буду. Тым часам, хто цябе ведае, можа ты куды на службу на якую падавацца захочаш, або што, дык табе лепей не ўпісвацца. Бо цяпер гэтакае права, што пры Савецкай, значыцца, уладзе на цябе могуць вока не мець. Будзь ты, браце, хіба так ужо, а ўрэшце як сам ведаеш. Табе самому відаць лепш. Магу і ўпісаць, як сабе хочаш. Сілком я нікога не ўпісваю.

Ветлівыя гаспадыні і гаспадары прасілі яго пасядзець крыху, але ён нідзе не садзіўся:

— Дзе вы бачылі, калі тут сядзець. Трэба скончыць, ды пакуль я яшчэ дадому дабяруся гэтакаю слізговіцаю. А, от бо дарогу вырабіла — на нагах не адзержацца.

І ён доўга стаяў пасярод хаты, гаворачы пра дарогу, пра ўсялякія местачковыя навіны, пра дровы, пра сала, пра коні... Абціраў даўно не мытаю насаткаю вусы і пагладжваў адным пальцам няголены твар, на якім пруткае шчацінне рудым аксамітам рунела не на жарты. Відаць, ён упарта задумаў загадаваць бараду.

У хаце Міхала Макарэвіча ён усё ж прысеў на зэдліку каля стала, бо Міхал загаварыў з ім пра царкоўныя справы:

— Чаму гэта пеўчыя ў царкве нікуды не варты? Спяваюць, значыцца, дык нешта не выходзіць у іх.

— Не налаўчыліся!

— Не ведаю. Я на прачыстую быў зайшоў нейк, дык не ўпадабаў. Бывала, яшчэ за тым дзяком, дык лепш спявалі.

— Э-э, калі тая прачыстая была, ад прачыстае ўжо з паўгода прайшло. Цяпер — куды, іначай...

— Бывала, з замаладу дык і я на крыласе спяваў.

— Якое з замаладу, калі нядаўна гэта было.

— Я, бывала, мог за дзяка ўсю адправу зрабіць як мае быць. Усё ад пачатку да канца.

— А чаму цяпер не... не гэтае...

Тут Махлак наморшчыў лоб і паставіў праўцом вочы, не ведаючы «ты» ці «вы» сказаць Міхалу. Міхал на гадоў пятнаццаць, калі не на дваццаць, за яго старэйшы. Нарэшце ўсё ж сказаў «вы» — гэтак было заўсёды, усё жыццё, пры кожнай гаворцы.

— А чаму цяпер гады ў рады ў царкве бываеце?

— Бываю, чаму не. Але каб часта — дык далекавата, значыцца. Маладыя хлопцы дык яны гэта з дзяўчатамі ідуць, гуляюць па цвінтары...

— Хлопцы мала цяпер ходзяць.

— Ходзяць; на абедню ходзяць, у нядзелю.

— Можна сказаць зусім не ходзяць.

— А от і нашы ў нядзелю хадзілі.

— Ну-ну...

Міхал задумаўся. Упёрся локцямі зложаных рук у калені,— гэтак сагнуўшыся пасядзеў трохі, паглядзеў у зямлю. І ясная ўсмешка, ціхая і раптоўная — нават не ўсмешка, а прасвятленне ўсіх рысаў твару — сагнала з яго задуменасць.

— Каму як прыходзіцца ці здаецца, дык той гэтак і робіць сабе. Той у царкву, а той сюды, а той туды. Распі-

хаецца народ сюды-туды. Чалавек як малод, дык, я заўсёды кажу, патрабуе сабе волі — не трымай ты яго. Што за карысць, што ты яго будзеш трымаць, усё роўна не ўтрымаеш. А ўтрымаеш, дык ён табе пакутаваць будзе. Гэтак і ўсякі. От Чаркас — гэты дык маладзец.

— Чаму ён маладзец?

Махлак павольна здзівіўся.

— Чаркас жыве. Ён мае ў сабе гэтае... па-свойму ўсё робіць. Ён табе гібець не будзе, калі дзе давядзецца да чаго. Разумны хлопец, падла.

— Які ён там разумны... Жэўжык... Ён не пакінуў яшчэ да гэтае Надзі ўчашчаць? Што гэта за дзяўчына, чаму яна яго не высмее калі?

— Можа яна і строіць з яго смешкі. Маладая дзяўчына, што ёй.

— От як пойдзе замуж, дык тады Антосю хоць жаніся. А яна павінна зараз пайсці замуж. Іга! Абы адно ішла, дык ахвотнікаў знойдзецца — гэтакая дзяўчына.

— Добрая дзяўчына.

— Хіба каб пасватаў каго Антосю. Ён чалавек ціхмяны, дык сам пакуль надумаецца. Чым для яго кепская будзе Агата Уласавых. Яна і па гадох да яго падыходзіць.

— Агата Уласавых?

— А чаму не.

— Агата, значыцца, кажаш. А можа яна за яго не пойдзе — жывы чалавек сам распараджэнне мае.

— Чаму ёй за яго не пайсці.

— Ты ў яе пытаў?

Махлак падазрона паглядзеў на Міхала, дык Міхал, заўважыўшы гэта, паправіўся:

— А можа, і пойдзе, яна сама сабе гаспадар. От мы ўзгаварыліся, пра каго і пра што, значыцца, пра якую справу — хто яго ведае. Як бы гэта ўсё і робіцца, як мы выгаварым. Гаворым, гаворым...

Міхал стаў гаварыць цішэй, гэтак, як заўсёды разважае сам з сабою. Махлак падняўся з зэдліка; адзнака нейкае новае думкі вясёлым следам лягла на твар яго. Павольна ён падаў руку Міхалу і падаўся з хаты, прыціснуўшы пад пахаю цвёрдую вокладку, у якой ляжаў спіс хутаранцаў і пасёлкаўцаў, што вераць у бога. Ён абышоў усе пасёлкаўскія хаты і затрымаўся ў Антося Макарэвіча. Надзі не было ў хаце. Антось апрануўся даглядаць папач жывёлу. Махлак, аглядаючыся па хаце, рабіў свае заўвагі:

— Цяпер-то яшчэ сюды-туды, а як прыйдзе вясна ды лета, дык тады Надзя-небарака ўжыве клопату. Цяжка будзе.

Антось Макарэвіч уздыхнуў:

— Хіба каб ты сабе гаспадыню якую знайшоў.

Думка пагаварыць з Антосем Макарэвічам пра Агату Уласавых, з'явіўшыся неспадзявана ў хаце Міхала Макарэвіча, не давала яму спакою. З ім гэта часта робіцца: што-небудзь раптам узбрыдзе яму на памяць, дык ён, сам не ведаючы дзеля чаго, гатоў не даспаць і не даесці, абы ўмяшацца куды-небудзь або выявіць сваю павольную клапатлівасць. А пасля ўсё гэта прападзе і назаўсёды забудзецца, таксама раптоўна, як і прыйшло. І не залежна ад таго: выявілася яго клапатлівасць ці не.

— Агата Уласавых — залатая кабеціна.

Пасля, з паўхвіліны счакаўшы:

— Што бо я гавару, яна яшчэ дзяўчына.

І твар яго трохі надзьмуўся і пакруглеў ад захаванае ўсмешкі. Барада трохі заварушылася, а губы адтапырыліся. І падабенства нейкае ў яго з'явілася да растапыранага мяшка, у які сыплюць ражкаю збожжа. Антось маўкліва паціснуў адным плячом, падаўся назад галавою і невыразна абазваўся:

— Ну...

— Табе, браце Антось, узяць яе варта, што тут доўга глядзець. Гаспадыня і рабочыя рукі ў хаце патрэбны. Гаспадарка, можна сказаць, нанава заводзіцца, пакуль забудуешся як мае быць, пакуль сёе, пакуль тое... Яна за цябе пойдзе, думаеш, не?

— Можа яно і гэтак,— адказаў слабавольны і ціхмяны Антось, чакаючы, каб Махлак хутчэй пайшоў з хаты.

Змяркалася, калі Махлак рушыў з пасёлка дадому ў мястэчка. Антось Макарэвіч абдумваў яго словы, носячы з-пад студні ваду.Наліваючы вёдры, бачыў, як Махлак перакідаўся далёка на змрочнай дарозе з нагі на нагу, як качка. І ўсё думаў Антось — ці добра гэта будзе, ці кепска, калі возьме ён замуж Агату. «Можа, з кім парадзіцца... але не, што я, сам не бачу, ці што. На чорта мне на Надзіны рукі ўсё ўзвальваць, яна маладая дзяўчына. А Агата і малых дагледзіць — і абшые, і абмые, і парадак не той у хаце пойдзе. Сталая гаспадыня будзе, зусім іначай пойдзе ўсё. Гэтыя небаракі малыя — ім догляд патрэ-

бен. Агата павінна пайсці за мяне. Гаспадарка зараз стане на ногі, хата ў мяне новая, будынкі забудую».

І пакуль управіўся, увесь патануў у думках аб гэтым. Агата стала яму здавацца якраз патрэбнаю і яму і ў хаце. Лепшае дзеля яго нідзе і няма. Недзе яшчэ ў глыбіні істоты няпэўнасць тачыла яго — «як, калі прыйдзецца, яна будзе з дзецьмі, ці добра ўсё гэта будзе»,— але іншыя думкі навалаю ўздымаліся ў ім. Зачыняючы весніцы, ён бачыў, як дзядзька Міхал Макарэвіч паклыбаў туды, у хату да Агаты Уласавых, і панура сказаў сабе пад нос:

— Чаго яшчэ стары гэты валачыцца пачаў!

Гаспадарчая руплівасць найшла на яго. Мацнейшым адчуў ён сябе. Як бы гэта ўжо Агата была яго жонкаю. Ён папрабаваў, як трымаюцца на новых круках дзверы ў хляве, увагнаў у іх, дзе яму здалося трэба было, цвіка, паслухаў, як карова забірае ў губы трасянку. Паглядзеў на не абгароджаны яшчэ агарод, патупаў у сенцах. У хаце, пасля вячэры, звязаў у мятлу нарэзанае некаторага дню вецце, а як лёг спаць, доўга не мог заснуць... Надзя позна засядзелася ў таварышак, малыя даўно спалі, а ён адзін варочаўся і ахкаў на палку каля печы.

Заклапочанасць не пакідала яго ўсе наступныя дні. Ён усё панура думаў, мала з кім гаварыў, пачаў разважаць сам з сабою. Быў увесь час вельмі руплівым. Надзі нічога пра ўсё гэта не гаварыў.

Назаўтра, каля паўдня, нейк гаспадарлівы і сталы, пайшоў Антось Макарэвіч да Агаты Уласавых. Агата — кабеціна, ці як казаў Аляксандар Махлак, дзяўчына — гаваркая і працавітая — таўклася нешта ў сенцах каля жарон, абтоўкала сушаны авёс таўкачом у ступе.

— Ці не на кісель малоць будзеце? — сказаў Антось Макарэвіч, стараючыся напусціць у меру на сябе жартаўлівага выгляду.

— На кісель. Не дагледзілі ды перасушылі авёс.

— Дзяндобры хаця вам.

І першы раз на жыцці сваім падаў ёй руку. І гэта яе трохі збянтэжыла, яна адчула, што не да брата гэта, пры якім яна жыла, прыйшоў гэты сусед, а да яе, мусіць, мае нейкую справу. Але якую? Яна павальней стала заходжацца каля свае работы, слухаючы Антосеву гаворку, зрэдку адказваючы яму, ці памагаючы гаварыць. Пасля яна скончыла сваю работу, выцерла хвартухом рукі; пастаяла, пагаварыла. Бачачы, што Антось не ідзе ў хату,

а стаіць усё пасярод сянец, пачала выціраць у жорнах белаю ад мукі анучкаю.

— Таўкатня ўсё,— гаварыў Антось, трымаючы рукі ў кішэнях кароткае свае вопраткі.

— Але ж.

— О гэтак і таўчэшся чалавек...

І падумаў: трэба як-небудзь успомніць ёй, як яна жыве ў брата — за служанку нейкую. Не даспіць, не даесць, яшчэ і накрычыць брат-гаспадар; ведама — старая незамужняя сястра ў хаце. Успомніць ён, як набіў яе раз брат... Але як загаварыць пра гэта? А патрэбна было б, лягчэй тады згаварыцца з ёю будзе.

Неўзаметку нейк гаворка пачала хіліцца ў другі бок. Пагаварылася трохі пра здароўе братавае хваравітае жонкі, пра Надзю, яшчэ пра нешта пэўнае ў думках, але невыразнае ў словах, пра што думаюць, гаворачы пра іншае — ува ўсякага яно сваё, акрэсленае, вядомае і не вядомае для ўсіх.

— ...Няма чаго наракаць, гэты год зіма цёплая,— сказаў, а сам падумаў, гледзячы на Агату: «гэтую мультановую спадніцу гадоў трыццаць яна ўжо мае; раней насіла па святах, а цяпер пры рабоце даношвае».

— Яшчэ будзе ўсяго, яшчэ ж і да паловы зіма не дайшла,— адказала яна і падумала: «малады ён быў калісьці шустры, а гэта якім ціхмяным зрабіўся... А можа, гэта ён да брата прыйшоў чаго, але так сабе прыпыніўся ў сенцах пагаварыць».

Пасля гаворка яшчэ пераскочыла праз некалькі парогаў:

— ...Каб ціха і спакойна на свеце было, каб без вайны абышлося, дык людзі і жылі б сабе, усталёўваліся, і падумаў: «яна вялікая і тоўстая, вельмі ж здаровая... І як гэта яна дагэтуль замуж не пайшла?»

— Усе гавораць, што вайна будзе,— адказала яна і падумала: «гэтую сваю заячую шапку ён, мусіць, ужо гадоў з восем носіць».

— Жылі б людзі сабе паціху. Колькі чаго чалавеку трэба. Я ж кажу, каб было спакойна на свеце, дык... А то калі заваруха якая заварыцца зноў, дык гатовы апошнюю картоплю з пограба забраць. Калі вайна, дык ні на каго не глядзяць. Бачылі, дзякуй богу, і войнаў, як той казаў, і ўсяго. Што ты парадзіш тагды...

Яшчэ ён гаварыў, Агата памагла яму быць гэтакім мяккім, як трава, пасля ёй стала нуднавата ад гэтакае гаворкі, трэба было ёй аканчыць хутчэй упраўляцца з работаю.

— Абы ў хаце парадак быў, ды кавалак хлеба, ды каб спакойна. Колькі чалавеку трэба...

— Заходзьце ў хату, пасядзеце трохі ў нас.

— А ў хаце ёсць хто?

— Дома ўсе.

Падумаў: «якая ж слаўная яна; разбітная, працавітая...» І ад гэтага пачуццё як бы зайздрасці да некага з'явілася ў яго. «А чаго ж ісці ў хату?» — падумаў і пайшоў.

Там ён пасядзеў з гадзіну. Агата разоў са тры ўваходзіла ў хату, тупалі яны цяпер удзвюх з брацiхаю. Антось выйшоў з хаты больш гаваркі, як прыйшоў сюды. Справа выразнае гаворкі з Агатаю адапхнулася трохі надалей — не канешне ж усё адразу рабіць. Пражылося яно не спяшаючы гэтулькі часу на свеце, дык пад старасць — куды імчацца не раздумаўшыся?

Агата стаяла на двары, вялікая, нязграбная, здаровая. Антось скланіўся ёй:

— Бывайце здаровы.

Твар у яе быў расчырванелы ў рабоце, з ледзьве прыкметнымі засцiламі палавога колеру — як бы гэта яна стаяла каля печы, у якой зырка гарэць дровы і пякуцца аладкі. Антось падумаў: «завезці ў млын пуд ці два ячменю змалоць на блінцы... Калі настроіць добра жорны, дык жарнавыя блінцы смачнейшыя за млынавыя... З Агатаю яшчэ нагаварыцца будзе час». І сказаў сам сабе, як пераходзіў упоперак вуліцу:

— У Амерыку яна не ўцякае.

Хацелася яму нейкае волі. Адлежны вецер узнімаў у ім пачуццё свежасці, прастору. Цягнула моцна праехаць або шпарка прайсці ў полі па снезе. Усё гэта было невыразным, не моцным — у маладосці, калісьці, яно панавала ў чалавека. Душна стала, як толькі ўвайшоў у хату. Змяркалася. Сказаў да Надзі:

— Можа, табе вады нанасіць?

Ніхто не адказаў. І толькі цяпер заўважыў, што Надзі няма ў хаце. Тады падышоў да сына:

— Адзін сядзіш?.. А дзе Надзя?

— Некуды пайшла.

— Даўно?

— Я і сам добра не бачыў.

Тады бацька падумаў: «чые дзеці вучацца, а гэта сядзіць у хаце, не маючы ў што апрануцца і абуцца». Нешта вострае вельмі выразна пяканула яму па сэрцы. Ён адышоўся, шэпчучы:

— Божа мой, божа. Небарак хлопец.

Пасля сам сябе заспакоіў:

— Нічога, як-небудзь! Налета паправімся, яшчэ навучыцца, колькі яму трэба будзе... А можа і не, хто яго ведае.

Смутак пачаў душыць яго.

У сенцах падняў ён з зямлі мяшок ад збожжа, каб не валяўся, палажыў на паліцу над дзвярыма. «Упраўляцца нанач трэба». Выпусціў з хлява каня і пайшоў за ім пад студню. І ўсё было ўсюды пераблытана, не ўстаноўлена, невыразна. І пачуццё прагі да жыцця, да аднаўлення, і тупая, прыглушаная боль і трывога, і жаданні, і надзеі поўнілі яго і не маглі парушыць яго ціхасці.

---

Міхал Макарэвіч у хату да Агаты Уласавых прыходзіў цяпер часта. Да яго ўсе там прывыклі; нікога гэта ўжо не здзіўляла — людзі калі прывыкнуць да чаго, дык тое, што раней здаецца нават глупствам, робіцца патрэбным і разумным. Спачатку пакеплівалі з Міхала, паджартоўвалі з Агаты. Пасля, калі як мае быць пайшлі чуткі, што Міхал намерыў ажаніцца, Агацін брат і ўся сям'я яго толькі ціхом думалі пра гэта, хоць сам Міхал ніводнага слова нікому выразна пра гэта не сказаў. А пасля ўжо — да Міхала пачалі патроху прывыкаць у хаце. Аляксандар Махлак пусціў быў пагаласку, што Антосю Макарэвічу інакш не выпадае, як узяць замуж Агату. Дык тады — і на пасёлку, і ў мястэчку, і на хутарох пайшла аж спрэчка. Адзін даводзіў, што Агата павінна пайсці за Антося, другому здавалася, што няможна інакш, як пайсці ёй за Міхала.

Пасля Антося Макарэвіча Міхал Макарэвіч прыйшоў да Агаты назаўтра. Ён як і заўсёды гаварыў пра ўсё, пра што толькі можна гаварыць. Робячы хатнюю работу, яго слухалі і памагалі яму. Агацін брат нешта гаварыў. Міхал не даслухаў яго ды пайшоў да Агаты і паціху сказаў ёй выйсці з ім у сенцы. Сам не пайшоў з ёю разам, а даслухаў, што гаварылі, сказаў сам нешта яшчэ і падаўся

ў сенцы. Агата чакала яго каля адчыненых на двор дзвярэй. Ён раптам нейк сказаў Агаце. Вельмі мала пагаварыў пра тое, што ўсялякі чалавек стараецца жыць на свеце як яму найлепш, усякі ўсё наровіць, каб усё было добра, бо калі чалавек жывы, дык яму жыць трэба і ўсё чалавеку патрэбна. І сказаў:

— Ці пойдзеш ты за мяне замуж?

Твар Агаты нібыта акамянеў. Ніводная рыса гэтага спрацаванага, агрубелага ад нягодаў жыцця твару не зварухнулася. Толькі губы шапнулі нешта. Яна вельмі спакойна і холадна паглядзела паверх суседняе страхі і, не гледзячы на яго, адказала:

— Я і сама не ведаю.

— А хто ведае?

Яна не ведала, што гаварыць.

— Будзем жыць. Я, можна сказаць, нікому не здрастую. Прарэжу ў каморы большае акно, пераімшу сцяну, зробім варыстую печ, і ўсё, значыцца, будзе як мае быць.

— А жыць з чаго?

— Будзем рабіць і будзем жыць.

— А на чым рабіць?

— На зямлі рабіць, на чым жа!

— А дзе такая зямля?

— Дзе зямля? Зямля, значыцца, будзе.

— Адкуль жа яна будзе?

— Адкуль будзе? Адрэжуць, чорт іх не возьме, адрэжуць. А калі што якое, дык і з хаты свае не хворыя даць.

Агата ўздыхнула і зноў паглядзела на той бок суседняе страхі. Міхал стаяў пасярод сянец, у расшпіленым сваім злубянелым кажушку, залажыўшы рукі ў кішэні, як малады хлопец. У хаце пра ўсё здагадаліся, пра ўсё ўжо ведалі, і ніхто не адчыніў нават дзвярэй у хату, каб не перашкодзіць таму, што адбывалася ў сенцах.

Міхал пачаў гаварыць пра тое, як яму здавалася, заўсёды трэба выказваць людзям:

— ...Вядома, што жывучы, усякае, значыцца, можа быць чалавеку. Што ж, я не малады, можна сказаць, але ж я і не стары. Не, я не стары! Які ж я стары. А пакуль чалавек жыве, дык яму жыць трэба. Будзем жыць, чаго тут лішне раздумваць, жывое нішто ніколі не прападзе, не то што чалавек. Чалавек табе, значыцца, ніколі, можна сказаць, не будзе абы-як. Ён табе будзе варушыцца, корпацца... Праўда, ёсьцека ўсялякія людзі, але ж я, кажу,

жывы чалавек павінен зрабіць сабе, як ён хоча, каб было яму.

Агата больш нічога не сказала. Яна доўга глядзела ўсё некуды, не зводзячы адтуль вачэй, аж пакуль Міхал гаварыў. А пасля Міхал павярнуўся на сваіх растапыраных нагах, нязграбна падступіў праваю нагою да Агаты і падаў ёй руку:

— Ну то як жа будзе?

— Хіба яшчэ з братам пагавару.

— Што там гаварыць з братам. Усякі чалавек павінен, значыцца, мець свой розум. Ты ж сама сабе гаспадар, гэтаксама, як і я. От бо не люблю гэтых, значыцца, гаворак,— а чаму, а што, а як; а ці добра будзе, а ці не кепска будзе... Калі ты мне да чаго намерыўся, дык рабі і не пытайся лішне ні ў кога. Жывы чалавек павінен сам усё... Рабі і не думай доўга. Калі што зрабіў, дык назад ужо не адробіш. А раз не адробіш, дык тагды будзеш, значыцца, больш рабіць. Будзеш варушыцца і жыць.

Ён ізноў пачаў гаварыць, што і як павінен жывы чалавек. А пайшоў дадому тады, калі Агата пачала брацца за работу ў сенцах.

Усё было ў яго вырашана. І было ў яго гэтакае адчуванне ўсяго, як бы нічога не засталося не зробленым. І ўсё было добра. Радасны ўздым яшчэ больш зрабіў яго цвёрдым і ўпэўненым у сілах, якія адвеку былі і будуць у жывым чалавеку.

Дома ён сцягнуў з ног боты, падсунуў пад палок і палез на печ. Выглядаючы з-за коміна на хату, шморгаючы пальцам за каўняром кашулі, думаў — ці цяпер сказаць усё ў хаце, ці пачакаць вечара, калі ўсе збяруцца. Вельмі хутка стала яму горача на печы, дык ён злез на палок і, як заўсёды, сядзеў на гэтым сваім месцы і гойдаў босымі нагамі. І ніводнае клапатлівае, гаспадарлівае думкі не было цяпер у яго —яны ўсе сплылі кудысьці перад тым вялікім і радасным, што ўваходзіла ў яго жыццё. Будзе яшчэ ўсялякага клопату, ён нікуды не ўцячэ, застанецца назаўсёды пры чалавеку. А жывы чалавек, калі захоча, дык можа ўсякся сабе і без клопату пабыць трохі, калі надыдзе гэтакая часіна ў жыцці. Усякае можна, усё льга зрабіць у тых межах, у якіх чалавек жыве і за якія не ступіць ніколі.

— Дзе гэта падзяваліся ўсе з хаты?

— Нашто табе.

— От так.

Нявестка больш не адказала, дык ён сам пачаў з ёю гаворку:

— Буду жаніцца.

У хаце прывыклі ўжо да гэтых яго гаворак.

— Чаго табе так не хапае?

— Можа ўсяго хапае, а можа і не.

— Хіба ў прымы куды вынося з хаты.

— А гэта будзе відаць. Усё будзе відаць.

Пасля, памаўчаўшы:

— Чаму канешне ў прымы!

— А як жа, заваліш тут хату.

— Не завалю, чорт яе не возьме гэтае твае хаты. Жыва будзеш, значыцца, з хатаю разам... Я сабе знайду хату.

— Знайдзі.

— Знайду. З клеці зраблю сабе, значыцца, хату і жыць буду.

— З свінуха можа яшчэ, а не з клеці.

— Няхай свінух табе будзе.

Глянуў, як нявестка злосна адвярнулася, і мацней загойдаў нагамі.

---

Усялякія гаворкі былі сярод людзей. Гаварылі і праўду і няпраўду. Успаміналі праўдзіва і непраўдзіва, што было, што адбывалася і што мае адбыцца.

Студня, якую выкапалі ўлетку, даўно ўжо абгалаледзела, абмерзла, і Антось Макарэвіч разы са тры ўжо выходзіў з тупіцаю абсякаць лёд каля яе. Рабіў ён гэта шпарка і маўкліва, калі не знаходзілася дома пільнае работы, а згуляць гэты чалавек не любіў.

Каваліха, убачыўшы яго раз аднаго каля студні, падышла, каб выказаць яму ўвесь свой клопат і крыўду на чалавечую няпраўду:

— ...Я ж кажу, каб я каму што калі дрэннае, не дай божа, сказала ці зрабіла. Я ж дабра хачу.

Антось нічога не гаварыў.

— ...Я табе, Антоська, скажу ад чыстага сэрца. Усе людзі гавораць, не я ж адна клапачуся пра цябе. Калі ты хочаш браць Агату, дык або спяшайся, або, калі не выпадае цяпер табе, адсадзі як-небудзь ад яе свайго дзядзьку Міхала. Гэта ж ён назнарок. Калі дачуўся, што ты з Ага-

таю хочаш пабрацца, дык ён там як з пяруна спаліў. Яго зайздрасць душыць да ўсіх людзей, дык ён сам не ведае, што робіць і што яму рабіць. Хоць ён табе, Антоська, і сваяк, але гэтакага брыдкага чалавека я, колькі жыву, ніколі не бачыла. Ён табе можа чалавека без дай прычыны перад людзьмі сярод вуліцы аблаяць, і больш, я ж кажу, нічога.

Слабавольны Антось адказаў, абы адчапіцца ад каваліхі:

— Можа, я Агаты зусім і браць не думаю.

— Ой, чаму не думаеш! Што ты ад мяне хаваеш! Ты ж і хадзіў да яе, і гаварыў пра гэта з ёю. Ты не думай — можа табе Міхал што нагаварыў на мяне, дык я ж табе кажу, што гэта ліхі чалавек.

Антось Макарэвіч адвярнуўся і шпарчэй пачаў біць тупіцаю лёд.

— Я ведаю, ён табе нагаварыў на мяне. Дык ты, сам нічога не ведаючы, вока на мяне не маеш. Што ж, як сабе хочаш. Я ў чужое не ўмешваюся...

— Ну дык не ўмешвайся.

— А што ж! Я табе як добра... Калі хочаш узяць Агату, дык не гэтак трэба рабіць. Яна за цябе з ахвотаю пойдзе і лад табе ў хаце зробіць. Я ведаю, што гавару. Я ў чужое не мяшаюся...

Антось глянуў на яе з-пад свае заячае шапкі і зноў нагнуўся над лёдам.

— Ты на мяне коса пазіраеш. А я табе дабра хачу. Ты яшчэ і на Надзю прыглядайся, бо гэты Чаркас звядзе яе з свету. Я табе скажу проста — да чаго гэта ты давозіш у сваёй хаце. Чаму ты сам нічога не бачыш. Я з тваёю нябожчыцаю калісьці таварышкавала і хачу, каб ёй там паляжанне лёгкае было; глядзі на Надзю!

Антось мала што разбіраў у кавалішчынай гаворцы. Ён толькі чуў яе прарэзлівы голас, чуў асобныя словы — «Надзя», «Чаркас», «твая нябожчыца», «паляжанне лёгкае»... І раптам навала горкасці сціснула яму грудзі. І босы хлапчук у хаце, і Надзіна маўклівасць, і хвароба нябожчыцы, і ўсе чалавечыя імкненні, якія глыбока заўсёды варушыліся ў ім і мала калі прабіваліся наверх,— усё было тут.

— Пакінь ты, баба, гусьці ў мяне над вухам.

— ...Я табе ад шчырага сэрца, чаму ты гэтакі чалавек!

Ён разагнуўся, шпурнуў тупіцу, схваціў шуфель, адкінуў за плячо абедзвюма рукамі і стаў гэтак. Каваліха віснула:

— А божачка.

І адскочыла ад студні. Антось махнуў шуфлем і ляпнуў круглым бокам яго каваліху па мяккім месцы. Каваліха пабегла дадому, азіраючыся, каб не бачыў ніхто, як яе ссарамаціў Антось Макарэвіч.

Пасля гэтага здарэння яна дзён праз два падпільнавала на вуліцы Міхала:

— Міхал, падыдзі сюды.

І кіўнула галавою ў свой двор. Міхал спакойна і весела сказаў:

— Чаго табе?

— Нешта скажу.

— Ідзі і скажы, калі табе трэба.

— От чалавек!

— Чаму, які ж я, значыцца, чалавек?

Тагды каваліха падышла да яго:

— Ведаеш ты што, Міхале? Антось да Агаты сватаецца, але я адразу сказала, што яна за ім прападзе. Калі хочаш, я магу пагаварыць з ёю...

Міхал тупнуў нагою і залажыў у кішэні рукі.

— А каб табе язык адсох, малатарня! Чаго ты менціш гэтым сваім траплом, як пусты млын! Адыдзі!

Дык каваліха адышла з вялікаю крыўдаю на Антося Макарэвіча. І потым усім гаварыла, што гэта Антось па сваёй дурасці настроіў супроць яе Міхала:

— Нікому больш нічога гаварыць не буду, няхай як сабе хочуць абодва. Няхай хоць павешаюцца за сваю гэтую Агату. Цацку знайшлі! На чорта мне канешне за ўсіх клопат мець! Няхай што хочуць, тое і робяць.

З яе пачалі смяяцца:

— Ці не хочаш гэта ты сама за каторага з іх замуж пайсці, што гэтак абходзіць цябе і адзін і другі?

— Пэўна, што не так гэта яна стараецца.

І пасля гэтага нават і прыяцелькі доўга кпілі і жартавалі з яе. Вельмі ж фацэтным усё гэта было дзеля людзей.

Антось Макарэвіч нікому не расказваў пра здарэнне з ім і каваліхай каля студні. Міхась жа ўспамінаў разы са два людзям, як да яго падыходзіла на вуліцы каваліха. Яму жартаўліва заўважылі:

— Можа гэта яна за вас, дзядзька, сама замуж строіцца?

Міхал узвесяліўся і стаў кпіць:

— А што вы думаеце! Ад яе гэтага можна спадзявацца. Можа, яна і мела што ў галаве.

— Але Агата патом лепшая за яе?

Міхал пачаў хваліць Агату. Цяпер ён усім адкрыта гаварыў, што будзе браць яе замуж. Пра Антося ж ён нават і не думаў. Быў колькі разоў у яго і нічога пра гэта ніколі не ўспамінаў.

Як ужо ўсё дома ў яго было перагаворана пра гэта і як хатнім абрыдзела ўжо і ласкава і злосна адгаварваць яго, каб ён не жаніўся, калі ўжо ўбачылі, што нічога не будзе, не перапруць яго, Міхал тагды пачаў як мае быць брацца за справу. Зноў гаварыў ён з Агатаю, пайшоўшы за ёю на прыгуменне. Агата была з ім як з тым чалавекам, з якім можна ўжо быць як з блізкім, якому можна калі трэба, усё гаварыць, усякае парадзіцца. Яна завіхалася нешта ў адчыненых гуменных дзверах. Міхал стаяў каля яе. Ён глядзеў на яе, як на тое, да чаго ўсе дагэтуль маглі мець і мелі нейкае дачыненне, можа, нават уладу, а цяпер усё гэта прапала ў іх, і прычынаю гэтаму ён адзін. Дык ён сказаў:

— Пакінь, чорт яго, усяго, значыцца, не возьме з работаю разам. Да смерці ўсяго не пераробіш.

— Трэба ўправіцца,— глянула яна пакорліва на яго, так, як глядзіць добрымі ласкавымі вачыма цельная карова на гаспадыню.

— Як брат цяпер з табою?

— Цяпер лепшым стаў.

Яна прыперлася да высокае заперыны, падперла рукою бараду і стаяла.

— А-а, ласкавейшым стаў!

Ён быў у гэтую хвіліну моцным, лёгка глядзеў на ўсё. Твар у яго ясным быў і, як ніколі ў гэтыя часы, сталым. Ён падышоў да яе, стаў поплеч, шырока, на нязграбных нагах сваіх. Пастаяў гэтак моўчкі і, як бы пачынаючы нешта тое, перад чым усё іншае было няшчырым, дрэнна прыдуманым, узяў яе за руку. Абое яны не глядзелі адно аднаму ў вочы, твар яе пачырванеў і зрабіўся больш непрыгожым. Грубыя рысы на ім зрабіліся яшчэ грубейшымі. Але нешта глыбей за гэтымі рысамі нарадзілася ці абудзілася. Яно скрозь усю непрыгожасць і грубасць твару

засвяціла і ажывіла яго. Шмат з'явілася ясных адценняў, раней ніколі не бачных на гэтым твары, і яны зрабілі чалавека прывабным і прыгожым.

— Ідзі ў хату,— сказаў Міхал.

— Рабіць трэба.

— Ат, што там рабіць.

Ён палажыў ёй цвёрдую руку на шыю; правёў ёю па тэй палавіне твару, якая была далей ад яго.

— Чорт іх не возьме з іх работаю, і так напарабіла ім. А што карысці? Вельмі яны табе тут што памаглі! Усё ты ім памагала... рабіла...

Яна ўздыхнула глыбока і роўна. І з тэй хвіліны пачалося між імі тое, што драмала ў ёй, а яго заўсёды рабіла смешным дзеля іншых людзей. Гэта была тая блізкасць іх, пра якую за ўвесь той час ніколі ніводнага слова ніхто з іх не сказаў. Ён паглядзеў на яе твар траха не весела, яна на яго пакорліва, і як бы знішчылася сцяна між імі. Цяпер яна першая стала гаспадарліваю і клапатліваю:

— Але як жа будзе, калі дзеці твае выганяць мяне з хаты? Што тагды мне рабіць, дзе я дзенуся. Тагды і брат мяне не прыме назад.

— Я ў дзяцей ласкі не прашу.

— Гэта табе здаецца, бо ты цяпер лішне цяжкае работы не робіш. А як давядзецца...

— Жабраваць не пайду і цябе не пашлю.

— Ды я-то рабіць сама магу. Мне што.

— А я! Калі я лішне хварэў! Нага трохі — дык мне гэта нічога. Стаўшы лішне, значыцца, думаць... Ай, што гаварыць!

Ён адышоўся на сярэдзіну варот і наўмысля кашлянуў, каб схаваць няёмкасць, якая з'явілася ў яго ад Агаціных слоў. Нейкі абвыклы парадак парушыла ў ім Агата, пачаўшы гаварыць пра тое, пра што ён і так апошнія дні клапаціўся, думаў, хоць нікому і не гаварыў. Ён падаўся дадому, няспрытна грабучы па зямлі нагамі. Але на вуліцы ўжо ён зноў зрабіўся гэтакім, якім быў заўсёды — упэўненым у нечым сваім, спакойна-цвёрдым і ўпартым часамі нават у тым, чаму і сам не заўсёды як мае быць дае веры. З таго часу пачалася ў яго хаце калатня. Сын з нявесткаю толькі як бы цяпер гэта зразумелі як след тое, што пачаў рабіць бацька. А ён сам упарта адмоўчваўся і толькі калі-нікалі ўзнімаў крык. Праз некалькі дзён і да

гэтага пачалі прывыкаць, і нявестка толькі галасіла, што стары ўздзяцінеў і хоча іх загубіць усіх. Яна хацела ісці да Агаты перасцерагчы, каб і не думала нават ісці за кручанага старога, але Міхал, пачуўшы гэта, схваціў сякеру і падняў гвалт:

— Сцерва ты, зараз засяку сякераю!

Нявестка не пайшла, а вечарам сын пачаў з бацькам гаворку:

— Дык як жа жыць будзеш?

— Клець перараблю на хату.

— Ты ж рабіць не можаш.

— Патраплю... Нараблю колькі мне трэба.

— Як ведаеш... Мне тагды што!..

— У цябе браць нічога не буду, сам сваю гаспадарку зраблю.

Сынава жонка загаласіла:

— Ці не для гэтага ж мы, божачка мой, на пасёлак выходзілі, каб ізноў на адным двары душыцца дзвём сем'ям!..

Дык Міхал раптам весела ўцяміў нешта іншае:

— О, я, значыцца, прыдумаў! Не хачу я, добра кажа, на адным двары душыцца. Я сабе сваю хату пастаўлю ў полі.

— Дзе ж ты грошай возьмеш; гэта ж — турбаца вялікая. Што ты стары зробіш!

— Зраблю!

Цяпер усе паспакайнелі. І нявестка рада была, што старога з хаты збудзе, але думку гэтую трымала ў сабе, нават мужу нічога не ўспомніла. На другі дзень у хаце ў іх усё было ціха і спакойна. Не было ўжо за што сварыцца; забываліся крыўды, і дзеці пачалі даваць парады бацьку.

Міхал мала раскідаў розумам — як і што будзе ўсё рабіцца. Ён толькі цвёрда намерыў зрабіць. Ён, як камандзір войска на вайне, не забягаў лішне розумам наперад, а рабіў тое, што трэба было рабіць цяпер, што падказвала патрэба. Мэта вызначана. Але ўсякія непрадбачныя здарэнні вымагаюць рабіць яшчэ нешта другараднае, што часамі бывае пасля і не звязаным нічым з мэтаю. І камандзір думае толькі пра мэту, а другарадныя здарэнні і з'явы выконваюцца тады ж, калі і з'явіліся, без ранейшых плану і абмеркаванняў. Бо што ты будзеш раней часу абмяркоўваць, калі ўсё роўна гэтак не будзе, як ты вымеркаваў.

Найлепшы план і меркаванне заўсёды складаюцца ў тую хвіліну, калі трэба дзейнічаць.

Міхал Макарэвіч не любіць вельмі дакладных вымеркаванняў наперад. Ён і на сходах пасміхваецца з вялікага крыку, які вельмі ж заядла любяць узнімаць, асабліва местачкоўцы: «Крычаць, крычаць, а яно ўсё будзе зроблена як мае быць і без крыку. І зусім не гэтак, як крычаць».

---

Чаркас зусім нікуды цяпер не выходзіў з хаты. Сядзеў, сагнуўшыся над шырокім заслонам, і шыў людзям боты. Нават раз, калі трэба было яму забраць у Францішка Даніельскага даўно зробленую муку, дык ён сам не пайшоў на хутары, а прыслаў жонку — высокую, белатварую гаваркую жанчыну. Міхалу Макарэвічу якраз трэба было цяпер убачыцца з Чаркасом, і ён, не прычакаўшы яго на пасёлку або хоць на хутарах, сам падаўся раз у нядзелю ў мястэчка. У мястэчку ён даўно не быў, рад быў пагаварыць з кожным і загаварыўся позна, прыйшоўшы сюды траха не зранку. Мароз быў не вялікі, хмурна было і ціха на вуліцах. У канцы першае вуліцы, на мяжы з полем, каля старое каплічкі, сваволілі хлапчукі. Міхал прыпыніўся каля каплічкі, падышоў да дзвярэй, глянуў праз дзірку ад выбітае шыбы ў сярэдзіну і глядзеў з паўхвіліны.

— Чаго вы, дзядзька, глядзіце? — запытаў адзін з хлапчукоў.

— Чаго гляджу? Хто гэта шкло выбіў?

— Мы не ведаем.

— Не ведаеце вы!

Ён адышоўся ад каплічкі, хлопцы абкружылі яго. Ім было весела павалтузіцца з дзядзькам, які сам прыпыніўся каля іх...

— Куды вы, дзядзька, ідзяце?

— Чаму табе? Як вам усё патрэбна ведаць! Чаму вы не вучыцеся?

— Сягоння нядзеля.

— Ну дык што, чытаць і ў нядзелю не грэх.

— Фью! — коратка свіснуў адзін.

— Свістуны ліха вам,— забубніў Міхал, пачынаючы ісці ў вуліцу,— свішчаце вы ўсё, значыцца, свішчаце...

— Дзядзька, дзядзька!..

Ім гэта спадабалася, і яны беглі следам і крычалі:

— Дзядзька, дзядзька!..

Міхал пайшоў шпарчэй. Бомкалі ў адзін звон у царкве. Чысты гук малога звону разыходзіўся над ціхімі вуліцамі. Міхал падаўся на места. Быў кірмаш. На самым праходзе між вазамі стаяў местачковы сальнік Адольф Крывадубскі, з кублам на возе. На зачыненым кубле ляжаў скрутак здору. Трохі далей на горцы канюхі шпарылі пугамі коней. Бліжэй да царквы гаспадары трымалі на павадах каровы. У царкве не пакідалі бомкаць. Дзень праясніваўся і весялеў. Міхал паваложся да воза з кублам, дзе Адольф Крывадубскі — круглатвары, чырвоны, з закручанымі ўгару дробнымі белымі вусікамі, растлумачваў нешта мужчынам. Мужчыны стаялі навокал воза, трымаючы рукі ў рукавах кажухоў і самаробных суконных жакетаў, слухалі сальніка і ахкалі, памагаючы сальніку збіраць каля воза ўсё больш людзей. Больш за ўсіх ахкаў і распальваў сальнікаву гаворку Арсень Касабуцкі, местачковы галетнік, пра якога гаварылі, што ў яго па дзесяць пальцаў на кожнай назе; па пяць звычайных і па пяць маленькіх, каля кожнага звычайнага пальца па адным збоку. Ён быў у картовай на скудзелях ці ваце кароткай капоціне і ў летняй салдацкай шапцы набакір. Калі сальнік што скажа, дык ён, азірнуўшыся на мужчын, здзіўся:

— А-а-а!

— Цяпер людзі сала не купляюць,— гаварыў сальнік.

— А-а-а! — заводзіў Арсень Касабуцкі, прыплюшчваючы вузкія свае вочы і чухаючы ў кароткіх пасмах злямцованае барады.

— Цяпер людзі або нішчысніцаю душацца, або сваё валяць на поўную губу.

— А-а-а!

— Што цяпер, усякі чалавек думае сабе — гэтакі час, што калі ў каго няма, дык няма, аб нішчымным жыве; а калі ў каго ёсць, дык ён услед паядае і нічога не пакідае. Есць колькі ўлезе...

— А-а-а!

— Ён жа не прадасць і грошы не пакладзе ў банк. Пакладзі чорту лысаму, каб пасля прапалі?

— А-а-а!

— Гэта ж не тое што даўнеўшыя банкі, што калі паклаў, дык можаш быць спакоен. Гэта — чорт яго ведае што можа быць. Спакою няма. Заваруха якая пачнецца, ці што... Гібеюць людзі.

— Но але! — адказаў Арсень Касабуцкі і плюнуў на дарогу, за крокаў пяць ад сябе.

— Цяпер ніхто і не збірае, каб што было ў гаспадарстве. На чорта ж яно, калі не вядома, што заўтра можа быць. Я і сам, сказаць, думаю — няхай яно прападзе ўсё.

— А-а-а!

— От, чые сыны ў камуністы падаліся, от як у Цецераўцах Любэцкага хлопцы, дык таму галава ні пра што не баліць. Гэтаму што! Гэты будзе жыць.

— А-а-а! От жа бачыш!

Міхал стаяў збоку ад Арсеня Касабуцкага і слухаў гаворку, весела гледзячы на Крывадубскага. У царкве пакінулі званіць. Нехта з натоўпу заўважыў:

— О, ужо Махлак адзваніў.

Адольф Крывадубскі пачаў гаварыць пра Аляксандра Махлака:

— Або хоць гэты Аляксандар — ён жа як жыў раней? Ён, бывала, сабе тылак цялячыны кожную нядзелю з рызніцы прынясе і есць сабе. А цяпер якога парсюка задушыць, дык аб гэтым і жыве. Або на малако налягае. А тут — што з таго малака!

— Аб малаку ног не павалаку, хэ-хэ,— рагатнуў дробненька Арсень Касабуцкі.

— Народ цяпер як належыць не жыве. Яжэлі б у народзе ішла ў ход капейка, дык тагды цвёрда трымалася б усё. А гэта ж — курс рубля, як трава, мяккі. Тандэт!

— А-а-а!

— Што цяперашнія грошы! Я ж кажу, як трава.

— Чаму як трава? — запытаўся нехта з грамады.

— Як чаму! — умяшаўся Арсень Касабуцкі.— Унь чалавек табе гаворыць чаму — ён жа табе гаворыць, чым ты слухаеш? Народ, добра кажа, цяпер нічога не мае.

— А калі ты меў што! — сказаў раптам Міхал Макарэвіч.

Арсень Касабуцкі пачаў апраўдвацца:

— Не я меў, дык, можа, хто іншы. Я, добра кажа, пра людзей гавару. Я, добра кажа, сябе не ўтыкаю, куды не належыць... Хто рабіў, той і меў.

— А ты і не рабіў і не меў.

— Я ж кажу, што тут, добра кажа, пра мяне гаворка не ідзе.

— А чаму нам і пра цябе, значыцца, не пагаварыць?

Міхалу было весела. Касабуцкі паглядзеў у твары лю-

дзям і падаўся бліжэй да сальнікава воза. Міхал прыгнуўся і пачухаў ззаду нагу над халяваю. Касабуцкаму здалося, што гэта ён рыхтуецца нешта сказаць пра яго, і запабег наперад:

— А што ж, добра кажа, іншы цяпер гэтае зямлі нахватаў, што аж душыцца робячы, а што ён мае!

Міхалам усё больш і больш апаноўвала жаданне смяяцца і даводзіць што-небудзь каму-небудзь. Гэта ў яго заўсёды, калі, засядзеўшыся доўгі час дома, выйдзе ён на новыя людзі. Тады ён пакідае разважаць, а пачынае гаварыць і ўпарта што-небудзь даводзіць. Арсень Касабуцкі адчуў гэта і ўшыўся ў натоўп, ведаючы, што Міхал абы-толькі ўспамянуў, дык знойдуцца ахвотнікі смяяцца, што ён увесь свой век усё шукаў лёгкага хлеба: то праганятым у двары быў, то свінні прабаваў гандляваць. Хацеў нават раз за панамара астацца, але нешта не спадабаўся папу. А Аляксандар Махлак, які з гонарам нёс абавязкі царкоўнага старасты нешта з паўвеку свайго, дык сказаў быў Касабуцкаму проста і адкрыта:

— Узяць цябе за панамара, дык ты ж вельмі трапятун вялікі, гатоў, яшчэ як-небудзь не гэтак павярнуўшыся, бацюшку за канастасам што-небудзь пашкодзіць.

З таго часу Арсень Касабуцкі найбольш усё ляжаў — зімою на печы, а ўлетку на палку. Але таксама любіў і на траве пад вішняю ў агародчыку, кажучы, што гэта вельмі здорава, бо трава выцягвае з чалавека ўсялякае нездароўе. І нейк само неўзаметку сталася, што зямля пакінула вырабляцца, а яго самога выбралі ці назначылі (ён ужо і сам забыўся) дзесятнікам пры старасце. Дык ён з вялікаю ахвотаю разносіў якія-небудзь павестачкі; або загадваў на сход. А як сталі сельсаветы, дык без ніякіх выбараў ён нейк неўзаметку і тут застаўся на гэтакай самай ганаровай пасадзе. Местачкоўцы гаварылі, што лепшага папіхайлы і за грошы не знойдзеш. Але, як бы там і што ні гаварылі, Арсень Касабуцкі дзяржаўны, можна сказаць, чалавек!

Міхал стаяў і глядзеў на Адольфа Крывадубскага. Таму, мусіць, надакучыла гаварыць аднаму за ўсіх. Ён ужо сядзеў на аглабіне і гойдаў нагамі ў ботах з бліш-частымі, каліісьці цвёрдымі халяўкамі. Цяпер халяўкі былі патрэсканыя і паабшморганыя.

— Ды, кажаш, людзі сала не купляюць,— сказаў Міхал.

Не ведаючы, ці гэта жарт, ці гэта стала чалавек сказаў, Крывадубскі моўчкі пацінуў плячыма.

— Аднак жа прадаеш, мусіць жа, нехта купляе.

— Гэтакая там купля,— абазваўся з-за чужых спін Касабуцкі, відавочна, стараючыся граць у адну дудку з Крывадубскім.

— Ну-у, якая б там купля ні была, дык усё ж, значыцца, купля. Не так жа гэта ты тутака з кублам стаіш.

Міхась чуў у сабе прылівы свежасці, новае сілы. І не толькі не было ў яго звычайнага яго бурклівага разважання, але цяпер усё з'яўлялася ў яго дзеля таго, каб сказаць толькі адно якое-небудзь вострае слова і маўчаць, абы-толькі гэтае слова дзейнічала на людзей. Аднак жа гаворка яго з сальнікам не ўдалася гэтак, як яму хацелася. Мужчыны сталі гаварыць між сабою, Крывадубскі важыў нейкаму вайсковаму сала. Арсень Касабуцкі зноў тырчаў пад локцямі ў Крывадубскага і стараўся зазірнуць у кубел.

— Патом жа бяруць сала; у кубле не многа, у дне,— сказаў ён нарэшце.

— У дне,— абазваўся Крывадубскі.

Касабуцкі абкругліў гаворку:

— Але ўсё ж такі, які гэта гандаль.

Сярод мужчын гаворка ішла пра коні з саўгасаў, па другі бок воза гаварылі пра даўнейшага старога валаснога пісара, які дажываў свой век у мястэчку. А далей яшчэ гаварылі людзі, але адгэтуль ужо нельга было разабраць, што яны там гавораць. Міхал і не слухаў лішне гаворак. Усё было для яго цяпер звычайным і добрым. Нават ён час ад часу ўсміхаўся, гледзячы, як Арсень Касабуцкі падхвальваў людзям Крывадубскага сала.

— Ай-яй, гэтакага сала свет ніколі не бачыў! — буркнуў сабе пад нос Міхал і паволі паклыбаў да канюхоў, дзе адбывалася лаянка. У царкве раптам зазванілі ўва ўсе званы. Міхал прыслухаўся і падаўся туды. Пастаяў яшчэ ў варотах пад званіцаю і ўвайшоў у прытвор. Відаць было з прытвору, як у глыбіні царквы маліліся жанчыны на каленах і так. Пеўчыя нястройна спявалі; мацней за ўсё чуўся голас дзяка; ён прарэзліва цягнуў з жывата доўгі гук і, мусіць, вельмі напінаўся, бо ў яго выходзіла: «господзё помёлой». Міхал прыхіліўся да сцяны і старэчым вальтом стаў падцягваць. Перад яго вачыма, наўскасы трохі ад яго, у царкве стаяла высокая жанчына, у кароткім

новым кажушку, у чорнай спадніцы, на плячах у накіненай вялікай крамнай хустцы. Міхал прыглядаўся, прыглядаўся на яе і ўздумаў пра Агату. Нават не пра яе, а пра апошнія падзеі ў сваім жыцці, звязаныя з ёю. І патроху ўсё больш і больш сцягваліся яго думкі на адно, што вясною трэба будзе і за хату брацца, і самому за поле. І каня прыдабываць трэба будзе — мусіць, прыйдзецца і Агаціну і сваю карову на каня збыць. Навала думак находзіла і спакойна адыходзіла. І не на адзін момант не пачынала мучыць яго сумненне або страх. Ён падумаў, што гэта да Чаркаса прыйшоў сюды. Але ўспомніўшы гэта, не пайшоў адразу з царквы, пастаяў яшчэ, падцягваючы ўсё дзіўным у яго гады альтом. Жанчына ў чорнай спадніцы і кажушку ўсё хрысцілася, нагінаючы галаву. І толькі цяпер ён стаў выразна здагадвацца — ці не Агата? Якраз гэта была яна. Пасля «аччанашу» яна пайшла з царквы. Міхал выйшаў за ёю. Ходзіць яна шпарка, дык Міхал дагнаў яе на вуліцы, за брамаю. Ён моцна стаў пасярод вуліцы, запыніўшы яе. Прыпыніўшыся, яна сказала:

— Хадзем, от якраз бо стаяць тут трэба, каб усе вельмі прыглядаліся!

Яны пайшлі паўз вазы, выбракаванаю дарогаю. Міхал ішоў поплеч з ёю, але напаўкрока наперадзе. І ад непрывычкі хадзіць з жанчынаю гэтак, ды яшчэ, можна сказаць, чуць не з жонкаю, падтульваў адно плячо. Прайшлі паўз Міхальнікаў воз. Крывадубскі засмяяўся, гледзячы на Міхала і Агату. Касабуцкі задзёр галаву і нешта пачаў гаварыць Крывадубскаму, трапечучы ў паветры тонкімі пальцамі, а рукамі нават не варушачы.

— Ліха матары вашай,— сказаў паціху Міхал.

Агата сама троха не сказала гэта і паглядзела на Міхала.

— Ты дадому? — запытаў ён.

— Але ж. Пакуль зайду.

— А я тутака яшчэ... мне трэба.

Развітаўся з ёю пасярод вуліцы, насупроць Чаркасавай хаты.

Ён патроху прывыкае хадзіць поплеч і паказвацца на людзях з Агатаю.

# НА ПАСЁЛКУ

*(З рамана «Вецер і пыл»)*

Праўда, што Чаркас часцей відзён стаў для ўсіх на пасёлку. Міхал Макарэвіч раз быў сказаў:

— Гэта адно здаецца ўсім. Ён і раней цягаўся сюды. Але каму гэта, значыцца, у голаў было: ходзіць — няхай ходзіць. А гэта як пачаліся ўсялякія гэтыя гаворкі, дык усякі ўжо на Чаркаса вочы вылупіў — от бо Чаркас ходзіць на пасёлак! Усякі ўсё стаў на яго прыглядацца. Уваччу, значыцца, у кожнага ўжо Чаркас стаў!

Чаркаса таксама часта бачылі і на хутарах. Усюды бачылі яго. Раз адлежным днём, купіўшы на хутарах у кагосьці мяшок бульбы, ён шукаў якое-небудзь выпадковае фурманкі. Забег у млын і праседзеў там з мужчынамі гадзіны дзве, усё курыў, раз-поразу пляваў і даводзіў усіх да рогату. Вочы яго бліпічэлі, шапка была ссунута на патыліцу. Пасля, як пайшоў ён, Аляксандар Махлак выказаў:

— Вядома, што калі чалавек, як утрапёны які, і языком, можна сказаць, менціць, і нагам спакою не дае, дык гэта ён нешта мае патом у галаве. Гэта ён табе тут не з ласкі на пацеху нагам гэтакі ход дае. Чаго ён гэта тутака сядзеў без дай прычыны?! Выпытаць нешта хацеў, от што. Гэта ён нешта ўжо арудаваць збіраецца. Чаго ж бо гэта ён так трапятаўся б па свеце, як чорт, не пры нас казана, на ражне?! Утрапёны нейкі, няхай ён спрахне. З ім трэба асцярожна.

Антось Макарэвіч сказаў:

— Яго, мусіць, нешта за сэрца скрабе.

Тады Махлак ядавіта ўсміхнуўся:

— А каму ж лепш ведаць, як не табе.

— Чаму гэта мне канешне ведаць?

Махлак адно сказаў:

— Н-ну!

І сказаў гэтак, што ўсе глянулі на Макарэвіча, а ён па-віпаватаму загаварыў:

— Якое гэта каму дачыненне павінна быць да каго. От бо людзі! Канешне, каб надазаляць другому, каб от душу даставаць усялякімі хітрыкамі. А няхай бы яно правалілася, цьфу!

Выгляд у Антося быў такі, што Махлак больш не ўспамінаў яму пра Чаркаса.

А за тыдняў некалькі да гэтага, каваліха дзён тры старалася даводзіць усім, што Чаркас сіберны азіят і арыштант без душы і сэрца, бо ў самую жалобу давёў усіх да смеху і не саромеўся тупаць каля Надзі.

Справа была гэтая тады, як хавалі Макарэвічыху. Антось не меў чым колькі трэба было заплаціць папу, і поп адно ў хаце зрабіў адправу, а на могілкі цела не праваджаў. Дык тады ў двары паставілі труну на сані і павезлі на могілкі. Як выносілі з хаты труну, каваліха раптам падняла лямант:

— А божа ж мой міленькі, што ж гэта яны робяць! Гэта ж на кабыле нябожчыцу, вечны спакой, павязуць. Маладая кабыла жарабят вадзіць не будзе. Няўжо гэта, Антоська, ты каня не мог у каго дастаць?

Тады Чаркас панура сказаў:

— Хіба мы тут пачакаем, а вы пабяжэце, цётка, на хутар да Купрыяновіча жарабца папрасеце. Смялей будзе.

Усе зарагаталі. Надзя з ціхім папрокам глянула на Чаркаса, а ён падышоў да яе і да самых могілак ішоў поплеч з ёю.

За труною ішлі ўсе. Усе з пасёлка, амаль усе з хутароў, нават з мястэчка. І, ідучы, гаварылі пра нябожчыцу, пра Чаркаса і пра Надзю. Гаварылі найбольш жанчыны:

— Гэтая небарака дзяўчына гора ўжыла на сваім вяку, з малых дзён на людзі служыць пайшла, а цяпер увесь клопат на яе галаву.

— І работа на яе рукі.

— Але небарачына.

— А патом, якая мажная! Твар які белы, круглы.

— Яна добрая дзяўчына.

— Кажуць, вельмі ўбораў наспраўляла сабе, як паслужыла ў горадзе.

— А адзяецца проста, не лішне франціць.

— Шануе, вядома. Гаспадарская дзяўчына. Не то што шарахвост які.

— Чаркас, ліха яму, і не адыходзіць ад яе.

— А ён гэтакі.

— Не мае ён і сораму.

— Дык дзіва вялікае, што ён пройдзе з ёю. Няўжо ж жанатаму з дзяўчынаю і загаварыць няможна.

— Не то што няможна, а як ён усё паглядае на яе. Проста вачыма есць.

— Ай, яны ўсе гэтакія.

— Нябожчыцы Антосісе таксама не мёд быў жыць.

— Адкуль, што гаварыць!

Пасля пахавання Чаркас не захацеў ісці на памінкі. Антось папрабаваў сперш прасіць:

— Як жа гэта, браце, ты ж і дол капаў, і так памагаў.

— Не магу, браце. Вельмі ж часу не маю.

І пайшлі яны ўдвух у мястэчка з Аляксандрам Махлаком. Напрамік нельга было ісці — вельмі пасля адлігі абгалалёдзела сцежка. Пайшлі дарогаю. Было здалёк відаць, як Чаркас размахвае рукою, нешта гаворачы Махлаку, а Махлак звешваў на правы бок галаву і падтульваў плячо, пра нешта разважаючы.

А Міхал Макарэвіч на памінках быў, выйшаў адтуль трохі падпіўшы, з пачырванелым тварам. Хлопцы праводзілі яго да самае хаты і ўсю дарогу слухалі, як гудзе яго голас:

— Хлопцы таксама памагалі Антосю, а на жалобную вячэру ні адзін не прыйшоў. Не прызнаюць, значыцца. Ну, не прызнаюць. Цяпер няма гэтага. Ну, няхай сабе няма. Даўней было, значыцца, а цяпер няма. Яно патом зараз звядзецца ўсё гэта... Як ты там яго ні памінай, што там па ім ні пі, ні еш — яму ўсё роўна. Зямля — і больш нічога. От закапаюць у зямлю: родныя дзеці! Наваляць тры аршыны зямлі, ценжар гэтакую, там пэўна і труна гэтая раздушыцца, як слімак які, значыцца, пад нагою, і... От бо на свеце як яно ўсё ідзе. Жыве-жыве, а пасля от бо памерці, канешне, трэба! Яно-то ўсё роўна нежывому — ні тры аршыны ты на яго навалі, ці хоць тры вярсты ўглыб, але жывому, як падумаеш, дык страхата нейкая. Каб гэта, здаецца, як-небудзь прыстроіць, значыцца, што гэтакае каб не закопваць, а ў паветра як-небудзь на волю яго, значыцца. Высока як-небудзь яго, каб свету не засмуроджваў, але ж каб і не гэтая ценжар зямлі! Каб от вальней, вальней як-небудзь, ці як, ці што, ліха яго ведае... От бо... Жыць, вядома, усяму жывому хочацца, не то, скажам, ча-

лавеку. Як гэта чалавек умірае. Ведае, што ўмірае. Нічога зрабіць не можа. Не мае сілы чалавек, нічога парадзіць не можа. Нешта наваліцца, значыцца, на чалавека — і канцы. Што т-ты зробіш! Аяй-аяй! Кожны, хто б ён ні быў — жыве, жыве... І гады праходзяць, і назад, і назад іх не вернеш, і што зрабіў — не пераробіш, і што сказаў — не возьмеш назад... Мне цяпер, значыцца, шэсцьдзесят першы год, жыць мне, можна сказаць, колькі засталося?! Я пра гэта лішне і не думаю, галавы не забіваю, а от калі ўзбрыдзе на думку, дык агні яго ведаюць... Не, я яшчэ здароў, няма лішне мне пра гэта чаго думаць. Хіба можа так якая, як той казаў, хуртовіна падкоціцца, ну, дык тады... гэта бывае. А так, дык пакуль што...

Ён шкрэбаў сваімі ботамі па дарозе, шырока расстаўляў ногі. Ногі ў яго заўсёды гэтакія, растапыраныя нейкія. Ступае ён цвёрда, але рухавым бывае вельмі часта. Лёгкім нейкім робіцца. Любіць доўга стаяць на вуліцы, глядзець у адно месца і развражаць паціху сам з сабою, пакіўваючы ў тахту словам сваім галавою.

Прайшоўшы па двары, ён пацвердзіў. Утуліўся ў кажух, каля свае хаты ўсміхнуўся ў каўнер:

— Чаркас, падла, лоўкі хлопец, зух. Жарабца, кажа, пайдзі да Купрыяновіча папрасі. Трасца яго мат-тары, што за штукар!

Памаўчаўшы:

— Цяпер Антосю жаніцца прыйдзецца, няйначай. Надзя замуж як пойдзе, дык тады...

— Можа пакуль што не пойдзе.

— Як гэта не пойдзе, гэтакая дзяўчына! Ёй цяпер самы раз замуж. А што ж, не?.. Ну, то я хіба пайду.

І зашкрэбаў да ганка. А хлопцы засталіся стаяць на вуліцы.

Хаты пастаўлены рэдка. Ад хаты да хаты доўгія платы. Вуліца шырокая, і ў канцы чарнее студня. Поле белае ад месячнага святла. Чорным якім стаіць за агародамі лес! Ветру няма, але лес усё роўна шуміць. Шуміць — ледзьве прыкметна для вуха. А можа, гэта, прывыкшы, здаецца. Больш нідзе няма ніякіх зыкаў. У некаторых хатах яшчэ трымаецца позняе святло.

---

Надзя Макарэвічава цяпер заўсёды была ў клопаце. Раніцамі, яшчэ нацямочку, па разоў два ці тры, прыходзі-

ла яна пад студню па ваду. І як несла яна свае поўныя два вядры назад, хлопцы, поячы коней, глядзелі ёй услед, аж пакуль яна не хавалася ў сваім двары. А бабы гаварылі:

— Хлопцы аж млеюць па ёй.

— Патом відаць, што яна гарадская.

— Якая яна гарадская!

— А што ж, не? От адметнейшая ад усіх.

Міхал Макарэвіч, адкідаючы шуфлем ад студні насечаны лёд, умяшаўся быў раз у гэтую гаворку.

— А такі яна адмятнейшая, гэта правільна. Яна, значыцца, у горадзе выбічкавалася. От бачыце — яна сабе робіць і нікому, значыцца, не здрастуе.

Адна з жанчын зларадна заўважыла:

— А яно такі і відаць, што яна Чаркаса прымае, калі б ён ні прыйшоў. Вы думаеце, гэта плёткі? Чаркас — дык яго справа мужчынская, яны ўсе гэтакія. Але яна! З жанатым чалавекам!

Тады нейк нечакана для самога сябе Міхал заступіўся за сваю нябогу:

— А ты бачыла?

— Можа і бачыла, а можа і не. Усе людзі гавораць. Я сама ад сябе не выдумала.

— А калі б нават яна і сапраўды была, значыцца, такая грэшная, дык якое каму дачыненне павінна да гэтага быць, усякі глядзі сябе. Ты бачыла, я цябе пытаю?

Жанчыны ўсе разам нешта загаварылі, а Міхал плюнуў:

— Займіся з бабамі!

І падаўся да хлопцаў. А пасля, управіўшыся каля студні, пайшоў да Антося Макарэвіча, каб пагаварыць з Надзяю.

— Жывучы, усяго бывае. Тады ты на мяне, можа, і коса была каля студні глянула, як я загаварыў быў пра тое, каб замуж, значыцца...

Надзя адцэджвала свіную картоплю і невыразна чула яго гаворку. Ветліва сказала:

— Можа б, дзядзька, блінца свежага з'елі?

— Цёплы?

— Гарачы.

— Н-ну... Яно гэтак...

Мажучы здорам блінец, ён расказаў пра гаворку каля

студні. Надзя ніводным словам не перабіла яго. Як скончыў, сказала:

— Няхай плешчыць, горлаў не пазатыкаеш.

— Я гэтак мяркую — плюнь ты на ўсе гэтыя гаворкі, чорт іх матару бяры. Я ім так і ў вочы сказаў — ты, пытаю, бачыла? от бо каб на іх спрутная найшла, каб хуртовіна якая ўкацілася!

З'еўшы блінец, стаў каля печы грэцца. Увайшоў Антось. Сеў каля парога перавязваць гуменную мятлу. Міхал глядзеў, як у мыцельніку ўпраўлялася Надзя. У хаце было змрочна — мароз густа сеў на маленькія шыбы. Пахла паранымі буракамі і мерзлым бярозавым веццем. Малы Надзін брат сам падшываў сабе лапці — цяжка яшчэ было яму калоць у сухім скураце дзіркі і дзіцячымі пальцамі працягваць дратву. Лапці падшываліся марудна, скурат дрэнна прыставаў да сцёртага лыка. Міхал падышоў да малога:

— Нічога, дзетка, у цябе не выходзіць. Адно крэкчаш, небарак. Пакажы сюды.

Пакруціў у руках лапаць, сеў і падшыў. Гаварыць не было чаго з Антосем, ды і дрымота пачала апаноўваць яго. Надзя пайшла ў сенцы малоць у жорнах вобмешку.

— Надзя меле?

— Але.

— Адвыкла яна, мабыць, ад жорнаў?

— Праклінае іх на чым свет стаіць. Можна, кажа, якнебудзь старацца, каб не малоць саматугам. Нашто, кажа, здароўе губіць. А тут як ты пастараешся. Гаруе, небаразчына. Як гэта ўсё зрабілася! Каб старая жыва была, дык зноў паехала б яна служыць; збіралася ўжо нават. А тут — на табе. Дзе коратка, там і рвецца. Божа мой, божа мой!

Міхал доўга маўчаў, сядзеў на лаве і гойдаў паціху нагамі. Антось гэтаксама доўга, увесь час, пакуль сядзеў Міхал, бедаваў усё, божкаў. У сенцах гулі жорны. Антось стаў абвязвацца башлыком, ісці корпацца на двары. Міхал устаў, пазяхнуў і пацягнуўся.

— Нявестка будзе бурчэць. Я ўжо ведаю. Пачне ўжо: «пайшоў пад студню лёд адкідаць, а немаведама куды дзеўся на цэлы дзень». Цьфу, каб ты згарэла, гэтакая кабеціна, каб ты.

Сказаў гэта ён сам сабе паціху, можа, нават ніхто ў хаце не пачуў ці не разабраў. І выйшаў з хаты. Паглядзеў

яшчэ ў сенцах на Надзю, пасля пастаяў у двары і падаўся да Агаты Уласавых, бубнячы сабе пад нос:

— Чорт іх матару бяры, няхай вар'ююцца. Ніякую трасцу самі робяць, мала я памалаціў гэтыя дні? Я хворы чалавек, у мяне нага адранцвела.

Надзя малола доўга. Спачатку хацелася ёй, каб хутчэй змалоць, а пасля, у палавіне млiва, нейк усё роўна стала, калі дамеле. Паволі і роўна круціла млён. Трохі гарэлі далоні рук — млён быў новы, не гладкі і не спрытны. Аднастайна, па-гультайску гулі жорны, і вельмі ж патроху, што аж смутак апаноўваў чалавека, сыпалася збоку ў сявеньку мука. Надзя і не спяшалася. У сенцах было змрочна, усё выглядала ціхім і марудным. Каля жарон напылена мукою, і мох у сцяне над імі ўвесь пабялеў. Патыхае гарачым расцёртым каменем, а далоні яшчэ ўсё адвыклыя ад гэтага тоўстага млёну, гарацъ. Неўзабаве ўжо ўсё патроху змелецца, але ўсё роўна — няхай сабе цягнецца. Іншая работа — дык яна значна, а гэта — колькі ты ні стой каля жарон, вялікіх слядоў ад гэтае работы не ўбачыш.

З столі звешваецца запыленае павуцінне, над лескамі з гары тырчыць звязанае чырвонаю істужкаю высахлае зелле. «Яшчэ мама збірала ды сушыла, мусіць, на лякарства якое. Можа гэтым самым лячылася, пакуль не залячылася на той свет».

Ужо мала зусім застаецца малоць. Непадсеяны, высушаны на печы, авёс у дне пасудзіны трохі з пяском. Жарства чуецца пад каменем, камень з аднаго боку падняўся, скрабе берагам. Паўпрыцца гатова з шпенька саскочыць. Няхай саскочыць. Няхай раскідаецца. Нашто, калі ветракі стаяць без работы. Калі на хутарах з-пад лёду б'ецца вада і падае на калясо. А ў сенцах — гэтых змрочных і халодных — гэтак нудна каля жарон. Хоць бы ціха гэтак не было. У пазах сцяны мох пачарнеў і запылеў, высах увесь, выпетраў і вышмаргаўся пад лескамі. І сцяна абгладзілася. Ці не матчыным гэта адзеннем, калі незлічоныя разы за свой век лазіла яна на гару, дзе яшчэ засталіся пучкі зелля, бутэлькі, паколаныя гаршкі — дабро, на якое вельмі часта мераецца жыццё? І лескі гэтыя скасабочыліся. Яны ўсе тут стаялі і тады, калі не малола Надзя ў жорнах, а гуляла ў лялькі каля гэтых самых жарон. І на іх жа прысела была матка паплакаць, выправіўшы яе ў чужыя людзі служыць. Ці даўно ўсё гэта было? Нядаўна гэта было! І нічога на свеце няма, што б даўно было. Мала чалавеку

жыцця яго на зямлі! Парыць целам зямлю — ці ж гэта лёс? І тады, калі сын дзіцячымі рукамі скурату пад лапці яшчэ не можа падшыць! Калі на яго наглядзецца ў волю нельга было, уміраючы!.. Нічога, ён будзе ўлетку з цямна да цямна пасвіць чараду кароў, а да лета, можа, і набярэцца сілы сам сабе падшываць лапці. Але ўлетку і лапцей не трэба, улетку і босаму цёпла. Нават і тады льга без лапцей абысціся, калі прабітая на палявы стырчак ці на лясны корч нага пачне нарываць. Тады нагу можна перавязаць анучаю — чаго-чаго, а ануч павінна хапіць, быць не можа. Нават і лепш з анучаю будзе, бо лапці трэба кожны вечар нанач скідаць, а анучу не канешне. Можна і не турбаваць хворае нагі, асабліва, калі ануча прыкарэла да цела жоўтым нарыўным гноем, перамяшаным з чорным крывяным сокам ад растаптанага ў часе бегатні за каровамі нарыву. Але гэта будзе яму навука — стане ён асцярожным і спрытней пачне бегаць на пальчыках, а не наступаць на ўсю падэшву нагі. А пад'еўшы цыбулі з квасам — цяжкім лішне не будзеш, так што лёгка можна скакаць і на пальчыках.

Чаго ж маўчыць Надзя, пакінуўшы круціць жорны і прыцісвуўшыся галавою да скасабочаных лесак?

---

Дзверы былі прычынены — абы не было цёмна і каб не несла вельмі холадам. Але чалавеку прасунуцца ў гэтую шчыліну было нельга. І Чаркас махам левай рукі шырока адчыніў дзверы. Надзя стаяла каля лесак.

Мусіць, шмат ужо было перагаворана імі, калі гэтак вольна падышоў Чаркас да Надзі.

— Дабрыдзень.

Яна кіўнула яму галавою і нічога не казала. Нейкі час ён стаяў каля яе, спакойна і ціха — вядома, дзе гэта ёсць, каб дзяўчына была вясёлаю, пахаваўшы маці? Чаркас і не думаў суцяшаць яе — што ж гэта было б за дзіця, якога смерць мацеры не давяла б да жалю? Пасля Чаркас сказаў ціхавата:

— Нічога, усё пройдзе.

Надзя адразу ўздрыганулася:

— Прайшло ж усё.

— Ну, то што ты зробіш... Бацька ў хаце?

— Недзе выйшаў.

— Вядома, цяжка прывыкаць, калі ўсё разам на шыю лягло.

— Мне не ад гэтага горна.

— Можа, яшчэ рана пакуль што гаварыць, але бацьку трэба гаспадыні якое ў хату прыстарацца.

— Ажаніцца?

— Але.

— Як сабе ён хоча.

— Не, не... Хоць ён і не малады, але ў гэта ніхто вельмі заўзята ўмешвацца не павінен.

— Мне ад гэтага ўсяго горна, што здарылася...

Чаркас падступіў бліжэй і маўчаў.

— Мне горна ад таго, як яно ўсё рабілася. Як ішлося да гэтага. Як яна ўмірала, гледзячы на малых, што ў хаце цэлую зіму сядзяць, бо абуцца не маюць у што. Як яе сэрца балела, ведае ж яна, што ўмірае. А мне што — усё лягло на мае плечы, дык я ж прывыкла да ўсяго. І іх выгадую, я іх усіх дагледжу. Няхай сабе і гэтак, хоць праветлае гадзіны ніколі мець не буду, мне самой нічога не трэба. Ёсць людзі, што і горш яшчэ жывуць...

— Нельга так каб было.

— А як?

Яна не магла стрымаць сваіх слёз.

— Ці трэба вам гэтую вобмешку тут у жорнах душыцца-малоць? І вы кажаце, што і павінна гэтак з вамі быць...

— Я не кажу, што павінна!

— Няможна гэтак...

— А як? Ну гаварэце як, калі ў хаце няма вопраткі на плечы ўскінуць, калі меншаму вучыцца трэба, а ён босы на печы сядзіць! Калі ёй хворай трэба было есці лепш, а дрыжалі, каб яна лішняга кавалку цукру не спажыла, бо за што яго купіш? Усё, што я заслужыла, пайшло.

Чаркас стаў перад ёю, высокі насупроць яе, вышэйшы за яе на цэлую галаву. Заўсёды гаваркі з людзьмі — маўчаў цяпер перад ёю. Засунуў кулакі ў кішэні свае вопраткі. Вопратка — кароткая браварка, не даўжэйшая за непадпяразаную сарочку, вышмарганая — з белымі, аблезлымі рубцамі — калісьці сукно было шэрае, пасля пафарбавалі яго начарна, а гэта фарба сцірацца пачала. У цёмных сенцах адны вочы яго гарэлі вострым святлом. Надзя супакойвалася патроху. Адставіла ад жарон сяveньку з мукою, запрасіла Чаркаса ў хату.

— Не, я можа заходзіць не буду. Каб бацька быў у хаце, а то калі хто зойдзе — і так мянцяць языкамі.

— Я і сама не ведаю,— глыбока ўздыхнула Надзя.— Што гэта робіцца і што будзе — у мяне галава кругам пайшла... Нашто вы ўсё гэта выдумалі. Няўжо вы не бачыце самі... мала што дзяўчына якая ў каго ўвагу калі стане; вы ж жанаты, у вас жа дзеці...

— Я ўсё гэта лепш за вас ведаю сам. І нічога зрабіць не магу. Колькі пападумаў над гэтым.

— Да чаго гэта ўсё давядзе.

— Не мог нічога на гэта прыдумаць.

— Няўжо ж, не думаўшы, гэтак і будзе цягнуцца?

— Не думаўшы няможна.

— Можа зусім вам не пападацца мне на вочы ці мне вам?

— Каб жа гэта спакой мне дало.

— І я спакайнейшаю была б.

— Заўсёды жыў, думаючы, а гэта думаць не магу. Што я павінен рабіць тут?

— Няўжо вы гэтакі слабы чалавек?

— Не магу без вас.

Яна апусціла на зямлю вочы. Рукі яе няёмка віселі. Відаць, адчувала яна сябе ніякава.

— Надзя!

— Ну?

— Я ж вам не раз гаварыў.

— Што вы мне гаварылі?

— Я не магу без вас.

— Хіба ж гэта паможа ўсяму гэтаму? У вас жа двое дзяцей і жонка.

Мусіць, здорава ўзяло Чаркаса за сэрца, што аж застагнаў ён, моцны гэтакі чалавек. Адразу ж падышоў ён шчыльна да Надзі, прыціснуў яе галаву да сваіх грудзей. Надзя, ціхая і пакорлівая, стаяла ў яго абдымках, расчуленая, устрывожаная, плакала:

— Які неспакой мяне душыць.

— Але ж і цябе да мяне цягне?

— Хіба ж я не прагнала вас даўно ад сябе, каб не цягнула?

— Памятаеш, як першы раз каля студні ўночы я спаткаў цябе быў і праводзіў да двара?

Яна сама цяпер ціснулася да яго, такая ціхая ад усяго, што здарылася з ёю ў гэтыя апошнія часы.

— Надзя...

— Вы ж зусім не гаворыце ніколі гэтак ласкава. Як у гурце мужчын — дык які не падобны да цяперашняга.

— Хто? — не слухаючы і не думаючы, сказаў.

— Ты.

Як бы нейкае вялікае разбурэнне зрабіла гэтае нечаканае для яе самое «ты». Усім тварам сваім прыціснулася яна да яго грудзей. Ён гладзіў і цалаваў яе галаву, яшчэ ўсё адчуваючы нешта і як бы бацькоўскае да яе. Раптам яна адапхнула яго ад сябе і сама адступіла:

— Мы ж не дзеці малыя, гэта ж не цацкі. Што ж з гэтага можа быць? Нашто ж нам толькі мучыць адно аднаго, самім самахоць ісці на пакуту? Бо чаго іншага можна нам чакаць ад гэтага? Не прыходзь ты ніколі. Не трэба нам бачыцца, дык мы забудзем.

— Усё роўна я спакою мець не буду.

— Ідзі, ідзі.

Чаркас стаў як малое дзіця. Дзіка кінуў навакол сябе вачыма, падаўся паслухмяна да дзвярэй і назад падступіў да дзяўчыны.

— Ідзі. Вы ж самі ведаеце, што гэта будзе лепш.

Тады ён падагнуў плечы і павалі выйшаў з сянец. Надзя чула, як паволі скрыпяць на панадворку яго крокі, чула, як калацілася ў яе сэрца. Увайшла ў хату, глянула ў незамерзлую мясціну ў акне. Чаркас стаяў у варотах на вуліцы. «Усе бачаць, больш яшчэ гаварыць будуць»,— падумала. З смуткам адышлася ад акна, не ведала, за што ўзяцца. Пайшла зноў у сенцы і, як выграбала з жарон вобмешку, чула, як дрыжаць рукі.

У той дзень, пад вечар, Міхал Макарэвіч з апошніх слоў вылаяў на вуліцы каваліху. Чаркас тады доўга не стаяў у Макарэвічавых варотах, але ўсе заўважылі яго. Як знік ён з вачэй, на вуліцы сышліся тры жанчыны. Адна была каваліха. Міхал Макарэвіч шкрэбаў па вуліцы дадому. Каваліха моцна гаварыла:

— Бачылі, як Антосеў прымак у варотах стаяў?

— Які прымак?

— Выйшла гэта я на вуліцу, аж бачу — стаіць ён у Макарэвічавых варотах.

— Хто?

— Чаркас.

Міхал пачуў гаворку і гукнуў:

— А каб цябе ўжо нечага прыняло з гэтага, значыцца,

свету, як ты, ліха тваёй матары, прымака нейкага ўбачыла, каб ты свету не бачыла.

— А табе што ўкалола?!

— А каб цябе колка калола, сцерва языкастая. Як ты ўсякага косці апалошчаш, каб цябе нежывую апаласкалі.

— Чаго ты ўз'еўся, дэраш кульгавы?

— Чаго ж ты пляцеш, халера цябе ведае што. Што ў цябе, работы іншае няма, ці што? Што ты маеш да гэтае дзяўчыны. Яна богу душою нявінна.

Міхал цвёрда стаяў пасярод вуліцы, збіраючыся доўга і не на жарты прабіраць каваліху. Але жанчыны, да чаго ўжо скваппыя да гэтакіх здарэнняў, а і то разышліся — вельмі ж сіберна лаяўся і крычаў Міхал. Каваліха, аскіраючыся, таксама знікла, і Міхал пашкрэбаў далей, не пакідаючы бубніць сабе пад нос.

Дома на яго адразу навалілася нявестка:

— Няхай бы ты, бацька, шуфель прынёс быў раней, а то як пайшоў зранку, дык ні самога, ні шуфля. Шуфель у гумне патрэбен быў.

Міхал пачухаўся:

— Я яго, каб ён скіс, забыўся ў Антося. Чорт яго не возьме, заўтра прынясецца.

— Сам не прынясецца.

— Пайду і прынясу.

— Ідзі есці.

— Чаго ты бурчыш, ведзьма? Не можа яна ласкавей сказаць.

— Чорт яго ўсім наласкавіцца... Кожнаму асобна есці з печы цягні. Не мог ён у пару прыйсці.

Але аднак паласкавела:

— Я пашлю малога, дык і прынясе шуфель.

— Пашлі сабе малога. Я яго там у двары за вуглом паставіў.

І ён пачаў расказваць, як кагадзе вылаяў на вуліцы каваліху. Нявестка села прасці. Міхал скончыў есці і гаварыць, накрыў настольнікам хлеб на стале, скінуў боты і палез на печ. Пахла ў хаце кудзеляю і на печы яшчэ сушаным аўсом. Авёс сушыўся, рассыпаны на чаране. Міхал падгроб авёс к коміну.

— Чаму вы аўса не зберацe?

— Яшчэ не высах.

— Як-то яшчэ, гаспадары! Гэты сабраць ды сырога насыпаць.

— Ну то збяры ды насып.

— Чаго ты, баба, аскірзаешся?

— Бо камандуе, ногі на печы выцягнуўшы.

Міхал змоўчаў, пачухаў плечы. Паспрабаваў аўсянае зерня на зуб, разаслаў на авёс старую капоціну і палажыў на яе галаву. Падрамаў, падрамаў і заснуў. Калі прачнуўся, адвячорак рабіўся ясным, на сценах клаўся сарамяжны водблеск захаду. Міхал паволі злез з печы, абуўся. На дварэ чуваць было — упраўляліся нанач з кароўмі і коньмі. Міхал усцягнуў на плечы кажух і паклыбаў у гумно. Снег трашчаў пад нагамі. «Мароз большае, бачыў ты»,— сказаў сам сабе. У гумне памог завіхацца каля ўпраўкі. Ператрос аўсяное саломы з сенам каровам нанач, пастаяў трохі, прыпёршыся задам да запеы. У адчыненых дзвярах гусціцца пачынаў сіняваты змрок. Белае святло ішло зверху, з шчылін і аконца ў шчыце. Так стаяў у гумне і адчуваў здаровую свежасць блізкага вечару. Лёгка яму было і добра. Пачаў сам з сабою разважаць: «Чорт яго ведае, каб гэта ўзяў ды ажаніўся. Я ніколі не здрастую. Такі ажанюся, на чорта мне так гібець: ні справа, ні работа. Іншы кажа тое ды гэтае, а я... От вазьму ды ажанюся, і тое самае, калі бог дасць, здароўе будзе».

Шырока заграбаючы нагамі, пайшоў з гумна. Пагаварыў з сынам аб гірсе ў жыце і спакойна, здаволена, бубнячы сам пад нос пра ўсё-ўсялякае, што брыло на памяць і тут жа ўцякала з яе, пайшоў у вулічныя вароты пастаяць і паглядзець, што робіцца на пустой вуліцы. Злубянелы кажушок тырчаў на ім ва ўсе бакі, як бляха.

# ТРЫЦЦАЦЬ ГОД

*(Раман)*

## ПЕРШАЯ ЧАСТКА

### Памылка Наталі Паўлоўскай

### I

У тысяча дзевяцьсот дваццатым годзе, увосень, з захаду на ўсход бралася разбітая пад Варшавай чырвонаармейская рота. Чырвонаармейцы былі галодныя і голыя. У іх быў падвойны клопат: каб хутчэй дайсці да таго пункта, дзе яны могуць перафарміравацца, і — каб дзе чаго пад'есці. Яны ішлі скрозь пеша і мала спявалі — ім, змучаным, лягчэй было ісці моўчкі. У дні паміж першым і пятым верасня яны мінулі дробны гарадок і гасцінцам прайшлі яшчэ кіламетраў пятнаццаць, дзе іх і агарнуў вечар. Сонца заходзіла ясна, на ружовым небе абрысы гарадка вырысоўваліся вельмі выразна: над сінім засцілам ляснога далягляду можна было заўважыць востры, як іголка, верх ратушы і яшчэ штосьці ішло ўгару тупым сваім канцом — званіца ці так якая-небудзь вежа. Там, дзе надвечар спынілася рота, гасцінец быў на самым высокім месцы над усёю мясцовасцю, і разлегласць воку адсюль была вялікая. Навакол сінелі лясы і горбіліся жоўтыя ад іржышча ўзгоркі.

Рота ўзышла на гасцінец яшчэ па той бок гарадка. Каб ісці трактам, які за гарадком скрыжоўваўся з гасцінцам, то льга было б за пераходаў тры дайсці да чыгуначнай станцыі і пагрузіцца ў поезд; гэта было і ў планах вайсковага руху, але камандзір роты, відаць, меў тут свае меркаванні. Гасцінцам было кружней, гасцінец нават ішоў не да станцыі, а ў бок ад яе, аднак жа камандзір павёў роту на гасцінец, не гаворачы нікому ані слова. У гэтыя дні, як толькі ўвайшлі ў гэтую мясцовасць, ён раптам стаў не гэткі, які быў заўсёды, гэты камандзір. У яго з'явіўся нейкі дзіўны настрой: ён то быў вельмі маўклівы і пануры, то раптам ім апаноўвала як бы беспрычынная весялосць. Ён жартаваў, высвістваў маршы, вабіў свістам з прыда-

рожных хмызнякоў птушак, і чырвонаармейцы шчыра смяяліся, калі ў хмызняку абзывалася птушка якраз гэтак, як свістаў іхні камандзір.

У гарадку рота пастаяла не больш, як паўгадзіны. Людзі ляжалі на непадмеценым бруку рыначнага пляца, а камандзір вельмі пільна разглядаў тубыльцаў гэтага маленькага гарадка. Здавалася, што ён шмат каго з іх ведае. Пасля ён сваёй стомленай паходкай падышоў да сялянскіх вазоў. Іх было нешта з дзесяць. Яны стаялі паміж змрочнага будынка ратушы і белага двухпавярховага дома з шыльдаю настаўніцкай семінарыі. Іхнія гаспадары былі тут жа: паўзлягаўшы грудзьмі на білы, яны маўкліва жавалі хлеб. Камандзір роты спачатку пастаяў перад імі, шырока паставіўшы свае цыбатыя ногі ў паламаных пруткіх ботах і зялёных, пазацыроўваных на каленях, галіфэ. Пасля ён запытаў:

— Адкуль?

Некалькі твараў павярнулася да яго, і ён пачуў назву вёскі.

— Чырвонаармейцаў везлі,— дадаў вясёлы дробны чалавек.— А скажыце, таварыш, гэта ізноў да нас палякі прыйдуць, што вы адступаеце?

Камандзір роты нічога не адказаў і адышоўся. Неўзабаве да яго падышоў чырвонаармеец з яго ж роты. От што пачуў камандзір ад свайго чырвонаармейца: «гэтыя людзі з вазамі родам з яго вёскі, і няхай камандзір пусціць яго на адны суткі паехаць дадому пабачыцца з сваімі. Ён пасля роту дагоніць».

— А калі ты там астанешся? — адказаў камандзір.— Зараз палякі зоймуць, а ты і рад астацца!

— Не, я даганю роту.

— Не пускаю,— цвёрда сказаў камандзір.— Не маю права пусціць,— растлумачыў ён далей, не зводзячы позірку з чырвонаармейца. А пасля яшчэ выразней сказаў: — Ты сам свае галавы не маеш, ці што?

Правільна ці не зразумеў гэты чалавек свайго цыбатага і лысага камандзіра, ён пра гэта не думаў, ён думаў толькі пра тое, што даўно ўжо карцела яму. І ён папрасіўся, каб яго пусцілі, калі так, схадзіць на хвіліну да гарадскіх знаёмых.

— Праз пяць хвілін мы рушым у дарогу. Ідзі!

Чалавек, як не трэба лепш, разумеў ужо свайго начальніка. Ён неўзаметку падаўся ў суседнюю вуліцу. Са-

праўды, праз пяць хвілін камандзір загадаў ісці далей, і, пакуль сонца спусцілася да захаду, рота прайшла яшчэ кіламетраў пятнаццаць, скрозь гасцінцам. Спыніліся людзі на зялёнай абочыне дарогі, дзе пачынаўся ціхі, жоўты ўвесь, дубовы і бярозавы гай. Крокаў за пяцьсот ад гэтага месца, на гасцінцы, стаяла нязграбная будыніна. Камандзір, пакінуўшы сваіх людзей на жоўтым узлеску, падаўся павольнаю хадою туды. Як бы одум панаваў над ім — у гэтую хвіліну ён быў пануры, як ніколі дагэтуль.

Будынак пры гасцінцы — гэта была карчма, самая сапраўдная, з стадолаю і нацярушанаю перад ганкам саломаю. Вайсковы чалавек быў высокага росту, і яму прыйшлося вельмі нагнуцца, каб увайсці ў карчомныя сенцы. Ужо ў сенцах ён з вялікім здзіўленнем агледзеў дзверы. Можна было падумаць, што чалавек прывык раней часта ўваходзіць у гэтыя дзверы і не згінацца і цяпер дзівіцца ад таго, што раптам дзверы сталі нізкія. Ён сапраўды ўбачыў, што дзверы сталі ніжэйшыя: сцяна схілілася набок так, што ўжо ледзьве стаяла, а верхні ляжачы вушак у дзвярах з'ехаў уніз і трымаўся крыва, так што дзверы ўжо не маглі зачыніцца шчыльна. Ён іх і не зачыняў, так і пакінуў адчыненыя: ён гэта зрабіў на тое, каб повідну абмацаць клямку ў хатніх дзвярах. Ад ружовага захаду была ясная сцяна ў сенцах, напроці адчыненых дзвярэй. На гэтай сцяне чалавек убачыў двухкапеечную карціну, ці, праўдзівей сказаць, ікону, асаджаную ў чорную маляваную раму. Мадонна, ці так сабе багамольная і ціхая, як трава пад нагамі, маладзюсенькая дзяўчынка, з роўным праборам у гладка зачэсаных валасах на галаве, з экстазам глядзела кудысьці ўгару, згарнуўшы перад тварам рукі. Да яе шыі была падвешана (прыбіта цвічкамі) нітка сапраўдных караляў. З радасным задаваленнем чалавек паглядзеў на гэтую карціну, і твар яго як бы адлюстраваў на сабе думку: усё на месцы, нягледзячы на войны і рэвалюцыі. Чалавек падаўся ў карчомную хату. Там было пуста і гола. Да сцен, беленых за шмат год да гэтага, былі папрыбіваны дылёвыя лавы старасвецкага мацунку, і на покуце, пры дзвюх скрыжаваных лавах — стол, гэтакі вялікі, што за яго напэўна села б уся тая рота чырвонаармейцаў, якія асталіся непадалёку на ўзлеску. Апроч лаваў і стала, нічога ў гэтай хаце не было. На вокнах толькі стаяла некалькі бальзамінаў у ржавых банках ад кансерваў. Бальзаміны былі запаскуджаны мухамі, а стол увесь скрозь

зрэзан нажамі. Шмат было тут павырэзвапа чалавечых прозвішчаў — і кірыліцаю, і лацінкаю, і прозвішчы гэтыя належалі, відаць, людзям з розных куткоў свету, бо тут быў і «Громаў», і «Пшэвідніцкі», і «Карнейчык», і «Жуанвіль». Але гэтых прозвішчаў на стале чалавек не прачытваў уважліва, ён толькі вокам акінуў зрэзаны стол. Не спаткаўшы тут нікога, ён як бы крыху сумеўся — так стаяў некалькі момантаў каля стала, спусціўшы вочы ў загаджаную праз шмат год тысячамі ног падлогу. У плечах ён быў крыху ў гэты момант ссутулены, сваю камандзірскую шапку ён трымаў у руцэ і пагладжваў сваю бялявую, з вельмі рэдкімі валасамі, галаву. Хутчэй магло адразу здацца, што гэта чалавек лысы, чым бялявы. На няголепым твары яго выбівалася рыжаватае валоссе. Такая была бяздумная пільнасць у яго твары, што здавалася, што ўтома, ці нейкае жаданне, цякуць з твару яму пад ногі. Была яшчэ адна рыса ў стане яго постаці: так можа выглядаць чалавек, які пазнаў цану некаторым з'явам і размеркаваў іх па-свойму, сам убачыўшы пад нагамі зацвярдзелы грунт, які нядаўна яшчэ кіпеў, як разгневаная акіянская хваля.

Змяркалася вельмі шпарка. Сцены цямнелі, ружовасць на іх меркла. Чалавек адчыніў дзверы ў карчомную бакоўку. Там было ясней — акно там было большае і якраз напроці захаду. Яно было адчынена, і жаночая постаць на яго фоне вырысоўвалася вельмі рэльефна. Дзверы адчыняліся ціха, і чалавек увайшоў неўзаметку, так што жаночая постаць нават не зварухнулася. Праўда, яна магла думаць, што гэта ўвайшоў хто-небудзь з яе сям'і. Чалавек адразу пазнаў жанчыну.

— Клава! — сказаў ён.

Жанчына ўздрыганулася і, як вяртлявы звярок, у момант перакруцілася тварам да чалавека — у профіль да акна. Цяпер яе льга было разгледзець усю. Яна была вельмі маладая, ну проста-такі дзяўчынка. Нават, здавалася, і плечы яе яшчэ па-дзіцячаму завостраны. Яна была ў рудой сукенцы, і дзве пазлацістыя касы, цяжкія і тоўстыя, віселі ў яе паабапал грудзей. Твар у яе быў дробны і белы, валасы густыя, залатыя, але гэта не быў рыжы колер. Яна спалохалася.

— Што вам? — збянтэжана крыкнула яна.

— Вы хіба мяне не пазналі?

— Не,— адказала яна холадна і жорстка, робячы выгляд, што зараз пойдзе адгэтуль.

— Няўжо не пазналі?

Перад тым, як пайсці, яна акінула позіркам яго нязграбную постаць і на момант спынілася на яго ўсмешцы. Гэтая ўсмешка была як нейкая назаўсёды застылая рыса. Па гэтай усмешцы яна і пазнала яго. Мусіць, ён думаў, што яна прыемна здзівіцца (ва ўсякім разе хоць так ды здзівіцца), убачыўшы яго, і ён стаяў, чакаючы гэтага здзіўлення. «Ці мала тут бывае ўсялякага народу, і знаёмага, і незнаёмага,— гаварыў яе позірк.— Клопат мне вялікі, гавары хутчэй, чаго табе трэба, і ідзі». Ён не прычакаў ні здзіўлення, ні адказу і сам абазваўся:

— Вы мяне ўсё ж такі, мусіць, не пазналі адразу?

— Пазнала... Адкуль вы ўзяліся? — апошнія словы яна сказала проста з гасціннай ветлівасці.

— Як адкуль узяўся! З-пад Варшавы адступаем... Я ў Чырвонай Арміі.

«Адступай сабе, калі хочаш. Будзь сабе не то што ў чырвонай, хоць і ў белай арміі»,— гаварыў яе твар. Але ж з той самай гасціннай ветлівасці яна сказала:

— У Чырвонай Арміі?

Ён маўчаў і не адыходзіў. Яна зазлавала:

— Вы ж, здаецца, адзін раз хвалілі белую армію?

— Калі гэта было? — сумеўся ён.

— Не памятаю добра, здаецца, яшчэ перад тым, як палякі прыходзілі. У горадзе, танцавалі. Я з Лізаветай... Не памятаеце Лізаветы? Лізавета Хімчык... Гм, мяне памятаеце, а Лізавету забылі. Вы ж ад яе не адыходзілі. Я з ёю ішла, а вы да нас прысталі...

— Дзе ж вашы больш? — спыніў ён яе гаворку.

— На двары,— яна паказала на дзверы.

Ён прайшоў праз кухню і выйшаў на трухлявы ганак з пеакораных аполкаў. Глянуўшы коса на акно, ён убачыў дзяўчыну, з якой толькі што гаварыў. Перагнуўшыся цераз акно, яна штосьці разглядала на зямлі, забыўшы, здаецца, пра ўсё і нават пра таго чалавека, які толькі што ад яе выйшаў. На трухлявым ганку стаяла жанчына. Камандзір роты пазнаў Амілю Снацкую. Яна рэзала вялікім нажом буракі і кідала карове. На лаўцы стаяла вядро з малаком. Жанчына панура паглядзела на незнаёмага чалавека і ткнула пальцам у глыб двара. Вайсковы чалавек пайшоў туды. Там чуўся ціхі гоман. Было там двое людзей, абое яны стаялі адзін перад адным пад нейкай растрыбушанай паветкай. Вайсковы сам сабе ўсміхнуўся.

Ён бачыў і чуў торг маштабаў невялікіх, але той гарачкі, з якою ён вёўся, хапіла б на справу куплі цэлага вагона мануфактуры. А тым часам тут усяго і было тое, што адзін купляў у другога некалькі мяшкоў. Мяшкі гэтыя ляжалі на зямлі, і вайсковы з іх перавёў свой позірк на таго чалавека, які іх прадаваў. З ажыўленнем, падобным да ажыўлення неразздумлівага чалавека, які знайшоў капейку на дарозе, вайсковец сказаў чалавеку:

— У чырвонаармейскі абоз ездзіў?

— Ездзіў.

— І казённыя мяшкі ўкраў?

— Не.

— А цяпер прадаеш?

— Ага, так? — выкарыстаў раптам справу сабе на карысць той, што купляў мяшкі.— Добра, што я ў цане не сышоўся. На чорта мне гэтыя мяшкі — крадзенага казённага дабра не купляю.

Прадавец пстрыкнуў каленьмі і чухануў лапцем лытку другой нагі. Вайсковец засмяяўся, а купец павярнуўся і рашуча пайшоў пад ганак. Вайсковец абагнаў яго і першы ўвайшоў у кухню, а купец гукнуў з ганка прадаўцу:

— Ідзі, разлічымся.

Мяшкі былі прынесены ў кухню, і гаспадар, на ўсё гатовы, спакойна стаў перад вайскоўцам.

— Ну, добры вечар,— падаў яму вайсковец руку.

Той зрабіў выгляд, што абсалютна не пазнае вайскоўца.

— Начаваць хочаце?

— І начаваць і можа пабыць колькі дзён.

— Пабыць?

— Мая часць стаяць тут будзе.

— Гола ўсё, жыўнасці ў карчме ніякай. Вайна, як чорная хмара,— раней ішла туды, цяпер назад гасцінцам...

— Ціха, Сёмка Фартушнік, ціха.

— Вы б адразу казалі, што мяне ведаеце.

— Нашто казаць, калі ты мяне адразу пазнаў.

— Дальбог не пазнаў.

— Хлусіш.

— Каб я так жыў. Цяпер пачынаю пазнаваць. Ну, бацька як маецца?

— Даўно не бачыў.

— Палякі зноў прыйдуць ці так манеўры робіце?

— Не ведаю.

— Э-э, партыйны чалавек, таварыш Міша Піліпоўскі! (Ляпнуў па плячы) — сказаць не хочаш.

— Ты ж сам усё найлепш ведаеш, што ты галаву дурыш.

— Адкуль я ведаю!.. Ідзіце сюды. (Адчыніў кухонныя дзверы ў карчомную стадолу.) Бачыце ложак каля сцяны? Спіце.

— У стадоле?

— Клапы кусаць не будуць.

— А колькі ў гэтым ложку вошай?

— Не лічыў.

— Многа тут народу пераспала?

— Хто спаў, той пра сябе і ведае.

— Сяннік гэты ў ложку год дваццаць ляжыць?

— Э, нашто перабольшваць. Як пачыналася нямецкая вайна — змянілі: пяхотны капітан начаваў... А чаму ваша часць стаяць тут будзе? Усе адступаюць, а вы стаяць?

— Салдат робіць тое, што яму скамандуюць.

Так яны ні да чога і не дагаварыліся. Вайсковец бачыў, што не так ён пачаў гутарку. Таксама ён бачыў, што пранырлівы Сёма Фартушнік нездарма дапытваўся, чаму ўсе адступаюць, а яны стаяць? А Сёма Фартушнік так думаў: «Міша Піліпоўскі? Няхай купіць сабе прытулак, добры хлеб і мае поўнае маўчанне». Сваім закаранелым інстынктам ён чуў душу Мішы Піліпоўскага. «Мы яшчэ паспеем згаварыцца»,— думаў Міша Піліпоўскі, вяла выходзячы з стадолы. Ён дайшоў назад да жоўтага ляска і ўбачыў сваіх чырвонаармейцаў: каля раскладзеных агнёў яны грэлі кацялкі, чысцілі і вытрасалі бялізну, падсцілалі пад шынялі на зямлі вецце, каб мягчэйшыя былі пасцелі. На гасцінцы пачаўся рух: ішло некалькі абозаў і ваенных часцей. Міша Піліпоўскі падаўся глыбей у лясок, прысеў пад дрэва, прыпершыся да яго плячыма, і пачаў жаваць хлеб. Ён чуў, як каля карчмы людзі выпрагалі коні, як з таго боку пацягнула дымам. Захад зусім сцьмеў, і стала холадна. Міша Піліпоўскі перабіраў пальцамі сухое лісце і пачуваў сябе вельмі спакойна: усё ўжо было вырашана. Так ён сядзеў доўга.

Вайсковы рух на гасцінцы ў тую ноч, можна сказаць, не спыняўся. Часамі на якую-небудзь паўгадзіну рабілася ціха, пасля зноў грукалі колы, стукалі капыты і чуліся людскія галасы. Войска ішло гасцінцам скрозь праз гарадок, з захаду на ўсход.

У той час, як Міша Піліпоўскі спакойна сядзеў сабе на дубовых лісцях у ляску пад дрэвам, у гарадку па рынчным пляцу конна ехаў вайсковец. Ён пільна прыглядаўся, дзе пусцей на зямлі ад людзей, каб мацней пагнаць каня. Аднак жа людзей скрозь было поўна: увесь пляц ператварыўся ў лагер — над раскладзенымі агнямі кіпелі кацялкі, дыміліся кухні, людзі спалі і драмалі пры агнях тут жа на бруку. Конніка мучыла нецярплівасць, але як выехаў ён у пустую цёмную вуліцу, нецярплівасць яго яшчэ павялічылася. Там ён вельмі пагнаў каня і ехаў так аж да самага канца вуліцы, дзе пачыналася поле. Было вельмі цёмна, але коннік удала скіраваў каня ў чорную прорву глухога двара, пад'ехаў да самай сцяны нізкага і доўгага дома, там злез з каня і павёў яго паўз зарослую зеллем канаўку, з якой тхнула ўсім тым, што выліваецца гаспадынямі з брудных вёдраў. За канаўкаю чалавек прывязаў каня да мізэрнай астачы плота і сам крута павярнуў за вугал. Там ён адразу натрапіў на клямку ў дзвярах. Дзверы былі замкнёны з сярэдзіны. Ён пастукаў, і яму адчынілі пасля таго, як ён назваў сябе.

— Здароў, таварыш камандзір! — гукнула жанчына, абнімаючы яго.

— Камісар,— паправіў ён яе,— камісар палка.

«От мы якія сталі»,— гаварыў яго позірк.

— Валодзька, родненькі, адкуль ты ўзяўся?

— Адступаем... Наталька, колькі часу мы з табой не бачыліся! Як ты жывеш? Як твой бацька? Ну гавары хутчэй, я больш не магу быць у цябе як пяць хвілін.

— Ты яшчэ да маткі хочаш заехаць?

— Трэба, таму і спяшаю.

— Маці табе даўно пісала?

— Не ведаю, на фронце даўно нічога атрымаць не мог.

— Каб табе не была дома нечаканасць — скажу табе: у цябе сястра памерла.

— Што? Хто? Вера?

— Памерла. Ад тыфусу.

— А маці мая як жыве? — выгаварыў ён праз сцятыя зубы.

— Даўно не бачыла яе.

«Эх ты!» — прачытала яна папрок у яго вачах.

Можа, з хвіліну яны маўчалі. Яна была роўная з ім ростам і таму, стоячы блізка перад ім, твар у твар, як

жанчына, здавалася вышэйшая за яго. З выгляду яна была за яго старэйшая на гадоў тры.

— Я цябе не прывыкла бачыць такога,— яна намацала рукою яго туга нацягнены пояс і кабуру ад нагана.

— Бацька мой паехаў ужо.

— Куды? (Навіна з сястрою прыглушыла яго; думкі яго не былі ясныя.)

— Выехаў. Што ты, не разумееш?

— Паехаў, значыцца, твой бацька,— сказаў ён механічна, думаючы зусім пра іншае.

— Што ты — не верыш ці дзівішся? Або ён тут да гэтага горада прывязан? Або трэба, каб яго тут расстралялі, як акупацыя зноў вернецца? Ён выехаў з сваім камісарыятам. Праз колькі дзён прыйдуць палякі.

— А ты?

— А я?

Яна змоўкла і адышлася.

— Чаму ты не гаворыш?

— Я, можа, астануся да самай апошняй хвіліны.

— Чаму?

Яна зноў абняла яго і прытулілася галавой да яго галавы, а пасля стала перад ім і глянула яму ў вочы:

— А можа, і зусім астануся.

— Цябе тут усе ведаюць.

— Але не ведаюць, хто я. Ніхто і ніхто не ведае.

— Эх, глядзі! Ты як мае быць пра гэта падумала? І ці падумалі тыя, што цябе тут пакінулі.

— Падумала і падумалі. Перш за ўсё — я не ўвесь час тут буду, а ў гарадку, што на ўсход па гасцінцы. Пасля — з самага прыходу Чырвонай Арміі я зусім тут не была, а працавала па вёсках вёрст з шэсцьдзесят адсюль. Явілася я толькі ўчора ўночы, і ніхто пра гэта не ведае. Учора ж уночы выехаў і мой бацька. Яны паехалі на фурманках, можа, так і скрозь паедуць, пакуль даедуць да бліжэйшай, не папсаванай вайною станцыі, там, напэўна, будзе бездань народу.

— Ён што рабіў, твой бацька?

— Па хутарах развёрстку браў.

— Наталя, сястрыца, будзь здарова і шчаслiва! Ну бывай, ну бывай!

Ён яшчэ на момант спыніўся каля парога — абветраны, абпылены, загарэлы. Глянуўшы, як ён стаіць, яна ўспомніла яго ранейшую прывычку прытупваць наском

бота. Ён і цяпер прытупваў, і гэта была адзнака, што яго мучыць неспакой.

— Бывай, Валодзечка.

Усёю сваёй нізкарослаю і спрытнаю постаццю ён яшчэ раз нахіліўся да яе і сціснуў яе руку. У наступную хвіліну ён ужо вёў дваром свайго каня і чуў, як за ім замкнулі з сярэдзіны дзверы. Але адразу ж ён пачуў, як дзверы зноў стукнулі. Ён вярнуўся і ўбачыў Наталю пры сцяне. Яе высокая постаць вельмі рэльефна выдзялялася на белай сцяне.

— Валодзька,— загаварыла яна,— я табе скажу... Вельмі можа быць, што ў тваё маці мне прыйдзецца мець некалькі дзён прытулак. Гэта я цяпер сама дадумалася. Я вельмі рада, што ты наведаў мяне. Ты... Сам ведаеш. Скажы там пра гэта сваёй маці колькі слоў, а як гаварыць і чаму навучыць яе — ты сам ведаеш... Не, стой! — раптам схамянулася яна,— можа, тваёй маці нічога не трэба гаварыць. Калі мне прыйдзецца,— я сама прыйду і скажу, і гэта будзе больш натуральна, прасцей будзе. Ну, скажам, не ўспела ўцячы, мяне шукаюць — каб перанача-ваць употай колькі начаў... Валодзька, бывай! Як я рада, што ты наведаў мяне!

І яна кінулася назад, а ён вывеў каня з двара, ускочыў на сядло і шпарка паехаў. На рыначным пляцы былі ўсё тыя ж чырвонаармейцы. Ён пазнаваў некаторыя твары. Ён мінуў гарадок. У полі, пад зборышчам старых дрэў, таксама гарэлі раскладзеныя агні. Ён запытаўся, якой часці. Гэта была рота яго палка. Кіламетраў праз шэсць ад гарадка ён таксама напаткаў часць з свайго палка. Неўзабаве перад ім вырысаваўся нязграбны будынак прыдарожнай карчмы. Там таксама гарэлі агні і адпачывалі чырвонаармейцы. Якой часці — ён не пытаў, а якраз насупраць карчмы крута завярнуў каня ў вузкую палявую дарогу, і наабапал яго адразу ж зачарнелі хмызнякі. Праз кіламетр які пайшоў нізкарослы дубняк, і тут ужо ён пусціў каня ціхім ходам. Дарога ўся ўсыпана была сухім лісцем, і яно шуршэла пад конскімі капытамі. Тхнула грыбным водырам, і Валодзя злез з каня і павёў яго на повадзе. Часам ён на момант спыняўся і прыслухоўваўся да ночы. Яму як бы хацелася аддаліць той момант, якога ён даўно прагнуў, момант спаткання з маці. Ціха было на гэтай дарозе. Часамі толькі чуцён быў шум паходнага лагера з-пад карчмы. Ён ведаў, што спаткае адну-адзінокую маці, але

не так уяўляў сабе гэтае спатканне, якое яно было сапраўды.

Перш за ўсё маці не магла пазнаць яго. Ён яе пабудзіў стукам у акно. Яна доўга пытала з-за дзвярэй, хто гэта. Некалькі разоў адказвала, што ў яе нічога няма і што яна адна і што начаваць «няма дзе прылегчы, бо ні каліва нават саломы няма». «Мама, я ж Валодзя, ну — Валодзя ваш»,— назваў ён сябе, убачыўшы, што з голасу яна яго не пазнае. Спачатку яна адказала сонным голасам, што Валодзі няма дома, што ён на вайне, пасля пазнала ці здагадалася. І тады пачалося самае страшнае. Яна тузала дзверы, бразгала жалезам, пакуль адчыніла. А пасля ніяк не магла знайсці запалак. А як знайшла запалкі,— не магла знайсці газоўкі. Валодзя выразна бачыў, што гэта ад змучанасці, ад нечаканасці, ад усялякіх няшчасцяў. Нарэшце ён убачыў яе. Як яна змянілася! Перад ім стаяла зусім старая жанчына, дробная з постаці і твару. Яна раней не была гэткая! Здавалася, нават яна ростам ніжэйшая стала. Яна калацілася ўся і зусім яго не бачыла. Так і стаяла з працягненымі да яго рукамі. Пасля, калі ён прыгарнуў яе да сябе, яна загаварыла такім голасам, якога ён у яе не ведаў дагэтуль: «Вера памёрла!» І пачала гаварыць: «бацьку ж на вайне забілі, на нямецкай!.. Але ж, праўда, ты ведаеш, пры табе гэта яшчэ было... Пасля Валодзя пайшоў у бальшавікі і на вайну... А, гэта ж ты, Валодзька, сам!..» Яна не выпускала яго з сваіх рук. «Старасць мая цяпер будзе спакойная з табою!.. Веру тыфус задушыў. Каб ёй хворай было чаго есці, яна не памёрла б!» Нарэшце, яна, утаміўшыся і адумаўшыся, села на лаву і паспакайнела. Але пакутная халоднасць адлюстравалася на яе твары.

— Цябе пусцілі, ці як?

— Не, мама, я сам заехаў. З дарогі звярнуў з табою пабачыцца.

— Дык ты толькі пабачыцца?! Ненадоўга?!

— Ненадоўга, мамуся.

— А як жа я адна буду?

Ён нічога не адказаў. Сапраўды, як яна будзе адна? Ён адышоўся ўбок, а позірк яе ўсё аставаўся на ранейшым кірунку. Ён жахнуўся:

— Мама, ты кепска бачыш?

— Кепска, удзень магу яшчэ, а пры агні...

— Ты не спрабавала лячыцца?

— А што гэта паможа, калі я гэтак жыву!

Гэта гучэла як дакор, але ён ішоў ад страшнага замілавання да яго, да гэтага Валодзі, што цяпер стаяў перад ёю і маўчаў.

— Валодзька, астанься са мною, не едзь.

— Як жа я магу астацца, ты ж сама ведаеш.

Але ўся справа і была ў тым, што яна не ведала. Яна сказала проста, па-свойму, ад усяго свайго змучанага сэрца:

— Табе шырокі свет раднейшы за мяне?

І абое яны маўчалі. Пасля яна загаварыла з жаданнем спыніць свой неспакой:

— Пашукай на стале хлеба сабе на дарогу.

Яна, значыцца, дазволіла яму ехаць?! Ён моўчкі выйшаў да свайго каня, зняў з сядла паходны мяшок і вытрас адтуль свой салдацкі хлеб і крыху нейкай сушанай рыбы. Яна павярнула свой твар да стала, дзе ён стаяў, апусціўшы рукі.

— Ну, едзь, Валодзька, сабе, не нудзь і не думай пра мяне.

Але лепш бы яна не гаварыла гэтага «не нудзь і не думай». Ён бачыў, што гэтая хвіліна павінна быць хвілінай развітання.

— Я табе палажыў на стале свой паёк. Я пастараюся скора вярнуцца. Але ты паслухай мяне — можа, хто з блізкіх людзей гэтымі днямі прыйдзе да цябе і будзе памагаць табе. (Гаворачы так, ён думаў пра Наталю Паўлоўскую.)

Яго душыў у гэтыя хвіліны знаёмы пах бацькоўскай хаты. Ён тхнуў на яго адразу, як ён толькі што ўвайшоў быў знадворку, і спрыяў таму ўтрапенню, якое да гэтай апошняй хвіліны ўзрасло неміласэрна.

— А чаго табе ехаць у гэты свет? Чаму табе не астацца дома?

— Дык жа я, мама, буду дэзерцір.

— То што? А ў дэзерціра матка адзінокая з голаду і холаду не будзе ўміраць, ці што?

— Ты ж ведаеш, мама, што я гэтага не магу зрабіць і не зраблю, і я не вінаваты ні ў чым у нашай бядзе.

— Хіба ж я адважуся цябе вінаваціць у чым? Я цябе пусціла на свет і каб яшчэ вінавацiла цябе?

— Чаму ты так гаворыш?

— Ну, бо жыць на свеце — дык гэта не дабро. Больш

пакуты, як радасці. Мусіць, так думала Вера, уміраючы, і, мусіць, так думаў бацька твой, як канаў немаведама дзе... Паедзеш — думай пра мяне, шкадуй мяне, бач заўсёды мяне перад сабою!

Ён выйшаў з хаты змучаны больш, як пасля доўгага пераходу. Ён так пагнаў каня, што ў адзін момант выехаў у хмызнякі, і перад ім засвяціўся агнямі лагер на гасцінцы. Было яшчэ не позна, неба было халоднае і зорнае. Яму хацелася хутчэй рушыць далей у дарогу. Ён запытаў у чырвонаармейцаў пры агні, якая часць. І гэта быў яго полк! Ён злез з каня і пачаў праходзіць паміж соннымі людзьмі да карчмы. Дзверы ў стадолу былі адчынены, і там таксама было паўпютка людзей. На ложку спала двое чырвонаармейцаў. Праз дзіравы дах свіцілася зорнае неба. «Дах апаў нізка»,— думаў Валодзя Кастрыцкі, стараючыся гэтым азначэннем факту даць сабе разрыўку ў трывозе і смутку. Пасля ён увайшоў у карчомныя сені — і тут было поўна людзей. Ён таксама, як незадоўга перад гэтым і Міша Пілілоўскі, заўважыў на сцяне багамольную, змучаную, як цявіна пад ветрам, жанчыну ў раме і з каралямі на шыі. І думкі яго мелі некаторае падабенства да думак Мішы Піліпоўскага, хоць яны і ішлі ў іншым кірунку: «Дзве вайны і дзве рэвалюцыі, а вось зараз выйдзе адсюль чырвонаармейская часць, і Клава, напэўна, як і раней, будзе глядзець на гэтую мадонну... Але ж быў час, што яна сама выкінула была гэтую карціну! — успомніў ён раптам.— А цяпер зноў павесіла? Ці, можа, хто іншы? Але хто? Сам Сёмка Фартушнік!» — ён засмяяўся, крыху, праўда, штучна, і падаўся далей. Ён прайшоў некалькі карчомных баковак і ўсюды бачыў поўна сонных людзей. Нарэшце страшная ўтома агарнула яго, і ён выйшаў да свайго каня. Прылёг ён за карчомнаю сцяною на складзеных у парадак бярвеннях, падаслаўшы пад сябе ўсё, што меў. Засынаючы, ён чуў, як конь яго, прывязаны тут жа, жаваў сена, і гэтыя спакойныя гукі яшчэ больш адцягнялі яго трывогу аб тым, што вельмі блізка адсюль не можа недзе заснуць і думае пра яго маці, якая, можа, ужо стоячы адной нагою ў магіле, дайшла да думак, што «жыць — гэта значыць пакутаваць».

Валодзя Кастрыцкі рашуча падняўся і адарваў каня ад сена. Ён гнаў яго гэтак, як той мог толькі імчацца. Валодзя Кастрыцкі ехаў назад у горад. Ноч хілілася да свайго канца, калі ён зноў пастукаў да Наталі. Ніхто яму

не адказваў. Ён стукаў некалькі разоў, і ўсё было ціха. Нарэшце ён сказаў у шыбу, стрымліваючы голас:

— Я Валодзя Кастрыцкі.

Тады Наталя яму адчыніла. Яна гаварыла:

— Што ты робіш, нашто ты падводзіш мяне. Ніякага шуму каб каля мае кватэры не было. Хоць і я выеду ў горад на ўсход, аднак жа...

— Наталька! Я прыехаў ведаеш чаго? Я прыпаручаю табе маю маці. Што я ўбачыў дома — гэта жах. Яна ледзьве стаіць на нагах і нічога не бачыць. Яна кажа, што жыць — гэта пакутаваць. Гэтыя словы яна ўзяла з свае ўласнае практыкі. Ну? Памагай як-небудзь ёй, хоць здалёку. Я, ведаеш, чаго баюся? Калі яна зваліцца з ног — каб хоць слова хто ёй сказаў добрае. Каб хоць хто вады ёй падаў.

— Валодзька, гэта праўда, але як жа я магу? Найлепш мне ўсё ж найменш паказвацца на людзях. Так што я з горада таго выязджаць не буду. Я буду памагаць ёй, але трэба, каб хто каля яе быў... Пачакай, я прыдумала,— раптам заявіла яна,— пагавары з Клавай Спацкаю.

— Што ты, жартуеш? Чаму?

— Я не жартую. Гэтае дзіця можа быць другам.

— Нават другам?

— А што ж ты думаеш?

— Я яе цярпець не магу! Як яна можа быць другам?

— Я гавару не пра цябе аднаго. Не на табе адным увесь свет сыходзіцца. А чаму ты яе цярпець не можаш?

— Мы з ёю людзі розных катэгорый.

— Можа, і праўда, але пакуль што я не адчуваю таго, што ты гаворыш. Скажы выразней.

— Бачыш, тут можна зразумець не так адразу, з-пад абуха. Такія, як я,— раслі галодныя і босыя, а яна гэтакая ніколі не была. Я яе ўзненавідзеў з таго часу, калі, шмат яшчэ год да гэтага, галодны ўбачыў, як яна ела такое, чаму я і назвы нават не ведаў. Я гавару не пра сябе, а пра мільёны такіх, як я, або як ты.

— Дык ты знайшоў вінаватаю Клаву Спацкую? Я таксама бачыла, як яна добра ела і чыста хадзіла, але ведаеш, як гэта было? Муж яе маці, Сёмка Фартушнік, адзін раз уначы пакінуў свой двухспальны ложак і пусціў на сваё месца афіцэра польскай арміі — Жаунвіля, за добрую, вядома, плату. Клава заўважыла гэта, тады Сёма Фартушнік даставў ёй з сваіх куфраў усялякіх дарагіх падарункаў.

Праўда, праз дзён пяць ён іх замкнуў назад у куфар. Назаўтра яна прыбегла да мяне з плачам.

— Добра,— сказаў Валодзя Кастрыцкі,— я пагавару з Клавай Снацкай.

— Вядома, ты пра мяне ёй нічога не гавары. Ты мяне не бачыў і нічога пра мяне не ведаеш.

Валодзя Кастрыцкі, маўклівы і сумны, пагнаў каня назад да карчмы. Ён паціху ўвайшоў у першы карчомны пакой і тут заўважыў, што пачынаецца дзень: у вокнах сінела. Ён пайшоў у другі пакой. Дзверы не адчыняліся. Ён пастукаў і пачуў Клавін голас. Ён назваў сябе і папрасіў, каб яго ўпусцілі.

— Вы пачакайце, пакуль я лягу і накрыюся,— сказала Клава, адмыкаючы дзверы.

Здзіўленымі вачыма яна глядзела на яго з пасцелі, калі ён увайшоў. «Гэты разумнейшы і сімпатычнейшы за Піліпоўскага, але што яму трэба?» — думала яна.

— Я вас зайшоў папрасіць па-таварыску ці па знаёмству, як сабе хочаце можаце назваць.— Голас яго знізіўся.— Я еду далей, з арміяй. Вы ведаеце маю маці? Вы ж не раз былі ў нашай хаце. Я вас прашу — маці мая ледзьве ходзіць. Калі можаце — даведайцеся яе і, калі яна зляжа хворая,— пабудзьце хоць колькі дзён пры ёй, каб яна адна не зайшлася.

Як бы хто разапнуў Клаву Снацкую, так яна ўстрапянулася. Яна села, не зважаючы на тое, што коўдра засталася ляжаць толькі на каленях і яна сама была ў адной кашулі.

— Добра, я дагледжу вашу маці,— горача сказала яна і працягнула Валодзю Кастрыцкаму руку.— А цяпер ідзіце, а то я заплачу.

У тую хвіліну ён выйшаў, дзівячыся — што гэта за натура такая. На двары чырвонаармейцы рыхтаваліся ў паход. Гасцінцам зноў ішла нейкая часць. Днела.

Праз хвілін дваццаць Валодзя Кастрыцкі ехаў гасцінцам у кірунку на ўсход сонца. Часці яго палка таксама ўжо рушылі. Усход ружавеў, цьмелі зоры. Пахла поле. Валодзя Кастрыцкі азірнуўся на хмызнякі, дзе ішла палявая дарога, якою ён нядаўна ўночы пад'ехаў быў да сваё хаты. Смутак заварушыўся ў ім, і ён ужо больш не азіраўся. Змрок разыходзіўся павольна, таксама павольна ўзыходзіла сонца. Шарэла неба, тухлі зоры, туман валокся над лагчынамі. Страшна ціха было ў полі, і шум вайсковых

часцей на гасцінцы яшчэ больш адценьваў цішыню ў полі. Так успрымаў усё ў гэтыя хвіліны Валодзя Кастрыцкі.

Знаю, ворон, твой обычай...—

грукнула некалькі соцень галасоў. Валодзя Кастрыцкі сам пачаў уцягвацца ў гэту песню. Нарэшце ён ужо спяваў разам з усімі. Сонца ўзышло, і прыдарожныя лясы заляцiлiся пад ім. Імкненне і ўзнятасць пачалі апаноўваць Валодзем Кастрыцкім. Усё асталося за ім, і ён ужо зноў быў у свеце таго, да чаго прывык: паход, людзі, шынельны пах, калыханне прымкнутых да вінтовак штыкоў. Неўзабаве ён пачуў, як чырвонаармеец на двуколцы граў на гармоні. Пакрысе ён адчуў нейкую прыхільнасць да Клавы Снацкай, якое раней ніколі не меў. Чамусьці ён верыў, што яна зробіць тое, што дакляравала.

Пра гэтую сваю дакларацыю Клава Снацкая не забыла. От як пачала яна той дзень. Больш ужо яна не магла заснуць. Ёй здавалася, што яна знайшла сапраўдную вялікую справу на свеце, дзеля якой варта жыць. Так яна расцаніла ўсё гэта. Яна адразу адчула сябе добра і вельмі прасторна ў цеснай шчыліне, у якой яна дагэтуль задыхалася ад бяздзейнасці. З тае хвіліны, калі яна, устаўшы рана, убачыла першага чалавека, яна пачала пагардліва глядзець на ўсіх: яна адна ведае, што трэба для чалавечага шчасця ў свеце, а ўсе іншыя, прынамсі большасць, на фальшывай дарозе.

Стрымліваючы нервовае жаданне не ісці, а бегчы, яна пайшла да хаты Валодзі Кастрыцкага. Ад карчмы ісці было кіламетраў тры. Гэта было тады, калі Валодзя Кастрыцкі быў ужо далёка ад карчмы, на тым месцы, дзе высокае месца пачынала сыходзіць у вялікую лагчыну. Адгэтуль, як праз туман, льга было заўважыць, калі пільна прыглядацца, цёмныя абрысы гарадка на захадзе. Яшчэ пяць крокаў — і гэтыя абрысы згінуць. Валодзя Кастрыцкі з нянавісцю глянуў на далягляд, як бы там ён убачыў прычыну ўсялякіх няшчасцяў. Ён пагнаў каня і больш не азіраўся.

Клаве Снацкай лепш відны былі абрысы гарадка. Яна з момант стаяла, чуючы ў сабе вялікую радасць цішыні і свае адзіноты і не зводзіла позірку з далёкай гарадской званіцы, ёй нават хацелася, каб там зазванілі — гэтыя знаёмыя гукі да рэшты б умацавалі ў ёй яе радасць.

Да хаты Кастрыцкіх яна падышла ціха. Дзверы былі незамкнёны, і яна моўчкі ўвайшла ў хату. Старая жанчы-

на сядзела на ўслоне і нават не азірнулася — мусіць, не чула, як стукнулі дзверы.

— Дзяндобры! — сказала Клава Снацкая.

Жанчына доўга ўглядалася, пасля запытала:

— Адкуль жа вы будзеце?

— З карчмы! — крыкнула Клава.

— Дык гэта вы дачка Амілі Снацкай, калі так?

— Але.

— Чаго ж вы прыйшлі?

— Я тут ішла і ўспомніла пра вас, што вы адны; можа, думаю, я вам памагла б што.

— А што ж вы мне паможаце. Каб вы маглі вайну спыніць і каб Валодзя вярнуўся або каб Веру з магілы падняць. (Клава стаяла збянтэжаная.) Вы кажаце, памагчы — ну што вы мне паможаце? Як гэта вы дадумаліся?

— Я бачыла Валодзю, ён мне сказаў, што вы адна, я і падумала...

— У вас добрая душа, але я і сама не ведаю, за што вам узяцца, каб мне памагчы. Не, я адна прывыкла... Гэта нейк не падыходзіць, каб вы мне памагалі... Ён паехаў, кінуў мяне адну, кажа, не вінават ён. Я яго і не вінаваціла, хіба я магу яго вінаваціць? Я, можа, зараз памру, а ён хіба не гарue, праз каторы час на вайне?!

Жанчына доўга гаварыла пра сваё замілаванне да Валодзі, пра тое, што ён гаруе. Клава стаяла доўга і не магла даслухаць да канца. Яна сказала, што яшчэ зойдзе, і выйшла з хаты. Яе душылі слёзы і прыкрасць. «Не хочуць мае дапамогі і мяне не разумеюць»,— крычалі на ўвесь свет яе зняважаныя пачуцці. І яна бязмэтна пайшла па дарозе. Але яна была ўпартая, і от яна ўжо вырашыла так: «Гэта жанчына сама не ведае, як ёй можа спатрэбіцца гэтакі блізкі чалавек, як я. І я памагу ёй».

На гасцінцы яна ўбачыла новыя чырвонаармейскія часці. Яна бачыла абарваных і галодных людзей, страшна стомленых, абпыленых, абветраных. Ёй хацелася расказаць ім пра свае пачуцці, і думала яна, што гэта на свеце самае важнае. «У такім людскім руху недзе Валодзя Кастрыцкі. Сёння ўночы ён кінуў адну сваю хворую маці. Чаму? Што яго прывязвае да той справы, за якую ён ваюе? Ён з Наталяю Паўлоўскаю часта гаварылі пра радасную чалавечую будучыню, пра вялікую справу пралетарскай рэвалюцыі. За шчасце людзей ваююць. Але ж ваююць, а ўсялякая вайна ёсць кроў. А кроў — гэта пакута. Ну от

гэты самы высокі чырвонаармеец. Цяжка жыў і цяпер, можа, загіне на вайне. Дык як ён пазнае тую будучыню? Ён цяпер жывы, пасля мёртвы — што яму будучыня, хоць сабе і ясная?» — так думала яна, ідучы да карчмы.

На карчомным ганку стаяла жанчына. Яна трымала ў руках заклееены канверт.

— Клавачка,— загаварыла жанчына,— пачытай, дачушка, мусіць, гэта ад майго Колі. Я цябе ўжо, можа, з паўгадзіны чакаю.

Жанчыніна слова «Коля» яе ўстрапянула. Яна прачытала ліст:

«Мама, я цяпер ад вас далёка. Мы адступаем, але мы вернемся назад. Як я хачу, каб наша часць выкіравалася на шлях бліжэй да дому, я хоць бы на хвіліну забег да вас. Так мне хочацца пабачыцца з усімі вамі. Мне сумна, але разам з тым і весела. Я быў каля самай Варшавы. Можа, зноў акупацыя займе нашу мясцовасць, але мы вернемся. Прывітанне ўсім. Цалую Вас моцна. Коля Высоцкі».

Клава сунула ліст жанчыне ў рукі і кінулася ў карчомную бакоўку. Як бы адчувала яна, што там будзе ёй радасць: на стале ляжаў і ёй ліст, напісаны таею ж самаю рукою. Яна рванула канверт гэтак, што парвала самы ліст.

«Клавачка,— чытала яна,— я прывык заўсёды быць у полі і ў лесе, але гэтая прывычка яшчэ больш мучыць мяне. Не думай, што я які баязлівец. Бачыш жа, я сам пайшоў у армію, хоць мог і не ісці — у мяне была з ваенкамата адтэрміноўка, як студэнту настаўніцкай семінарыі. Я мог афіцыяльна не ісці, але я пайшоў. Праўда, мяне падгаварыў на гэта Валодзя Кастрыцкі, але ўжо і без яго ў мяне з'яўляліся такія думкі. Клавачка, ты мяне адгаварвала, праўда, мала, але я і цябе мог паслухаць. Я хістаўся паміж Валодзем Кастрыцкім і табою. Але я рад, што цябе не паслухаў, а Кастрыцкага. Ён гаварыў праўду, але ў цябе добрыя пачуцці, і я вас пamірыў бы. Я ведаю, што вы недалюбліваеце адзін аднаго. Я люблю найбольш быць у дарозе — хоць цяжка ісці па шмат вёрст за адзін пераход, але — вялікая разрыўка. Каб хутчэй скончыць вайну, назаўсёды пабіць паноў і вярнуцца дадому. Там я перажываў дарагія мне моманты...»

Яна перарвала чытанне і задумалася. Як жывы, стаяў перад ёю Коля Высоцкі. Яна доўга не чытала рэшты таго ліста. Яна думала пра свайго друга Колю Высоцкага. Яна ведала, што гэты чалавек пайшоў у Чырвоную Армію

таму, што выканаў мабілізацыйны загад. Праўда, ён меў афіцыйнае права і не ісці, на гэта ў яго была паперка — ён вызваляўся як студэнт, але Валодзя Кастрыцкі адразу пасля адыходу акупацыі з'явіўся ў роднай мясцовасці на малы час і сказаў яму: «Коля, друг, ты хочаш ціха сабе слухаць у сваёй настаўніцкай семінарыі ўсялякую ерунду ад сваіх настаўнікаў тады, калі трэба ваяваць за рэвалюцыю? А ці ведаеш ты, што ваяваць за рэвалюцыю, гэта значыць праходзіць самую вышэйшую навуку ў свеце? Брыдка табе!» І Коля Высоцкі пайшоў назаўтра ж у ваенны камісарыят, а яшчэ праз дзень ён прыйшоў развітацца з Клаваю. Чаму яна лічыла яго за свайго друга? Ён не адкідаў ні яе мадонны над ложкам у сенцах, ні яе нянавісці да ўсяго, што ненавідзела яна. Ён ненавідзеў усялякі здзек, шанаваў і паважаў чалавечыя пакуты і слёзы і казаў: «Вялікая сімфонія свету — гэта цішыня. Бо калі б на хвіліну аддзяліцца ад зямлі і падняцца ў іншую сферу свету — што, апроч успамінаў, астанецца ад таго, што называецца чалавечымі клопатамі?» У той дзень, калі яны з Клаваю развіталіся, яны абое да самага вечара прасядзелі на беразе драбнюсенькае рачулкі, кіламетраў за два ад карчмы, спусціўшы босыя ногі ў ваду, і гаварылі на тэмы «аб космасе». Прычым, у хваляванні пазалеташняга багавіння на вадзе яны бачылі вечнасць. На след гэтай вечнасці яны трапілі, але не з таго боку. І гэта адзначыла пасля Наталя Паўлоўская, і гэта ўжо было праз чатырнаццаць год — у тысяча дзевяцьсот трыццаць чацвёртым годзе. Тады ж, развітваючыся ўвечары, Клава Снацкая сказала Колю Высоцкаму: «Ты адзін мяне разумееш. Я плачу над людскімі пакутамі. Свет і чалавечыя ўстанаўленні — гэта недарэчнасць».— «Ты таксама толькі адна мяне разумееш»,— адказаў ён.

І яго смактаў чарвяк за сэрца — ісці ў армію ці карыстацца студэнцкаю льготаю. Аднак жа ён пайшоў. Клава хадзіла сумная цэлы дзень, а пасля знайшла сабе ўцеху ў сумным сузіранні з'яў свету — разгляд травы пад вокнамі, жвіру на гасцінцы, ружовасці на захадзе.

Прачытаўшы ліст Колі Высоцкага, яна спусцілася на карчомны двор пашукаць сабе работы. Яна была поўна расчаравання пасля справы з маткаю Валодзі Кастрыцкага. Ёй трапіўся на вочы яе айчым, Сёмка Фартушнік. Яна з нянавісцю адвярнулася ад яго і з такім пачуццём прычакала вечара. Увечары яна стала сведкаю некаторых спраў,

якія праз шмат год выйшлі наверх і пралілі шмат святла на адну важную справу, вельмі важнае дачыненне да якой мела яна, Клава Снацкая. От што было ў той вечар.

Заходзіла сонца, але ўжо на самым захадзе яно сцьмела, і адвячорак спахмурнеў. З прыкарчомнага ляска мацней запахла грыбамі. Клава Снацкая пайшла паўз жоўты лясок да рачулкі. Там яна ўбачыла Мішу Пілipoўскага. Ён ірваў вяршкі сухой мятліцы і кідаў у ваду. На яго быў накінуты напапікі шынель, і твар быў заспаны і прыпухлы.

— Ваюеце? — с пагардай сказала Клава Снацкая.

— Адкуль вы ўзяліся?

— Усе адступаюць, а вы хочаце адны фронт стрымаць? — не пакідала яна кпіць, цьмяна здагадваючыся налконт замыслаў Мішы Піліпоўскага.

— Сёння ж уночы мы рушым. Трэба ж было даць людзям адпачыць.

Яны разам пайшлі назад, і яму было нядобра ісці поплеч яе і маўчаць. У яе з рук выпаў пучок нарванай мятліцы. Ён па-кавалерску падняў і даў ёй. Яна ветліва падзякавала, але праз крокаў пяць закінула мятліцу далёка ад дарогі.

— Мне трэба пайсці да сваіх людзей, даць загад аб выступленні сёння ўночы,— сказаў ён і адразу сышоў убок.

Яна не адказала і пайшла ў карчму. Нейкім інстынктам яна чула, што ніякага выступлення ўночы не будзе, і яна зларадна пачала наглядаць усё, што рабілася. Не спала яна, можна сказаць, усю тую ноч. Каля гадзіны дванаццатай ночы яна пачула, што Міша Піліпоўскі гаворыць дзесьці непадалёку ад карчмы. Яна патушыла агонь, неўзаметку адчыніла акно і пачала слухаць. Гаворка адбывалася за карчомным дваром.

— Я даў вам адпачыць,— гаварыў Міша Піліпоўскі.

— Нам не ясна,— адказваў голас, мусіць, чырвонаармейскі,— чаго ж мы стаім тут ужо другія суткі. Усе адступілі. Мы ж ішлі на перафарміраванне, а асталіся, каб нас забралі ў палон? Мы самыя апошнія асталіся. Ужо ўсе адышлі. Чаго нас трымалі?

— Зараз мы выступаем.

— Трэба было раней выступаць, чаго нас трымалі!

— Таварыш чырвонаармеец! Ты камандуеш ці я? Праз дваццаць хвілін выступаць!

Гаворка спынілася. Міша Піліпоўскі падаўся бліжэй да карчмы: яго постаць пачала цьмяна вырысоўвацца каля карчомных драўляных загарадзей. На гасцінцы было ціха і пуста. Але неўзабаве да Піліпоўскага хтосьці падышоў. Клава выразна гэта бачыла з свайго акна.

— Я казаў праз дваццаць хвілін выступаць,— пачула Клава голас Мішы Піліпоўскага.

— Таварыш камандзір,— пачуўся другі голас.— Я дагнаў бы роту, каб мяне адпусцілі. Мне дадому дваццаць вёрст. Каб я ведаў, што больш за суткі тут будзем стаяць — я раней бы папрасіўся ў вас.

— А з якой ты вёскі?

Чалавек назваў вёску.

— А, гэта ты, Цвірка? Дык слухай, Цвірка...

— Я не так, як той, што вы яго пусцілі ў горадзе пабачыцца з знаёмымі. Ён не вярнуўся.

— А скажы папраўдзе — сам не думаеш варочацца? Хочаш астацца дома? Я цябе навылёт бачу! Дык чаго ты пытаеш у мяне? Ты хочаш ачысціць сваё сумленне і адказнасць на мяне ўзваліць?

— Я вас ведаю, таварыш Піліпоўскі. Памятаеце, даўно ўжо вельмі, мы з бацькам везлі ў горад свінню прадаць, вы таксама з бацькам везлі, і мы разам папасваліся ў гэтай самай карчме.

— Я цябе таксама ведаю з таго часу. Чаму ты прыйшоў пытацца да мяне?

— Я проста хацеў не то што пытацца, але проста пагаварыць.

— Многа ў нас нашых землякоў?

— Чалавек з дзесяць з гэтай самай мясцовасці. А чалавек дзесяць крыху зводдалека, але таксама хацелі б схадзіць дадому, сваіх даведацца. Пасля роту дагналі б.

— Ты адвакат за ўсіх?

— Не, я проста так.

— Пасля дагоняць роту? Каго ж даганяць, калі ўсе пойдуць.

— Усе не пойдуць. Ну, шостая частка можа пайсці. У некаторых тут поблізу свае хутары — ну як жа не даведацца дадому — хоць дзень усмак сала паесці.

— Праз дваццаць хвілін выступаць, і больш я нічога не ведаю. Ідзі.

Няясна было сказана гэтае «Ідзі». Куды «ідзі»? Дадому, на свой хутар, ці сказаць чырвонаармейцам, што праз дваццаць хвілін выступаць?

Міша Піліпоўскі астаўся адзін. Клава бачыла, як ён падышоў яшчэ бліжэй да карчмы, пастаяў з хвіліну, пасля ўздзеў на рукавы шынель і вельмі шпаркім ходам падаўся пад тую самую рачулку, каля якой быў надвечар.

З гэтай хвіліны прайшло не то што дваццаць вызначаных хвілін! Прайшло, можа, дзве гадзіны і дваццаць хвілін, а чырвонаармейцы ў паход не выступалі. Чуўся ціхі шум ротнага лагера ў ляску, ціха гулі галасы. Нарэшце галасы чутны сталі мацней, пасля людзі выйшлі на дарогу. Густы бас гуў на ўсю разлегласць:

— Дзе камандзір? Згінуў, сукін сын! Падвёў нас, афіцэрская морда! Ён жа родам непадалёку адсюль. Дэзерцір! Рота, слухай маю каманду!

Клава чула, як была зроблена пераклічка і пасля той самы голас, пакуль скамандаваць выступаць у паход, крычаў і лаяўся:

— У дэзерціры паўцякалі, паршывая навалач!

Пасля ён скамандаваў паход, і навокал усё неўзабаве стала вельмі ціха. Ноч была цёмная. Усё было пуста. Да самай раніцы не чуваць было ніякіх гукаў. Як у мяшку ўсё было. Толькі гадзін за дзве да рассвітання з боку гарадка бухнула гармата. Вельмі можа быць, што ў гэты момант у гарадок увайшло польскае войска.

У гэтую ноч перад Клаваю паўставала здань француза Жуанвіля, афіцэра польскай арміі, штабнога прахадзімца, праз рукі якога праходзілі справы ўсялякіх канфіскацый: ён карміў польскую армію. Клаве здавалася, што ён неўзабаве зноў явіцца сюды. Пад дзень яна падышла да соннай маці. Сёмкі Фартушніка, яе айчыма, нідзе тут не было, яна яго тут цэлую ноч не бачыла.

— Мама,— сказала Клава,— ты ведаеш, нікога нідзе няма. Ужо бальшавікі адышлі ўсе.

— Чаму ты не спіш, Клава?

— Я яшчэ не лажылася. Мне страшна.

— Ляж са мною і спі.

Яны абняліся і так доўга ляжалі. Пасля Клава пачула, што хтосьці ходзіць па суседняй бакоўцы. Ціхом, каб не пабудзіць маці, яна злезла з ложка і глянула ў дзірку ад ключа ў дзвярах. Ёй добра відны былі шырока расстаўленыя ногі Мішы Піліпоўскага. Пасля яна пачула шэпт

Сёмкі Фартушніка: «Выйдзем сюды». Міша Піліпоўскі пайшоў, і ўсё стала ціха. Клава адчыніла дзверы і ўвайшла ў самы большы карчомны пакой. Адгэтуль дзверы выходзілі ў карчомныя сенцы. Там цяпер і былі Міша Піліпоўскі і Сёмка Фартушнік. Клава прыціснулася да дзвярэй і ўсё чула, што яны гаварылі. Міша Піліпоўскі гараячыўся часамі, Сёмка Фартушнік сваёй вытрыманасцю яго асаджваў. Гаворку пачаў Сёмка Фартушнік. Ён вельмі проста і адкрыта падышоў да справы і гэтай сваёй тактыкай адразу ўвёў у шчырую адкрытасць і Мішу Піліпоўскага.

— Вы мне сказалі, што пагаварыць хочаце? — сказаў ён.— Мы адзін аднаго ведаем, і нам няма чаго адзін перад адным гуляць у цацкі. Мы не дзеці. Я адразу здагадаўся, пра што вы хочаце гаварыць, як толькі вы мяне знайшлі на двары. Прызнацца — я сам вас чакаў, я ведаў, што вы недзе тут.

— Адкуль жа ты ведаў?

— Будзьце спакойны.

— Я спакоен, але мне цікава.

— А чаго ў вас ногі дрыжаць? Вам страшна? Я не ведаў, што вы такі баязлівец. Дык я табе скажу (Сёмка Фартушнік перайшоў на «ты») — я табе скажу — табе трэба спакойна жыць на свеце. Так ці не?

— Так.

— Бачыш, я чужое сэрца добра ведаю. А чаму ведаю? Не можаш сказаць? Дзівак ты, Міша Піліпоўскі,— я ведаю гэта таму, што кожны чалавек хоча спакойна і як найлепш жыць.

— Праўда.

— Табе трэба на мяне абаперціся. Ты кінуў сваю роту якраз тут з дзвюх прычын: першая — тут табе яшчэ далёка ад дому і ніхто з знаёмых гэтага не ведае. Другая прычына — гэта я! Я тут! Усё ж такі як-ніяк ты партыйны і гэтага не схаваеш. І ў адным гарадку, і ў другім — поблізу твайго дома — гэта кожны сабака ведае. Мала што ты быў у царскай арміі афіцэрам, пакуль разбяруць, то могуць пацягаць цябе. От ты пра мяне і падумаў.

— Не зусім пра цябе.

— Я ведаю, ты думаў пра Хурса, але пра яго можна думаць толькі праз мяне.

Сёмка Фартушнік зрабіў паўзу і дапытліва глянуў у вочы Мішу Піліпоўскаму. «Нікуды ты ад мяне не схава-

ешся, сам дагавары маю думку да канца»,— гаварыў гэты позірк.

— Я хацеў думаць пра Хурса праз Клаву,— схітрыў Піліпоўскі.

— А чаму ты сам не можаш пагаварыць з Хурсам?

— Ён мяне мала ведае.

— Ты праўду кажаш, перад такім магнатам лепш мець пасрэднікаў, хоць ты раз з ім і выпіваў за маім сталом.

У Клавы кіпела жаданне хапіць што самае першае патрапіцца пад рукі і растаўчы галовы аднаму і другому,— такая душыла яе злосць і нянавісць з таго моманту, як пачула яна ў гэтым згаворванні сваё імя.

— Ты з Клаваю не гавары,— сказаў Сёмка Фартушнік.— Гэта ж дзіця, ды яшчэ і шалёнае. Ты май справу са мною. Мы не дзеці, і мы абое разумеем жыццё. Дай руку. Твой бацька прывязе мне свінню?

— Прывязе.

— Давай сюды свой партыйны білет. Не рві яго і не кідай. Навошта псаваць тое, што здабыта? Я яго так схаваю, што ніякі чорт не дакапаецца. А калі ён табе спатрэбіцца,— будзь спакоен, я яго не з'ем.

Міша Піліпоўскі нерашуча палез у кішэню, дастаў штосьці і перадаў у рукі Сёмку Фартушніку. Той гаварыў:

— Барані божа, цябе б убачылі з білетам — каюк. Пакуль разабраліся б...

— Паслухай, Сёмка Фартушнік, ты бярэш усё на сябе? І ці ўпэўнены ты, што Хурс прыедзе? Ці не зманіў ты мне і тады, калі я запытаў быў цябе пра гэта, прывёўшы сюды роту?

— Будзь спакоен.

— Усё зробіш?

— Будзь спакоен.

— А адкуль ты ведаеш, што прыедзе Хурс?

— Будзь спакоен. Ён не можа не прыехаць.

— А калі не прыедзе?

— Будзь спакоен.

Клава пайшла назад. Можна сказаць — быў ужо дзень. Ён вельмі павольна цадзіўся праз шыбы, гэты хмурны дзень. Клава легла і неўзабаве заснула.

Міша Піліпоўскі ўвайшоў у той карчомны пакой, дзе стаяў вялікі стол і лавы. Ён сеў на стол і адзін астаўся сядзець з паўгадзіны, пасля выйшаў у сенцы — там ужо

спаў Сёмка Фартушнік на ложку. Міша Піліпоўскі выйшаў у стадолу — усюды было пуста і ціха. Ён заўважыў у далёкім куце стадолы салому, ушыўся ў яе так, што яго зусім не відаць стала, і адразу спакойна заснуў.

Выпарала яго адтуль Клава. Яна спала позна. Каля дванаццатай гадзіны дня яна прыйшла з мяшком узяць саломы, каб падаслаць карове. Скубянуўшы ахапак саломы, яна хапіла рукою з Піліпоўскага бот. Ён астаўся ляжаць, хоць і прачнуўся. Яна, не зважаючы, пачала набіраць салому і раскрыла яго ўсяго. Ён, збянтэжаны, падняўся — з прыпухлымі вачыма, увесь у пацярусе.

— Гэта вы? Я ж думала, што вы сваю роту даўно павялі.

— Яшчэ паспею,— жаваў ён словы, чырвоны, як бурак, не ведаючы, што б тут прыдумаць, каб схлусіць.

— Чаго вы хлусіце? Я ж ведаю, што вы асталіся.

— Няпраўда! — сашчаміў ён зубы.— А можа мне было заданне застацца да сённяшняга дня. Ведаеце вы гэта? Можа, я заданне сваё выканаў і зараз пайду даганяць армію.

— Але ж у вас і злосці поўны косці!

— А вы раззлаваць чалавека можаце!

— Напхайце ў мяшок саломы. От так. Тужэй, тужэй. А цяпер ідзіце за мною і падсцяліце карове!

Яна пастаяла ў дзвярах, пакуль ён вытрасаў у хляве салому, і, не дачакаўшыся канца, пайшла. У той дзень яна яго ўжо больш не бачыла. Яна ўжо і не старалася яго бачыць, ды яго і самога не відно было. Яе займалі іншыя думкі.

Гадзін за дзве да вечара яна пайшла да маці Валодзі Кастрыцкага. Там яна застала Наталю Паўлоўскую. Гэта было ёй так нечаспадзявана, што яна нават не адразу адчула сваё расчараванне ў тым, што не яна адна будзе выконваць абавязак дапамогі абязвечанай старасцю і жыццём жанчыне. Клава ўвайшла неспадзявана, без стуку. Каб гэты прыход раней заўважыла Наталя, яна, можа б, і пастаралася не папасціся ёй на вочы.

— Што вы тут робіце, Наталя?

— Валодзевае маткі даведалася. Я ж ведаю, што яна адна.

— Добра, Наталька, зрабіла,— абазвалася старая з пасцелі.

Клава адчула расчараванне і зайздрасць да Наталі: пра яе гэтак старая не гаварыла, а яна ж таксама прыходзіла да яе.

— У вас таксама добрае сэрца,— зноў загаварыла старая і ўжо цяпер да Клавы,— гэтак ж вы прыходзілі? Я вас з голасу цяпер пазнала.

Клавін твар радасна зачырванеўся. Яна сказала да Наталі:

— Праўда, я заходзіла. Вы ведаеце? Мяне сам Валодзя прасіў пра гэта.

— Гэта вас Валодзя прасіў? — устрапянулася старая.— А я ж пра яго нядобра думала, што ён забыўся пра мяне. Божа мой, як ён пра мяне думае і якія вы ўсе добрыя! Валодзя абы-каго не будзе прасіць, я ведаю. Мае вы дзеці, і ты, Наталька, добрая, ты пра мяне ўспомніла... А мне з поўдня горш стала. Занудзілася па Валодзю і зусім аслабела. Не ведаю, як я астануся адна.

— Я ж і прыйшла, каб з вамі астацца! — аж гукнула Клава.

Наталя з матчыным пачуццем глядзела на Клаву, не адчуваючы да яе нічога такога нядобрага, як гаварыў пра яе Валодзя.

— А я вас даўно не бачыла, Наталя.

— Я вас таксама, Клава.

— Вы тут будзеце начаваць?

— Мусіць, не, пайду дадому.

Клаве гэта і трэба было. Яна баялася, што Наталя можа застацца і яе місія не здзейсніцца. Наталя ж у гэты момант не ведала, што ёй рабіць. Яна хацела тут астацца на некалькі дзён, але цяпер пра гэта нельга было і думаць — пабочны чалавек ужо бачыў яе тут. Такім парадкам, ёй трэба было рушыць у дарогу, на ўсход, у далёкі гарадок, перастуляўшыся дзе-небудзь тут дзён чатыры. Ёй трэба было астацца тут на некалькі дзён. Перад тым як пайсці, яна разгаварылася з Клаваю:

— Вас, значыцца, Валодзя прасіў?

— Прасіў, і я вельмі рада.

— Вы з Валодзем не дружылі?

— Гэта нічога не мае да гэтай справы. Людзям трэба памагаць у няшчасці.

— Усім?

— Я ведаю, пра што вы гаворыце. Заядламу ворагу я, можа б, і не памагала... Але ж вораг у няшчасці, калі

ён, скажам, памірае, ён ужо не вораг... Не, пачакайце... Ёсць такія, што, каб нават і ўміраў, я не памагла б. Ёсць на свеце такія справы, якія на век вечны не даруюцца.

Наталя нехаця выйшла з хаты. Куды ёй было ісці? Назад, у гарадок варочацца? Яна раздумвала, стоячы на панадворку. Пабыўшы тут некалькі дзён, ёй тады можна будзе хоць назаўсёды пакінуць гэтую мясцовасць. Хоць цераз фронт перабрацца тады, на ўсход, хоць да Масквы рушыць. Але цяпер! І яна адважылася: пайшла назад у хату і заявіла, што дзень меркне — цёмна, пуста, час такі, будзе начаваць — баіцца ісці адна ў горад. Клава да гэтага аднеслася з абыякавасцю, старая ўзрадавалася:

— Хоць адну ноч я буду з добрымі людзямі. Я вельмі аслабела.

— Мы ж з Клаваю вас не пакінем... Толькі ў сенцах або дзе на саломе я спаць буду ў вас...

— Восень, холадна.

— Я не прывыкла ў гэткую пару спаць у хаце.

Яна выйшла «прайсціся». Падышла дарогаю ў хмызняках аж пад гасцінец і слухала.

Усё было ціха і пуста. Ноч надыходзіла шпарка. Неба навісала, але было суха. Наталя доўга стаяла пры гасцінцы. Ніхто не прайшоў і не праехаў. Напроці яе цераз гасцінец вырысоўваліся чорныя абрысы карчмы. У адным акне слаба цьмела святло — свечка ці газоўка? Паўз гэтае акно, знадворку, шатнулася высокая постаць. Яна спынілася каля карчомнага ганка, пасля падалася на карчомны двор. Наталя не ведала, што гэта Міша Піліпоўскі, колішні яе знаёмы, соўгаецца з кута ў кут, чакаючы, каб хутчэй прыехаў Хурс. Наталя пачакала, пакуль высокая постаць схавалася па той бок карчмы, і пайшла абочынаю гасцінца. Яна прайшла, можа, кіламетраў пяць і пасля пайшла назад. З аднаго боку гасцінца ціха стаялі хмызнякі, з другога ў адным месцы свяцілася агнямі вёска — кіламетраў за чатыры ад карчмы. Бясхмарнасць думак была ў Наталі. Яна адчувала сябе гэтак, як быццам бы яна мела ўладу над усёю гэтаю мясцовасцю. Яна чула, як у вясковай хаце, крайняй ад гасцінца, плакала дзіця, як пасля там жа кашляў чалавек. Гэта ўсё было прывычнае і кожнадзённае. Гэтая кожнадзённасць чулася Наталі і ў тым стане, у якім яна была цяпер: так нават усялякая навіна ў жыцці паказвалася ёй адразу ж сваім строгім тварам. Вярнуўшыся назад пад карчму і ўзышоўшы на бакавую дарогу,

Наталя пачула на гасцінцы стук капытоў, звон жалеза і чалавечыя галасы. Яна прыслухалася і разабрала польскую мову. Мясцовасць займаў атрад польскай кавалерыі. Яна пайшла шпарчэй і неўзабаве падышла да хаты, з якой нядаўна выйшла. Там яна застала Клаву ў клопаце: Валодзевай маці стала горш. Яна скардзілася на боль у грудзях і на яшчэ большую слабасць. Наталя выразна ўбачыла, што з гэтай хвіліны пачалася Клавіна рамантыка: цяпер справа ішла аб выразнай рабоце. Трэба было падцягнуць хворую вышэй, ведаць, з якога боку за гэта ўзяцца. І як была Клава рада, што прыйшла Наталя! Пасля Наталя сказала, што яшчэ звечара бачыла на гасцінцы польскую кавалерыю. Клава на гэта нічога не адказала і яшчэ больш унурылася.

— Вам бы, можа, схадзіць дадому, Клава. Хоць паказацца, а то вас шукаць яшчэ гатовы.

— А вы тут пабудзеце?

— Пабуду. Толькі вы ані слова нікому, што я тут. Ведаеце чаму? Валодзя Кастрыцкі камуніст, ён прыпаручыў вам сваю маці, і я — дачка Паўлоўскага — тут... Ведаеце? Я і так баюся з-за бацькі, хоць я з ім нічога агульнага і не маю, я нават і не жыла з ім. Усё ж такі пакуль навокал паспакайнее, увойдзе ў берагі...

— Я ўсё сама ведаю. Я буду маўчаць як магіла. Можа, я нават больш за каго жыццё ведаю... Я не дзіця...

Наталя паклала ёй руку на плячо і правяла аж да дарогі.

— Скора прыходзьце,— сказала яна,— я, можа, дадому пайду.

І падумала: «як бы там ні было, хоць ёй і можна верыць, што яна будзе, як магіла, усё ж такі няхай будзе на воку. А мне абы перабыць тут яшчэ некалькі дзён».

Клава пайшла дадому. Яна бачыла на гасцінцы рух польскага войска. І не толькі на гасцінцы. За некалькі кіламетраў ад карчмы на поўдзень відны былі рухавыя людзі. Яны здалёк былі малыя, як мурашкі, і зялёныя ад свайго абмундзіравання. Клава шпарка перабегла ўпоперак гасцінец і апынулася дома, думаючы доўга тут не чакаць і ісці назад. Але гэта ёй у той дзень не ўдалося: каля карчмы стаяў польскі легіянер на варце і яе не пусціў. Так яна прычакала вечара, трымаючыся блізка каля свае маці і разам з ёю чагосьці баючыся. Так прайшла і ноч. За гэтыя суткі шмат польскага войска прайшло тут.

Яна была вельмі рада, што там асталася Наталя. На другі дзень вартавога легіянера каля карчмы не было. Яна хацела ўжо ісці туды. Дзесьці далёка чуўся на гасцінцы аўтамабіль. Яна пачакала і пазнала. На машыне сядзеў Хурс у цывільнай адзежы, як і заўсёды, і два-тры польскія вайскоўцы. Аўтамабіль прамчаўся паўз карчму і цераз паўкіламетра завярнуў налева з гасцінца, на палявую дарогу. Клава паволі ўвайшла ў дом, пацалавала сваю маці і пайшла туды, дзе была Наталя. Яна не бачыла, што з-за вугла карчмы адпачасова з ёю глядзеў на Хурсаў аўтамабіль Сёмка Фартушнік. Як толькі аўтамабіль ад'ехаў, Сёмка Фартушнік пабег у далёкі кут карчомнага двара. За трухлявую сцяною, пад невялікім стогам саломы, ён абмацаў Мішу Пліпоўскага.

— Хурс! — гукнуў Сёмка Фартушнік, трасучы Піліпоўскага за калена.

Міша Піліпоўскі бачыў, як раптам змяніўся гэты чалавек. Дзе дзелася яго хітрая вытрыманасць!

— Хурс! — яшчэ раз гукнуў Сёмка Фартушнік.

## II

Яшчэ і да гэтых апошніх год захавалася была на павароце прысад у дробны гарадок старасвецкая будыніна: нізкая і доўгая хата, на шэсць акон у сцяне. Замест сянец да яе была прыбудавана велізарная стадола, гарбатая і высокая напроці хаты, як вярблюд ля авечкі, так што здавалася, што хата ёсць дадатак да стадолы. Уся гэта надобіна калісьці накрыта была гонтамі. У часы вайны і рэвалюцыі, калі пад гэтым дахам перавярнулася безь дань усялякага народу — каб траха, дык з усёй Еўропы, з усходу і захаду,— у дажджы вада лілася праз гэты дах неміласэрна. Не памагаў і цвёрды мох, з-пад якога саміх гонтаў ужо шмат год не відаць было. Гаспадар, ратуючыся ад вады, накрыў хату саломаю пад колас, а стадолу пакінуў так дагніваць свой век. Да вайны з палякамі дах на стадоле зусім ужо згніў і праваліўся. Тырчэлі толькі, як павыварочаныя рэбры, некалькі крокваў, дах спусціўся ніжэй сцен, стварыўшы ў стадоле як бы столь, няроўную і дзіравую.

Дзе стаяла гэтая карчма — было самае высокае месца тут. Гэта не быў узгорак з крутым якім-небудзь уз'ездам на яго. Уся мясцовасць як бы сыходзілася тут угару, па-

крысе і неўзаметку. Адгэтуль разлегласць воку была вялікая. Проста па прысадах на захад ледзь тумаліліся абрысы дробнага гарадка. На ўсход таксама быў гарадок, але да яго было ўтройчы далей, як да першага, кіламетраў пяцьдзесят. На поўнач ішлі лясы, а на поўдзень мясцовасць была чыстая, зусім адкрытая.

Калі дзьмуў вецер з поўначы, тут заўсёды пахла смалою, ішоў здаровы лясны імпэт. Нават чуўся роўны шум хваёвых вершалін. Блізкая вёска была ад карчмы кіламетраў з чатыры. Гасцінец паўз карчму быў адзіны шлях зносін паміж гарадкамі, чыгунка была далёка. Так што на гасцінцы раз-пораз ляскацелі колы. Гасцінец жыў, але павольна, задуменна, як старасвецкі гаспадар, які ўпэўнены, што ўсё будзе гэтакае, якое было і дагэтуль.

Зямля навокал была ўрадлівая, такая была ўся мясцовасць паміж гарадкамі. Парабкоў тут было многа, бо фальваркі і маёнткі былі багатыя.

Па гасцінцы часта чуваць быў свінячы крык: тут звозілі на бліжэйшую чыгуначную станцыю за гарадком на захадзе кормныя свінні з усёй акругі. Адтуль гэта жывое сала ішло на Варшаву, а адтуль ужо лепшыя гатункі ў Нямеччыну і, нават, здаецца, далей. Свінні тут пладзіліся і карміліся добра, а каля іх выгадаваўся і забагацеў іхні ж, свінячы, перакупшчык — Хурс («пане Хурс»), чалавек высокі, чарнявы, драбнатвары. Вельмі забагацеў на свіннях Хурс у вялікую вайну, на вайне ён зарабіў: цераз яго рукі свінні з усяе акругі пайшлі ў рускую армію. Жыў ён у гарадку на захадзе ад карчмы, і карчма пад сваёй столлю часта яго бачыла.

Калі ён толькі яшчэ пачынаў багацець і шукаў багацця, яшчэ да вайны, прыстаў у прымы да паўпанскага фальварковага пакідзішча — да старой паненкі — худой, касцістай і буркліваай ведзьмы. І такім парадкам стаў ён гаспадар фальварка.

Навокал у маёнтках курыліся бровары. У гарадку быў вялікі завод, дзе пераганяўся і ачышчаўся спірытус з усіх навакольных бравароў. Можна сказаць, цераз кожныя тры дні на чацвёрты гасцінцам у гарадок грукацеў абоз з неачышчаным спірытусам. Абозная папаска заўсёды была ў карчме на гасцінцы.

Ганка ў карчме не было. Проста ляжаў пад парогам сапсаваны камень з ветрака. Прызба па самыя вокны зарасла была лебядою і лопухам. За хатаю быў агарод, а

перад хатаю да самага гасцінца (крокаў з трыццаць) буяў спарыш і трыпутнік. Карчомны рух найбольш быў у стадоле і перад ёю. Там трава не расла. Зямля выцярушана была гноем, саломаю і сенам. Быў тут і кірмашны водыр: тхнула сенам, дзёгцем і гноем. Начамі, калі было ціха, чуваць тут быў грукат вадзякоў. Іх было некалькі на дробных рэчках на захадзе пад гарадок. З усяго наваколля яны перамолвалі жыта і належалі Хурсу. Ён іх паскупліваў у розных паноў і фальваркоўцаў. Хоць сам Хурс быў бітая штука, праныра на вялікіх маштабах, аднак жа само жыццё вучыла яго млынароў красці з-пад сучкі яйца. Хітры і ўвішны чалавек, дзе-небудзь збоку завёўшы гешэфт з млынарамі, мог жывіцца. А без такога чалавека і самі млынары не маглі абысціся. Таксама без яго не маглі абыходзіцца і вінакуры ў маёнтках, і Хурсавы падручныя скупшчыкі свіней. Бывае, напрыклад, здарэнне, што з вялікага гурта купленых свіней пара самых сыцейшых захварэе або як-небудзь скалечыцца. Трэба як мага хутчэй везці свінні на станцыю, дарога вялікая, а тут гэтую хворую пару хоць сярод дарогі кідай, бо от-от здохне. Вядома, лепш жа прадаць, хоць за бесцань, чым кідаць сабакам падлу. Ды і патрэбен гэтакі чалавек, каб адразу мог купіць. Вядома, гэты чалавек павінен ужо ведаць наперад, у які дзень і ў якім месцы на гасцінцы захварэе свіння і па колькі пудоў вагою яна будзе. Але ўмеючы жыць на свеце, можна ўсё гэта ведаць і за паўгода наперад. Трэба адно варушыцца на свеце, не спаць у шапку, знацца з людзьмі і як найшырэй, добра ведаць кожнага чалавека натуру, дагадзіць каму трэба, а каму не трэба, дык можна і не дагаджаць, нават пашкодзіць.

І от гэтакі падручны ўсім чалавек быў Сёмка Фартушнік — несусветная праныра, увішны, як чорт. Сёмку Фартушніку належала карчма на гасцінцы. Карчма гэтая дайшла да свайго канчатковага занападу, калі была вайна з белапалякамі. Сёмка Фартушнік асеў тут перад пачаткам імперыялістычнай вайны. Родам ён быў з гарадка, і сын ён быў радавітага сальпіка. З малых дзён сядзеў ён у бацькоўскай сальпай крамцы на гарадскім рынку. Кажуць, што вялікаму караблю — вялікае і плаванне. Дык Сёмка Фартушнік, як узбуяў добра, не стаў вялікі карабель. На вялікую глыбіню ён нырца ніколі не даў, меў дробны ход. Ён быў увішны, як чорт, але гэта трэба

разумець умоўна. Увішны-то ўвішны, але калі браць на маштабы, дык напроці яго Хурс, напрыклад, быў увішны не як чорт, а як сам старшыня ўсяго чартоўскага кодлішча.

Сёмка Фартушнік выбіваўся ў людзі з бруднай і цеснай бацькоўскай крамкі. Спачатку ён вучыўся. Бацька марыў вывесці яго за якога-небудзь адваката ці хоць за якога-небудзь пісара, павятовага закуліснага заправілу.

Бацька ўмасціў яго ў гімназію. Але тут ён павучыўся ўсяго паўгода: быў нейкі царскі дзень, па ўсім гарадку вывешаны былі трохкаляровыя сцягі Расійскай імперыі. На самай людпай вуліцы Сёмка дадумаўся зрабіць штуку. Ён нацэліўся з гумавай пускалкі каменьчыкам у царскі сцяг. Цалок ён быў някепскі, каменьчык даўся ў сцяг, звярнуў яго набок і рыкашэтам уляцеў праз шыбу ў нейкую павятовую канцылярыю. Паліцэйскі хапіў свавольніка за каўнер, і пачалася гісторыя. Па-першае, яго выкінулі з вучылішча, па-другое, гэта надоўга парушыла спакой у сям'і. На Сёмку сталі глядзець крыва, маці аплаквала загубленую сынаву кар'еру. Бацька тады пачаў як мае быць прывучаць сына да сальнай справы, думаючы ўтлумачыць сыну і на практыцы прышчапіць яму гандлярскую дыпламатыю, каб пасля ён мог павялічыць маштабы свайго фамільнага таленту. Але Сёмка не мірыўся з гэтым. Ён пацёрся ў вучылішчы сярод падпанскіх і так сабе панаватых сынкоў. Пасля — ён бачыў, як старэйшае пакаленне гэтых «сынкоў» выходзіла ў людзі: мешчанчукі і падпанкі выходзілі за чыноўнікаў, зіхацелі гузікамі і цэшкамі. Такая ж доля рыхтавалася і тым яго таварышам, якіх ён пакінуў у вучылішчы. А бацькоўская крамка смярдзела і ліпла брудам. Трэба было перарасці якнебудзь гэтую справу. І Сёмка Фартушнік пачаў кідацца па свеце. Ён спрабаваў зрабіць некалькі дробных (па сваёй кішэні і гадах) спекуляцый, падаўся для гэтага ў іншыя гарадкі. Справа ў яго пачала крыху ладзіцца, але аднойчы, калі трэба было вырашыць нейкі закручасты ход, не хапіла ў яго дыпламатычнай спрактыкаванасці, і ўсё ў адзін дзень ляснула марна. Ён вярнуўся ў свой гарадок і пачаў спачатку.

Малады Сёмка сфармаваўся ў прыгожага юнака. Адзяваўся гэты белатвары кучаравы малады чалавек па модзе. Любіў пярсцёнкі і залатыя гадзіннікі. У сваім жа гарадку, занадта нешта рана, перажыў ён быў ужо два

ці тры раманы з жанкамі немалых павятовых чыноўнікаў — і поспех гэты меў пад сабою тую прычыну, што хлапец быў вельмі прыгожы, страшна ў гусце тых жанчын, да якіх ён меў дачыненне. Ды і сам быў хлопец не промах.

Чалавек гэты ўжо з самых маладых год сваіх меў як бы два аблічча: кожны дзень ён быў заклапочаны і, здаецца, аніяк не браў на ўвагу ўсё, што не яго справа. Людзей, яму непатрэбных у яго справе, ён не заўважаў. Ён тады пачаў ужо прывыкаць да неахайнасці. Пінжак яго быў абсыпаны мукой, калені ў нагавіцах у гліне ці ў пяску — як бы ён дзесьці на двары стаяў на каленях. Боты былі — дык адна халява падцягнена да калена, другая сціснута ўніз.

Але былі дні святыя ці так вольныя яму. Тады яго не пазнаць было. Ён быў у дарагім гарнітуры, і гарнітур гэты сядзеў на ім вельмі спрытна. Пярсцёнак, залаты ланцужок ад гадзінніка, капялюш. Самы прыгожы і франтаваты юнак на ўвесь гарадок быў тады Сёмка Фартушнік. Зусім гэта не быў той чалавек, што круціўся каля смярдзючай крамкі.

Гэтыя два аблічча як бы не маглі ўжыцца ў чалавеку разам. Калі панавала адно, не было і адзнакі другога. Тут было штосьці падобнае да змагання. І пасля адно аблічча зусім перамагло другое. Гэта было ўжо тады, калі Сёмка Фартушнік узбіўся на адну простую дарогу, прайшоўшы першыя няпэўныя сцежкі ў пошуках гэтай дарогі. Час гэтаму — яшчэ да імперыялістычнай вайны. Тады ўжо ён пачаў проста вызначацца гэтакі, які быў у вайну і рэвалюцыю. Але пакуль гэта было, ён зрабіў у сваім жыцці адзін важны крок, цікавы для насельніцтва гэтага гарадка. На гэты ўчынак ён пайшоў таму, што пачаў ужо тады біцца, як муха ў павуціне: яму стала ясна, што ў вялікія маштабы выйсці так проста не ўдасца, бо тут, наогул, у цэлай мясцовасці, не было вялікіх маштабаў. Самы большы маштаб загроб сабе ў рукі Хурс. А дзе больш тут такія маштабы? Пасля, часамі адумаўшыся, ён шкадаваў, што проста не выехаў з гэтага закутка кудынебудзь у вялікі горад, там знайшоўся б і размах, якога ён прагнуў. Але тады ўжо было позна пра гэта думаць. А яшчэ далей, пастарэўшы, ён ужо як мае быць асеў на сваёй дарозе; бунтоўны неспакой, што ішоў з юнацкіх год, сплыў на век вечны. І астаўся чалавек суцэльны і

ўпэўнены ў праўдзе свайго жыцця. А над жыццём гэтым стаў гаспадарыць Хурс.

Хурс, калі яшчэ не прыставаў у свае фальваркоўскія прымы, меў сабе ў гарадку маладую жанчыну, Амілю Снацкую. Калі між ёю і Хурсам пайшлі інтымныя дачыненні, ёй было год васемнаццаць. Тады Хурс быў зусім яшчэ дробны свіны купчык і, казалі, меўся браць сваю прыгожую Амілю замуж. Яна была дачка нейкага садавода, які, уміраючы, нічога ёй не пакінуў, апроч малюсенькага дамка, хутчэй хаты, на пяць акон кругом ва ўсіх сценах. У гэтым дамку Хурс шмат сваіх маладых дзён прасядзеў і начэй пераначаваў. Якраз у той час, калі яго свіны гандаль пайшоў шырэй і ён намерыўся падгрэбці сабе ў пасаг за старою паненкаю фальварак, Аміля Снацкая нарадзіла дачку. Хоць дзіця і было на яго падобнае, аднак жа ў яго былі даволі паважныя меркаванні, каб цяпер ужо не звязвацца навек з Аміляю: яна, беспасажная, не магла пашырыць яго купецкіх маштабаў, а ён сама што пачаў іх разгортваць. Аміля не пагадзілася моўчкі з сваёй такою доляй. Яна перш за ўсё разведала пра ўсе яго планы. Прыціснуты да сцяны, ён прызнаўся. І каб хоць чым-небудзь пацешыць яе, ён выказаў думку, што фальварковая паненка, якую ён возьме замуж, старая і, напэўна, не пажыве доўга, а ён толькі гэтага і чакаць будзе, каб ужо тады павянчацца з ёю, з Аміляю. Аміля нават не даслухала да канца гэтай споведзі. (Можа быць, у гэтай споведзі гучэлі і сапраўды шчырыя ноткі ў дачыненні да Амілі. А гэта было яшчэ горш.) Аміля, як каршак, кінулася да Хурса і, скурчыўшы пальцы, хапіла яго за твар. Каб траха, дык яна яму вырвала б вочы. Ён, адарваўшы яе ад сябе, уцёк. Цераз дзень ён прыслаў ёй канверт з грашыма і ліст, у якім пісаў, што купіў ёй тут жа ў гарадку двухпавярховы дамок. Першы паверх арандуецца пад аптэку, а ў другім паверсе ёсць кватэра, дзе кватаруе сям'я. З домам яна можа рабіць, што сама захоча. Як бы там ні было, прыбыткаў з дома павінна хапіць ёй на пражыццё. У канцы ліста ён упікаў яе, што ў яе чэрствае сэрца і яна не разумее яго, што яго ўчынкі не залежалі ад яго добрай волі, а ад спраў, камандаваць якімі яго паставіла само жыццё. І калі яна такая, дык можа сабе ісці замуж за каго хоча. (Тут быў намёк, што цяпер яна ўжо мае пасаг — двухпавярховы дом.) Ліст канчаўся лірыкай: хоць яна і пойдзе замуж, ён усё адно не забудзе яе і заў-

сёды рад будзе сустракацца з ёю. Нават ён хацеў бы, каб усё гэтак добра, шчыра, весела і гладка было.

Аміля Снацкая добра разумела, што яна адна з прыгожых жанчын у гарадку. І ад гэтага крыўда яе была яшчэ большая. Яна была высокая ростам, белатварая, з густымі белымі валасамі. Не маючы за што спраўляць дарагое адзенне, яна ўладала ўмельствам нават у простае адзенне адзявацца гэтак, што магла задаваць нават тон. Яна асталася жыць у сваім малюсенькім бацькоўскім дамку і там гадавала сваю дачку. Адразу ж яна заявіла, што ніколі не пойдзе замуж, што ўсялякага мужчыну будзе гнаць ад сябе, што яна дзякуе богу, што ў яе нарадзілася дачка, а не сын. Справа шумела на ўвесь гарадок, але калі доўга есці адну і тую ж патраву, хоць сабе і найсмачнейшую, дык яна нават і ласуну надакучыць. Праз гады чатыры ўсё пайшло ў арсенал мінуўшчыны, а сама Аміля Снацкая набыла рэпутацыю ганарыстай і недаступнай жанчыны, зусім адзінокай і рэлігійнай. Некаторыя, праўда, не верылі ў яе рэлігійнасць, гаварылі, што гэта проста ад таго ж самага гонару да ўсяго гарадка. Яе ў гарадку пэўныя колы пачалі не любіць: ведаюць жа ўсю яе справу, бачылі яе навылёт, а разам з тым яна проста-такі не заўважае іх, ідучы па вуліцы. І пакрысе грамадская думка змянілася. Калі раней ёй спачувалі, лічылі яе нявіннай ахвярай гада Хурса, дык цяпер наадварот — яна была ва ўсім вінавата, а Хурс зрабіўся раптам нявінны анёлак. Так прайшло яшчэ год пяць ці шэсць. Хурс паспеў вырасці ў добрага свінячага купца. І от у гэтыя часы было аднойчы такое здарэнне.

Заходзіла сонца. Званілі ў касцёле. Пад вокнамі ў Амілі Снацкай сохлі восеньскія кветкі. Журботны дзень праходзіў так, як і ўсе дні — усе яны, як адзін. Дзве ці тры кабеціны сядзелі ў Амілі Снацкай і ціха ўздыхалі: што ж можна рабіць у такі час у гэтай жанчыны, якая мае двухпавярховы дом, маладая, прыгожая. Кожнай з гэтых баб хацелася больш за ўсіх увайсці ў Аміліна давер'е, бо гэта быў тавар, які можна было ўсватаць шмат каму і мець ад гэтага нейкі заработак. З некаторых часоў падобныя бабы пачалі, як назола, церціся ля Амілі Снацкай. Яна глядзела на іх звысоку, але даволі блізка падпускала да сябе: у той меры, як праходзіў час, праходзіла і атаясамліванне ўсіх мужчын з Хурсам.

Раптам у дом явіўся малады чалавек. Ён зіхацеў пярсцёнкамі і на камізэльцы ланцужком ад гадзінніка. Бабы адна за адной пахаваліся ў бакоўку і там панатапырвалі вушы.

— Фартушынскі,— адрэкамендаваўся малады чалавек.

«Які ты к чорту Фартушынскі,— вельмі выразна прачытаў малады чалавек у сціснутых крыху пагардліва губах Амілі Снацкай,— ніякі ты не Фартушынскі, а проста Фартушнік, ды яшчэ і Сёмка, цябе ж усе як лупленага ведаюць. Дзе быў твой гэты форс, калі ты зранку чуцен быў на ўвесь рынак, пешта перапрадаючы».

— Фартушынскі,— пачаў апраўдвацца малады чалавек.— У гэтай глушы чортам могуць абазваць чалавека! Тут у метрыку не глядзяць.

І ён засмяяўся вельмі выразна. Усмешка была яму да твару.

— Мне ўсё роўна, Фартушынскі вы ці Фартушнік.

Хоць яна і сказала гэта, але ўсё ж твар яе па-дзявочаму заружовіўся.

— Дазвольце адразу да справы. Ваш двухпавярховы дом вы занадта танна выпускаеце.

Яна паціснула плячыма: можа, і танна, але пры чым тут ты?

— Я вам дам даражэй, здайце яго ў арэнду мне.

— Там жа жывуць людзі. Палова дома арандуецца пад аптэку.

— Тэрміны арэнды канчаюцца.

«Можа, і канчаюцца, але адкуль ты ўсё ўведаў»,— думала яна з пагардай.

— Я сам пацікавіўся ў аптэкара. Ведаеце, што...

І ён пачаў гаварыць. Гэта было залатое слова, як першае зерне з-пад арфы. Тут была і агіда да такога абармота, як аптэкар, і практычнасць сумленнага чалавека, які ніколі не пойдзе на тое, каб пакрыўдзіць і ашукаць каго-небудзь, а тым больш жанчыну (здаецца, выразны намёк!) — «але што з гэтага дома, умеючы, можна больш мець прыбытку, дык гэта ясна як божы дзень». У яго гаворцы была і жальба аб людзях, слабых і непрактычных, і свядомасць уласнае практычнасці і просталінейнасці. «Я люблю ўсё проста казаць». Гаворка яго перамешвалася з чыста бацькоўскімі ласкавымі зваротамі да Амілінай дачкі Клавы, з пагладжваннем яе па галоўцы. Часам у

гаворку ўкліньвалася заўвага аб тым, што кветнік перад вокнамі не дагледжан і двор запушчан; часам ішла хвілін пяць тэма аб ружовасці неба на захадзе сонца («так і плыве такая ружовасць, а на зямлі ціха...»). Ён быў далікатны, практычны, вясёлы, развязны, нават з адзнакамі паэтычнасці. Яна пачала даваць згоду выпусціць яму дом, але ён сумысля не скончыў справы.

Канчаць справу ён прыйшоў назаўтра, але пра яе гаварыў мала: знайшліся іншыя тэмы. Так ён пачаў прыходзіць усё часцей, а справа з домам усё не канчалася. Ён вёў сваю справу з умельствам. Часам ён, дзеля эксперымента, не прыходзіў некалькі дзён. Аміля Снацкая тады пачала пакрысе нават упікаць яго, што ён доўга не паказваецца. Так ён даводзіў справу да канца, а гэта ўжо не была тая справа з домам. (Дом тут, праўда, граў вялікую ролю.)

І от нарэшце справа была даведзена да канца. Вынікі адразу ўвесь горад і ўбачыў. Гэта было ўжо зімою. Быў мароз, і снег блішчэў на сонцы. У кароткім, да кален, футэрку, з кенгуравым каўняром, у каракулевай шапцы і глянсаваных ботах з галошамі, Сёмка Фартушнік вёў пад руку Амілю Снацкую. Твары іх ружавелі ад марозу: абое былі вясёлыя. Яна, здавалася, уся змянілася. Дзе дзелася яе панурасць апошніх год. Яна бесперастанку шчабятала, як ластаўка. Сёмка Фартушнік трымаў сталы выгляд, але даволі было бліжэй глянуць яму ў вочы, каб убачыць, што гэты чалавек шчаслівы ад гладка зробленай справы.

Была ў той дзень нядзеля і званілі ў царкве. Няважна, ці хадзіў калі Сёмка Фартушнік дагэтуль у царкву. Важна тое, што ён цяпер павёў Амілю Снацкую ў касцёл. З гэтага дня і да самай вясны ён не прапусціў ніводнай касцельнай імшы. Найбольш ён прыходзіў адзін, але станавіўся там, адкуль Аміля Снацкая магла заўважыць, што ён у касцёле. Яна зразумела ўсё так, як бачыла, а ён выявіў якраз надзвычайную прыхільнасць да яе ідэалаў. І от, увесну, па ўсім гарадку, як з перуна ляснула: Сёмка Фартушнік прымае каталіцтва і бярэ замуж Амілю Снацкую. Саборны пратаіерэй з гэтай прычыны падвысіў свой аўтарытэт прапаведніка: ён вельмі складна і з вялікім энтузіязмам сказаў некалькі пропаведзяў на тэму аб тым, якое вялікае зло ёсць «стяжание благ земных». Прыкладу ён доўга не шукаў, бо і ў гэтым гарадку знайшоўся чалавек,

што за двухпавярховы дом адцураўся царквы. Вядома, пратаіерэй, гаворачы гэта, не меў на ўвазе выпадку з сабой, калі ён адсудзіў ад свае сястры спрэчны, таксама двухпавярховы дом, і тая, з малымі дзецьмі, у траскучы мароз прымушана была выбрацца з наседжанага месца.

Сёмка Фартушнік заўладаў двухпавярховым Амілiным домам. Але не толькі на гэты пасаг ён гнаўся. Тут была яшчэ адна справа, проста-такі страшная справа, якая пасля доўгiя гады пераварочвала душу самому ж Сёмку Фартушніку, аднак жа ён на яе пайшоў. Гэтая справа паклала канец гарманічнасці Сёмкі Фартушніка. Ён тут распалавіціўся надвае. Адна палова цягнула яго да Амілі Спацкай, яго ўжо жонкі, а другая палова прымушала яго сашчаміць зубы і кідацца да Хурса. І гэтыя дзве паловы грызліся адна з адной шмат год, пакуль хурсаўская палова не ўзяла верх. Тады Сёмка Фартушнік зноў стаў гарманічны, але ўжо цяпер не было ранейшага Сёмкі Фартушніка. Гэта быў ужо не той чалавек.

Каб чалавек мог ведаць наперад, што з ім будзе, ён ніколі не гінуў бы ад сваіх памылак. Тады і Сёмка Фартушнік не пайшоў бы на гэтую справу. Але ён прагнуў вялікіх маштабаў. Чамусьці ён верыў у іх, гледзячы на Хурса. Каб ведаў ён, што яму, замест вялікіх маштабаў, прыйдзецца асесці ў трухлявай карчме на гасцінцы, ён, пэўна, пагнаў бы ад сябе к чортавай матары Хурса. Але ён, прагнучы ўласнасці, сам лез да яго, абы-толькі той міргнуў яму. Зусім не думаў Сёмка Фартушнік, што гэты свінячы магнат будзе есці яго доўгія гады і рэгуляваць кожны яго рух,— чатыры, скажам, з паловаю сантыметры направа, два з чвэрткаю сантыметры налева. Маштабы, як той казаў, ніштаватыя!

Гэта ўсё было так. Сёмка Фартушнік бачыў раз Хурса з яго жонкаю. Гэтая пара выязджала з гарадка на параконным рамізніку. Сёмка Фартушнік імчаўся па вуліцы, увесь у клопаце сваіх спраў. Убачыўшы Хурса, ён даў яму дзяндобры. Гэта ён рабіў ужо нешта з паўгода, пачаўшы казыраць Хурсу неўзаметку: Хурс быў такі чалавек, на ўвагу якога варта натрапіць.

— Дзяндобры, пане Фартушнік! — гукнуў яму Хурс з рамізнічнага фаэтона, будучы, відаць, у добрым гуморы.

Фартушнік аслупянеў: што ён Хурса ведаў, дык гэта не дзіва. Было б дзіва, калі б ён яго не ведаў. Але адкуль

Хурс ведае яго, такую дробную птушку? Пасля, пазнаўшы больш Хурса, Фартушнік ужо не дзівіўся гэтаму. Ён ужо ведаў, што Хурс не быў бы Хурс, каб не меў таленту ведаць усялякую драбязу. Гэта памагала яму варочаць справамі, грабучы сабе ў рукі адусюль прыбытак.

Фартушнік правёў Хурса даўгім позіркам. Той азірнуўся. Азірнулася і Хурсава жонка. (Пасля іхняга вяселля прайшло ўжо некалькі год.) Фартушнік убачыў нейкую зялёную жанчыну з касцістым тварам, з ротам да вушэй, з носам, занадта ўжо высунутым над губою.

— Каб ты згарэў з такою жонкаю, тфу! — аж плюнуў Сёмка Фартушнік, весела ўсміхнуўшыся.— Снацкую кінуў ды да гэтай прыстаў. Гэта ўсё адно, як з раю ды ў пекла.

Але тут жа ён змоўк і з не лёгкім пачуццём пайшоў у сваю дарогу. Ён успомніў, што Аміля Снацкая бедная, нават ніякага пасагу не мае, а гэтая — адразу паставіла Хурса на ногі. Пасля вяселля ён пускаў ужо ў зварот у разоў тры большыя грошы і выразна ўжо вырас у вялікага вараціла. «Каб да Амілінага хараства ды багацце гэтай ведзьмы»,— пайшла ў ход думка Сёмкі Фартушніка. І дзесьці глыбока заварушылася пачуццё цяжкага непаразумення перад недасканаласцю светабудовы, перад яе супярэчлівасцю.

З гэтага спаткання пачаў вырашацца лёс Сёмкі Фартушніка. Ён не ведаў, што Хурс даўно ў яго нацэліўся. Але, каб зразумець, у чым тут справа, трэба вярнуцца крыху назад.

Аднойчы, позна ўвечары, за паўгода якога да ўсяго гэтага, Хурс ціха падышоў да дамка Амілі Снацкай. Яна сядзела адна, не зводзячы вачэй з сваёй маленькай соннай Клавы. Хурс абышоў увесь дамок навокал і вельмі нясмела пастукаў у дзверы. Амілія ўздрыганулася і выйшла ў сенцы.

— Хто? — запытала яна.

— Амілія, гэта я.

Яна пазнала яго голас і не ведала, што гаварыць і што рабіць. Яна стаяла, як аслупянелая, прытуліўшыся галавою да сцяны.

— Ну што ж ты не адчыняеш, Міля?

Яна гэтак збянтэжылася, што пачала мацаць ключ у дзвярах. І нарэшце ўпусціла яго. Ён стаяў перад ёю, нечаканы, высозны, як сталюга, нясмела ўцягнуўшы дроб-

пую стрыжаную галаву ў вузкія свае плечы. Аміля адумалася і села.

— Я прыйшоў, Міля, да цябе.

— Чаго?

— Я не магу больш без цябе. Я ўсё пра цябе думаю. Мне цяжка без цябе.

Ён усё гаварыў гэтакія фразы і падступаў да яе бліжэй.

— А жонка ж твая дзе?! — на ўсе свае сілы крыкнула яна.

Аміліна дачка прачнулася і заплакала.

— Жонка? — ён адступіў крок назад.— Жонка? Я яе ненавіджу. Я цябе толькі адну люблю.

Ён, сказаўшы гэта, пасмялеў. Ён быў упэўнены, што яна зноў з гэтай хвіліны стане яго ранейшаю Аміляю: так прывык ён ужо да ўдачы ў сваіх справах, да камандавання людзьмі, да якіх меў дачыненне.

— Дык ты ж ведай, што як ты сваю тую падлу ненавідзіш — у сто раз больш я ненавіджу цябе! — закрычала яна і плюнула цераз стол на яго.

Ён стаяў і маўчаў.

— Вон! — крычала яна.

Ён не паварушыўся. Яна хапіла са стала талерку і шпурнула ў яго. Пасля яшчэ і яшчэ. Яна шпурляла ў яго сподкамі, хлебам, лыжкамі. Ён устрапянуўся. Зносячы ўдары, ён самаўпэўнена сказаў:

— Я прыйду праз пяць...

Раптам спыніўся і падумаў: «не праз пяць, а праз дзесяць,— праз пяць дзён я буду адпраўляць са станцыі свінні».

— Я прыйду праз дзесяць дзён.

— Вон! Каб і нага твая...

Ён павярнуўся і выйшаў, а яна хадзіла шмат гадзін з кутка ў куток і скрыпела зубамі. А назаўтра яна дастала заядлага сабаку, узяла яго ў сенцах на ланцуг і пачала прывучаць да сябе. Праз дзесяць дзён явіўся Хурс. Гэтак, як і той раз, ён неўзаметку ў змроку падышоў да дзвярэй і пастукаў.

— Хто там?

— Я.

Яна шпарка спусціла з ланцуга сабаку і адчыніла дзверы.

— Кусі! — крыкнула яна, выходзячы на ганак і беручыся ў бокі.

Яна бачыла, як сабака рынуўся на Хурса і абняў яго за грудзі. Хурс ірвануўся бегчы, сабака адарваўся ад яго і абсядлаў яго ззаду. Так сабака выехаў на Хурсу на вуліцу. Аміля выйшла следам глядзець. Хурс не падаў і гуку, каб не склікаць людзей. Ён качаўся з сабакам у гразі, скаціўся ў нейкі рышток, пакусаны, абкрываўлены, абслінены. Удвух з сабакам яны раўлі, як звяры, кідаючыся адзін на аднаго. Нарэшце Хурсу ўдалося прыдушыць каленам да зямлі сабачую галаву. І пасля гэтага ён адразу выхапіў з кішэні рэвальвер, прыціснуў рулю ў сабачы бок і стрэліў. Сабака разоў некалькі яхнуў і кончыўся. Хурс ракам вылез з рыштка і кінуўся бегчы як утрапёны: сваім стрэлам ён паабуджваў людзей. Прабегшы да рынка, ён напаткаў соннага рамізніка.

— Вязі! — загадаў Хурс, кідаючыся ў разламаную рамізніцкую надобіну.

— Куды? — аж умлеў рамізнік ад гэткага спрыту нейкага высознага абмочанага абарванца. І раптам, пазнаўшы, ёкнуў на каня, падтрымліваючы аднаею рукою скураны верх над Хурсам.

— Пане Хурс, паночку Хурс, а божачкі мае!

Хурс паехаў на сваю гарадскую кватэру, вымыўся, пераадзеўся, паслаў па віно і загадаў фурману запрагаць коні і ехаць дадому, у фальварак. Выехаў ён не зусім цвярозы, але такі, як і заўсёды: халодны практык і сам у сваіх думках. Усю дарогу накіпала ў ім злосць і нянавісць, але ён гэтыя анархічныя пачуцці здолеў нават у гэткую хвіліну падпарадкаваць сабе. «Колькі б гэтая дурная авечка ні вар'явалася, маіх рук яна ўсё адно не міне»,— думаў ён. За дарогу якраз і выспеў яго план. Ён думаў: няма чаго і думаць сысціся цяпер зноў з Аміляю. (Пачуццё вострага смутку па ёй павярнулася ў ім, як нож у жываце жывое рыбы, калі яе патрошаць.) Адпомсціцца ёй? Не, занадта я прагну яе. Гэта ўсё адно не дасць мне спакою. І раптам думка жахнула яго: яна, відаць, ужо мае сабе жаніха. Можа, гэта — малады, смелы, прыгожы, варты яе самае. Тады што? Тады яна на век мне страчана. Не, няхай яна не выйдзе з-пад мае апекі.

Ён загадаў ехаць паволі, каб больш мець часу падумаць. Прыехаў дадому ён позна. Ціхом увайшоў у дом. Давялося яму ўвайсці ў жончыну спальню. Ён кінуў вокам на жонку. Гэтае стварэнне спала сабе анельскім сном, укрытае дзвюма коўдрамі: ёй усё мерзлі калені. Ён адвяр-

нуўся і выйшаў з смуткам, пянавісцю і злосцю. «Што б там пі было, а Аміля не павінна пайсці замуж за такога чалавека, з-за якога да яе не будзе доступу. А лепш за ўсё самому аддаць яе замуж, так сказаць, клін выбіць клінам».

Чаму ён успомніў пра Сёмку Фартушніка? Таму, што ведаў ужо гэтага развязнага маладога чалавека. Ён яго шмат разоў бачыў, як ён цёрся, здавалася б, і без прычыны, у гурце яго свіных вазюроў або дзе-небудзь каля піцейнага дома, дзе ён сам (Хурс усё рабіў сам — гэта быў яго гаспадарлівы метад) ставіў сваім падручным барыш. Ён часам заўважаў, як гэты малады чалавек спрытна, як з-пад зямлі, раптам і вельмі дарэчы з'яўляўся там, дзе трэба было экстраным парадкам збыць хворага япрука, якога ўжо далей нельга было везці. Ён бачыў, што гэты чалавек увішны, спрытны, кемлівы, але, разам з тым, ён штучка дробная. Спачатку ён намерыўся быў узяць яго сабе ў агенты па скуплю свіней, але тут падвярнулася ўся гэтая справа. Да справы гэтай ён як не трэба лепей падыходзіў: ён быў малады і прыгожы, у Амілінам гусце. Але, каб ён пасля не пагнаў яго, Хурса, ад сябе, яго трэба было ўзяць на службу і трымаць у пэўным стане, не выпускаць з рук.

Пасля таго як ён прывітаўся з Сёмкам Фартушнікам на гарадской вуліцы, ён пачаў лічыць, што справа можа быць зроблена, калі ўжыць умела ўсе захады.

Аднойчы Хурс загадаў свайму падручнаму, каб за гадзін дзве да адпраўкі свіней з горада, захварэў адзін з лепшых япрукоў. Падручны не здзівіўся ад гэткага загаду. Гэта быў адзін з блізкіх Хурсавых падручных, ён стаяў, так сказаць, каля Хурсавае камерцыйнае душы (у самую душу Хурс нікога не пускаў). Падручны верыў у Хурсаў гандлярскі талент і лічыў, што для справы не то што япрук павінен захварэць, а нават сам чалавек. Ён жыў з таго, што слухаў Хурса і выконваў яго загады. Калі захварэў япрук, адразу, як з-пад зямлі, вырас Сёмка Фартушнік. Хурс сам стаяў пры ўсёй працэдуры, калі Сёмка Фартушнік таргаваўся. Пятнаццаць рублёў ён выторгаваў з такім умельствам, гэтак спрытна прадбачыў усе ходы і выхады, што Хурс не мог нацешыцца з Фартушніцкага таленту. Але разам з тым Хурс наглядаў, як Фартушнік, таргуючыся, шчыра пачынаў злаваць там, дзе не злуе сапраўдны купецкі талент. «Ніколі ён не выб'ецца ў вялікія справы»,— падумаў Хурс і загадаў спусціць пятнаццаць

рублёў. Фартушнік падзякаваў і адлічыў грошы. «Дзякуе, сукін сын,— падумаў Хурс.— Сапраўдны купец не дзякуе ў гэткіх справах».

— Скідаю яшчэ дзесяць рублёў,— сказаў Хурс, варочаючы Фартушніку дзесяць рублёў і не зводзячы з яго прапіклівых вачэй.— Вы мне спадабаліся.

Фартушнік аж падскочыў, аж затросся, беручы грошы. «Каб быў хвост, дык вільнуў бы,— весела падумаў Хурс.— Гэта золата, а не чалавек».

— Зойдзем у кватэру,— міргнуў ён Фартушніку.

Фартушнік, радасна здзівіўшыся, пайшоў за Хурсам.

Яны ўвайшлі ў кватэру.

— Проша,— сказаў Хурс.

Фартушнік паслухаў і сеў на канапу. «Добрая канапа,— думаў Фартушнік.— Мякка, і спружыну пад сабой чуваць гладка. У гэтага чалавека ўсё добра і падагнана адно да аднаго».

— Ідзіце да мяне служыць,— сказаў Хурс,— будзеце наглядаць за адпраўкай і прыёмкай свіней у горадзе. Вы мне спадабаліся. Такі чалавек мне патрэбны.

Хурс не вытаргоўваў па рублю і па паўрубля змяншэння пенсіі, як гэта ён рабіў з усімі сваімі службоўцамі. Ён даваў зразумець Фартушніку, што з ім гутарка не гэткая, як з усімі іншымі. Фартушнік спачатку ашаламаніўся, пасля напусціў на сябе сталасці: «таленавіты, значыцца, я чалавек». Хурс яго бачыў навылёт і смяяўся, як толькі Фартушнік выйшаў. Выйшаўшы ад Хурса, не чуючы пад сабой ног, Фартушнік кінуўся ў піцейны дом і гакнуў паўтузіны піва. «Прыгледзімся да Хурсавых спраў, пацягнем у свой бок і паспрабуем... Хто ведае, можа, мне суджана калі-небудзь збіць з дарогі самога Хурса»,— думаў Сёмка Фартушнік у той вечар.

На чорта быў Хурсу наглядчык Сёмка Фартушнік у горадзе, калі там шмат год ужо працаваў больш спрактыкаваны чалавек? І Хурс даў Фартушніку нейкую іншую работу, сказаўшы:

— Пабудзьце там да часу, пакуль я не адчыню ў другім горадзе свінога пункта і не пашлю туды тутэйшага наглядчыка.

Хурс усё так падстройваў, каб Сёмка Фартушнік мог абрываць час ад часу сабе ў кішэню рублі, апроч пенсіі. Хурс прывучаў да сябе Фартушніка, як гаспадар сабаку. Часамі ён даваў яму грашовыя ўзнагароды, выдумляючы

прычыны. А адзін раз ён паклікаў Фартушніка на сваю халасцяцкую гарадскую кватэру вячэраць.

— Падфранціцеся,— сказаў ён Фартушніку.

Фартушнік явіўся ў манішцы, у пярсцёнках і ланцужках.

— Добра,— сказаў Хурс, пакручваючы Фартушніка перад сабою.— У нас сёння будуць жанчыны.

Пакуль з'явіліся тыя жанчыны, яны выпілі бутэльку, і Фартушнік адчуў сябе Хурсавым другам. Калі жанчыны (адборная пара!) прыйшлі, яны ўжо мелі пэўны пастрой да інтымнага спаткання іх. Начавалі яны па пары ў розных пакоях. А зранку, выправадзіўшы сваіх госцей, селі снедаць. Хурс сказаў Фартушніку:

— Чаму б табе не ажаніцца?

— Рана,— адказаў Фартушнік.— Пакуль чалавек вольны, ён можа прабіваць сабе сцежкі на вялікую дарогу. А звязаўшы сябе — будзеш як спутаны.

— А ты глядзі на мяне,— паддаў жару Хурс,— я і ажаніўся на тое, каб пашырыць сваю дарогу.

Фартушнікам апанавала думка: «праўда»,— думаў ён.

— Ты ведаеш Амілію Снацкую? — не сціхаў Хурс.

Фартушнік зразумеў усё, але не так, як Хурс, а інакш. «Хурс гэты — дзіўны чалавек, клапоціцца аб шчасці пакрыўджанай ім Амілі Снацкай. А значыцца, тут без добрага пасагу не абыдзецца. Будзь што будзе,— думаў Сёмка Фартушнік,— паспрабуем закінуць вуду». Ён уздыхнуў і вельмі выразны зрабіў выгляд, што яму цяжка гаварыць пра тыя рэчы, якія каменем ляжаць на Хурсавай душы. «Але нічога не зробіш, жыццё часамі вымагае гаварыць і пра тое, пра што не кожны рад успамінаць. А тут жа сам Хурс успомніў». Праз хвіліну яго думка стала больш рэальная: «Хурс хоча, каб Аміля Снацкая хутчэй пайшла замуж і каб уся гэтая справа раз назаўсёды забылася».

— Ведаю я Амілю Снацкую,— сказаў Сёмка Фартушнік.— Бландынка, беспасажная.

Ён глянуў у Хурсавы вочы. Яны разумелі адзін аднаго, як не трэба лепш.

— Беспасажная? — сказаў Хурс.— А двухпавярховы дом?

— Што гэта за пасаг,— рызыкнуў не паддацца Сёмка Фартушнік.— На адным доме далёка не заедзеш.

«Эйш ты, сукін сын, таргуецца»,— думаў Хурс і пранікліва зірнуў у самыя Фартушнікавы вочы.

— У яе грошы ёсць,— адчаканіў ён.

— Няма,— катэгарычна заявіў Фартушнік.

— Ёсць,— раз назаўсёды пераняў яго Хурс, ткнуўшы пальцам сабе ў кішэню.

Гэта ён зрабіў так, што Сёмка Фартушнік зразумеў, але самы жэст можна было растлумачыць, як жаданне пачухаць свярбячы палец. Так што Хурс ніякіх абавязкаў на сябе не ўзяў, але разам з тым даў дакларацыю Сёмку Фартушніку. Канцы былі ў каламутнай вадзе.

Моўчкі яны скончылі снедаць. Сёмка Фартушнік, як ішоў дадому, ужо бачыў перад вачыма сваімі Амілю Снацкую. «Як гойдае станам, калі ідзе»,— думаў ён, бачачы яе ў ружовым арэоле.

Праз паўгадзіны пасля таго, як Сёмка Фартушнік старгаваў у Хурса Амілю Снацкую, Хурс выехаў з гарадка ў свой фальварак. Не даязджаючы да дома кіламетраў чатыры, каля карчмы на гасцінцы, ён пачуў свінячы крык: абоз з свіннямі спыніўся на папаску. Хурс загадаў фурману стаць.

— Адкуль свінні? — гукнуў Хурс, саскачыўшы на зямлю.

У дзвярах карчомнай стадолы з'явіўся складзісты чалавек, у юхтовых ботах, у суконнай світе да пят. У адной руцэ ён трымаў лусту хлеба, у другой брус сала. Рот яго быў повен. З гэтага поўнага рота пайшоў адказ. Хурс выслухаў, адкуль везлі свінні. Даўшы тлумачэнне, чалавек з трэскам у горле праглынуў тое, чым быў напханы рот, і ўжо выразна (бо рот быў пусты) сказаў:

— Дзяндобры вам, пане Хурс!

Зняў шапку, зноў уздзеў і адразу ж зноў пачаў есці. Еў ён павольна, гучна цягнучы дыхам сабе ў рот хлебныя крошкі з лусты і роўна адкусваючы сала. Хурс увайшоў у стадолу і пайшоў аглядаць вазы, часам тыкаючы палкаю ў ружовыя свіныя чэравы. Чалавек з салам і хлебам хадзіў за ім следам. Як Хурс дайшоў да яго воза, чалавек, закладаючы за губу апошні кавалак сала, таркануў кулаком у салому на возе, адкуль тырчаў кірпаты лыч і зажмураныя ружовыя шчыліны, за якімі, далёка ў глыбі, хаваліся ад божага свету свіныя вочы. Япрук ойкнуў флегматычным хрыпам.

— На чыстым цесце сядзеў, заду падняць не можа. Тавар!

— А колькі просіш? — усміхнуўся Хурс. Цана была стандартная, на вагу, але Хурс жартаваў.

— Цаны я вам, паночку, не ўстаўлю свае, але за такую таварыну варта было б скідкі менш лічыць на вантробы.

Хурс нічога не адказаў і самазадаволена пагладзіў палкаю япрука па спіне. Той задаволена выканаў тапклявую руладу.

— А гэта што ў цябе за студэнт на возе? — запытаў з усмешкай Хурс, на момант яшчэ спыніўшыся ля воза. Звесіўшы з драбін погі ў шнураваных гамашах, сядзеў там у форме вучня настаўніцкай семінарыі хлапец, тварам вельмі падобны да самога гаспадара воза: твар буйны, тулава простае, бландзіністы і здаровы. Год яму можна было даць семнаццаць.

— Гэта — сын,— адказаў чалавек.

Сын еў сала такім самым парадкам, як нядаўна бацька, угінаючы пры кожным глытку галаву ўніз.

— У якім класе?

— Ды от толькі першы раз вучыцца едзе, нядаўна акзамінт вытрымаў.

— Дык ты дзве карысці маеш,— жартаваў Хурс,— і япрука вязеш прадаць і сына вучыць. За фурманку я табе недадам. Вучыся, вучыся,— паляпаў ён па плячы семінарыста.— Як тваё прозвішча?

— Міхаіл Піліпоўскі! — як салдат генералу, адрапартаваў семінарыст з запханым ротам.

Хурс пайшоў далей. Ідучы, ён азірнуўся.

— Колькі на год такіх япрукоў прадаеш?

— Два, часам тры — як каторы год.

— Гаспадарка вялікая?

— Шаснаццаць дзесяцін... Нявыгадна нам сюды вазіць свіней: далёка і за пастой у карчме плаціць трэба. З усяе акругі, можна сказаць, народ едзе з свіннямі, і ўсе за пастой карчмару плацяць. А гэты грабе грошы. Прыгандлёўвае. Тут жа яшчэ да чыгункі вёрст дваццаць пяць. А часам бывае, што чалавеку не пашанцуе, не падыдзе свіння — вязі далёка назад. А каб у вас было больш пунктаў, дзе вы самі або вашы намеснікі самі прыязджаюць глядзець свінні і забіраюць...

— Сына, значыцца, у семінарыі вучыш?

— Але. Як кажуць, што знацьмеш — за плячыма не насіцьмеш.

— Ну знацьмеш — не насіцьмеш — выйдзе за чыноўніка, тады нос задзярэ паверх лесу, от табе і знацьмеш, і не насіцьмеш! Тады саромецца будзе з табою, мужыком, на людзях спаткацца.

— Ну што ж, затое на бацьку наракаць не будзе, што не падбаў пра яго, як кажуць.

Іх ужо абкружылі людзі. Заўвагі былі гэткія:

— Калі чалавек у людзі выб'ецца праз навуку, панаваць тады будзе.

— А за каго з семінарыі выходзяць? За настаўнікаў?

— Вучыць сваіх дзяцей будзе той, хто мае за што вучыць.

— А от у нас Высоцкая нічога не мае, а сын яе таксама падаўся ў настаўніцкую семінару. Калі-небудзь за настаўніка выйдзе.

— Ну, дык гэта ў настаўніцкую семінарыю, а няхай бы паспрабаваў у гімназію ці куды-небудзь яшчэ.

Хурс пайшоў у карчомную хату, за ім следам увайшло некалькі чалавек.

— Каб вы тут зрабілі пункт на прыёмку свіней, дык гэта было б добра,— гаварыў Піліпоўскі, семінарыстаў бацька.— Тут бы, калі не прадаў свінню, дык бліжэй дадому везці, а то з самае станцыі трэба. Вы маглі б сабе або ваш чалавек ува ўсякі пункт паехаць і старгаваць свінні, а тады — хто сам павёз бы, а хто і так наняўся б у фурманку. А каб вам не было крыўдна, вы за фурманку б адлічвалі.

Ці цікавіўся сам Піліпоўскі гэтаю справаю, даючы наконт яе Хурсу параду, ці не цікавіўся, а гаварыў толькі па тое, каб пагаварыць з Хурсам — гэта няважна. Важна тое, што Хурс, слухаючы Піліпоўскага, лішні раз падумаў пра той план, што даўно ўжо выспеў у яго. План быў гэтакі: зусім скасаваць у гарадку пункт па прыёмцы свіней, а замест гэтага зрабіць некалькі пунктаў у самых глухіх кутках, у самых вёсках, дзе свінні могуць добрыя выкормлівацца, але адкуль іх цяжка было дагэтуль збываць. Такім парадкам пашырыцца ўся справа.

— Пункт з гарадка я перанашу ў гэтую карчму. Даўно ўжо я думаў пра гэта,— сказаў Хурс.

Ён пайшоў шнырыць па ўсіх бакоўках у хаце, аглядаючы іх. Стары карчмар хадзіў за ім следам.

— Колькі хочаш за карчму,— сказаў Хурс карчмару, мала думаючы пра тое, ці хоча ён яе прадаць. І пакуль

той сабраўся што-небудзь адказаць, даў яму параду: — Дзівак, пераедзеш у горад, краму адчыніш.

Мужчыны сядзелі на лавах і развязвалі торбы. Піліпоўскі ля парога атрэпаў з свае світы саламяную пацяруху. Увайшоў семінарыст.

— Ведаеш,— сказаў ён бацьку,— тут за вёрст тры жыве Высоцкі Коля, мы з ім разам акзамін трымалі і падружыліся. Ён мне памог — я забыўся, не то што забыўся,— паправіўся ён,— а не дачуў, што пыталі, дык ён мне падказаў. Я яму дакляраваў, што возьмем яго куфэрак, як будзем ехаць. Ён павінен прынесці, дзень ён ведае.

— А што, у яго каня няма?

— Няма, здаецца.

Сын з бацькам выйшлі ў стадолу. Неўзабаве туды ж увайшла жанчына, адзетая дрэнна і па-сялянску.

— Людцы, хто тут Піліпоўскі? — запытала яна, ідучы паміж вазоў.

Стары Піліпоўскі абазваўся. Жанчына трымала ў руках торбу, у якую была ўкладзена булка хлеба.

— От вы які,— сказала яна, з выглядам добрай маці разглядаючы семінарыста,— мой Коля пра вас расказваў. Вы ўжо сабе і паліто пашылі. Няўжо і мой сын так будзе хадзіць? — дадала яна, панізіўшы голас і ўкрадкі дасцёршы з вока слязу.— Мой Коля казаў, што вы яму дакляравалі ўзяць яго рэчы, падвезці. Каня я не маю, жыву так...

— Гэта ўсяго рэчаў? — запытаў стары Піліпоўскі, гледзячы на торбу з хлебам.

— Гэта я яму хлеба ўлажыла, а рэчы ён сам зараз нясе. Я ўперад пайшла.

— Многа рэчаў?

— Невялічкі куфэрак. Кнігі там у яго, бялізна. Не цяжка.

— Не, я не пра тое, а дзе іх прыткнуць. Япрук увесь воз займае. Хіба мы іх тут ззаду прывяжам.

— Прыйдзецца пагараваць,— гаварыла жанчына,— але можа пасля на старасць добра мне будзе за сынам, каб адно бог памог яму навуку прайсці. Ён такі да навукі здатны!

Неўзабаве перад стадолаю ў дзвярах з'явілася два хлапцы... Яны былі роўныя, год кожнаму было шаснаццаць. Не даходзячы да стадолы крокаў сто, адзін з іх

перадаў другому на плечы куфэрак. Жанчына іх убачыла і растлумачыла Пілiпоўскім:

— Гэта таварыш яго, Кастрыцкі Валодзя, памагае яму несці. Вельмі ж дружаць яны.

Хлопцы паставілі куфэрак ля воза, і Коля Высоцкі прывітаўся за руку з Пілiпоўскім-семінарыстам.

— Паліто ўжо ў цябе? — здзіўлена сказаў Коля Высоцкі, з зайздрасцю разглядаючы Пілiпоўскага ў новым чорным паліце з жоўтымі меднымі гузікамі.

Жанчына, як бы саромеючыся і з спачуваннем, паглядзела на свайго Колю. Ён быў яшчэ ў саматканай шэрай вопратцы.

— Можа, дазволяць яму крыху так пабыць,— сказала яна,— пакуль я яму паліто спраўлю. Як-небудзь, можа, дзе пастараюся.

— Мог бы і сам пад'ехаць,— сказаў стары Пілiпоўскі,— але ж япрук воз займае.

— Я пехатой пайду,— адказаў Коля Высоцкі.— Ты ўжо ідзі,— павярнуўся ён да маці.

Хлопцы ўтрох выйшлі на двор, пад прысадныя бярозы. Валодзя Кастрыцкі адчуваў сябе як звязаны: тыя два ўжо іншыя людзі, хоць адзін яшчэ і без бліскучых гузікаў. Яму самому хацелася быць на іх месцы. Не то што тут справа была ў гэтых гузіках, але яны былі першаю адзнакаю чагосьці такога, што выбіваецца з сферы яго кожнадзённшчыны, якая ўжо апрыкрала яму з яго маладых год. Яна душыла яго маленства і маладосць.

Семінарыст Пілiпоўскі пайшоў назад — бацька паклікаў, што неўзабаве трэба ехаць, а Коля Высоцкі пайшоў прысадамі. Валодзя Кастрыцкі крыху правёў яго. Былі яны як адзін, аднаго росту, роўна адзетыя.

— Калі будзеш у горадзе, дык зайдзі да мяне,— сказаў Коля Высоцкі.— Запытаешся, дзе семінарскі інтэрнат.

Валодзя Кастрыцкі падаў свайму таварышу руку і сумны пайшоў назад. Была ў той дзень нядзеля, і ён быў вольны ад работы. Калі ён дайшоў па прысадах да паваротні ў сваю вёску, убачыў, што маці Колі Высоцкага стаяла, прытуліўшыся плячыма да бярозы, і плакала.

— Мне хацелася з ім прайсці, але ён не любіць, як я плачу.

— Дык чаго ж вам плакаць? Каб я быў на яго месцы!

— Ён жа цяпер дома, як госць, ужо будзе, і толькі.

Насупраць цераз дарогу была карчма. Там сяляне за-

прагалі коні. Крычалі на вазах свінні. Піліпоўскія выехалі з стадолы першыя. Семінарыст Піліпоўскі сядзеў ззаду на сядзенні, стары Піліпоўскі ў перадку, звесіўшы набок ногі.

— Дык няўжо твой бацька не мог бы аддаць цябе ў семінарыю,— сказала Валодзю Кастрыцкаму маці Колі Высоцкага,— калі ты так хочаш вучыцца... Я ўдава...

— У бацькі не я адзін... Дзе там.— Адказаў ён фразаю, якую чуў заўсёды ад бацькоў.

На ўвесь спрыт сытых бегуноў праехаў у свой фальварак Хурс, мінуўшы іх у адзін момант. Маці Колі Высоцкага нават не паспела даць яму дзяндобры.

— От каму жывецца,— уздыхнула яна.

Яны ішлі глухою дарогаю паўз лес. Пахла грыбамі. Які гэты пах быў праціўны Валодзю Кастрыцкаму: гэта была кожнадзённая прыкрасць, цяжкасць работы, бесперспектыўнасць гэтага існавання. Тое, што яго таварыш Коля Высоцкі «пайшоў у людзі» — абудзіла ў яго адразу ўсё гэтае нездаваленне, якое даўно ўжо драмала ў глыбі яго істоты.

Дома ён сказаў:

— Коля Высоцкі пайшоў ужо ў семінарыю.

— Дык ён у яе адзін сын,— адказаў бацька, наскрозь бачачы сына,— а мне трэба вас усіх... А з чаго жыць!

Ён быў чулы чалавек і не ўспомніў сыну ў гэты дзень тое, пра што ўжо раней было дагаворана з ім: трэба ісці з дому шукаць работы. Ён намерыўся сказаць сыну гэта назаўтра. Ён не ведаў, што сын сам у гэтую хвіліну пра гэта думаў. Думалася сыну пра гэта цяжка: што ён і дзе па свеце знойдзе? Не лягчэй думаў і сам бацька. Праз нейкі час ён сумна глядзеў сыну ўслед: той пайшоў шукаць работы.

З краю гарадка, на беразе рэчкі, некалькі ўжо год існаваў скурапы заводзік маштабаў невялікіх. Жыццё ў ім не кіпела, але так сабе ішло паволі. Тут і быў бы грунт для таго, каб завод гэты пусціць на добры ход і даць яму большы рост, але ўласнік завода, гарадскі мешчанін, які таксама, як і Хурс, выбіўся ў людзі праз гандаль, даўно ўжо валачыўся па судах з прыгарадпымі памешчыкамі і гарадскімі домаўласнікамі, дамы якіх стаялі паўз рэчку, на адной лініі з заводам. Фармальная прычына для судоў была, па-першае, тое, што завод нібыта (як пасля, нейк вельмі ўжо раптам, пачало выяўляцца) пабудован на чужой тэрыторыі. Уласнік гэтага пляца, паспеўшы зацвер-

дзіцца ў правах спадчыннасці, падаў на ўласніка завода ў суд. Другая фармальная прычына была тая, што завод загнюшвае ў рэчцы ваду на працягу некалькіх кіламетраў аж за гарадок. За гэта навакольныя памешчыкі і домаўласнікі таксама праз суд дамагаліся ад заводчыка кожнадзённае ўзнагароды. Але фактычная прычына ўсяму гэтаму была тая, каб заводчык адцураўся завода, каб ачысціў месца акцыянернай кампаніі, якая складалася з багатых мяшчан і некалькіх памешчыкаў. Думалася разгарнуць справу шырока, але адзінае выгаднае месца для завода было тое, дзе стаяў гэты дробны заводзік. Каб прайшло яшчэ з паўгода, дык заводчыка суды з'елі б да рэшты і ён саступіў бы месца сваім праціўнікам. Але тут з'явіўся Хурс.

Якраз праз некалькі дзён пасля таго як Валодзя Кастрыцкі правёў вучыцца свайго таварыша Колю Высоцкага, у гарадку ўсе загаварылі, што Хурс старгаваў у заводчыка завод. Кантракт яшчэ не быў падпісаны, але ўсё было згаворана. Заводчыкавы праціўнікі тут і затрапяталіся. Хоць іх было і некалькі, але ўсе яны думалі так пра Хурса: гэты калі ўжо возьмецца за справу, дык ім ваяваць будзе цяжэй. І от яны адразу пайшлі на такі ход. Перш за ўсё яны дазналіся, што кантракт сапраўды яшчэ не падпісаны. І от яны паслалі спешным парадкам да заводчыка пасланца: яны давалі за завод цану большую, як Хурс. Пасланец меў інструкцыю цвёрдую. Ён спачатку ўпікнуў заводчыка за тое, што ён не прадаў завода тады, калі кампанія яшчэ да судовае цяганіны прапанавала яму завод прадаць ёй. Заводчыку не было чаго траціць, і ён сказаў проста, што тады была іншая справа, а цяпер судамі яго давялі да гэтага. І завод ён прадасць таму, хто больш заплаціць. Назаўтра было тое, што Хурс падбавіў яшчэ цаны. Пачалася гонка і торг. Заводчык ад гэтага толькі выйграў, але завод пачаў працаваць ненармальна. Ён стаяў па шмат дзён, пакуль цяглася гэта справа і пакуль завода не ўграб сабе ў рукі Хурс. І от гэты месяц меў даволі важнае дачыненне да Валодзі Кастрыцкага. Абышоўшы да гэтага часу ўсе ваколіцы і перапрабаваўшы шмат усялякай работы, служачы часта па паўгода і больш на адным месцы за парабчука, ён падрос і пасмялеў ужо. Колі Высоцкага ён ужо другі год як не бачыў. Некаторыя прычыны зблізілі яго з адной дзяўчынай. Гэта была Наталя Паўлоўская. Ёй тады было год каля васемнаццаці.

Калі Хурс толькі што прыстаў быў у прымы да свае жонкі і зрабіўся гаспадаром фальварка, ён з першых жа дзён прагнаў адтуль парабка Рыгора Паўлоўскага. Чалавеку гэтаму было тады год пад трыццаць. Хурс яго адразу як убачыў у сваім фальварку, дык і пазнаў. Ён успомніў ясны марозлівы дзень зімою тысяча дзевяцьсот пятага года. Ён, тады яшчэ дробненькі свіны купчык, стаяў на гарадскім рынку ў натоўпе народу. Нядаўна чыталі рэвалюцыйную пракламацыю, нядаўна выступаў агітатар, нядаўна натоўп разбіў самы багаты магазін у горадзе. Чалавек сярэдніх год, у лапцях і ў шапцы з чорнай аўчыны, крычаў у натоўпе камусьці ў адказ:

— Шкада? Нічога не шкада! Я сам панскі парабак і на пана ўвесь век свой раблю з усіх жыл сваіх! Няхай народ расцягвае ўсё.

— Грабяць толькі зладзеі і забойцы,— сказаў Хурс да натоўпу.

— Ты, свінячы купец, сціхні! — пераняў яго чалавек.

Гэта і быў Рыгор Паўлоўскі. У часы, калі Хурс браў у пасаг фальварак, ён апынуўся там за парабка.

— Ты пазнаў мяне? — запытаў Хурс, спаткаўшы Паўлоўскага праз некалькі дзён пасля свайго вяселля.

— Хто вас не ведае,— адказаў Паўлоўскі.

— Што ты тут робіш?

— За парабка служу.

— Тут, у фальварку?

Гутарка скончылася, і праз некалькі дзён Паўлоўскі не меў работы. І ён выбраўся ў горад, дзе ўдалося яму астацца на работу на скураным заводзіку, які пачаў існаваць толькі за некалькі год да гэтага здарэння. Кватэру Паўлоўскі знайшоў сабе на другім канцы горада, дзе быў выезд на тракт да бліжэйшай чыгуначнай станцыі. Дачка яго, Наталя, пачала хадзіць на падзённую работу ў блізкія маёнткі.

Пасля таго як Хурс угроб сабе ў рукі заводзік, ён некалькі дзён і ночаў праседзеў на ім разам з майстрам. Раіўся з ім і аглядаў завод. На трэці ці на чацвёрты дзень ён, унурыўшыся ад восеннай імжы ў настаўлены каўнер, з палкаю ў руках, выходзіў з заводскай брамы. У браме ён убачыў знаёмага чалавека. Чалавек гэты, нібы неўзаметку, адвярнуўся ад Хурса і стаў нешта калупацца ў паркане, як бы папраўляючы адарваную дошку.

— Што ты тут робіш, Паўлоўскі? — усміхаючыся, запытаў Хурс.

— Я тут працую.

— Зноў мы спаткаліся,— не зводзіў Хурс вачэй з Паўлоўскага.

— Але,— адказаў Паўлоўскі.

— Доўга думаеш тут быць? — хітра запытаў Хурс.

Паўлоўскі падумаў: «усё роўна прагоніць зараз». І адказаў:

— Не, доўга тут мне, здаецца, быць не прыйдзецца.

— Чаму?

— Мне тут не падабаецца.

І Паўлоўскі цвёрда адставіў нагу ўбок. Хурс мармытнуў:

— А што будзеш рабіць?

— Гэ, ці мала работы на свеце?

— Яно так, работы можа быць многа. На вялікую дарогу выходзіць, крамы разбіваць...

— Шыбеніцы ставіць,— перабіў яго Паўлоўскі, прыпіраючыся плячыма да дубовага шула.

— Шыбеніц многа было пастаўлена ў дзевяцьсот пятым годзе,— адсек Хурс.

— Э, тыя даўно пагнілі. Пара ставіць новыя.

— Думаеш гэтым рамяством заняцца? — вар'яваўся Хурс.

— Не. Калі каго трэба, можна будзе павесіць і на гэтай браме. Высокая, якога б доўгага ні павесіў, усё роўна нагамі да зямлі не дастане,— рэзаў Паўлоўскі, праводзячы зіркам па Хурсу ад твару да пят.

Хурс як стаяў, так адразу замахнуўся палкаю. Паўлоўскі хістануўся ўбок і сказаў:

— Хіба вы кандыдат на шыбеніцу?

Хурс адумаўся і пачаў аднаўляць свой аўтарытэт халоднага чалавека з вялікім розумам.

— Калі шыбеніцы стаяць, дык крыві многа льецца,— сказаў ён, стараючыся мець выгляд халоднага маралiста.

— Сабачае крыві не шкада, і я гавару не пра тыя шыбеніцы, пра якія ўспомнілі вы.

— Але ж сабачая кроў запаганьвае зямлю.

— Нічога, крывавая зямля добра родзіць.

Хурс узяў сябе ў рукі і павольна павярнуўся ісці назад у заводскую канцылярыю загадаць, каб Паўлоўскага звольнілі. Але ў тым месцы, дзе ў паркане была адарвана

дошка, ён спаткаўся вачыма з вострым і цікаўным позіркам. Там, па той бок паркана, сагнуўшыся, каб высадзіць твар праз дзірку, стаяў хлапец, босы, у падперазапай вузенькім раменьчыкам выцертай і залатанай скрозь шэрай суконнай куртачцы, у рыжай шапцы з паламаным казырком. Позірк гэтага хлапца здзівіў і збянтэжыў Хурса.

— Хто гэта? — сказаў ён.

Такое ў яго было адчуванне, як бы з-за кожнае дошкі глядзяць на яго такія вочы.

Хлапец палез праз дзірку на заводскі двор і зняў шапку (так навучыла яго маці).

— Я прашуся, можа, дзе якая работа тут будзе.

Хурс нічога не адказаў і пайшоў у глыб двара.

— Чаго ж ты лазіш праз дзірку? — сказаў Паўлоўскі.

— Я пільнаваў Хурса, каб у яго папрасіцца. А каб я стаяў ля брамы, дык мяне прагналі б.

— Адкуль жа ты, з горада?

— Не, з вёскі, што насупраць карчмы, на гасцінцы.

— Якое ж ты работы хочаш?

— Хоць якое.

— Як жа ты завешся?

— Валодзя Кастрыцкі.

— Даўно ты тут чакаеш?

— Я ўжо даўно стаяў за паркапам.

— А чаму ты думаеш, што тут можа быць работа?

— А дзе? Цяпер, увосень, у панскіх дварах работа канчаецца. Мне бацька сказаў папрасіцца тут. У нас ужо ўсе гавораць, што Хурс будзе завод больш разбудоўваць.

— А ты хіба будаваць умееш? Хэ! — Паўлоўскі сумна ўсміхнуўся.

— Не, будаваць-то я яшчэ не ўмею.

Змяркалася. Сеялася восенная імжа. Валодзя Кастрыцкі стаяў у браме, апусціўшы рукі. Паўлоўскі думаў: «зараз лахі пад пахі і дадому — канец маёй рабоце тут». Гарадок мок у імжы; дзесьці ляскаў аб камень падковамі конь, ціха спяваў на званіцы звон. Бруднае, як і зямля пад нагамі, неба нізка вісела.

— Якая тут табе, хлопча, работа,— сказаў нарэшце Паўлоўскі.— Ідзі хіба ты дадому — за гадзіны дзве яшчэ забяжыш. Цёмначы ісці табе прыйдзецца.

Валодзя Кастрыцкі нічога не паспеў адказаць: вельмі блізка, дзесьці над самымі вушыма, грукнула музыка

і аж аглушыла іх абодвух у заводскай браме. У тую ж самую хвіліну з-за павароту вуліцы выехаў на белым каці афіцэр. За ім, на конях, высыпаў цэлы хвост удалых меншых чыноў, а пасля на цэлую вуліцу расцяглася артылерыя. Грукату цяжкіх колаў за музыкаю не чуваць было.

Валодзя Кастрыцкі стаяў як зачараваны. Ён не зварухнуўся, пакуль усё гэта не прайшло паўз яго і не схавалася за паваротам. Ён кінуўся быў следам, але Паўлоўскі хапіў яго за руку:

— Куды ты, хлопча, лепш дадому ідзі. Не бачыў ніколі?

Ён стаяў на тратуары ўвесь як прыглушаны. Ён адчуваў сябе як бы ў нейкай яме, адкуль дарогі не было. Дзесьці блізка, але недасяжна ёсць іншае жыццё, дзе і гукі гарманічныя, і колеры бліскучыя. Але што людзям з таго жыцця да яго, босага абарванца?!

Як на тое ішлося, каб варушыць у ім усялякія думкі: ён раптам убачыў семінарыста Піліпоўскага. Сталаю паходкаю гэты мужычок у блішчастых гузіках спяшаўся аднекуль.

— Здароў! — устрапянуўся Валодзя Кастрыцкі.— Ты хіба мяне не пазнаў? Я з Колем Высоцкім пад ваш воз прыходзіў быў. Што робіць цяпер Коля?

Піліпоўскі прыпыніўся на момант, не ведаючы што сказаць. Пасля вымучыў словы:

— Коля? У інтэрнаце. А мне стаяць доўга на тратуары няможна. Не дазволена,— сказаў семінарыст з гонарам ад таго, што яму не дазволена стаяць на тратуары.

І ён пайшоў. Паўлоўскі паківаў галавою:

— Уніз ужо і глядзець не хоча... Дык што ж ты не ідзеш! Хіба табе ісці няма куды?

У гэты момант на двары пачуліся галасы. Па кладцы з дошчак цераз увесь двор ішоў Хурс і за ім чалавек чатырох рабочых. Адзін з іх гаварыў:

— Мы памесячна рабілі, і нам плацілі так. А што цяпер мы вінны, што вы купілі завод, а наш ранейшы гаспадар прадаваў яго. Работы ад гэтага не было поўнае, а мы ж усё роўна дзень пры дні былі тут. А як жа нам жыць цяпер, калі вы нам не заплаціце?

— Я сказаў, што заплачу, але палавіну.

І Хурс пайшоў шпарчэй, каб рабочыя асталіся ад яго. Яны і асталіся.

— Мы чулі,— сказаў адзін Паўлоўскаму,— як новы

гаспадар загадаў паставіць на тваё месца іншага чалавека... А нам плаціць не хочуць за гэты месяц.

— О, на работу просіцца,— усміхнуўся Паўлоўскі, паказваючы на Валодзю Кастрыцкага.

— Ці няможна ў вас пераначаваць? — пралепятаў змораным галаском раптам Валодзя Кастрыцкі.

Яму было ўжо холадна. Босыя ногі карчанелі. Імжа не сціхала.

— Баішся дадому ісці?

— Далёка. А заўтра я, можа, сабе работу дзе знайду.

— Хадзем,— махнуў Валодзю рукою Паўлоўскі.

І Валодзя Кастрыцкі пайшоў следам за Паўлоўскім. Яны прайшлі некалькі вуліц, а за імі канчаўся ўжо гарадок. Апошняя вуліца была з адных платоў. Моклі жоўтыя бярозы. Далечыня, блізкая ад навесі шэрага неба, чарнела балотамі і равамі. Доўгі і нізкі, калісьці пабелены, даміна цягнуўся пасярод платоў. Разламаная фортка брамы ляжала на зямлі на самым уваходзе ў двор, і праз шчыліны паміж дошчак павысоўвалася за лета крапіва і драсён.

У кватэры гарэла лямпа, пры самай сцяне на цвіку. Пад лямпаю жанчына штосьці шыла, а ў печы на прыпеку, пад трыножкаю, гарэў агонь і ў чыгуне штосьці кіпела. Дзяўчына, рослая і бландзіністая, у вязанай з шэрых ніцак кофтачцы, расколвала сукаватае палена. Пасля яна падклала дрэвак у агонь. Села на зэдлік і вымыла ногі. Як абувалася ў чаравікі, Паўлоўскі сказаў:

— Гуляць куды, Наталя, збіраешся?

— Не, ногі памерзлі. Босая бульбу выбірала.

— Мяне сёння Хурс з работы выкінуў.

Дзяўчына памаўчала, пасля сказала:

— Табе так — куды ні павернешся на свеце, усюды на Хурса натрапіш.

— Чый жа гэта хлопец? — сказала жанчына.

Валодзя Кастрыцкі выйшаў бліжэй на хату: дагэтуль ён стаяў ля парога.

— Дзядзька дазволіў мне начаваць.

— Адкуль жа ты? Чый жа ты?

Валодзю Кастрыцкаму надакучыла за той дзень гаварыць людзям, адкуль ён і чый ён. Кожны перш за ўсё пытаўся ў яго так, пакуль адказаць, што не ведае, дзе тут ёсць работа. І ён неахвотна адказаў. Паўлоўскі за ўвесь вечар больш не сказаў ні слова. Валодзя Кастрыцкі скоса

паглядаў на яго. Яму ўсё здавалася, што ён нездаволены тым, што пусціў яго начаваць. Неўзабаве прыйшла дзяўчына. Ліза — называла яе Наталя, Лізавета — называла яе Наталіна маці. Яны з Наталяю дасталі з-за люстэрка растрыбушаную, як вата, калоду карт і варажылі. Пасля пачалі гуляць «у дурня». Падсела маці і запрасіла Валодзю Кастрыцкага. Яму не хацелася, але ён сароме́ўся адмовіцца. І ўсё чырванеў, калі да яго гаварыла Лізавета ці Наталя. Пасля Лізавета і Наталя выціналі голасам польку і колькі разоў прайшлі танцам па хаце. Валодзя Кастрыцкі хацеў спаць, чакаў сну, не зводзячы вачэй з Лізаветы і Наталі. Больш яму падабалася Лізавета. Уночы ён спаў моцна, але заўважыў, што Паўлоўскі пазашморгваў на вокнах занавескі і штосьці пісаў, прыгнуўшыся да ледзьве выкручанага ў лямпе агеньчыка. Валодзю здзівіла тое, што ён трымаў пяро не гэтак, як звычайна трымаюць яго, а праўцом, як быццам бы ён не пісаў, а выдрукоўваў літары. Але тут жа Валодзя зноў заснуў. Калі ж ён прачнуўся, Наталі дома ўжо не было. Паўлоўскі сядзеў на калодзе і прышываў да бота латку.

— Ты, рабочы чалавек,— сказаў ён з бацькоўскай клапатлівасцю да Валодзі, як той падняў галаву,— спіш. Гэтак ты ніякае работы не знойдзеш. Мая Наталя даўно ўжо ў маёнтку бульбу капае... У цябе ж, мусіць, і есці няма чаго?

— Не, ёсць хлеб у торбе.

Але Паўлоўскі пасадзіў яго есці разам з сабою.

— Я ўспамінаю цяпер. Кастрыцкія жывуць побач з Хурсавым фальваркам. Я сам там жыў калісьці... Ну, пойдзеш работы шукаць? — смяяўся Паўлоўскі.

Валодзю Кастрыцкаму ў той дзень пашэнціла: у заезджым доме ён наняўся складаць дровы. Працаваў ён дацямна. На змроку ён выйшаў на гарадскі рынак купіць сабе есці — ён ужо атрымаў за сваю работу некалькі медзякоў задатку. Ён купіў акраец сітніцы, але выбраў чарствейшы, каб было танней. Еў ён тут жа, стоячы на рынку і прыглядаючыся да абтынкаванае камяніцы на два паверхі: там вучыцца Коля Высоцкі. Меркнуў дзень. У вокнах гарадка запальваліся агні. Гандляркі разыходзіліся з рынку.

Валодзя Кастрыцкі стаяў доўга, як падарожны на скрыжаванні незнаёмых дарог. Яму хацелася дадому, у сваю сям'ю. Ён сумаваў у гэты момант па сваіх блізкіх.

Нават ён цяпер ужо з дрыжаннем сэрца думаў пра той, прыкры раней, грыбны водыр, які заўсёды стаяў на лясістай дарозе пры яго хаце. Разам з тым яго мучыў белы дом, дзе вучыцца Коля Высоцкі. Ён зайздросціў Колю Высоцкаму. Усё было цяпер яму нядобра. З'еўшы хлеб, ён пайшоў назад у заезджы дом начаваць. Спаў ён на дрывах, паклаўшы туды сена і не раздзяваючыся. Устаў ён рана, каб хутчэй скончыць работу: згадзіўся ён на ўсё, а не ад дня.

Так прайшло яшчэ дзён два. Паўлоўскага ён не сустракаў. Але аднойчы ўбачыў на вуліцы Наталю. Яна першая пазнала яго. Яна здалася яму не такая цікавая, як тады вечарам: тады яна была прыадзеўшыся, цяпер у парванай і бруднай вопратцы. Яна ішла з работы.

— Што ты робіш дзе? — сказала яна.

— Сёння скончыў сваю работу.

— Хурс пачаў завод разбудоўваць. Я там сёння цэглу насіла.

Назаўтра ён быў там. Яго паставілі з рыдлёўкай мясіць гліну і перадаваць яе мулярам. Рабіў як дарослы, але за меншую плату. І таму быў выгадны рабочы. Там ён на рабоце і астаўся.

Гэта было ўжо цераз тыдзень нешта пасля таго, як начаваў ён у Паўлоўскага. Гэты першы дзень работы Валодзі Кастрыцкага на Хурсавым прадпрыемстве быў якраз той дзень, калі перад ім пачалі ўставаць няясныя абрысы новай, дагэтуль не веданай ім, грані жыцця. Гэта быў дзень незвычайны, і многа новых думак абудзіў ён у Валодзі Кастрыцкага.

Праз паўгадзіны якой пасля таго як пачалася праца — і на самым заводзе і на яго разбудове, хтосьці заўважыў прылепленую да паркана на заводскім двары паперку. Пасля пайшла чутка, што гэта пракламацыя. Людзі кінулі рабіць і пабеглі туды. Мала хто астаўся на месцы. Пачалі таксама выходзіць людзі і з самога завода.

Нічога па сцяне ўжо не было. Валодзя Кастрыцкі чуў у натоўпе рабочых, што ў пракламацыі, прыклеенай да сцяны, гаварылася так: кідаць работу і спыніць завод датуль, пакуль Хурс не заплаціць поўнай платы за той час, калі ён таргаваў завод. А ўсе, хто працуе на разбудове завода, няхай будуць салідарны з сваімі таварышамі і таксама кінуць работу.

Валодзя Кастрыцкі цёрся паміж людзей можа з гадзіну і бачыў, што работы няма. Не толькі гаварылі, не беручыся за работу, што рабіць: «быць салідарнымі ці не», але яшчэ і іншыя гутаркі былі: вайна пачнецца гэтымі днямі, бо прайшоў тэрмін міру, падпісанага паміж Расіяй і Японіяй. Але ўсё было недакладна, і ніхто нічога як мае быць не ведаў. Ясна было адно: на заводзе больш не робяць, завод ужо стаў. З будаўнікамі ж справа была такая: каб быў там рашучы чалавек і сказаў кідаць работу, і, можа, работу кінулі б. Не было каму скамандаваць. Камандзір прыйшоў гадзіны праз дзве. Гэта быў Рыгор Паўлоўскі. Валодзя ўбачыў, як ён стаяў на вуліцы, пакурваючы папяросу і, як заўсёды, стала адставіўшы нагу ўбок. Сам не ведаючы чаго, Валодзя пайшоў да яго.

— Робяць? — запытаў Паўлоўскі.

— Пачынаюць,— адказаў Валодзя.

Паўлоўскі азірнуўся навокал і падаўся туды. Ён убачыў у глыбіні заводскага двара чатырох паліцэйскіх і абышоў двор сцежкаю паўз рэчку.

— Вы яшчэ робіце? Эх, вы! Вас сцёбаюць дубцамі, а вы задніцу падстаўляеце. Кідайце работу!

Пайшоў гул галасоў. Разброд пачаўся поўны. Бадай-што работу кінулі б. Але ў гэты момант на вуліцы грунула палкавая музыка: з казармаў уязджаў у горад эскадрон кавалерыі. Праз пяць хвілін грукацела артылерыя. Рабочыя стаялі ўсе на тратуары, і Валодзя Кастрыцкі бачыў, як некалькі чалавек па месцы будоўлі павыварочвалі з скрынь замешаную гліну і ўваткнулі ў гэтую мокрую масу палку з надпісам на дошчачцы: «хто возьмецца за работу, будзе вораг свайму ж брату рабочаму».

Праз хвілін дзесяць Валодзя стаяў у вялікім натоўпе на рыначным гарадскім пляцы. Пасярэдзіне быў пусты чатырохкутнік, прыпёрты адной гранню сваёй да белага дома. Злева стаяла шарэнга пяхоты, справа — кавалерыі, а проста — паліцыі. Артылерыя стаяла па вуліцы, злітай з пляцам. Пачаўся малебен «о ниспослании победы христолюбивому воинству». Так стала вядома, што пачынаецца вайна з Германіяй.

Пасля малебна была патрыятычная маніфестацыя. Валодзя Кастрыцкі бачыў Міхала Піліпоўскага ў шэрагах семінарыстаў. Ён адважна ступаў па бруку сваімі гамашамі з падбітымі пад абцасамі гумавымі кружкамі і не зводзіў прагнага позірку з кожнага, натрапленага на вочы,

афіцэра. Колю Высоцкага таксама гналі ў шэрагах маніфестантаў. Валодзя і яго бачыў. А сам ён стараўся выбіцца бліжэй да цэнтра маніфестацыі. І гэта яму ўдалося: ён быў увесь у гразі і гліне, і публіка давала яму месца, абы аб яго не запэцкацца. Пасля ён трапіў у натоўп горш адзетае публікі, і тут ужо не баяліся яго гліны. Яго адапхнулі ў пустую вуліцу, адкуль ён і пайшоў туды, дзе начаваў апошнія дні — да Рыгора Паўлоўскага.

Да вечара было яшчэ гадзін тры. Ён сядзеў пасярод хаты на нізенькім зэдліку і цярпеў голад — грошай у яго ў той дзень не было, а Паўлоўскі сам сланяўся з кута ў кут, чакаючы Наталі, каб разам палуднаваць. Нарэшце прыйшла Наталя. Яна адразу накінулася на Валодзю:

— Чаго ты сядзіш, ідзі вымыйся. Пасля работы трэба мыцца. Ты ўвесь у гліне, у зямлі.

Ён падкасаў нагавіцы і пайшоў на двор мыцца. Наталя выйшла паліць яму на рукі вады.

— А сама! — сказаў ён.— Чаму ж ты сама не памылася?

— От паглядзіш, якая я зараз буду.

Няўмела, па-дзявочаму, яна яму падміргнула і пайшла даваць полудзень.

Яшчэ добра не ўмеркла, як у хату явіліся госці — чатыры паліцэйскія. Ператрэслі ўсю кватэру і забралі Паўлоўскага. Валодзя ўжо зусім астаўся на гэтай кватэры. Паўлоўскі прасядзеў пад арыштам да глыбокай зімы. Зімою яго пусцілі,— не знайшлі выразных доказаў. Валодзя за ўвесь гэты час мала бываў дома — з Наталяю разам ён хадзіў на ўсялякую падзённую работу. Тут ён як бы знайшоў сабе другі дом.

Аднойчы ён сабраў сабе крыху грошай. Наталя навучыла яго што зрабіць: трэба яму прыадзецца крыху. Купляць адзежу ён пайшоў не адзін, а з спрактыкаваным усюды чалавекам — Паўлоўскім. Прыйшлі яны назад увечары, і Валодзя адразу ўздзеў новы гарнітур і боты. Гэта ў яго былі першыя ў жыцці боты і першы крамны гарнітур. Ён шмат разоў украдкі заглядаў у люстэрка. Наталя бачыла гэта, ёй было смешна з яго, але яна і выгляду не паказала. Назаўтра пад вечар, прыйшоўшы з работы, яна сказала яму:

— Пераадзенься і хадзем з табою гуляць.

Ён увесь устрапянуўся ад радасці, але адказаў, стараючыся мець абыякавы выгляд:

— Куды ісці, нашто?

А сам баяўся, што яна згодзіцца і не пойдзе. Але яна бачыла яго навылёт і пацвялілася з ім:

— Ну добра, будзь дома. Я пайду адна.

Ён, здаецца, укусіў бы сам сябе за язык. А яна сказала:

— Ну, пойдзем? Пераадзенься.

Ён моўчкі пераадзеўся і стаў перад люстэркам. Яна знячэўку памачыла яму рукою валасы, і цяпер ён ужо смела, не чырванеючы, зачасаў іх набок. Так яны разам выйшлі з хаты. Але куды ісці — яна і сама не ведала. На вуліцы яна ўзяла яго нават пад руку, і ён страшэнна збянтэжыўся; усё думаў, ці добра ён трымае сваю руку ці зараз Наталя з яго зарагоча? Гэта першы раз ён так ішоў з жанчынаю, і Наталя з гэтай хвіліны заняла надоўга ўсе яго думкі. Ён не ведаў, што, каб на месцы Наталі была іншая дзяўчына, ён таксама думаў бы пра яе. Справа была не ў Наталі, а ў першай блізкасці жанчыны.

Яны спаткалі на вуліцы Лізавету. Тая іх пацягнула за сабою. Прыйшлі яны да нейкіх Лізавеціных знаёмых. Там збіралася моладзь на вечарынку. Пад гармоню танцавалі. Валодзя сядзеў у самым цёмным куце і з зайздрасцю і сарамлівасцю паглядаў на Наталю — яна многа танцавала. Раптам адчыніліся дзверы, і ўвайшло трое: кожны зіхацеў жоўтымі меднымі гузікамі на чорным паліце і цэшкаю на шапцы. Валодзя Кастрыцкі пазнаў двух: гэта былі Міша Піліпоўскі і Коля Высоцкі. Валодзя аж ірвануўся з месца, убачыўшы Колю. Ён адразу падбег да свайго друга. Той таксама быў рад. Валодзя трапіў у кола святла з лямпы. Як бы добра ні адчуваў ён сябе дагэтуль у сваёй новай крамнай адзежы, аднак жа Коля ўжо выразна быў іншы чалавек у сваёй семінарскай форме. Старое пачуццё зайздрасці заварушылася ў Валодзі. Міша Піліпоўскі яго не так не пазнаў, як не хацеў пазнаць. Ва ўсялякім разе звысоку глядзеў на яго і ледзьве зрабіў ласку сказаць яму некалькі слоў. Валодзя здзівіўся: Коля Высоцкі вельмі спрытна танцаваў. Калі ён мог навучыцца? Міша Піліпоўскі не адыходзіў ад Лізаветы. Для Валодзі ў той вечар выявілася, што яна зямлячка Мішы Піліпоўскага і толькі некалькі год, як пераехала з бацькамі ў гэты горад: бацька яе купіў тут каля самага горада тры дзесяціны зямлі і купіў хату на самым уездзе ў горад. Ішлі назад пасля танцаў разам: Піліпоўскі, Высоцкі, Наталя, Валодзя і Лізаве-

та. Міша Піліпоўскі яшчэ загадзя дастаў з кішэні манету. Коля растлумачыў Валодзю:

— Гэта трэба даць вартаўніку пры браме. Нам няможна выходзіць за сцены семінарыі і трэба падгадзіць вартаўніка.

— І за цябе ён плаціць?

— Ён мне так грошы дае.

— Як гэта?

— Я яму растлумачваю геаметрыю і ўсё іншае.

— Чаму? — нічога не разумеў Валодзя.

— Бо ён вельмі ж тупіца.

— А як ты жывеш?

— Каб хутчэй дадому на лета.

— Чаму? — не верыў Валодзя і дзівіўся — як гэта можа быць?!

Тут яны развіталіся. Пасля гэтага выпадку Валодзя не бачыў Колі Высоцкага аж да лета, а ўлетку бачыўся з ім усяго два разы, калі быў дома. Першы раз яны спакойна пагаварылі, седзячы на жардзяным плоце, другі раз яны, можна сказаць, нічога паміж сабою не гаварылі, але былі разам доўга. От як гэта было. Валодзю наказалі, каб ён ішоў дадому. Ён перапалохаўся гэтай катэгарычнасці і нечаканасці і калі явіўся дадому, застаў усіх сумнымі, а маці ўсю ў слязах. Бацьку бралі ў салдаты. Бацька начаваў дома тады апошнюю ноч. З самага ранку ўся сям'я праводзіла бацьку ў горад. Гэта была страшная хвіліна. Валодзя бачыў, як, вярнуўшыся дадому, маці рвала на сабе валасы. У Валодзі слёз не было, але страшны смутак душыў яго. Ад яго не адыходзіў яго друг Коля Высоцкі. Ён усё гаварыў:

— Ціха. Пакінь. Чуеш?

Пасля яны моўчкі леглі спаць у Валодзевых сенцах, а назаўтра Валодзя пайшоў зноў у горад на работу. Калі раней ён частку зробленых грошай пакідаў сабе, то цяпер усё да капейкі аддаваў сваім. Заработак жа яго быў невялікі.

У тысяча дзевяцьсот пятнаццатым годзе, праз паўгода пасля пачатку вайны, Хурс ужо як мае быць дайшоў да думкі не пашыраць свайго скурапога завода. Можа быць, ён нават цяпер шкадаваў, што купіў яго. Цяпер іншая справа яго займала. Гэта была вайна. Ён благаслаўляў той дзень, калі яна пачалася. Завод ён падправіў і пусціў так, як ішоў і раней, але прастояў ужо цяпер тут

не было. Ён узяў вялікі падрад па выраб падэшвы для арміі, і яму важна было хутчэй гэты падрад зрабіць, бо наперадзе яму чуліся новыя падрады. Яму патрэбны былі людзі: рабочых з завода больш палавіны пайшло на вайну. Калі ён набіраў сабе людзей, астацца на заводзе ўдалося і Валодзю Кастрыцкаму. Паўлоўскі і Наталя асталіся туды пазней — у пачатку тысяча дзевяцьсот шаснаццатага года, калі сам Хурс на заводзе ўжо ніколі не бываў, а ўсю справу прыпаручыў новаму свайму заводскаму кіраўніку. Той не ведаў і не цікавіўся, завошта Паўлоўскага ўжо раз былі звалілі з завода. Хурс у гэтыя часы як бы забыў пра такую драбязу, як гэты скураны заводзік. Ён цяпер па вушы сядзеў у сваёй роднай свінячай справе. Маштаб гэтае свае дзейнасці ён пашырыў яшчэ на адзін павет і лез яшчэ далей, збіваючы там з пазіцыі тамашняга свінога купца. Справа была ў тым, што ён цэлымі эшалонамі пхаў свіныя тушы ў рускую армію. Маштабы яго прыбыткаў цяпер у шмат разоў выраслі паводле таго, калі ён яшчэ да вайны адпраўляў свіней у Варшаву. Тут і справа была большая, і інтэнданты не любілі таргавацца. Хурс цяпер цёрся каля ўсялякіх інтэнданцкіх кіраўніцтваў, каля армейскіх штабаў, але ні на хвіліну не спускаў вока з глухіх дарог, цёплых хутарскіх свінухоў, дзе пладзілася і красавала свіное племя. Ён часта бываў у местачковых заездах, у карчомных стадолах, дзе яго падручныя вялі свінячы торг з непадатлівымі засцянкоўцамі і хутаранцамі.

Стадола і карчма! Знаёмыя нам словы з самага пачатку гэтай хронікі! Пяройдзем да справы бліжэй. Скажам прасцей — у той карчме, пра якую так шмат гаварылася ўжо раней, Хурс бываў часцей, як дзе ў іншых пунктах свае свінячае справы. Тут перад ім трапятаўся Сёмка Фартушнік. Сёмку Фартушніка сюды пасадзіў Хурс. Сёмка Фартушнік скупліваў і прымаў у гэтай карчомнай стадоле Хурсу свінні з цэлае воласці. Але гэта была толькі павярхоўнасць справы. Сярэдзіна была іншая. Там пахла не свінячым гандлем, і не свіныя галасы там гучэлі. Там гучэў роспач Амілі Снацкай, там фармаваўся жах Клавы Снацкай, там Сёмка Фартушнік ішоў на дно галавою ўніз, лічачы сябе практыкам і майстрам жыць. Ён не заўважаў таго, што адзін год прыходзіць на змену другому, што калі з'явіўся на галаве адзін сівы волас, дык неўзабаве з'явіцца і другі. Ён нават не заўважыў таго, што з яго душы дашчэнту пачалі выветрывацца ўсялякія імкненні ў вялікія

маштабы, а замест гэтага асталася добра ўжо сфармаваная натура чалавека, які, чым мацней імчыцца падняць на дарозе капейку, тым больш вытрасае з свае кішэні рублі.

Гэта было яшчэ перад пачаткам вайны, калі Сёмка Фартушнік толькі што асеў у карчме. Увечары на сваёй параконнай брычцы з'явіўся пад карчму Хурс. Сёмка Фартушнік нічога асаблівага не адлюстраваў на сваім твары: няма нічога дзіўнага, калі гаспадар бывае там, дзе ён уладае справаю. Фартушнік думаў пра свінячую справу. Але з таго вечара ён пачаў глыбей думаць, пакуль не захлынуўся ў гэтых сваіх думках.

Хурс зрабіў у Сёмкі Фартушніка вячэру. Гэта было зроблена неўзаметку — нібыта ён зайшоў на хвілінку, перадыхнуць пасля прыёмкі свіней. Вячэра была з віном — усё гэта знайшлося ў Хурсавай брычцы. Пасля вячэры Хурс папрасіў Сёмку Фартушніка праехацца ў яго фальварак і сказаць жонцы, што ён паедзе не дадому, а ў горад, бо там вельмі выгадныя і неадкладныя справы. Ужо даўно Хурсава слова было для Фартушніка закон. І ён адразу сеў у Хурсаву брычку і паехаў. Хурс астаўся адзін з Аміляю. Яна вячэрала разам, але не сказала ні слова за цэлую гадзіну. Яна прывыкла ўжо бачыць тут часта Хурса, і праз каторы ўжо час яны не сказалі адно аднаму ні слова. Хурс толькі пры спатканні ёй кланяўся, і яна холаднаківала галавою. Такія дачыненні ўсталяваліся паміж імі.

— Аміля,— сказаў цяпер Хурс.

Аміля маўчала.

— Аміля, маё пачуццё да цябе асталося ранейшае. Я мучуся па табе.

— Ты смееш мне гаварыць гэта?

— Гэта пачуццё гаворыць.

— Ты загубіў мяне навек і цяпер выстаўляеш свае пачуцці? Цераз цябе я прымушана была пайсці замуж за гэтага Фартушніка!

— Чаму цераз мяне? — з'яхіднічаў ён, а сам падумаў: «Добра! Яна адкрыта загаварыла мне пра свае пачуцці да мужа».

— Ты яшчэ пытаеш? Ты прыкідваешся нявінным хлопчыкам? Удава з дзецьмі магла быць шчаслівейшая за мяне тады. Я вымушана была ісці замуж за першага, хто пасватаўся.

— Чым жа ён кепскі, твой муж? — выварочваў Аміліну душу Хурс.

Яна ўскочыла, сашчаміўшы кулакі. Гэта было падобна да таго, калі яна тады, даўно, нацкавала на яго сабаку. Ён гэта заўважыў і хістануўся да сцяны.

— Ты пытаеш? Ты нічога не ведаеш? — крычала Аміля, стоячы перад сталом.— Ты зрабіў з яго цацку, таксама, як і з мяне?! І ён рад гэтаму. У яго душа гэтакая, як і ў цябе! Я яму не жонка, а тавар. Ён увесь свет памераў бы на аршыны і назначыў бы цану на кожны аршын. Ён і мяне мог бы прадаць каму хочаш і на які хочаш час, абы яму заплацілі. Калі яшчэ не было гэтага, дык можа быць! Я пазнала яго! Цераз цябе я навек пахавала сябе ў гэтай карчомнай нары, з гэтым, з гэтым... (Яна не магла знайсці слова, каб даць мянюшку свайму мужу.) Ён не той, якім умее прыкідвацца, ён цяпер такі, які ёсць, а не такі, які быў тады, калі першыя разы да мяне прыходзіў!..

Яна крычала доўга, ужо не бачачы перад сабою Хурса. Само сабою пайшло бушаваць і рваць яе абурэнне, агіда і роспач. Яна гаварыла пра неахайнасць Сёмкі Фартушніка, пра яго скнарыстасць, пра чэрствасць, пра грубасць, пра нячуласць, пра гандлярскую хітрасць, пра капеечную блізарукасць, пра тое, што з кожным годам у яго выдоўжваецца нос і вырастае кадык; яна крычала пра агідны пах з яго пінжакоў і фуфаек. Хурс маўкліва ўсё гэта выслухоўваў, і гэтая вытрыманасць не перашкаджала яго радасці. Нарэшце ён устаў і паклаў руку Амілі на плячо. «Зараз закрычыць — вон!» — думаў ён.

— Вон! — крыкнула Аміля.

Ён апусціў руку і падумаў: «Зараз пабяжыць адгэтуль».

Аміля рванулася ў бакоўку і ляпнула за сабою дзверы. Ён пачакаў хвілін дваццаць і пайшоў туды. Аміля сядзела, уткнуўшыся тварам у падушку. Плечы яе пакідалі ўздрыгваць. Хурс сеў поплеч і пачаў гладзіць яе галаву. Яна нібы не чула. Праз хвілін пяць застукалі калёсы і пачуўся голас Сёмкі Фартушніка. Толькі цяпер Аміля адчула, што на яе галаве Хурсавы рукі.

— Вон! — закрычала яна.— Вы абое мне ненавідныя!

Хурс спакойна зняў рукі, заклаў іх у кішэні і выйшаў з бакоўкі. На парозе стаяў Сёмка Фартушнік. Ён і Амілін крык чуў і бачыў яе істэрычную разгневанасць. «Што гэта такое?» — гаварыў яго позірк, накіраваны на Хурса.

Хурс прайшоўся два разы ўздоўж стала і дастаў з кішэні пук грошай. Дэманстрацыйна ён паклаў іх на стол і вытрымаў паўзу. Пасля адарваў трэцюю частку гэтага грашовага пука і паклаў Сёмку Фартушніку ў рукі:

— На гэтыя грошы я ў цябе буду абедаць, калі раз у месяц буду прыязджаць сюды.

Ён шпарка адзеўся і пайшоў. У парозе ён сказаў:

— Не, я перадумаў. Абедаць я буду дома, у сваім фальварку.

— А грошы? — скалынуўся Сёмка Фартушнік.

— Ерунда,— махнуў рукою Хурс, і праз хвіліну чутно было, як фурман гукнуў на коней.

Сёмка Фартушнік падаўся ў стадолу і запаліў там лямпачку. Ён пералічыў грошы і жахнуўся. Сотнямі мералася гэтая сума! Ён кінуўся ў свой пакой і замкнуў грошы ў стол, туды, дзе ляжалі яго ўласныя пачкі. Ён доўга не мог заснуць: гэта ўжо было дзіва з Фартушнікам. Штосьці блізкае да чалавечага суму не давала яму спакою. Гэтае пачуццё рвалася наверх і патрабавала, каб ён кінуў назад Хурсу яго грошы. Але тут жа выплыла другое пачуццё: яно было падобнае да тых пачуццяў, якімі ён жыў тады, калі яшчэ нежанаты рваўся ў шырокія маштабы. Перад гэтым другім пачуццём першае адступіла і сплыло. Калі праз дзён дзесяць ізноў з'явіўся Хурс, у Фартушніка зноў заварушыўся смутак, пры думцы аб Амілі, аднак жа ён вельмі ўслужліва кінуўся Хурсу насустрач. На гэты раз Хурсу не ўдалося пагаварыць з Аміляю, ён адно кідаў на яе вельмі выразныя позіркі — на кожным кроку цёрся Сёмка Фартушнік. На ад'ездзе Хурс зноў пакінуў Сёмку Фартушніку грошай, выдумаўшы на гэта прычыну, але Сёмка ўжо ведаў, што гэтую прычыну трэба тут жа забыць. Гэты раз Сёмка Фартушнік менш думаў, а больш падлічваў грошы і меркаваў, ці можна ўжо самому завесці якуюнебудзь уласную справу. Ён пералічваў, якія ў рускай арміі могуць быць падрады паводле яго кішэні. Так ён ні да чога і не дадумаўся. Трэці раз Хурс грошай не пакінуў, але намякнуў, што ці не пара Сёмку Фартушніку стаць кампаньёнам у якой-небудзь спекуляцыі. Хоць гэты намёк ні да чога Хурса і не абавязваў, але яго было даволі, каб Сёмка Фартушнік пакінуў Хурса з Аміляю адных. Цяпер Хурс дзейнічаў без усялякіх лішніх прадмоў: ён заявіў Амілі рашуча, што не можа без яе жыць, і зашчапіў на кручок дзверы. Сёмка Фартушнік калаціўся, стоячы пад

дзвярыма, а пасля не вытрымаў і падаўся ў стадолу. Як бы нейкі пераварот адбыўся ў яго думках: ён пераадзеўся ў нейкі брызентавы гарнітур і пачаў падчышчаць у стадоле гной. Ён не выйшаў нават развітацца з Хурсам. За гэта Хурс у наступны раз намякнуў яму, што ўсялякія бываюць службоўцы ў вялікіх купцоў: адны да самае смерці пануюць, а другія могуць быць так пастаўлены ў жыцці, што дажываюць веку з жабрачымі торбамі. Хоць гэта і не гаварылася выразна пра Сёмку Фартушніка, хоць Хурс і «забыўся» на стале крыху грошай, аднак жа Сёмка Фартушнік памагаў Хурсу сесці ў брычку. З гэтага дня Хурс пачаў бываць у карчме рэгулярна два разы на месяц і ўжо не «забываўся» на карчомным стале грошай. Сёмку было даволі і чакання, калі Хурс штурхане яго ў кампаньёны якой-небудзь спекуляцыі.

Праз некалькі год Клава шмат пра што з гэтых спраў расказвала Наталі: яна многа ведала, хоць яшчэ была, можна сказаць, дзіця. Яна, як рухавы звярок, кідалася з кутка ў куток, падглядала, падслухоўвала, бачыла, як Фартушнік лічыць грошы, чула, як маці ўздыхае і плача пасля кожнага Хурсавага візіту, і адзін раз выклікала маці на гаворку. От якую філасофію пачула яна з матчыных вуснаў: «Кожны чалавек створаны печаным гадам. І тое добрае, што ёсць у кожным чалавеку, вельмі мала калі бярэ верх над злым. А той, у каго гэты добры пачатак задушыў зло, мала, калі можа астацца вольны: на яго накідаецца навакольнае чалавечае звяр'ё, і такім парадкам зло перамагае. Слёзы, кроў — усё гэта вынік гэтага парадку светабудовы. І чалавечае шчасце ў тым, каб самому сабе змагацца з злом. Рэлігія? Гэта і ёсць шлях да чалавечае чыстаты і шчасця. Я радзілася хрысціянка? Дык я і памру ёю. Любіць усіх пагалоўна? Можна, толькі не Хурса і Сёмку Фартушніка!»

Гэтая апошняя супярэчлівасць з хрысціянскаю мараллю не перашкаджала аднак Амілі Спацкай усё мацней і мацней усталёўвацца ў сваёй філасофіі.

— На! Бачыш? — паказала яна Клаве на двухкапеечную карціну ў рамцы.

— Дзяўчына моліцца. Яна імкнецца ў чыстату ад чалавечага звяр'я.

І Клава ўчапіла на мадонну каралі.

— Бачыш? — паказала яна на свае маршчыны каля вачэй.— А я ж яшчэ маладая!

Не ўсё Клава разумела тут. Яна была яшчэ дзіця. І гэта было няважна Амілі Снацкай. Ёй было важна хоць перад кім-небудзь пагаварыць. Клава ж толькі адчувала той жах, які панаваў у яе маці.

Яны ўдвух хадзілі пад закарчомную ручаіну і глядзелі, як плыве вада. Гэта сузіральнасць легла ў аснову натуры маладой Клавы.

Месяцаў за чатыры да рэвалюцыі, уночы, Паўлоўскі выкапаў тое, што было яму даручана: ён атрымаў пракламацыі да рабочых і пусціў іх па руках. От што было сказана ў пракламацыях: «Хурс багацее на вайне. Нашы бацькі і браты на вайне ўміраюць. Мы галодныя робім на заводзе, каб Хурс багацеў. Далучымся да забастовак іншых гарадоў. Не выйдзем на работу, пакуль Хурс не павялічыць заработку. Установім васьмігадзінны рабочы дзень».

На чацвёрты дзень рабочага хвалявання сам Хурс быў на заводзе. Ён, пакуль шукаць вінаватых, сам прайшоў па натоўпе рабочых і зноў убачыў Паўлоўскага. Ён успомніў колішнюю гутарку з ім і цяпер нічога не гаварыў. Увечары Паўлоўскага звольнілі, а праз тры дні і Валодзю Кастрыцкага: хтосьці сказаў, што ён вельмі дзейна пускаў па руках пракламацыі.

Быў хмурны дзень. Снег быў мокры, і неба нізкае. Паўлоўскі і Валодзя ўдвух рушылі з гарадка гасцінцам на ўсход — яны думалі пашукаць работы ў гарадку на ўсходзе. За гадзіны дзве яны падышлі да карчмы. Валодзя пацягнуў Паўлоўскага ў сваю хату, да сваіх — начаваць дома хацеў Валодзя. Пакуль звярнуць на палявую дарогу, яны ўвайшлі ў карчомныя сенцы, а пасля ў карчму. Было многа народу — сяляне-фурманшчыкі і мястэчковыя мяшчане. Было страшна накурана, і пахла мокраю воўнаю і селядцамі. За вялікім сталом пілі гарэлку. Валодзю захацелася выпіць гарэлкі. Але пакуль ён збіраўся, зазвінелі на двары шпоры і ляснулі абцасы аб падлогу ў сенцах. Адчыніліся дзверы, і на ўсю карчму бліснуў малады афіцэр. Валодзя падаўся ў кут к сцяне. Афіцэр акінуў вокам сялянскі натоўп і пайшоў да карчомнае бакоўкі. Але выпадкова з бакоўкі выйшла Амілія Снацкая. Афіцэр хапіў Аміліну руку, паднёс да рота і адрэкамендаваўся:

— Прапаршчык Піліпоўскі.

— Калі ж вы ўспелі? — здзівілася Амілія Снацкая.— Ці даўно гэта было, што вы, едучы ў семінарыю і назад, заўсёды спыняліся тут з бацькам.

— Толькі што з ваеннае школы. Еду на дзесяць дзён у водпуск, пабачыцца з сваімі. А пасля — на фронт! На фронт!

Аміля Снацкая задуменна сказала:

— Як скора імчацца гады.

Міша Піліпоўскі невядома к чаму і да чаго сказаў:

— Судьба играет человеком.

Валодзя Кастрыцкі не вытрымаў.

— А Коля Высоцкі? — запытаў ён, выходзячы з свайго кутка.

— Коля Высоцкі? — з пагардаю адказаў Міша Піліпоўскі, прыглядаючыся да Валодзі Кастрыцкага.— Коля Высоцкі? Гэты будзе спакойна настаўнічаць да канца дзён сваіх... А, гэта вы? — пазнаў ён Валодзю Кастрыцкага.— Што ж вы?

Ён і сам не ведаў, што сказаць, бачачы перад сабою юнака ў вышмальцаванай вопратцы і з заскарузлымі рукамі. Пасля ён казырнуў Валодзю і пайшоў у бакоўку, смела і развязна. З гэтага моманту ў Валодзі Кастрыцкага нарадзілася і пачало ўсталёўвацца да Мішы Піліпоўскага пачуццё страшнае нянавісці. Больш ён яго ніколі ўжо і не бачыў, аж да тысяча дзевяцьсот трыццаць чацвёртага года.

Валодзя з Паўлоўскім пайшлі з карчмы. Як толькі ўвайшлі яны ў Валодзіну хату, заплакала сястра Вера, загаласіла маці, закалаціўся меншы брат: ужо з самай раніцы на стале ляжала паведамленне, што бацька сканаў у акопах ад шрапнелевае раны ў жываце.

Гаварылі, што ў той самы вечар Міша Піліпоўскі вельмі весела піў у карчме разам з Хурсам Хурсава віно і лез цалаваць рукі Amілі Снацкай. Пасля Хурс паехаў, а Міша Піліпоўскі пацалаваў руку ў вяртлявага звярка, бландзістага падростка — Клавы. А пасля Сёмка Фартушнік уклаў яго спаць і сам вельмі шчыра падкладаў яму пад галаву падушкі. Зранку ж ён пазычыў у Сёмкі Фартушніка грошай на дарогу: у яго недзе дзеўся з кішэні партманет, але яму брыдка было прызнацца, і ён маўчаў. Сёмка ж Фартушнік пазычыў яму грошы і нават вокам не міргнуў: ён пазычаў прапаршчыку яго ж уласныя грошы.

Гэта было зімою. А як толькі сонца пайшло на вясну, у гарадку з ратушы быў збіты двухгаловы, бронзавы, цяжкі арол. Ён бразнуўся аб замакрэлы брук. І тады ж Паўлоўскі сказаў у гарадку першую адкрытую рэвалю-

цыйную прамову. А цераз некалькі месяцаў Валодзя Кастрыцкі быў ужо ў Чырвонай Арміі.

## III

Позна ўвечары Наталя сцягла з палатак вопратку Валодзевай маці. Жанчына ляжала зусім слабая і нічога не чула, як Наталя апраналася. Наталя думала: «Калі зараз не прыйдзе Клава — будзе дрэнна. Старая можа памерці адна. Што тады скажа Валодзя! Як яму тады растлумачыць, што не магла я ніяк знайсці сюды сталага чалавека! А яшчэ — я яму нараіла Клаву, а яе другія ўжо суткі няма. А калі я сама астануся тут яшчэ дзве гадзіны — усё будзе прапала. Тады я ніколі не знайду тых, хто мне патрэбен. Я не магу цяпер астацца тут, бо размінуся з чалавекам, з якім ужо ўчора размінулася. Чаму ён не прыйшоў? Калі сёння я з ім не спаткаюся — заўтра апошні дзень астанецца. І калі не ўбачуся з ім — тады страчу ўсялякую сувязь з падполлем. Тады мая місія па-дурному скончыцца... Што з Клаваю? Учора ўдзень прыбегла ўсхваляваная, напалоханая нейкая, сказала, што з'явіўся Хурс, пабыла з гадзіну і пабегла. Што з ёю?»

Наталя падышла да жанчыны. Цёмна было. Наталя ўзяла ў рукі лямпу і асвяціла жанчынін твар. Хворая руЖовасць трымалася на скулах яе твару; завастрыўся нос, грымаса ішла па твары і канчалася ў маршчынах на лбе. Маршчыны на лбе варушыліся. Відаць было — яна хоча нешта сказаць і не можа выгаварыць. «Валодзя — копія з маці; рыса на пераноссі каля вачэй»,— падумала Наталя.

— Што вы кажаце? — сказала Наталя, нагінаючыся да вуха жанчыны.

— Паклічце Валодзю,— ледзьве выгаварыла жанчына.

Наталя сумна адышлася.

— Валодзя зараз вернецца,— сказала яна.

— Ён вярнуўся. Вы яго хаваеце. Вы ўсе такія!.. А бацька, на вайне забіты?! Вы гэтаму рады? Вы рады, што і Вера памёрла! Вам каб адным толькі жыць! Вы не верыце? А вы ж самі бачылі! Па той бок лесу, як сцяна — лес роўна стаіць. З таго боку сонца ўсходзіць. Я там малілася не раз — і як яго на вайну праводзіла, і як Валодзю ў бальшавікі выпраўляла, і як Веру занеслі на могілкі, а я адна з могілак дадому варочалася. Сонца свяціла на лес, а я малілася. Людзі ведаюць, колькі я вымалілася. Раз там

Хурс на машыне ехаў і перашкодзіў мне маліцца. Людзі ведаюць, ён на машыне ездзіць, у яго мільёны!..

Пачалося бяспамяцтва. Яна ўтамілася ад гаворкі і знізіла голас. Голас перайшоў у шэпт. Яна ўсё гаварыла, гаварыла, і канца гэтаму не было.

Наталя адышлася, паставіла на стол лямпу, укруціла агонь і ўкрыла коўдраю жанчыну. Паглядзела на вокны — яны былі шчыльна завешаны дзяружкамі, і знадворку нельга было заўважыць, што яна тут. Як яна кіне Валодзеву маці? Што яна рабіць будзе? Дзе Клава? Сэрца яе рвалася ад жалю да жанчыны, і з гэтага пачуцця нараджалася другое — злосць на Клаву; відаць, з-за нейкіх капрызаў не ідзе. Можа, ёй не падабаецца, што я тут асталася? Пасля нашай гаворкі, пасля таго, як ёй стала вядома, што «я лепш хачу пачакаць тут некалькі дзён, пакуль усё стане спакойна». Бо хоць я нічога з бацькам агульнага не маю, з-за кавалка хлеба ў іншай воласці працавала, аднак жа, пакуль разбяруцца — гатовы арыштаваць. Пасля, як польская ўлада ўсталюецца — тады можна будзе спакойна вярнуцца, пашукаць работу і жыць. Паверыла ці не паверыла мне Клава? Аднак жа на яе твары было спачуванне да мяне — яна шкадавала мяне, чалавека, якому цяжка прыйшлося, які баіцца. Яна ж дакляравала мне маўчаць пра мяне, што я тут гэтыя дні. І яна будзе маўчаць. Я яе ведаю. Што ёй да рэвалюцыі або да контррэвалюцыі? Так ёй здаецца. Яна думае пра «звярыную чалавечую прыроду».

Так думала і ўспамінала Наталя, стоячы цяпер пасярод хаты і не ведаючы, што рабіць. І хоць была яна ўпэўнена, што Клава нікому не скажа, што яна тут, аднак жа ў думкі закрадалася трывога: чаму яе няма? Можа, яна пра што здагадваецца і наўмысля не хоча больш прыходзіць сюды?

Жанчына ўсё шаптала і выбівалася з сіл. Было позна. Наталі няможна было і хвіліны ўжо траціць. І яна, сціснуўшы зубы, пайшла. Яна зашчапіла знадворку дзверы і пабегла бягом. Жанчыніна вопратка была цяжкая і гаматная, але каб повіду, дык Наталя была б цяпер падобна да дзяўчыны, якая варочаецца дзе-небудзь з работы або выбралася трапаць лён у суседнюю вёску.

Наталя прайшла з паўкіламетра, пакуль больш трапіліся хаты — тут была расселеная вёска. Пасля хаты пайшлі гусцей, было нешта накшталт вуліцы. Наталя не спаткала анікога і прайшла да таго месца, дзе ішла чыстым

полем шырокая дарога з тэлеграфнымі слупамі. Дрот на слупах гуў і звінеў. Наталя неўзаметку азіралася па баках. Нікога нідзе не было. Ціха, і ніякага руху. Фронт, відаць, далёка ўжо быў на ўсходзе. Наталя пазнавала камяні пры дарозе і адзіночныя кусты — учора яна тут таксама ішла і нікога не застала. Як будзе сёння?

Нарэшце быў лясок, ці хутчэй — проста града маладых дрэў. Вось і два камені, шырокія, пляскатыя, крыху бялявяцца ў начным змроку. Тут трэба спыніцца. І як толькі яна спынілася, з-за дрэў выйшаў чалавек. Яна зрабіла выгляд, што баіцца, і паволі рушыла далей. Чалавек пайшоў за ёю. Ён запытаў:

— Куды вы ідзеце? Можа, нам па дарозе?

— Мне па дарозе з кожным.

— З някрытага сяла?

— З даўно някрытага.

— Гонта?

— Папалам з саломаю.

Цяпер яна спынілася. Так і трэба было гаварыць. Чалавек вытрымаў пароль, умоўленую гутарку. Яшчэ дзён дзесяць таму назад яна вызубрыла яе з слоў таго, хто даваў ёй даручэнне. Цяпер яна абмацала ў кішэні ключ.

Чалавек быў малады і адзеты па-сялянску, нават у лапцях. Яна падумала: «Сапраўды селянін ці пераадзеты».

— Ну, што чуваць? — загаварыў ён ціха, адводзячы яе за руку да дрэва.— Вы ўчора прыходзілі? Учора быў першы дзень умоўленай сустрэчы.

— Прыходзіла. Чаму вас не было?

— Нечакана прыйшоў пасланец з усходу, з-пад горада.

— Дзе фронт?

— Горад па гэты бок.

— Што гаварыў пасланец?

— Як толькі акупацыя зноў заняла мясцовасць, з лесу вярнулася банда дэзерціраў. Яшчэ як нашы нават не адышлі былі з тае прыгараднае мясцовасці, яны спрабавалі напасці на камісарыят, што эвакуіраваўся з нашага горада. Дзіўна, што сярод іх быў стары чалавек, нейкі Піліпоўскі, багаты хутаранец. Ён, ходзяць чуткі, сцярог гэтыя камісарыяцкія фурманкі, калі яны павінны былі ехаць да станцыі. Справа была на лясной дарозе. Глуш, хоць дарога бітая. За вёрст тры наперадзе адыходзіла чырвонаармейская часць, вёрст пяць назад таксама ішла чырвонаармейская часць. Але яны паспелі пастраляць. Піліпоўскі, ка-

жуць, пазнаў упаўнаважанага па прадразвёрстцы па павеце Паўлоўскага і нахабна закрычаў: «Ага, пазнаеш мяне? Калі забыўся, як развёрсткай мае засекі падчысціў, дык я табе напомню. А гэта бачыў?» і стрэліў...

— Забіў? Раніў? — не вытрымала Наталя.

Яна ўся трэслася.

— Здорава раніў. Ужо колькі дзён прайшло, ён яшчэ жыве. Добра не ведаю, як сёння, а ўчора жыў, пасланец казаў.

— А дзе ён цяпер?

— Недалёка ад нас, у местачковай больніцы. Яго прывезлі сяляне. Пры ім стаіць польскі салдат. Ён памрэ пад арыштам.

— Чаму ж яго не забралі яго таварышы?

— Іх некалькі чалавек забілі. Помсціліся за развёрстку. Там жа і было ўсяго тры фурманкі, і аховы, можна сказаць, ніякае. Фурманкі так і асталіся. Некалькі чалавек толькі ўцяклі. Што з вамі?

— Нічога. Мне холадна. Што больш чуваць?

— Дэзерціраў заклікаюць у банды. Іх называюць беларускай арміяй. Нам патрэбны адозвы.

— От вам ключ. У кірмашны дзень пойдзеце ў горад на кірмаш (можаце гэта зрабіць у першую нядзелю). Напроці касцёла чалавек у кажуху і добрых ботах, у шапцы з паламаным папалам казырком будзе прадаваць куфры. Вы запытаеце яго, жартуючы, чаму так дорага куфры цэніць, ці не дванаццаць дачок замуж аддае зараз і пасаг збірае. Ён вам адкажа, што ў яго не дванаццаць, а трынаццаць дачок, і яны такія, што іх і без пасагу возьмуць. І ён пакажа вам два зялёных куфэркі. Іх вы купіце. У іх падвойнае дно, і там схаваны пракламацыі. Перад тым як прадаць вам куфар, чалавек скажа: «якраз ключа няма да гэтых куфраў, купі, чалавеча, без ключа. Сам даробіш». Вы купіце. От вам ключ. Ён павінен падысці да тых куфраў. Гэта яшчэ адна прычына праверыць справу. От і ўсё. Што ж больш у вас чуваць?

— Пасланец прынёс газету. Нібыта перамір'е зараз будзе. Мірныя перагаворы пачнуцца.

— Больш нічога пра гэта не чуваць?

— Не.

— Давайце разыдземся. Усё памятаеце? Я вам перадала адозвы. Больш мы з вамі не спаткаемся. Чалавек, у якога вы купіце куфры, скажа вам, дзе, калі і з кім вам

трэба будзе спаткацца. Бывайце. Дайце руку... Слухайце, ніяк нельга выратаваць Паўлоўскага?

— Мы пра гэта думалі. Калі што і можна зрабіць, дык дзён праз два-тры. А да гэтага часу ён памрэ — цяжка ранен і вельмі слабы.

Назад ісці Наталя не спяшалася. Яна ішла вельмі паволі, мала баючыся, што яе хто-небудзь заўважыць. Яна думала пра дзве справы: што рабіць з бацькам і каго пакінуць пры Валодзевай маці? Яна сама ўжо не можа больш тут быць. Яна стрымлівала страшнае жаданне кінуцца туды, у бальніцу. Але што з гэтага можа быць? Бацьку яна нічога не паможа, а сабе пашкодзіць. Яна тады не выберацца на ўсход. Нашто ж ёй самохаць і без карысці самой лезці ў пастку? Дзверы ў хаце яна застала так, як і пакінула — яны былі зашчэплены. Клавы няма! Можа, і праўду думае Валодзя, што нічога добрага няма ў ёй? Ну што яна там робіць? Капрызы якія-небудзь? Бо чаму яна не магла прыйсці?

Старая ўжо нічога не гаварыла. Яна моўчкі ляжала і часта дыхала. Наталя стала пасярод хаты, апусціўшы рукі. На момант у яе з'явілася такая роспачная, поўная песімізму, думка: «прыйдзе пасля пара, што можна будзе толькі ўспомніць гэты цяжкі момант — усё пройдзе». Пасля яна адагнала ад сябе гэтую думку. Яна падышла да жанчыны і прыклала да яе лба руку. Твар халадзеў — Наталя, хоць і не спрактыкаваная, але бачыла, што патухае жыццё.

Памрэ бацька ў бальніцы ці не памрэ — а ёй усё роўна трэба брацца на ўсход. Там таксама чалавек павінен яшчэ прадаць два зялёныя куфры з падвойным дном. Яшчэ ёсць і трэці пункт, дзе стаіць зялёны куфар, але ў ім не падвойнае дно, і ён проста закапаны ў зямлю. Яна адна пра гэта ведае, і той чалавек, які яго закопваў. Але ж ён не ведае, калі і каму перадаць тое, што ў гэтым закапаным куфры. Яна павінна арыентавацца, вычакаць момант, мець сваю ініцыятыву і сказаць, каму перадаць закапаны куфар. Для гэтага яна ўжо цяпер павінна трымацца блізка фронту, на ўсходзе, блізка ўсходняга гарадка. Там яна, па толькі ёй адной вядомых адзнаках, знойдзе падпольны штаб і паведаміць, дзе хаваецца закапаны куфар з шрыфтом. Калі яна гэтага не зробіць — падполле не будзе мець друкарні: шрыфт даўно ўжо схаваны, яшчэ з канца першай акупацыі, і яго не даставалі. Яна пра гэта ведала. І цяпер яна мае даручэнне: перадаць шрыфт пад-

польнаму штабу. Разам з гэтым — перадаць гатовыя адозвы аб арганізацыі партызан. Але не адразу карыстаць гэтыя адозвы. Можа, і зусім іх карыстаць не давядзецца. На гэтым канчалася ўскладзеная на яе місія. Пасля гэтае магла пачацца другая, але яна можа быць ускладзена на яе толькі там, куды яна перадасць шрыфт.

На ўсход яна пойдзе ўночы. Удзень яна дзе-небудзь будзе туляцца. Яшчэ ночы асталося вельмі многа, яна яшчэ многа пройдзе. Трэба ісці. Выклікаць Клаву і самой ісці. Без Клавы яна не можа пакінуць Валодзеву маці.

Палатанай вопраткі яна з сябе не скідала. Так і пайшла, зноў зашчапіўшы знадворку дзверы. Яна ў момант перабегла вузкай дарогай да гасцінца і там убачыла, што ў карчме гарыць святло — ва ўсіх вокнах. Нікога нідзе, ні душы. Было яшчэ не позна, ноч яшчэ не канчалася. Бралася на мароз, высвечвалі зоры. Наталя прайшла паўз карчомныя вокны і ўбачыла карціну: Клава стаяла з рога вялікага стала і стукала па ім кулакамі. За ёю стаяла яе маці Аміля Снацкая і трымала сваю руку ў яе на плячы. Плячыма ў сцяну, як прыбіты да яе, стаяў Міша Пілілоўскі ў сваёй чырвонаармейскай адзежы. Сёмка Фартушнік стаяў пасярод усіх, нейк баязліва трымаючы рукі ў кішэнях свайго фрэнча. Адчыненыя дзверы бакоўкі займаў Хурс. Ён быў у форме польскага афіцэра. З тых часоў, як Наталя бачыла яго, ён вельмі змяніўся: дробным клінком у яго запушчана была бародка. Яна здорава ссівела. Ён здаваўся яшчэ вышэйшы, як быў.

Наталя адразу пайшла назад. Ёй стала страшна быць блізка да ўсіх гэтых людзей, нават і да Клавы. Міша Піліпоўскі? Што ён тут робіць? Што яны там робяць уначы, усе гэтыя людзі?! Яна заўважыла, што на карчомным двары стаяў аўтамабіль. «Хурсаў,— падумала Наталя.— А можа Піліпоўскага злавілі ў палон?»

Яна стала пад першым дрэвам на глухой дарозе, дзе магло быць смялей. Яна ледзьве трымалася на нагах. Ёй рабілася холадна, страшная стомленасць скоўвала яе. Так яна стаяла, можа, з паўгадзіны, пакуль адумалася. Яна бачыла над сабою зоры. Ёй здалося, што недзе заплакала дзіця — можа, і сапраўды яна гэта чула. Закрычала дзесьці нейкая птушка. Ноч стаяла ціха. Чорныя абрысы кустоў і дрэў былі навокал. Карчма ледзь вырысоўвалася за гасцінцам. Наталя ўспомніла: удзень будыніна гэтая падобна на кучу гною. Думкі яе пайшлі далей: гэтая куча прастор-

ная, у ёй Сёмку Фартушніку весела магло б жыцца. Яна думала далей пра такую кучу гною, як Валодзева хата. Там душылася жыццё заўсёды.

Наталя правяла рукою па дрэву. Кара была мокрая ад туману. Пад нагамі мякка ляжала лісце. Ад яго ішоў водыр шырокіх разлегласцей. Наталя хапіла з зямлі мокры ліст і, мнучы яго ў пальцах, паволі пайшла да Валодзевай хаты, несучы ў сабе вялікі смутак аб бацьку, імкненне ісці на ўсход, клопат аб Валодзевай маці і адчуванне, што змучанасць праходзіць і яна зноў становіцца на сваю ранейшую дарогу. Як бы яна адна ішла цяпер па гэтай, змучанай войнамі і акупацыямі, зямлі і як бы адна несла за яе адказнасць і клопат! Так яна ў гэтую хвіліну адчувала свет.

У гэтыя хвіліны сцэна ў карчме канчалася. Яна пачалася яшчэ з самага вечара. У гэтай сцэне сабраўся ўвесь накіп усяго таго, што рабілася каля гэтай карчмы праз шмат год. Пачалося ўсё з таго, што на змроку, калі Клава збіралася ісці да хворай жанчыны, каб астацца там на цэлую ноч, да карчмы пад'ехаў Хурс на сваёй машыне. Ён сагнуўся напалам, уваходзячы ў карчомныя сенцы. У сенцах ён убачыў Клаву. Ён пазнаў яе, узяў пад руку і павёў у карчомныя пакоі. Клава паслушна ішла. Як Хурс пусціў яе з-пад свае рукі, яна ціхом адышлася і знікла ў бакоўцы. У гэтую хвіліну з стадолы ўвайшоў Міша Піліпоўскі. Ён бянтэжыўся, гэта было відаць адразу. Хурс стаяў перад ім — высокі, пасівелы, у польскай вайсковай форме, у зялёным плашчы паверх такое ж зялёнай вопраткі на белым пуху. Збянтэжаны Міша Піліпоўскі шырока расставіў свае цыбатыя ногі і некалькі разоў правёў пальцамі па сваёй бялявай ці лысай галаве. Ён заступіў Хурсу дарогу. Хурс са здзіўленнем глянуў на яго. Міша Піліпоўскі пачаў гаварыць вельмі нясмела. Ён-то смялей думаў пра Хурса, пакуль яго ўбачыў — вылезшага з машыны ў гэтакай адзежы.

— Можа, вы мяне ўспомніце. Былы афіцэр, Піліпоўскі.

— Можа, і ўспомню, калі падумаю.

Хурс хацеў ісці далей. Цяжка было заўважыць — ці сапраўды ён не памятае, ці не хоча памятаць.

— Я прасіў бы вас наконт малой справы.

— Я кінуў усе справы, апроч маіх уласных.

Хурс пайшоў у бакоўку і нікога там не ўбачыў. Міша Піліпоўскі, з выглядам самым жахлівым, падаўся назад

у стадолу. Там ён знайшоў Сёмку Фартушніка. Той, прытулены тварам да дзвярэй, праз дзірку ў замку сачыў — што гаворыць, што робіць, як трымаецца Хурс. Цяпер ён у глыбокім раздум'і маўчаў і не адыходзіў ад дзвярэй.

— Сёмка,— сказаў Міша Піліпоўскі,— ён гаварыць не хоча. Пагавары з ім ты.

— Пагавару, дай час.

— Але ж ён можа паехаць.

— Не паедзе.

— Сёмка, што з табою? Ты інакш спачатку гаварыў са мною.

— А з табою што? Чаго ты гэтак дрыжыш?

— Гэта ж ты дрыжыш.

— Я, дрыжу?

Сёмка Фартушнік рушыў у карчму, а за ім і Міша Піліпоўскі. Хурс чуў з бакоўкі, як стукнулі дзверы, і, шукаючы каго-небудзь з карчомных людзей, выйшаў назад. Твар яго быў вельмі сталы і суровы, калі ён убачыў Сёмку Фартушніка. Ён сам пайшоў яму насустрач і працягнуў руку. Сёмка Фартушнік як прырос да зямлі — так цяжка паднімаў ногі, так сагнуў калені, так нейк увесь асеў уніз. Хурс, і кожны іншы, заўважыў бы, што гэта не той ужо Сёмка Фартушнік ці нават Сімон Фартушынскі, як сам ён сябе ў маладосці любіў называць — не той гэта ўжо, што часта надзяваў дарагі гарнітур з залатым ланцужкам ад магадзінніка. Гэта быў ужо чалавек з сівымі, нізка, пад машынку стрыжанымі валасамі. Твар яго выцягнуўся, стаў скуласты і касцісты. Верхняя губа да самага носа была чырвоная. Кадык вытырк на даўгой шыі. Адзеты ён быў у шэры брызентавы гарнітур — штаны і фрэнч. Штаны былі запылены мукою і вылатаны на каленях.

— Ну? Як? — загаварыў Хурс.

Зусім збянтэжаны Сёмка Фартушнік маўчаў. Міша Піліпоўскі жахнуўся гэтай раптоўнай змене ў чалавеку: то быў самадавольны, хітры, сам у сабе пэўны чалавек, а то раптам стаў, як тхор пад позіркам гадзіны. Хурс не зводзіў з яго вачэй, і ён загаварыў, каб не маўчаць, пра тое, што яму самому не было важнае.

— Гэта Піліпоўскі,— сказаў ён, паказваючы на Мішу Піліпоўскага.— Можа, не забыліся, якраз у германскую вайну гулялі ўсю ноч тут з маладым афіцэрам.

— Не забыўся. Вучыліся ў настаўніцкай семінарыі? Бацька вазіў свінні прадаць?

— Так.

Хурс падаў два пальцы: ён бачыў перад сабою чалавека ў форме бальшавіцкага войска.

— Тут так,— гаварыў Сёмка Фартушнік,— ён камандаваў ротаю ў бальшавіцкім войску, быў пад Варшаваю. Цяпер кінуў і прабіраецца да дому. Баіцца. Трэба яму памагчы.

— Як вы трапілі ў Чырвоную Армію за камандзіра?

— Змабілізавалі. Назначылі камандзірам, як былога афіцэра.

— Чаго вам баяцца?

Адказаў Сёмка Фартушнік:

— Ён крыху ў рэвалюцыі быў замешан. Ваенны камісарыят, тое-сёе... Нават партыйцам быў адзін час.

— Трэба было. Абставіны былі такія,— сказаў Міша Піліпоўскі.

— То што ад мяне трэба?

— Паручыцца за яго, што ён свой чалавек, і яго ніхто не зачэпіць.

— Добра, паручуся,— сказаў Хурс, рушыўшы ў бакоўку і не даслухаўшы да канца.

З гэтай хвіліны Міша Піліпоўскі пачаў думаць, што справы яго пайшлі як не трэба лепей. Ён пасмялеў, стаў нават развязны, пачаў ціхом падсвістваць полькі і маршы. Ён быў узрушаны толькі першыя хвіліны, пасля стаў такі, як і заўсёды. Падсвістваць стаў спакайней і цішэй. Але спаць ён на сваё старое месца — пад саломаю ў стадоле — не пайшоў. Ён доўга стараўся быць на вачах у Хурса, каб той не забыўся і хутчэй напісаў яму, што ён за яго ручаецца, і выдаў гэтую даведку яму на рукі. Тады ён смела можа ісці дадому, на бацькоўскі хутар, пад гарадок на ўсходзе адсюль.

Хурс у бакоўцы ўбачыў Клаву. Яна стаяла адна блізка дзвярэй, Хурс пачаў з ёю гаварыць. Сёмка Фартушнік астаўся стаяць па той бок дзвярэй, у вялікім пакоі. Ён слухаў, што Хурс гаворыць з Клаваю. Ён чуў, як Хурс загаварыў пра самыя нявінныя рэчы: што ён убачыў у сенцах белую карціну ў раме — было цёмна, і ён не ўбачыў — ці тая гэта самая дзяўчына моліцца?

— Тая,— адказала панура Клава.

Хурс гаварыў далей, што чалавечае жыццё праходзіць неўзаметку. Што свет стаіць на месцы, а чалавек ідзе да старасці. Рама з белаю карцінаю даўно вісіць на месцы,

а ён цяпер прыехаў сюды ў такіх незвычайных у яго жыцці думках і настроях.

— У якіх? — запытала Клава панура.

— Ты мяне памятаеш, калі я бываў тут яшчэ чорны, маладзейшы?

— Памятаю.

— А цяпер у мяне валасы сівеюць.

Сёмка Фартушнік чуў гэтую Хурсаву лірыку і дзівіўся. Ён ніколі не бачыў і не чуў Хурса гэткага. За плячыма ў Сёмкі Фартушніка стаяў Міша Піліпоўскі, млеючы, каб Хурс хутчэй даў яму паперку.

— Ці хацела б Клава паехаць з Хурсам? — да гэтага нарэшце дагаварыўся Хурс.

— Чаму? Куды?

Клава спусціла галаву на стол і гатова была заплакаць. Хурс пачаў зноў гаварыць. Гаварыў доўга і нарэшце дагаварыўся да новага пункта.

Клава Хурсава дачка!

Сёмка Фартушнік пачаў з гэтай хвіліны кіпець і вар'явацца. Ён думаў пра тое — колькі ён мае капіталу звонкаю манетай, колькі яму яшчэ цяпер Хурс можа пакінуць за тое, што фактычна ж ён выгадаваў яго дачку! А калі Клава астанецца — ён таксама запатрабуе ад Хурса капіталу! Няясныя думкі варушыліся ў ім аб тым, што Хурс стаў гандлёвым магнатам, выйшаўшы з гэткага самага кодлішча, як і ён, Сёмка Фартушнік. «А я,— думаў ён,— можа, нават з яго ласкі, дробным ходам прахадзіў перад ім. Можа, ён мне дарогу загарадзіў». Надзеі аб вялікіх маштабах яшчэ раз, пасля доўгага перапынку, зноў заварушыліся ў ім. Ён ужо нават мала чуў, што гаварыў Хурс.

— Я мамы не пакіну,— сказала Клава.

— А дзе мама? — запытаў Хурс.

Сёмку Фартушніка апанаваў жах. Гэтая здрабнелая чалавечая фігура сама таго не заўважыла, як цяпер ужо ёй страшна ўсё, што завецца — новы план у жыцці. Што цяжка яму ўжо адарвацца ад гэтай трухлявай пары, што ніякіх ужо больш маштабаў не будзе, і золата можа навек астацца ляжаць закапанае ў зямлі, пад гноем у стадоле. Хіба, можа, што-небудзь здорава стукне па гэтым чалавеку і адкіне яго адразу ў іншае месца. Але ён не заўважаў, што яго стрыжаная галава ўжо добра пасівела.

Ён адчуў, што ў бакоўцы робіцца штосьці незвычайнае яму, за доўгія апошнія гады такіх рэчаў яшчэ тут не было.

І калі Хурс запытаў: «А дзе мама» — і Клава нічога не адказала, ён пачаў хадзіць ад дзвярэй да сцяны, моцна думаючы. Хурс пачуў яго крокі і зачыніў дзверы. Сёмка Фартушнік, як шалёны, выскачыў у стадолу. За ім выйшаў і Міша Пілілоўскі. Яны не чулі, што рабілася ў бакоўцы, бо абое прастаялі моўчкі ў цёмнай стадоле. Міша Піліпоўскі думаў: хутчэй бы Хурс канчаў там свае справы і выдаў яму паперку. Як увайшлі яны назад у карчму, убачылі такую карціну. Адчыніліся ў бакоўцы дзверы, і выходзіла Аміля Снацкая. Твар яе быў жоўты, зморшчаны, худы, яна кагосьці шукала вачыма па карчме.

— О,— сказала яна, убачыўшы Сёмку Фартушніка,— хадзі сюды.

Фартушнік падышоў.

— Стой тут, на гэтым месцы. Стой, гавару...

Фартушнік стаяў.

— Выходзь сюды! — загадала Аміля Снацкая ў бакоўку.

Выйшла Клава, а за ёю Хурс. Клава падышла да стала, Хурс астаўся стаяць у дзвярах. Міша Піліпоўскі стаў за Фартушнікам плячыма к сцяне. Аміля Снацкая закрычала:

— Вы абое,— (глянула на Хурса) і ты... (павярнулася да Фартушніка) і ты...— задушылі ў сабе чалавечнасць, дзіцячую нявіннасць.

З вялікім спачуваннем да слоў свае маці Клава выступіла наперад.

— Вы,— гаварыла далей Аміля Снацкая,— пражылі век свой не як людзі, а як зверы. Вы, адзін і другі,— абое — глядзелі толькі свайго ўласнага задаваления, і ніхто з вас не думаў, што гэтым самым вы душыце другога чалавека. Каб кожны з вас абмежаваў свае імкненні, ён гэтым самым даў бы вальней дыхнуць трэцяму чалавеку.

— Ей! — падказала Клава, паказваючы на сваю маці.

— Я сама за сябе скажу,— пераняла яе Аміля Снацкая.— Ты,— павярнулася яна да Хурса,— мяне з дзіцём кінуў быў і аддаў яму,— паказала яна на Фартушніка.

— Хто цябе мне аддаваў? — устрапянуўся Фартушнік.— Мы па добрай волі згаварыліся.

— Маўчы! — не дала яму гаварыць Аміля Снацкая...— Ты аддаў мяне яму. Я ведаю. Ты доўгія гады прыходзіў сюды ў карчму, уздыхаў каля мяне, а не падумаў ні разу пра тое, што дрэнна зрабіў, пакрыўдзіўшы і згубіўшы мяне навек. А ты... (да Фартушніка) — муж мне, а ты пра-

даваў мяне ўсяму свету. Што я магла рабіць? Цяпер у цябе золата закопана. Ты не еў, не спаў, не адзяваўся, сох, мяне мучыў, а ўсё збіраў грошы. Папяровыя грошы прапалі, як прыйшла рэвалюцыя. Золата ляжыць, закапанае пад карчмою.

— Змоўкні! — піскнуў Фартушнік, падскочыўшы на месцы.

— Не змоўкпу. Ты лез за ім,— (глянула на Хурса),— але дурная твая галава. Ён мільёншчыкам стаў, яму вайна на карысць пайшла, ён вайну мог скарыстаць сабе на карысць, а ты нічога не скарыстаў. І золата мёртвым грузам ляжыць у зямлі. Глянь на сябе, які ты. А якая я стала праз цябе. Позна ты цяпер ужо думаеш выйсці ў вялікія маштабы. Галава твая асівела. Я трупам зрабілася. Навошта я цярпела цябе ўсё сваё жыццё, латала твае смярдзючыя фрэнчы і фуфайкі.

— Няма закапанага золата! — ірвануўся з месца Фартушнік.

Ён абабег навокал стала і з сабачай просьбай у вачах стаў глядзець у твар свае жонкі.

— Я табе не забуду ніколі таго... Жуанвіля. Мяне душылі кашмары пасля гэтага. Ён уночы прыехаў сюды, гэты афіцэр. Ён быў п'яны. Ён ледзьве на нагах стаяў. Ён паклаў табе грошы на калені, а ты выйшаў ад мяне і пакінуў мяне адну з ім. Я ж бачыла, як ён табе грошы клаў.

З агідаю і да Фартушніка і нават да Амілі Хурс адвярнуўся. У Фартушніка трэсліся сківіцы. Хурс грозна глянуў на Фартушніка. Той не вытрымаў позірку і павярнуўся спіной да ўсіх.

— Не, ты не адварочвайся! — крычала Аміля Снацкая.— Глядзі проста ў вочы і гавары.

— Гавары,— загадаў Хурс.

— Ну? — хапіла яго за твар рукамі Клава.— Што ж ты маўчыш?

Гэты Клавін учынак найбольш падзейнічаў на Фартушніка, як усё іншае. Вельмі можа быць, што на гэты момант у ім прачнулася штосьці блізкае да чалавечага гонару. Ва ўсякім разе, ён напорыста глянуў на ўсіх і, здавалася, выйшаў з цярплівасці. Ён зрабіў два крокі да Хурса і заявіў:

— Вы са мной што зрабілі? Вы мне ходу не далі. Абы толькі я пачынаў спрабаваць пачаць як-небудзь хоць дробную справу — вы мяне асаджвалі, вы падстаўлялі мне

нагу. Памятаеце, як я ў горадзе краму сваю задумаў адчыніць? Як вы толькі пачулі ад мяне пра гэта, вы адразу ж на той жа самай вуліцы ў два разы большую, чым я думаў, краму сваю адчынілі. Гэта абы я з карчмы пагэтае нікуды не ўцёк. Вам мая жонка патрэбна была. Памятаеце, як вы мне сваталі яе? Вы казалі, што пасаг вялікі будзе. Вы сказалі, што ў яе грошы ёсць, і правялі пальцам па сваёй кішэні. Вы, значыцца, узялі на сябе абавязак даць ёй пасаг. А не далі. І калі я вам пасля намякнуў на гэта, вы мне таксама намякнулі, што вы не паказвалі на грошы ў сваёй кішэні, а пачухалі аб кішэню палец.

Аміля Снацкая ледзьве стаяла на нагах. У арсенале яе довадаў супроць Хурса і Фартушніка прыбавіўся яшчэ адзін факт. Тут яна ўбачыла Мішу Піліпоўскага, якога ўвесь час не заўважала. Ёй зрабілася зусім дрэнна, яна села на край лавы і прыткнулася плячыма і галавою да сцяны. Але ёй не дала спакою Клава. Яна стала перад ёй і сказала:

— Мама, вы ўпікалі Фартушніка за тое, што ён дурань і не здолеў выбіцца ў маштабы. Здаецца, такія словы былі ў вашай, мама, гаворцы?

— Не правярай мяне,— адказала Аміля Снацкая.

— Не,— не сціхала Клава,— а каб, скажам, Фартушнік выйшаў у маштабы, тады, значыць, ніпачым было б і ўсё тое, за што вы яго так ненавідзіце? Значыцца, чалавечая душа, сама па сабе, нічога не варта?

— Не правярай мяне.

— Не, мама, я хачу ведаць. Я ненавіджу яго нават і за маштабы. Бо цераз іх ён вас згубіў. А вы маштабы апраўдваеце?

— Я тады магла б змагацца са злом на свеце. Я тады карміла б галодных, цешыла б пакутнікаў.

— Дык жа ёсць золата пад карчмою. Пазакопвана. Ты ж сама казала.

— Вон! — закрычаў Фартушнік на Клаву.— Я айчым твой і маю права выгнаць цябе, калі захачу. Я цябе выгадаваў.

— Сам вон! — грозна ўстала Аміля Снацкая.— Яна дачка мая.

Хурсу, відаць, надакучыла стаяць і слухаць. Ён ужо некалькі разоў рабіў спробы штосьці сказаць і, можа, нават пайсці адгэтуль. Але яму не давалі. Цяпер жа, пас-

ля слоў Амілі Снацкай, усе на момант сціхлі, і Хурс пакарыстаўся гэтым. Ён спакойна сказаў:

— Клава, я гэтымі днямі зусім, назаўсёды адгэтуль выеду. Я хачу дажываць веку спакойна. Я многа папрацаваў за свой век. Я зрабіў дзве вялікія справы: я з тых людзей, якія кармілі рускі народ, калі ён на нямецкай вайне сядзеў у акопах, я таксама належаў да тых людзей, якія кармілі і польскі народ, калі ён ваяваў. Перад гэтымі справамі нішто ўсё тое, з-за чаго вы тут крычалі. Я некалькі дзён буду ў горадзе. Там я скончу свае справы з інтэнданцтвам. Я чакаю цябе, Клава. Я цябе павязу з сабой. Можаш сабе жыць далёка ад мяне, калі не хочаш са мною. Будзе мір, і, можа быць, гэту мясцовасць зоймуць бальшавікі.

І Хурс шпарка пайшоў з карчмы. Міша Піліпоўскі стаяў як прыглушаны: нічога яму Хурс не памог. Але ўжо ў дзвярах Хурс азірнуўся на Мішу Піліпоўскага, і той адразу ж рушыў за ім следам. Хурс дайшоў да свайго аўтамабіля.

— Сядайце,— запрасіў Хурс Піліпоўскага к сабе ў аўтамабіль. Піліпоўскі сеў. Машына памчалася да горада.

— Вы хочаце маёй рэкамендацыі? Вы афіцэр? Вы якой нацыі?

— Беларус.

— Я прыехаў у родную краіну. Я тут, у гэтай мясцовасці, жыў з змаладу, рабіў справы. А вы толькі і думаеце пра рэкамендацыю. Афіцэр! Паказвайце ўсім свае бальшавіцкія паперы. Ідзіце на ўсход, я вам дам работу. Вам не сніліся такія маштабы. Міністэрскі размах яны маюць!

Міша Піліпоўскі зразумеў з паўслова.

— Але ж я роту распусціў.

— Можаце не быць у гэтай мясцовасці. Зараз мы прыедзем да мяне. Нам патрэбны афіцэры. Вы распусцілі роту? А цяпер гэтыя самыя людзі збяруцца зноў. Імі трэба будзе камандаваць.

— Я?

— Не вы адзін.

Хурс усю дарогу гаварыў Мішу Піліпоўскаму пра беларускую армію. Назаўтра Піліпоўскі проста з Хурсавай кватэры паехаў да бацькі ў госці. У прыдарожных вёсках ён спыняўся і гаварыў людзям, што, калі вернуцца бальшавікі,— будуць расстрэльваць усіх маладых мужчын. Адмыслова ён зварочваўся да дэзерціраў, каб яны бралі він-

тоўкі і ішлі ў атрады беларускай арміі: «трэба будзе не пусціць сюды бальшавікоў». Дома бацька павёў яго ў свіран, паказаў на засек і сказаў:

— Пуста. Камісар Паўлоўскі выграб. Стары, а ўвішны.

Пасля доўга шаптаў сыну ў самае вуха, і з гэтага шэпту сын даведаўся, што бацька страляў у гэтага самага Паўлоўскага, раніў, што Паўлоўскі ляжаў у местачковай бальніцы і што цяпер на аперацыю яго завезлі ў бальніцу гарадскую. «Хай бы ён памёр ужо нечага, я тры дні рукі мыў, тую стрэльбу закінуў далёка».

Праз два дні малады Піліпоўскі пацалаваў бацьку ў чырвоныя губы і выехаў назад у гарадок, спадзеючыся яшчэ застаць там Хурса. Стары Піліпоўскі пусціў слязу, развітваючыся з сынам. Сын з канца вуліцы азірнуўся. Чырванагубы хамула махнуў з брамы сыну рукою.

У тыя дні памерла Валодзі Кастрыцкага маці. Клава перажыла тут расчараванне. Хворую на яе рукі пакінула Наталя. Клава пабегла туды адразу пасля таго, як Хурс пакінуў карчму. Яна больш была занята сабою, чым усім іншым. Яна шукала якога-небудзь подзвігу, каб паказаць і Хурсу і ўсім на справе, што яна адна носіць у сабе праўду. Але, убачыўшы хворую і Наталю пры ёй, яна збянтэжылася. У яе з'явіліся здагадкі, што свет жыве і апрача яе.

Наталя злавала на Клаву. Клава яе падвяла. Наталі трэба было выйсці адгэтуль і дзейнічаць у яшчэ новай справе: у яе выспеў ужо за гэты час план.

— Чаму вы не прыходзілі, Клава?

— Мне нельга было.

— Я на вас злавала, што вас доўга не было. Я тут заседзелася, мне трэба дадому. Там жа кватэра адна, рэчы ўсялякія. Можа, ужо там пакралі ўсё — вы не ведаеце, што ў нас за суседзі.

Яна сумысля гаварыла моваю якой-небудзь гаспадыні, якая толькі і думае, што пра свае нейкія там рэчы.

— Вы астаньцеся каля хворай, я, можа, праз дні два вярнуся. Памятайце, яна блізка да смерці, глядзіце яе. Не адыходзьце. Вы зробіце добрую справу.

— Добра,— узрадавалася Клава.

— Не адыходзьце ад хворай. Яна ледзьве жыве. Глядзіце.

І Наталя пайшла.

«А ўсё-такі яна не такая, як я думала,— меркавала

Клава.— Яна з Валодзем дружыла, а пры яго хворай маці думае пра свае рэчы».

Праз гадзін шэсць Валодзева маці памерла. Клава дрыжала, баялася адна быць у хаце з мёртваю і ў тую ж хвіліну выскачыла з хаты. Куды ёй было бегчы. Яна пабегла да маці Колі Высоцкага. А тая ўжо стала клапаціцца. Прыйшлі з вёскі людзі і цераз дзень пахавалі памерлую. Клава ішла за трунoю і несла вянок, які і паклала на магілу. А пасля гэтага сумавала, хадзіла хмурая, шкадавала, што не мае адраса Колі Высоцкага — яму яна напісала б пра свае пачуцці. Праз колькі дзён яна пасварылася з Фартушнікам. Той заявіў, што яна павінна паслухаць Хурса і паехаць з ім, яна яму на гэта ледзь не выдрала вачэй. А назаўтра заявіла, што хоча пайсці ў больніцу даглядаць хворых. Амілі Снацкай гэта думка дачкі спадабалася, так сказаць, у прынцыпе, але яна пачала ўгаварваць яе паслухаць Хурса і ехаць з ім. «І я паеду з табой, я цябе з сваіх вачэй не спушчу». Клава ў адказ на гэта пайшла ў горад да знаёмага доктара з гарадской больніцы, і той прыняў яе ў лік сваіх служачых. Клава надзела на галаву белую касынку з чырвоным крыжам на лбе.

У той самай больніцы ляжаў Паўлоўскі. Піліпоўскі раніў яго ў нагу. Нага была забінтавана і балела яму страшна. Куля сядзела ў назе. Меліся рабіць аперацыю: будуць даставаць кулю. Паўлоўскі чакаў аперацыі. Ён цярпеў боль і думаў пра тое, што як толькі дастануць з яго нагі агідны метал, тады ён будзе старацца як хутчэй стаць на ногі. Ён будзе збіраць сілы. Не на тое, каб здаровым стаць перад зграяй ворагаў, перад судом ці перад фактам высылкі ў канцлагеры,— ён меркаваў у думках, што з ім будуць рабіць. Яго спрактыкаваная фантазія ставіла перад ім магчымыя ў блізкай будучыні карціны. «Яго вылечаць у больніцы і, зусім бяспраўнага, будуць гнаць па астрогах, везці ў смярдзючых вагонах. Завязуць куды-небудзь далёка, адкуль ужо цяжка будзе выратавацца. Ваеннапалонным ён не будзе. Ён будзе заложнік. А пакуль яго вывезуць ці выведуць з гэтага гарадка, усе хутарскія шэршні зларадна зашэпчуцца, што ён у няволі: яго будуць весці гарадком, і, напэўна, натоўп пойдзе следам. Што ён скажа тым знаёмым і родным людзям, блізкім і сваім, што збяруцца з колішняга Хурсавага скурапога завода, што прыйдуць з маёнткаў і вёсак і правядуць яго праз усю вуліцу, шморгаючы стаптанымі лапцямі па ўмерзлай зямлі.

У рашучую хвіліну ён развітаецца з гэтым натоўпам такім словам, у якім яны пачуюць рэвалюцыю. Але ў натоўпе будуць і іншыя людзі. Шмат хто з іх захоча паздзеквацца з бальшавіцкага камісара за свае засекі і свіныя катухі. Ён пастараецца сабраць свае сілы на тое, каб выратавацца». Так ён думаў, сціскаючы зубы ад болю, стараючыся вымеркаваць, як яму ратавацца. Ён пытаў два разы ў доктара, ці няма заражэння крыві ад кулі. Доктар сказаў, што нага пачне правіцца, як толькі дастануць кулю. Доктар адказваў гэта шпарка і адыходзіў, не хочучы доўга гаварыць з хворым, з якога не зводзіць вачэй вартавы салдат. Салдат стаяў у калідоры, дзверы былі шырока адчынены, і ён ні на момант не спускаў позірку з Паўлоўскага.

Аперацыя была назначана на дзесяць гадзін раніцы. Гэта быў чацвёрты дзень пасля таго, як Паўлоўскага прывезлі ў гэту гарадскую больніцу. Папярэднім днём перад аперацыяй у больніцу прыйшоў чалавек. У калідоры ён запытаўся, дзе ляжыць Паўлоўскі. Голас быў Паўлоўскаму незнаёмы. Салдат адказаў, што ён не мае права нічога перадаваць арыштаванаму, і калі што прынёс, то трэба мець дазвол ад вышэйшага начальства. Паўлоўскі пабялеў ад хвалявання, пачуўшы гэтую гаворку. Чалавек пайшоў шукаць вышэйшага начальства і прыйшоў толькі пад вечар. У яго быў дазвол. Салдат узяў з яго рук заверчаную ў паперу яду і перадаў Паўлоўскаму. Той убачыў твар чалавека. Не ведаў ён яго, але было ў ім штосьці знаёмае. Чалавек пайшоў, і Паўлоўскі толькі ўночы, праз шмат гадзін, успомніў, што гэта хтосьці з колішніх рабочых на Хурсавым заводзе.

Паўлоўскі не мог заснуць да самай раніцы. Пад раніцу яго пачала мучыць смага, і ён пачаў прасіць піць. Голас яго быў ціхі, змучаны, і ніхто не прыходзіў. Салдат стаяў як акамянелы. Паўлоўскі прыкусіў губу і падняў галаву. Салдат падышоў да ложка:

— Я не магу нікога ні паклікаць, ні сам прынесці вам вады. Я пастаўлен вас вартаваць.

— Гукайце моцна, каб хто прыйшоў.

— Перапалоху рабіць без прычыны мне не дазволена.

— Я не ўцяку, я ледзьве галаву падняў.

— А можа, вас на вуліцы чакаюць. Вам сёння чалавек прыносіў яду, а за ім наглядаў другі чалавек. Я і падумаў: можа, ён не так сабе яду прынёс. Ён распытваў, калі аперацыя.

Паўлоўскі адчуў ясную надзею. Памяць яго, фантазія, пачуццё — прамчалі перад ім цэлыя карціны: гарады, лясы, дарогі, развітанне з Наталяй, Наталя, стральба па ім у лесе з-за кустоў... Галава яго туманілася ад болю ў назе і ад змучанасці. «Значыцца, нашы мяне ратуюць?» Ён адкінуў галаву назад на падушку.

— Я вам даю слова, што не ўцяку, хоць бы там і цэлая армія маіх блізкіх людзей мяне чакала.

Ён «прабаваў» думкі салдата.

Салдат падазрона і пільна азірнуўся навокал, пакуль адказаць.

— Хіба ў такіх справах слова да чаго-небудзь абавязвае? Вам трэба ўцячы можа нават ад смерці... Не, не ад смерці,— паправіўся салдат, прыбянтэжыўшыся (яму стала шкада Паўлоўскага),— гэта я не пра вас казаў, а так сабе. А калі трэба зрабіць што важнае,— дык усё добра, абы на карысць пайшло. Вы ж у ворагаў. А ворагу хіба даецца шчырае слова?

— А можа, вы мой і не вораг. Адкуль вы родам?

— З Варшавы.

— Чым вы да вайны займаліся?

— На заводзе адліты чыгун абточваў.

— Вялікі завод?

— Малы.

— Чый завод?

— Дамбавіцкага.

— А я быў на Хурсавым заводзе. Якія ж мы ворагі?

Салдат уздыхнуў.

— Гавораць, вы камісар. А што я? Просты салдат: што важней — вы ці я? Вы самі гэта ведаеце. Лепш жа вам выратавацца і не загінуць, чым думаць пра тое, што мяне могуць расстраляць, калі я вас не ўпільную. З вас больш карысці, як з мяне.

У глыбокай задуменнасці салдат выйшаў у калідор і стаў там на ранейшым месцы. Больш ён не сказаў ані слова, павярнуўся бокам, каб бачыць не Паўлоўскага, а толькі край ложка і ўзнятае ўгару пад коўдрай калена яго здаровай нагі. Стаўшы так, салдат застукаў прыкладам аб падлогу. Прыбегла сонная прыслужніца.

— Вам спаць нялюжна! — закрычаў на яе салдат.— Хворы вады просіць.

Прыслужніца мала ведала польскую мову, нічога не зразумела і страшна спалохалася. Тады Паўлоўскі сам

папрасіў піць. Пачынаўся дзень, падыходзіў час аперацыі. Ён думаў пра Наталю, і ў яго з'яўляўся смутак: яна недзе недалёка, і нельга з ёю пабачыцца. Ён і ў думках не меў, што яна дзейнічае ў гэтым самым горадзе.

Наталя прыйшла сюды назаўтра, пасля таго як выйшла з хаты Валодзі Кастрыцкага. Прыйшла яна ўвечары, каб у горадзе яе ніхто не мог бачыць. Было сухое і халоднае надвор'е, на гарадскіх вуліцах стаяла цемень. Наталя старанна абыходзіла рэдкія вулічныя ліхтары. Яна пайшла зусім не ў той бок горада, дзе жыла раней з бацькам, а ўвайшла ў крывую, паўзрэчную вуліцу. На гэтай вуліцы стаяў Хурсаў скураны завод. Ён быў цяпер запушчаны, цёмны і чорны. Будыніна стаяла маўкліва, брама была разламана. Наталя мінула завод, не спаткаўшы тут нікога, і доўга ішла гэтай цёмнай вулічкай. У гарадку яна ведала ўсе куткі. У канцы вуліцы яна спынілася, чакаючы, пакуль з двара якога-небудзь дома выйдзе чалавек з двума вёдрамі. Так было ў яе ўмоўлена ўчора з тым самым чалавекам, што сказаў ёй тады на спатканні пра Піліпоўскага стральбу ў бацьку яе. Чалавек з двара выйшаў адразу — студня была па другі бок вуліцы. Наталя ўвайшла ў двор і пачакала, пакуль чалавек вернецца з вадою.

З ім яна некалькі разоў бачылася на спатканні за горадам. Цяпер, у хаце, яна пачала яго ўспамінаць: яна ўспомніла, што ён працаваў калісьці на Хурсавым заводзе і нават некалькі разоў заходзіў да іх на кватэру. У хаце было яшчэ двое. Вітаючыся з Наталяй, яны сказалі, што таксама працавалі на Хурсавым заводзе.

Перайшлі з кухні ў чыстую хату, вокны з якой выходзілі на вуліцу. Патушылі агонь. Гаварыць сталі ціха. Гаспадар хаты сказаў, што ўдалося дазнацца, што неўзабаве будуць рабіць раненаму аперацыю, даставаць з нагі кулю. А што будзе далей, куды яго пасля аперацыі накіруюць, што з ім будуць рабіць далей — невядома. Спачатку згоды не было. Адны гаварылі, што трэба выратаваць Паўлоўскага да аперацыі, другія даводзілі, што трэба перачакаць аперацыю. І тыя і другія мелі свае довады. Перачакаць аперацыю, вядома, лепш, тады астанецца хвораму толькі папраўляцца, але гаспадар хаты даводзіў, што тады павялічаць нагляд і варту. Наталя ўстала і заявіла, што трэба перачакаць аперацыю. Яе паслухалі. Пачалі думаць, дзе дзець хворага, калі ўдасца яго выратаваць.

Нічога наконт гэтага не дагаварыліся. Дагаварыліся — не толькі перачакаць аперацыю, але і пасля аперацыі пачакаць, пакуль хворы паздаравее. Гаспадару кватэры даручылі разведаць, калі будзе аперацыя. Яму гэта лягчэй і без лішняе падазропасці з боку пабочных вачэй льга было зрабіць: у горадзе ведалі, што ён знаёмы Паўлоўскаму тым, што разам з ім працаваў калісьці на заводзе.

Ён і панёс Паўлоўскаму яду. Тады ж ён даведаўся, калі будзе аперацыя.

Наталя ўсе дні сядзела ў горадзе. Чуткі да яе дайшлі, што маці Валодзі Кастрыцкага памерла. Ужо было вядома, што канчаецца вайна, і нават была абгрунтаваная фактамі ўпэўненасць, што палякі адступяць. Наталя тады пабачыцца з Валодзем Кастрыцкім. Ёй цяпер аставаліся дзве важныя справы: выратаваць бацьку і яшчэ другая справа. Наконт яе ў тыя дні ў той самай хаце была гаворка. Як сабраліся ўсе, гаспадар хаты сказаў, што дэзерціраў стараюцца сабраць у банды і назваць іх беларускай арміяй.

— Наколькі гэта ўсё сур'ёзна? — запыталася Наталя.

— Сама па сабе гэтая справа не сур'ёзная, але...

— Але неспакой, хваляванне цэлай мясцовасці, бандыцкія наскокі... Іхнія адозвы ёсць у нас?

Гаспадар дастаў з кішэні адарваную ад тэлеграфнага слупа бандыцкую адозву.

— Хоць адзін бандыцкі атрад ёсць ужо?

— Ёсць нешта накшталт роты, па той бок нашага горада, на ўсход, пад усходні гарадок. Учора з нашага гарадка выехаў туды камандзір гэтай банды, нейкі Піліпоўскі. Мне яшчэ не ўдалося праверыць, я пастараюся. Ці не мае ён якога-небудзь дачынення да таго Піліпоўскага, што раніў твайго бацьку.

Наталя думала пра гэтае прозвішча, дзе яна чула яго? І ніяк яна не магла ўспомніць колішняга семінарыста, з якім разы два спатыкалася ў першыя свае маладыя гады на вечарынцы.

Яна папрасіла, каб усе памаўчалі, а сама ўзяла аловак і напісала тэкст адозвы: контрадозва на адозву бандыцкую.

— Ідзі на ўсход у гарадок, там закапана скрынка з шрыфтам і станок.

Яна растлумачыла гаспадару кватэры канспірацыйныя адзнакі, яны ўсе па слове разабралі тэкст адозвы, і чалавек у тую ж ноч выйшаў. Яго не было некалькі дзён, так

што пасля аперацыі ў больніцу заносіў Паўлоўскаму яду другі чалавек.

У той дзень у больніцы дзяжурыла Клава. Быў блізка вечар. На дварэ пацяплела, свяціла сонца, і Клава выйшла на больнічны двор. Чалавек з клуначкам у руках убачыў гэтую «міласэрную сястру» і запытаў, ці няможна перадаць Паўлоўскаму малако і хлеб. «Дачуўся, што няшчасце з ім, а калісьці, яшчэ да вайны, мы разам з ім на работу хадзілі». Клава ўзяла клунак і дакляравала перадаць хвораму, а сама ахвотна расказала, што аперацыя прайшла добра і што хворы памацнеў. «Такі жах, такі страх — павялічылі варту: адзін салдат у калідоры стаіць, а другі, запасны, у больнічнай канцылярыі сядзіць. Што павінен адчуваць гэты хворы чалавек!» Яна агарнула на жываце рукі і пайшла. Астаўшыся ў больніцу «рабіць няшчасным людзям дабро», яна так была далёка ад гэтых самых людзей, што не цікавілася ніякімі чуткамі і гаворкамі. І толькі пасля аперацыі яна «знайшла Амерыку», што арыштаваны ранены бальшавік, а пасля пачала думаць і ўспамінаць і ўжо ведала, што гэта Наталін бацька. Жах агарнуў яе. «Чаму ніхто не ратуе яго, што гэта за чэрствыя людзі! Я памагла б ім ратаваць яго. Што гэта за дачка, гэтая Наталя. Я б на яе месцы лепш упала мёртвая на парозе гэтай больніцы, а не адыходзіла б ад яго ложка! А можа, яна не ведае?» Змяніўшыся з дзяжурства, яна пабегла шукаць Наталю. Яна запытала ў Паўлоўскага, дзе іх кватэра.

— Нашто? — запытаў Паўлоўскі.

— Я Наталі скажу пра вас.

Ні адна рыса на Паўлоўскага твары не здрыганулася, хоць ён увесь і захваляваўся, калі яму ўспомнілі гэтае дарагое імя. «Адкуль яна ведае Наталю? Можа, яна спачувае нам і паможа мне ўцячы?»

— Наталі няма, яна выехала.

— Некалькі дзён таму назад я з ёю развіталася ў хаце Кастрыцкага.

— «Можа, яна наша,— думаў Паўлоўскі.— Можа, яна загаворыць часавога, і я праз акно вылезу?»

— Наталя выехала,— сказаў ён холадна.— Але калі вы яе дзе-небудзь бачылі,— то, можа, яна раздумала і вярнулася. Я яе даўно не бачыў, мы з ёю не дружна жылі.

Ён сказаў адрас сваёй кватэры. Клава кінулася туды і нікога там не знайшла, так як і думаў Паўлоўскі. Ква-

тэра была пустая. Клава зайшла яшчэ ў больнічную канцылярыю і з нянавісцю паглядзела на запаснога часавога. Той з ёю загаварыў, і яна горда адвярнулася ад яго і, поўная пагарды да «гэтага ворага Наталінага бацькі», выйшла.

Быў сёмы дзень пасля аперацыі. Наталя заявіла, што больш чакаць нельга. Усе таксама так думалі. Ужо некалькі дзён то той, то другі з Наталіных блізкіх людзей заходзілі, з усялякіх выдуманых прычын, у больніцу ў калідор, выглядалі выхады з больнічнага саду, разведвалі наконт варты. Дазналіся, што вартавога салдата замянілі ўжо жандарам. Чым больш правіўся Паўлоўскі, тым пільней яго вартавалі.

Перад вечарам чалавек праз Клаву перадаў Паўлоўскаму булку і малако. Паўлоўскі еў булку і ўбачыў у ёй скручаны кавалачак паперы. Ён адразу здагадаўся і неўзаметку прачытаў.

Гэта было яму цяжка, бо жандар не зводзіў з яго вачэй. Запіска была кароткая: «Сёння ўночы будзем спрабаваць цябе выратаваць. Мацуйся». Рысы твару яго заварушыліся, вочы пачырванелі. На іх маглі з'явіцца слёзы.

Пад дзень двое з розных бакоў падышлі да больніцы. Адзін з іх — жанчына — стала ў садзе, насупраць канцылярскага акна. Гэта была Наталя. Праз акно відзён быў запасны жандар. Ён піў чай. Другі чалавек стаў насупраць больнічнае брамы, цераз вуліцу, за вуглом дома. Праз некалькі хвілін на больнічны двор уз'ехала фурманка. Колы без шын яе не грымелі па бруку. Яна ехала ціха. З фурманкі злез чалавек і, з пугаю ў руках, увайшоў у больнічны калідор. Другі астаўся ляжаць на возе. Чалавек у калідоры сказаў жандару, знімаючы шапку:

— Дзе тут, паночку, доктар, ці хто? Хворага прывёз, на возе ляжыць.

Жандар ткнуў пальцам у канец калідора. У гэты самы момант увайшоў «хворы», злезшы з воза. Гнучыся ў зямлю і ціха пакашліваючы, ён спыніўся крокаў за тры ад жандара. Той, што ўвайшоў першы, сказаў яму:

— Ідзі, ляж назад на воз, зараз з ног звалішся. Яшчэ не скора, пакуль у больніцу прымуць.

І сам рушыў у той бок, куды паказаў яму жандар. Але прайшоў ён усяго крокаў пяць, абы апынуцца па той бок жандара. Такім парадкам двое людзей сталі паабапал жан-

дара. Жандар падазрона зірнуў на «здаровага». У гэты момант раптам «хворы» страціў сваю хваробу і даў навотліў жандару ў твар. З жандарскага носа лінулася кроў, і ўжо адразу «здаровы» трымаў жандара ў абдымках, заціснуўшы яму рот далоняю. «Хворы» звязаў жандару ногі і рукі. Яму заткнулі рот ручніком і палажылі яго ў куток уздоўж сцяны. «Хворы» так і астаўся стаяць каля яго, не спускаючы вачэй з скрываўленага ручніка на жандарскім роце. «Здаровы» глянуў на Паўлоўскага праз дзверы і даў яму знак ісці. Паўлоўскі падняўся і выйшаў у калідор, хістаючыся ад слабасці. «Здаровы» ўзяў яго пад руку, вывеў на двор і памог легчы на воз. Сам сеў каля яго і пагнаў каня. Неўзабаве фурманка выехала за горад. Наталя пакінула свой пост перад больнічным акном. Яна на вуліцу не пайшла, а выкіравалася агародамі пад Хурсаў завод. Толькі там яна пайшла вуліцаю. Чалавек за вуглом суседняга ад больніцы дома таксама пакінуў сваё месца. «Хворы» пакінуў звязанага жандара з заткнутым ротам і пайшоў там, дзе нядаўна ішла Наталя.

Звязаны жандар ляжаў адзін, можа, з паўгадзіны. Клава выйшла з службовага пакоя і ішла калідорам у пакоі хворых. Жандара яна не ўбачыла на яго месцы. Яна здзівілася і падумала, што, можа, Паўлоўскага забралі ў турму. «Але не,— думала яна далей,— я ведала б, сказалі б мне, як дзяжурнай». Яна шпарка пайшла да ложка Паўлоўскага. Ложак быў пусты, адно прасціраддла расцяглося па падлозе. «Уцёк!» — радасна падумала Клава і кінулася з пакоя. Але ў калідоры яна раптам убачыла жандара. Той ляжаў, як нежывы, падплыўшы крывёю з твару. Клава аслупянела. З паўхвіліны яна стаяла, ахопленая жахам. Яна бачыла, як жандарскі твар быў заліт крывёю, як скрываўлены ручнік тырчаў скруткам у яго з рота, як кроў лужынаю стаяла на падлозе. Шырока расплюшчыўшы вочы, яна пачала падыходзіць да жандара. Нават прыгнулася, каб лепш бачыць. Жах яе павялічыўся, калі яна ўбачыла, што жандарскія вочы міргаюць і глядзяць на яе. Яна трэслася і калацілася. Ёй не важна было, што на гэтым чалавеку блішчаць жандарскія боты. Яна глядзела, як міргаюць яго вочы, і ў адзін момант падняла галаву ўгару.

— Чалавека забілі! — закрычала яна і ў гэтую хвіліну была вельмі падобная — з постаці, з твару, з бляску вачэй — на сваю маці Амілю Снацкую.

— Забілі, гады! Ім нічога забіць чалавека! Гады! Можа, і сама Наталя страляла ў яго!

Яна з усіх ног кінулася ў канцылярыю. Запасны жандар дапіваў свой чай. Клава стала перад ім.

— Там чалавека забілі, а вы тут чай п'яце!

Жандар кінуўся ў калідор і пачаў страляць. Праз паўгадзіны Клава бачыла, як нядаўна звязаны і скрыўлены жандар чмыхаў, як лось, мыючыся каля бочкі з вадою. Яна ледзьве дачакалася змены свайго дзяжурства і пайшла да доктара. Яна не хацела тут больш служыць: і ў гэтым месцы, дзе хворыя людзі пакутуюць і дзе ім можна рабіць дабро, таксама нельга спакойна і самаахвярна займацца толькі тым, што глядзець на гнілую салому і думаць пра вечнасць. Яна падняла паніку на ўсю больніцу. Зранку пра навіну загаварылі ва ўсім горадзе.

Тады, уночы, пасля таго як Паўлоўскі выехаў на фурманцы за горад, Наталя застала на кватэры гаспадара. Ён вярнуўся з друкаванымі адозвамі. Усе тыя, што былі нядаўна пры больніцы, сышліся сюды. Яны ўсе пабылі тут не больш дзесяці хвілін. Кожны ўзяў пачак адозваў, і ўсе выйшлі ў розных канцах з горада. Адзін астаўся раскідаць і расклейваць адозвы па горадзе. На світанні ўсё было зроблена. Наталя выйшла полем у кірунку да карчмы, але гасцінцам яна не ішла. Пакуль развіднела, яна была ўжо далёка ад горада. Яна ішла шпарка. Ужо нават высокае месца, дзе стаяла карчма, асталося за ёю на захадзе. Яна ўвайшла ў лес, далёка ад дарогі, і там асталася чакаць вечара, каб тады рушыць далей. Яна была стомленая, змучаная. Палавіны адозваў ужо ў яе не было: яна іх пакінула на прызбах і сценах вёсак, па якіх праходзіла, і на прыдарожных слупах. Цяпер у лесе было змрочна. Восенны дзень быў цёплы, спакойная хмурнасць стаяла над зямлёй. Наталя доўга стаяла пад густым зборам дрэў, на шэрым дубовым лісці. Праз лісце білася наверх парыжэлая трава. Наталя быццам бачыла і чула перад сабою ўвесь свет. Такой радасці даўно яна не ведала. Гэтакая слаўная часіна! Уночы яна пройдзе яшчэ кіламетраў трыццаць і пакіне за сабой рэшту адозваў. І калі ўвечары не спаткаецца з бацькам на краі гэтага лесу, спаткаецца з ім наступным вечарам у вядомым ім лесе і ў вядомым месцы, далёка адсюль. З вялікаю асалодаю яна ела хлеб, радасна чула, як пахне восень у лесе, які мяккі мох пад нагамі, як весела дзяўбуць дзятлы кару на сухім дрэве. Апоўдні яна

села на адвіслую ралу стагодняга дуба, абняла рукою галіну, прыперлася плячыма да ствала і задрамала. Прачнулася яна праз гадзіну — ёй стала холадна. Яна шчыльней зашпіліла на сабе свой кароткі кажушок, наставіла каўнер, і зноў векі спусціліся ўніз, адцяняючы бледнасць яе стомленага яснага твару. Як змеркла, яна пайшла далей, нікога не спаткаўшы. У першай вёсцы яна пайшла пазагуменню. Блізка, за парканам, гаварылі людзі. Яна прыслухалася. Яна чула нізкі мужчынскі голас:

— А камісар Паўлоўскі ўцёк з бальніцы. Яму памагалі ўцякаць, бо, кажуць, жандар ляжаў звязаны ў калідоры. А міласэрная сястра, гэтая, што з Фартушніцкае карчмы, падняла гвалт, кажучы, што чалавека, жандара, значыцца, забілі! Жандара пашкадавала, каб цябе чэрці, галава авечая. Ух, гадаўка!..

Наталя кінула цераз плот некалькі адозваў і пайшла далей.

«Гадзіна,— думала яна пра Клаву.— Як гэта я раней не магла ацаніць яе і не так варожа, як трэба было, глядзела на яе. Які я промах зрабіла! Якую праўду казаў пра яе Валодзя Кастрыцкі! Подзвігу шукае, гадзіна! Цяпер, напэўна, міліцца пойдзе! Гэта мне навука!»

Ёй было агідна думаць пра Клаву.

Наступны дзень яна перабыла таксама ў лесе, а ўвечары, трымаючыся левага яго краю, пайшла павольі, да ўсяго прыслухоўваючыся.

У тую ноч фурманка з Паўлоўскім ехала глухімі дарогамі і проста полем да самага дня. Паўлоўскі сам ведаў мясцовасць як не трэба лепш — яе ён выхадзіў уздоўж і ўпоперак з малых год сваіх. Ён сам паказваў свайму таварышу, дзе ехаць. На світанні яны ўехалі ў глухую вёску, заехалі ў цесны двор. Гэта Паўлоўскага таварыш, што вёз яго цяпер на сваім кані, прыехаў дадому. Тут Паўлоўскі дняваў — пералежаў дзень у клеці пад кажухом. Яму нездаровілася. І ў яго таварыша і ў яго самога былі думкі — чакаць тут яшчэ суткі-двое, але тады ён мог размінуцца з Наталяй. Увечары ўзышлі зоры, Паўлоўскі, апранены ў кажух свайго таварыша, стаяў на дварэ. Схаваўшы рукі ў рукавы, ён не варушыўся. Ён перамагаў сваё нездароўе. Праз некалькі хвілін яны выехалі. Ехалі палавіну ночы і тады спыніліся ў лесе. Паўлоўскі пралежаў на возе пад кажухамі і халатамі рэшту ночы і да поўдня. Пасля поўдня яму стала лепш. Яны грэлі чай у лесе, і Паўлоўскі,

апіраючыся на выламаную арэхавую палку, хадзіў, спрабуючы сілу сваёй нядаўна аперыраванай нагі. Ён чуў прыліў сіл.

— А ў гэтым лесе, можа, зусім блізка ад нас, чакае Наталя,— сказаў Паўлоўскі, і вочы яго засвяціліся хваляваннем. Ён чуў, як ехалі недзе ляснною дарогаю людзі, як спявалі дзесьці жанчыны, і чамусьці думаў пра сваю колішнюю гаворку з Хурсам на двары завода ў той дзень, калі ўпершыню спаткаў там жа малога хлапца Валодзю Кастрыцкага. Колькі год прайшло з таго часу! І як інакш ён сам цяпер стаіць на зямлі, у дачыненні хоць бы сабе да таго самага Хурса.

Уночы, пад'язджаючы да гэтага лесу, яны сарвалі з аднаго з дарожных слупоў адозву. Цяпер Паўлоўскі дастаў яе з кішэні, каб яшчэ раз перачытаць. «Наталя за работай»,— сказаў ён сам сабе, праглядаючы тэкст. На змроку ён выйшаў на ўскрай лесу і ўбачыў там Наталю.

*(Канец першай часткі)*

# СПАТКАННЕ

*(Урывак з рамана «Трыццаць год»)*

I

Палітаддзельская машына чатыры гадзіны імчала Паўлоўскага старым гасцінцам. Канчалася ноч. Ружавеў захад. Паўлоўскі сонна, праз дрымоту, глядзеў на гасцінец. Ён пазнаваў мясцовасць. За гэтыя гады лясы ад гасцінца адышлі далей. На фоне іх узвышаліся жоўтыя няскончаныя сцены, часамі на іх тырчэлі не накрытыя яшчэ кроквы. Зжаўцелая салома тулілася да смольных сцен новых свінарнікаў. З саломы ішла пара. Людзі не выбягалі з двароў і хат глядзець на аўтамабіль. Людзі ішлі па аднаму вуліцаю і сцежкаю, нягледзячы на ранні час. Чалавек не стаяў пад платцом з свайго двара, перавесіўшы бараду на вуліцу.

Паўлоўскаму дзіўна было думаць, што гэтым гасцінцам, у яго маладыя гады, ляскацелі колы панскіх фургонаў, на якіх парабкі, пахвостваючы мокрымі пугамі коней, вазілі з панскіх бравароў спірт у гарадок на ачыстку. Першы аўтамабіль праехаў быў гэтым гасцінцам гадоў за тры да імперыялістычнай вайны. Гэта быў маленькі панскі аўтамабільчык, і пасля на вуліцу выходзіў п'яны мястачковец Гельскі хваліцца, што каб ён «адно паглядзеў, як гэта машына зроблена, ён сам такую ж зрабіў бы». Паўлоўскі ўсміхнуўся пры думцы аб Гельскім.

Гэтым гасцінцам з зацішных хутарскіх закуткаў вазілі свінні ў карчму на купецкую прыёмку. Хутаранцы ўпарта вытаргоўвалі з свінога купца па лішняму рублю, але не менш былі ўпартыя і купецкія падручныя. Хурс набіў руку на свіным гандлі яшчэ да вайны і ў вайну пусціў вагоны хутарскіх свіней у армію і нажыў не малы мільён грошай.

У дрымотных Паўлоўскага ўспамінах з'явілася яшчэ адна тагачасная постаць: хутарскі хамула Піліпоўскі тры-

маў раз быў пад пахаю пугу, а ў руках торбу з салам. Жор сала і хваліўся, што за імперыялістычную вайну ён шаснаццаць кормных свіней прадаў. «Колькі гэтая нямецкая вайна свіней перавяла — страшэнная моц». Для каго — вайна перавяла мільён людзей у акопах, а яму — «свіней колькі, страшэнная моц».

На ўсходзе сонца машына імчалася па самаму вышэйшаму месцу ва ўсёй тут мясцовасці. Пункт гэты панаваў над усімі тут лясістымі ўзгоркамі. Паўлоўскі пад'язджаў да места. Ён скідаў з сябе дрымоту: ён ведаў, што зараз пачнецца яму клапатлівы дзень. Ён прыехаў страсянуць і перакіраваць гаспадарку ўсёй гэтай мясцовасці.

Праз гадзіну ён спаткаў чалавека на высокім ганку новага драўлянага дома, куды спешна ўзбягаў. Гэта быў Міша Піліпоўскі. Паўлоўскі думаў аб спатканні з Наталяю, з дачкою, якое год сем не бачыў. А спаткаў Піліпоўскага. Абое яны сумеліся і прайшлі адзін паўз аднаго моўчкі.

## II

Агляд ранейшых спраў і падзей паказвае, якім «партызанам» і якім «камандзірам» быў Міша Піліпоўскі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Зараз будзе мір, і вельмі можа быць, што гэта мясцовасць адыдзе пад бальшавікоў,— сказаў Хурс.

Гэтыя Хурсавы словы як агнём пеканулі Мішу Піліпоўскага. Ён выступіў наперад, пачаў штосьці казаць, але ў стадольных дзверах у гэту хвіліну пачаў душыцца кашлем чалавек. Усе глянулі туды. Дзверы былі адчынены, і ў іх горбілася постаць чалавека ў лахманах з торбаю на шыі і з кіем у руках. Ён стаяў тут ужо даўно і ўсё слухаў, і ў гарачцы гаворкі яго ніхто не заўважыў. Дзверы ў стадолу адчыняліся ціха. Убачыўшы, што на яго ўсе глядзяць, ён працягнуў руку і пайшоў да Хурса.

— Пане Хурс,— сказаў ён,— падарэце жабрака.

Хурс спешна дастаў манету і даў яму.

— Мала,— сказаў жабрак.

Хурс сумеўся і даў яшчэ манету.

— Вы хіба мяне не пазналі?

Хурс скрывіўся ад гэткае назолы.

— Пазналі ж, быць не можа, каб не пазналі: вы мяне павінны памятаць. Разам жа з Паўлоўскім мяне калісьці з свайго завода прагналі. Я Рыгор Бобель... жабрую. Што

мне рабіць і дзе мне дзецца. Вы гаварылі, а я ляжаў у стадоле ў кутку і слухаў. Вы мне спаць не далі сваім тут гармідарам. Вы народ на вайне кармілі? Гэта праўда, вам ёсць чым пахваліцца. Я магу стаць за сведку, што вы сапраўды-такі народ на вайне кармілі. Бо я ж сам быў на вайне і, седзячы ў акопах, сала з вашых свіней каштаваў. Далі нам па кавалачку сала, а як мы з'елі яго, тут нам і скамандавалі ў атаку вылазіць. Мы пабеглі, а тут нам і секанулі агнём і жалезам. Я бег-бег, абліўся крывёю, аслабеў і ўпаў. Прачнуўся — ноч, зоры свецяць, травіца мякенькая пад галавою, зямля як пушок пад бокам — размякла ўся ад маёй крыві. Сальца ваша з майго нутра вылазіць — па барадзе цячэ. Бачу — немец каля мяне стогне і крычыць з болю — ці не пачаставалі і цябе перад атакаю сальцам, браток ты мой,— падумаў я. Пасля я ў шпіталі ляжаў, пасля дадому прыйшоў — аж бачу — адны дзеці, бо маці тры дні як з голаду кончылася. А яшчэ праз крыху часу — і дзеці паканчаліся. Чаму мае дзеці з голаду паканчаліся, скажы, пане Хурс! Ты ж народ карміў?! Меў я хату з краю гарадка — дык як была акупацыя, дык спалілі. Жабрую. Здароўя няма — на вайне пакінуў. Сям'і няма — галодная смерць забрала. Я зайздрошчу Паўлоўскаму. Ён астаўся здаровы, бальшавіцкім камісарам недзе, выехаў...

Хурс пайшоў у бакоўку.

Як толькі Хурс пайшоў у бакоўку, за ім рушыў Міша Піліпоўскі. Хурс павярнуўся да яго.

— Гэта вы? Чакаеце? А нашто вам мая рэкамендацыя? Вам кепска быць камуністам, ці што? Вы былі афіцэр? Вы якое нацыі?

— Беларус.

— Я прыехаў у родную краіну. Я тут, у гэтай мясціне, жыў з замаладу, рабіў свае справы. А вы толькі і думаеце, што пра маю рэкамендацыю. Афіцэр! Не разумееце, што я гавару? Нашто вам мая рэкамендацыя? Можаце быць камуністам. Будзьце ім. У бальшавікоў будзьце камуністам.

— Як гэта?

— Паказвайце ўсім свае бальшавіцкія паперы. Ідзеце на ўсход, а не — чакайце, тут зоймуць бальшавікі.

Міша Піліпоўскі пачаў разумець...

— Але ж я роту распусціў.

— А хто гэта ведаць павінен. Не канешне сядзець там, дзе вы гэта зрабілі. Явіцеся заўтра да мяне ў горад. На

маю кватэру. Там вы знойдзеце прадстаўніка штаба беларускай арміі.

Мішу Піліпоўскаму было нядобра пад Хурсавым позіркам.

Міша Піліпоўскі зразумеў з паўслова.

— Вы распусцілі роту, адступаючы ад Варшавы,— гаварыў Хурс, выводзячы Мішу Піліпоўскага за сабою на двор,— гэтыя самыя людзі збяруцца зноў. Імі трэба камандаваць.

— Я?

— Не вы адзін.

Хурс вёз Мішу Піліпоўскага на аўтамабілі ў гарадок і ўсю дарогу тлумачыў яму пра беларускую армію. Назаўтра Піліпоўскі проста з Хурсавай кватэры паехаў да бацькоў у госці. У прыдарожных вёсках ён спыняўся і гаварыў людзям, што калі вернуцца бальшавікі — будуць расстрэльваць усіх маладых мужчын. Адмыслова ён зварочваўся да дэзерціраў, каб яны бралі свае вінтоўкі і ішлі ў атрады беларускай арміі: трэба будзе не пусціць сюды бальшавікоў.

Дома бацька павёў яго ў свіран, паказаў на засекі і казаў:

— Пуста. Прадразвёрстны камісар Паўлоўскі выграб, развёрстку беручы. Стары, а ўвішны.

Пасля доўга шаптаў штосьці сыну на вуха. І з гэтага шэпту сын даведаўся, што бацька страляў у гэтага самага Паўлоўскага і раніў, калі той эвакуіраваўся з сваім камісарыятам. «Хай бы памёр ужо нечага... Я тры дні рукі мыў і тую стрэльбу закінуў далёка».

Праз два дні малады Піліпоўскі пацалаваў бацьку ў чырвоныя губы і выехаў назад у гарадок, спадзеючыся яшчэ застаць там Хурса. Стары Піліпоўскі пусціў слязу, развітваючыся з сынам. Сын з канца вуліцы азірнуўся. Чырванагубы хамула махнуў з брамы сыну рукою.

# ВАЛОДЗЯ КАСТРЫЦКІ НА РАДЗІМЕ

*(З другой часткі рамана «Трыццаць год»)*

Чалавек дзесяць вайсковых коннікаў ехалі бітым шляхам, а адвячорак іх пачаў агортваць у шырокай разлегласці, на высокім месцы. Далягляд проста перад ім стаў там, дзе ледзь заўважыць нельга было туманнасць далёкіх лясоў, і позірк туды ішоў цераз узгоркі. Шматкіламетравая мясцовасць адгэтуль сыходзіла ўніз. Ад бітага шляху лясы ішлі наводдалек. Тут, блізка, яшчэ мясцамі трухлелі нявыкарчаваныя пні, мясцамі шырачэзныя дзялянкі нанава засеенага лесу, але яны губляліся ў скрозь выробленым ужо на зіму полі.

Часамі тут былі яшчэ людзі, далей ад дарогі гулі параўныя малатарні. Неба было на дзіва чыстае, сонца заходзіла ясна, рэшткі хмар спадалі за далягляд. Ружовы захад адцяняў мяккасць шырыні пустога поля. Ясныя колеры ляжалі на конніках і іх гарачых конях. Жоўтыя рамяні і зброя мільгацелі ў рухавай змене колераў і ў няўлоўных водблесках. Дзяўчаты прыкладалі далоні да лба і праводзілі коннікаў доўгім позіркам.

У адным месцы лес падышоў да самай дарогі. У лесе было ціха і змрочна, а пасля, як адышоў лес далей, туды, дзе сонца вісла ў ружовым агні, зноў — ясна і прасторна. Уся мясцовасць была як выразана на сталі: адвячорак цадзіў густыя засцілы і накідаў цвёрдыя колеры.

Адзін з коннікаў сказаў свайму таварышу:

— Тут зараз павінен быць вялікі камень, на абочыне дарогі.

Ён быў малады, белатвары і пільна сядзеў у сядле, можа быць, больш як усе яго таварышы тут, ён быў прывыклы да сядла і каня. Прынамсі, увесь паварот яго складзістай постаці мог выклікаць такія думкі.



Сцэна са спектакля «Бацькаўшчына».



К. Чорны з дачкой Ірынкай. 1938 г.

— Камень,— гаварыў ён, пускаючы каня цішэй,— павінен быць унь за той лагчынай, калі я яшчэ не забыўся. Даўно было. На тым камені, калі адступалі ад Варшавы, я сядзеў раз і чакаў, пакуль пяройдуць мае часці. На душы тады ў мяне было — страх.

— ...Унь той камень відзён. Толькі тады каля яго кусты раслі.

Ён не спускаў вачэй з каменя і з усяго, што было навакол, пакуль не ад'ехалі далей. Ён зноў загаварыў:

— Цяпер мы мінём яшчэ лагчыну і ўзгорак, і там я табе пакажу, каля самай дарогі, карчму. Яна пачала існаваць яшчэ тут, здаецца, у першай палове дзевятнаццатага стагоддзя і жыла яшчэ ў нашу грамадзянскую вайну. Там жыў тады Сёмка Фартушнік, не думаю, каб ён і цяпер там жыў. Ад карчмы ідзе палявая дарога ўбок, я там астануся ад вас, я адзін прыеду ўночы... За палявою дарогаю была хата, дзе я радзіўся... Глядзі, зараз будзе карчма.

І змоўк вайсковец. Угледаўся і маўчаў. Ніякай карчмы ён перад сабой не бачыў, аж пакуль не пад'ехалі да самых кустоў. Кусты падраслі, раскупчасціліся і закрылі сабою сцены. Страхі не было, і столі не было. Сцены былі — адна гніль і трухліна, раскіданая, рассыпаная па вокны, так што асталося, сапраўды, толькі палавіна сцяны знізу. Палавіна трухлявага зрубу. Усё ўехала ў зямлю. І стадолы не было. І загарадзі ніякай. Гной, і на гнаі расце зяленіва. Буяў парыжэлы ад восені спарыш, чэзнуў лопух. Малюсенькая бярозка ўзгнездзілася на рэшткі сцяны і пускала карані ў трухліну. Голая, з адным толькі запозненым жоўтым лістком, яна ружавела ад захаду сонца. Усярэдзіне, у сценах было змрочна, печ расплылася ў шырокі гліняны гуз — дажджы, відаць, здорава папамачылі яе за гэтыя гады. На гэтым гузе і навакол яго, дзе была раней падлога, таксама расло нямала ўсялякае драбязы: тырчэла сухое сцебалко канаплінкі, лопух, трыпутнік, драсён — усё — то сохла, то зелянела, як што любіла гэту восенную пору. Унізе па сценах ішла гузаватая цвіль смярдзючых грыбоў.

— Ох чорт,— аж гукнуў вайсковец, спыняючы каня,— гніе і шкілета не астаецца.

У наступны момант ён штурхнуў шпорамі каня і — зноў пайшлі ясныя прасторы. Навакол рунела маладое жыта, наводдалек ад дарогі ўсё было ўкрыта велічэзнымі

стагамі саломы. Вайсковец праехаў вельмі мала. Праз хвіліну, не больш, ён зноў спыніўся і сказаў аднаму з сваіх таварышаў:

— Ну, я астануся. Убачымся ўночы.

І ён астаўся. Усе прышпорылі коней і рушылі далей.

— Дарогі той няма,— гаварыў сам сабе вайсковец, углядаючыся ў поле, дзе, не вельмі блізка ад дарогі, узвышаўся пагорачак, увесь зарослы дрэвамі.

Доўга не думаючы, ён паехаў проста полем. Далей праз куст шыпшыны ішла сцежка. Вайсковец злез з каня і павёў яго на повадзе. Перад ім вырысоўваліся дрэвы на ўзгорку. Гэта быў могільнік. Ён прывязаў да дрэва каня. Ішоў праз дзервяністую канаву, дастаючы з кішэні змяты, сшморганы і парваны, відаць, за доўгі час, канверт. У канверце быў вялікі ліст паперы, дробна спісаны. Вайсковец на хаду прачытаў з канца ліста: «Недалёка ад канавы. Я паставіла крыж і сама на ім напісала імя і прозвішча...» Вайсковец схаваў у кішэню ліст і пачаў прыглядацца да крыжоў і надпісаў. Каля адной магілы ён спыніўся.

Праз канаву, па той бок, ішла жанчына, відаць, варочалася з поля. Яна спынілася, калі ўбачыла над магілай вайсковага чалавека. Яна пасля расказвала людзям: «Ён быў вельмі маўклівы і нават — сама на свае вочы бачыла — раней сядзеў на краі магілы і маўчаў, гледзячы на зямлю, а пасля, адыходзячы, пагладзіў рукой зямлю на магіле так, як маці дзіця па галоўцы гладзіць».

Як вайсковец ішоў назад, яна сама першая дала яму «дабрывечар» і з цікаўнасцю запытала:

— Гэта, мусіць, блізкі ваш тут пахаван?

— Вельмі блізкі.

— А хто?

— Маці.

— А самі ж вы адкуль і куды едзеце, што каня свайго так прывязалі да дрэва?

— Так, праязджаю.

Вайсковец адказаў задумёна, здаецца, мала заўважаючы жанчыну.

— А ўсё ж такі. Можа гэта вы на манеўры?

Вайсковец паглядзеў на яе, дастаў папяросу і ахвотна адказаў:

— На манеўры, цётачка... А вы з якой вёскі і як завецеся?

Тут ужо вайсковец гаварыў зусім весела. Ён нават усміхаўся і казырнуў жанчыне, як адыходзіў. Тая, ідучы, некалькі разоў азірнулася. А пасля пералезла цераз канаву і доўга вычытвала надпіс на крыжы. І раптам, прачытаўшы, аж ойкнула:

— Няўжо гэта... Ой, змяніўся ж!

І аж пабегла, каб паспець яшчэ завідна расказаць людзям, але і цяпер, спяшаючы хутчэй дабегчы, яна бесперапынна азіралася. Яна бачыла, як вайсковец сеў на каня і «памчаўся цераз поле, а пасля выскачыў на гасцінец і адно мільгануўся».

Такім парадкам у той вечар у гэтым кутку мясцовасці ведалі аб праездзе вайскоўца, а надпіс на магіле, куды ён прыходзіў, дазваляла здагадвацца, хто гэта.

Назаўтра жанчына ўсё яшчэ цікавілася вайскоўцам і сама слухала пра яго ад людзей. Казалі, што на павароце дарогі ўправа, на самым вышэйшым пункце мясцовасці, ён спыніў каня і на фоне ружовага захаду доўга вырысоўвалася яго конная постаць. Ён як быццам разглядаў усю мясцовасць, а пасля павярнуў каня ўправа і ціхом паехаў.

На гасцінцы быў луг. Даволі-такі часта ехалі конныя вайскоўцы, а ў самы ўжо змрок прайшло некалькі вайсковых часцей.

І от неўзабаве, калі ўжо добра змеркла, на гасцінец выйшла жанчына, не тая, што бачыла вайскоўца на могільніку, а маладзейшая і інакш адзетая. Яна прайшла і паўз прыдарожны камень і паўз рэшткі карчомных сцен. Яна натрапіла на людзей з аднэй вайсковай часці. Яна пачала пытацца ў вайскоўцаў, ці няма ў іх «такога начальніка, Кастрыцкага». Ёй адказалі:

— Гэта камісар нашай дывізіі. А вам нашто?

І яна шпарка пайшла туды, куды з гасцінца зварочвала дарога. Яна прайшла кіламетраў шэсць ад самога гасцінца. Дарога тут была выбрукаваная. Сюды звярнулі і вайскоўцы. Жанчына старалася разглядзець іхнія твары і не магла: было цёмна, і яны вельмі шпарка праехалі.

Жанчына ўвайшла ў нешта падобнае да вуліцы, толькі што вуліца гэтая была занадта шырокая, хутчэй падобная на плошчу. Скрозь былі тратуары і масткі з дошак, будынкі адзін ад аднаго стаялі далёка, месцамі гарэлі вулічныя ліхтары.

За дамамі блізка стаяў лес. На яго вершалінах адсвечваўся бляск ліхтарных лямп. Далёка ўвесь у святле відзён быў дом, а за ім відны былі на чорным фоне неба асвечаныя два каміны новай фабрыкі.

Жанчына знайшла вайскоўца позна. Ён хадзіў з чалавекам. Чалавек усё паказваў вайскоўцу і тлумачыў. За вялікім домам нечакана выявілася перад імі вуліца. Чалавек гаварыў:

— Гэта вуліца з'явілася толькі летась. А па той бок ляска ў гэтым годзе ў нас з'явіліся чатыры вуліцы. Людзі на фабрыку збіраюцца новыя...

Яны прайшлі вузкую граду лесу, вайсковец глянуў перад сабой. Сцірты цэглы, дошчак і бярвення ляжала скрозь. Двухпавярховыя дамы ішлі ад самай фабрыкі і разбегліся ў чатыры роўныя вуліцы. Дзесьці ў дрэвах дыхала электрастанцыя, і праз гэтыя частыя і густыя гукі чуваць было, як плюскоча пад мастом ручаіна.

Вайсковец узышоў на масток.

— Я памятаю гэтае месца з маленства,— задумёна сказаў ён.— Тут у ручаіне вяліся ракі, расла навокал асака, дзе я з Колем Высоцкім шукаў птушанят, і на гэтым самым месцы стаяў Піліпоўскага хутар...

# ЗАВАЁВА СВЕТУ

*(Раман)*

Пасля ўсяго, што тут адбылося і назаўсёды мінулася, але не забылася і не страцілася, а напоўніла нас клопатам нашага дня, гэтае месца з слаўнай назвай «Дабрыня» стаіць перад маімі вачыма, як шырокая мясцовасць, дзе разам з многімі вядомымі і невядомымі мне людзьмі і мая «довлеет дневі злоба его». Але мясцовасць Дабрыня гэта нават і не мясцовасць, а так — ціхі куток насярод рэштак лясоў, высечаных у першую імперыялістычную вайну. Пасля таго лес пачаў адрастаць, і ў ясную восень ціхае сонца цэлымі днямі ляжыць на жоўтай гушчырні маладых зараснікаў, над якімі ў самае неба ідуць стагоднія хвоі, бярозы і дубы.

Зямля тут навокал — надзвычайная. Але да рэвалюцыі яна належала збяднеламу пану, які праз карты думаў забагацець і яшчэ больш улез у даўгі па вушы і церабіўся як мог. Калі ўжо не было ніякай рады, ён адным махам рашыў Дабрыню і сам знік немаведама куды. А гэта было прычынай таго, што некаторыя з нашых местачкоўцаў падаліся ў падпанкі.

Дабрынскую зямлю адкупіла многа людзей, але ўсё гэта была навакольная галеча, якая ссялілася разам у новую вёску, купіўшы на кожную хату не больш як па дзесяцін дзве, і мала хто тры, зямлі. У вёску ж не пайшлі, а забудаваліся наводшыбе ад усіх тры гаспадары з нашага мястэчка. Ніхто не сказаў бы, што яны былі занадта ўжо багатыры, але грашавітымі яны былі заўсёды, і смела пайшлі на куплю кожны сабе па дзесяць дзесяцін. Але здарылася так, што пану яны далі толькі задатак, а рэшту дамовіліся аддаць праз месяц панскаму даваронаму, які жыў у нашым павятовым горадзе. Выйшла ж так, што

пакуль прайшоў той месяц, адбылася рэвалюцыя, і яны ўтрох, кожны па-свойму, уздзякавалі бога за рэвалюцыю, якая затрымала іх грошы ў іх кішэнях, бо ад панскага павяронага праз нейкі час не асталося і следу. Можа, ён паехаў наўздагон свайму пану, а можа, і гэта напэўна так і было, былі ў яго справы, з-за якіх ён баяўся ўжо аставацца ў звыклым яму гарадку, але тры грашавітыя местачкоўцы з самым сталым выглядам адразу пра яго забыліся і разам з сваімі суседзямі, дробнымі гаспадарамі, пачалі вазіць сабе на забудову дрэва з панскага лесу.

Першы з гэтых трох гаспадароў быў Варывон Вілач. Гэта быў чалавек не то што скнарысты, а так — не раскідака. Было ў яго бацькоўскай пяць дзесяцін, і яшчэ па жонцы дзесяцін пару хапіў пасагу. З свае зборлівасці ён меў і грошы, пазашываныя ў панчохі. Калі прайшла чутка, што прадаецца Дабрыня, ён першы ўзяў гэта сабе на розум. Выйшла так, што для куплі дабрынскай зямлі ён прадаў у мястэчку свае сем дзесяцін і хату, а за купленую зямлю бадай-што не заплаціў нічога, і такім парадкам ён і лепшую зямлю прыдбаў і грашыма забагацеў. Нешта год дзесяць да ўсяго гэтага ён усё ныў, каб дзе выбрацца з мястэчка на адлегласць. І нарэшце-такі дапаў да гэтай свае прынаднасці.

Варывон Вілач быў чалавек шырозны ў плячах і здаравенны. З буйным тварам і вялікімі круглымі вачыма. Ён не быў рыжы, але нейк быццам бы быў і рыжы. Прынамсі, мне заўсёды здавалася, што ў яго пад шапкай павінны быць нізка стрыжаныя рыжыя валасы. А калі ён здымаў шапку, мяне аж за сэрца смактала, што яго нельга сапраўды назваць рыжым. З твару ж гэта быў чалавек рыжы і ўпарты. У нашай местачковай капэле ён быў бубначом. Бубніў ён вельмі добра, чуваць было далёка, і ўсё бедаваў, што калі-небудзь не вытрымае бубен. Яго ж дачыненне да музыкі не дазваляла яму бубніць цішэй. Пасля ён надумаўся перайсці на які-небудзь іншы струмент. Купіў сабе вялікую трубу і стаў падвучвацца. Нарэшце прыйшла пара зайграць яму першы раз. Я-то сам не чуў, але расказвалі, што калі, стаўшы паперадзе ўсёй капэлы, дзьмухнуў у сваю трубу, дык ні тых скрыпак, ні тых флейт не чуваць стала. Некаторыя музыкі аж пабяптэжыліся, і, каб Вілач не выбраўся ў Дабрыню, дык з-за яго трубы раскідалася б уся капэла. Ён быў чалавек упар-

ты, і яму можна было даводзіць праўдай усяго свету, што так граць няможна, а ён трымаўся свайго.

У Дабрыні ён забудаваўся па-свойму, па-вілачоўску. Паставіў сабе велізарную хату з чыстай і чорнай палавінай цераз сцены. У чыстай палавіне была бакоўка, куды Вілач заходзіў толькі раз на тыдзень, калі галіўся ў нядзелю і зменьваў бялізну. Труба вісела там на сцяне, і часамі ён браў на ёй колькі здаравенных гукаў. Ахвота да музыкі ў яго ніколі не праходзіла, і ён на другім годзе свайго жыцця ў Дабрыні купіў сабе шарманку. І кожную нядзелю, паснедаўшы, ён бадай-што да самага абеду выкручваў на ёй «Кракавяка», «Ойру», «Барыню» і «Разлуку».

Пра Варывона Вілача местачкоўцы казалі, што ён меў натуру хамаватую. Можа, гэта і праўда, бо ён і сапраўды, к слову сказаць, любіў скруціць чалавеку грошы або дакляраваць што-небудзь, выцягнуць з гэтага карысць і пасля хвастом накрыцца. Але гэта была нічога не вартая драбяза перад той надзвычай слаўнай і рэдкай сярод людзей рысай, якая заўсёды жыла ў яго душы. Ён меў душу адкрытую і шчырую. Калі каго ненавідзіць, дык так адразу і скажа або аблае з першага ж слова. Ужо з першага ж спаткання з Вілачом чалавек адразу бачыў, куды ўсё горнецца. Бачыць чалавек, што душу з яго вырывае Вілач, а рады ніякай даць не можа. Ён ніколі не глядзеў на тое, што сярод людзей добра, а што кепска. Ён глядзеў на тое, што яму самому патрэбна, і, калі што было не да густу каму, ён ад людзей не хаваўся, быў як вялікае дзіця. Не ведаю, як хто, а я высока цаню падобную рысу натуры. Як мне здаецца, дык гэта куды лепш, як ветлівая ўсмешка якога-небудзь далікатнага прахвоста, які гатоў утапіць цябе ў лыжцы вады.

У Варывона Вілача быў сын Імпаліт, ці як яго з некаторага часу нашы павятовыя паненкі пачалі зваць «Ипполит Ларионович». Гэты малады чалавек з твару і постаці меў некаторыя рысы свайго бацькі, але не ў поўнай меры. Быў ён высокі і ў некаторай меры зграбны, калі не мець на ўвазе нейкай як бы папурасці ў паходцы, ад чаго каму-небудзь магло здавацца, што ён мае невыразна выяўленую прысутуленасць. Аднак жа плечы яго былі простыя, а натура, хоць і не складаная, але не такая адкрытая, як бацькава. Хто ведае, што жыло ў гэтай маладой душы! Прынамсі, нашы простыя лю-

дзі казалі: «Хто яго ведае, што гэты Варывончык думае».

Хоць, калі сказаць праўду, крыўды ад яго ніхто ніколі не меў. Малады Вілач пакуль што жыў сваім асабістым жыццём, якое яшчэ не паспела закрануць іншых людзей. Усё было яшчэ наперадзе.

Імполіт Вілач у год рэвалюцыі быў у апошнім класе камерцыйнага вучылішча ў нашым павятовым горадку. Яшчэ па-дзіцячаму ён насіў, як вялікую сваю ўцеху, у кішэньцы на грудзях каранданп на медным ланцужку, як яго забралі ў войска і адразу паслалі ў кіеўскую школу прапаршчыкаў. Толькі што ён адзеў свежанькія прапаршчыцкія пагоны і пафранціў у іх роўна адзін дзень, як адбылася рэвалюцыя і яму прыйшлося нікому не прызнавацца, што ён прапаршчык. Сам не свой з'явіўся ён дадому і раптам убачыў, што ў Дабрыні ўсё ціха і ўсё стаіць на месцы. Ён адзеў пагоны і зазіхацеў імі. З застылай усмешкай на твары бацька не мог адарваць ад яго вачэй. Усе дабрынскія людзі ўбачылі яго ў новай выпраўцы і форме і заўважылі, што ён ужо і гаворыць не так, як гаварыў раней, калі ведаў толькі Дабрыню і павятовы гарадок. «Па-просту» ён ужо стараўся не гаварыць і гэтым адразу стаў у бок ад усіх. Нашы ж простыя людзі не маглі як мае быць разабрацца, ці добра ён гаворыць «не па-просту». Адным словам, ён адразу выбіўся з кампаніі ранейшых сваіх аднагодкаў, хоць і прыходзілася яму быць заўсёды з імі разам. Трэба было будавацца на новым месцы, а якраз людзі пачалі сеч панскі лес. Разам з бацькам і з усімі людзьмі ён выехаў у лес і, натхнёны забудоўваннем у Дабрыні ўласнай дамоўкі, вельмі ўпільчыста спускаў выносістыя хвоі. Тут выявілася сялянская рыса яго натуры, якая ішла ад бацькі і дзеда. У франтаўскім шынялі, з якога аднак жа былі ўжо зняты пагоны, ён па-гаспадарску паганяў каня, крычучы на яго з жывата «но!». Гледзячы на яго афіцэрскую паставу, як быццам ён ішоў перад фронтам салдат і крычаў ім «шагам марш!», а цяпер паганяе каня, нашы людзі неўзабаве далі яму мянушку «шагом но!». Адным словам, гэты чалавек быў злучэннем мужычка і афіцэра, які адарваўся адной нагой ад дзедаўскай бацькаўшчыны і не паспеў з прычыны пэўных падзей прыстаць да якога-небудзь новага берага. І выйшла так, што будаваў ён з бацькам родную дамоўку толькі пра запас, самому ж яму ўжо няйначай трэ-

ба было біцца ў нейкае іншае жыццё. А якое — нельга было яму выразна меркаваць у такі час. Усё прыйшло і сфармавалася крыху счакаўшы.

Варывон Вілач, лезучы ў Дабрыню, паддаў да такой справы ахвоты і двум іншым сваім, калі льга так сказаць, хаўруснікам. Першым з іх быў Антон Батурэвіч.

## 2

Антон Батурэвіч выбраўся з Дабрынскага мястэчка на Дабрынскія хутары вельмі ахвотна. Ён аж затрапятаўся, калі Варывон Вілач нарысаваў перад ім прывабныя перспектывы хутарской выгоды. Праўду сказаць, дык тут Вілачу доўга і гаварыць не трэба было. Антон Батурэвіч праз усё сваё жыццё быў нездаволен сваім местачкоўскім суседствам з людзьмі, вядомымі яму змалку дзён. Гэта быў такі чалавек, у душы якога з самай маладосці ўзышло насенне бязмернай прагнасці як-небудзь узняцца над простымі дабрынскімі. местачкоўцамі. І доўгія годы на гэтую батурэвічаўскую прагу не было ўнімку. Бацька яго пакінуў сыну паўвалоку зямлі і, пакуль памёр, сыпаў грашыма ўсюды, абы-толькі вывесці сына ў людзі, каб ён не корпаўся ў зямлі. Антон Батурэвіч павучыўся адзін год у настаўніцкай семінарыі ў Нясвіжы і ніяк не мог адолець навукі. Як ён ні зубрыў кніг, як ні стараўся сядзець за імі і днямі і начамі, усё адно ў канцы года ён меў круглыя двойкі ў кожнага настаўніка. Справа была бескарысная, хоць яго дысцыплінаванасць, паводзіны, паслушэнства ставіліся ў прыклад на ўсю семінарыю. Пасля гэтага бацька ўмасціў яго ў валасць падвучвацца за пісара. На чорта было Батурэвічу гэтае пісарства, калі ён мог жыць сабе дома на поўную губу? А таму, што дома трэба было кешкацца з гноем, а ў валасці аставалася толькі пісаць за чыстым сталом. Дома гэта быў просты гаспадар, а тут — пане пісар. Надаваўшы каму трэба ўзятак, Батурэвіч нарэшце дастаў месца пісара. Але тут падаспеў якраз дзевяцьсот пяты год. А за два гады свайго пісарства ён так уеўся ў косці тамашнім людзям, што яго падпільнавалі раз, як ён ехаў увечары аднекуль, сцяглі з вазка, спусцілі нагавіцы і так усыпалі плескачоў, што ён роўма роў і ледзьве дабыў у валасці да вясны, так гэта глыбока запала яму ў душу. А тут якраз памёр бацька. Ён нейк адразу і асеў дома на гаспадарцы. Спачатку многа год ён

усё адчуваў сябе як да часу, хоць гаспадарку вёў бліскучым парадкам і, карыстаючыся тэрміналогіяй пазнейшага часу, меў сапраўды гаспадарку культурную. Ён першы ўвёў у Дабрыні памідоры і першы пасеяў чатырохрадовае жыта. У той меры, як ішоў час, ён забываўся на свае былыя імкненні маладосці і ўсё больш рабіўся чалавекам таго месца і той справы, на якой жыве. Праз усё сваё жыццё ён у святыя дні адзяваў адзін і той жа свой сурдут з адным гузікам ззаду, хромавыя боты з нізенькімі халяўкамі, а зімой, у адлігу, чорнае драпавае паліто, з вузенькім аксамітавым каўняром і распоркаю ззаду. Так ён стаяў у царкве непадалёку ад кліраса і падцягваў хору сваім тэнарком. Трэба сказаць праўду: тэнарок яго даволітакі слаўна аздабляў увесь хор, і толькі часамі, калі трэба было браць вельмі высокую ноту, здавалася, што гэта не Антон Батурэвіч спявае, а шаруюць цвікам па блясе. Як бы там ні было, яго многа разоў запрашалі стаць на клірас, але ён гэтага ні разу не зрабіў: на клірасе спявалі дзеці тых, хто яго абсмейваў за тыя плескачы ў часе яго пісарства. А яму страшна хацелася стаць на клірас.

Можна сабе ўявіць, з якой ахвотай гэты чалавек адбудоўваў сабе новую сялібу! Ён назаўсёды адыходзіў ад прыкрага суседства, а разам з тым у некаторай меры абудзіліся ў яго душы і мары яго маладосці. З тымі людзьмі, за якіх адчуваеш сябе вышэйшым і лепшым, не трэба бачыцца кожны дзень, каб не было празмернага панібрацтва. Прынамсі, Антон Батурэвіч ірваўся душой з мястэчка ад людзей, з якімі ён у маладосці сваёй не паладзіў на ўсё жыццё. І на рашучы крок да гэтага штурхануў яго Варывон Вілач.

Варывона Вілача Антон Батурэвіч цярпець не мог. Калі Батурэвіч вызнаваў сябе за чалавека інтэлігентнага, Вілач быў самым сапраўдным мужыком, ды яшчэ і хамаватым. Антон Батурэвіч знаўся з папамі, пісарамі, паштовымі чыноўнікамі, а Варывон Вілач ні з кім не знаўся, хіба толькі з капыльскімі і слуцкімі махлярамі, з якімі часамі падгандлёўваў на конях, хоць гэта аніяк не было яго заняткам. Вілач быў чалавек зямлі. Антон Батурэвіч гатоў быў пацалавацца з Варывонам Вілачом, калі разам яны вазілі дрэва з панскага лесу на свае новыя забудовы. Здарылася толькі адна прыкрасць: калі Вілач ухітрыўся нейк перад самай рэвалюцыяй, у вайну, прадаць

сваю гаспадарку ў мястэчку, то Батурэвіч з гэтым спазніўся: забудаваўшыся ў Дабрыні, ён мог толькі выпускаць у арэнду сваю местачковую хату з пляцам. А паўвалока яго пасля таго, як ён асталяваўся, як уласнік новай дамоўкі ў Дабрыні, была, як тады казалі, абрэзана пад местачковы зямельны фонд, і ўсё гэта было законным парадкам праведзена праз сельсавет, і Батурэвіч маўчаў і, сціснуўшы зубы, казаў, што так і трэба, бо гэта «праведна па закону». Адным словам, сказаць прасцей, Антон Батурэвіч баяўся дабрынскага сельсавета таксама, як і не верыў у трываласць гэтай нязвыклай яму ўстановы.

Забудаваўся Батурэвіч не так, як Вілач, гэты мужык, які нават і ў нядзелю хадзіў у простай жакетцы з саматканага сукна. У Батурэвіча нейк вельмі адразу вырас дамок, сапраўдны дамок, а не хата, з крытым ганкам і маляванымі вокнамі. І ў першы ж год перад дамком выгарадзіўся і зацвіў кветнік, вядома, не з клопату самога гаспадара, а з клопату яго дзяцей.

У Антона Батурэвіча былі дзве дачкі, Маня і Антаніна. Старэйшая, Антаніна, к часу пярэбараў у Дабрыню, пачала ўжо стаўбунець у дзеўках. Не то што яна была якая-небудзь непрыгожая і яе ніхто не хацеў замуж браць. Наадварот нават. Прыгожасці вялікай яна, праўда, не мела, але часамі такая «непрыгажосць» лепш, як размалёванае зіхаценне. У твары яе і ў постаці было многа прывабнасці, і натуру яна мела вясёлую, але ў самым лепшым сэнсе гэтага слова. Была яна складзістая дзеўка, гэтакая сабе загладуха, і многія да яе сваталіся, але яна вельмі была пераборлівая і абы за каго ісці не хацела. Яна была працавітая і разважлівая. З ранку і да вечара яна была ў рабоце і перад вокнамі новага дамка ў Дабрыні развяла грады вяргінь, флёксаў, кракосу і завушніц. Такім парадкам Батурэвічаў дамок меў куды далікатнейшы выгляд за Вілачову жылую будыніну, каля якой раслі не кветкі, а буракі і каноплі і нават, чорт ведае дзеля чаго ў такім месцы, карчоў чатыры бульбы. Здаралася часам, што Антон Батурэвіч, з пагардай зірнуўшы на такую дэкарацыйную расліннасць перад домам свайго суседа, усміхаўся ўсімі шматлікімі маршчынамі свайго сухога і дробнага твару і, плюнуўшы, казаў сам сабе: «Гэтаму каб з усяго выгаду мець! От бо мужык, хамула! На гнаі хлеб расце, а ён гатоў, пакуль да таго хлеба, дык воз самога гною з'есці». Батурэвіч быў змаршчкаваты не ад ста-

расці, а ад таго, што ў яго быў такі твар. І сам ён быў увесь сухенькі і дробны.

Пра маладзейшую Батурэвічаву дачку, Маню, трэба сказаць больш. Перад самай рэвалюцыяй, у семнаццатым годзе, яна канчала ў Маскве Вышэйшыя жаночыя курсы. Можна сказаць, што гэта была адна з якіх-небудзь трох ці пяці жаночых асоб з такой асветай на ўвесь павет. Ці можа раней яна была яшчэ занадта зялёная і не паспела сфармавацца як жанчына, ці, можа, занадта мала бывала дома, а ўсё — то ў Маскве на курсах, то ў Кіеве ў гасцях у свае курсавой таварышкі, і яе мала ў нас бачылі і не маглі як належыць прыгледзецца да яе, але пра яе характво нейк бадай-што ў нас не гаварылі. Да некаторай ступені прычынай маіх гэтых слоў можа быць і тая акалічнасць, што ў той час я быў занадта яшчэ малады на тое, каб сам ацаніць маладое жаночае хараство, а да навакольных гаворак мала прыслухоўваўся. Але добра памятаю, што, калі Батурэвічава Маня ўжо ў рэвалюцыю прыехала ў Дабрыню, скрозь усе загаварылі пра яе хараство. Хараство яе сапраўды было незвычайнае, але адразу яно не кідалася ў вочы. З першага погляду гэта была толькі зграбная дзяўчына, і толькі. Сярод нашых дзяўчат нават спачатку здзіўляла кожнага нейкая празмерная як бы смуглявасць яе твару. Твару, а не валасоў. Валасы ў яе былі русыя. І вось пакрысе, неўзаметку, перад твaімі вачыма вырастала ўся карціна гэтай прыгожай жанчыны. Прывабнасць і прыгажосць яе ішлі і з яе голасу, і з незаўважных спачатку вачэй, і з усяго твару, і з постаці і хады. Не паспела дома пажыць яна і двух тыдняў, як нечакана для ўсіх зноў кудысьці выехала, і неўзабаве стала вядома, што яна паехала ў Кіеў да свае таварышкі, з якой разам вучылася ў Маскве. Прайшло шмат часу, нешта гадоў каля трох. Дабрыня, разам з усім краем, перажыла нямецкую і польскую акупацыі, а Батурэвічава Маня не з'яўлялася на нашым Дабрынскім даляглядзе. Раптам, улетку дзевяцьсот дваццаць першага года, яна прыехала да бацькі і тут асталася. І дзіўная рэч. Калі раней заўсёды яна любіла спацыраваць па мілых і ціхіх нашых палявых і лясных дабрынскіх дарогах, дык цяпер нават і не паказвалася нікуды з бацькаўскага дома. Мала калі яна была на двары і яшчэ менш калі выходзіла на поле з сваёй старэйшай сястрой. І ва ўсіх стварылася поўнае ўражанне, што яна сядзіць у чатырох сценах, а дзеля

чаго так — немаведама. Пачалі хадзіць чуткі, што яна перажыла нейкую сваю драму і ніяк не можа апамятацца, але дакладнасці ніякай не было. Сам Батурэвіч трымаўся вельмі асцярожна і стараўся ў гэты час пра сваю дачку не гаварыць. І гэта тым больш было дзіўна, што раней ён вельмі любіў пахваліцца сваёй вучонай дачкой. І вось нарэшце ўсё высветлілася. Антаніна была простая натура і камусьці аднойчы расказала, што такое здарылася. Прычым тут якраз і выявілася адна, мне самому раней маlавядомая, рыса Антанінінай натуры. Яна гаварыла так: «Цяпер Маня не жыве, а сама сябе есць. Калі бо занадта вучоная стала! Можна было крыху прасцей павярнуцца на свеце, а то — занадта ўжо ў высокія людзі палезла. Калі радзілася ў Дабрыні, дык няма чаго ў Нясвіжскія замкі лезці. І цяпер — мне тут добра, а яна нічога перад сабой не бачыць і ніякага прыпірышча ні тут, ні дзе не мае».

Адным словам, справа была такая. Яе кіеўская дружбоўка была дачка нейкага чыноўніка, даволі-такі не нізкіх маштабаў. А ў тае дружбоўкі быў брат, малады, толькі што к канцу вайны спечаны афіцэр. Паспеў ён, аднак, ужо выявіць сябе, як адданы імператарскаму прастолу чалавек, і прычым такі, які не ідзе перад рэвалюцыяй ні на якія кампрамісы. Трэба думаць, што Батурэвічава Маня, здружыўшыся з сястрой гэтага чалавека, мела ўжо ў сваёй душы агульныя пункты яднання з такімі людзьмі. Сказаць прасцей: бацькавы паводзіны праз усё жыццё не далі ёй быць як дома сярод дабрынскіх простых людзей. А высокая навука, як гэта часта бывала, не адкрыла ёй праўды жыцця. І такім парадкам яна стала сапраўднай копіяй свайго бацькі, які некалі стараўся выбіцца «праз навуку» ў людзі. І яна выбілася ў людзі — стала чужая ўсёй Дабрыні. Памыляюся ці не, але мне здаецца, што ў новым сваім сяброўстве яна бачыла людзей, з якімі ёй важна было б ісці праз усё жыццё. Можа тут быў пэўны элемент і ўпэўненасці дачкі дабрынскага мужыка, якая выйшла ў нейкі іншы для яе свет. Але, ведаючы яе натуру, я з упэўненасцю кажу, што тут не было анізвання якога б там ні было прыжывальшчыцтва. Як роўная з [1]

---

[1] На гэтым рукапіс абрываецца.

# У СЯМ'І КАЛАЦКІХ

*(З рамана «Заваёва свету»)*

Незадоўга перад канцом Аляксандравай навукі ў Дабрыню з'явіўся Іван Калацкі. З таго часу, калі яго забралі на імперыялістычную вайну, ён дома не быў. Ён доўгі час быў адрэзаны ад родных мясцін нямецкай акупацыяй, але бацькава пачуццё не хацела ведаць такой неміласэрнай рэальнасці.

Быў ліпень. Навасфармаванае злучэнне стралковых часцей праходзіла праз Дабрыню кірункам з усходу на захад. Уся сям'я Калацкіх была дома, калі першыя часці чырвонаармейцаў мінулі мост пры возеры і сталі на перадышку. Да трохваконнай хаты Калацкіх пад'ехалі тры коннікі, адзін з іх быццам начальнік над двума астатнімі, бо яшчэ седзячы на кані, ён даў нейкі загад аднаму, які ехаў за ім следам. Той паклаў на планшэт паперу, начальнік карандашом падпісаў яе, і той з паперай памчаўся да сваіх часцей. Начальнік пад'ехаў да самай хаты, саскочыў з сядла на зямлю і шпарка пабег да дзвярэй. Чырвонаармеец хапіў за повад пакіненага начальнікам каня і разам з сваім пачаў прывязваць да плота. Уся сям'я Калацкіх прыпала да вокан. Вайсковец убег у хату з слаўнай ціхай усмешкай на абветраным твары. У гэтай змрочнай хаце, дзе мала калі зіхацелі чалавечыя твары ўсмешкамі, адразу быццам усё павесялела.

— Іван! — кінулася маці да сына.

У Марціна Калацкага скаланулася ніжняя палова твару. Роўнай хадой ён падышоў бліжэй, пачакаў, пакуль маці выпусціць Івана з абдымкаў. Але, бачачы, што гэтаму канца не будзе, ён паволі адвёў жонку за плячо, і тады бацька з сынам абняліся.

— О, цяпер будзем разам,— сказаў Марцін Калацкі.

— Не, я толькі да вечара. Увечары я з сваімі часцямі пайду далей. Мы ідзём на падмацаванне фронту.

— Зноў на фронт?!

— Трэба. Я сфармаваў полк і вяду на фронт.

— Ты?

— Я. Камандую палком.

— Ты? Камандуеш палком?

— А што? — шчыра засмяяўся Іван Калацкі.

Праз паўгадзіны, седзячы за сталом і бядуючы, што мала чым ёсць частаваць сына, Марцін Калацкі гаварыў з сынам.

Ён сядзеў сярод свае сям'і, не стары яшчэ, у самай сіле чалавек. Усе накіраванні яго душы ў гэты момант ішлі да Івана. «Аляксандра я вучу, каб ён стаў чалавекам, а Іван нідзе не вучыўся, ледзьве ўмеў распісацца, калі пайшоў з дому, і стаў не то што чалавекам, а вялікім чалавекам. Хіба можа быць Аляксандр такім?» Яго простай душы было страшна: цэлы полк людзей падначальваецца яго сыну. Толькі ён яшчэ не ўяўляў сабе, чаго спрабаваў яго Іван праз усе гэтыя гады. Неўзабаве вечар. Іван зноў надоўга развітаецца з усімі імі, і тут трэба скарыстаць гэты малы час, каб выказаць яму ўсё, што жыве ў сэрцы. А тым часам ён яшчэ і не пачынаў гэтага рабіць. Два разы прыходзілі да Івана ардынарцы, і Іван пасылаў праз іх у полк свае распараджэнні, а Марцін Калацкі рваўся выказаць сыну ўсю сваю шчырасць. Гаварылі аб кофтачцы, якую Клаўдзя сама сабе пашыла, аб новай саламянай страсе на гэтай трохваконнай хаце, аб тым, што ўвесну разлівалася вада ў ручаіне. Марцін Калацкі меркаваў, чым араць зямлю. Смеючыся, успомнілі Аляксандрава франтаўство: хоць адзежа ў яго не франтаўская, але затое, нарэшце, яму такі ўдалося палажыць віхры на галаве на правы бок. Нават развяселеная Клаўдзя дамагалася, каб Аляксандр паказаў сваё круглае кішэннае люстэрачка. Нарэшце прайшоў вечар і ўся шчырасць была выліта ў доўгім абдымку і пацалунку. Іван Калацкі пайшоў да сваіх часцей. Марцін правёў яго да моста, а пасля доўга быў яшчэ з ім у самым лагеры. Апоўначы полк зняўся з месца... Доўга яшчэ стаяла ў бацькавых вачах сынава постаць...

# ТОНЯ

*(Урывак з аповесці для дзяцей)*

Хлопчык папраўляўся пасля цяжкай хваробы. Больш ніштo не душыла грудзі, не стукаў боль у галаве, усё, што перад вачыма, не падала бясконца ў бездань. І такая вялікая была патрэба сказаць каму-небудзь блізкаму аб гэтай радасці! Але сказаць не было каму. І тут пачаўся дзіцячы смутак. Больш за ўсё душа ныла аб бацьку.

— Тату пахавалі?— запытала дзіця.

Ніхто не адказаў, бо ў хаце нікога не было. Дзіця паспрабавала падняць галаву. Але ледзь яно зрабіла гэта, з'ехаўшы на бок з падасланага лахмана, як боль стукнуў у вушы, і дзіця асталося ляжаць на месцы. Так, у смутку, яно яшчэ ляжала нейкі час. Дні цягнуліся паволі. Зменьваліся колеры: некаторыя дні брылі ясныя, некаторыя хмурныя. Часам дрэвы шумелі ад ветру, часам было ціха. Але птушыныя галасы заўсёды чутны былі за сцяной. Ішла вясна. Праз некалькі дзён хлапчук сядзеў ужо на краі печы, звесіўшы босыя ногі на хату. З ім разгаварылася гаспадыня:

— Як жа ты завешся?

— Тоня.

— Гэта Антон, ці як?

— Антон.

— Больш у цябе нікога не было, апроч таты?

— Не, яшчэ сястра.

— Дзе ж яна?

— Яна не жыла з намі, а служыла ў людзей, у горадзе. Не ў тым, куды мы ехалі, а ў другім, у малым.

— То ты можаш цяпер да яе паехаць і жыць пры ёй.

— Як жа я знайду, калі яе ўжо там няма.

— Чаму?

— Яна пайшла ў той самы горад, куды і мы ехалі.

У тых самых людзей яна павінна была чакаць нас. Так сказаў тата, калі ўміраў.

— Гэтыя людзі разам з вамі ад вайны ўцякалі?

— Уцякалі.

— То ты іх ведаеш?

— Тата іх ведаў, а я не.

— Сястра твая, калі там, у іх цяпер?

— У іх, мусіць.

— А як яна завецца?

— Вера завецца.

— А колькі ёй год?

— Не ведаю.

— Яна за цябе старэйшая?

— Старэйшая.

Больш ужо не было чаго пытаць.

Стаяў цёплы дзень. Снег сінеў і ападаў пад мокрым ветрам. Паўз дарогу чарнелася ўжо голая зямля. Лес пры хутары шумеў веццем і трашчаў голлем. Неба над ім было чыстае, як у сапраўды веснавы дзень. Хлапчук па паўдні пачаў збіраць усе свае лахманы, але ўсяго не знайшоў. Ён запытаў у гаспадыні. Яна адчыніла дзверы ў кухенныя сенцы і ткнула туды пальцам. Хлапчук панакручваў на ногі ўсе, якія меў, анучы і абуў лапці. У сенцах ён убачыў свае лахманы пад самым парогам. Аб іх ужо, напэўна, і ногі ад снегу абціралі. Зграбшы ў рукі сваю гэтую адзежу, ён падаўся назад у кухню. Пералазячы цераз парог, ён троха не паваліўся: ад свежага паветра пасля доўгага ляжання ў душнай кухні ў яго стала цёмна ў вачах. Хлапчук паўсцягваў на сябе ўсё, што асталося ад бацькі: вялікую салдацкую шапку, світку, полы якой зусім закрылі лапці. Пасля ён яшчэ падперазаўся кавалкам вяроўкі. Паспрабаваў ісці — цяжка.

Гаспадыня ўвесь час моўчкі глядзела на яго. Як толькі ён паспрабаваў ісці, яна ўзнепакоілася. Яна падумала: а што, калі ён хлусіў, што не ведае, дзе яго сястра ці хто іншы? Тады яшчэ могуць дамагацца, каб забраць каня. І хоць ніхто ім каня не аддасць, няхай яны ў гэтым будуць пэўны, але ідзе вясна, сам пастушок з рук уцячэ!

— Куды ты? — запытала яна хлапчука.

Хіба гэта дзіця ведала, куды яно выбіраецца?! Яго цягнула кудысьці адгэтуль. Імкненні яго былі хоць не выразныя, але цвёрдыя: кудысьці ў шырокі свет шукаць некага і нечага.

— Я і сам не ведаю — куды,— адазваўся хлапчук.

«Малое, а ўжо хітруе,— падумала гаспадыня.— Можа, хто ціхом падгаварыў?»

— Ты хіба думаеш ад нас пайсці? — (Хлапчук маўчаў.) — Пачакай, распраніся. Я табе лепшую адзежу дам. Твая світка па зямлі валочыцца.

Хлапчук паслухмяна прыпёрся да лавы. Гаспадыня ў момант прынесла з гары кароткі кажушок і шапку. Кажушок быў траха што без воўны, вышмарганы і здубянелы, але перавага яго ў параўнанні з світкай была тая, што ён не валачыўся па зямлі. Шапка з труса таксама была лепшая і не налазіла на вочы. Хлапчук пераапрануўся і адразу пасмялеў.

— Я хацеў па двары пабыць. Вельмі ж птушкі спяваюць.

Голас яго задрыжэў, сціснулася ў грудзях. Ён гатоў быў заплакаць, каб ён мог з кім гаварыць тут, як калісьці гаварыў з бацькам!

— Ідзі пагуляй сабе, але не баўся, бо трэба палуднаваць.

«А можа, і сапраўды льга будзе гаварыць так, як калісьці з бацькам?»

І ён выйшаў з хаты. Узрушала яго ўсё: і звон вадзяных кропель ля студні, і шум блізкага голасу, і чорная зямля з-пад мокрага снегу. Пахнуў вецер лесам і полем, і такая неабдымная была шырыня свету!

Дзіця паволі пайшло. Яно мінула двор, загарадзі, сцены. Вузкая дарога, ледзь выезджаная, была перад ім. Яна ўваходзіла ў лес. Гэта была тая самая дарога і той лес, адкуль ён ехаў на хутар у той жудасны ясны і марозны дзень. Дарога часам ішла пад цёмным скляпеннем яловых лап. З-пад снегу тырчэлі каляіністыя гузы і на іх сухія рэшткі леташняй травы.

У гэтай адзіноце страшна было дзіцяці, але разам з тым было і такое супярэчлівае пачуцце: тут як бы далей ад чагосьці страшнага, што льга было б назваць няласкаю да яго жыцця сярод людзей і ўсіх з'яў свету. У гэты момант дзіця ўжо выразна адчула і розумам і сэрцам, што яно тут чужое і дарэмна тут старацца гаварыць з «імі» так, як (нядаўна ж яшчэ гэта было) гаварылася з бацькам. Усё роўна як назначана было нейкім законам, каб хутарскі хлопец-гаспадар трапіўся гэтаму дзіцяці на яго дарозе. Якраз і цяпер ён, трымаючы на плячах дубальтоў-

ку, выйшаў з самай гушчыні лесу. Лясная вялікая птушка, забітая, была прывязана да яго падпяразкі на кажуху. Дзіця стаяла на дарозе. Высвістваючы дзве аднастайныя ноты, малады паляўнічы ад нечаканасці спыніўся:

— Ты? Што тут робіш?

— Я так сабе.

— Ну як, ужо не хворы?

Дзіця засаромелася і спусціла вочы на снег. Паляўнічы падышоў і паляпаў малога па плячы.

— Бачыш, якую я птушку ўпаляваў?

Малы дакрануўся да птушкі рукой.

— Шыя ў белыя крапінкі. Якая гэта птушка?

— Хадзем дадому,— адказаў паляўнічы.

«А можа, людзі будуць ласкавыя са мною?» — прасілася перад усім светам дзіцячая душа.

Яны пайшлі вельмі павольна. Відаць, хутарскі паляўнічы быў у гэтыя хвіліны ў добрым гусце. Ён усё падпарнічы быў у гэтыя хвіліны ў добрым гусце. Ён усё паджартоўваў з малога, даючы яму пстрычкі ў шапку. Малы адчуў поўную сваю залежнасць ад гэтага чалавека і стараўся ўсміхацца, гледзячы гаспадару ў твар і адчуваючы боль ад пстрычак. Так жыццё вучыла яго фальшывай усмешцы, праціўнай пачуццю, якое вымагала не ўсмешкі, а сціснутых кулакоў.

— Але ж і пыл у тваім кажушку!

Фальшывае пачуццё расло ў дзіцяці. Яно адчула сябе як бы вінаватым нават і за гэты пыл у чужым кажушку. Яны ўваходзілі ўжо ў браму.

— Ну, як табе гэты кажушок? — спытала іх на двары гаспадыня.— Не вялік ён на цябе. Гэта кажушок нябожчыка дзядзькі. Дзядзька тады яшчэ быў малады, калі шыў яго. Вельмі ж аўчыны былі добрыя. Дзядзька і сам быў такі справядлівы і любіў такіх малых, як ты. Няхай затое гэты кажушок будзе табе, сіраце.

Так гаворачы, яна падвяла малога да пуні.

— Тут ляжыць леташняя салома... Бачыш, сёння як цёпла на двары. Вясна блізка. Ты не замёрз у лесе? Ты мне паможаш гэтую салому выкінуць на сярэдзіну, а пасля пойдзем палуднаваць. Я табе буду падаваць, а ты аднось.

Хлапчук пачаў адносіць салому. Праз дзве хвіліны пот выступіў у яго на лбе. Яшчэ праз дзве хвіліны дзіця закашлялася. Чорны пыл з леташняй саломы падняўся, як хмара.

— Адпачні крыху,— сказала жанчына.— Гэта не дзіва, што пыл. Адпачні... Ну, цяпер давай яшчэ возьмем. Бяры граблі і адпіхай, так лягчэй будзе.

Праз хвілін пяць у дзіцяці ўжо змярцвелі рукі, яно аблівалася потам. Здаецца, лепш было тады, калі на кухеннай печы кашмар душыў яго хворыя грудзі.

— Годзе,— сказала жанчына.— Цяпер усмак палуднаваць будзеш.

Хлапчук прыпёрся плячыма да сцяны і ў хату пайшоў пазней за гаспадыню. Ён чакаў, пакуль паяснее ўваччу і пакіне спіраць грудзі. Галава яго кішэла ад молі: моль была ў шапцы і цяпер адагрэлася на галаве. Пасля палудню, як нядаўні хворы, ён з гадзіну ляжаў на лаве, а пасля зноў пайшоў у работу. Да вечара ён яшчэ паспеў перанасіць з-пад паветкі калы туды, дзе меліся ставіць плот.

Ён так чакаў ночы! З самага вечара ён лёг на сваё старое месца на печы і спаў аж да самай раніцы. Сон даў яму сіл, каб зранку зноў пачаць цягаць старую салому.

Так і пайшло дзень за днём. Гаспадыня часта казала яму:

— Налажвайся да работы. Прывыкай. Пасля — як знойдзеш, і падзякуеш людзям, што навучылі. На кепства цябе ніхто не навучае. Няўмекам на свеце не пражывеш.

Няўмекам ці ўмекам, але што жыць на свеце цяжка, гэта дзіця ведала лепш ужо за самага спрактыкаванага старога.

# СУДНЫ ДЗЕНЬ

*(Раман)*

1

Дробнае мястэчка Сумлічы стагоддзямі ўгрунтавана на сваім месцы. Аб гэтай даўнасці сведчаць магутныя дубы і вязы, пра якія можна адразу сказаць, што яны жывуць не адну толькі сотню гадоў. Увабраўшыся ў сілу за некалькі чалавечых эпох, яны хаваюць у сваёй непераможнай пышнасці старадаўны царкоўны мур. Гэты будынак можа быць старэйшы за кожнае дрэва каля сябе, а ў меншай меры часу яго равеснік. Сцены яго выветрываюцца і размываюцца, і дзіравы дах упаў на столь. Над ім яшчэ ўзвышаюцца рэшткі купала з жалезным крыжам, пагнутым і прыхіленым набок сумліцкім маладым франтам Віцем Байкоўскім у часы масавай калектывізацыі трыццаць першага года, быццам бы з прычыны яго антырэлігійнасці і адданасці Савецкай уладзе.

Гэты Віця быў сын мусліцкага тубыльца Марціна Байкоўскага, паважаная сталасць якога трымалася на тым, што ён меў у мястэчку два дамы, адзін з якіх выпускаў пад аптэку і паштова-тэлеграфную кантору, і вадзяны млын на два колы, які сваёй плацінай перагароджваў рэчку Сумлічанку і ствараў за мястэчкам штучнае азярцо. Да самай калектывізацыі Марцін Байкоўскі быў царкоўным старастам і ўсе апошнія тыя гады збіраў сярод людзей грошы на рамонт царквы, у якой ужо і тады ў дажджы цяжка было рабіць адправу. У трыццатым годзе яго раскулачылі, сын жа яго Віця заявіў на сходзе, што ён аблаяў роднага бацьку папоўскім азадкам і царкоўным сабакам, які памагаў папу выбрэхваць дурман для народа. Пад агульны рогат усяго сходу выракшыся бацькі, Віця заявіў, што хоча пакінуць пры сабе частку бацькавай гаспадаркі, а калі трэба, то і ўвайсці ў калгас. І адразу пабег скідаць крыж з царквы, якая заўсёды была, як ён

чуў, атрутай чалавечым душам. Нешта з гадзіну, абліваючыся потам, ён раскалываў жалезны крыж, але не даў рады, каб зусім вырваць яго і скінуць. Адна сумліцкая жанчына, праходзячы ў гэты час паўз царкву і гледзячы на Віцеву работу, з фаталістычным спакоем сказала: «Гэта вам сірочыя грошы вылазяць праз бок». У той жа дзень Байкоўскіх раскулачылі і выслалі, Віці ж ніхто нідзе ўбачыць не мог. Толькі праз некалькі дзён прайшла была чутка, што нехта яго бачыў на глухой дарозе, кіламетраў за сем ад Сумліч. Праўда, чалавек, што расказваў гэта, і сам не быў цвёрда ўпэўнен, што гэта быў Віця Байкоўскі, аднак жа дадаваў, што «калі гэты Байкоўшчык убачыў, што на дарозе нехта ідзе, то адразу схаваўся ў кусты». Як бы там ні было, але пра Віцю Байкоўскага больш нічога не было чуваць, ён дзеўся немаведама куды. Прайшла была здогадка, што ён нібыта ўцёк у Польшчу, а другія казалі, што «можа, ён дзе тут і поблізу ўмасціўся жыць». Але ні дакладнасці, ні верагоднасці тут не было ніякай. І пра яго забыліся. Толькі часам хто-небудзь успамінаў яго, калі, праходзячы паўз царкву, паднімаў вочы і бачыў пагнуты жалезны крыж.

Трэба сказаць проста: маладосць Віцю Байкоўскаму не ўдалася. І гэта больш за самога Віцю бачыў і адчуў яшчэ загадзя сам Марцін Байкоўскі. Гледзячы на свайго Віцю, ён думаў: свет скепсціўся, збрыдзіўся, здрабнеў. Ён адчуваў, што Віцева жыццё будзе яшчэ нейк складацца, нейк яшчэ быццам бы пачынацца, і ўжо не ў маладыя яго гады. І, напэўна, гэта будзе занадта позна для самога Віці.

Маладыя гады Марціна Байкоўскага прыпадалі на часы рэвалюцыі дзевяцьсот пятага года. Датуль ён змагаўся з упартым жаданнем свайго бацькі вывесці сына ў людзі праз навуку. Спачатку яго спрабавалі вучыць на настаўніка, пасля спрабавалі падрыхтаваць яму кар'еру валаснога пісара. Бацька яго трыццаць пяць год быў валасным старшынёй. У першы год яго старшынства адбылося скасаванне прыгоннага права і надзяленне сялян зямлёй. Гэтае надзяленне праходзіла праз яго рукі, і такім парадкам ён прыдбаў сабе ціхім махлярствам, ці, як пасля людзі казалі, прысвоіў сорак дзесяцін сумліцкай зямлі. Так што ў яго было з чаго пацягнуць, каб не шкадаваць грошай на «навуковую» кар'еру свайго сына. Але навука Марціну Байкоўскаму не далася. Не то што ён

быў не здацен, але нахілы яго зусім былі іншыя, і тое, чаго вымагаў ад яго бацька, было яму сапраўднай пакутай. Нарэшце ўсё было даведзена да яснасці: у дзевяцьсот пятым годзе паліцыя арыштавала сумліцкага настаўніка, а валасному пісару сумлічане збілі плескачамі зад. Тады Марцін мнагазначна паглядзеў на прымоўклага раптам бацьку, адзеўся ў жакетку з самаробнага сукна і з лёгкім сэрцам выехаў на поле з паракопным плугам. Так ён і астаўся недавукам, хоць на сумліцкія маштабы гэта трэба разумець умоўна. Пісаў ён гладка, роўна гнаў радок у радок і даволі аўтарытэтна мог падавацца ў тлумачэнні рускай палітыкі ў Сербіі. Стаўшы самастойным гаспадаром, ён ішоў у нядзелю ў царкву ў кангеровым пінжаку і пруткай манішцы. Але гэтая манішка ішла не ад навакольных паноў і панскіх службоўцаў або падпанкаў, ад якіх пераймала адзявацца засцянковая каталіцкая драбяза. Марцін Байкоўскі любіў Рускую імперыю такую, якая яна была ў яго гады, і з павагай пераняў сёетое ад некаторых афіцыйных павятовых асоб, да якіх у яго была пратаптана сцежка. Разам з тым, гэта быў хітры мужык, які навылёт бачыў жыццё і павятовага і сумліцкага чалавека ў бліскучых гузіках. З начальнікам паштовай сумліцкай канторы ён сябраваў, але ў той жа час і пасміхваўся з яго, што ён коле на год усяго аднаго япрука, і не больш як на дзесяць пудоў вагі. Пераняў ён і прэферанс, хоць энтузіястам у гэтай справе не быў. Аднак жа ў пройгрышы ніколі не аставаўся, але забіраў грошы з выглядам чалавека, на долю якому выпаў непрыемны абавязак.

Часы Віцевай маладосці аніяк не былі падобны на часы маладосці яго бацькі. Зверху магло здавацца, што ўсё ідзе як і трэба. Віця быў франт і меў з чаго франціць. Не да манішкі з лупатай запанкай прывык малады Байкоўшчык, а да галіфэ і фрэнча. Па ўсіх Сумлічах ніхто не мог дасціпней за яго сцягнуць пад каленьмі напружачкі хромавых халяваў. Ён быў увасабленне сумліцкай стройнасці, але Марцін Байкоўскі глядзеў на ўсё гэта як праз чорнае шкло. Усё было быццам бы і так, але не гэтак. Усё, што асталося яму ад бацькі і што ён прыдбаў сам, старэла і вымагала абнаўлення. Сцены, у якіх ён жыў, трухлелі, але ён бачыў, што бескарысна будзе аднаўляць іх. І нешта так з дзевяцьсот дваццаць пятага года Марцін Байкоўскі нічога не стараўся ў гаспадарку, а жыў

так сабе. Ён апанураў, моўчкі глядзеў, як асядаюць і парахнеюць яго будынкі і аддаваўся думкам пра свайго Віцю: як пойдзе яго жыццё і што ён такое ў жыцці будзе. Словы сумліцкай жанчыны, што «гэта сірочыя грошы вылазяць праз бок» дайшлі да вушэй Марціна Байкоўскага ў апошні дзень яго жыцця ў Сумлічах. Ім апанаваў містычны жах. «Божа мой, як будзе жыць мой Віця!» — сказаў ён моцна.



На самым уездзе ў Сумлічы з паўднёвага боку такія ж самыя стагоднія дрэвы абкружваюць драўляны будынак старога касцёла. Касцёл, хоць не маладзейшы за царкву, але захаваўся ён лепш: перад самай першай імперыялістычнай вайной касцёл быў адрамантаваны за кошт сумліцкага зямельнага магната Эдварда Залеўскага.

Два лясы стаяць каля Сумліч — з захаду і поўначы. Цераз гэтыя лясы ідуць дзве шырокія дарогі на захад. Яны скрыжоўваюцца далёка ад Сумліч, недзе аж пад Вільняй. Зусім жа недалёка каля Сумліч, па той бок лясоў, у адным сваім месцы яны зусім бязлюдзелі. Гэта было да верасня дзевяцьсот трыццаць дзевятага года. Дарогі там зараслі і дзірванелі, трыпутнік, спарыш і дзяцельнік раслі з самых каляін, па якіх ужо дваццаць год ніхто не ездзіў. Там панавала такая цішыня, што здавалася — ніякае ўтрапенне не кранае тут ніколі свету. Людзі стараліся не падыходзіць туды блізка і праклінаді гэтае месца на роднай зямлі. Там звінела чыстай вадой вузкая рачулка, на заходнім баку якой аставаліся яшчэ невялікія ўладанні колішняга сумліцкага зямельнага магната Эдварда Залеўскага. Уласнік іх не мог ужо быць магнатам. Усё магнацкае ляснула на ўсходнім баку рачулкі — і лясы, і сумліцкі маёнтак, і — здавалася Эдварду Залеўскаму — і шчасліва пражытая маладосць. Месца, дзе цячэ рачулка, вызначаецца ўжо для чалавечага вока з-пад самага паўночнага лесу. У ясную пору, калі дзень зіхаціць сонцам і туманныя засцілы не вісяць на даляглядзе, удалечыні даволі ясна вырысоўваюцца абрысы дрэў. Гэта вербы на абодвух берагах страшнай рачулкі, вада з якой доўгімі вякамі славілася сваёй чыстатой і крынічнай сцюдзёнасцю. Цэлых дваццаць год ніхто не падыходзіў блізка да гэтых прывабных берагоў.

Калі з ветрам да Сумліч даходзіць з лясоў духмянасць смольнай хвоі, у местачковых вуліцах яна перамешваецца з пахам павывешваных скрозь па сонца кілбас і шынак. Апошнімі гадамі Сумлічы пачалі выбірацца з лагчыны на ўсходні свой узгорак. Пабудовы гэтых год льга назваць ужо не хатамі, а дамамі і дамкамі. Сцены высокія і вокны вялікія, шуфляды вокан выфарбаваны белай або жоўтай фарбай. Перад вокнамі павыгароджваны кветнікі, дзе да самых замаразкаў цвітуць вяргіні. З паўднёвага боку мястэчка сумліцкія камсамольцы выцерабілі алешнік. Шаснаццаць радоў нядаўна пасаджаных тут кляноў, ясеняў і таполяў цягнуцца на паўкіламетра, ствараючы штосьці накшталт маладога парку. Вечарамі моладзь уладае гэтым месцам, і запозненыя пары бачаць адгэтуль ружовасць неба на ўсходзе. За паркам відно ўзгорыстае поле, праз якое і праходзіць вышэй названая дарога на адзін з лясоў. На апошнім для вока ўзгорку відны тры каржакаватыя хвоі. Пад імі калісьці, у тыя памятныя для Байкоўскіх дні, і ўбачылі былі Віцю, калі ён ішоў немаведама куды.

З гэтага канца мястэчка, насупраць касцёла і на самым уездзе ў першую вуліцу, вызначаюцца з пышнай дзікай расліннасці руіны нейкай малой будыніны. Іх месца і памеры дазваляюць думаць, што гэта было штосьці накшталт капліцы. З-пад упартых зараснікаў рыжага шчаўлюку, блёкату і крапівы відны рэшткі падмуроўкі — цэгла і вапна. Усё гэта расплылося пад дажджамі ў пляскатую гузаватасць і асталося як жывое напамінанне аб тым, што не вельмі яшчэ даўно тут было і імкнулася на векі вечныя пакінуць тут сабе месца. Гэтую капліцу перад першай імперыялістычнай вайной пабудаваў Эдвард Залеўскі неўзабаве пасля трагічнай смерці свае маладой жонкі.

Эдвард Залеўскі быў сумліцкі пан, радаслоўныя запісы фаміліі якога паказваюць, што прадзед ці які-небудзь прапрадзед яго прыехаў у Сумлічы недзе з Пазнаншчыны. Верагоднасці пэўнай няма наконт прычыны гэтага прыезду, бо ў саміх запісах ёсць аб гэтым дзве думкі. У адным месцы гаворыцца, што Залеўскага продак, дзяржаўны чыноўнік тагачаснай Польшчы, атрымаў сумліцкі маёнтак ад рускага царскага прастола за перадачу нейкіх дзяржаўных польскіх сакрэтаў. У другім месцы запісаў сказана зусім адваротнае, сказана, што Залеўскага продак явіўся ў Сумлічы для ўмацавання на тутэйшай зямлі пальшчызны і каталіцызму. Як бачым, гэтыя дзве запісы да канца

супярэчаць адна адной і адна адну знішчаюць. Ясна адно, што запісы вёў не адзін чалавек, а час, у які вяліся гэтыя скупыя і супярэчлівыя запісы, мог быць вельмі доўгім. Прынамсі, дух запісаў цалкам залежаў ад высокіх дзяржаўных сітуацый. Хто-ніхто з Залеўскага продкаў з усіх сіл стараўся паказаць сябе найвярнейшым царскім верападданым, і фамільныя запісы кіраваліся тады проста к падэшвам царскіх ботаў. Тым больш што пад гэтай высокай апекай фамілія Залеўскіх набывала новыя маёнткі і рабілася ўладарнай на ўсю вялікую акругу. Тысячы прыгонных душ, а пасля сотні парабкаў, тысячы дзесяцін зямлі і ўласныя касцёлы ва ўласных маёнтках маглі кружыць галаву якому-небудзь іншаму продку Залеўскага. Ён упіваўся сваім уладарствам, забываўся на высокую царскую руку і ўспамінаў, што ў яго жылах цячэ пазнанская кроў. І яму пачынала здавацца, што ці то Сумлічы, ці то Познань і Кракаў — гэта адно і тое ж. Прынамсі, яму гэтага жадалася, і гэта знаходзіла падтрымку ў магнацкіх уладарных фаміліях таго ж самага Кракава ці Варшавы. Тады і ў запісах рабіліся адпаведныя гэтаму запісы. Што ж да самога Эдварда Залеўскага, то яму не давалі ў гэтым сэнсе ніякага кірунку, ён проста рос і гадаваўся, як адзіны спадчыннік вялікага сумліцкага і некалькіх драбнейшых навакольных маёнткаў. Баючыся, каб не звялася радавітая фамілія, яго ў сям'і ўзносілі вельмі высока. Вырас ён у занадта ўжо нейкай пакаёвай атмасферы. Яго насілі на руках, тады калі яму хацелася дужацца з парабкоўскімі хлапчукамі. І такім парадкам выхоўваўся з яго чалавек даволі-такі непрактычны і далёкі ад навакольнай рэальнасці. Яму падабралі такую ж і жонку, але яна ўнесла і ў Сумліцкі маёнтак, і на нейкі час у душу свайго маладога мужа новую атмасферу.

Маладая жонка Эдварда Залеўскага была дачка збяднелага варшаўскага арыстакрата, у сям'і якога панаваў фанатызм чакання ўваскрошання Вялікай Польшчы, прычым Польшчу гэтую ўяўлялі толькі такую, якая яна была трыста год таму назад, і ў дадатак яшчэ з новымі, дададзенымі да яе землямі. Выходзячы не з вялікай сапраўднай трагедыі польскага народа, які быў зняважан і прыніжан рускім царом і яго жандарам, гэтыя людзі мыслілі ўваскрошаную Польшчу толькі такой, якая павінна будзе паставіць нават на самых далёкіх дарожных скрыжаван-

нях сваіх нацыянальных жандараў. Што ж да простага народа, то адмысловай думкі тут не было, усё гэта само сабой уваходзіла ў адну агульную сістэму. Уваскрошаная Польшча ўяўлялася такім нябесным устанаўленнем, дзе адразу пачнуць паўставаць з руін сярэдневяковыя замкі, і ашчасліўленыя гэтым натоўпы простага народа ўпадуць на калені, узносячы хвалу богу за тое, што яны атрымалі салодкую прыемнасць быць панскімі слугамі, і няйначай як у вялікай Польшчы. У вачах маладой жонкі Залеўскага, якая прывезла ў Сумлічы сваю арыстакратычную веру і мару, і ўсе сумліцкія людзі пачалі ўяўляцца з гэтага пункта погляду. Меркавалася, што яны толькі і тужаць аб тым, што над іх хатамі не ўзвышаецца які-пебудзь княжы замак і што Адэса не ёсць варшаўская правінцыя. Што ж да таго, што сумлічане ніякія не палякі, то, па-першае, пра гэта не думалася, а па-другое, жаданая маладой Залеўскай Польшча будзе такім ідэальным заканчэннем чалавечых імкненняў, што не толькі сумлічане, але нават амерыканскія негры пастараюцца забыцца на звычаі сваіх бацькоў і нават адцурацца іх памяці, абы-толькі дапасці да польскага паддапства. Вядома, усё гэта ў галаве маладой пані, якая прыехала ў Сумлічы, злівалася ў адно цэлае з сумліцкім маёнткам.

Гэта было стварэнне драбнатварае і шчуплае, з вялікімі вачыма і тонкім станам. Малады Эдвард Залеўскі, перажываючы слодыч першых часоў пасля шлюбу, як мае быць прыняў веру свае каханай і напоўніўся яе марамі, і мары гэтыя былі такія ж ружовыя, як і нерэальныя. Адным словам, маладая пара праводзіла свой першы шлюбны год сярод рэчаў, імі ўяўленых і якія не мелі ніякага дачынення да жывой навакольнасці. Дзіўная рэч, але малады Эдвард Залеўскі ў самым пачатку падзей дзевяцьсот пятага года нават і думкі не меў аб тым, што робіцца навокал яго. І раптам самая сапраўдная рэальнасць паўстала перад ім ва ўсёй сваёй бязлітаснасці.

Перш за ўсё, ён нечакана пахаваў бацьку. Праўда, хаваў не ён, а павяроны ў справах чалавек, які заўсёды быў пры старым Залеўскім і якога нябожчык пакінуў пры сыне, непрактычнасць якога і сам ужо ўбачыў, хоць і занадта позна. Ад самых пакояў і да сумліцкага касцёла дарогу выслалі чорнай матэрыяй, па якой і неслі старога Залеўскага. У цынкавай труне яго паставілі пад сумліцкім касцёлам, а праз некалькі дзён вобраз лагоднага сум-

лічаніна, якому ўяўленнем маладой Залеўскай было прыгатавана месца ў будучай Польшчы, грозна з'явіўся ў Залеўскага пакоях у асобе тутэйшага ж парабка Івана Лазарэвіча.

## 3

Іван Лазарэвіч быў сын парабка ў Сумліцкім маёнтку Мікалая Лазарэвіча. Маёнтак стаяў пры самым мястэчку, бадай-што ўжо ад самага касцёла пачыналіся парабкоўскія хаты, ці, як іх там звалі, «афіцыны». Лазарэвічы жылі пры самым мястэчку. Стары Мікалай Лазарэвіч ужо некалькі год хадзіў на мыліцах: яшчэ ў даволі нестарыя гады ён вельмі захаладзіў ногі, калі яго пасылалі ў нейкую вялікую дарогу зімой. А цёплай адзежы і абутку ў яго не было. К старасці хвароба пачала развівацца вельмі страшна і адразу. Іван быў адзіны з жывых яго дзяцей. Усе астатнія ўміралі ў розныя часы. Івану было цяпер год дваццаць дзевяць, ён меў ужо шасцігадовую дачку Ульяну, і жонка яго была ў першых месяцах цяжарнасці. Падзеі пачаліся з таго, што ў адзін з зімовых вечароў дзевяцьсот пятага года ён увёў у Залеўскага пакоі натоўп парабкаў і заявіў аб сваіх патрабаваннях. Залеўскі і яго маладая жонка анямелі ад нечаканасці. Яны бачылі перад сабой высокага, незнаёмага ім чалавека, які гаварыў з імі так, як яны не прывыклі слухаць. Пасля першага моманту збянтэжання выбухла злосць. І яе падагравала не так злосць, як нечаканае расчараванне: перад Залеўскімі стаяў не хто іншы як той сам «ціхі і лагодны сумлічанін», які павінен быў бы быць такой патрэбнай істотай у будучай уваскрошанай Польшчы. І стаяў ён не адзін. За ім зацята маўчаў натоўп, адкуль многа пар вачэй прастакі елі Залеўскіх. Першая адумалася Залеўская.

— Вон! — закрычала яна.

— Выгнаць вон заўсёды можна,— адказаў ёй Іван Лазарэвіч,— але ж вы, пані, нават не хочаце ведаць, чаго мы прыйшлі.

— Гавары, чаго вы прыйшлі? — сказаў Залеўскі, адгароджваючы рукой сваю жонку ад Лазарэвіча.

— У нас, пане, няма зямлі. У нас няма на чым жыць. Такі чалавек, як я, або мой бацька... Я тут радзіўся і тут вырас, і тут гадуюцца мае дзеці, а навокал усё чужое, ні да чаго не маю права дакрануцца. Мне ўсё тут міла. Калі

я служыў у салдатах і быў далёка адгэтуль, я заўсёды нудзеў па гэтым месцы. А на гэтым самым месцы я не маю права ступіць як хачу. Мой бацька праз усё жыццё хацеў пасадзіць дзе-небудзь дрэва, каб яно расло, а дзе яго пасадзіць — не было і няма. Ён вечны парабак на чужым.

— Дык чаго ты хочаш?

— Нам трэба зямля і гаспадарства на ёй.

— Дык чаго хочаш? — ужо закрычаў Залеўскі. І ў гэты момант яго назаўсёды пакінулі рэшткі тых ранейшых мар, аб якіх ён часамі яшчэ сумаваў: яны былі дзецьмі бесклапотнай яго маладосці, цяпер перад ім вырысаваўся клопат і праца ўсяго яго жыцця.

— Вы, пане, не крычыце, а будзем гаварыць так, як трэба, так як мы гаворым...

— Каб з табой гаварылі?! — затрэслася Залеўская.— Тутэйшы хам!

— З панскага языка гэтае слова нам не навіна,— сказаў Лазарэвіч.— Пан з хамам гаварыць не хоча, дык хадзем, хлопцы. Будзем рабіць не гаворачы.

Усе выйшлі, і ў пакоях запанавала цішыня. Залеўская ламала рукі ў вялікім адчаі. І не ад таго, што парабкі захацелі стаць гаспадарамі ў яе маёнтку. У яе галаве ўсё вырысавалася так, што гэта ўсё ідзе ад той сілы, якая душыць пад сваёй уладай Польшчу. Нейкім парадкам вобраз Івана Лазарэвіча ў яе ўяўленнях з'яднаўся і зліўся з самымі закаранелымі прадстаўнікамі царскай рускай імперыі, ад якой так пакутавала прыдушаная Польшча. І вось яна ў гэты момант дайшла да такога разумення рэчаў, што «тутэйшае быдла» атручана духам рускага царызму, і таму, апроч нянавісці, да яго не можа быць ніякіх іншых дачыненняў. Аддаючыся такім пакутлівым думкам, яна і не заўважыла, як шпарка ўляцеў у пакой сумліцкі ўраднік Сымон Рында. Яна ўбачыла яго ўжо толькі тады, калі ён стаяў пасярод пакоя, выцягнуўшыся прутам. Залеўская затрэслася і гатова была ўпасці ў істэрыку. Як?! Мала таго, што сюды прыходзіў мужык? Сюды явіўся яшчэ і нейкі вышэйшы прадстаўнік рускай улады, каб яшчэ больш паздзекавацца з таго, што жыло ў ёй?! Яна ўжо гатова была закрычаць «вон!», як раптам Рында казырнуў і давёў даведама, што Іван Лазарэвіч ужо арыштаваны, і так скора таму, што з павятовага горада прыскочыў атрад коннай паліцыі. Здзіўленая Залеўская ўскінула вочы на

мужа. Той стаяў з павесялелым тварам, і здавалася, што ў галаве яго адбываецца нейкая работа. Ён думаў і штосьці новае вымяркоўваў. Залеўская нічога не магла зразумець, усё ў галаве яе пераблыталася. Аніяк яна не магла разабрацца ў складанасці ўсяго, што адбываецца. Тое ж, што здарылася далей, проста-такі прыглушыла сваёй нечаканасцю Залеўскую. Рында далікатна, як умеў, скланіўся і запытаў пачцівым тонам, ці не будзе якіх-небудзь распараджэнняў. Самога Залеўскага ў гэты момант быццам бы ўзняло на вышыню поўнага разумення ўсёй светабудовы. Ён павёў Рынду ў адзін з сваіх асабовых пакояў і трымаў яго там нешта з гадзіну.

Назаўтра Залеўскі ўжо як мае быць стаў іншым чалавекам. Залеўская нават у дачыненні да самое сябе знайшла ў ім многа сухасці і чорствасці. Ён цяпер здагадаўся, нешто прыходзіцца расплачвацца за сваю ранейшую неспрактыкаванасць, і гатоў быў абвясціць, што ранейшыя яго мары аб польскім уваскрашэнні льга назваць пустымі забаўкамі. Дайшоўшы да такіх думак, ён, аднак (можа, з прычыны гэтых самых думак), не захацеў спавядацца перад сваёй Аміляй, справядліва думаючы, што тут можа пачацца паміж імі разлад. Назаўтра ён, разам з пакінепым яму бацькам давяроным чалавекам, паўнамоцтвы якога даходзілі да межаў апякунства, замкнуўся ў сваіх пакоях, і так пайшло нешта на дзён дваццаць. Ён паглыбляўся ў паперы і рахункі, стараючыся дайсці іх сэнсу. Нарэшце ён выклікаў да сябе аканомаў з усіх сваіх маёнткаў. А пасля сам паехаў па маёнтках. Здавалася, ён змяніўся з твару і постаці. Ён стаў рухавым і крыклівым, хоць крыклівасць гэтая з цягам часу саступала месца патрабавальнасці ў вачах і голасе. Ён стаў гаспадаром і, здавалася, больш нічога не хацеў ведаць.

Тым часам прыйшла для ўсіх вестка, што недзе ў губернскім горадзе следства над Іванам Лазарэвічам закончана і што над ім адбудзецца нейкая страшная кара. Даходзілі чуткі, што Іван Лазарэвіч належаў да рэвалюцыйнай арганізацыі і што праз яго ішлі тут сувязі з пэўнымі людзьмі, якія займаліся выразнымі рэвалюцыйнымі справамі. Нарэшце ўсіх страсянула новая вестка: Івана Лазарэвіча будуць вешаць. І гаварылі, што Залеўскі ведае дакладна час, калі гэта адбудзецца. Гэта магло сапраўды быць так. Апошнімі тыднямі Залеўскі, рашуча пераходзя-

чы на практычны шлях жыцця, паспеў ужо ўстанавіць новыя сувязі ў павеце і губерні.

Першым рухам старога Мікалая Лазарэвіча было кінуцца ў ногі Залеўскаму і прасіць літасці. Каб хто бачыў у гэты момант гэтага чалавека, як ён стаяў у Залеўскага ў пароге, паклаўшы шапку на падлогу каля сваіх ног, кожны мог бы жахнуцца таго стану, да якога дайшоў гэты чалавек. Здавалася, ён не мог выгаварыць ніводнага слова. Усё было напісана толькі на яго твары, і можна было падумаць, што ён і не збіраецца гаварыць і толькі чакае адказу. Яно і праўда, усё было і так усім вядома. Залеўская глядзела на яго, як на цікавую для яе з'яву, аб якой можна гаварыць усё тут жа, быццам гэта не жывы чалавек. Яна разглядала яго і нарэшце сказала:

— Гэта ацец таго? Тутэйшага?..— Пасля яна зноў моўчкі разглядала яго.— Ты хочаш, хлопе, разам з тваім рускім царом зняважыць маю душу, а пасля просіш літасці? — так яшчэ сказала няшчаснаму чалавеку дурная варшавянка.

— Рускі цар вешае майго сына! — выгукнуў раптам, можа, нават нечакана для самога сябе, Мікалай Лазарэвіч. Ён бачыў, што ўсё ўжо скончана. Жудаснае адчуванне падказвала яму, што і сам ён стаіць ужо на краі свае магілы.

— Вон, хаме! — закрычала Залеўская і дробна затупала нагамі. У гэтую мінуту, як ніколі раней і ніколі пазней, яе мучыла тое, што ніводзін сумлічанін не падобен да таго тутэйшага хлопца, якога яна сама сабе ўявіла ў марах аб вялікай Польшчы.

— Божа мой, божа мой,— сказаў Мікалай Лазарэвіч.— Сынку мой! Нашто я цябе на свет быў пусціў! — Ён ні да кога не зварачаўся, а гаварыў сам з сабой.— Я быў гад печаны, што не дбаў аб табе, сынку мой. Мне трэба было думаць раней, што я магу даць табе на свеце. А я не меў нават на чым стаяць нагамі.

— Дык ты хацеў бы па-свойму гаспадарыць у маім маёнтку і ў лясах? — хмурна сказаў Залеўскі, настрой яго быў атручан з'яўленнем гэтага чалавека. Для такога чалавека, як Залеўскі, існаванне на свеце Мікалая Лазарэвіча было прыкрай неабходнасцю, але інакш на свеце быць не можа,— у гэтыя мінуты так мог адчуваць Залеўскі, перад якім, як-ніяк, а ўсё ж стаяў няшчасны і абязвечаны чалавек.

— Вяльможны пане,— падняў раптам галаву Лазарэвіч.— З дубоў, якія растуць у вашым лесе, льга нарабіць многа шыбельніц.

— Для каго? — усміхнуўся Залеўскі.

— Знойдзецца каго вешаць. Толькі счакаць крыху.

Залеўскі мог бы быць удзячан Лазарэвічу за такі паварот справы: пянавісць перакрыла ўсё іншае ў яго душы, і ён паспакайнеў.

Лазарэвіч моўчкі выйшаў. Ён доўга гойдаўся на мыліцах, пакуль дайшоў дадому, дзе з нецярплівасцю чакала яго жонка яго сына. З немым запытаннем глянула яна яму ў вочы. Ён моўчкі адмоўна пакруціў галавой, і ў гэтай хаце на многа дзён запанавала маўчанне. Начамі ён не спаў і не мог улежаць на пасцелі. Адчай гнаў яго хадзіць, варушыцца, не быць на адным месцы. Але ногі скоўвалі яго, а мыліцы занадта моцна грукалі па падлозе. І ён перажываў жудасныя ночы, стоячы ў цемені пры акне, падпёрты мыліцамі.



К. Чорны сярод удзельнікаў спектакля «Ірынка»
ў БДТ-2. Люты, 1941 г.



Сцэна са спектакля «Грынка».

# ПАСЛЯ БОЮ

*(Урывак з рамана «Судны дзень»)*

Адбівацца трэба было не ад салдатаў. Нападалі людзі ў лапцях, у світках, босыя, з палатнянымі торбамі за плячыма. Вінтоўкі ў іх былі ўсялякіх калібраў, стралялі яны мала і беглі ў штыкі. Раз'юшанасць іх не мела граніц. Неўзабаве малады афіцэрык ужо думаў, што вялікая нянавісць будзе трымаць тут гэтых людзей да апошняй мінуты. На яго бег чалавек вельмі пажылы, прынамсі, мог цяпер такім здавацца. Афіцэрык спачатку яго не разглядзеў, чуў толькі, як той крычаў бегучы. Ён высока падымаў свае ногі ў лапцях, каб не зачапіцца за сухія хвойныя шыпулі, якімі была ўсыпана зямля.

Афіцэрык шатнуўся ўбок, але чалавек быў тут жа. Афіцэрык убачыў проста перад сабою яго твар. Гэта быў абветраны твар спрацаванага чалавека. Чалавек быў аднавокі, шырокі ў плячах і высокага росту.

Каб афіцэрык мог у гэты момант холадна наглядаць, ён заўважыў бы, што на гэтым абязвечаным твары напісана цвёрдая воля душы.

Афіцэрык стрэліў у чалавека, але той паспеў яшчэ кальнуць штыком свайго праціўніка ў грудзі і тады ж выпусціў з рук сваю дапатопную вінтоўку, якая, здаецца, і магла даць карысць толькі сваім штыкам.

Раней выпала з рук вінтоўка, а тады і чалавек грымнуўся на зямлю, упаў і афіцэрык проста перад чалавекам. Чалавек застагнаў і, быццам шукаючы ратунку, паспрабаваў паўзці наперад, але дарогу яму загароджваў ранены ім паляк.

Вельмі можа быць, што чалавек страціў памяць, бо не збочыў, а поўз проста, успоўз на паляка і прыдушыў яго сабой. Паляк заенчыў, пастараўся сапхнуць з сябе чалавека, але не мог, і, аслабелы, астаўся ляжаць. Ён пачынаў мучыцца ад раны.

На момант ён зноў убачыў перад сабой твар раненага ім. Шырока расплюшчанае вока чалавека гарэла пакутай і нянавісцю, вялікі смутак свяціўся ў ім, і раптам слязіна выкацілася з гэтага вока. Яна ўпала на руку маладога афіцэрыка, і той уздрыгануўся. Чалавек ірвануўся, перапоўз цераз паляка і застыў на месцы. Адна нага, абутая ў лапаць, засталася ляжаць на афіцэравым жываце.

Сутарга прайшла па ўсім целе адпавокага, паляку здалося, што чалавек канчаецца, і ім апанаваў жах. Ён пачаў выбірацца з-пад нагі ў лапці, але гэта было не лёгка. Рана ў яго баку была ўся ў крыві. Можа, яна і не была страшная, але праз яе шмат ішло крыві, і афіцэр слабеў.

Бой заціхаў, а пасля зноў пачынаўся з новай сілай. Афіцэрык заплюшчыў вочы, яму стала дрэнна. Да яго слыху бесперастанку даходзілі гукі бою. Яны ўсё прыбліжаліся. Яго аслабелае ўяўленне рысавала праўдзівую карціну таго, што рабілася: бой уваходзіў у фазу рукапашных схватак і прыбліжаўся сюды.

Нарэшце моцнае «ўра» грапула недзе зусім блізка. Пачуўся страшэнны тупат ног, афіцэрык чуў родныя яму польскія выгукі. Пасля ён чуў рускія крыкі, і ўсё сціхла, паступова аддаліўшыся. Сэрца маладога паляка сціснулася смуткам: усёй істотай сваёй ён чуў, што застаўся ляжаць ужо на бальшавіцкай зямлі.

Але падзьмуў вецер, стала халадней, быццам бы менш пачала балець рана. Яму стала лягчэй. Ён заварушыўся, стараючыся выпаўзці з-пад нагі ў лапці. Сваім рухам ён быццам увёў у прытомнасць раненага ім чалавека, той застагнаў і рвануўся з усіх сіл.

Паляк адчуў, што нага ў лапці больш не ляжыць на ім. Ім апанавала раптоўная радасць, як бы гэта прыйшоў ужо сапраўдны ратунак. У вялікай сваёй узбуджанасці ён пачаў адпаўзаць ад чалавека, каб далей быць ад яго.

У той жа час ён заўважыў, што чалавек таксама заварушыўся, таксама папоўз. Абодва яны зрабілі некалькі рухаў, кожны перамяніў сваё месца на зямлі, паміж імі разлегласці стала крокаў чатыры, і яны, ад болі і слабасці, занылі на месцы.

Дзень хіліўся да захаду сонца. Праз колькі мінут ціхага ляжання паляк глянуў на чалавека і ўбачыў, што той ляжыць да яго тварам. Сонца спускалася нізка. Чырвоныя праменні яго праходзілі праз рэдкае хвойнае стволле і асвятлілі твар чалавека.

Твар гэты здаўся паляку жудасным: пячаць калецтва ляжала на ім — чырвоныя лапіны, шрамы, адно толькі відушчае вока. Чалавек, мусіць, заўважыў ці, можа, толькі адчуў на сабе позірк паляка: паляк раптам пачуў, што чалавек захрыпеў, стараючыся штосьці выгаварыць. «...Ты... ты... ты... мяне...» — чуў паляк цяжкі хрып.

Каб паляк мог як мае быць разабраць гэты хрып, каб мог разумець усе словы і каб мог з іх скласці фразу з праўдзівым яе сэнсам, ён вось што пачуў бы: «На гэтай самай зямлі ты ў мяне жыццё адабраў, гад, панскі сабака, Залеўскага сука... Усё скончылася, божа мой найвышшы... І Антона няма, і Ульяна з Настачкай не падыдуць...»

Паляк раптам убачыў, што чалавек зрушыўся з месца на паўкрока і, застыўшы на месцы, адразу змоўк.

Сцямнела. Высвецілі зоры. Польскаму афіцэрыку стала холадна. Густая раса лягла на траву і верас, правая шчака яго, якой ён ляжаў на зямлі, стала мокрая. Рана яго балела, пачалі ныць ногі, і ламала ў каленях. Хваравітая свядомасць яго пачала рысаваць перад ім карціны смерці. Ён пачаў дрыжаць з боязі памерці, і смутак апанаваў яго. Але холад, які ішоў ад роснай зямлі, прымушаў яго думаць яшчэ аб пошуках цяпла, і ён стаў варушыцца.

Каб ён быў чалавек разважлівы і спрактыкаваны, у яго магла б з'явіцца ўцеха ад думкі, што смерць яшчэ далёка, калі холад прымушае яшчэ яго варушыцца і шукаць цяпла. Але думка яго ніколі не ішла шырока, а цяпер і пагатоў. У бялявым змроку летняй ночы ён нічога не мог добра разгледзець, але ведаў, што недзе ў тым месцы, дзе на небе вырысоўваюцца дзве высачэзныя хвоі, упала ў часе бою многа польскіх салдатаў. Гэта было зусім блізка ад яго, здавалася, што дзве хвоі ідуць у неба зусім у яго над галавой, і ён, бадай-што, без вялікага ўдзелу абдуманасці і нават свядомасці, паспрабаваў паўзці.

Раптоўная радасць ахапіла яго: ён можа паўзці без вельмі вялікай натугі і боль у ране была такая, што яе льга было цярпець. І ў наступны момант новы жах агарнуў яго: ён раптам падумаў, што ён палонны, што ён на чужой тэрыторыі, а бальшавікі не любяць афіцэраў. Ён успомніў усе тыя гаворкі, што вяліся ў іх пра бальшавікоў, гаворкі пра тое, што бальшавікі ўсіх афіцэраў адразу страляюць, а да простых салдатаў маюць спачуванне.

Думка яго пачала працаваць з незвычайнай вастрынёй. Абліваючыся потам і церпячы боль, ён дапоўз да дзвюх

хвояў і сапраўды наткнуўся на трупы салдат. І калі раней ён хацеў тут шукаць ратунку ад холаду, то цяпер ратаваўся ад свайго афіцэрства. Холадна яму ўжо не было.

Можа, больш як паўгадзіны ён спачатку праляжаў на зямлі, пакуль аддыхаўся і пакуль сэрца яго пачало біцца раўней. А тады скінуў з сябе афіцэрскі сурдут. Ён гэта зрабіў лежачы, на гэта спатрэбілася не менш як мінут дзесяць. Пасля ён скінуў боты, задыхаючыся ад жудаснага болю і трацячы сілы. І пасля нешта з'гадзіну скідаў з сябе галіфэ і, нарэшце, бадай-што ўпаў у непрытомнасць.

Калі ў яго прасвятлела ў вачах, ён ужо адчуваў страшэнны холад: у адной бялізне ён ляжаў у мокрым верасе. Зубы яго стукалі і плечы трасліся. Цяпер ён падумаў аб сваёй нездагадлівасці: раней трэба было дастаць салдацкую адзежу, а тады ўжо раздзявацца.

Падпоўзшы шчыльна да першага салдата, ён паклаў яму руку на грудзі і пачаў расшпільваць гузікі. Яму было і нядобра, і прыкра, і страшна, што ён так блізка пры мерцвяку. Мярцвяк раптам уздрыгануўся і прастагнаў чыстай польскай мовай: «вады, піць...»

Афіцэр у момант апшчасліўся, што мае справу з жывым чалавекам. Пошукі ратунку абудзілі ў ім жывёльны інстынкт і выгналі з яго душы ўсё чалавечае. «Зараз дам вады, зараз дам вады,— дакляраваў ён няшчаснаму салдату.— Памажы мне раздзець цябе».

Вельмі можа быць, што гэты салдат, паміраючы тут, думаў аб дапамозе, аб шпіталі і спадзяваўся на гэта ў нясцерпным чаканні. І вельмі можа быць, што да яго хворай свядомасці дайшло ў гэты момант шчаслівае ўяўленне, што яго ратуюць. Можа, тут слабай свядомасці таксама прыйшоў на дапамогу інстынкт.

Як бы там ні было, але ён, паслухмяны, як дзіця, пачаў варочацца, памагаючы свайму невядомаму збавіцелю раздзяваць сябе. Афіцэрык працаваў з жудаснай для яго цяпер сілай, якая ішла ад вялікай напружанасці ўсіх яго нерваў. А салдат, апанаваны вялікім самаашуканствам, апанаваны надзеяй на ратунак, дзеля якога варта было перацярпець і жудасны боль, зрабіў што толькі мог, хаця каб хутчэй раздзелі яго. Чаму канешне патрэбна было гэтае раздзяванне — да яго думак, відаць, не даходзіла.

Праз гадзіны паўтары пакутнай валтузні салдат ляжаў у адной бялізне, і малады афіцэрык, падгробшы пад сябе

адной рукой яго адзежу, адпоўз на крок і заныў у цяжкай стоме. Холаду ён зноў ужо не адчуваў.

Можна сказаць, што адзецца яму было цяжэй, як раздзець салдата, тут у яго не было памагатага. Гадзіны праз дзве афіцэрык быў ужо ў салдацкім адзенні і за крокаў пятнаццаць ад раздзетага ім салдата, непадалёку ад таго месца, дзе ён ляжаў раней.

Часамі да яго вушэй даходзіў стогн: салдат прасіў вады, прасіўся ў шпіталь, скардзіўся на холад, пасля словы лаянкі пачалі сыходзіць з яго языка. А пасля ён заціх.

## СВАЯ ХАТА

*(Урывак з рамана «Судны дзень»)*

З свайго ўцякацтва ад рэвалюцыі Залеўскі вярнуўся ў Сумліцкі маёнтак на другі дзень пасля таго, як у мястэчка ўвайшло польскае войска. Усю зіму дзевятнаццатага года ён займаўся тым, што сысквраў з людзей усё, што паразбіралі ў рэвалюцыю з маёнткаў і фальваркаў. Ён спаганяў за кожны высечаны ў яго лесе прут. Ведаючы яго маладыя гады і першыя часы пасля шлюбу з варшавянкай, магло б думацца, што, нарэшце, ужо ён будзе мець спакой душы, бачачы, як Польшча ўстала з сваёй магілы. Аднак жа ўсе бачылі яго заўсёды ў клопаце і суме. Як утрапёны, кідаўся ён з маёнтка ў маёнтак, з вёскі ў вёску, рабіў усё сам, сам заглядваў у сялянскія пуні, шукаючы свайго разабранага набытку. Здаецца, ён апрасціўся. Здаецца, нейкія адзнакі апусклівасці з'явіліся ў ім. Можа ён сапраўды так пачаў любіць гаспадарку, якую быў страціў і якую цяпер войска доўгачаканай Польшчы вярнула яму. Спрактыкаваная заўзятасць яго была цяпер не меншая, як у дзевяцьсот пятым годзе неспрактыкаваная злосць. З адных толькі Сумліч ён пасадзіў цяпер у астрог чалавек трыццаць. Цяпер ужо зусім было так, што гэты астрог быццам бы яму і належаў. Расказвалі, што павятовае начальства, пад загадам якога была і турма, ніводнага важнага кроку не зрабіла, каб не параіцца з ім, а часам прасіла ў яго дазволу. Пад сярэдзіну зімы прайшла чутка, што ён збіраецца паставіць новую статую мадонны, і ўжо ў самым мястэчку. Але пасля ён неяк раптам аціх, заўсёды стаў вельмі задуменны. Слугі расказвалі, што цяпер больш, як калі раней, ім апаноўваць пачалі, здавалася, беспрычынныя ўспышкі гневу. У адзін з такіх момантаў ён успомніў пра тыя свае «хаткі». Ён сам паехаў туды і не пазнаў гэтага кутка. На заходнім краі нераскарчавана-

га зарасніку, па яго зямлі, стаяла некалькі новых хат, такіх вялікіх, зграбных, што іх льга было назваць дамкамі. Ён увайшоў у першую з іх і ўбачыў там збянтэжаную постаць аднавокага чалавека, твар якога быў падобен да грымасы.

— Як ты завешся? — моцна запытаў Залеўскі.

— Рыгор Федаркевіч,— адказаў чалавек.

— Што ж ты на маёй зямлі выбудаваўся?

— Карчуючы гэтую зямлю, я, паночку, страціў вока і ўсё сваё аблічча.

— А дрэва дзе браў?

— Не я адзін сек. Тады быў, паночку, такі закон. Што народ вінават!

— Такі быў закон?! — крыкнуў Залеўскі, і Рыгор Федаркевіч уныў душой.

Гэты чалавек у першыя дні рэвалюцыі, перад яснымі перспектывамі ў сваім жыцці, больш, як калі раней, адчуваў смутак ад свайго калецтва. Што ж да Антона, то ён ужо не задумваўся над гэтым: думкамі нічога не паможаш. Ён быццам бы змяніўся адразу, усё, што адбылося на свеце, напоўніла яго дзейнасцю. Ні аб якой мінуўшчыне ён ужо не думаў і, нягледзячы на сваю першую маладосць, раптам выявіў сябе вельмі сталым чалавекам. Ён гатоў быў стаць спрактыкаваным гаспадаром і рваўся да гэтага. У яго будзе зямля і хата, сапраўдная, вялікая новая хата.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пакуль мясцовасць занялі немцы, Федаркевічава хата стаяла ўжо накрытая. Паміж адыходам немцаў і прыходам палякаў у ёй была пакладзена столь, падлога, устаўлены вокны і дзверы. Федаркевічы перабраліся ў яе і пажылі ў ёй два дні, пакуль прыйшлі палякі і з'явіўся Залеўскі.

За бацьку ўступіўся Антон, праўдзіва бачачы, што калі раней бацька вытрымаў няшчасце, якое яго абязвечыла, то цяпер ужо не вытрымае збойства. Усё легла на галаву Антона. Залеўскі пакінуў гэтую хату, але застаўся аканом. Ён даў Федаркевічам пяць дзён, каб зусім пакінуць гэтае месца. За гэты час яны не паспелі выбрацца. Тады з'явіліся сумліцкія паліцыянты. Стары Федаркевіч схаваўся, а Антону здалося, што ён можа пабыць адвакатам за бацьку. Яго кінулі вобземлю і збілі да крыві. Уночы ў яго па-

чала пухнуць нага, і ён канчаўся з болю. Зранку літасцівы сусед павёз яго ў гарадскую больніцу. За месца ў больніцы трэба было заплаціць, і Рыгор Федаркевіч прадаў свой кажух, боты і, можна сказаць, усё, што льга было прадаць. Пасля гэтага выбраўся з сваёй хаты некуды на людзі. Антон застаўся ляжаць у больніцы, а хата запуставала. Федаркевіч забіў у ёй вокны аполкамі, маючы цьмяную надзею, што калі-небудзь, можа, будзе што лепшае.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Перад самым світаннем у гэты лясны закутак прыйшоў малады, высокі і плячысты хлопец. Ён мінуў масток над рачулкай, прайшоў кусты і ўвайшоў у рэдкі хвойнік. Ідучы, ён навакол азіраўся, да ўсяго прыслухоўваўся, нават магло здавацца, што ён вельмі нясмела ідзе тут. У нізкіх месцах стаяў туман, і ўсё было так ціха, што дзіўна было падумаць, што менш паўсутак таму назад тут усё грымела і траслося і, абліваючыся крывёю, тут падалі і ўміралі людзі. Край неба запаланеў, змрок пачынаў сплываць. Хлопец узышоў на вышэйшае месца, стаў пад хвоямі і пачаў прыслухоўвацца, кудысьці перад сабою ўглядаючыся. Ноч яшчэ не дазваляла што-небудзь выразнае ўбачыць там. Толькі адтуль чутны былі галасы, крыкі, стук па дрэву. Калі-нікалі мільгалі агні ліхтароў. Хлопец не ведаў, што там такое адбываецца, і, прытуліўшыся да хвоі, чакаў. Як крыху павіднела і пачало ружавець неба, хто б падышоў сюды, мог бы добра ўжо разгледзець хлопца пад хвояй. Гэта быў высокі здаравяк, з тварам, чорным ад поту. Можа, ён нядаўна шпарка ішоў і спацеў. На нагах у яго былі вялікія зрыжэлыя боты з шырокімі і кароткімі халявамі. Старая жакетка на ім з гаспадарскага сукна, кароткая, вышмарганая і злінялая, адлівала жаўтаватым колерам. З-пад яе ўнізе відна была палатняная непадперазаная рубашка.

Калі яшчэ больш павіднела там, куды глядзеў хлопец і дзе канчаўся рэдкі ўзлесак, пачала вырысоўвацца ў бялявым змроку хата. Яна стаяла на ўзгорыстым прылесным полі, і там відзён быў рух людзей. Хлопец чакаў яшчэ, пакуль лепш развіднее, каб убачыць, што там за людзі. Плынь паветра пайшла з захаду ў гэты бок, і хлопец адчуў, як запахла дымам. Неба заружавела больш. На ядлоўцы паміж зялёных іголак ужо відны былі даўгаватыя кроплі расы. Дзве высокія хвоі стаялі над дробным зарас-

нікам. Хлопец падняў твар угору. Вяршаліны хвояў ужо ружавеліся ад сонца, якое было яшчэ дзесьці за далягля-дам. Хлопец прыгледзеўся да хаты ў полі, і твар яго праясніўся ў момант: каля хаты былі людзі ў чырвонаармейскім адзенні, гэта відно ўжо было выразна. Хлопец ірвануўсяісці туды, але вочы яго ўпалі на сцежку перад сабой, і збоку яе ён убачыў штосьці падазронае. Пад кустамі было яшчэ змрачнавата, пры тым жа ўсё, што магло ляжаць пад імі на зямлі, танула ў густым верасе. Хлопец падышоў бліжэй і ўбачыў некалькі трупаў польскіх салдатаў. Спачатку ён уздрыгануўся ад нечаканасці і спалоху, але пачуў з-пад хаты чырвонаармейскія галасы і пасмялеў. Ім апанавала ўзбуджанасць, але разам з тым ён меў выгляд чалавека, які ведаў, што так усё тут і павінна быць.

— Ого, гэта, мусіць, тут якраз і быў той учарашні бой,— прабубніў ён сам сабе пад нос, шпарка зрабіўшы ўжо крокаў пяць, каб хутчэй дабегчы да хаты. Але якраз на сцежцы, у яго пад нагамі, ляжала згамтаная ў кучу адзежа. Капнуўшы яе нагой і перавярнуўшы адзежу, ён убачыў на зялёным сурдуце афіцэрскія галуны і пагоны. І тут ён заўважыў, што адзін салдацкі труп раздзеты, у адной толькі бялізне.

— Ого, дык гэта афіцэр раздзеты! Хто ж гэта яго, ці, можа, ён сам раздзеўся? — бубніў хлопец. На твары яго свяцілася цікаўнасць чалавека, у якога ўсё добра ідзе на свеце.

— А можа, ён яшчэ жывы? Эй ты, пан! Абзавіся!

Раздзеты салдат перасмыкнуў тварам, і толькі ўсяго. Першыя праменні сонца кранулі яго. Хлопец убачыў, што з-пад расхрыстанай і паднятай на жываце кашулі відно пасінелае ад холаду цела.

— Ты жывы? Панская навалач, чаго цябе сюды чорт гнаў з гэтай тваёй Варшавы, хто цябе прасіў сюды, каб <цябе> халера? — бубніў хлопец і, падняўшы з зямлі афіцэрскую адзежу, накрыў ёю раздзетага салдата.

Салдацкі твар застаўся нерухомы, хлопцу стала не па сабе — непрыемна і страшна аднаму сярод трупаў, і ён шпарка рушыў з гэтага месца. Ён ішоў подбегам, і відно было, што ў гэтай шпаркай хадзе ён накульгвае на левую нагу, і чым шпарчэй ён ішоў, тым больш прыпадаў на гэтую нагу. З вачэй яго так і лілося радаснае святло.

— Ого, хата стаіць на месцы! — некалькі разоў прамармытаў ён, паглядаючы на чырвонаармейцаў, якія рухава клапаціліся каля новае хаты з забітымі дошкамі вокнамі. Наводдалек відно было і яшчэ некалькі будынкаў. Гэта быў той самы куток, які называўся «Хаткі», дзе Рыгор Федаркевіч палажыў усе свае сілы на раскарчоўцы Залеўскаму дзікіх зараснікаў. Хлопец у момант дамчаўся да чырвонаармейцаў. На зямлі быў раскладзен вялікі агонь, і наваколл яго ляжала шмат чырвонаармейцаў з перавязанымі ранамі. Каля самага ж агню стаяла старая жанчына і грэла працягненыя рукі.

— Маці! — гукнуў хлопец яшчэ зводдалі.

Жанчына кінулася абнімаць сына і ўсё прыгаворвала:

— Антон, Антоська, а хата наша цэлая засталася. Я цябе адразу і не пазнала, як ты бег. А чаму ты кульгаеш, Антоська?

— Такая нага ў мяне засталася, так яна залячылася (пячаць вялікага гора легла на жанчынін твар). А дзе бацька?

— Бацька ў партызаны пазаўчора пайшоў, мусіць, недзе падаўся з чырвонаармейцамі далей, калі дадому не прыйшоў.

— Ого, а як дагэтуль вы жылі?

— А ў бацькавага брата прытуліліся, так і перазімавалі. Бацька хварэў узімку. А калі папраўляўся, то два разы прыходзіў сюды глядзець хаты. Выгнаў жа такі тады з яе Залеўскі нас, а бацька ўкрадкі забіў вокны і дзверы дошкамі, мы ўсё спадзяваліся, ажно ж і прычакалі... Спачатку ночы прыйшлі туды, у вёску, бальшавікі, і дзве чырвонаармейскія фурманкі адразу адтуль сюды паехалі. Яны мяне прывезлі сюды. Прыязджаю — аж тут кладуць агонь, свецяць ліхтарамі, адбіваюць сякерай дошкі ад дзвярэй. Носяць сюды раненых, а там у хаце дактары перавязваюць ім раны... А ты як?

— А я ўжо з тыдзень выйшаў з больніцы, але тут быў такі неспакой. Я пабойваўся адразу паказвацца, думаў, счакаю крыху, і не ведаў, дзе вы з бацькам. Я ўжо два дні як іду з горада следам за чырвонымі. А сёння ўпочы быў у Сумлічах.

— Можа, Настачку і Ульяну бачыў?

— Бачыўся з Ульянаю. Бальшавікі ўжо, мусіць, далёка ўвайшлі?

— Ад палякаў і следу няма... А Залеўскі, мусіць жа, уцёк, тут не застаўся?

Яна і сама ведала, што Залеўскі ўцёк, але сказаць гэтую фразу многа для яе значыла.

— Ох, як мне пра яго Ульяна расказвала! Перад выездам ён утрапёны дабег да палавіны Сумліцкай вуліцы і, як атручаны, назад вярнуўся.

Так гэтыя двое людзей, малады хлопец і старая жанчына, гаварылі радасна з самым наіўным, шчырым, быццам дзіцячым выглядам. Усё стала добра з гэтага дня на свеце, і толькі думка аб скалечанай сынавай назе атручвала жанчыне радасць.

— Тут усю ноч вёска гарэла,— гаварыла яна.— Ці палякі падпалілі, ці так ад вайны. Чуеш, дымам цягне з таго боку?

У гэты час доктар у белым халаце і з закасанымі рукавамі выйшаў з хаты.

— Эй, друг,— гукнуў ён Антону.— Чаго так стаіш? Памагай, у хаце людзей няма. Унь у цябе пад нагамі сякера, бяры, адбівай дошкі ад акон, на дварэ сонца ўзышло, а я пры ліхтары працую.

Антон хапіў сякеру і падбег да хаты, крыкнуўшы доктару:

— Там жывы польскі афіцэр ляжыць пад хвоямі!..

— Зараз усё абгледзім! — адказаў таксама крыкам доктар...— Эй, братцы, жывей!

Апошняя фраза адносілася да санітараў, якія ў гэты момант неслі трое насілак з раненымі. Доктар пабег у хату, а Антон ужо біў сякерай у канец дошкі, прыбітай да акна. З якой асалодай ён рабіў гэту работу! Гэта ён даводзіць да парадку сваю хату! Прастадушны і просты чалавек, ён не мог быць без бесперапыннай усмешкі на твары. Гэтая ўсмешка то расплывалася па ўсім твары, то сыходзілася толькі ў вочы, а пасля зноў свяціла на твар. Вось ён адбіў дошкі ад першага акна, пасля ад другога. У некаторых вокнах яшчэ захаваліся шыбы. Антон узлёг грудзьмі на аконную шуфляду і зазірнуў у сярэдзіну хаты. Калісьці ён пажыў у ёй усяго некалькі дзён. Якая выгада будзе цяпер жыць тут! Прасторная хата на падлозе, з вялікімі вокнамі. Сцены з смольнага моцнага дрэва. Гэта будзе для жыцця назаўсёды, на ўвесь век, да самай старасці. Хопіць гэтых сцен, сваіх уласных, здабытых чалавекам у працы, як узнагарода за ўсё мінулае.

# ЗАХАР ПАГУДА

*(Раман)*

## 1

Вялікая дарога, блізкая і раўналежная да старое шашы паміж Масквой і Варшавай, недзе пад той бок, дзе не давала людзям спакойна жыць польская граніца, праходзіць праз новае і даволі вялікае селішча Шпаруты. Гэтыя Шпаруты ўзніклі на голым месцы ў гады пасля рэвалюцыі, за дваццаць пяць год разбудаваліся на чатыры вуліцы і ў пэўнай меры маглі б назвацца мястэчкам, абы-толькі каб было цяпер у модзе гэтае слова. Тамашнія людзі, ужо і таго пакалення, што спаткала Вялікую Айчынную вайну ў даволі яшчэ маладых гадах, добра памятаюць, як на месцы цяперашніх Шпарут пачаў ставіцца першы дом. Сапраўды ж, усё тое было так нядаўна, так усё ясна ў памяці і такія свежыя яшчэ сляды пасля ўсяго, што тады адбывалася. Прага чалавечай душы, нарадзіўшыся тады, да гэтага часу страціла толькі бурныя парывы юнацтва. Асэнсаваная розумам, яна набыла сталасць і выбілася на большую сваю сілу.

Расказваюць, што адразу пасля рэвалюцыі, на пачатку зімы дзевяцьсот семнаццатага года, там, дзе стаяць цяпер Шпаруты, выбраў сабе пляц пад забудову тамашні беззямелец і, праз доўгія гады, кутнік па чужых хатах удавец Грынявецкі. На той час сям'і ў яго толькі і было, што сын яго Максім. Самому Грынявецкаму было тады год пяцьдзесят. Ён быў цясляр, а яшчэ лепш ведаў і паважаў сталярку. З гэтага і жыў, рухавы і пільны да працы. Працаваў ён па людзях на шырокай акрузе, але ўсё гэта быў адзін кут, адно месца, і сын яго Максім з маленства наслухаўся ад бацькі, што няма на свеце лепшай стараны, як тая, якую ён выхадзіў з сякерай і гэблем. Ён расхвальваў тамашнія мястэчкі, сотнямі называў сёлы, пералічваў дарогі, скрыжаванні на іх і масткі на рэчках і найчасцей спыняўся думкай і словам на месцы, якое было яму больш

за ўсё даспадобы. Там былі блізка лясы, густа стаялі вёскі і праходзіла вялікая дарога. Месца тое здаўных называлася — Шпаруты.

Нарэшце настаў час. Словы вялікага гімна «хто быў нічым, той стане ўсім» вельмі ўзлагодзілі душу гэтага чалавека. Як падарожны ў спёку да вады, так ён пасля восені дзевяцьсот семнаццатага года кінуўся асталёўваць сабе ўласную дамоўку, аб якой нудзеў заўсёды і якое не меў ніколі. Галодны прагне адразу многа наесціся. Грынявецкі ўзяў размах на сваю будоўлю, можа, і занадта вялікі. Але ён хацеў дажыць свайго веку ў добрым доме, а каб Максім, з гэтых першых маладых сваіх год, назаўсёды ўведаў прасторныя сцены і святло з вялікіх вокан. Грынявецкі ад самага дна свае душы ўцяміў, што прыйшла новая пара і быў бы вялікі грэх перад самім сабою, каб не адцурацца ўсялякага згінання ў крук. Ён верыў у добры лёс на далейшае свайго Максіма. Разам з Максімам ён і ўзяўся за будоўлю. На той час якраз і прыпадаў пачатак Максімавага юнацтва. Увосень дзевяцьсот семнаццатага года яму пачаўся семнаццаты год. Маці яго памерла незадоўга да таго часу. Яго ўразіла гэтая смерць, бацькаў смутак па нябожчыцы і паведамленне з войска, што старэйшы яго брат загінуў на вайне незадоўга да рэвалюцыі. Аднак жа ўсемагутная маладосць навек перамалола ўвесь горыч цяжкіх уражанняў, і час зняў з душы сляды іх. Пачалося юнацтва. У старога Грынявецкага з'явілася новая думка. Можа, яна крыху і апазнілася, але яна заўладала ім як мае быць. Ён надумаўся «вывесці Максіма ў людзі праз навуку». Максіму будзе дом. Але ж яму трэба даць і нешта большае. З усёй жа сям'і ён астаўся ў яго адзін. Абодва Грынявецкія тут спыніліся думкай на настаўніцкай семінарыі. Будзе яшчэ тое ці не будзе, а ў Шпарутах пачалі гаварыць пра Максіма Грынявецкага, як пра вельмі здольнага да навукі хлопца, які потым выйдзе за настаўніка. Вельмі можа быць, што гаворкі гэтыя падтрымліваліся тым, што Максіма часта бачылі з кнігай. Да гэтага часу ён быў даволі начытаны, хоць і ў пэўным сэнсе гэтага слова.

Дом будаваўся сталым парадкам. Няможна спяшацца з тым, што робіцца навек. Узведзеныя як мае быць сцены накрыліся дахам улетку дзевятнаццатага года. Далей работа не пайшла, так усё і засталося. Гэта было насуперак жаданняў старога Грынявецкага, але нічога ён тут парадзіць не мог. Усё адбылося вось з якое прычыны. Як толь-

кі ўсталявалася польская акупацыя, увосень дзевятнаццатага года вярнуўся з свайго выгнання ад рэвалюцыі ўласнік таго лесу, з якога Грынявецкі навазіў сабе дрэва на дом, і той зямлі, на якой ён гэты свой дом давёў да даху. Прозвішча гэтага ўласніка было Барцёўскі, а лес той звалі — Барцёўшчына. Гэты Барцёўскі быў чалавек малады, упартай натуры і без прывычкі да сталай развагі. Раззлаваны рэвалюцыяй і выбіты з духоўнай раўнавагі ўсім тым, што з ім за тыя гады адбылося, ён стаў істотай помслівай, здольнай чапляцца за ўсялякую драбязу і раптоўна кідацца на ўсялякія авантурныя планы. З яго душы не выветрывалася ўражанасць ад таго, што яму прыйшлося было туляцца абы-дзе і жыць абы-як, хаваць сваё сапраўднае імя і думаць аб прапажы маёнтка. Цяпер ён хацеў адным махам вырваць з карэннем усе сляды ад таго, што было. Аглядаючы сваю Шпарутаўскую зямлю, ён убачыў там новы вялікі дом, яшчэ без вокан і дзвярэй. Паабапал яго было многа навожанага дрэва. Яно ляжала скрозь паўз вялікую дарогу на вымераных на яго зямлі пляцах пад забудову. Яўным парадкам Барцёўшчына пайшла на марнасць. Ён адразу разведаў, чый дом і што за чалавек. Яго ўкалола, што гэты чалавек першы паказаў лад усім і ўсім паддаваў ахвоты да таго, каб пляжыць Барцёўшчыну і рэзаць пляцы. Не менш яго ўкалола і тое, што гэты Грынявецкі збіраўся яшчэ даваць сыну навуку. Гэта азначала, што на Шпарутаўшчыне ўкараняўся новы тубылец.

У Барцёўскага адразу і з'явілася думка. Яна была раптоўная, гарачая, зларадная. Яна залежала ад ускаламучаных настрояў гэтага чалавека. У дадатак да ўсяго ён быў дзейны і дабітны ўсюды. Думка яго была вось якая: трэба да канца скарыстаць закон акупацыі, і цераз гэта не толькі вярнуць сабе ўсе страты, але і ў пэўнай меры нажыцца. Трэба, каб усе гэтыя дробныя людзі, што зачапілі яго ўласнасць, рады сталі адкупіцца чым толькі льга. Трэба думаць, што ў яго хапіла думкі на тое, каб правільна ацаніць момант: ён намерыўся як найбольш назбіраць адусюль грошай, прадаць Барцёўшчыну і ўсе будынкі і назаўсёды выехаць у Варшаву на дзяржаўную службу, бо маёнтак яго больш ужо ніколі не ўваскрэсне. Ён гэта бачыў і адчуваў. Грынявецкага трэба арыштаваць. Гэта зробіць уражанне на ўсіх, і ўсе пойдуць прасіцца і сплацяць за ўсё апошнімі грашыма. Такім парадкам збяруцца вялікія грошы, каб пачаць у Варшаве новае жыццё. Бяда толькі, што цяпер зям-

лі ніхто не кваніць купляць. Усё было вылічана і вымеркавана як не трэба лепш. Барцёўскі быў асоба ўплывовая сярод улады на ўвесь той павет. Пры тым жа ён ужо завязаў вузлы свайго добрага знаёмства і ў большых сферах, праз якія прабіваўся ў Варшаву. Начальнік таго павета быў рад плану Барцёўскага. Ён думаў з гэтага пачаць і правесці арышты больш. Ён і сам быў нешта пакрыўджаны рэвалюцыяй. Ён па-свойму дапоўніў план Барцёўскага так: арыштоўваюцца абодва Грынявецкія і перад адпраўкай у астрог ім, і старому і маладому, перад натоўпам людзей дадуць яшчэ прутоў па дваццаць пяць. Барцёўскі вярнуўся з павета і сам аддаў афіцыйную паперу аб арышце і экзекуцыі позна ўночы. Начальнік жандараў у воласці назначыў арышт і экзекуцыю на дзесяць гадзін зранку. Грынявецкія нічога нават і на думку не бралі, хоць і думалі, што за дом нейк прыйдзецца расплачвацца.

Пачало днець, і насталі першыя хвіліны яснай раніцы. Ўсходзіла сонца. У гэты ранні час да Грынявецкіх прыбегла (сапраўды-такі прыбегла) маладая асоба, можна сказаць, Максімава равесніца, на год за яго маладзейшая, Антаніна Лукашэўская. Грынявецкі здзівіўся, а Максім збянтэжыўся і, здавалася, пачырванеў тварам. Што ж, яму тады ішоў усяго дзевятнаццаты год, а паміж ім і Антанінай Лукашэўскай былі дачыненні, аб якіх ён нікому не расказваў. Ён быў хлопец ціхі, і з некаторага часу ў яго пачала развівацца схільнасць да таго, каб часамі астацца сам-насам з сабою або каб чытаць, упурыўшыся ў кнігу на некалькі гадзін засаб. Вядома, гэта быў тыповы сын кутніка па чужых хатах, цесляра, які сёння махае сякераю, а заўтра так жа добра пойдзе за плугам, але ні дня, ні часіны не згуляе. Максім Грынявецкі чытаў кнігі тады, калі яны не адрывалі яго ад работы. Хоць думка вучыцца ўжо ўладала ім вельмі моцна і ператваралася ў прагу. Ён думаў калі-небудзь стаць настаўнікам, але не спыняўся на гэтым і ўсё праслухоўваў і разведваў, дзе і на каго вучыцца. Ён быў востры на кемлівасць, але не схільны да таго, каб куды-небудзь першаму дапасці. З твару і постаці ён вельмі быў падобен да свайго бацькі. Чорныя валасы і асмуглы твар. Можа, нават крыху празмерная танклявасць, калі мець на ўвазе рост вышэй-сярэдні. Трэба яшчэ сказаць, чым стары Грынявецкі, гэты просты чалавек любіў часам пахваліцца. З зялёных сваіх год Максім налажыўся да сталяркі і мулярства. Пра яго так казалі навакольныя людзі:

«Ён, калі прыйдзецца, добра пакіруецца сабе ў жыцці». Гаварылі і яшчэ пра адно. Гэтая гаворка, не кожнаму цікавая, па слову сачылася і стварала погаласку. Найбольш цікавіліся гэтым сярод жанчын, а яшчэ больш шапталіся і паблісквалі вачыма дзяўчаты. Нехта заўважыў, якраз Максім Грынявецкі дайшоў увечары з Антанінай Лукашэўскай да вялікага каменя пад дрэвамі на абочыне вялікай дарогі і там яны прасядзелі «цалюткую ноч да самага дня, як прыкаваныя да таго каменя». Дзяўчаты шапталіся, што яны сядзелі, прыцісnуўшыся адно да аднаго. Гэта была праўда, што яны ўдваіх разам тым годам часта бачылі з гэтага месца ружовасць неба на ўсходзе. Стары Грынявецкі дазнаўся пра гэта і ўсміхнуўся: яго сын дарос ужо да свае самастойнасці. Грынявецкі, каб бачыць дарасласць свайго сына, глядзеў не на яго гады, а на яго ўчынкі. Так ён стараўся вырваць з душы смутак па тым, забітым на вайне, сыне. Блізасць паміж Максімам і Антанінай не была раптоўная і тым больш не бурная ўспышка. Яна нараджалася і вырастала праз доўгі час. Антаніна была далёкая сваячка Максіму. Не часта, не больш, як два разы на год, але бывала ў Грынявецкіх. Бацька яе служыў у Барцёўскага і жыў ад Грынявецкіх кіламетраў за сем. Камень пад дрэвамі пры вялікай дарозе, дзе Максім і Антаніна выбралі сабе месца на спатканні, быў якраз на палавіне дарогі паміж імі. Антаніна першая заўважыла адну, даволі-такі выразную рысу ў духоўным абліччы Максіма Грынявецкага: у яго душы жыло большае за ўсё тое, што ён выказваў словамі. Жаночай сваёй чуласцю яна ўгадала, што яго думкі выходзяць за межы патрэбаў маладога вясковага чалавека. Думка жыла на яго твары, і было падобна, што ён шукае прыстанку нейкаму свайму вялікаму імкненню. Выразных прычын на гэта не было, але яна ўверыла ў яго будучыню і сілы і памкнулася да яго. Гэта быў час у яе жыцці, калі яна пачынала адчуваць у сабе ўпэўненасць, што жыць на свеце цяжка.

Вось хто была гэтая Антаніна Лукашэўская.

## 2

Яна была дачка чалавека, якога на поўны сэнс слова можна было б назваць ціхманым сумленнікам і працавітым баязліўцам. Зваўся ён Адам Лукашэўскі. Можа, на сваё няшчасце ён у свой час скончыў сельскагаспадарчую шко-

лу. Гэта было даўно. І той час, і лёс бацькі налажылі на яго душу такую пячаць, якая скоўвала ўсе яго парывы і нарэшце ўціхамірыла іх зусім, і ён навек застыў на такой сваёй свядомасці: чалавек жыве на свеце натое, каб мець які-небудзь кавалак хлеба і ўсімі сіламі і імкненнямі трымацца яго і наравіць за яго кожнаму. Бацька гэтага чалавека быў дробны службовец у маёнтку. Заработак быў мала большы за парабкоўскі, але на плячах быў чорны пінжак, а не сярмяга. Хоць пінжак быў латаны, але на ім не было закарэлай зямлі, як на той світцы, у якой парабак з цямна да цямна арэ зямлю. Адам Лукашэўскі памятаў смерць свайго бацькі. Той нешта не ўнаравіў свайму гаспадару, і яго выгналі са службы. Не маючы нідзе свайго аселішча, Лукашэўскі пачаў кідацца па свеце. Аднак жа ў яго хапіла волі на тое, каб нават і ў такім сваім няшчасці не адарваць Адама ад навукі. Той ужо другі год вучыўся ў сельскагаспадарчай школе. Сям'я трацiла на яго апошняе. Неўзабаве стары Лукашэўскі памёр з нэндзы, а Адам выйшаў за нейкага агранома. Сэнс свае прафесіі ў той час ён уцяміў так: трэба старацца, каб дзе знайсці месца быць аграномам, а потым век-вечны наравіць таму ўласніку маёнтка, каму служыш. Так пакрысе яго сталасць вызначалася тым, што ён як мог пільнаваўся свае службы — цягавіта, упарта, маўкліва. У дадатак да гэтага, можа, яшчэ і натура яго была занадта ціхая. Ён дастаў сабе службу ў таго самага Барцёўскага і на адным месцы праслужыў ад самых маладых год і да рэвалюцыі. Тут ён і ажаніўся. Ён узяў замуж стрыечную ў трэцяй ступені Грынявецкага сястру. Ад гэтага шлюбу і нарадзілася Антаніна. Адам Лукашэўскі ў рэвалюцыю пачаў прыглядацца і чакаць, што з гэтага будзе. Ён быў чалавек асцярожны, і цяжка было сказаць, чаго тут было больш, асцярожнасці ці баязлівасці. Ён сядзеў ціхом і чакаў. У глыбіні ж душы ён радаваўся. Ён хацеў, каб так усё і асталося, як сталася ў кастрычніку месяцы. Калі так яно ўсталюецца і пусціць карэнні, увойдзе ў нормы і берагі, тады і ён возьме сабе зямлі, паставіць сабе дом з Барцёўскага лесу і навек зніме з сябе прыкрую службу. Нарэшце пачалася польская акупацыя. Адам Лукашэўскі ўздзякаваў бога за сваю вытрыманасць, што ён меў розум ціха чакаць і не лезці ў Барцёўскага зямлю, лес і пакоі. Барцёўскі вярнуўся з гонарам, сілай і помслівасцю. Глыбока ў чужую душу не заглянеш, і не кожны прачытае чужыя думкі. Так было і тут. Барцёўскі па-свой-

му ацаніў паводзіны свайго агранома. Яго асцярожнасць ён палічыў за адданасць сабе, пахваліў прыгажосць яго Антаніны, наблізіў яго да сябе, паабяцаў яму пазаўсёды добры кавалак хлеба, і такім парадкам Адам Лукашэўскі мог часам што-нішто ведаць з таго, што рабілася каля самога Барцёўскага. Таксама і цяпер здарылася так, што ён адзін, апроч самога Барцёўскага, ведаў уночы, што на раніцу чакае Грынявецкіх. Хоць ён у тую ноч лёг і позна, але ўстаў, як і заўсёды, рана. Была восень, і толькі зашарэў золак. Пад вялікім сакрэтам ён расказаў пра ўсё сваёй Антаніне. Паміж бацькам і дачкой была аж да хваравітасці вялікая замілаванасць. Антаніна, не думаючы доўга, адразу сказала:

— Трэба адразу ж наказаць Грынявецкім, няхай ратуюцца.

Ведаючы натуру свае дачкі, Лукашэўскі ўзяў тон просьбы і добрага ўгавору:

— Мы гэтага рабіць не можам. Я толькі адзін пра ўсё ведаю і больш ні адна жывая душа. Барцёўскаму адразу стане ясна, што гэта майго языка работа. Страшна падумаць, што тады будзе. Я не маю дзе дзецца на свеце. Будзе так, як некалі з маім бацькам. Я магу вытрымаць торбы на плячах, але не вытрымаю твае і матчынай бяздольнасці. Табе васемнаццаты год. Гімназіі ты не скончыла, пасагу я табе не маю. Маці твая хваравітая і пачала ўжо душыцца кашлем. Барцёўскі дасць такі воўчы білет, што ніхто і нідзе на службу не возьме.

— Але ж Грынявецкія нашы сваякі.

— Але ж ты і твая маці бліжэйшыя мне сваякі!

— Мне ніякага таго пасагу, аб якім ты бядуеш, не трэба.

— Без пасагу ніхто нікога не бярэ замуж.

— Максім Грынявецкі возьме мяне так, як я стаю.

— Божа мой! Максім Грынявецкі? Як жа ты з ім жыць будзеш?

— Ён будзе вучыцца.

— Але ж ён нічога за душой не мае. Ён можа быць толькі мулярам і цесляром. Ты вучылася ў гімназіі. Яго сёння пасадзяць у астрог.

— Я люблю яго.

У гэты момант яна ўбачыла, што страшная пячаць смутку лягла на бацькаў твар. Лукашэўскі сапраўды мучыўся душой. Ён прывык спадзявацца, што яго прыгожую дачку,

якая вучылася ў гімназіі, калі-небудзь возьме чалавек з дастаткам ці з добраю службаю і не залежны вельмі ад каго б там ні было. Хворая маці не чула гэтай гаворкі. Бацька раптам узвысіў голас і забараніў ёй умешвацца ў гэтую страшную справу. Урэшце яны пра ўсё дазналіся выпадкова, маглі і не дазнацца. Ён загадаў сваёй Антаніне маўчаць. Пры гэтым ён дадаў, што свет зноў стаў на ранейшы стары грунт. Рэвалюцыя доўга не набыла, Барцёўскі вярнуўся, жыць трэба і трымацца зубамі за службу трэба. І яе апанаваў вялікі смутак. Увесь свет здаўся ёй, як мураваны склеп з жалезнымі дзвярыма. Ціхом выйшла яна з пакоя. Яна стаяла на ганку і праз уласную развагу шукала сабе ўцехі: бацька можа сам перабольшвае свае страхі. На свеце ўсё куды прасцей, як здаецца. Шпарка сышла яна з ганка і пайшла не спыняючыся. Яна мінула той камень пад дрэвамі і тады пабегла. Ужо не могучы перавесці духу, убегла да Грынявецкіх у хату. Задыхаючыся, яна ледзьве прагаварыла прыкрае паведамленне. Абодва Грынявецкія, не сказаўшы адзін аднаму ні слова, праз дзве хвіліны сабраліся ў дарогу. У якую — цяпер яны яшчэ і самі не ведалі. Два конныя жандары праехалі па вуліцы, і Грынявецкія выйшлі з хаты. Антаніна на момант затрымалася: яна баялася, што яе з вуліцы ўбачаць. Яна адчувала сябе як на вялікай пакуце. Праз хвіліну яна выйшла і замкнула за сабою дзверы толькі таму, што калі выходзяць з хаты надоўга, то заўсёды яе замыкаюць, а замок з ключом вісеў у клямцы. Яна ўбачыла, як Грынявецкія выходзілі паўз вішнёвыя кусты на агародзе ў палявую сцежку. Яна пабегла ў агарод і заўважыла, што Максім стаіць і чакае яе.

— Праз некалькі дзён, як усё аціхне, я прыйду да цябе,— сказаў ён,— чакай, а ключ няхай будзе ў цябе.

І яны зірнулі адно на аднаго доўгім позіркам. Кажуць, што пад такім позіркам можа змякчэць камень.

— Праз тыдзень мы ўбачымся,— сказала яна.

Стары Грынявецкі нічога не чуў, але думаў: якая ў яе добрая душа, ёсць жа такія залатыя людзі на свеце. Але не час быў Грынявецкаму раздумваць: відно было, што дарогаю ідзе вясковы солтыс з двума паліцыянтамі. Бацька з сынам вярнуліся назад і выйшлі на іншую дарогу. На дзвярах вісеў замок. Антаніна была ўжо далёка, але яшчэ добра відзён быў абрыс яе галавы і постаці. З гэтага моманту больш за ўсё яна і асталася ў Максімавай памяці. Яшчэ

стаяла яна ў вачах з таго, як толькі што ўбегла ў хату. У яе былі чорныя гладкія валасы і прывычка ўскідаць плячыма ў часе гарачай гаворкі. І вочы былі цёмнага колеру. Чым далей аддаляўся Максім ад Шпарутаўскага поля, тым ясней паўставала Антаніна перад яго вачыма. Смутак па ёй апаноўваў яго, і яна стала ўяўляцца яму як такая, аб якой трэба заўсёды думаць.

Яна дайшла дадому бадай-што ў адчаі. Але разам з тым у глыбіні душы ў яе жыла вялікая радасць. Яна глядзела ў сваю душу і радавалася. Нясмела, як злачынец, увайшла яна ў дом і застала бацьку ў поўным спакоі. Ён раскладаў на шкле пласт мокрай ваты і садзіў туды ячменныя зярняты. Ён знімаў практыку з прарастання зерня. У Антаніны адлягло ад сэрца. Гадзін праз дзве яго паклікалі да Барцёўскага. Вярнуўся ён дадому позна ўночы, і можна было падумаць, што яму заняло мову. За адну ноч ён высах і ўчарнеў тварам і ледзьве выгаварваў словы. Пачуццё блізасці да бацькі і зямілаванасць да яго перавысілі межы Антанінінай душы. На галаву Адама Лукашэўскага ўпала вялікая бяда. Вось што ён сказаў ёй ціхім, няшчасным голасам:

— Грынявецкія зніклі. Увесь дзень і ноч конныя жандары віжавалі па ўсёй разлегласці і нават на след не напалі. Пачаўся вялікі рух. Арыштавалі пяцёх, якія паспелі былі пакласці падваліны на новыя дамы ў Шпарутах. Думаюць, што тут ёсць змова супраць польскае ўлады. Пачалі трэсці і шукаць. Можа быць многа арыштаў. На мяне ўпала цвёрдая падазронасць, што папярэдзіў Грынявецкіх я. Бо толькі я адзін і ведаў. Барцёўскі мяне ўпікнуў, што я на старане змоўшчыкаў. За мяне можа ўзяцца жандармерыя. Барцёўскі выгнаў мяне са службы. Праз паўтары сутак я мушу ачысціць гэтую кватэру. Маці хворая зусім. Ты не скончыла гімназіі. Мне суджана тое, што і майму бацьку.

Ён сеў і паглыбіўся ў страшнае маўчанне. Раней часамі ён нудзеў, што Антаніна ў гімназіі адзета бадай-што горш за ўсіх. Ён пакідаў курыць, прадаваў свой гарнітур, добра адзяваў яе і цешыўся. Усё яго няшчасце было не толькі ад таго, што ён нічога свайго не меў і павінен быў трымацца службы, але яшчэ і з таго, што ён цягнуўся за тымі, хто мог і не служыць і жыць добра. Ён любіў добры тытунь, стараўся хоць раз на год паказацца на людзях у бездакорнай адзежы. Ён хацеў, каб яго дачка зіхацела на ўсю гім-

назію. А там жа вучыліся і багатыя паненкі. Вучыць дачку ў гімназіі было яму роўна самаахвярнасці. Усё гэта прайшло ў Антаніных думках, і ёй захацелася кінуцца бацьку на шыю. Душа яе рвалася на часткі. Яна адчувала сябе як прыкаваная да каменя, ад якога няможна адарвацца. Адам Лукашэўскі пачаў раптам пагойдвацца седзячы і шаптаць сам сабе:

— А божа мой! Я ніколі нічога ведаць не хацеў, толькі каб мець хлеб. Як усё брыдка сталася! — (Ён узвысіў голас.) — Антаніна, я цябе не ўпікаю нічым, але мне цяжка. Трэба зараз жа з'ехаць адсюль назусім. Што я магу прыдумаць! Па шашы на захад, па той бой Сіняўкі, у той старане, дзе я радзіўся і жыў, пакуль не паехаў вучыцца, жыве мой добры таварыш. З таго боку ён і родам. Разам са мною ён вучыўся. Яму пашанцавала ў жыцці. Таксама, як і я, ён пачаў з палявода, а даслужыўся да таго, што цяпер сам кіруе вялікай гаспадаркай у нейкага зямельнага магната. Мы з ім час ад часу перапісваліся. Як натое ідзецца, на тым тыдні прыйшло ад яго пісьмо. Яму патрэбен палявод, і ён мяне запрашае. Трэба за гэта ўхапіцца. Тут я прападу. Я ўжо без службы, без хаты і без хлеба. Барцэўскі-то не ведаў, як са мной цацкацца за тое, што я не зачапіў яго дабра, калі была рэвалюцыя, то раптам сёння ўночы ўзвысіў на мяне голас, чаму я, калі яго не было, дазволіў людзям сеч яго лес.

Антаніна бачыла: бацька гаворыць тонам просьбы і як бы шукае ў яе падтрымкі. Яна раптам адчула, які вялікі цяжар зваліўся на яе галаву. Ёй здалося, што бацька хворы на нейкую страшную хваробу. У яе хапіла кемлівасці і такту, каб падтрымаць яго ў яго намерах. Усё пайшло вельмі шпарка. У той жа дзень Адам Лукашэўскі абмяняўся тэлеграмамі з сваім сябрам. Назаўтра ж яму пашанцавала прадаць усё тое, што ён не мог забраць з сабою. Тым жа днём напач ён з сям'ёю выехаў за Сіняўку, пакінуўшы назаўсёды Барцэўскага, у якога служыў гэтулькі год і які цяпер выразна бачыў, што маёнтак сыходзіць на няма-нішто, і таму стараўся хутчэй выехаць у Варшаву на добрую службу. У Шпарутах жа пачыналася вялікая калатня.

Перад самым выездам Антаніна прайшла паўз тую хату, дзе жылі Грынявецкія. Замок вісеў так, як яна і пакінула. Яна дала круку і прайшла паўз камень пад дрэвамі пры

дарозе. Некалькі разоў яна азіралася і бачыла здалёк няскончаны дом Грынявецкіх. Бліпчастым дахам ён узвышаўся, здавалася, над усёй мясцовасцю.

### 3

Грынявецкія пусціліся ў невядомую дарогу ясным ранкам. Сонца ўзышло чыста, і стаяў добры прымаразак. Былі апошнія дні лістапада месяца. На полі ляжала намаразь. Усё зіхацела пад сонечным бляскам.

Ужо з першага кіламетра дарогі стары Грынявецкі пачаў выказваць свой неспакой і трывогу. Пасля смерці маці і гібелі на вайне брата, Максім часта заўважаў, што бацька пачаў быццам і без прычыны трывожыцца і ўпадаць у маўклівасць. Здароўем ён пачаў занепадаць. Палявымі дарогамі яны прайшлі кіламетраў дзесяць на ўсход паўз шашу. Неба пачало хмурнець. Надвор'е зменьвалася. Паветра адмякчэла, і навалакліся хмары. Стары Грынявецкі аж пачаў заікацца ад неспакою.

— Гэта трэба перачакаць, пакуль усё заціхне. Яно ўсё перакруціцца і ўвойдзе ў берагі. Нам трэба падавацца на Падлессе. Там у мяне ёсць прычына. Перабудзем гэтую бяду ў Банадыся Варыводы.

— А хто гэта Банадысь Варывода?

— Некалі, сам ведаеш, я быў маладзейшы, і ён быў маладзейшы. Блізкі свет, ад Падлесся да Шпарутаўшчыны, вёрст трыццаць, будучы яшчэ зусім маладым хлопцам, ён дападаў заляцацца да мае сястры ў трэцяй стрыечы. Ён яе так любіў, што калі яму перабіў інтарэс Адам Лукашэўскі, то ён нешта з тыдзень праседзеў у мяне і ўсё мне скардзіўся, што яго за душу смокча. Так мы з ім як бы і пасябраваліся. Ён доўга пасля гэтага не жаніўся. Яму не пашанцавала. Ажаніўся позна, і малыя дзеці пачалі ўміраць. З шасцярых дзяцей асталася ўсяго адна дачка, самая маладзейшая. Гэта я добра ведаю. Яна завецца Алімпа. Ён будаваўся незадоўга да вайны. Успомніў быў пра мяне і забраў на цэлае лета. Я яму добрую хату паставіў. У яго не было чым адразу заплаціць за работу. Ён згалеў дазвання, калі дзеці хварэлі і ўміралі. Кожнага ж лячыў. А дактары танна не каштуюць. Як той казаў: хвароба цягне душу і трасе кішэню. Дык ён і сказаў мне: так і так, кажа, няма з чаго пацягнуць, хоць на ратунак гвалтуй, без капейкі жыву, а хата зараз абернецца. Вецер дзьме, дык

сцены трасуцца і з шчылін парахня ляціць. Паставім, кажа, удвух мне хату, я цябе на свой хлеб вазьму, а за работу пачакаеш мне. Трохі стану на ногі, тады сам прывязу табе грошы. Памятаеш, я з вясны да снегу сядзеў у Падлессі? Яшчэ нябожчыца матка жыла, а табе было год пад дзесяць. Тады тая Варыводава Алімпа была зусім малая: год мела, можа, сем, а калі восем — то гэта найбольш. Хату я яму зрабіў і грошы паверыў чакаць. Дык прайшло ўжо год блізка што дзесяць, а Варывода слыху не падаў. Але барані божа падумаць, што ён не хацеў грошай аддаць. Каб мне хто прысягаў, што так, дык веры не дам. Я яго пазнаў як мае быць, не такі чалавек. Хіба, можа, што здарылася ў яго або жыве вельмі кепска. Я ўжо адразу сёння падумаў, што трэба ісці да яго. Ён дасць прытулак. Старана там глухая. Толькі мне падумаць страшна, што дома ў хаце там усё асталося, хоць і пад замком. Знойдуцца такія, што вокны павысаджваюць і абяруць. Але ты ведай, што, ратуючы галаву, не глядзяць шапкі. А гэтая Антаніна? У яе ключ, але што яна там можа парадзіць? Ты даўно з ёю пасябраваўся?

Грынявецкі далей ужо гаварыць не мог і змоўк. Ішлі яны вельмі шпарка. Грынявецкі спацеў і кашляў. Вецер працінаў яго. Да Падлесся ім аставалася кіламетраў сем. Хмары спусціліся нізка, і пайшоў дождж. Дзіўна было, канец восені, а такі часты дождж. Дзень канчаўся, насоўваўся вечар. Калі яны дайшлі да Падлескага сяла, ужо даўно як мае быць вісела цемрыва. Грынявецкі меў добрую памяць і не горшыя вочы. Ён лічыў у вуліцы хату за хатай і нарэшце сказаў:

— Вось тут жыве Банадысь Варывода.

Максім спалохаўся: які стаў у бацькі голас! Ён быў хрыпаты і перарываўся. Але Грынявецкі варушыўся шпарка і рухава ўшыбаваўся ў Варыводаву хату. Максім дзівіўся, адкуль у бацькі гэтулькі рухавасці. Але нават і ў думкі яму не прыходзіла, што бацька напружвае ўсе сілы і так стараецца не паддацца слабасці. Грынявецкі спацеў на ветры і да ніткі прамок на дажджы і ўжыў свой просты спосаб: трэба, каб увесь час ішоў з чалавека пот. У яго рабілася цёмна ўваччу, але ён усё паддаваў хады. Печ у Варыводавай хаце была гарачая, і Грынявецкі дапаў да яе раней, чым даць у хату добры вечар. Ён прыпаў тварам да цяпла і апапураў зусім. Максім устрывожыўся і чакаў. Тут увайшоў з двара ў хату і сам Банадысь Варывода. Максім

зроду не бачыў такога высокага чалавека. Ён быў як высокі, так жа і тонкі. У яго былі доўгія рукі, хударлявы твар і пявучы голас. Ён доўга ўглядаўся ў незнаёмых людзей і нарэшце пазнаў і абазваўся. Можна было б сказаць, што ён не гаворыць, а спявае:

— А, пане-браце Грынявецкі! Але ж ты, чалавеча, змок! Аж твар у цябе пасінеў, і калоцішся ўвесь. Алімпа! Поўную печ дроў напхай і адчыні комін. У печы жару многа, дровы самі загарацца, а ты пастаў да агню варыць. Калі ён гарачае стравы насёрбаецца, то яго з сярэдзіны цяплом пройме, а зверху гарачая печ будзе даваць дыхту. Няма найлепшага лякарства, калі мокрая кудаса захалодзіць. Лезь, пане-браце, на печ, а яна няхай тут каля печы завіхаецца. Гэта ж тая самая Алімпа, з якою ты, малою, пацвельвацца любіў, хату робячы. Бач, якая дзявуха вырасла, што ад хлопцаў адбою няма. Без жартаў кажу. Ужо адзін сватаўся, але яна сталасць вялікую мае. Разумная галава і залатыя рукі. Замкнула губы і адвярнулася ад скваинага жаніха. А чаму? Бо ў яе па матцы жалоба яшчэ не адышла. О так, о так, бярыся на печ. Упірайся нагамі ў комін. Шпурляй боты на падлогу і трымай на гарачым коміне босыя ногі. Не бойся, пячы смела. У якую ж ты, пане-браце, дарогу так не па-людску выбраўся? Што з табою? А божа мой найвышшы! Ты думаў пра мяне, што Банадысь Варывода злодзей і гад. Дзесяты год ідзе, а я не абазваўся з грашыма. Праўда, мне табе і ў вочы нядобра глядзець. Але, паверыш, тады і дзеці ў мяне ўміралі, мусіць, з таго, што жонка мая здаўных <сухоты> у сабе мела, няшчасная мая небарака. Тады яшчэ, калі ты ставіў мне гэтую хату, яна нічога, у добрай сіле была. А праз год які апанавала бяда. Я туды, я і сюды. Паверыш, усё, што меў, пагнаў на дактары. Збіўся з каня і каровы. Год за годам, а яна ўсё горшала і летась богу душу аддала. Я згалеў дазвання... Алімпа, падсоўвай там у самы агонь, каб хутчэй кіпела... На табе, пане-браце, паверху світку, угравайся, ляжы і не варушыся.

— Бо гэта, бачыш, у гэтую дарогу мяне бяда выгнала...

— Паспееш яшчэ расказаць, а цяпер памаўчы і выгравайся... Алімпа, ці гатова там у печы? Налівай у міску... А ты, пане-браце, трымай рукі пад світкай, не бойся цёплае парнасці!

Банадысь Варывода сядзеў на краю печы і камандаваў Алімпай, якая завіхалася пры печы, і Грынявецкім, які ўсё

выцягваў з-пад світкі рукі. Максім бачыў, што ў яго жыцці ўсё павярнулася нядобра, цяжка, прыкра. Нічога лепшага ён прыдумаць не мог, як пацешыць сябе думкай, што мінецца ж усё гэта калі-небудзь і прыйдзе тая хвіліна, калі ён раскажа пра ўсю бяду Антаніне Лукашэўскай. Яна паўставала перад ім як нейкае яго духоўнае апірышча. Калі Алімпа карміла яго бацьку гарачым, ён упершыню як мае быць яе разгледзеў. Дзіўна было, што маці яе памерла ад хваробы, якая так гняце і сушыць чалавека. І дзіўна было, што бацька ўспамінаў яе, як васьмігадовую дзяўчынку. Алімпа была рослая, мажная, і нельга было не думаць, што яна будзе зіхацець сваім здароўем і сілай усюды паміж людзей. Сярод самага вялікага натоўпу да яе ўсе будуць прыглядацца. Рух яе быў павольны, голас пявучы, косы не месціліся пад хусцінкай, яна магла быць увасабленнем фізічнага здароўя і духоўнага спакою. Калі бацька яе расказваў пра хваробу і смерць маці, выгляд яе быў такі, як бы яна хацела суцешыць усіх тым, што «на свеце ўсё такое, якое яно ёсць». Пастава яе ўвесь час была такая, як бы яна навек упэўнілася ў тым, што робіць яна толькі самае важнае, што трэба, і што варыць увечары гарачую яду хвораму падарожнаму важней на гэты момант за ўсё, што калі-небудзь датуль існавала. Якая ў яе была натура, Максім Грынявецкі не мог адразу ўгадаць. Але, у кожным разе, яна вельмі не падобна была да Антаніны Лукашэўскай. Максіму здалося, што з ёю цяжка было б разгаварыцца. Аднак жа пачаліся такія справы і так усё павярнулася, што яго думкі пра Алімпіну замкнутасць зыначыліся.

У тую ноч ён не спаў і хвіліны. Старога Грынявецкага забірала цяжкая хвароба. Хоць адзежа на ім і адразу высахла (печ была як агонь), хоць ён і гарачага напіўся, хоць і праймала яго гарачым потам, аднак жа яго пачаў душыць кашаль і пацягло на сонную слабасць. Ламала ў каленях, і апоўначы ён пачаў гаварыць з гарачкі. Твар яго стаў чырвоны, а губы высахлі і пабялелі. На раніцу ён так аслабеў, што ледзьве мог падняць галаву і адцягнуць голас. Перапалоханы Банадысь Варывода запрог каня і паехаў па фельчара. Не па доктара, а па фельчара. Ён так і сказаў, выязджаючы: «Унь дактары, каб яны спарахнелі, маю жонку лячылі. А фельчары бываюць вялікія практыкі. Да таго ж: доктар заўсёды панаваты, а фельчар просты чалавек». Варывода вярнуўся з фельчарам перад самым змярканнем. На дварэ ўзняўся вецер. Мокры снег коса

імчаўся і садзіўся ў гразь. Гэтая аслёпіца не сціхала, а пабольшвалася. Фельчар паставіў хвораму банкі і сказаў: «Запаленне лёгкіх, можа быць крупознае». Ён напісаў рацэпты і чакаў, пакуль на дварэ не аціхне. Чулася цяжкае дыханне Грынявецкага і выццё ветру з вуліцы. Фельчар разгаварыўся і сказаў, што ў той самы дзень зранку яго вазілі да хворага пад Шпаруты. А чалавек той быў хворы з таго, што яго збілі польскія жандары. «Там многіх збілі і арыштавалі. Ідзе вялікая калатня. Барцёўскі разышоўся не на жарты. Мужчыны і хлопцы пасыходзілі з хат і зніклі. Першы паказаў усім лад да гэтага нейкі ў іх Грынявецкі. Таго шукалі і не знайшлі. А тым часам шпарутаўскія хлопцы і мужчыны бачаць, што зіма на носе, а трэба ў лесе сядзець. Дык у іх і стрэльбы знайшліся. Учора яшчэ нічога не было, а сёння яны такое паляванне на Барцёўскага пачалі, што таму стала не да таго, каб чакаць купца на лес і маёнтак. Барцёўскі знік некуды. Усе кажуць, што туды явіцца польскае войска, каб уціхамірыць людзей. Там усё як у гаршку кіпіць». Пасля гэтага апавядання фельчар яшчэ раз абгледзеў хворага. На дварэ сціпэла, і Варывода павёз фельчара назад. Пачалася неспакойная ноч. Грынявецкі кідаўся, кашляў, і здавалася, што ён задыхаецца. Максім цалюткую ноч праседзеў пры бацьку, збянтэжаны, сам не свой, выбіты з духоўнай раўнавагі, і позна ўночы заўважыў, што Алімпа не спіць, а дрэмле, седзячы. Яна сказала: «А калі што трэба будзе? Хворы чалавек у хаце». Пад раніцу Грынявецкаму стала яшчэ горш. Хрыпаты свіст ішоў з яго грудзей. Змучаны Максім зусім апанурыў. Алімпа за ўсю ноч нават і не прылягла. Банадысь Варывода вярнуўся ў познюю раніцу. Конь яго ледзь прыцягнуўся. Вецер аціх, але мокрага снегу было вышэй колаў. Банадысь прывёз лекаў на ўсе тыя рацэпты і навіну, што ў Шпарутах адбыліся вельмі важныя справы. Банадысь, расказваючы тое, што ён пачуў ад людзей, аж пасміхваўся ад шчаслівага задавальнення. Пагаласка ішла вельмі далёка. Шпарутаўцы мелі сутычку з атрадам жандараў. Шпарутаўцы збіраюць у лесе вялікую сілу. Барцёўскага няма і следу.

Усё пайшло як бурны сон. Максім не мог апамятацца ад нечаканых падзей, што так шпарка зменьвалі адна адну. Ён так быў стомлен ад бессані ўночы і ад уражанасці сваёй душы, што Алімпа села на месца яго пры хворым. Яшчэ толькі што сцямнела, як Грынявецкі ўпаў у поўнае

забыццё. Але часамі ён пачынаў штосьці шаптаць і вельмі слабеў. Банадысь Варывода, белы як палатно, прыслухоўваўся да шэпту Грынявецкага і ўгадаў, што таго непакояць нейкія вобразы мінулага: і Шпаруты, і смерць жонкі, і няскончаны дом, і Максім... Зранку Банадысь зноў памчаўся па фельчара. Той прыехаў перад вечарам і начаваў тут. Ён даваў новае лякарства і зрабіў укол камфары. Ён заўважыў у хворага вялікую слабасць сэрца. Грынявецкі гарэў тварам і не расплюшчыў вачэй. Зноў настала ноч. Ужо спявалі трэція пеўні, як Максім, Алімпа і Банадысь заўважылі штосьці нядобрае ў хворага і схіліліся над ім. Здавалася, што Грынявецкі выходзіць з забыцця. Разабралі, што ён прашаптаў хвальбу «залатому чалавеку» Антаніне Лукашэўскай і пажадаў ёй шчасця. Максім, Банадысь і Алімпа да самага ранку ад яго не адышлі і на пачатку дня зноў схіліліся над ім. Ён сканаў, не выйшаўшы з забыцця.

4

Банадысь Варывода аддаў як мае быць апошнюю пашаноўлю нябожчыку Грынявецкаму. Ён сам хаваў яго і выбраў месца на Падлескіх могілках у тым кутку, дзе былі пахаваны яго дзеці і жонка. Гэты апошні факт як бы ўсё адразу да канца дагаварыў і як мае быць зблізіў Максіма Грынявецкага з Банадысём і яго Алімпаю. Раптам выявілася, што Алімпа вельмі гаваркая. Максім прагаварыў з ёю бадай-што цэлы дзень, і яму пачало здавацца, што яна мае нязломную натуру і здольнасць прайсці праз бяду і не пахіснуцца. На цэлыя гады яго ўражанне ад яе і асталося такое. Яна не закідала думкамі далёка наперад, а жыла дзень за днём, як бы памятаючы тое, што не можа быць, каб кожны новы дзень не прынёс чалавеку свайго новага клопату. Гэтая простая душа сваёю развагаю і шчыраю непасрэднасцю магла здзівіць кожнага. Разам з тым, гэта была асоба «тутэйшая», «падлеская». Здавалася, апроч свайго Падлесся, яна мала дзе была і не вельмі куды імкнулася. Ёй было тут добра, дарогі і лясы былі вядомыя, людзі прыемныя і памяркоўныя, бацька чалавек добры і любіў яе вельмі, а з вокан хаты відна была вялікая прастора, і вельмі многа тут было зямлі, вады, неба і дрэў. Пах хваёвага лесу прасочваўся ў хату нават і ў гэты час позняй восені.

Праз вострую сваю здагадлівасць Алімпа ўбачыла выразна, што затоеная прага гняце мала вядомага ёй яе выпадковага гасця. Тонам чалавека, які гаворыць з малым дзіцем, яна заўважыла яму:

— Не трэба забіваць галаву цяжкаю думкаю. Нашто самахоць мучыцца? І ў мяне матка памерла, і я асталася толькі з бацькам. Дык чым жа я сабе памагла б, каб пачала галавою аб сцяну біцца?

Гэта ўжо была сталасць натуры, усталяванай як мае быць. Магло быць ясна: яна такая ўжо будзе назаўсёды. Але было і дзіўна: яна была яшчэ вельмі маладая. У тую восень ёй было ўсяго семнаццаць поўных год. Яна ўгадала, што Максім мучыцца смуткам аб бацьку. Але яна аніяк не магла ўгадаць і зразумець другога: у яго галаве нараджаліся і жылі, неакрэсленыя яшчэ і не да канца ясныя, думкі. Яны самі яшчэ толькі што фармаваліся і пакуль што не зліліся яшчэ ў адну ідэю, якой суджана было пасля да канца заўладаць гэтым чалавекам. Але яны ўжо былі папярэдніцамі яе.

На другі дзень пасля пахавання бацькі і на пяты пасля свайго прыходу ў Падлессе Максім адчуў сябе тут так, як бы вечна быў блізак з гэтымі людзьмі, хоць яшчэ за колькі дзён да гэтага не ведаў, што яны ёсць на свеце.

Банадысь Варывода зразумеў бяду Грынявецкіх, калі ім трэба было ісці ў свет, ратуючыся ад помстлівага Барцёўскага, але ён не мог уцяміць таго і дзівіўся, як жа гэта магло так быць, што Грынявецкія нават і не прыпаручылі нікому наглядаць за замком на хаце. Ён проста-такі дапытваўся ў Максіма:

— Ну, кацяняці ў вас не было, раз вы рамеснікі. Але ж карова е? Няма? А свінчо е? Ну то мо хоць куры е? Ну дык бацькава начынне е. Дык як жа яно там? Я ведаю. Рамеснік жыве так, што зарабіў, тое і сцерабіў. Але ж мець і шанаваць што-небудзь пры сваёй душы трэба?

Вельмі магло быць, што з усяго гэтага ён не мог бы знайсці сталасці ў Максімавым абліччы. Хоць яму было і не да гэтага. Ён цягавіта сабе абтыкаў у тыя дні на зіму вокны ў хаце, абгортаў саломаю створле ў маладых яблынях, малаціў цэпам жыта, прыслухоўваўся да надвор'я, ці не ўзнімаецца роўны вецер, каб везці малоць, і некалькі разоў ад свае ўласнай цікавасці хадзіў глядзець у зубы толькі што купленаму суседам каню. Здавалася, што пры

гэтым чалавеку можна было зжыць з душы ўсё яе цяжкае ўтрапенне. Вельмі можа быць, што абстаноўка Варыводаўскага жыцця ў тыя дні зрабіла добры ўплыў на Максімаву прыўзнятую душу. У кожным разе, успамінаючы пасля гэтыя дні, ён заўсёды з удзячнасцю думаў пра Банадыся Варыводу.

Пра той момант у маладосці Максіма Грынявецкага шпарутаўцы ўспамінаюць даволі-такі дакладна. Першымі днямі снежня месяца яго бачылі ў Шпарутах. Перш за ўсё ён явіўся, увечары, да адзінокай жанчыны ў Барцёўскага маёнтку. Гэта была ўдава тутэйшага садаўнічага, яна стаяла ўжо на парозе свае старасці, была хрышчоная маці Антаніны Лукашэўскай і вялікі друг усёй сям'і Лукашэўскіх. Жыла яна адна і здзівіла Максіма тым, што проста-такі ўзрадавалася яго прыходу. На Шпарутаўшчыне было вельмі ціха. Вечар быў ужо даволі позні. Блізілася поўнач. Жанчына не запальвала агню і многа разоў засаб загадала Максіму, якога яна не вельмі добра і ведала, каб ён быў вельмі асцярожны. Каб нічым ніколі нікому не хваліўся, каб нічым нікому не пагражаў і каб стараўся не мільгацець «перад вачыма таго, хто не жадае яму дабра». Пасля гэтага яна пачала гаварыць:

— Гэта сам бог прынёс вас сюды. Бо я мусіла знайсці вас хоць пад зямлёю. А як жа я магла з маім здароўем і гадамі шукаць вас? Антаніна, калі выязджала адсюль назусім, дык яшчэ забегла, небарака, развітацца са мною. Яна так шчыра і многа цалавала мяне, што я пачала плакаць. Душа мая рвалася. А яна раз-поразу ўсё гаварыла мне: «Цёця Анэта, цёця Анэта! Мусіць, доўга мы не ўбачымся». Яна пакінула ў мяне ключ ад вашай хаты і наказала правяраць, ці замок на месцы. Але няма ўжо чаго там наглядаць. Жандармерыя павырывала з дзвярэй прабоі і ўсё ў хаце перавярнула. Я сама бачыла, як суседзі паразбіралі ўсё з хаты сабе ў схованы. Людзі справядлівыя, усё захаваюць як мае быць, і я ведаю, што ў каго. А як жа гэта, што вы да мяне зайшлі? Як бы і ведалі, што я павінна вас шукаць?

— Бо ні разу яшчэ не быў у доме Лукашэўскіх, але ведаю, што Антаніна вам як дачка родная,— шчыра адказаў Максім, адчуваючы, што тут нешта здарылася.

— Антаніна сказала мне, што будзе пісаць вам, і не адзін раз, пакуль не ўбачыцца зноў з вамі. Але ж невядома, колькі часу вы не будзеце мець свайго адрасу, дык ве-

дайце, што яна пісьмы вам будзе прысылаць па мой адрас. Я ўжо чакаю першага пісьма.

— Дзе ж ваш бацька, і як ён там недзе маецца?

— Мой бацька памёр у Падлессі.

Максім чуў, як Анэта раптам устала з свайго месца і пачала шаптаць па нябожчыку малітвы, праваслаўныя і каталіцкія. Ён ледзьве вытрымаў чакаць, пакуль яна скончыць «со духі праведных» і «анёл панскі».

— Але чаму вы не гаворыце мне, што сталася і куды выехала Антаніна?

— За тое, што яна сказала вам, каб вы сыходзілі з дому, Барцёўскі выгнаў іх усіх з кватэры і самога Лукашэўскага са службы і захацеў яшчэ ўзвесці на яго нейкае абвінавачванне, якое б да рэшты згубіла б яго. Лукашэўскаму прыйшлося кінуцца ў свет ратавацца і шукаць сабе спосабу з хворай жонкай і Антанінай.

— А куды яны выехалі?

— Я толькі і ведаю, што ў той бок пад Баранавічы, за Сіняўку. А дзе там — можа, будзе ў пісьме. Я і сама прагну душой хутчэй дазнацца... А божа мой, божа, мне страшна падумаць, што там можа быць з імі, на новым неабжытым месцы. Гэта не жарты, тут ён на адным месцы ад самай маладосці і аж дагэтуль пражыў. А Антаніна тут жа радзілася і вырасла. А ён мае яшчэ натуру такую, што калі возьме што сабе ў галаву, калі апануе яго якая думка, дык яна не выходзіць з яго галавы, точыць яго і з'есці яго можа. Ад свае натуры ён ные і сохне. А хворая жонка яму не паможа. Баюся я, што ўсё ляжа на Антаніну галаву. А яна яшчэ неспрактыкаваная ў жыцці і занадта маладая. Ёй яшчэ жыць пры бацьку трэба, а не трымаць яго на сваім клопаце. Маладосць у чалавека павінна быць вясёлая, а тут можа быць весялосці мала. Я пагляджу на далейшае, як усё пойдзе. Я сама паспрабую пасля перабрацца да іх, каб хоць крыху клопату зняць з Антаніны. Бо я чую душой, што клопат яе чакае вялікі і цяжкі... Але тут і яшчэ ёсць вам адна справа. Праз усе гэтыя дні да мяне сягдытагды заходзілі то той, то гэты шпарутаўскія хлопцы. Яны стараюцца дазнацца, дзе вы падзеліся і што з вамі. А яны так і спадзяваліся, што вы не забудзеце Антаніну і зойдзеце да мяне, хоць распытацца, дзе яна падзелася. Яны наказвалі, што калі вы хочаце, то можаце знайсці іх у чацвер зранку нацямочку, калі будзеце тады ў Барцёўскім лесе на вялікай дарозе. Як вы там сабе хочаце, але вы павінны

пільнавацца таго, каб Антаніна пісьмо, якое хутка можа быць у мяне, трапіла да вас. Каб вы толькі ведалі, як небарака Антаніна дамагалася гэтага ад мяне. За той дзень вы ёй сталі нейкім апірышчам, ад якога ёй страшна было адарвацца. Яна паехала з думкамі, што не можа так быць, каб вы не ведалі, як ёй там паводзіцца.

Гэта была ноч з панядзелка на аўторак. Нікуды не выходзячы, Максім прычакаў у Анэты чацвярга і ў той дзень знайшоў у Барцёўскім лесе шпарутаўцаў. Да Анэты ён даведваўся вельмі часта, а пасля пачаў бываць у яе бадай-што праз дзень. Аднак жа пісем ад Антаніны ўсё не было. На пачатку лютага месяца ўвайшла нарэшце ў Шпаруты польская вайсковая часць, а праз дзень явіўся і сам Барцёўскі. Гэтым разам ён ужо не меў такога, як раней, незалежнага і гаспадарскага выгляду. З тых жа дзён у шмат якіх газетах штодзень друкавалася яго публікацыя аб тым, што маёнтак Шпаруты і лес прадаецца за сходную цану і што сам гаспадар у кожны дзень і час можа прыняць ахвотніка да куплі ў сваім шпарутоўскім доме. Вайсковая ж часць, тым часам, пачала ачышчаць мясцовасць ад узбунтованых шпарутаўцаў. Тут выявілася тое, чаго камандзір часці не разгадаў раней і што ўвагнала Барцёўскага ў смутак і трывогу. Першыя разведчыкі, увайшоўшы ў Барцёўскі лес, нічога там падазронага не заўважылі, і ўся часць рушыла праз лес, каб «прачасаць яго» і пасля разаслаць самую шырокую разведку. Салдаты ўжо выходзілі на ўзлессе, як раптам іх пачала абкружваць вялікая сіла людзей. Справа была не толькі ў адных шпарутаўцах. Тут былі людзі з самай шырокай акругі. Камандзір часці вымушан быў пачаць бой і да змяркання палажыў тры чвэрткі сваіх салдат, а сам дапаў пешкам да павятовага горада, дзе след яго і згубіўся. Шпарутаўцы ўвайшлі ў Шпаруты і абкружылі маёнтак. Яны гарэлі прагай злавіць самога Барцёўскага, якому ўдалося, аднак жа, недзе перахавацца да вечара. Уночы ён абуўся ў простыя боты, апрануўся ў сялянскі кажух і, сагнуўшыся, выбраўся за сад, дзе перапоўз упоперак дарогі і цянькамі выбраўся да лесу, а там выбіўся на палявую дарогу. Ён знік, і праз многа год у Шпарутах ніякага слыху пра яго не было. Яго пакаёвы службовец, які з ім не пайшоў, а астаўся тут, расказваў пасля, што Барцёўскі быў такі напалоханы і так баяўся, так калаціўся, што пачаў маліцца і ледзьве выгаворваў словы, і так было, аж пакуль ён не знік. Які ж ён

быў пасля, гэта невядома. Выйшла так, што прадаць маёнтак і лес яму так і не ўдалося. Так што ён пабраўся пачынаць недзе сваё новае жыццё без вялікіх капіталаў у кішэні і не давёўшы тут да канца, так як хацеў, сваіх справаў.

Што ж да Максіма Грынявецкага, то ён у той бурны дзень забягаў да Анэты. Анэта расказвала пасля, што ён быў у кароткім кажушку і з стрэльбай на плячы. Пісьма ад Антаніны не было.

Анэта была чалавек адзінокі, блізкая ёй Антаніна нават і пісьмаў не слала, і яна была рада, што каля яе з'явіўся Максім Грынявецкі. Яна перажыла сумную прыкрасць, у той дзень дазнаўшыся ад яго, што разам з усімі ён адразу павінен выйсці ў нейкае далёкае вандраванне. Яна надавала яму сотню парадаў і дакляравала хаваць для яго ўсе Антаніціны пісьмы. Максім пацалаваў яе, як родную, і доўгі час яна ўжо яго больш не бачыла.

Дайшла была чутка, што шпарутаўцы, пакінуўшы пасля ўсіх тых падзей свае Шпаруты, злучыліся недзе з вялікімі партызанскімі сіламі і недзе пад той бок, дзе стаяў фронт, разбілі вялікае злучэнне польскага войска. Гэта было ўжо добраю вясною. А ўлетку пачалося адступленне польскай арміі, і некалькі старэйшых шпарутаўцаў вярнулася дадому. Яны расказалі, што партызанскія атрады злучыліся з Чырвонай Арміяй і разам з ёю накіраваліся на захад. Дзесьці там астаўся і Максім Грынявецкі. Ад таго часу, сярэдзіны лета дзевяцьсот дваццатага года і да пачатку зімы таго ж года, Анэта мела ад яго некалькі кароткіх пісьмаў. У кожным з іх было толькі па адной ці па дзве фразы. Вось які сэнс быў таго, што пісалася ў гэтых пісьмах: «захоўвайце для мяне Антаніціны пісьмы, калі яны прыходзяць. А калі пісьмаў няма, то ці не можаце як-небудзь дазнацца, дзе яна і што з ёю». Але і без гэтага напамінку яна трымалася свайго абяцання перад Максімам і свайго абавязку перад Антанінай.

Гэтая Анэта была яшчэ не ў старасці. Самае большае — ёй магло быць тады пяцьдзесят год, хоць, напэўна, і гэтулькі не было. Але адзінокія жанчыны, пры тым жа чулыя натурай, часта выглядаюць старэйшымі за свае гады. Анэта была хударлявая і рухавая і, слухаючы яе, можна было б падумаць, што душа яе баліць аб усім, што толькі дзе дрэннае робіцца на свеце. Яна дачакалася Максіма Грынявецкага толькі ў снежні месяцы, на парозе но-

вага, дзевяцьсот дваццаць першага года, праз год пасля таго, калі ён быў у яе і дазнаўся аб нечаканым Антанінiным выездзе. Цяпер ён быў вельмі нецярплівы, каб хутчэй дазнацца, ці ёсць пісьмы. Анэта была рада яму, як роднаму. Ён нечакана ўвайшоў да яе ў чырвонаармейскім адзенні. На ім былі салдацкія чаравікі з абмоткамі і выцерты шынель, які бываў многа разоў пад дажджамі і пад пылам. Яго пасцілалі на гразь, у ім ляжалі на снезе і сядзелі ў гарматным дыме. Ён ірваўся аб кусты і тыднямі не прасыхаў ад вады.

— Ёсць тры пісьмы,— урачыста сказала Анэта.

— А так якія навіны?

— Ну якія ж навіны? Вашых жа пісьмаў я не чытала, толькі свае. Кожны раз прыходзіла два пісьмы адразу, вам і мне. З пісьмаў да мяне я ведаю, што ўсё там, дзякуй богу, добра. Лукашэўскі служыць, Антаніна жыве сабе, а маці трымаецца здароўем. Я чакала горшага. Аж нічога. Усё абжывецца, асталюецца, век чалавечы доўгі, і дабрыня знойдзецца. А вы ж як гэта, надоўга ці, можа, назусім?

— Не толькі не назусім, а нават і не на дзень, а толькі на гадзіну. Як толькі скончылася вайна, нашу часць адразу з фронту адправілі ў горад Ельню, што на Смаленшчыне. А цяпер нас пераводзяць недзе пад Мінск. Пакуль мы жывём і чакаем, як далей усё пакіруецца, я адпрасіўся на двое сутак са станцыі Смалявічы пад Мінскам. Цераз Мінск і Асіповічы я прыехаў у Слуцак, а з Слуцка сюды натрапілася мне фурманка. Гэтая фурманка паедзе неўзабаве назад у Слуцак. Калі я не прапушчу яе, то паспею ў Слуцку на першы цягнік і якраз у час буду ў сваёй часці. Я так ірваўся сюды, так спяшаўся! Я так чакаў гэтых пісьмаў! За цэлы год я не мог і на дзень адарвацца дзеля іх ад сваёй часці.

Анэта дастала з шуфляды тры пісьмы і па адным перадала іх у Максімавы рукі.

— Вось гэтае,— казала яна,— прыйшло першае, якраз назаўтра пасля таго, калі вы, год таму, назусім выйшлі з мае хаты. А гэтае — другое. Яно прыйшло праз два з паловаю месяцы пасля першага. А вось трэцяе. Гэтае прыйшло ў канцы верасня гэтага года. Першыя два прыйшлі праз пошту, а гэтае нейкі чалавек прывёз у сяло Макраны, адкуль яно трапіла ў Семежава, а пасля дайшло да мяне. Што ж, з таго боку пошта ўжо даўно не ходзіць. Чытайце

хутчэй, я хоць ведаю, што ўсё там у іх, дзякуй богу, добра, але лішняе Антанініна слова мне радасць.

І Анэта нарыхтавалася слухаць. Максім пачаў чытаць, не могучы сцішыць сваё сэрца. Вось што пісалася ў першым пісьме.

«Любы мой Максім! Ніколі я не думала, што мне так будзе цяжка на душы далёка ад цябе. Я сама не свая. Хаджу як прыглушаная. Але мяне ратуе клопат. Мы астанаўляемся і ўладжваемся на новым месцы. Бацька пачаў ужо сваю новую службу. А маці — вядома, здароўе ў яе несамавітае, а дарога змучыла яе, дык я цяпер ад яе не адыходжу. Яна ляжыць. Але гэта мне не ў навіну. Спадзяюся на самае лепшае. Чакаю нашай сустрэчы. І хоць мы з табой ніколі пра гэта не гаварылі і не сказалі аб гэтым і слова, дык я першая гавару гэта: чакаю нашай сустрэчы назаўсёды. Твая Антаніна».

Анэта падняла твар угару і сказала:

— А вось мне ж яна і не пісала, што маці была горш прыхварэла. Ну але нічога, гэта адразу пасля дарогі. Патом жа, як відаць, усё пасля на добры лад пайшло як мае быць. Дык чытайце хутчэй другое пісьмо.

«Любы мой Максім! Адбылося тое, што заўсёды прадчуваў мой бацька і чаго я больш за ўсё баялася. Маці мая з кожным новым днём упадала ўсё ў большую хваробу і пазаўчора памерла, а ўчора мы яе пахавалі. Цяпер мой абавязак шанаваць здароўе майго бацькі, аб сабе мне ўжо і не хочацца думаць. Спадзяюся, што добры доктар — час загоіць раны мае душы. З вялікай сілай мяне цягне ў Шпаруты, дзе я радзілася, вырасла і жыла да сваіх дзевятнаццаці год. Бацька мой ужо як мае быць увайшоў у новую службу. Яго друг, што выклікаў яго сюды і даў яму тут месца, вельмі добры чалавек. Гэта сапраўдны друг. Сяброўства паміж ім і маім бацькам шчырае і сапраўднае і, здаецца мне, узмацняецца. За адзін кіламетр ад нас мястэчка Сталавічы, што на дарозе паміж Баранавічамі і Навагрудкам... Твая Антаніна».

Анэта стаяла белая як палатно. Максімавы вочы сталі быстрыя, і ад узбуджэння ён пачаў заікацца, чытаючы трэцяе пісьмо.

«Тут з'явіўся Барцёўскі. Ён відзён быў некалькі дзён усюды, і мой бацька дазнаўся, што ён стаў у тутэйшым павеце нейкім начальнікам. Праязджаючы праз Сталавічы, ён убачыў на мосце каля вадзяного млына ў мястэчку

бацьку, адразу пазнаў яго і крыкнуў: «Ты тут?!» Гэта так уразіла майго беднага бацьку, што ён стаў сумны і без'языкі. Пасля смерці мамы ён угнуў галаву і вось праз колькі ўжо месяцаў не глядзіць нікуды больш, як толькі ў зямлю. Ён нудзіць і марнее. На колькі дзён ён быў павесялеў, калі нейк дазнаўся, што Барцёўскі не думае тут назаўсёдыаставацца, а дамагаецца службы ў Варшаве. А пасля зноў апанурыў, яшчэ больш учарнеў, я ўбачыла, як ён зранку маліўся, стоячы на каленях. У той жа дзень вечарам ён плакаў і называў нябожчыцу маму чыстаю душою, а пасля сказаў мне, што самая вялікая яго пакута — гэта думкі аб тым, што мне прыйдзецца ў жыцці і які лёс чакае мяне. Назаўтра ён не ўстаў з пасцелі. Ён ляжыць хворы на нейкую цяжкую хваробу. Я ад яго не адыду і ахвяроўваю яму ўсё маё жыццё. Я трымаю высока галаву і ўсё вазьму на свае плечы. Я ведаю, што найвышэйшая справядлівасць на свеце — гэта дбаць аб шчасці ўсіх, тады і табе самому ў гэтым вялікім шчасці будзе месца. Я ненавіджу таго чалавека, які чалавеку звер і які сее сярод людзей няшчасце тады, калі чалавечае жыццё так лёгка зрабіць шчаслівым. Я яшчэ не ведаю, які я зраблю першы крок, але праз усё сваё жыццё буду дбаць аб людскім шчасці».

Можна напэўна сказаць, што гэтае пісьмо пісалася ад нейкага незвычайнага ўздыму душы. Была тут адна акалічнасць. У пісьме не было пачатку «любы мой Максім», і было падпісана пісьмо не так, як ранейшыя «твая Антаніна», а проста толькі «Антаніна».

Максімава ўзбуджэнне як бы апала, але ўвесь ён як бы змарнеў адразу. Анэта раптам выпрасталася ўсёй сваёй постаццю і заявіла:

— Значыцца, гэтая святая душа, каб не трывожыць мяне, нічога мне гэтага не пісала. Я зараз жа сама іду туды. Буду ісці пешкам, хоць за месяц, але зайду.

— Куды! — устрапянуўся Максім Грынявецкі.— А граніца? Ужо ж польская граніца ўстаноўлена як мае быць!

— Правальвацца буду па пояс у снег, буду брацца чыстым полем, але пайду.

— А што ж мне рабіць?

— А што ты можаш зрабіць? Яна магла б сюды вярнуцца, але ж сам Лукашэўскі прыкован да пасцелі. А ты чалавек малады, ты салдат, цябе чакае твая часць. А тут

не мяжа паміж двума палеткамі, а граніца паміж дзвюма дзяржавамі.

— Калі вам удасца дайсці туды, дык угаварыце яе, каб яна пакінула бацьку на вашы рукі, а каб сама сюды прыйшла... Што я гавару, як утрапёны.

— Глядзі, галубок, сваіх абавязкаў, бо гэта ўсё адна гаворка, я ведаю душу Антаніны. Яна ад бацькі не адыдзе, хоць бы каб яму суджана было і дваццаць год ляжаць.

Максім шпаркім рухам абхапіў Анэту рукамі за шыю і пацалаваў яе ў галаву. Быццам адрываючыся ад таго, да чаго ён быў прыкаваны, ён шпарка выйшаў з Анэцінай хаты. Адразу ж ён выехаў, каб заспець яшчэ цягнік. Анэта паспела яшчэ да вечара прыпаручыць сваю хату з зялёным куфрам і дзвюма падушкамі адной сваёй маўклівай суседцы, а як толькі пацямнела неба на вечар, яна пусцілася ў сваю вялікую дарогу. Трэба было бачыць, як яна з торбачкаю пад пахаю ішла паўз лес напроці ночы.

5

Ад таго часу Максім Грынявецкі вельмі доўга не з'яўляўся ў Шпарутах, і тут пра яго бадай-што нічога не ведалі. Адзін малады шпарутавец, яго равеснік, нейкі Марцін Цераховіч за ўвесь доўгі час меў ад яго два ці тры кароткія пісьмы. У гэтых пісьмах было адно і тое ж: вельмі коратка, і не проста адразу, а намёкамі, Максім Грынявецкі пытаўся, ці не можа ён дазнацца, чаму яго далёкая сваячка Анэта (пра гэтае «сваяўства» ён выдумаў) нічога яму ні разу не напісала? Марцін Цераховіч, найбольш блізкі да Максіма з тых маладых шпарутаўцаў, з якімі ён некалі падпільноўваў у лесе Барцёўскага, адказаў яму даволі-такі доўгім пісьмом. З гэтага пісьма Максім дазнаўся вось пра што: «...Анэта ўжо даўно недзе без следу згінула. Сваёй суседцы Марыне Крыштафуцкай яна была прыпаручыла на дзень ці на два паглядзець хату. А гэтыя «дзён два» цягнуцца ўжо больш за два гады. Крыштафуцкая жанчына з вялікім клопатам на шыі, у яе поўная хата дзяцей, і ўсё малыя, а сама яна адзінокая, бо муж яе забіты на нямецкай вайне ў дзевяцьсот шаснаццатым годзе. З самага ранку і да вечара яна не мае перадыху ад вечнага клопату з малымі дзецьмі і нейкай там гаспадаркай. Дык дзе там яшчэ ёй дбаць пра чужую хату, гаспадыня якой падзелася немаведама дзе. Крыштафуцкая расказала пра ўсё людзям.

Прыйшлі панятыя і знялі замок з хаты. Там была толькі пасцель з дзвюма падушкамі і ватоваю коўдраю і зялёны куфар. У тым жа куфры спадніцы, каптаны, блучковыя хусткі і ўсялякая іншая драбяза бабская. Панятыя забілі дзверы і вокны ў хаце дошкамі і такім парадкам знялі з Марыны Крыштафуцкай лішні клопат з галавы. Няхай сабе гадуе сваіх дзяцей».

Гэты Марцін Цераховіч быў вялікі ахвотнік да слова. Нават і ў пісьме ён даў вельмі многа слоў і пра Анэту, і пра самога сябе, і пра Шпаруты. З гэтага пісьма Максім Грынявецкі ведаў, што ў Шпарутах усё ішло сваім парадкам, так як бы Барцёўскі некалі і не прыязджаў сюды з свайго выгнання ад рэвалюцыі. Усе зноў будаваліся на тады яшчэ выразаных пляцах. Некаторыя ўжо нават закончылі будоўлю. Забудаваўся ўжо як мае быць і сам Марцін Цераховіч. Ён быў яшчэ зусім малады хлопец. У пісьме было яшчэ і пра тое, што бацька яго памёр якраз тым годам ад старасці і ён астаўся адзін з маткаю, і хоць, можа, яшчэ яму і ранавата, але ён будзе жаніцца. Трэба шанаваць матчына здароўе і зняць з яе клопат і цяжкую работу. Бо гаспадарка цяпер разрастаецца. Чатыры ж старэйшыя сястры яго ўсе даўно замужам. Марцін Цераховіч пісаў многа пра сваю гаспадарку і пра свае патаемныя думкі накопт шпарутоўскіх дзяўчат; гэта ўсё з прычыны таго, што яму прыйшла пара жаніцца. «Адна мне больш за ўсіх даспадобы, але што з паходкі не вельмі складзістая». Гэтае пісьмо ўзварушыла душу Максіма Грынявецкага. Ён з удзячнасцю думаў пра Марціна Цераховіча, які так добра нарысаваў яму поўную карціну жыцця ў родных Шпарутах. Марцін Цераховіч адразу заняў у Максімавай душы месца надоўга. Не было Антаніны, мусіць, назаўсёды сышла Анэта, бацька быў у магіле, ужо і смутак па ім тупеў і сплываў з душы: яго перамаглі маладосць і час. У Шпарутах жа быў чалавек, які выяўляўся, як блізкі сябар. У патрэбны момант ён мог стаць духоўным апірышчам. І Максім Грынявецкі напісаў Марціну Цераховічу пісьмо. Ужо не кароткае, а сапраўднае пісьмо. Марцін Цераховіч, як чалавек просты і мала дзе вельмі бывалы, быў рад гэтаму пісьму. Пісьмо было напісана аб такіх рэчах і справах, што Марцін пачаў думаць аб сваім сябру, як аб нейкім аўтарытэце. Ён многа гаварыў аб Максіме, і з яго ласкі ў Шпарутах пасвяжэлі ўспаміны аб гэтым ціхім хлопцы і яго нябожчыку бацьку. Гаварылі і аб

яго матцы і старэйшым браце. Хіба маглі што-небудзь іншае сказаць, апроч добрага? У кожным разе, так бывае заўсёды, калі пачнуць успамінаць аб людзях, якіх або ўжо няма, або жыццё якіх пайшло ў новыя формы. Праз апошняе пісьмо да Марціна ведалі і гаварылі, што колішняя Максімава думка вучыцца ўзгарэлася цяпер з новай сілай. Гаварылі, што пасля таго, калі яго год дэмабілізаваўся з арміі, ён адразу ж падаўся вучыцца на рабочы факультэт, але гэта толькі пачатак. Ён думае яшчэ доўга вучыцца і ісці ў навуцы вышэй. Марцін Цераховіч так гаварыў пра свайго сябра:

— Чаму ён не прыехаў ні разу ў Шпаруты? А што яму тут рабіць і дзе яму тут дзецца? Хто ў яго тут астаўся і што ў яго тут ёсць? Нясканчаны дом без вокан і дзвярэй? А там ён улетку можа і падзарабіць сабе што-небудзь. Ён з галавы свае жыве, а не з рук.

Так у Шпарутах склалася пэўная думка. Гаварылі, што кожнае лета Максім ездзіў у нейкія экспедыцыі, нешта пісаў і нават недзе друкаваў. Але адна думка яго апанавала вельмі моцна. Ён змалку многа наслухаўся пра чалавечыя хваробы, бачыў смерць блізкіх людзей і дайшоў да думкі, што самым высокім чалавекам можа быць той, хто ўсё сваё жыццё ахвяруе на клопат аб здароўі людзей, на поўнае знішчэнне чалавечых хваробаў. Медыцына — самая высокая навука на свеце. Доктар, які знойдзе хоць адзін новы і дасканалы спосаб вылечваць чалавека ад якой там хваробы, ужо ёсць чалавек вялікі дзеля ўсіх. Максім Грынявецкі мала аб сабе думае. Ён хоча самога сябе аддаць вялікай справе медыцыны. Ён ужо цяпер пачаў думаць, што чалавек жыве на свеце вельмі мала, чалавечае жыццё вельмі кароткае і чалавек не паспявае зрабіць тое вялікае, што мог бы зрабіць.

# УРЫВАК З РАМАНА «ЗАХАР ПАГУДА»

## I

Немцы падпалілі Мінск дваццаць чацвёртага чэрвеня сорак першага года, калі дзень схіліўся да захаду сонца. Хто ў той дзень выйшаў з Мінска ў вялікую дарогу на выгнанне, то яшчэ і дваццаць шостага на дваццаць сёмае чэрвеня ўночы бачыў, як палымнела неба над Мінскам. Тымі начамі тысячы людзей, кіруючыся на ўсход, вызначалі сабе дарогу так, каб ісці ў супрацьлеглы бок ад водсветаў мінскага пажару. Бамбардыровачныя налёты нямецкай авіяцыі на беларускую сталіцу пачаліся дваццаць чацвёртага чэрвеня зранку. Тады ў горадзе пачала працаваць так празваная пасля «дружына ратунку». Пад абваламі дамоў, разбураных немцамі з паветра, часам былі людзі, якія не ўсе адразу затхліся і памерлі. Дружыннікі даставалі жывых з-пад навалы патрушчанай цэглы, зваппаванага камення, бярвення і жалеза. Спачатку ў дружыне было сорак сем чалавек. На пачатку дванаццатай гадзіны на Свярдлоўскай вуліцы ратавалі заваленую абломкамі дома № 73 сям'ю. Гэта быў доўгі дом на чатыры паверхі. Спачатку ўпала толькі частка яго. Над руінамі стаяла яшчэ сцяна вышынёй паверхаў на тры. Ужо разабралі многа цэглы і бярвення і чулі галасы тых, хто ў каменнай магіле пачаў спадзявацца на свой ратунак. Якраз тады пачаўся новы нямецкі налёт па горад. Бомба ўпала ў будынак дваццатай школы, пры самым тым доме. Сцяна, што датуль яшчэ стаяла, упала і пахавала пад сабою пяцёх дружыннікаў разам з тымі, каго яны ратавалі. Гэта быў момант, калі ў горадзе пачалі ўзнікаць дзе-нідзе пажары. Дружына падзялілася на дзве часткі. Адна частка пайшла памагаць тушыць пажары, другая асталася на ранейшае справе. Само сабою выйшла, што над гэтай другой часткай начальнікам стаў Аляксандр Богуш, чалавек высокі ростам, з пасівелымі над вушыма валасамі і з павольным

тэмпам гаворкі. Аляксандрам Богушам ён назваўся адной жанчыне, якую дастаў з-пад жалезных паваленых дзвярэй і якая вельмі хацела дазнацца, каму ёй дзякаваць за свой ратунак. У рашучую і нераломную хвіліну заўсёды натуральным парадкам з'яўляецца той, хто вядзе за сабою астатніх. Аляксандр Богуш утрымаў каля сябе людзей бадай-што да самага вечара. На захадзе сонца, калі Мінск ужо гарэў, Богушава дружына канчала сваю работу. Людзі пайшлі шукаць сваіх блізкіх і родных. Калі яны яшчэ асталіся жывыя, іх трэба было знайсці і думаць, што і як далей рабіць. Крыху пазней у дружыне асталося толькі двое. Сам Богуш і другі з іх. Перад Богушам ён назваў сябе Захар Пагуда. Гэта быў чалавек сярэдняга росту. І льга было адразу заўважыць, што не толькі ў гэты ўтрапёны дзень, але і заўсёды, ён рухавы і трапяткі. Ён здаваўся дробны з твару і постаці. Калі неба на захадзе пачало ўжо зусім пагасаць, Пагуда сказаў да Богуша:

— Нам трэба ўжо ўсё кінуць і выбраць кожны сабе сваю дарогу. Час настаў. Горад пусцее і гарыць. Кажуць, што недзе паблізу сеў нямецкі дэсант. За дзень мы выратавалі не мала людзей. Ніхто ж у нас над каркам не стаяў. Мы і так можам лічыцца тымі праведнікамі, на якіх трымаецца свет.

— Якімі праведнікамі? — як з бяздоннай пустэчы абазваўся Аляксандр Богуш.

— А што ж! У старых кнігах, даўнасць якіх мераецца на тысячы год, пішацца, што свет трымаецца на праведніках. Калі ж праведнікаў на свеце няма, а ёсць толькі адзін, то і гэтага даволі, каб дзеля яго свет белы жыў. Вось як некалі цанілі добрыя ўчынкі, калі так пра іх у кнігі запісвалі. А ў нас дык хто паверыць, што я тут праз сваё сумленне цалюткі дзень людзей ратаваў? У гэтым жа агні не знойдзеш тае канцылярыі, якая б выдала табе пасведчанне аб гэтым. Нам трэба будзе як-небудзь пастарацца, каб пасля знайсці адзін аднаго. Як нашы вернуцца, то адзін за другога пасведчыць, што мы да канца выстаялі там, куды нас паставілі. Калі што якое, дык на Уздзеншчыне будзеш пытаць Пераброддзе, а ў тым Пераброддзі лесніка Захара Пагуду. А то, ліха іх ведае, возьмуць ды прычэпяцца: а дзе быў, а што рабіў у той мінскі дзень. Ну, а ты хто, дзе цябе будзе шукаць?

Аляксандр Богуш маўчаў, ён як бы нічога не слухаў і нічога не чуў. Ён мучыўся ад вялікай трывогі і смутку.

Гэта відно было з яго панылага твару. Удзень ён яшчэ трымаўся вальней, а гэта зусім апанурыў. Захар Пагуда з нецярплівым чаканнем глядзеў на яго. Відно было: страшная паняверка точыць душу гэтага чалавека, і ён прагна шукае і чакае, хто цвёрда скажа яму, што трэба рабіць так, а не гэтак. І гэта была яго пакута ў гэтыя хвіліны. То ён дбаў аб нейкай адказнасці на далейшае, то гатоў быў зусім змяць сваю ўтрапёную душу і прасіць у Богуша напраміны бог пакамандаваць ім і даць параду. Так ён глядзеў у Богушавы вочы. Узбуджэнне яго нерваў ірвалася ў слова:

— Я ж бачу. Тут людзі ратавалі іншых, а самі тужылі, што без іх там можа дзеці гінуць.

— Мае дзеці і жонка выйшлі з горада,— сказаў Богуш такім тонам, што як бы сам сябе цешыў.— Якраз я спакоен быў.

— Я не пра нас кажу і не пра сябе. Я зусім адзінокі.

— А дзе ж твая сям'я? Дзеці, ці хто ў цябе ёсць з блізкіх і родных?

— Я экспедытар на пошце.

— Які экспедытар? На якой пошце?

— Дзвесце тысяч газецін праз мае рукі штодзень праходзіла падпісчыкам.

— То ты ляснік, то ты экспедытар?

— Гэта вялікая песня. Доўга яе спяваць трэба... А ты чаму ўдзень быў спакайнейшы, а цяпер заныў?

— Мая жонка разумная і здаровая жанчына. Дзяцей у мяне трое. Мы з жонкай яшчэ зранку згаварыліся, што як толькі настане момант, яна забірае дзяцей і выходзіць з імі на Лагойскі шлях і выкіроўваецца за Барысаў. Я родам з таго боку, дзе Талачын. Там жыве мая родная сястра. Мая жонка не раз у яе была. Гэта па той бок Бярозы. Немец туды не дойдзе. А я ўжо адзін туды рушу. Там сыдземся і можа ў сястры астанёмся разам, або як там будзе. Увесь дзень я быў спакойны. Я верыў у сілы і розум свае жонкі. А цяпер усялякія думкі мяне агортваюць. Ніхто не спадзяваўся, што будзе такое пекла. Каб не стаць мне злачынцам перад імі. Калі бяда якая здарыцца, дык век спакою мець не буду. Ці здолею я тады перавысіць свой смутак уцехаю з таго, што ратаваў людзей з магілы?

— Але мы выстаялі да канца,— зачапіўся Пагуда за нейкую новую думку.— Раз нам далі такое заданне, дык мы, як тыя праведнікі...

Адбылося доўгае маўчанне. Чуўся гул і трэск пажару. Пажар ішоў сюды. Водсветы яго дрыжэлі на вышыні белай сцяны. Сонца ўжо і апошнімі сваімі водсветамі сплыло з неба на захадзе. Двое людзей, якія, можна сказаць, не ведалі адзін аднаго, стаялі як бы ў вялікім чаканні. Адбыўся страшны пералом у іх жыцці. Можа ім прыйдзецца пачынаць жыць спачатку. Можа тое, што было іх душой і сэрцам, пайшло на марнасць і пагібель.

У цэнтры горада вуліцы былі ўжо абстаўлены не сценамі будынкаў, а сценамі з агню. Не выратаваныя з-пад руін раней, наўрад ці маглі яшчэ жыць. На тыя руіны некалькі разоў за дзень клаліся нямецкія бомбы. Выратаваныя або выйшлі з горада, або адлежваліся дзе і як хто мог пасля бяды. У агні гарэлі трупы парваных бомбамі людзей. Параненыя і прыбітыя, каторыя маглі яшчэ хадзіць, шукалі, як выйсці з горада. Чэрвенскі і Лагойскі шляхі і Магілёўская шаша напоўніліся тысячамі людзей, дарослых і дзяцей, якія пакідалі свой горад, напоўнены агнём, горамі патрушчанай цэглы, кавалкаў чалавечых целаў, крывёй і дзіцячым галашэннем. Аляксандр Богуш і Захар Пагуда паходкай людзей, у якіх баляць і ныюць плечы і ногі і душы стаяць на вялікім уздыме, сышлі з зацягненага хмарамі пылу печышча і выйшлі на сярэдзіну пустой вуліцы. Пад нагамі ў іх трашчала шкло, і да твараў ліплі дробныя кавалкі абгарэлай паперы. Ціхі голас прыдушанага чалавека чуўся поблізу, як з-пад зямлі. Напрактыкаваныя за той дзень да самага чулага руху інстынктаў, яны ўдвух шпарка і моўчкі рушылі ў праход паміж двума высокімі будынкамі. Пры высокай сцяне ляжалі руіны нейкай мураванай прыбудоўкі, і чалавечы голас ішоў адтуль. Можна сказаць, што Богуш і Пагуда працавалі ад усіх сваіх сіл. Самі ледзьве стоячы на нагах, яны ўзварушылі і прыўзнялі чатырохкантовае і поўнае цвікоў бервяно і падперлі яго нейкім стаяком. Бервяно пацягло за сабою прысаджаныя да яго на завесах дзверы. Пасыпаліся друзгі вапны і гліны, і знізу высадзілася галава: шырокі твар і шапка казыркам на самыя вочы. Пажар блізіўся да гэтай ціхай вуліцы: больш свяціўся верх высокай сцяны і водблеск ад яе добра асвятляў выратаванага чалавека. Ён вылез з ямы і перш за ўсё пастараўся адзержацца на нагах. Яго вадзіла ў бакі, і ногі ў яго падгіналіся. Бадай-што льга было ўгадаць, што яму год сорак. Хоць ён быў змучаны, знерваваны, абсыпаны пяском і

вапнаю і без сапраўднага свайго выгляду, аднак жа відно было, што маладжавасць заўсёды была ўласцівасцю рыс яго твару. Астаяўшыся на нагах, ён паглядзеў на Богуша і сказаў да Пагуды:

— Браткі мае. Я тут доўга ляжаў.

Ён перасмыкнуў вельмі выразнай рысай на твары і пачаў спавядацца:

— Такім страшным часам, калі давядзецца шукаць дзе ратунку ці прыстанку, дык шукайце новага мястэчка. Яно завецца Шпаруты. Я — Максім Грынявецкі. Ёсць Піліпавічы, каля якіх польская граніца перарэзвала вялікую шашу паміж Масквой і Варшавай. Дык гэта ў тым баку пытайце Шпарутаў. У Шпарутах мой дом. Не на шашы, а поблізу яе. Роўна з шашою ідзе вялікая дарога. Я вас накармлю, адзену і ўхаваю ад злога вока. Я там буду. Больш нідзе не буду, а толькі там, божа мой найвышшы.

Ён калаціўся ўвесь, і на твары яго ляжала пячаць здзіўлення. Можа і сапраўды яму трэба было дзівіцца, як гэта ён не адышоў пад звапнаванай цэглай і каменнем у небыццё, а гаворыць з людзьмі і бачыць над сабою неба, хоць і ў водсветах вялікага пажару.

— Ідзіце да мяне, як да роднага брата. Пытайце Максіма Грынявецкага ў Шпарутах. Можа Галена жывая асталася. Я скажу ёй: шануй гэтых людзей, яны дасталі мяне з магілы. А Клавы няма, беднае мае. Выгадую бараду і буду рваць яе на сабе, пакуль усю не вырву.

Раптам ён аціх, пачаў спакайнець, твар яго схмурнеў, узбуджэнне апала, голас сышоў на самыя нізкія ноты:

— Я ўвесь век буду мець прыкрасць, што мой ратунак не аддзячан вам... Ці думаў я калі, што так усё шпарка мінецца і скончыцца, год за годам, і ўсё.

Тут ён змоўк, быццам ужо выгаварыўшыся да канца ці адумаўшыся, што пара пасталець, што першы момант прайшоў і няма чаго яму, як блазну, так занадта выстаўляць перад людзьмі сваю асобу. З момант ён памаўчаў, пайшоў і знік дзесьці паміж ясных сцен. Богуш і Пагуда адно ўбачылі, як ён узняў быў рукі ўгару, і чутно было, як ён у той момант не то прастагнаў, не то праспяваў адну доўгую ноту. Раптам ён вярнуўся. Цяпер гэта быў ужо зусім іншы чалавек. Хваравітая ўзбуджанасць зусім сышла з яго. Відно было, што ён цяпер гатоў маўчаць вечнасць. Богуш і Пагуда стаялі на тым самым месцы.

Максім Грынявецкі панура сказаў не то да іх, не то сам да сябе:

— Калі Галена жывая асталася, то яна мяне толькі тут будзе шукаць.

Ён сеў на камень. Пажар ішоў сюды як нязломная машына, пад коламі якой улазіць у зямлю трава і трашчаць косці ўсяго жывога. Паміж высокіх сцен раптам стала відно, як пад сонечным бляскам. У кожнага з гэтых трох людзей вочы здаваліся вялікія на змарнелым твары. За дзень губы ў іх высахлі і патрэскаліся, як у доўгі сухі сівер. Пыл і курадым укрывалі ім шчокі. Захар Пагуда, як бы шчасліва знайшоўшы што доўгашуканае, устрапянуўся перад Грынявецкім:

— Дык ты, чалавеча, астаешся тут пад немцам у сваіх Шпарутах? Бо гэта я чаму пытаю? Хто яго ведае, як тут лепш рабіць і куды кінуцца.

— А куды ж я пайду! — ужо зусім цвёрдым голасам абазваўся Грынявецкі.— Гэта ж не госць ідзе. Ненавіднік ідзе. Злодзей. Дык я пакіну яму свой дом — адно заходзь і жыві. А сам пайду ў свет. Добры інтэрас! Ён і рад будзе, што так адразу гаспадар яму свой дом ачысціў.

— О, святая праўда,— аж прасвятлеў тварам Пагуда. Здавалася, што гэта яго самога выратавалі ад пагібелі.— Дападу дзе да вады, вып'ю цэлае вядро і буду ісці ўсю ноч.

Можна было падумаць, слухаючы яго, што ён будзе мець вялікае сваё шчасце ад таго, што будзе ісці ўсю ноч. Захар Пагуда падаў Богушу і Грынявецкаму руку і шпарка знік у сваёй дарозе. Праз паўхвіліны пасля яго рушыў адсюль і Богуш. Богуш пайшоў шпарка, нават як бы подбегам. Максім Грынявецкі астаўся адзін. Ён сядзеў на камені і, як сам сказаў, чакаў свае Галены.

## II

Але калі ён шчыра думаў упэўніць самога сябе ў тым, што Галена знойдзе яго тут, а не ён яе дзе-небудзь, то гэта было самае гвалтоўнае самаашуканства. Яно можа і патрэбна было яму на тое, каб апраўдаць перад самім сабою хворую бяздзейнасць. Яму цяжка было паварушыцца. На камені ў нерухомай паставе яго трымала замучанасць і адзеравянеласць ног і плячэй. Здушаны цяжарам і прыціснуты да вострых цаглін, ён праляжаў многа гадзін. У тыя гадзіны магільнай адзіноты і цяпер у яго аднак жа

хапіла волі, каб аніяк не думаць пра той канец, да якога ў яго ўсё «год за годам дайшло», як сам ён быў сказаў перад Богушам і Пагудам. У поўным бяздум'і, як у сне, ён многа гадзін праседзеў на камені, заплюшчыўшы вочы і злёгку пагойдваючыся. Значыцца, ён мог змагацца са смуткам і ўпарта занядбаць вялікую скруху. На світанні ён быў устаў з каменя, але яго так павяло ў бакі, што ён зрабіў самае лепшае, што мог цяпер зрабіць: выбраў нейкі кут паміж мураванай сцяной і насыпам цэглы і друзгу і лёг. Вельмі мала, хвілін дзесяць, не больш, ён прыжмуранымі вачыма бачыў перад сваім тварам дробны каменьчык, уліплы ў адарваны ад сцяны кавалак сухой вапны. Потым усемагутны сон наваліўся па яго. Пачало ўзыходзіць сонца і прыгрэла гэтага чалавека. І сон яго стаў яшчэ мацнейшы. Магло быць, што ён спаў вельмі доўга. Бо калі ён прачнуўся і адразу схамянуўся, то дзень ужо зіхацеў спёкаю і калючым святлом. Здавалася, што сонца ўжо рушыла з паўдня.

# СУМЛІЦКАЯ ХРОНІКА

## I

Тры новыя вуліцы пашырылі мястэчка Сумлічы на поўдзень яшчэ ў першыя гады пасля рэвалюцыі, калі Сумліцкі маёнтак пана Залеўскага быў скасован і ўся зямля пайшла пад мястэчка. На ёй, пры самым мястэчку, і пачалі будавацца перш за ўсё самі сумлічане, тыя, што мелі ў мястэчку цесныя і невыгодныя пляцы або што зусім не мелі ні пляцоў, ні хат, а жылі кутнікамі па людзях. Не сказаць каб многа, але хапала іх на Сумлічы. Найбольш гэта былі рамеснікі і палавіннікі на чужых гаспадарках, і калі пабралі зямлю, пачалі забудоўвацца і перайначваць сваё жыццё, то адразу нейк стала відно на ўвесь шырокі свет, што ў іх натурах каранілася не толькі тое, да чаго калі хацеў сабе і штодзённа мог даступіцца кожны. Усё, што адбылося, зачапіла самыя патаемныя куткі іхніх душ.

Адным з такіх сумлічан быў Юзя Целяфун, сапраўднае прозвішча якога было Паступовіч Язэп. Што ж да яго мянушкі, то яна прыдалася яму змалку дзён, і выйшла так, што ні яму, ні каму іншаму не было патрэбы зменьваць яе і ў сталыя яго гады. І малы, і сталы, ён нязменна гаварыў так нячыста і шпарка сыпаў словамі, што трэба было толькі здагадвацца, што ён кажа. Да таго ж ён замест «о» выгаварваў «ё», а замест «э» — «е». Гэтая акалічнасць і паспрыяла таму, што ён на ўвесь свой век не астаўся без мянушкі. Убачыўшы раз, што на вочапе пры студні намёрз добры кавалак лёду, ён шпарка прагаварыў: «а браткі, лядзяк целяфун». Хоць усе ведалі, што ён хацеў сказаць «лядзяк цэлы фунт», аднак жа «целяфун» прыліп да яго назаўсёды. Ён быў палавіннік. З першых год маладосці і да рэвалюцыі ён вырабляў за палавіну ўраджаю чужую зямлю і кавалак хлеба меў, але рабіў на яго ўдвойчы больш, як хто на сваёй зямлі. Такім парадкам само ўжо так ішлося, што ён быў працавік з цямна да цямна і не меў калі аглядзецца, каб падбаць хоць бы сабе аб сваёй зграбнасці. Нават і ў святыя дні ён адзяваўся як прыходзілася толькі што адарваўшыся ад работы: у шарачковых

портках і ў жакетцы з свойскага сукна, а ў летнюю задуху ў зрэбнай кашулі — такі ён быў заўсёды і, здавалася, ані не дбаў аб сабе. Унураны выглядам і думкамі ў тым, што яму трэба рабіць сёння і што пачынаць заўтра, гэты чалавек здаваўся на ўсе Сумлічы нейкім як бы занадта ўжо дробным і без інтарэсаў, якія былі б цікавыя каму-небудзь апроч яго самога. Чацвёра дзяцей яго памерла ў самым маленстве, і ён астаўся бяздзетны. Ужо яму ішоў сорак першы год, калі прыйшлося браць зямлю кожнаму, хто толькі хацеў. Зямля надзялялася на лік душ у сям'і, дык і тут Юзя Целяфун аж сумеўся з прыкрасці і гора: ён і жонка, вось і ўсе яго душы. Абмеркаваўшыся сам з сабою і з жонкаю, ён надумаўся як мае быць прыдбаць сабе ў сям'ю хоць адну яшчэ душу. Тут яму якраз і ўзялося на шчасце тое. Сумлічы стаяць бадай-што на самым вялікім скрыжаванні старон Маскоўска-Варшаўскае шашы з грунтавым вялікім шляхам паміж поўднем і паўночным захадам, і ў тысяча дзевяцьсот пятнаццатым годзе праз гэтае мястэчка праехала незлічонае мноства выгнаных вайною людзей. Як успамін аб гэтым вялікім людскім руху, каля Сумліч асталося многа магіл, а ў Сумлічах яшчэ больш выгнанскіх сірат. Юзя Целяфун нагледзеў сабе адну такую сірату і ўзяў яе сабе за дачку. Гэтай дзяўчынцы было тады год дванаццаць, і звалі яе Віцця, а то яшчэ і Віктуся, але ні бацькоў, ні прозвішча свайго яна не ведала. Без бацькоў яна асталася ля Сумліч на дарозе, калі ёй было год шэсць. Толькі ведала яна, што жылі яны непадалёку ад Брэста. Юзя ўпісаў яе на сваё прозвішча, яна пакінула бадзяцца з хаты ў хату, а адразу набыла жыццё і аселасць у дробнай Целяфунавай хаціне, дзе хоць і вокны малыя, і парахня з сцен сыплецца, але гэта ўсё больш і больш рабілася сваім родным домам. Пануры Юзя атрымаў зямлю, пачаў абжывацца і забудоўвацца. Старая хата яго стаяла на чужым пляцы, заарандаваным чатырма бясплячнымі пад забудову на пяцьдзесят год. Так што там стаялі чатыры хаты, і пры кожнай выгараджаны дварок як упхнуць задам каня з драбінамі. Юзя адразу вывез з Залеўскага лесу дрэва і за мястэчкам пачаў часаць бярвенне. Яго сэрца дрыжэла з радасці, калі Віктуся сказала раз яму:

— Тата, а хата наша будзе большая за старую?

— Большая, дачушка,— адказаў ён і прыгарнуў да сябе Віктусю. Якраз у гэтыя часы, калі ў яго ўсё пайшло

добрым ладам, ён адчуў вялікае шчасце мець дачку. Гэты момант як бы зрушыў яго з месца. Сумліцкія цесляры нядоўгім часам паставілі сцены да крокваў, а лаціў, накрываў, століў і шкліў ён сам. Яго хата была адна з першых тых, што пачалі тры новыя вуліцы ў Сумлічах. Юзя Паступовіч з жонкай і Віццяй, разам усе яны былі такой сям'ёй, што перш за ўсё прывыкла дбаць аб хлебе, і таму прайшло гадоў са два, пакуль Паступовічыха ўжо ніяк не магла абысціся без таго, каб не абсадзіць кожную вясну ўсё хатняе падваконне кветкамі. Да таго часу падрасла і Віктуся. Юзя Целяфун пасля першага ўраджаю добрай практыкай убачыў, як лёгка робіцца жыць, калі забіраць сабе ўсё, што нарабіў, і не даваць палавіну таму, на чыёй зямлі сядзіш. У яго стала больш часу і, у свята то гэта ёсць ведама, але і днямі буднымі надвечар людзі пачалі заўважаць яго на лаўцы пры хаце. Ён паседжваў сабе, управіўшыся з работаю. Гэта была навіна, бо заўсёды здавалася, што ён і з работаю ніколі не ўправіцца. Яшчэ праз нейкі час ён дастаў з самага дна зялёнага куфра свой шлюбны гарнітур — пінжак і нагавіцы з чорнага кангеру — і кожную нядзелю быў у ім. Некаторым пачало здавацца, што ён стаў як бы павальнейшы ў хадзе і гаворцы. Раней ён усё як бы некуды спяшаў і аб гэтым толькі думаў. Ёсць ведама: каб узяць хлеба з пяці дзесяцін, яму трэба было вырабіць дзесяць. Позірк яго стаў шырэйшы, а то ён усё глядзеў у адзін пункт кудысьці сабе пад ногі. Год за годам Віктуся вырастала, і, можна сказаць з упэўненасцю, яна стала свайму названаму бацьку тым, чаго не абмінеш і без чаго не абыдзешся. Ён так не думаў, ён жыў сабе з дня ў дзень, але каб хто сказаў яму: «магло ж быць, што ты не ўзяў бы яе сабе за дачку і жыў бы цяпер без яе»,— то ён, няйначай так было б, ахапіўся б жахам і цяжкаю думкаю. Здавалася: чым больш праходзіла часу, тым цясней ён прывязваўся да яе. У ім жыла прага даць ёй для жыцця ўсё, што ён можа даць. Можа гэта была запабеглівасць наперад: калі мінецца яе маленства і пачне праходзіць першая маладосць, тады можа яго душу апануе гора, што ўжо няма як яму прыхіліцца да яе дзіцячай душы. І ён як бы стараўся на ўвесь абдым узяць шчасце свайго бацькоўства. Яна яшчэ толькі выбілася ў падросткі, а ён, не ведаючы меры, пачаў спраўляць ёй убёры, і гэта бадай-што было зарана, бо пасля яму прыйшлося шмат разоў навучаць яе: «калі ты, дачушка, у новай сукенцы садзішся

па бервяно, то паглядзі раней, ці няма па ім смалы, або падсцялі хустачку». Што ж да яе, то тут мела месца адчуванне той вялікай праўды, што ўсё на свеце такое, якое яно ёсць. У малыя гады ў яе было сіроцтва, яно сплыло ў нябыт і згубілася без следу ў мінуласці. У яе сям'я, бацька і маці, і штодзённы занятак каля дому і на полі, і ўсё ідзе сабе добра і слаўна. Гэта вырастала натура роўная і без якіх бы там ні было раптоўнасцей і нечаканых рухаў. У такіх людзей прывычкі ўкараняюцца навек і сталасць натуры не зменьваецца ніколі. Тут дружба і адданасць навекі. Але гэта не тое, што ў Вікці фармавалася якая-небудзь занадта ўжо разважлівая, можа нават халодная натура і без вялікіх, а можа і малых парываў. Гэта была як бы сталасць у маладосці, а ў такіх выпадках маладосць пакідае свае рысы і на сталасць.

Як бы там ні было, хата Юзі Паступовіча ніколі не мела ў сабе вялікіх навальніц чалавечай душы, тут нязменна панавала задаволенасць кожнага, хто жыў тут. Так жа распускалася і даростала ўлетку да свае поўнасці густое зяленіва перад вокнамі гэтай хаты, насаджанае Вікцяю. Выгараджапы перад вокнамі ад вуліцы дубовымі пруткамі агародчык на расаду і кветкі злучаўся загараддзю з пышным палісаднікам суседняй хаты, як і Паступовічава такой жа простай, новай і зробленай менш на хараство і больш на мацунак і на выгоду. Хата гэтая пастаўлена была на год пазней за Паступовічаву і ставіў яе Міхал Сцяпура, чалавек у той час ужо добра пажылы, родам тутэйшы, але так, як калісьці і яго бацька, без якога б там ні было ўласнага аселішча, таму ён і быў як бы прышлы ў Сумлічах. Як некалі бацька, так і ён праз усё жыццё да самай рэвалюцыі жыў па чужых кутках, а калі жыў сталей, то гэта азначала, што арандаваў дзесяцін колькі зямлі ў адным з маёнткаў таго ж пана Залеўскага, жыў дзе траплялася і зямлю рабіў добра: каб не запускалася зямля, якое было больш як трэба, Залеўскі і выпускаў частку яе на дробную арэнду. На гэтай арэндзе і застала Сцяпуру рэвалюцыя. Можна сабе ўявіць, з якой радасцю і ахвотай пайшоў гэты чалавек на асталяванне ў Сумлічах. Можна сказаць, што за ўсё існаванне гэтай фаміліі яна бачыла перад сабою ясныя прасторы на далейшае. Чалавеку давалі зямлю, пляц і лес на будоўлю. Ён, доўга не думаючы, і перацягнуў на новае месца сваю маёмасць, усялякія там кубелкі, цабэркі, куфэркі, кажушкі і ватоўкі. Пакуль

да ўласнае хаты, то ён, як і раней, астаўся ў падсуседзях і бадай-што адзін сабе хату і скідаў з акоранага кругляка.

Сям'і ў яго ўсяго і было, што адна дачка Ліда. Ёй было тады ўжо васемнаццаць год. Старэйшая ж дачка яго была ўжо замужам, а сын недзе з'ехаў далёка, астаўся там і ўмацаваўся жыць.

Хата толькі што была накрыта і застолена, і Ліда, поўная захаплення, нанасіла кашом гліны і замест падлогі збіла пранікам ток. Роўна было, і суха стала. А падлогу бацька пакладзе абжыўшыся. Не ўсё ж разам. Дамоўка даводзілася да ладу, калі ўжо як мае быць відно стала, што за час гэтай будоўлі і новага суседства нейкае дзіўнае сяброўства пачалося і вырастала паміж Сцяпуравай Лідай і Паступовічавай Віктусяй, хоць паміж імі няроўнасць у гадах была вялікая. Ліда была старэйшая за Вікцю гадоў на шэсць, у кожным разе на пяць. У суседстве яны бачыліся штодзень, і ўсялякія дробныя справы ім даводзілася рабіць разам. Разам яны абмяркоўвалі справы сваіх кветнікаў перад вокнамі, будзілі адна адну, каб зранку паспець выгнаць каровы, або думалі, што пасеяць перад хатнімі вокнамі. Нейкае падабенства агульнасці ў інтарэсах і справах пачалося ў іх, і сапраўднае сяброўства іх глыбілася. Запабягаючы наперад, трэба сказаць, што ўжо на пачатку Віктусінага юнацтва сяброўства паміж імі было сапраўднае і вялікае, яно асталося назаўсёды, і ў сталыя іх гады не парушылася грознымі падзеямі.

## II

Далей у новую вуліцу памежна з Міхалам Сцяпурам пачаў забудоўвацца ўжо сапраўды прышлы ў Сумлічы чалавек: Мікалай Хадыка, выгнаны вайною ў свет чалавек з Гарадненшчыны. Пакуль цягнулася вайна, ён даволітакі пастарэў, каб шпарка варочацца на роднае попелішча і аднаўляць там разбуранае вайной жытло. Да таго ж, Сумлічы апошнімі тымі гадамі сталі яму як бы наседжаным месцам яшчэ да таго, калі рэвалюцыя выдзяліла яму з Сумліцкага маёнтка зямлю і лес. Польскую акупацыю ён прасядзеў у падсуседзях у кагосьці з сумлічан, а ў дваццаць першым годзе ён ужо як мае быць наважыўся астацца тут. «Невядома за што там, вярнуўшыся, брацца,— казаў ён сам сабе, каб цвярдзей угрунтаваць свае намеры.— Там жа ўсё з зямлёй зраўняна. З чаго там хату рабіць?»

Калі гэта была толькі халодная развага, то ў дадатак да яе было яшчэ штосьці і іншае. Ён усё думаў сам сабе, а раз і выказаў свайму новаму суседу Міхалу Сцяпуру:

— Тут у Сумлічах на могільніку пахована жонка і чатырохгодні сынок. Дык мне б ужо трэба было б адвыкаць ад Сумліч. А дамоўку тут мне лягчэй будзе рабіць, як там, а яна мне патрэбна калі не на цяпер, дык на потым, майму Максіму, ён жа выростаць будзе. Калі жонка і той малы памерлі, дык гэтаму, колькі жыць буду, старацьмуся спрыяць.

— Праўду кажаш,— падаў сваю развагу ўзрушаны Міхал Сцяпура,— дзеля будучыні дзяцей трэба жыць. Хто ведае, як яно там павернецца на далейшае, а жыць дзецям трэба будзе.

Вельмі можа быць, што яны абодва, і выгнанец Хадыка і вечны арандатар Сцяпура так за свой век набачыліся горкай асалоды, што схільныя сталі да ўсёй светабудовы апынуцца ў стане недавер'я і адмаўляць усялякую лёгкую веру нават і ў бясспрэчнасць.

— Толькі што сам зробіш,— гаварыў Сцяпура,— дык будзеш пэвен, што яно ёсць на свеце.

Так паддаючы адзін аднаму ахвоты, думаючы аб сваіх дзецях, аб Максіме і Лідзе, яны сталі сумлічанамі. Хадыкаваму Максіму тады было год пад трынаццаць, гэта быў блізка што Вікцін аднагодак. Гэтая маладая, яшчэ дзіцячая натура фармавалася ў атмасферы таго, што бацька часта тлумачыў яму, як трэба шкадаваць чалавека, бо не кожны чалавек радзіўся на гатовае пічасце. «Заўсёды на свеце было больш бяды, як радасці». Тут трэба ведаць адну найцікавейшую рысу ў натуры гэтага тагачаснага зялёнага хлапчаняці: ён справядліва адчуў у бацькавых словах больш самога свайго бацьку, чым наогул нейкага там чалавека. І пакуль да таго чалавека, то ён ужо любіў і шкадаваў свайго бацьку. Любіў ён бацьку можа нават і з нейкім заўчасным недзіцячым узрушэннем.

Сам Мікалай Хадыка быў высокі, лысы, худы, драбнатвары і як бы вечна ў штосьці ўдумлівы. Яны з сынам, яшчэ ў часе нядаўнай смерці маці тут, на выгнанні, адразу зблізіліся былі не як бацька і сын, а як сябры, хоць адзін быў стары, а другі малы. Пасля, калі пачуцці ўранаўважыліся сталымі думкамі, Максім Хадыка казаў: «Мой бацька для мяне ёсць увасабленне чалавека, да якога падобным я сам хачу быць». Да канца гэта праўдзіва ці не, але та-

кая думка, выказаная Максімам Хадыкам ужо ў юнацтве, даводзіць, што сумліцкае маленства яго ішло ў фармаванні замілаванасці да бацькі.

Што ж да Сцяпуравай Ліды і Паступовічавай Вікці, то ў іх сяброўстве пачалі з'яўляцца рысы такой узаемнай блізкасці, што як бы гэта былі родныя сёстры. Васемнаццаць і якіх-небудзь трынаццаць год! Юнацтва і бадай-што яшчэ маленства! У іх ёсць шмат агульнага. Парывы юнацтва маюць карэнні з маленства. Юнацтва, не абцяжаранае клопатам цяжкіх дзён, больш належыць мастацтву, чым само маленства, калі яно мае на лбе маршчыну старасці, што часта здараецца ў гэтую чвэрць нашага стагоддзя па ўсім свеце, асабліва ў гэтыя нашы дні. Што маршчына старасці на дзіцячым ілбе набыла правы грамадзянства, бліскуча давялі дзесяцігоддзі пышнага развіцця навукі і тэхнікі, і довад гэты з вялікай дасканаласцю завяршылі немцы за апошнія гады тры, усюды, дзе б яны ні з'яўляліся.

І Ліда, і Віктуся ў той час перажывалі парывы чакання кожнага наступнага дня, а ён заўсёды ўяўляўся ім ружовым і ясным. Яны мелі шчасце ад свае кожнадзённасці. Дзень быў падобен на дзень, а разам усё добрае. Гэтыя дзве простыя маладыя душы, незачэпленыя злом цяжкага смутку, маглі б быць увасабленнем чалавечых вобразаў, кожнаму, хто хоча як найлепш і найшчырэй сказаць аб людзях.

Сцяпурава хата была гатова за год часу. На другім годзе вымаляваліся ў жоўты колер вокны, і бярвенчатая пуня стала за хатаю. Пакрысе забудова абцяглася загараддзю. Перад вокнамі да самых замаразкаў цвілі вяргіні. Блакітнае бабіна лета вытрымлівала першы снег і гінула толькі ў сапраўдны мароз. Півоні і астры, кракос і аксаміткі, браткі і завушніцы цвілі пад вокнамі Спяпуравай, а пасля і Паступовічавай хаты.

На другую восень пасля таго, як Сцяпура паклаў першы вянок свае хаты, у пуні ўжо ляжала цэлая старана ячменю і жыта з зямлі свае, а не заарандаванай. І авёс звешваў цераз запярыну цяжкія мяцёлкі. Часам у іх пракідалася сухая травіна і ўзімку абуджвала ў чалавека ўспаміны аб леце. Бывала, у першыя гады жыцця на новым аселішчы Міхал Сцяпура, управіўшыся за дзень з работаю, перад тым, як зачыняць пуню, падоўгу прастойваў перад якою-небудзь травінай у гузыры снопа, быццам ба-

чачы ў ёй усю шырыню свету. Гэта быў час, калі Міхал Сцяпура радаваўся, як малое дзіця, сам сабе. Ён складаў саломіну да саломіны, зерне да зярняці. Так складаў сваё новае жытло і быў шчаслівы ад кожнага лістка на дрэўцах, якія ён пасадзіў перад сваёй хатай. Здавалася, ён так улёг у штодзённую заклапочанасць, што толькі і жыве гэтым. На трэці год такога яго жыцця тут, у раннюю вясну, над сенечнымі дзвярыма яго хаты, на вешале над ганкам падсыхалі ў яго на сонцы і ветры шынкі, каўбасы і паляндвіцы. І ён думаў: вось і жыццё прайшло і, божа мой, чаму цяпер няма са мною ўсіх маіх дзяцей! Часта ён сядзеў дзе-небудзь адзін, аддаючыся ці то думкам, ці то адчуванню таго, што ён жыве на свеце. Усе тыя гады ён жыў так, быццам песню спяваў. Але Ліда не ведала, што галоўная яго думка была аб ёй — дарослай і сталай, і да таго ж разумнай і прыгожай, як казалі ўсе ў Сумлічах.

Ён не быў схілен да кідання і пошукаў, ён стала і цягавіта з дня ў дзень імшыў сцены, ставіў загарадзі, трос салому, часаў дрэва і расколваў на плашкі. Юзя Паступовіч любіў сваю ўзятую дачку Віктусю моцна. З такой жа сілай Мікалай Хадыка любіў свайго Максіма. Але ў Сцяпуры замілаванасць да свае Ліды была своеасаблівая. Ён гатоў быў занядбаць свае сталыя гады і падацца ў турботы замест яе. Гэта не была якая б там ні прыйшлася хваравітасць і не надрыў гэта быў. Можа ў ім жыла душа паэта, якая ўспрымае ўсё, што толькі ёсць, вастрэй, як гэта бывае ў іншых. Ліда бачыла гэта і шукала прычын адказваць бацьку вялікаю сваёй увагаю. Можа, такія дачыненні паміж імі былі і не зусім звыклыя ў Сумлічах і сярод сумлічан, але яны аставаліся нязменнымі. Можа, тут мела месца і ранейшая арэндная бяздомнасць, а зблізкэнне іх пайшло яшчэ больш, калі яны ўладкоўвалі сваю хату і сялібу, у якой, так, як і ў Паступовічавай, усё было дагнана да месца, абгледжана, абсаджана, падмецена і выгладжана. Вельмі скора і Сцяпурава і Паступовічава сялібы былі даведзены да завяршэння і парадку.

Што ж да Мікалая Хадыкі, то яго аселішча з пункта погляду гаспадарлівага Сцяпуры, да поўнага парадку даведзена не было. Мікалай Хадыка быў чалавек ужо не падобны на самога сябе тады, калі выбіраўся з свайго дому на выгнанне. Там ён мог бы быць гаспадарлівым дамаседам, цяпер, пасля гэтулькіх год бадзяння, ён як бы не мог навек прыпрубавацца да аднаго і таго ж па кожны дзень.

Міхал Сцяпура малаціў цэпам у сваёй пуні як быццам бы песню складаў. Мікалай жа Хадыка за гады выгнання налажыўся да цяслярства і сталярства і так з сякерай і гэблем хадзіў па людзях і адыходзіў з дому, здаралася, на цэлыя тыдні і больш. Сяліба і хата ў яго станавілася не тое што каб цешыцца з яе, а каб перадпяваць, перанача-ваць у ёй і так жыць дзень за днём. У хаце не было жан-чыны, а з гэтай прычыны пры хаце не цвілі кветкі і не зелянеліся грады. Двор заростаў травой, а ў пуньцы ля-жала начынне і стаяла калода, на якой гаспадар курыў, седзячы перад сном пасля работы. Хоць у хаце і была дасканалая падлога з шчыльна дагнаных адна да адной дошак, але перад дзвярыма ў сенцы, замест ганка, ляжаў пабіты млынавы камень, і з дзіркі яго рос пук травы, хоць гаспадар і быў сам сталяр.

Такім парадкам, думаючы аб тым, каб пакінуць свайму Максіму гатовую хату і сялібу, Мікалай Хадыка не вельмі дбаў аб яе дасканаласці, і ўсё было як бы няскончанае. Вельмі можа быць, што прычын гэтаму трэба шукаць у тых новых думках, якія раптам з'явіліся ў яго наконт сына. Калі ён ужо да паловы давёў сваю будоўлю, Максім ву-чыўся тады ў сумліцкай сямігадовай школе. Сумліцкі настаўнік, вялікі прыхільнік матэматычных навук, вы-найшаў у Максіма Хадыкі быццам бы талент да матэма-тыкі і ўзяў яго пад сваю настаўніцкую апеку. Ён не спу-скаў свайго вучня з вока і раз прыйшоў да Хадыкі і пера-канаў таго што б там ні было вучыць пасля школы далей Максіма. Гэтая думка і апанавала Мікалая Хадыку. Да-лей-болей, і ён ужо спадзяваўся бачыць свайго Максіма нейкім вялікім вучоным, які ніколі ў жыцці не будзе жа-дзён кавалку хлеба і, прыязджаючы час ад часу ў Сумлічы, будзе абуджаць да сябе агульную пашану.

У той меры, у якой ішоў час, такая мара аб сыне на-бывала больш выразныя формы. Аднак жа павевы новага часу яшчэ не да канца скалынулі ранейшыя погляды Мі-калая Хадыкі. Ён і цяпер падумваў аб тым, што натое, каб вучыць сына, трэба многа мець грошай. І ён занядбаў сваю новую хату і сялібу, аскупеў адразу і збіраў грошы.

Гэта быў час, калі бурна ўзнікалі тэхнікумы і рабфакі. А што да горада Мінска, то ў яго з Беларусі адусюль імкнулася моладзь. У Мінску ўжо быў універсітэт. Максім Хадыка неўзабаве апынуўся ў Мінскім педагагічным тэх-нікуме, і да некаторай ступені гэта вырашыла яго далей-

шы лёс. Трэба ведаць, што ў той час кожны малады чалавек, які трапляў вучыцца ў Мінск, неўзабаве пачынаў гаварыць сабе: «я беларус і ганаруся гэтым». Цэлая плеяда маладых беларускіх паэтаў і раманістаў выйшла ў той час з мінскіх тэхнікумаў, інстытутаў і універсітэта. Таксама як усюды, усё аднаўлялася пасля вайны і забудоўвалася нанава, як пачыналі выростаць новыя вёскі, пашырацца мястэчкі (як тыя Сумлічы) і перайначвацца гарады, як скідалася з плеч чалавека дзіравая сярмяга і з ног лапці, так выростала ў моладзі нацыянальная свядомасць прыналежнасці да свайго народа і гордасць за свой народ. Рэвалюцыя вяла на вялікую дзейнасць новыя сілы. Душа Максіма Хадыкі, які датуль ведаў толькі хараство сумліцкай прыроды, а Мінск яму здаўся найвялікшым у свеце горадам, душа яго свабодна аддалася на тое, каб у ёй старанная рука напісала веру ў Бацькаўшчыну. Перад ім яшчэ стаяла юнацтва.

У маладога і наіўнага яшчэ Максіма аднак жа хапіла сілы, каб згадзіцца з тым, што кожнаму паэту патрэбен талент, і што яшчэ невядома, ці гэты талент у яго ёсць. Такую ацэнку яго вершаў і паэм даў вядомы пісьменнік і аўтарытэт для моладзі. Як гэта часта бывае, жаданне стаць паэтам ператварылася ў Максіма ў вялікую замілаванасць да роднай літаратуры, а замілаванасць да роднай літаратуры вырасла ў яго ў высокі беларускі патрыятызм. Вядома, вызначаць глыбіню і грунтоўнасць гэтага патрыятызму трэба ў залежнасці ад узросту самога патрыёта, які тады толькі яшчэ выходзіў з падросткаў. У кожным разе, у некаторых выказваннях Максіма было тады яшчэ многа дзіцячай наіўнасці, таксама як і ў яго парывах. У такім духу і адбылася аднойчы яго гаворка з бацькам. Гэта было ўвосень, перад Максімавым ад'ездам на другі курс тэхнікума. Былі першыя дні верасня месяца, і падвор'е стаяла наўздзіў яснае. Цішыня і спакой восеннай задумёнасці ляжала на вялікіх прасторах. Цвіў верас, і жаўцеў беразняк. Вада ў рэчках плыла ціха, поле апусцела, грыбоў у лясах было яшчэ многа, і яшчэ было горача на сонцы. Той дзень Максім быў у адзіноце. У нязвыклым настроі ён абышоў сумліцкія лясістыя і палявыя куткі і поўніўся сумам, як бы гэта ён развітваўся навек з роднай мясцінай, якую любіў як той адзіны кут, з якога толькі аднаго льга глядзець на цэлы свет. Цяпер, калі ён увайшоў у сваё юнацтва, і адчуванні яго ўжо зліваліся з спелымі

думкамі, і ён ужо наконт далейшага меў нейкія свае пла-ны і намеры, ён думаў, што неўзабаве ён будзе тут толькі госцем. Цэлы дзень ён развітваўся з сумліцкім хараством, таямніцы якога ён прывыкаў ведаць з маленства. Ён ха-дзіў і кіламетраў за шэсць ад мястэчка, дзе за вялікім Скіп'ёўскім лесам цякла дробная рачулка, з-пад вёсак Ка-лодзезнага і Калоўкі і ўваходзіла ў лес. Алешнік стаяў над ёю яшчэ зялёны, але вербы ўжо сыпалі на вецер свае жоў-тае лісце. Ён бачыў на дне рэчкі затопленае карчэўе, і вя-лікі камень ляжаў пад дрэвам на беразе. Праз усе свае гады Максім бываў тут час ад часу. Які б вялікі гром ні быў на свеце, а тут усё роўна стаяў ціхі шэпт травы і ліс-ця. Гэтае месца называлася «камень», і быць тут гэта значыла быць «пад каменем». У пагодныя дні тут многа было ясных адценняў з надлеснага неба. Але громы вайны, колькі год таму, дайшлі і да гэтага месца. У дваццатым годзе, калі адыходзілі акупанты, тут быў цэнтр гарачага бою. Максім памятаў, як у дзевятнаццатым годзе акупан-ты тут расстралялі пяцярых маладых сумлічан і трупы іх паўдня ляжалі непахаваныя ля самага каменя, і бацька не пусціў Максіма ісці глядзець. Маткі і сёстры расстраля-ных плакалі, галасілі і пракліналі тутэйшага пана Залеў-скага і ўсё польскае панства, якое ў вобразе пазнанцаў у жандарскай форме франціла па Сумлічах. Нават будучы яшчэ малым, Максім, у моманты цяжкіх уражанняў, пры-ходзіў «пад камень» і быў тут адзін. Так ён быў тут у той дзень, калі пахавалі маці. І ў гэты дзень развітання з Сум-лічамі яго душу ўраўнаважылі — камень, бяроза над ім, плынь вады і цішыня ляснога шэпту. Ён думаў, што гэта дзень развітання з Сумлічамі да вясны, а пасля ўспамінаў гэты дзень, як развітанне з рэшткамі маленства, як пача-так свае самастойнасці і парог паміж былым і далей-шым — дзейным і ўласцівым даросламу чалавеку. Ён су-мысля быў тут да вечара, каб спаткаць на захадзе сонца бацьку, які будзе гэтай дарогай спяшацца дадому з работы, каб назаўтра зранку паехаць з сынам на чыгуначную стан-цыю. Бацька сапраўды ішоў ляснoй дарогай, калі першае змяркание слалася на зямлю. Ён быў расчулен заўтраш-нім ад'ездам Максіма, а Максім усім адчутым і перадума-ным за той дзень. Пакуль ішлі да Сумліч, гаварылі аб са-мым нязначным: Мікалай Хадыка ішоў з гэблямі і піламі. Ён убачыў па дарозе Максіма і здзівіўся:

— Чаго ты так далёка ходзіш?

Дрэнна ж ён ведаў свайго Максіма, калі так пытаў.

— Развітваўся з лесам,— адказаў Максім.

Мікалай Хадыка нават не паглядзеў на сына: вядома, ён жартуе або гэта проста кплівы адказ бацьку. Як памыляўся бацька! Ён не ведаў, што якраз у гэты дзень больш як калі Максім поўніўся вялікім замілаваннем да яго.

Быццам бы ўцяміўшы, што прыйшла пара гаварыць з бацькам аб сабе, Максім сказаў:

— Бацька! Ты не ведаеш, што мне цяпер адкрылася! Вялікая мне будзе радасць, калі я так падпімуся, што буду працаваць дзеля ўсёй Беларусі. Але я заўсёды буду глядзець на ўвесь свет з Сумліч і чуць поблізу цябе.

Нельга сказаць, што бацька зразумеў ясна ўзвышаную тыраду свайго ўзрушанага сына, але па-свойму ён зразумеў яе і адказаў:

— Ты, сынку, хочаш высока ўзняцца. А што з таго? Чалавеку трэба стаяць на адным месцы, зусім малым, і ўмець угадаць гэтае сваё месца. Бог даў чалавеку адно жыццё, дык яго трэба пражыць шануючы яго. Ці ведаеш ты, якая мне радасць габляваць дошку і пасля ісці дадому гэтай дарогай. Шукай радасці ў сабе і ў людзях, а не ў славе на ўвесь свет. Слава бывае і злая. Калі ты пачуеш у сабе зайздрасць — перастаўляй сваю натуру. Хто шчыра дбае аб малым кавалку хлеба, той дастане і вялікі кавалак.

— Бацька,— адказаў Максім,— на табе відна беларуская доля. Ты быў выгнаны з дзецьмі ліхой бядой з роднай хаты, і я адзін у цябе астаўся. Дык я не на дарма вучуся. Я хачу працаваць так, каб ніякая бяда не таптался больш па нашай роднай зямлі.

Бацька зразумеў з гэтага толькі тое, што сапраўды вайна выгнала яго з хаты, і Максім у яго астаўся адзін. Гаворку свайго сына ён палічыў за выяўленне яго вучонасці і падумаў: «Вось жа свет настаў: хлопец вучыцца і грошай не каштуе гэта». Ён задумаўся над тым, што дарэмна ён не давёў да ладу хату і сялібу, а ўсё запасіў грошы на сынаву навуку. Штосьці ўразіла яго душу.

— Колькі буду жыць,— сказаў раптам Максім, гэты ўражаны навакольнымі павевамі, неспрактыкаваны ў жыцці і рамантычны юнак, яшчэ нават без першага пуху на верхняй губе.— Колькі буду жыць, то буду служыць Беларусі і дбаць аб табе.

Мікалай Хадыка ўздыхнуў, і душа яго стала гатовай да сентыментальнага парыву. Яны ўжо ішлі моўчкі. «Як гэта

выразіць у паэме ці вершы сённяшні дзень?» — пыў Максім, і ў вушах яго, у рытм хадзе, гучэў Янка Купала: «Не шасцяць каласы, звон не сыплецца з касы...» Ён пачынаў ужо самую непасрэднасць адчуваць праз паэзію. Гэта ў яго было аж да таго часу, калі бязлітасная неабходнасць не павяла яго на іншую дарогу.

Назаўтра, перад самым выездам, ён па-суседску пабег развітацца ў Сцяпураву хату. Ён падфранціўся. Ён любіў як толькі мог дасціпна і добра адзецца. Хударлявы хлапчына, з цёмнымі валасамі, ён быў заўсёды стройны і дасціпны. У Сцяпуравай хаце ён першую ўвагу накіраваў на дзяўчат: у Сцяпуравай Ліды была Паступовічава Віктуся. Ён здзівіўся, як гэта ён не заўважаў дагэтуль Вікці: перад ім стаяла зусім ужо развітая дзяўчына, пры тым жа прыгожая і, ужо, бадай, і можна так сказаць, у яго гусце. Як яна вырасла за гэтыя гады! Яна толькі што адарвалася ад работы, была босая і ў зліпялай залатанай сукенцы і сумелася перад ім. Што ж да Ліды, то яна, убачыўшы, што Максім завярнуў да іх у двор, шпарка набегла ў бакоўку, уссунула на босыя ногі чаравікі, надзела і ледзьве паспела зашпіліць блакітную ад сіньні кофтачку і чорную шарсцяную спадніцу. Яна была старэйшая за Максіма на год пяць, калі не на шэсць, і цяпер стала перад ім з ветлым упіканнем: чаму ён ніколі да іх не заходзіць. Яго ўразіла пышнае Лідзіна хараство, і ён падумаў: «Дзеля кожнае з іх варта сюды кожны дзень заходзіць. І калі я зноў тут буду? Вельмі доўга чакаць, некалькі месяцаў». І зноў сум па Сумлічах агарнуў яго, і разам з тым, нязнаны і нечаканы, сум па гэтых дзвёх дзяўчатах. Так ён і паехаў. Бацька правёў яго за мястэчка і вярнуўся назад узнепакоены: хоць ён, бывала, пасля гаворкі з сумліцкім настаўнікам і марыў бачыць свайго сына або вялікім на ўвесь свет матэматыкам (што такое матэматык, ён не ведаў, а «на ўвесь свет» гэта ўяўлялася яму, каб яго ведалі і ў Слуцку, і ў Мінску, і ў Бабруйску). Або каб сын быў сумліцкім настаўнікам. Цяпер жа Максім набывае сталасць нейкую асаблівую: у яго свая мара аб нейкай вялікай дзейнасці. «А ў гэты час ён можа і стаць такім, якім хоча. Цяпер жа «хто быў нічым, той стане ўсім». Мікалай Хадыка ў тыя дні засумаваў па сыне. Ён мучыўся ад думкі: «высокасць — рэч не трывалая, калі яна дасягнута не праз навуку і разумную галаву». Ён занудзеўся і надумаўся напісаць у Мінск пісьмо Максіму з угаворам, каб

ён пільнаваўся толькі павукі і думаў, каб быць пасля ў мястэчку настаўнікам. Але ці здолее ён напісаць такое пісьмо, дзе трэба многа тлумачыць і даводзіць, і так, каб не пакрыўдзіць Максіма? Нарэшце ён надумаўся: «Я пайду да гэтага Целяфуна, у яго Вікця скончыла сямігодку і добра піша». Паступовіча ён тымі ж днямі пе ўзлюбіў за тое, што, калі выязджаў Максім, Віктуся прыбегла да іх на двор і стаяла, пакуль Максім перавязваў на ганку свой чамадан. Трэба думаць, што ў час, калі Максім хадзіў развітвацца да Сцяпураў, ён і Віктуся паспелі штосьці, зразумелае ім абаім, сказаць адзін аднаму вачыма, такія іх былі годы. Мікалай Хадыка падумаў цяпер, бачачы Вікцю ў сябе на двары: «Знойдзе Максім сабе і ў Мінску, вучоную». Нейкая непрыязь да ўсіх Паступовічавых заварушылася ў ім.

У нядзелю ён пайшоў да Паступовіча, каб напісаць пісьмо. «Вікця ў Сцяпуры»,— сказаў Паступовіч. Ён рушыў да Сцяпуры і ўбачыў там Вікцю: яна сядзела за сталом поплеч Ліды і каля іх малады, крыху як бы таўсматы хлопец у сінім фрэнчы, з выгляду старэйшы за Вікцю і як бы Лідзін аднагодак. Ён жартаваў, рагатаў і як мог увіхаўся каля дзяўчат. Убачыўшы Хадыку, ён дастаў з кішэні газету «Чырвоную змену» і прачытаў: «На Мінскай раённай канферэнцыі камсамола выбран новы райком». І прачытаў спіс нававыбраных членаў райкома. У гэтым спісе быў і Максім Хадыка. Прачытаўшы, малады чалавек падцягнуў да кален хромавыя халявы ботаў і зарагатаў, гледзячы на Хадыку: у таго на твары не адлюстравалася ніякага пачуцця. Твар гэты быў штучна-халодны, і гэта было ім сумысля так выстарана, і той, у сінім фрэнчы, бачыў гэта. Раптам Хадыкаў твар пачырванеў і губы перасмыкнуліся. Наглядальны чалавек мог бы здагадацца, што стары Хадыка стрымлівае сябе, каб не сказаць штонебудзь зняважлівае хлопцу ў сінім фрэнчы.

Але тут была справа не ў рогаце гэтага хлопца. Тут была іншая акалічнасць.

## III

Ёсць людзі з падвойнымі прозвішчамі, а тут было аж патройнае, і склалася яно апошнімі часамі, але тут трэба ведаць што-нішто пра мястэчка Сумлічы. Гэтае мястэчка стаіць вельмі блізка ад старое Маскоўска-Варшаўскае шашы, праз самае ж мястэчка праходзіць шырокі гасцінец з

заходу на ўсход. Тут, навокал Сумліч, у полі і лясах і ў самым мястэчку ў тысяча дзевяцьсот пятнаццатым годзе, увосень, была вялікая папаска бежанцаў. З фурманкамі і набыткам людзі стаялі тут падоўгу. Між іншага, з гэтай стаянкі астаўся тут назаўсёды Мікалай Хадыка. Стоячы тут, людзі давалі ціхі час памерці сваім хворым, хавалі памерлых, спродвалі адзежу, набытак і жывёлу. Выбраўшы далейшы шлях, людзі пускаліся ў яго, хто без маёмасці, а хто без блізкіх і родных. Такім парадкам сумліцкае поле і ўзлескі за той час укрыліся магіламі і крыжамі. Сумліцкая зямля чула на сабе енк і плач людзей, якія ўпершыню бачылі яе. Так праехала тут Заходняя Беларусь, польскае сялянства, і траплялі сюды людзі з Холмшчыны. У тую восень і з'явіўся сюды з параконным возам нейкі чалавек з прозвішчам Сінябрыцкі. Быў з ім хлапчук, ужо добры падростак. Ніхто ніколі не ведаў, адкуль Сінябрыцкі быў родам і дзе тая мясціна на зямлі, да якой ён навек прывязан душой. Гаварылі, што ён недзе не то з-пад Бранска, не то з-пад Крычава. Але калі так, то чаго ён заехаў сюды на захад, калі тады якраз усе ехалі з захаду на ўсход? Як бы там ні было, ён з пустым сваім параконным возам стаяў месяцаў два ў самай бежанскай гушчы, і калі бежанцы прадавалі што маглі, то ён купляў у іх. Накупляўшы паўнютка, ён ад'язджаў праз Слуцк і Бабруйск на Гомельшчыну, там усё перапродваў і варочаўся зноў у Сумлічы купляць, і так многа разоў. Расказваюць, што за тую восень хлопец яго вельмі падрос, а сам ён так нажыўся, што да самага канца вайны і першы час пасля рэвалюцыі жыў з гатовага, палец аб палец не выцяўшы. Нейк ён усім убіўся ў вочы, заўсёды заклапочаны мітусіўся то ў мястэчку, то на бежанскіх стаянках, то чагосьці ездзіў то ў Мінск, то ў Магілёў, то мог праседзець нерухома цэлага паўдня на высокім ганку сумліцкіх крам. Усюды ён мог дапасці і «ўставіць свае тры грошы». Адным словам, без яго і Сумлічы не былі б Сумлічамі. І нарэшце ён тут астаўся і жыць. Трэба думаць, што або тут яму спадабалася, або пакінула падабацца там, дзе ён дагэтуль жыў ці быў. І тут выявілася нейкая дзіўная рэч: хто гэта сказаў, што гэтага чалавека прозвішча «Сінябрыцкі», калі, астаўшыся ў Сумлічах, ён пачаў пісацца «Папсуеў», і спачатку пусціў погаласку, што ён родам з Клімавіч, а пасля, што з-пад аршанскіх Горак? Аднак жа неўзабаве пачалі гаварыць, што ён і не з Горак, і не з Клімавіч, а з Клінцоў,

хоць, праўда, былі і такія, што выводзілі яго паходжанне з сяла Вялікі Двор, што каля Паўлавага Пасада. Не можа быць, каб сумлічане самі выдумалі гэта. Хто з сумлічан ведае, што ёсць на свеце такое сяло? А калі хто і ведае, то чаму канешне выдумляць, што Сінябрыцкі-Папсуеў адтуль родам? Мусіць, гэта ён сам, калі-небудзь з-за сваіх інтарэсаў дапаў быў да гэтага сяла, уведаў яго і цяпер пахваліўся, што ён тамашні. Таксама, як цяпер, пабыўшы ў Сумлічах, ён мог бы дзе казаць, што ён сумліцкі. Але не паспеў ён на ўсю сваю моц разгарнуцца ў Сумлічах, як немаведама адкуль пайшла пагаласка, што «які ён там к чорту Папсуеў, калі ён проста «Папсуй», і не з Вялікага Двара, а з-пад той станцыі за Оршай, якая называецца Хлюсціна. А што сумлічанам да таго, адкуль з'явіўся да іх Папсуй? І ці не ўсё роўна — Папсуеў ён ці Сінябрыцкі? Так яго і звалі заўсёды: «Сінябрыцкі-Папсуеў-Папсуй». І няхай сабе ён будзе хоць «з багна-балота-сухога-чарота». Яго рухавасць вызначыла яму і далейшы лёс у Сумлічах. Сакавік і красавік семнаццатага года ён займаўся арганізацыяй у Сумлічах спажывецкага таварыства, старшынёй якога сам і зрабіўся. У гэтай кааперацыі ён прадаваў і свае ўласныя тавары, якія заўсёды меў зручнасць недзе даставаць. Неўзабаве, аднак, ён кінуў кааперацыю для новай дзейнасці. Сын яго Вацік Папсуеў к гэтаму часу яшчэ больш выцягнуўся, хоць быў яшчэ зусім зялёненькі і хадзіў у галіфэ і фрэнчыку з кааперацыйнай мануфактуры і шаўровых боціках. Хто ведае, да чаго рыхтаваў яго бацька і аб якой будучыні для яго дбаў тады, калі Мікалай Хадыка і Міхал Сцяпура дзеля будучыні сваіх дзяцей заводзілі сталыя дамоўкі, каб і сабе на старасць і дзецям на доўгі век. Праз кароткі час Папсуеў стаў начальнікам местачковай міліцыі, але не ўбыў тут доўга: у хуткім часе пачалі гаварыць, што ён нейкаму засцянковаму шляхціцу прадаў канфіскаваны ў яго ж самагонны апарат. Прыйшлося ўжыць увесь спрыт, каб выкруціцца з бяды. Справу ўдалося замяць, але і з пасады начальніка міліцыі паляцець. Але ці мала на свеце спосабаў жыць? Папсуй-Сінябрыцкі пачаў чакаць. А тым часам Сумлічам суджана было перажыць нямецкую і польскую акупацыі, а пасля, кіламетраў за дванаццаць ад Сумліч, прайшла граніца з Польшчай. Многія сумлічанкі, што павыходзілі былі замуж у той бок, раптам апынуліся навек адгароджанымі ад блізкіх і родных. Браты родныя, што жылі адзін ад аднаго за чвэртку кіламетра,

атрымалі страшны лёс век не бачыць і не чуць адзін другога. На сотні кіламетраў людзі праклінапі гэтую граніцу. Сумлічане бедавалі, што, можа, гэта так астанецца на ўвесь іхні і іх дзяцей век. Сінябрыцкі-Папсуй быў чалавек не тутэйшы, блізкіх і родных тут у яго не было. Граніца аднак жа аставалася граніцай, і Папсуй-Папсуеў накіраваў сваю ўвагу на тую акалічнасць, што пагранатрад затрымліваў на граніцы кантрабандыстаў і ўсялякіх іншых падазроных асоб. Сінябрыцкі падумаў: калі гэтая асоба ёсць і калі насельніцтва заклікаецца да пільнасці, то не можа быць, каб з гэтых асоб і з пільнасці каля іх няможна было хлеба есці. Можа, дакладна ён так і не думаў, але, у кожным разе, узяў сабе за занятак кожнага сумлічаніна падазраваць у якім-небудзь пагранічным граху, хоць яго ніхто на гэта не ўпаўнаважваў і не прасіў. У той меры, у якой ішоў час і падрастаў малады, як казалі сумлічане, Вацік Папсуйчык, станавілася цяжка ўдакладніць, дзе канчаецца стары Папсуй і пачынаецца малады Папсуйчык. Бо сын неўзабаве перавысіў бацьку. Яно і вядома, малады ўвішнейшы за старога і на ногі, і на мазгі.

Дзе стары павінен убачыць на свае вочы, там малады або здагадаецца, або сам прыдумае. Такім парадкам не было такога сумлічаніна, на якога б не было ўскладзена Папсуямі-Папсуевымі-Сінябрыцкімі падазронасці ў шпіёнстве, кантрабандзе, падробцы пашпартоў, перакідцы за граніцу немаведама якіх асоб і падрыхтоўцы ўзрыву шасьнаццаці мастоў на рацэ Сумлі, на якой было чатыры масты. Аб усім гэтым пісалі даносы ў форме: «не сцвярджаю, але падазраю, бо чаму ж, калі не так, Язэп Паступовіч так позна, і не адзін раз, варочаецца з поля дадому, гадзін у дванаццаць ночы».

Спачатку Вацік Сінябрыцкі нідзе не вучыўся, а пасля падаўся ў адзін з апошніх класаў сямігодкі і скончыў яе. Ён умеў добра і бегла пісаць, складаць афіцыйныя паперы (ніхто не ведаў, дзе ён гэтаму так навучыўся), калі каму трэба было чаго-небудзь і дзе-небудзь хадайнічаць, ён ахвотна браўся за гэта, сказаўшы: «мы гэта крэпенька, што называецца, правярнём і ўміг прапясочым». Ён быў рухавы хлапчына, і каб штосьці не сапсавала яго ў першыя маладыя гады, з яго мог бы выйсці чалавек, а то з яго выйшла вялікае зло. Пасля, калі па сумліцкіх вуліцах і па сумліцкім полі здорава-такі патапталася нямецкая навалач і калі ўсё тое, што служыць зместам майго апавядання

(і я пішу гэтую хроніку), калі ўсё адбылося і крывавым чынам зачапіла блізкіх маёй душы людзей, якіх я выводжу і хачу, каб чытач вызнаў іх за людзей добрых, справядлівых і вартых увагі, цяпер нават і сам Ахрэм Ракавіцкі, галава ўсяго таго раёна, дзе Сумлічы, пра якога я яшчэ не казаў і пра якога зараз скажу, цяпер ужо і гэты чалавек убачыў, што яму трэба было глядзець не на двух Папсуёй, а якраз на тых, да каго ён праз Папсуёў стаў задам. Ахрэм Ракавіцкі ўбачыў, што самы верны спосаб пазнаць чалавека, гэта прыглядзецца, колькі добрага ён зрабіў людзям, а не колькі ён пасеяў зла. Вялікая памылка заўсёды была ў таго, хто думаў праз нянавісць ажыццяўляць добрыя ідэалы. Сумліцкі Папсуй быў жывым увасабленнем заядлай нянавісці нават і да таго, каго ён і ў вочы не бачыў ніколі. Сумлічане жылі і азіраліся: а ці не накіравана да мяне Папсуева вока? Яго баяліся тым больш, што ён не быў ніколі якой-небудзь афіцыйнай ці службовай асобай, ён быў толькі ахвотнікам да «дзейнасці» і «пільнасці», і на яго і скардзіцца не было каму і як.

Гэтым можна вытлумачыць тое, што Мікалай Хадыка запячатаў свой твар холадам маўчання, калі Вацік Папсуйчык вычытваў яму з газеты пра Максіма. Страшна было што-небудзь сказаць або выявіць да чаго сваё дачыненне. Сінябрыцкі-Папсуй усё вытлумачыць, як захоча, у свой бок. На гэтым і скончылася Хадыкава жаданне пісаць пісьмо свайму Максіму. Праз некалькі дзён аднак жа ён вельмі радаваўся, што не напісаў таго пісьма. Шчаслівыя думкі яго сыходзіліся на тым, што ён тым сваім дурным, як сам цяпер лічыў, пісьмом не збіў Максіма з дарогі. Справа такая, што ў тыя дні прыйшло ад Максіма поўнае радаснага захаплення пісьмо. Шпаркімі і разгоністымі літарамі Максім пісаў: «Бацька! Будзь вясёлы і шчаслівы! Зайдзі да Сцяпуры і перакажы яму і Лідзе ад мяне прывітанне, а таксама Паступовічу і яго Вікці. Каб ты ведаў, як у мяне ўсё добра ідзе! Перш за ўсё скажу табе, што я ўжо, як самы сталейшы («з яго робіцца нейкі хвалько!» — з прыкрасцю падумаў Хадыка), выступаў на адкрыцці навучальнага года, і я гаварыў, каб ніхто з гэтых маладых студэнтаў не забываўся, што ён належыць да вялікага беларускага народа. А калі ён мае свае вочы, каб бачыць, і вушы, каб чуць, то ён не можа не належаць партыі, <якая змагаецца> за шчасце свайго народа. Мая прамова зрабіла на ўсіх вялікае ўражанне». Ён хваліўся,

гэты зялёны юнак, сваімі поспехамі. Дачытаўшы пісьмо, недаверлівы бацька ўзнёс да бога шчырае слова: «Божа, дай яму быць добрым настаўнікам і не аддаляй яго ад мяне». Пасля ён падумаў: «Ён думае аб дзяўчатах — Лідзе і Віктусі». Але дзіўная рэч: невядома з чаго нейкая трывога лягла на душу Мікалая Хадыкі, і гэта нейкім чынам ядналася з Сцяпуравай Лідай і Вацікам Сінябрыцкім. Ён быццам адчуваў, што ў сувязі з імі нейкае няшчасце і яму будзе. Хоць беспрычынная трывога яго неўзабаве і прайшла, але думкі пра Сінябрыцкіх не выходзілі ў яго з галавы. Ён яшчэ больш іх узненавідзеў, але не за іх спрагвы, якіх ён на сабе не спрабаваў, хоць і яны мелі тут месца, можа з іх усё і пачыналася. Сінябрыцкія жылі, як бяздомныя птушкі, якія круцяцца ля чужых гнёздаў. Тады калі Хадыка, Сцяпура, Паступовіч і не менш сотні іншых сумлічан і прышлых сюды людзей узводзілі з паўднёвай сумліцкай стараны будоўлю і, разам усе, стварылі новыя тры вуліцы, Сінябрыцкія займаліся сваімі справамі і не шмапалі. Яны арандавалі нейкую трухлявую даміну пры местачковым рынку, і некалькі гадзін штодзень стары Сінябрыцкі праседжваў на ганкавых усходах свае кватэры.
Што ж да Ваціка, то гэты, здавалася, адначасна мог быць відзён на ўсіх местачковых канцах, і заўсёды з рогатам і жартам. У простых людзей з веку ў век была нянавісць да таго, хто рагоча і гуляе, калі ўсе займаюцца работай. Бяздом'е бывае вымушанае, з гора, але бывае і з-за нядбайства. Але гэта да Сінябрыцкіх не належыць. Нядбайнікамі яны не былі. Яны дбалі так, што за сваё жыццё маглі хваліць бога. І бяздомнікамі яны не былі. На галаву ім дождж не ліў, і вецер не дзьмуў ім у косці. Кватэры яны, праўда, часта мянялі, але жытла паспрабавалі і ў новых дамах, пастаўленых у гады рэвалюцыі, і ў старых, пастаўленых дзядамі цяперашніх сумлічан. Яно і так, калі падумаць: той, хто паставіў дом, даўно памёр, а дом стаіць. Трэба ж, каб у ім хто-небудзь жыў. А тым часам тры новыя сумліцкія вуліцы даходзілі да свайго завяршэння. Хаты трох пачынальнікаў іх ужо скрыліся сярод маладых садоў, новых дамоў і хат. Ужо высока ўзнімаліся пасаджаныя скрозь клёны, бярозы, каштаны і ясені. Вясною густа цвілі маладыя ігрушы і яблыні. Улетку, здаецца, вецце гнулася ад вішань, у жнівені цэлымі начамі стукалі яблыкі, падаючы з дрэў у траву. Пасля жніва і прыборкі з поля і да халадоў за садамі і агародамі

ў полі аж бялелася ад гусіных чародаў. З іржышча і паплавоў гусіны гергет чуўся аж па другі бок мястэчка. Зімовымі вечарамі аж да трэціх пеўняў ніяк не магла асталявацца цішыня на гэтых трох вуліцах: духавы аркестр сумліцкай пажарнай дружыны беспярапынна развучваў свае маршы. Вацік Папсуйчык тут граў на самай большай трубе, якая вухае і грукае і тоўстым колам ускладаецца музыканту цераз плечы і грудзі. Можна сказаць, што гэта быў адзіны занятак, якога малады Папсуйчык упільчыста трымаўся, а то ён усё скакаў, як верабей, з месца на месца.

Новыя тры вуліцы сумлічане чамусьці назвалі Сумліцкі Прысынак, а пасля проста Прысынак, можа таму, што гэты пасёлак, як хлапчук да маткі, прытуліўся да старога мястэчка. Але якая б там назва ні была, на Прысынку заўсёды было добра і весела. Вясною тут пахла садамі і яблычным цветам, улетку полем, увосень садавінай, а ўзімку смольнай хвояй з Сумліцкіх лясоў. Але прысынкаўскія пахі гэтым не канчаліся. З канца сакавіка і па май месяц тут трымаўся пах, які ў кожнага новага чалавека неміласэрна гнаў сліну. Бадай-што на кожным агародзе курылася вяндлярня, і дух ад венджаных шынак, каўбас, паляндвіц і сальцэсонаў забіваў далікатную духмянасць яліны і хвоі на ўзлессях і лясных дарогах аж за некалькі кіламетраў ад Сумліч. Чым больш праходзіла часу, тым больш Прысынак тануў у гушчырні дрэў і больш абрастаў садамі, агародамі, кветнікамі, выцягваўся ў поле загарадзямі, сцежкамі і прыбудовамі. І ўсе прысынкаўцы заўсёды былі на воку адзін у другога. Відзён быў заўсёды павольны і разважлівы Міхал Сцяпура, цягавіты, працавіты, спакойны, сталы, удумлівы, заўсёды схільны ўміліцца душой над вялай ад спёкі травінай. То ён часаў бервяно, то дніў кадушку, то рабіў колы, то правіў загарадзь. Юзя Паступовіч стаў любіць сябрыну і кампанейства. Ён вельмі шкадаваў, што Сцяпура не курыць: у кампаніі з суседам ахватней курылася б. К гэтаму часу Целяфун стаў нейкі як бы па-дзіцячаму наіўны. Расказвалі пра яго, што ён мог цяпер добрую гадзіну прыглядацца да рухавай ад ветру аўсянай мяцёлкі і раптам, адумаўшыся, іrванyцца да якой-небудзь работы.

Што да Мікалая Хадыкі, то да таго часу, калі яго Максім у поўнай маладой сталасці з'явіўся ў Сумліцкім Прысынку, як ацэншчык усіх тут справаў і з'яваў, з старым

Хадыкам адбылася змена. Яго нянавісць да Сінябрыцкіх перавысіла ўсе межы. Раптам ён агледзеўся і жахнуўся: «Сінябрыцкі жыве на чужым і на гатовым, нават кала сам не зачасаў. Дык і я ж, як той пустадомак, так і асталося ўсё ў мяне не даведзенае да ладу: я не канчаў дому свайго, а збіраў грошы на Максімаву навуку, а Максім без грошай вучыцца». Хадыка ўстрапянуўся, як уражаны жахам. Быццам бы ўсяго і мэты было на свеце ў чалавека, каб не быць падобным да Папсуевага-Сінябрыцкага. Хадыка габляваў дошкі, заганяў цвікі, вычэсваў клінне, выпілоўваў штыкеты, акорваў жэрдкі, дзёўб пазы ў шуллі, умацоўваў карантышы на штылёх, падганяў ліштвы, прыстоліў сенцы і нават вешала прыбіў над ганкам. Якой дамавітасцю дыхнула цяпер ад яго рамесніцкай сялібы! Можна было падумаць, што Мікалай Хадыка раптам надумаўся вярнуць раней страчанае праз свае абібоцтва, так ён дзень пры дні стараўся каля дому, і дзіўна было, што не відно тут жанчыны. Такая на гэтага чалавека напала руплівасць, што, здавалася, ён абсеўся вялізарнай сям'іскаю, якая ўся і сядзіць на яго шыі. Тым часам явіўся і Максім. Ён даўно не быў у Сумлічах, нешта гадоў са два. Ён часта пісаў бацьку, але і з гэтых частых пісем відно было, што ён стаў скупейшы на слова. Яно і вядома, ён сталеў з ходам часу, і цяпер ужо бацька не пачуў бы ад яго наіўных тых словаў аб замілаванні, аб народзе, аб удалым выступленні на пачатку навучальнага года. Стары Хадыка хадзіў чытаць гэтыя пісьмы і да Сцяпуравай Ліды, і да Паступовічавай Вікці. Абедзве яны заўсёды пыталі яшчэ, а што так, без пісьма, чутно пра Максіма і чаму ён падоўгу не прыязджае. Бацька адчуваў, што яго Максім стаў перайначвацца, а як і што — не яму было ўцяміць. Даходзілі, праўда, чуткі, што Максім і адно і другое лета выязджаў кудысьці з Мінска. Ён і сам пісаў: «Выязджаю на цэлае лета ў экспедыцыю». У якую гэта «экспедыцыю»? І што такое «экспедыцыя»? Цяпер Максім прыехаў. Высокі, тонкі, смуглявы, у чорным гарнітуры, які на Прысынку здаўся ўсім шыкарным. Ён галіўся два разы на тыдзень, хоць і без пільнай патрэбы. Стары Хадыка наглядаў за ім і бачыў, што ён часта сядзе, паглыбіцца ў думкі і так сядзіць і гадзіну і дзве. Бацька не вытрымаў:

— Скажы ты мне, куды ты гэтыя леты ездзіў і на каго ж ты, урэшце, вучышся?

— Ездзіў я па ўсёй Беларусі вышукваць і глядзець помнікі і сляды беларускай гісторыі. Мне ўдалося далучыцца да дзяржаўнай экспедыцыі. Педагагічны тэхнікум я скончыў і ўжо маю права быць настаўнікам, хоць бы сабе і ў Сумлічах. (Ён ведаў патаемныя думкі бацькі і, любячы яго, сказаў апошнія словы.) Але я ўжо на першым курсе універсітэта. На гістарычным факультэце. Я хачу быць гісторыкам.

Бацька заўважыў, што сын ужо не выварочвае перад ім свае душы, а зніжаецца ў гаворцы да яго ўзроўню. І ён уздзякваў бога, што Максім вырас, і самастойны чалавек.

— А гарэлку ты п'еш? — сказаў Хадыка.

— П'ю,— адказаў Максім.

Бацька дастаў гарэлку, і з сынам удвух яны выпілі. Усю ноч пасля шчаслівае ўзбуджэнне не дало заснуць Мікалаю Хадыку. Адчуванне таго, што ніякі клопат не гняце яго, было ў яго. З таго дня Мікалай Хадыка пачаў інакш жыць, быццам ён дзеля самога сябе ніколі не жыў і цяпер, успомніўшы гэта, стараўся злавіць уцёклае. Смешна было б глядзець старонняму чалавеку. Хаваючыся ад Максіма, ён штодзень даставаў з поўнай збожжам кадушкі адпітага паўлітра і каштаваў гарэлку «нашча, на апетыт і на здароўе, бо жыць і не хварэць трэба доўгія гады, жыць добра стала». Максім пажыў у бацькі з месяц і паехаў. Бацька астаўся адзін. Выгляд яго нейк змяніўся. Ён стаў павальнейшы, цяслярскае работы не браў, а сталярскую выбіраў, каб не абы-якая, а тонкая, далікатная, і неўзабаве пачаў рабіць толькі мэблю, шуфляды аконныя, зрабіўся майстрам на веранды і ганкі. Вельмі можа быць, што з лёгкай Хадыкавай рукі сумлічане ўзялі моду будаваць дамкі з верандамі. Усе тыя гады мястэчка ўсё забудоўвалася. Усе сумліцкія веранды былі паробленыя Хадыкавымі рукамі. У яго ўжо і заваду не было той ранейшай патрэбы рабіць дзеля кавалка хлеба, і ён пачаў вымышляць: ужо і сталярства занядбаў, а стальмахом стаў: малатарні ставіў і млыны рабіў. Сваю хату ён перарабіў нанава. Сенцы і клець перасыпаў і пераімшыў, павырэзваў вокны, вымаляваў падлогу, і выйшлі два пакоі, і столь у хаце падняў па два вянкі. Пераставіў печы і ўсюды філянковыя дзверы. Ён ужо курыў добрыя гатунковыя папяросы, і ў яго абудзілася рэўнасць да славы свайго сына перад тымі, хто таксама сачыў за Максімам. Аднойчы Сцяпурава Ліда і Паступовічава Вікця прыйшлі да яго

з газетай. Адна перад другой навыперадкі яны сказалі:

— Пра Максіма.

І Ліда прачытала: «Малады гісторык, студэнт гістарычнага факультэта Максім Хадыка, зачытаў на навуковым гістарычным таварыстве даклад: «Помнікі беларускай гісторыі як паказчыкі вялікасці беларускага народа». Гэтыя дзяўчаты былі ўражаны тым, што знайшлі Максімава імя. І ў душы старога Хадыкі абудзілася рэўнасць. Ён выпісаў газету і кожны дзень чытаў, але больш як год не спаткаў там нічога пра Максіма, а там зноў быў падобны на той першы допіс. Ліда і Вікця часта прыходзілі да яго пытаць, што піша Максім, і чыталі яго пісьмы. Хадыка бачыў: абедзве яны любяць Максіма. І гэта была праўда. Вось якое месца занімаў Максім у душах гэтых дзяўчат. З імі ён бачыўся бадай штодзень, калі апошні раз быў у Сумлічах. Гады яго былі такія, што ён выехаў з Сумліч з сумам па іх абедзвюх, па ўсіх сумліцкіх дзяўчатах, па саміх Сумлічах, па сумліцкіх зорных ночах, летніх днях, бацькавай хаце і па ўсім тым, што кожную хвіліну магло ўразіць яго душу. Як ён паехаў, і Ліда і Вікця адчулі, кожная па-свойму, што ён быццам штосьці адарваў ад душы і павёз з сабою. Тым часам ішла восень, і дзень за днём беглі, і агледзецца цяжка было, як прыйшлі доўгія ночы. Гэта якраз і была тая восень, у якую Ліда ўпершыню засумавала, што ёй ужо не васемнаццаць год. Ёй не спалася начамі, але ж ёй і не гулялася разам з усімі сумліцкімі дзяўчатамі. І нават блізкая ёй, як сястра родная, Паступовічава Віктуся, не заходзіла па яе, каб разам ісці гуляць на мястэчка. Віктуся, калі не заўважала, то здагадвалася і адчувала, што Лідзіна душа неспакойная, што яна трывожыцца і мае непатрэбныя думкі. І чамусьці яна старалася, каб не сустракацца так, як раней, часта з Лідай, і ёй было нядобра глядзець сваёй старэйшай дружбоўцы ў вочы. Чаму? З чаго? З якой прычыны? Хіба гэта злачынства перад Лідай думаць пра Максіма Хадыку? Але тут якраз і выявілася вельмі выразна тое, што яны не роўныя гадамі, што адна з іх маладзейшая за другую на некалькі год. Вікця вельмі нядоўга была ў такім настроі і з лёгкім сэрцам ужо адна хадзіла на мястэчка, не прапускала іводнага танцавальнага вечара і самая першая ў Сумлічах пераняла таемную навіну: факстрот, які камсамолкі танцавалі ўкрадкам, каб ніхто не паглядзеў і каб не даведаліся ў райкоме.

Можна было падумаць, што Лідзе раптам вельмі спадабалася адзінота. Восень тая была ціхая і цёплая. Доўгімі начамі льга было выстаяць босаму ў тумане на мокрай зямлі і не мерзнуць. Ужо ўсё спустошвалася да зімы. Здавалася, што ўвесь Сумліцкі Прысынак засыпаўся жоўтым і чорным лісцем з ігруш і яблынь. Мокрая саломіна з пустым коласам звісала дзе-небудзь з-пад страхі і як бы сведчыла, што парадку ў сялібе і ў полі не будзе аж пакуль не падзьме веснавы вецер. Босая, у кароткай ватоўцы, у гаматной вялікай хустцы на галаве, Ліда вельмі часта заседжвалася адна на лаўцы пад ігрушамі ў глыбіні двара. Часамі з задумёнасці яе выводзілі першыя пеўні. Яна ўваходзіла ў сонную хату і запальвала лямпу і яшчэ і тут сядзела доўга, тады бацька казаў ёй:

— Чаму ты ўсім як ёсць ганьбу даеш. Табе ж ужо, сказаць, на трыццаць год ідзе.

Раз яна яму адказала на гэта горача і злосна:

— А што ж, мне не даваць ім ганьбы?! Можа, мне за гэтага Папсуйчыка пайсці, якога ўсе людзі знявідзелі? А можа, за Антося Трундзіцкага, які дзесятае слова стараецца на польскі лад выгаварыць? Ці, можа, за Ахрэма Цівунчыка, што з скуры лезе, каб не быць так сабе чалавекам, а каб начальнікам, хоць дзе ў пажарнай дружыне, абы камандаваць, а не жыць з людзьмі. Мне гадка глядзець на яго гэтую кіраўнічую зялёную рубашку з раменным поясам! Ці, можа, за Юліка Гультая?

— Нашто ж ты Юліка Гультая сюды прыплятаеш? Ён адзін, а каля яго паўсотні да цябе сватаюцца. А Віктар Цяслёнак?

— А Віктар, а Віктар!..

Яна нічога не магла сказаць на Віктара Цяслёнка, і гэта было ёй тым горш і балючай.

Што да Віктусі, то нейк так ішлося, што яна ўсё больш аддалялася ад Ліды і нейк зыначвалася. Падыходзілі і ў яе гады да спелай маладосці, і нават больш. Ці даўно яшчэ Віктуся, вёрткі падлетак, ганяла прутам гусей па ржышчы, а гэта, хоць і да факстрота была падкая, але і хада яе ўжо набывала сталую роўнасць. Але і гэта ўсё — як каму здаецца. Некаторыя казалі, што Віктуся ў гэтыя гады стала не тое што легкадумнай (глыбакадумнай яна ніколі не магла дагэтуль быць, бо толькі цяпер вырасла), але заўважалася, што яна як бы цалкам належыць да [1]

[1] На гэтым рукапіс абрываецца.

# ЛЯВОНЧЫКАВА ЛІДА І ЯКУБАЎСКІ КАРЧМАР СЫМОН БІРУЛЯ

*(Аповесць)*

## I

Мястэчка Якубавічы стаіць на вялікай Мінскай дарозе, якая ідзе з Навагрудчыны праз Нясвіж, Качановічы і Салтанаўшчыну і выкіроўваецца на Мінск праз Капыль, Веравоз, Пырашава і Самахвалавічы. Якубаўскія вуліцы найбольш абстаўлены платамі і дрэвамі і найменш дамамі і хатамі. Тут толькі і ёсць адна густа забудованая вуліца, шырокая і людная, але ў пэўным сэнсе. Гэтая вуліца і ёсць тая самая Мінская дарога. Садамі, агародамі і дамкамі з маляванымі вокнамі гэтая вуліца выходзіць далёка за мястэчка. У выгараджаных перад вокнамі кветніках тут усё лета цвітуць кракосы, аксаміты, вішнёвы сляз, дзіванна і мальвы. Тут, на выездзе далей у Мінскую дарогу, многа дрэў, неба і паветра. Цераз рэчку Мажу тут ёсць мост з плацінай, і млынавыя колы грукочуць бесперапынна. Гэтае месца ў мястэчку называецца Якубаўская карчма.

Мінская дарога была язджалая. Раней па ёй густа стаялі карчмы, і ў іх не змаўкала людская гамана. Карчмы даўно мінуліся, дзеці і ўнукі колішніх балаголаў і вазюроў сталі калгаснікамі. Па Мінскай дарозе пайшлі грузавікі і аўтобусы, але аб карчмах успамінаюць, хоць бы сабе з бацькоўскіх апавяданняў. Што да назвы Якубаўскага прысёлка, то тут і сапраўды-такі стаяў карчомны будынак. Хата і стадола, па самым выездзе ў дарогу, трымаліся яшчэ да самай Вялікай Айчыннай вайны, і крывавая драма, якая адбылася тут першым тыднем вайны, аддалася болем у чалавечых душах па ўсім шырокім якубаўскім наваколлі.

Расказваюць, што яшчэ год за пятнаццаць да імперыялістычнай вайны 1914—1918 гадоў у Якубавічах з'явіўся быў нейкі карчмар, паставіў тут хату і пры ёй стадолу, і год за годам гэтае месца перахрысцілася на карчомнае

імя. Гаспадарлівыя рукі давалі час ад часу карчомным сценам добры рамонт, і яны трымаліся як мае быць, хоць на іхнім даху і расла густа лебяда і рыжы шчаўлюк. Стадола пры хаце скрывілася на падгнілым шуллі і стаяла гарбатая. Замест ганка пры хаце ляжаў расколены напалам і складзены роўна млынавы камень, з круглай дзіркі якога рос пук травы. Апошнія год дзесяць Якубаўская карчма не была ўжо канцавым будынкам. За ёю ў дарогу стала за тыя гады больш як трыццаць новых хат і дамоў. Так шырацца з часам мястэчкі.

Апошні гаспадар гэтай карчмы быў нейкі Сымон Біруля. Яго ўспамінаюць і цяпер. Родам ён быў аднекуль з-пад Слоніма. Відаць было, што з замаладу чалавек гэты быў рухавы і натуру меў упартую, але не зусім ураўнаважаную. Трэба думаць, што яна выпрацавалася пад уплывам таго, што ён многа кідаўся па свеце, пакуль дапасці да Якубаўскай карчмы. Быў ён ужо не тое што не малады, а нават больш таго, калі яго ўпершыню ўбачылі якубаўцы. З'явіўся ён у Якубавічы адзінокі, і ўсе пачалі думаць, што ён халасцяк. Гэтаму халасцяку было год пад пяцьдзесят, калі не пад усе пяцьдзесят два. Можа, і праўду казалі некаторыя, што нешта такое ў жыцці яму не ўдалося. Ён быў занадта высокі ростам, светлага воласу над вушамі і на патыліцы, а на версе галавы лысы. З гаворкі павольны, хадою сталы. Здавалася, што паходка яго ўнурыстая, і ён як бы ведаў тую праўду, што на свеце няма куды спяшацца. Але гэта зверху здавалася. Наглядальныя людзі заўважалі, што душа ў яго не на месцы і ў неспакоі. Да карчмара ён быў мала падобен. Карчмар жа павінен быць увішны і рухавы. Век-вечны карчмарова сталасць выяўлялася праз яго трапятлівасць. А гэты больш меў падабенства на працавіка з сякерай ці з цэпам. Які гэта быў карчмар, калі ён хадзіў па суседзях пазычаць усялякай хатняй драбязы. І хіба можа карчмар быць адзін, як травіна ў кучы камення? Гэта ўсе так казалі пра Сымона Бірулю якубаўцы.

Ён явіўся ў Якубавічы ў часы польскай акупацыі дзевятнаццатага года. Што яго сюды прывяло, ніхто нічога не ведаў. Спачатку ён начаваў па людзях і, відаць, не меў у думках таго, каб стаць карчмаром. Але тут наладзілася справа з карчмою. Якубаўскі карчмар Давыд Фіялка надумаўся назаўсёды выехаць у Амерыку, каб там жыць лепей, як тут, і каб добра там аддаць замуж шасцярых

дачок за багатых амерыканцаў, якія мелі якубаўскія прозвішчы і якубаўскі акцэнт у сваёй амерыканскай гаворцы. Сымон Біруля адкупіў у гэтага Давыда Фіялкі карчму. Усё выйшла раптоўна і выпадкова. Відаць, што Сымон Біруля і тут кідаўся ў пошуках сабе прыпірышча на жыццё. Заплаціў ён за карчму польскімі маркамі, з чаго ўсе і падумалі, што гэты чалавек мусіць-такі меў недзе там пад Слонімам грашовы прыбытак. А ўрэшце, і так думалі: час такі, што ўсё на свеце круціцца, варочаецца. Войны, акупацыі, выгнанне паноў з маёнткаў, частыя змены ўлады. Пранырлівы ахвотнік лавіць рыбу ў каламутнай вадзе — дзіва што мог дастаць не тое што польскіх, а можа, якіх і эфіопскіх грошай. Але ж Сымон Біруля аніяк не быў падобен да такога ўвішнога рыбалоўца. Людзі пагаварылі і замоўклі. У кожнага хапала і сваіх інтарэсаў. Сымон Біруля жыў адзін. Карчма яго запуставала неўзабаве. Наконт гэтай карчмы прайшла такая пагаласка: добраму чалавеку начаваць у карчме, то няйначай трэба выпіць там бутэльку гарэлкі. А ў Бірулі толькі пустыя сцены, дзе ад дажджу схаваешся, і ўсё па ўсім. Людзі там мала калі спыняліся. Казалі: «Лепш я дам кругу, аб'еду Якубавічы і падначую ў Кукавічах. У кукавіцкага карчмара Шымкі Менакера і ў вялікі пост марцыпанаў дастанеш. Так што жывот будзе як пук цалюткую ноч. Адно крактацьмеш да раніцы». Трэба думаць, што Сымон Біруля невялікі меў прыбытак з свае карчмы. Калі яшчэ і нагул ён калі-небудзь думаў жыць з карчмы. Нарэшце карчомная стадола зусім зачынілася. Тут ужо была паважнейшая прычына, куды большая за асаблівасці Якубаўскай карчмы. Так праз год пасля таго як Сымон Біруля астаўся ў Якубавічах, у тых месцах прайшла польская граніца. Уся мясцовасць стала як да сцяны прыпёртая. Рух на дарогах спыніўся. Яшчэ і раней людзі заўважалі, што нешта невядомае нікому точыць Бірулеву душу. Тым часам Біруля агледзеўся, што годы праходзяць, і волас над вухам пасівеў, і жыццё марнуецца ў адзіноце, бяздзетнасці, без жаночых рук і без жаночага голасу каля яго. Усё гэта так расказваюць якубаўцы. Тут якраз Сымон Біруля заўважыў адну якубаўскую асобу, якая аніяк не падыходзіла яму да пары. Ёй было тады нешта ўсяго год пад дваццаць два. Гэта было ўжо тады, калі граніца каля Якубавіч стаяла гадоў два. Тая асоба звалася Ліда і прозвішча мела — Лявончык. Яна была дачка якубчаніна

Юрася Лявончыка. Пяцьдзесят год, а можа, і больш, Сымону Бірулю і год дваццаць два Лявончыкавай Лідзе! Што гэта быў за злы такі лёс!

## II

Юрась Лявончык быў з маладых год прымак у Якубавічах, а родам з таго Слаўкава, што пад самым горадам Нясвіжам. У Слаўкаве, на бацькаўшчыне, жыў яго родны брат Юзік Лявончык, намнога маладзейшы за Юрася, і чалавек вясёлы, гаварлівы, рухавы, вялікі трапятун і чмут. У часы імперыялістычнай вайны Ліда і жыла ў гэтага свайго слаўкаўскага дзядзькі. Бацька яе, Юрась Лявончык, быў на вайне, а яна была адзіная ў яго дачка. Маці памерла яшчэ да вайны, і, як бацька пайшоў у войска, яна, недарослы яшчэ падлетак, асталася ў Якубавічах адна. Прыехаў дзядзька з Слаўкава і забраў яе. А тым часам Юрась Лявончык не падаваў з войска аніякай весткі. Да канца вайны і пачатку рэвалюцыі Ліда вырасла, і ўжо аб яе прывабным харастве пачалі гаварыць на ўвесь Нясвіж. Казалі, што ў Слаўкаве жыве ў Лявончыка пляменніца, якая не мае тут да сябе падобных. Можа, нясвіжскія маладыя франты тут і перабольшвалі справу, аднак жа гэта вельмі прыйшлося даспадобы дзядзьку Юзіку Лявончыку. Ён пастараўся, каб пачалі гаварыць і аб талентах яго пляменніцы. Не думаючы аб прыгажосці твару і постаці свае пляменніцы, аб добрасці яе душы і сталасці натуры, ён прыдумаў ёй іншыя таленты. Ён меў прывычку бадай-што кожную нядзелю людзець у Нясвіжы на рынку або ў піўнушцы Навума Гаха на рагу Задамені Качскай і Міхаліскай вуліц. Раз ён купіў блакітную сурвэту ў мануфактурным магазіне і, п'ючы ў Навума Гаха піва, паказваў усім і хваліўся, што сурвэту выткала яго пляменніца. Знайшліся такія прастачкі, што паверылі яму. Як бы там ні было, праз колькі дзён да яго ў Слаўкава явіўся на паракопным возе вусаты шляхціц аж з-пад Клецка. Воз у яго быў напакаваны ніткамі — талькі і клубкі белага льну і тонкага прадзіва. Напрамілы бог ён прасіў Ліду, каб яна наткала яму сурвэт. Яна бажылася і клялася, што ніколі і чаўнака ў руках не трымала. Вусаты не верыў і да самага вечара ад паўдня ўгаварваў Ліду і яе дзядзьку. На гэтую фацэцыю сышлося ўсё Слаўкава. Падняўся гармідар і рогат. Абсмеяны шляхціц вылаяў з апошніх слоў Юзіка Лявончыка за кплівую выдумку і шпаркім тэмпам выехаў

з двара, чуючы, як Лявончык на адно слова лаянкі сыпаў яму дзесяць наўздагон. Лявончык быў майстра на слова, так што вусаты, пакуль даехаў да канца вуліцы, разоў пяць адказваў крыклівай лаянкай, не могучы вытрымаць. Рогат стаяў па ўсёй вуліцы, і Ліда не ведала, дзе дзецца ад сораму. Ужо ўвечары дзядзька адумаўся, што ссарамаціў на ўвесь свет сваю пляменніцу. Нічога іншага Ліда прыдумаць не магла, як сказала дзядзьку, што вернецца ў бацькоўскую хату ў Якубавічы. Юзік Лявончык падумаў, што на гэты час яно так і лепш будзе. Апроч усяго іншага трэба было і якубаўскую хату давесці да парадку. Бадай-што ўвесь час вайны яна прастаяла з забітымі вокнамі і дзвярыма. А цяпер надышоў іншы час. Быў красавік месяц семнаццатага года, і якраз у тыя дні прыйшло пісьмо ад Юрася Лявончыка. Лідзін бацька пісаў, што перад самым канцом вайны ён на фронце атруціўся нямецкімі газамі і ляжыць у шпіталі. Ні Ліда, ні дзядзька Юзік не ўяўлялі сабе, што значыць «атруціцца газамі». Прычына для вялікай іх радасці была тая, што бацька і брат жыве і абазваўся пісьмом. Вайны ўжо няма, а шпіталь давядзе яго да парадку, і ён павінен неўзабаве з'явіцца дадому. Так думалі яны. Маленькая непрыемнасць з блакітнаю сурвэтаю забылася. Цяпер ужо адна думка была ў Ліды: хата доўга пуставала, і яна давядзе хату да такога стану, каб бацька, пасля вайны і шпіталя, знайшоў тут прыемнасць, спакой і шчасце. Ліда цяпер і ўявіць не магла, які́м стаў да гэтага часу бацька. Так, як і ён, напэўна, уявіць цяпер не мог, якая стала яго Ліда. Ён яе пакінуў яшчэ малою. Нездарма дзядзька адразу забраў яе да сябе. За час вайны яна вырасла ў дзядзькі. Трывожнай радасцю калацілася яе сэрца, калі яна думала, што набліжаецца тая часіна, калі бацька будзе дома. Што ж да дзядзькі Юзіка Лявончыка, то гэты радаваўся яшчэ і з іншых прычын. Час быў такі, што ўсе вазілі сабе на новую будоўлю дрэва з панскіх лясоў і дзялілі зямлю. Ён меркаваў так: удвух з братам ім лягчэй будзе ставіць новыя хаты. Раней аднаму, а потым другому.

Хата ў Якубавічах была заўсёды ў доглядзе, але вельмі малая. Трэба думаць, што Юрась Лявончык не ад вялікага дабра пайшоў на такое прымацтва. У Слаўкаве бацькаўшчына была бедная на двух братоў. У Якубавічах былі паўтары дзесяціны зямлі і хата. Хата стаяла якраз побач той карчмы, пры выездзе з мястэчка ў Мінскую

дарогу. Пры хаце быў сад, пасаджаны ўжо Юрасём Лявончыкам. Сад гэты межаваўся з карчомным агародам. Вязы, дубы, ясені, таполі, бярозы і явары раслі тут усюды: і пры карчме, і пры хаце, і па ўсіх якубаўскіх вуліцах. У хаце замест падлогі быў ток з гліны. З вокан цераз вуліцу відзён лес. Цяглыя хвоі ішлі высока ў неба. Праз усе гады вайны Ліда час ад часу прыходзіла пехатой у Якубавічы глядзець хаты. Усё было на месцы: дошкі на вокнах і вільготны змрок у пуні. Першы раз яна прыйшла сюды з Слаўкава малым вастраплечым падлеткам. Цяпер явілася паўналетняй дзяўчынай. Нешта з паўгода яе не бачылі суседзі якубаўцы і пасыходзіліся пад хату. Перад імі была сталая і разважлівая асоба. Яна была павольная хадою і асмуглая тварам. Цяпер ужо льга было думаць аб ёй, як аб закончанай натуры. Усе заўважылі, што яна не вельмі шчодрая на слова. Вельмі магло быць, што яна была поўная думак аб бацьку, аб яго прыходзе, аб сваёй адзіноце тут, пакуль ён вернецца. Яна не магла не думаць і аб мінулым. Усё ж такі яна памятала смерць свае маці, а адыход бацькі на вайну аніяк не выветрываўся з яе жывога ўяўлення.

Але тут трэба сказаць, што вясёлая натура слаўкаўскага дзядзькі вьратавала яе ад непатрэбнай у яе гады задумёнасці. У дзядзькі было тры дачкі — Ева, Галена і Агата. І яны, і Ліда з імі, бадай-што кожны дзень, калі бацька быў у хаце, аж канчаліся з рогату. Юзік Лявончык быў такі чалавек, што нават мушынае бзыканне мог зрабіць прычынай для рогату. Так, як у шпіталях і дамах для адпачынку «мёртвая гадзіна» пасля абеду, так у яго была штодзённая «гадзіна рогату» перад вячэрай. Ён рассмешваў сваіх дачок і пляменніцу і словам і ўсялякай выдумкай. Ліда магла быць удзячная яму за што-нішто ў сваім маленстве і маладосці. Пасля, калі яна доўгія гады не бачыла яго і нічога не ведала аб крывавай бядзе, што ўпала на яго галаву, яна мела перад сваімі вачыма яго вобраз і рвалася да яго душой, таксама, як і да іншых, блізкіх ёй людзей. Але аб гэтым будзе расказана ў сваім месцы.

Ліда сказала суседзям, што ёсць пісьмо ад бацькі і яна чакае яго хутка. Мужчыны паадрывалі дошкі ад вокан і дзвярэй, агледзелі хату і доўга гаварылі, што сцены пачалі трухлець. І сам добры лёс паслаў такі час, што паны пазнікалі і просты чалавек можа хоць дзве хаты ставіць

з новага дрэва. Чатыры дні Ліда наводзіла парадкі ў хаце. Біла з гліны новы ток, бяліла сцены і мыла вокны і дзверы. На пяты дзень усё было гатова, і якраз у той дзень явілася самая маладзейшая з трох дзядзькавых дачок Ева. Яна прыехала ў высланым саломаю возе і не так сабе, а з пільнымі справамі і важнымі навінамі. Ліда і Ева, хоць не бачыліся ўсяго пяць дзён, але абняліся і пацалаваліся. І першая задала такі тон Ева. Адразу пасля гэтага пацалунку яна акінула вачыма Лідзіну хату і пачала гаварыць не сціхаючы:

— Я ж першы раз у тваёй хаце. Калі ты явілася ў Слаўкава, мы з табой былі яшчэ малыя. Вельмі ж цесная хата. І падлогі няма. Але пабяліла добра. Вапнаю ці мелам? Гэта ж усяго асталося тры дні да вялікадня. Каб ты ведала, чаго я прыехала? Ой, колькі ўсяго нарабілася за гэтыя пяць дзён, як ты пайшла сюды! Бацька мне сёння зранку кажа: ты паедзеш, кажа, забраць і прывезці Ліду... А ты ведаеш, што мой бацька спіў цябе ўчора? А на раніцу трывожыўся, хаця каб у цябе ўсё добра тут было. Ён цябе вельмі любіць. А ты ведаеш, нашто ты патрэбна ў Слаўкаве? Пазаўчора ўсё ўжо дайшло да ладу з Галенай і Агатай. Жаніхі з'явіліся на адным возе. Як мае быць дагаварыліся да ладу, і сам бацька назначыў вяселле адразу пасля вялікадня. Два шлюбы разам.

— Жаніхі тыя?

— Тыя самыя. Адзін з Вызны, другі з Семежава. І так папасохлі яны. Агаце і Галене ўсё яшчэ рана было ісці замуж. А ты ведаеш? Ой, колькі на вялікодныя дні вяселляў назначана!

Ліда была рада Еве. Яны былі аднагодкі і першую пару свайго юнацтва спаткалі разам. Апроч жа таго, абедзве яны, хоць складам натуры і не былі падобны адна на другую, але многа яны перагаварылі ўжо аб Лідзіным бацьку і яго прыходзе дадому. Пяць дзён адзіноты вывелі на паверхню Лідзінай душы тую схільнасць да сумнай задумёнасці, што пачала апаноўваць яе з часу доўгага бацькавага маўчання з вайны. Евіна з'яўленне ажывіла Ліду і ўвяло яе ў стан роўнай і шчаслівай настраёвасці. Седзячы поплеч, яны прагаварылі да першых прыцемкаў, і Ева раптам устрапянулася:

— Ой, вечар пахапіўся! А бацька і казаў мне: будзеш начаваць у Якубавічах, бо ты не нагаворышся, каб сёння вярнуцца. Ого, ён маю натуру ведае.

І Ева зарагатала. Шумлівая і праз меру рухавая, яна павяла за сабой ціхую і скупую на слова Ліду. Удзвёх яны напаілі і паставілі нанач к сену каня, запалілі ў хаце агонь, вячэралі, слалі пасцелі, сядзелі на лаве, і ўвесь час не сціхала Евіна гаворка. Многа разоў яна сказала Лідзе, што бацька выправіў яе сюды, бо «як жа ён можа аддаць замуж Галену і Агату, калі на вяселлі не будзе мілай, слаўнай, добрай, роднай Ліды». Можна было падумаць, што Юзік Лявончык носіць у душы сваёй вялікае як свет замілаванне да свае пляменніцы, якая ў гэты час жыла чаканнем свайго бацькі і рыхтавалася да яго спаткання. Ева ўсё гаварыла і гаварыла. Яна не думала пра тое, што Ліда і сама ведае ўсё тое, пра што яна гаварыла. Яна рысавала цэлую аповесць аб тым месцы, дзе яна вырасла і жыла і якое любіла. Яна сабе, каб прыйшлося, і ўявіць не магла б, дзе інакш яна магла б жыць, як не тут, недзе поблізу горада Нясвіжы, дзе яна пазнала свет, дзе бацька яе Юзік Лявончык так заўсёды хваліў зямлю, на якой так усё добра расце, хваліў дарогі і лясы, рэчкі і краявіды, зіхаценне лета і зорнае неба ўночы. Ева піла асалоду ад свае ўласнае гаворкі. Гэтулькі было ўсяго важнага, цікавага і новага! Вырысоўвалася карціна жыцця таго кутка ў тыя месяцы і дні.

У той час вельмі многа тут было вяселляў. Жаніліся хлопцы і ўдаўцы, ішлі замуж дзяўчаты і ўдовы. Адразу пажаніліся ўсе халасцякі, што павярочаліся з вайны. Жаніўся той, хто не меў раней, на чым заводзіць сям'ю. Усюды рэзалі сабе з маёнткаў зямлю, вазілі з лясоў дрэва, ставілі новыя хаты і жаніліся. Аркестры, нават і далёкія, браліся нарасхват. Музыканты пасліваліся самагонкай і пааб'ядаліся каўбасамі. Гарбаты Шпільберг з Нясвіжа збіўся з ног разам з сваім аркестрам. Хоць вайна была нядаўна, але жаніцца было каму. Ужо нават за гэты кароткі час колькі паспела дзяцей нарадзіцца! Нават як бы і дзяўчат тут не хапала. Адзін качаноўскі хлопец узяў сабе жонку аж з Уздзенскага прысынку. Дзеўка з Лечашына пайшла замуж аж у Смалічы пад Вызнаю. Адзін хлопец з Раткава як вецер насіўся па свеце, дабіраючы сабе дзяўчыну да пары. Быў ён нават аж у Койданаве, а пасля ў Еўлічах пад Слуцкам. Ездзіў на Вусу, зазірнуў у Лувяны, адтуль адразу рушыў у Семежава, а нарэшце ўзяў сваю раткаўскую і прызнаў, што лепшай за яе на свеце няма.

Аж вочы ў Евы свяціліся і як бы палалі полымем, так яна сама захапілася сваёй гаворкай.

У Лазавічах Мацей Кедыш ставіць сабе хату на сем вокан. Гэта дом, а не хата! У Салтанаўшчыне ўжо вырасла новая вуліца... Тут раптам Ева нахілілася Лідзе да вуха і акінула вачыма хату. Можна было падумаць, што ў хаце поўна людзей, якія толькі і стараюцца выслухаць усе Евіны сакрэты. Слабым шэптам Ева прагаварыла Лідзе ў вуха:

— А мой усё просіцца, каб хутчэй жаніцца, а мне страшна.

Шэпт быў такі ціхі, што Ліда нічога не пачула. Некалькі разоў яна прыпадала вухам да Евіных губ, а тая ўсё зніжала шэпт. А калі нарэшце Ліда пачула і збянтэжылася, расчырвоненая тварам Ева вельмі моцна пачала зноў гаварыць, як быццам бы ўжо мінуў страх, што яе падслухаюць непатрэбныя тут людзі:

— І ён ужо навазіў дрэва на хату. Але яму цяжэй, бо ў яго нічога не было. Ведама, бацька яго быў небагаты.

Тон гаворкі цяпер пайшоў другі, і Ліда пасмялела.

— А хто ён такі? — запытала Ліда.

— А ты хіба не ведаеш яго?

— Не ведаю.

— Рыгор. Чаму ж я пра твайго ведаю.

Ліда як анямела. Яна пачала глядзець сабе на калені і больш не абазвалася ні словам. Гэтая Ева ўсё ведала. Жаночым сваім чуццём яна аб усім магла дазнацца і сваімі пільнымі вачыма ўсё ўбачыць. Яна і не заўважала Лідзінай збянтэжанасці.

— Але, можа, ты нічога і не ведаеш! Ой, як яно ўсё сыходзіцца! Гэта ж Рыгор далёкі сваяк Антону. Бо Антонаў бацька таксама з Лазавіч, а ў Слаўкаве ў прымах... А я, калі ўпершыню дазналася, якое ў Рыгора прозвішча, дык, можа, з гадзіну рагатала. Лідачка, яго прозвішча — Ваўністы.

І Ева зарагатала.

— Мой Рыгор Ваўністы з тваім Антонам Сцяпурам сваякі!

І зноў рагатала. Маладая і шчаслівая з таго, што ўсё на свеце такое, якое яно ёсць. Ліда толькі цяпер пачала здагадвацца, што гэта ўсё значыць. Збянтэжаная, яна ўсё глядзела па свае калені, і, дзіўная рэч, беспярапынна

струмень жывой Евінай гаворкі паглыбілі яе ў задуменнасць. Трывога аб бацьку тачыла ёй душу. Ева прыціснулася да яе плячом і так прагаварыла да паўночы. Бурным струменем ірвалася яе аповесць аб усім малым і простым, што рабілася вялікім зместам цікавага жыцця.

## III

Рыгор Ваўністы з Лазавіч быў вельмі малады хлопец і спрактыкаваны ў жыцці, як самы сталы чалавек. Можна сказаць, змалку дзён ён налажыўся пры бацьку капаць калодзежы, і, як бацька памёр у старасці незадоўга да рэвалюцыі, ён пайшоў па людзях адзін як майстар калодзежнай справы. Яму давалі людзей, ён сталым тонам і павольным словам камандаваў імі, сам, як мядзведзь, вярнуў зямлю і бярвенне, і калодзежы славіліся на вялікую акругу. Вольным часам ён любіў перад людзьмі гаварыць, дзе ў якім месцы блізка вада, а ў якім глыбока, так што і дакапацца да яе цяжка. Пад Навагрудкам калодзежы глыбейшыя, як пад Мінскам. Самы разгар яго юнацтва прыпаў на першыя часы рэвалюцыі. Да гэтага часу ён быў такі сталы і спрактыкаваны, як не дакажа і стары каторы. Але ён быў малады, можа, нават і занадта на сваю цягавітую працавітасць і роўную ўсталяванасць натуры. Дзень пры дні яго бачылі за якой-небудзь работай. Да трацяка зямлі, які пакінуў яму бацька, ён дарэзаў яшчэ з панскага маёнтка і пачаў будавацца. Ён выбіраўся на прастору з вузкага пляцу: ставіў хату на сваім палетку ў канцы вёскі, вокнамі на вялікую Мінскую дарогу, што ішла на Якубавічы. Яго апаноўвала думка і ператваралася ў мару: хутчэй забудавацца і жыць у гэтым месцы, дзе дубы і вязы, як горы, стаяць на скрыжаванні Мінскай і Слуцкай дарог. Ён яшчэ перажываў у сваёй душы шчасце, што была на свеце Ева з Слаўкава. Ён капаў у Слаўкаве калодзеж і ўбачыў Еву. Ужо ў той жа дзень ён пачаў думаць, што дзеля яе варта аддаць усё самае лепшае і дарагое. Ад Лазавіч да Слаўкава будзе кіламетраў пад дваццаць, але ён пачаў аставацца ў Слаўкаве пасля дзённай работы і за поўнач сядзеў з Евай пад вокнамі Лявончыкавай хаты. За ноч ён мог паспець нагаварыцца з Евай, вярнуцца ў Лазавічы, паспаць, а гадзін з дзесяці дня зноў быць у Слаўкаве на рабоце. Здавалася, што ён не ведаў стомы. Упартай вытрыманасцю ён дамогся таго, што прастадуш-

ная Ева напоўнілася марай аб вялікай радасці век-вечны быць з ім у новай хаце, з вакон якой відна вялікая дарога, прастор зямлі і прывабнасці лесу, мноства дрэў і вышыня неба. Да Ліды цяпер яна не ехала адразу як вяла дарога, а зрабіла круг і праехала праз Лазавічы. Губы яе прашапталі ўзбуджана: «Божа, літасцівы». Ён і яшчэ нейкі незнаёмы чалавек з ім працавалі з сякерамі. Яны якраз клалі першае бервяно на трэці вянок. Ён быў шырокі ў плячах і моцны на нагах. Маўклівая сабранасць усіх рыс яго твару сведчыла аб тым, што ён думае, каб як лепш выбраць паз і шчыльней дагнаць бервяно да бервяна. Быццам электрычны ток праняў яго. Ён падняў вочы і ўбачыў, што яна ехала на выезд з Лазавіч. Ён нешта сказаў свайму паплечніку і падсеў да яе на воз. Бадай-што да самых Якубавіч ён ехаў з ёю. Здавалася, што ён гатоў дзякаваць увесь свет за яе здагадлівасць, што яна выбрала гэтую дарогу. Абое яны трымалі адны лейцы ў чатыры рукі, сціскалі і гладзілі адзін аднаму рукі. Ён сказаў ёй, што ўвосень іх хата будзе як мае быць гатова. Ён так і сказаў «наша хата» і пайшоў шпарка назад, а ёй пачало здавацца, што ўвесь свет спявае ў шмат галасоў песню.

Ужо было за поўнач, як Ліда і Ева пакладіся спаць. Пакуль яны паснулі, ужо спявалі трэція пеўні. Ева, ужо зусім сонная, канчала сваю аповесць словамі аб харастве і прывабнасці таго месца, дзе Рыгор Ваўністы ставіць хату. Можна было падумаць, слухаючы яе, што там нейкая казка, а не свет з зямлёю і небам, з травою і лесам, з начамі і днямі, з сонцам, ветрам і дажджом. Што ж да Ліды, то яна заснула з незразумелай трывогай. У гэтыя хвіліны яна прагла душой быць пры дзядзьку Юзіку Лявончыку і расказаць яму аб сваёй трывозе. Вельмі можа быць, што так дрэнна падзейнічала на яе пяцідзённая адзінота ў бацькаўскай хаце, ад якой яна ўжо адвыкла.

Як бы насуперак таму, што трымала ў сваёй душы і чым радавалася Ева, Ліда, як штосьці нядобрае, чаго трэба баяцца, гнала ад сябе думку «аб ім». Значыцца, не настаў яшчэ ёй гэты момант. Тут можна было б так нарысаваць гэтыя яе адчуванні. Калі бацька Юрась Лявончык ішоў на вайну, яна была яшчэ малая. На развітанне ён трымаў яе на руках. Цяпер бацька неўзабаве з'явіцца дадому. Адышоў у вечнасць той час, калі бацька мог браць яе на рукі. Але ёй здавалася новым і дзіўным: як жа яна

пакажацца бацьку ўжо зусім дарослая. Пераход яе маленства ў юнацтва адбыўся без бацькі. Яна як бы хацела да бацькавага прыходу як найбольш захаваць у сабе рыс ад свайго мінулага маленства. Гэта было складанае адчуванне. Не тое што яна баялася Антона Сцяпуры, а старалася як найменш сустракацца з ім. Што ж да яго, то ён прагнуў хоць заўсёды бачыць яе.

Гэта была натура, схільная да ўпартых пошукаў аднаго-адзінага пачатку і сэнсу ўсяго, што толькі было і адбывалася. Такога чалавека можа апанаваць якая-небудзь думка. Яна не адступае ад чалавека і ператвараецца ў ідэю і цягне чалавека на вялікія ўчынкі. Антон Сцяпура быў у тыя гады такі ж малады, як і Ліда, як і Ева. Ён быў сын слаўкаўскага палавінніка на чужой зямлі. Бацька яго праз увесь свой век рабіў на палавіну ўраджаю чужую зямлю, і з гэтай прычыны ўвесь час яго тачыла думка: які талент ён дасць у рукі свайму сыну? Зямлі няма. Дык на чым жа сын будзе жыць? І вось бацьку прыйшла ў галаву думка «даць сыну навуку». Так яно ўсё і ішлося, што самая лепшая навука была б Антону ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Беднаму чалавеку гэта і грошай каштаваць не будзе, і ад дому блізка. Слова «ад дому» тут умоўнае. Бо палавіннік Сцяпура заўсёды жыў у хаце таго, каму рабіў поле. Але да Слаўкава ён прывык здаўных. Гады яго сыну падышлі такія, што калі адбылася вялікая рэвалюцыя, Антону аставаўся толькі адзін год, каб скончыць настаўніцкую семінарыю і мець права быць сельскім настаўнікам. Але гэта было як бы знадворным бокам усёй справы. Самае важнае было ў тых акалічнасцях, якія павялі гэтую натуру на зусім своеасаблівы шлях сярод тых простых і добрых людзей, да якіх Антон Сцяпура меў штодзённае дачыненне. Навука ў настаўніцкай семінарыі не была высокая. Зор з неба яна не даставала. Яе хапала толькі на тое, каб яе выхаванец умеў добра навучаць вясковых дзяцей быць пісьменнымі. Аднак жа Антон Сцяпура спеласць свайго юнацтва спаткаў з даволі-такі не кепскімі ведамі ў некаторых галінах навукі і асабліва літаратуры. Вядома, ён даходзіў да гэтага не праз ласку сваіх семінарскіх настаўнікаў. Семінарыя давала яму першыя пачаткі ведаў і час на чытанне кніг, бо ён ужо толькі частку лета займаўся з бацькам зямлёю. У тыя часы ў Нясвіжы былі дзве вялікія бібліятэкі: семінарская і гарадская. Гарадская бібліятэка ўзнікла з дублікатных

паасобнікаў кніг Радзівілаўскага замка. Семінарская бібліятэка мела за сваю аснову кніжны фонд Нясвіжскага Дамініканскага манастыра, скасаванага на пачатку дзевятнаццатага стагоддзя. У будынках гэтага манастыра і была настаўніцкая семінарыя. Абедзве гэтыя бібліятэкі бесперапынна поўніліся навейшымі кнігамі і маглі б стаць славай і гонарам не толькі такога маленькага гарадка, як Нясвіж.

Антон Сцяпура праз усе гады свайго семінарства з цямна да цямна штодзень праседжваў у якой-небудзь з гэтых бібліятэк. У першыя часы пасля рэвалюцыі ён быў самы начытаны з усіх несвіжан і ўжо думаў аб універсітэце. У гэтыя якраз часы і дайшло да найвялікшага свайго ўзроўню каханне паміж ім і Лявончыкавай Лідай. Прыгажосць яе асмуглага твару і постаць не засланялі перад ім таго, што глыбока ўразіла яго з самага пачатку. Гэта яе паглыбленая ўвага да ўсяго навакольнага. Яна не давала адразу нікому і нічому свае ацэнкі. Адгэтуль ішла яе скупасць на слова. Часцей яна магла здавацца задумёнаю як вясёлаю. Гэта не тое што ў аснове яе душы ляжаў які-небудзь трагізм. Але яна як бы думала, што надаўжэй хопіць радасці, калі перажываць яе ціха, а не з бурнай асалодай. Паміж ім і Лідай яшчэ не было і слова сказана аб каханні. Само сабою яно вырастала і ўкаранялася з часам і апаноўвала іх з вялікай сілай. Яны маўчалі адзін перад другім і напэўна гэта спрыяла іх вялікаму збліжэнню. Тут усё ішло не ў прыклад Еве і Рыгору Ваўністаму, якія паспелі ўжо шмат разоў перагаварыць і зазірнуць наперад: а якая тая хата будзе, дзе ім прыйдзецца жыць, і як яно ўсё пойдзе. Там як бы спяшаліся хутчэй дарвацца да шчасця, тут верылі, што ўсё мае свае законы і іх не міне. Антон Сцяпура мог здавацца занадта тонкім паводле свайго росту і валасы меў святлейшыя за Лідзіны. Але даволі-такі цёмныя. Гаворкаю пра яго Ева і закончыла сваё гасцяванне ў Ліды. Неўзабаве пасля свайго прыезду, яшчэ лежачы зранку ў пасцелі, яна многа нагаварыла аб ім: які маладзы ён будзе настаўнік, як тымі днямі прыйшоў з Нясвіжа на вялікодны водпуск і як пачаў ездзіць з бацькам у лес па дрэва. Успамінанне яго імя і Евіна гаворка пра яго распалілі Лідзіны думкі аб ім. Ліда ўстала сонная, быццам бы яна мала спала ўночы. Здавалася, што Ева перагаварыла збольшага ўсё. Яна пачала збірацца дадому. Ліда з ёю не паехала. Ёй трэба было яшчэ перашыць да

Галенінага і Агацінага вяселля сукенку. Яны дагаварыліся, што Ліда прыйдзе ў Слаўкава вялікоднымі днямі. Ева паехала, нешта сваё думаючы і сама сабе ўсміхаючыся.

## IV

Тое вяселле, на якое трапятлівы Юзік Лявончык запатрабаваў быў Ліду перад вялікаднем, адбылося не толькі не адразу пасля вялікадня, а нават на троіцы. А Юзік Лявончык увесь час трапятаўся і ахкаў, што не гладка справа ідзе:

— А сукенкі не гатовы, а поп вянчаць не ўзяўся ў вялікодныя дні, а жывот у мяне самога балеў больш за тыдзень, што не да таго было, каб за губу чарку закінуць, то Ліда пачала сумаваць, а божа, ай, ай!

Нарэшце адбылося вяселле Галены і Агаты ў адзін дзень. Юзік Лявончык прыгаварыў аркестр нясвіжскага Шпільберга і няўрымсціўся, каб усё хутчэй пачалося: і музыка, і баляванне, і танцы, і ўвесь вясельны тлум. Але як усё падыходзіла да канца, і гарбаты Шпільберг прыдрамаў, прыткнуўшыся плячом да сцяны, Юзік Лявончык нейк аціх, убачыў цераз стол, што Ліда сядзіць у задуме, перавёў вочы на прытомленых вяселлем маладых, і яму стала трывожна на душы. Ад яго адразу пайшлі тры, мілыя і родныя, Агата, Галена і Ліда. Ужо не будзе ў яго хаце рогату. Аставалася ў яго адна Ева. Але ён ужо ведаў, што не пазней восені яна пойдзе замуж за Рыгора Ваўністага, які яму падабаўся добрымі якасцямі цягавітага працавіка і вытрыманага, не ў меру сваіх маладых год, чалавек. Здавалася, што Рыгор Ваўністы не закрычыць і не затрапечацца нават і ў агні, а церпячы боль, адсуне ахопленае полымем бервяно і выйдзе з агню. Штосьці рванулася ў душы Юзіка Лявончыка. Ён сказаў Шпільбергу граць шостае калена кадрылі, на якое быў некалі з замаладу майстар больш, як на іншыя, і рушыў у ход. Ён перабраў усіх дзяўчат і жанчын, і нарэшце дайшла чарга да Ліды. З ёю ён і скончыў танец.

— Аб чым ты ўвесь час думаеш? — запытаў ён, садзячы яе на месца.

— Дзядзюхна, галубок мой. Каторая пара ідзе, а не тое што бацька, нават і пісьма другога няма.

Ён адказаў ёй пустымі словамі:

— І пісьмо будзе, і ён прыедзе.

Танец стаміў яго. Да таго ж, ён многа выпіў і рабіўся п'яны. Ён падняў чарку, і ўсе сціхлі.

— Пладзіцеся і размножвайцеся і напаўняйце зямлю! — сказаў ён моцна.— Каб дзяцей ува ўсіх дзяўчат, што гуляюць тут на вяселлі мае Галены і Агаты, было густа, як зор у небе пад восень. Каб хто яшчэ не вярнуўся з вайны, каб хутчэй вярнуўся (і ён зірнуў на Ліду) і каб гэтая вайна хутчэй забылася, каб немцу адгнілі пяты, дык без пят ён не дажджэ валачыся сюды другі раз. А каб усе маладыя ў новых сваіх хатах з панскіх лясоў так распладзіліся, што каб дзіцячы галас ішоў, як вада з млынавога кола, ад нашага Нясвіжа цераз Навагрудак па ўсім свеце. Каб цераз Слуцак да Гомля. А каб дзеці раслі пруткія і рухавыя, а каб на зямлі добра радзіла, мы пастараемся. Не бойцеся нічога. Пладзіцеся і размножвайцеся на сваёй зямлі!

Ён пачаў абводзіць вачыма хату, маўчаў так хвілін добрых дзве і дадаў:

— Каб дзеці, дзеці і дзеці! Каб дзеці нашы ўсе сцежкі ведалі ад Нясвіжа і аж да самае Гомлі і ад Вызны да Магілёва!

Ён скончыў і быў задаволен сабой: ён перамог выпітую гарэлку. Пасля гэтага ён абышоў усіх, з кожным пацалаваўся, гарбаты Шпільберг махнуў смыкам, капэла ўтнула марша, і вяселле скончылася. Выезд маладых у Вызну і Семежава адбыўся назаўтра. Юзік Лявончык паехаў за маладымі на сваім возе ўдваіх з Лідаю. Спачатку адгулялі суткі ў Семежаве ў Агаты, другія суткі ў Вызне ў Галены. Дзве маладыя жанчыны асталіся там, дзе ім суджана было век векаваць. Юзік Лявончык з Евай і Лідай паехалі назад праз Якубавічы. Ліда хацела хутчэй у сваю хату. Дарожны вецер асвяжыў Юзіка Лявончыка. Ён цяпер ужо не быў здолен да якое б там ні было прамовы. Хутчэй за ўсё ён быў схілен цяпер на доўгую задуму. У такой задуме ён пасля доўгага маўчання сказаў да Ліды:

— Нічога табе не скажу пра Антона Сцяпуру: гэта не Рыгор Ваўністы, якога я адразу бачу. Глядзі сама. А я рад, што ён дае ўсім дзяндобры.

Ліда сумелася. Увесь свет ведае, што Антон Сцяпура належыць ёй, толькі яна адна нічога не ведае. Гэта ўсё Ева! Яна сядзіць сабе на возе і нічога. Ох, яна любіць пагаварыць і сказаць нават больш, як там чаго ёсць. На ўездзе ў Якубавічы дзядзька сказаў да пляменніцы:

— А ўрэшце я так скажу: ён чалавек вучоны, яму трэба будзе шукаць спосабу жыць такім часам, як цяпер. Хлеба з зямлі ён не наробіць. Але тут можа раптам і так павярнуцца, што ён стане вялікім чалавекам. Навука — капрызная рэч...

Ліда гатова была заплакаць: чаму ёй так старанна гавораць пра Антона Сцяпуру? І так ёй у гэты момант захацелася ўбачыць яго, каб паскардзіцца яму. Гэта і быў момант сапраўднага і канчатковага руху яе душы да яго. Дзядзька і Ева толькі зайшлі ў хату і не распрануліся. Адразу і паехалі. Ліда асталася адна. Пачалося чаканне бацькі і... дзіўная рэч... цяпер ужо яна чакала і Антона. Праўдзівей сказаць, не тое што чакала, а прагла ўбачыць яго. Ёй здавалася, што цяпер ужо многа трэба сказаць яму. На другім тыдні ён прыйшоў з Слаўкава пехатой. Ён упершыню быў у гэтай хаце і ўпершыню астаўся з ёю адзін. Такім заклапочаным яна яшчэ яго ніколі не бачыла. Яна зразумела, што няможна займаць яго такім глупствам, як гаворка пра тое, што аб іх блізасці гаворыць увесь свет, хоць яны яшчэ і не гаварылі паміж сабою аб якой бы там ні было блізасці, і, у поўным сэнсе гэтага слова, не мелі яе. Яна толькі цяпер пачалася, нездарма ж ён прыйшоў сюды і нездарма яна мае ад гэтага такую вялікую радасць. Раптам паміж імі скончылася ўсялякая недагаворанасць. Яны былі шчаслівыя сваёю адзінотаю ў гэтай хаце. Больш як паўдня яны праседзелі на старой лаве пры сцяне, прыціснуўшыся плячом да пляча адзін другому. Ён быў на ўздыме свайго настрою, і планы яго былі на будучыню самыя шырокія. Ён верыў у рэвалюцыю і ведаў яе. У яго было многа і наіўнасці, ад яго зялёнай маладосці. Можа, яму і не трэба было ў гэтыя хвіліны рабіць яе сваім слухачом. Але ён гаварыў. Праўда, усё гэта былі і планы на іх далейшае жыццё. Выйшла цяпер і іх таемная перад усім светам змова: адзін без другога надалей і кроку не ступіць. Выходзіла, што Ева ўгадала і дзядзька не кідаў словаў на вецер. Яны былі п'яныя ад свайго шчасця. Пайшоў ён ад яе перад канцом дня, напроці ночы. Так яны нагаварыліся! Ён выгнаў з яе душы сум і паставіў яе перад узнятым чаканнем блізкай вялікай радасці, якая няйначай павінна будзе ахапіць усё іх жыццё.

Перш за ўсё, у яго яшчэ больш укаранілася жаданне, калі надыдзе час, падавацца ва універсітэт. Але ўжо кож-

ны крок яго звязваўся з ёю. Яшчэ будзе час падумаць, дзе, што і як прыйдзецца ёй, калі ён паедзе ва універсітэцкі горад. А яшчэ да таго многа адбудзецца падзей. Ён гаварыў, і яна верыла яму: гэта яшчэ не рэвалюцыя, калі ўрад выдаў закон аб спыненні дзяльбы панскай зямлі і вывазу дрэва з панскіх лясоў. Ён жыў гэтымі інтарэсамі. Самы большы горад, які ён пакуль што бачыў, гэта быў Нясвіж. Самае важнае, чым жыла тут шырокая навакольнасць, гэта будаваць новае замест старой і цеснай дзедаўскай трухліны і ўволю пасеяць на зямлі хлеба. Яшчэ будуць новыя падзеі, і ён ёй яшчэ многа чаго растлумачыць. Яна слухала яго і тое, што ён перад ёю аўтарытэт, давала ёй радасць. Рэвалюцыя шырока адчыніць дзверы ў будучыню. Хто ведае, можа, і ёй суджана яшчэ прайсці універсітэцкую навуку! Ён вельмі часта, бадай-што праз кожныя дзён два пачаў з'яўляцца сюды. Ён як на крыллях насіўся. Ён навучыў яе марыць. Ён напоўніў яе душу ясным адчуваннем свету. А перад светам трэба толькі радавацца і благаслаўляць яго. Так, як дзядзька Юзік Лявончык выратаваў яе ад непатрэбнай у яе годы задумы, так Антон даў ёй ратунак ад адзіноты. Але яна не здагадвалася, што і ён можа быць ёй удзячны за тое, што з радасцю ўспамінаецца ў сталыя гады. Мера іх шчасця была аднолькавая. У гэтыя часы іх маладосці жыццё іх не цьмілася вялікімі прыкрасцямі. Яна ўгадала кірунак, у якім закончылася фармаванне яго натуры. Гэта была душа неспакойная, схільная да пошукаў абсалютнага завяршэння ідэі, ператворанай у мэту. Ад усёй сваёй чуласці і наглядальнасці яна ўяўляла, што ён можа калі-небудзь пайсці на пагібельны ўчынак, не паміраўшыся з тым, што можа стаць у яго на дарозе. Настала пара новых яе трывог. Яна пачынала думаць аб тым, што жыццё не ідзе роўна і не ўсё ў ім бывае тое, чаго чакае і пра што ведае чалавек. Так прыйшла і восень семнаццатага года, і чаканне дадому бацькі, а пасля хоць бы ўжо якой весткі аб ім, ператварылася ў яе душы на бесперапынны тупы боль.

V

У тую восень пайшла замуж за Рыгора Ваўністага Ева. І адразу яна перайшла да яго ў новую хату. Ліда гасціла ў Евы пасля вяселля колькі дзён, і гэтая новая хата, толькі што закончаная, ёй не спадабалася. Яна была зроблена

прасторна і моцна, печ, мусіць, і сапраўды была-такі занадта вялікая, і такая ж занадта вялікая адгароджана дылёвымі дошкамі кухня. Лідзе ўяўлялася, што тут няма такога кутка, дзе можна было б ціхом сесці і паглыбіцца ў якую-небудзь думку. Так, як з вокан відзён быў шырокі кругагляд з дрэвамі, паплавамі, сінімі істужкамі лясоў, дзвюма вёскамі і трыма ветракамі, так і тут у хаце ўсё было нейк шырока раскінута. Здавалася, што зараз найдзе сюды многа людзей, парассядаюцца на шырокіх лавах, якімі Рыгор Ваўністы паспеў перад самым вяселлем паабводзіць сцены, і развядуць людзі гаворку на цэлы дзень. Будуць курыць, гаварыць, перабіваць адзін аднаго, хваліць жыта ў полі і частыя дажджы вясною, а Рыгор Ваўністы сталым парадкам раскажа, што пад Навагрудкам вельмі глыбокія калодзежы, а пад Слуцкам вада не так ужо і глыбока. І мілая гаварлівая Ева будзе душой гэтай агульнай вялікай гаворкі; кожнаму паможа выбіцца на добрую тэму, кожнага падтрымае словам, многа будзе смяяцца і сама гэтулькі нагаворыць, што поўная хата людзей не справіцца з ёю. Гэта ж ужо так і было, і гатовы закончаны малюнак астаўся ў Лідзіным уяўленні з трэцяга дня Евінага вяселля, калі ўсе патаміліся ад музыкі, гарэлкі, танцаў і яды і рады былі, калі Юзік Лявончык сказаў, падняўшы чарку:

— Як той казаў, у каго дачка адна, дык і долі жадна, а ў каго сем, дык і доля ўсім. Дзякуй богу! Але чаму мне ўсё думаецца то аб тым, то аб гэтым? Каб шчасце было ўсім! Многа шчасця і многа радасці! Ну, як ты там жывеш у Вызне, Галена? А ты як маешся ў Семежаве, Агата? Ева! Самая меншая мая! Няхай жа Рыгор Ваўністы будзе самы шчаслівейшы на свеце чалавек. Дык і ты астанешся да сівых валасоў такая ж рагатуха і навек вясёлая. Ты ж у мяне ўдалася, ці ведаеш ты гэта? (Ева абняла яго і пацалавала.) А цяпер адна яшчэ ў мяне асталася: Ліда! Чаго ты ўсё думаеш? Ты смейся! Рагачы! У бокі бярыся! На мілае шчасце!

Ён пайшоў да Ліды і абняў яе. Што рабілася ў яе душы! Быццам бы толькі цяпер яна зразумела да канца, які ён гэты чалавек блізкі і дарагі! Вярнуўшыся дадому з Евінага вяселля, Ліда многа дзён думала аб сваім дзядзьку Юзіку Лявончыку: ён жыве на свеце, і гэта ёй вельмі важна. Ён не спусціць яе з свайго апякунскага вока. Яна адчувала сябе як бы за яго плячыма перад тварам нейкай

бяды. Яна часта пачала хадзіць у Слаўкава, каб часцей бачыць яго. Ён жыў адзін. Але гэта не кранула яго цвёрдай ураўнаважанасці. Ён аставаўся самім сабою. Як бы ўсё некуды спяшаўся, сыпаў словам, як зернем з меха, і дайшоў да цвёрдай думкі: не чакаць, пакуль Юрась вернецца з шпіталя, а паставіць сабе новую хату. Балазе што быў у яго цяпер зяць Рыгор Ваўністы. У гэтага залатыя рукі, ён паможа забудавацца. З Ваўністым можна свет перавярнуць. А пасля ўжо, калі вернецца Юрась, тады ўтрох і яму хату паставяць.

У канцы той восені і ў Антона Сцяпуры з'явіліся новыя думкі і слова дадаткам да ўсяго таго, што жыло цвёрда ў яго душы і галаве. Ён гаварыў Лідзе, і, вядома, яна прыняла ўсё як самае лепшае і праўдзівае, да чаго можа толькі дайсці ясная галава Антона Сцяпуры.

— Пакуль усё ўпарадкуецца так, што можна будзе мне ехаць вучыцца, то маці мая штодзень угаворвае мяне ўзяцца з бацькам за будову. Зямлі бацька ўжо сабе адрэзаў. Як жа я дагэтуль не падумаў, што бацьку майму трэба на старасць уцеха: цэлы век ён жыў і рабіў на чужым, дык чаму ж яму не мець радасці жыць нарэшце ў сваім доме і араць сваю зямлю. Хоць прыйдзе, напэўна, час, што я вылечу адгэтуль, але я пакіну па сабе памяць: тут будзе стаяць мой дом.

І аб гэтым ён гаварыў, як энтузіяст, і ўкладаў сюды як бы ўзвышаную мару.

# УРЫВАК З РАМАНА БЕЗ НАЗВЫ

Пачну з некаторых момантаў біяграфіі і рыс натуры Юрася Гарашкевіча. Можа ў ім і празмерна было нахілу да суглядальнасці, але гэта не клала на яго пячаці бяздзейнага чалавека. Нягледзячы на сваю маладосць, ён нават з некаторага часу выявіўся як практычны і гаспадарлівы дома. І гэта тады, калі ў ім адбыўся як бы пералом. Пачатак яго юнацтва прыпаў на часы пасля трыццатага і трыццаць першага гадоў. Ён тады прыехаў у Мінск як студэнт педагагічнага інстытута. Ужо і тады ў ім заўважалася нейкая як бы замкнутасць у сабе, але гэта прыходзіла момантамі. Праўдзівей сказаць, гэта былі толькі моманты, калі ён паглыбляўся ў нешта сваё. Можа, гэта былі сляды якіх-небудзь вялікіх уражанняў з маленства, і якія-небудзь карціны з нядаўняга мінулага паўставалі перад ім, дапаўняючыся яго фантазіяй. У кожным разе ён нешта трымаў у сабе. І раптам пасля такой панурай задуменнасці ён рабіўся вясёлым гаваруном і штукаром. Вучыўся нават танцаваць факстрот, але неўзабаве кінуў. Усё ж такі ў ім брала верх сталасць, і асабліва тады, калі на сваім першым курсе інстытута ён пачаў зблізацца з некаторымі студэнтамі. Перш за ўсё тут быў Костусь Чабатаронак, на год старэйшы за Юрася Гарашкевіча, родам недзе з-пад Негарэлага. Гэта быў юнак вострага розуму і сталасці. Юрася Гарашкевіча адразу да яго пацягнула. Ведаючы некаторыя інтымныя моманты іх дружбы, льга было б сказаць, што Гарашкевіч шукае ў свайго друга духоўнай падтрымкі. У абодвух іх было падабенства ў натурах, і ўсё паказвала, што іх сяброўства павінна быць моцным і даўгавечным. Была ў гэтай сябрыне і Зоя Хлябцэвіч, мінчанка, дзяўчына вялікай прыгажосці, хоць некаторыя казалі, што прыгажосць яе мае ў сабе

многа рыс ад умельства трымаць сябе. Можа, і так. Не скажу, аднак жа, каб гэта была загана. У кожным разе мая пашана да Зоі Хлябцэвіч заўсёды была шчырая. І калі яе цяпер спасцігла страшная доля, то я з болем душы, больш як калі раней, бачу: і прыгожая была, і слаўная была, хоць, праўда, можа, нават і ў золаце ёсць што-небудзь не залатое. Было ў гэтым мілым сяброўстве і яшчэ некалькі чалавек, найбольш усё з таго ж першага курса. Але быў і трэцякурснік, мінчанін, Антон Адамчык. Некаторыя пасля казалі, што на Адамчыку якраз і канчалася добрае сяброўства, а пачыналася зблiжэнне людзей, якія шукаюць узаемнай падтрымкі ў сваім імкненні высветліць тое, што іх цікавіць. Я думаю, што гэта так і было, бо на грунце Чагульнасці ці хоць блізасці натуры ні Гарашкевіч, ні Чабатаронак пасябраваць не маглі. Я ўжо ўспамінаў аб некаторых рысах Гарашкевічавай душы. Чабатаронак разумеў Гарашкевіча з паўслова. Можа, што-ніпто ён і не прымаў для самога сябе, але лічыў, што яго другу гэта патрэбна. А многае было і яму самому неабходна, асабліва там, дзе справа даходзіла да межаў рамантыкі. Чабатаронак проста казаў: чалавечае жыццё аніяк не можа быць не рамантычным. Суровая рэальнасць свету ёсць толькі адзін з момантаў. Што да Гарашкевіча, то той на гэта доўга нічога не адказваў, маўчаў, як бы пакуль што не верыў у самога сябе, што не мае сілы выказаць тое, што няясна яшчэ брадзіла ў яго душы. Але раз, у часе нейкага асаблівага свайго настрою, ён нават як бы нясмела папрасіў свайго друга, якога меў за свайго аўтарытэта:

— Я хачу табе сказаць адну рэч. Я дайшоў да адной думкі. Але як тут табе яе выказаць, каб ты зразумеў мяне. Мне было восем год, калі мая маці памерла ў вялікіх пакутах. Ёй было тады сорак чатыры гады. Гэта было ўлетку дваццатага года. Яна была здаровая жанчына. Тады адступалі з нашай зямлі палякі. Яны былі злыя з-за сваіх няўдач. Чалавек дваццаць кавалерыстаў імчаліся на захад праз нашу мясцовасць. [1]

[1] На гэтым рукапіс абрываецца.

# НА ТЫМ БЕРАЗЕ

*(Урывак з рамана «Алеся»)*

Напэўна, нешта адбылося ўночы на тым беразе. Спачатку, яшчэ з самага вечара, чутно было, як брахаў сабака. Пасля нехта стрэліў, і сабака больш не абзываўся. Відаць, сабаку застрэлілі. Счакаўшы з гадзіну, пачуўся адтуль нейкі крык. Пасля зноў стала ціха. Тады ўзышоў месяц. Доўгі цень ад хаты лёг да самай рэчкі, і голая алешына над ёю стала падобна да чалавечай постаці. Пры самай алешыне цераз рэчку ляжала кладка. Вада пад кладкай цякла павольна і блішчала пад месяцам. У полі было пуста. Алеся доўга не адважвалася перайсці на той бераг: адтуль жа яна сюды ўцякла і жыла ў свайго дзеда, ад хаты якога падаў цяпер такі доўгі цень. Там, дома, было больш руху, паўз самы іхні дом ішла бітая дарога, і нямецкія машыны часта спыняліся там. Ёй, маладой, трэба было не трапляцца на нямецкія вочы. Там астаўся бацька, адзін. Родны дом стаяў на адлёце ад сяла, пры самым лесе. Што там магло стацца, што такі шум уночы?

Паволі перайшла яна кладку, азірнулася і ўбачыла, што дзед ідзе следам за ёю — высокі і тонкі чалавек.

— Што ж ты пайшла адна? Як жа ісці табе адной?

І яны пайшлі ўдваіх. Сапраўды ёй стала смялей. Каля дома стаяў грузавік. Акяніцы ў доме былі зачынены, і праз шчыліны ў іх відно было, што ўсярэдзіне гарыць святло.

— Можа, ужо бацькі няма жывога,— з вялікай трывогай сказала Алеся.

— Ціха, унь нехта стаіць,— шаппуў дзед [1].

---

[1] На гэтым рукапіс абрываецца.

# КАМЕНТАРЫІ І ВАРЫЯНТЫ

Тэксты п'ес і каментарыі да іх падрыхтаваны А. Ф. Харкевіч; няскончаных раманаў і аповесцей — А. Д. Атаевай.

## НЕ ПІШЫ ЧОРТ ВЕДАЕ ЯК (стар. 7)

Друкуецца па час. «Маладняк», 1925, № 9, дзе змешчана ўпершыню.

## З ДРАМЫ (стар. 14)

Друкуецца па час. «Узвышша», 1929, № 6, дзе змешчана ўпершыню, з падзагалоўкам: (Урывак).

## ВЫЗВАЛЕННЕ (стар. 24)

Друкуецца па кн. «Выбраныя творы», ДВБ, Мінск, 1934, дзе датуецца чэрвенем 1930 г.

Упершыню — час. «Узвышша», 1930, № 4—5, з паметкай: «Драматычныя сцэны. Асноўны літаратурны тэкст пралога да п'есы».

## ЛЕТА (стар. 34)

Друкуецца па час. «Беларусь калгасная», 1932, № 6—7, дзе змешчана ўпершыню.

## БАЦЬКАЎШЧЫНА (стар. 90)

Друкуецца па кн. «Бацькаўшчына». Драма ў чатырох дзеях, сямі карцінах. Дзярж. выд. пры СНК БССР, Мінск, 1940.

Упершыню — урывак з п'есы ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1932, № 9, 25 мая.

Газ. «Літаратура і мастацтва», 1932, № 12, 27 чэрвеня паведамляла: «Кузьма Чорны напісаў п'есу «Бацькаўшчына» для БДТ-1. Выходзіць з друку раман «Бацькаўшчына».

Прэм'ера — 1932 г. 7 лістапада ў БДТ-1 (цяпер Беларускі Дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы (г. Мінск).

Газ. «Літаратура і мастацтва», 1932, № 22, 19 лістапада пісала:

«БАЦЬКАЎШЧЫНА» — у БДТ-1.

«Беларускі Дзяржаўны Першы тэатр у дні святкавання пятнаццацігоддзя Кастрычніка паказаў прэм'еру сезона — п'есу Кузьмы Чорнага «Бацькаўшчына».

П'еса пастаўлена мастацкім кіраўніком БДТ-1 Літвінавым, афармлена мастаком Рабічавым, музыка напісана кампазітарам Ціхоцкім.

Спектакль «Бацькаўшчына» з'яўляецца буйным дасягненнем тэа-мастацтва БССР».

Спектакль меў поспех. У ролі Леапольда Гушкі выступіў Ул. Уладамірскі, у ролі Паўла Няміры — Г. Глебаў, у ролі Марылькі — І. Ждановіч.

Сцэнічны варыянт п'есы ў 2-х дзеях, 7-мі карцінах захоўваецца ў Тэатральным архіве Беларускага Дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Ён уяўляе сабой машынапіс на 53 старонках, без правак аўтара.

Драма ў 2-х дзеях надрукавана ў час. «Напагатове», 1933, № 2—3, з падзагалоўкам: «Мантаж для клубных пастановак».

У перапрацаваным выглядзе п'еса апублікавана асобным выданнем — Кузьма Чорны. Бацькаўшчына (п'еса з трох актаў), ДВБ, Мінск, 1934.

Новы варыянт п'есы ў 4-х дзеях змешчаны ў час. «Полымя рэвалюцыі», 1939, № 10.

Канчатковы варыянт п'есы ў 4-х дзеях, 7-мі карцінах у 1940 г. апублікаваны асобным выданнем.

Аўтарскія заўвагі аб п'есе выказаны К. Чорным у артыкуле «Пра сваю п'есу» (гл. Кузьма Чорны. Збор твораў у 8-мі тамах, т. 8, 1975).

НА СКРЫЖАВАННІ ДАРОГ (стар. 152)

Другая карціна з драмы «Аксеня Чадавецкая».

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1937, № 41, 6 жніўня, дзе змешчана ўпершыню. Драма засталася няскончанай.

БАЗЫЛЕВІЧАВА СЯМ'Я (стар. 164)

Друкуецца па кн. «Базылевічава сям'я. Драма ў адной дзеі». ДВБ, Мінск, 1938. Упершыню — час. «Полымя рэвалюцыі», 1938, № 6.

ІРЫНКА (стар. 176)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў сям'і пісьменніка. Машынапісны тэкст мае 66 старонак, не выверапых пасля машынкі, без правак аўтара. Асобныя месцы тэксту не адбіліся на паперы. У машынапісу ёсць прыпіска:

* З архіва Іл. Барашкі. У 1941 г. перакладаў «Ірынку» я на рускую мову, жывучы ў Маскве. Кузьма Чорны пераслаў рукапіс у Маскву, дзякуючы чаму ён і захаваўся. З любоўю і пашанай да аўтара «Ірынкі» перадаю рукапіс (машынапіс — *А. Х.*) сям'і пісьменніка.

Іл. Барашка.

22/I 1946 г.
г. Масква.

Другі машынапісны тэкст п'есы захоўваецца ў Тэатральным архіве Беларускага Дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Гэта сцэнічны варыянт п'есы ў 4-х дзеях, змешчаны на 102 старонках, не выверany пасля машынкі, без правак аўтара, але са шматлікімі рэжысёрскімі праўкамі і заўвагамі.

Пры супастаўленні двух машынапісных тэкстаў п'есы высветлілася, што яны істотна адрозніваюцца адзін ад другога як па зместу, так і кампазіцыйна.

Супастаўленне ж перакладу «Ірынкі» з машынапісным тэкстам, які захоўваецца ў сям'і пісьменніка, дае падставу сцвярджаць, што пераклад амаль дакладны, супадае з арыгіналам. А паколькі пераклад аўтарызаваны, то машынапісны тэкст, з якога ён зроблены, выкарыстоўваецца ў якасці крыніцы асноўнага тэксту п'есы.

У бібліяграфіі аб К. Чорным адзначана, што «Ірынка» ўпершыню была апублікавана ў час. «Полымя рэвалюцыі», 1941, № 4. Аднак гэтага нумара часопіса не знайшлося ні ў дзяржаўных, ні ў прыватных бібліятэках.

Асобным выданнем драма апублікавана ў перакладзе на рускую мову: Кузьма Чорны. Иринка. Драма в 4-х актах. Перевод с белорусского Иллариона Барашко. Комитет по делам искусств при СНК СССР. Отдел Распространения ВУОАП. * Москва, 47, 5-я Тверская-Ямская, д. 7. На тытульным лісце даты няма. Але ў канцы кнігі адзначана, што яна была падпісана да друку 13/V 1941 г. і, надрукаваная на ротапрынце, выйшла тыражом 600 экземпляраў. А 26/VI 1941 г. «Ірынка», у тым жа перакладзе, была падпісана да друку ў выдавецтве «Искусство» і выйшла тыражом 8000 экземпляраў.— Кузьма Чорны. Иринка. Драма в четырех актах. Авторизованный перевод с белорусского Иллариона Барашко. 1941. Государственное издательство «Искусство», Москва — Ленинград.

У прадмове ад рэдакцыі адзначана: «В 1940 году в БССР проведен конкурс на лучшее драматическое произведение. Среди премированных на конкурсе пьес была драма «Иринка».

Адзін з гэтых экземпляраў «Ірынкі» захоўваецца ў сям'і К. Чорнага. На тытульным лісце яго напісана рукою аўтара: «Ірусьцы, мілай маёй дачушцы — Ірынцы. Кузьма Чорны. 21 сакавіка 1943 г. г. Масква».

Прэм'ера спектакля адбылася 26 лютага 1941 г. у БДТ-2 (цяпер Беларускі Дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа (г. Віцебск). Рэжысёр Ц. Сяргейчык, мастак Б. Малкін.

Спектакль меў вялікі поспех. Газеты адзначалі: «Пасля прэм'еры адбылося абмеркаванне спектакля гледачамі — камсамольскім актывам горада. Камсамольцы адзначылі вялікую мастацкую вартасць спектакля.

27 лютага адбылося абмеркаванне спектакля ў калектыве тэатра, дзе выступілі пісьменнікі П. Глебка, А. Кучар, якія далі высокую ацэнку спектаклю». (Газ. «Літаратура і мастацтва», 1941, № 10, 5 сакавіка.)

Сам аўтар у артыкуле «Мая Ірынка» пісаў: «Праца з Віцебскім беларускім драматычным тэатрам дала мне многа творчай радасці. І асабліва мне хочацца гэта сказаць аб маёй працы разам з паста-

* Всесоюзное управление охраны авторских прав.

поўшчыкам «Ірынкі» заслужаным артыстам БССР Цімафеем Мікалаевічам Сяргейчыкам.

Ц. М. Сяргейчык — рэжысёр, які ў сваёй творчай працы мысліць нацыянальнымі вобразамі, які разумее і адчувае народнасць мастацтва, глыбока ведае быт і мову народа. Усё гэта дало яму магчымасць надаць спектаклю сапраўды нацыянальную форму.

Я высока цаню мастака Б. Малкіна, які афарміў спектакль з тонкім густам, у сапраўдных нацыянальных тонах, без якога б там ні было прыкрага бытавізму і этнаграфізму». (Газ. «Літаратура і мастацтва», 1941, № 11, 15 сакавіка.)

25 мая 1941 г. «Ірынка» была пастаўлена ў БДТ-1. Рэжысёр М. Зораў, мастак І. Ушакоў. П'еса ставілася пад назвай «У апошнюю ноч».

Гісторыя стварэння драмы апісана К. Чорным у артыкуле «Мая Ірынка» (гл. Кузьма Чорны. Збор твораў у 8-мі тамах, т. 8, 1975).

У прыватным архіве Іл. Барашкі захоўваецца пісьмо К. Чорнага да перакладчыка «Ірынкі»:

Дарагі Іляры!

Пасылаю табе папраўкі да перакладу «Ірынкі». Яны могуць быць і не дасканалыя, але мне здаецца, што так будзе лепш. Паводле гэтых паправак перагледзь яшчэ сам пераклад.

Што да таго варыянта, у якім ідзе спектакль у Мінскім тэатры, то бліжэйшымі днямі яго не магу табе прыслаць, бо яго ў мяне няма. Я яго раблю цяпер на аснове рукапісаў, з якіх перадрукоўвала для тэатра тэкст іхняя машыністка.

У Віцебску прэм'ера прайшла лепш, як у Мінску. Справа ў тым, што ў Мінску спектакль быў яшчэ недапрацаваны з прычыны канца сезона і выезду тэатра на гастролі. Спектакль будуць дапрацоўваць на гастролях. Варыянт Мінскага тэатра вышлю табе дзён праз 7—9.

Бывай, братка, здароў. Цісну руку. Выбачай за паперкі ў пісьме,— вельмі спяшаюся.

Твой Кузьма

3/VI 1941 г.

**Варыянты другога машынапісу:**

Стар. 178
[20] Замест: распаліўшыся // расплыўся
[28] гадкі.— адсутнічае.
[31] Замест: булькаюць // бушуюць
Стар. 179
[41] Замест: заціхла // пацішэла
Стар. 180
[1] ў прастору — адсутнічае.
[4] Замест: (быццам ∽ мы? // (як праз сон). У чыім мы доме?
[11–14] Чарноцкі ∽ ў сумоце.— адсутнічае.
[18] разрыўкай — адсутнічае.
Пасля: час. // (Паўза).
[19] скрозь — адсутнічае.
[26] Пасля: вас. // Інакш бы я раззлаваўся.
[27–28] Замест: Германія. // вайна

28 Пасля: намі. // Вы не бачыце, што неба сцямнела і гатова ўпасці на нас. Вы не бачыце таго, што перажывае айчызна. Божа мой, чым усё гэта скончыцца.

31 Замест: мне не дае спакою. // мяне таксама трывожыць.

32 Замест: На ∽ ціха. // З усходам у нас спакой.

Стар. 181

17 Божа мой, божа мой...— адсутнічае.

18 Пасля: граніцу. //, у Варшаве пакінуў святую любоў.

23–25 У Варшаве ∽ смутак.— адсутнічае.

31–33 можа ∽ прозвішча? — адсутнічае.

Стар. 181—182

34–14 Я р а ш э в і ч. ∽ адпомсціць... (Маўчыць.) — адсутнічае.

Стар. 182

25–26 Замест: даў ∽ вас. // сам з Варшавы распарадзіўся назначыць вас.

29 Замест: на месцы // ў маім доме

31 Замест: адгэтуль // з вашых людзей

34 Пасля: ўтаймавання. // Я на граніцы бачыў такія рэчы, якімі я не здаволен... Гэта тут забілі вашага паліцыянта?

Стар. 182—183

41–5 Ярашэвіч ∽ мужыкоў...— адсутнічае.

Стар. 183

11 Замест: крывых // крывавых

32 што ∽ становяцца.— адсутнічае.

38 Пасля: родам. //

Чарноцкі. А чаму ты жывеш тут?

Хартановіч. Я забіў там,

Стар. 184

15 Замест: Што // Як

36 Пасля: прыехаў. // (Бальшая паўза).

Чарноцкі. Міхалковіч Канстанцін?..

Лямэнт. Там раней дырэктарам быў другі чалавек.

38 *(з дзікай злосцю)*.— адсутнічае.

39–42 ў бакоўку ∽ жыве? — адсутнічае.

39 Пасля: *Хартановіча* // (Паўза).

Я р а ш э в і ч. Вы так устрывожаны... Ці магу асмеліцца запытаць што гэта за чалавек Міхалковіч?

Ч а р н о ц к і *(пасля вялікай паўзы)*. Цяпер, калі я ў старасці астаўся адзін, мне відно, як праз усё маё жыццё ён стаяў у мяне на дарозе. Яшчэ ў маёй маладосці гэты мой парабак трос мае маёнткі, а дваццаць год назад ён выгнаў мяне з майго дому. Я нават не паспеў развітацца з усім дарагім майму сэрцу. Калі я назаўсёды выязджаў у Варшаву, ён каля Нясвіжа, з гуртам парабкаў, запыніў мяне на дарозе. Але той дарогай адступаў наш полк, і я выратаваўся. Ён жа паспеў адабраць у мяне маё фамільнае золата, якое я не даверыў везці нават самым верным маім слугам, а вёз сам. Божа, я магу быць міністрам, але я ёсць жабрак. Я толькі праз бінокль магу глядзець на свае ўладанні, дзе пануе зараз мой парабак Міхалковіч. Я распараджаюся дзяржаўнымі справамі, але ў мяне апусцелае сэрца. (Змаўкае і не варушыцца. Ярашэвіч стаіць перад ім. Навальніца прайшла. Толькі калі-нікалі яшчэ ўспыхвае далёкая маланка, і дождж шуміць ціха і роўна. Чарноцкі зноў паглыбляецца ў свае думкі).

Чарноцкі *(з успышкай хваляваная).* Тады перад выяздам, у самую апошнюю хвіліну, нябожчыца жонка села ля фартапіяна, каб развітацца назаўсёды з усім тым... вечным... Але ён раптам увёў у пакой гурт мужыкоў.

*(Уваходзіць Лямэнт)*

Лямэнт *(Ярашэвічу).* Гэты чалавек кажа, што той дырэктар Міхалковіч бацька Міхалковіча, што жыве...

Чарноцкі *(перабівае).* Хто жыве? Дзе жыве?

Стар. 185

[8] Пасля: Але // які Міхалковіч тут жыве? Хто ён, дзе жыве?

[8–13] Хто ∽ хаты.— адсутнічае.

[16] Міхалковіч! — адсутнічае.

[31–34] Пакрыўджаны ∽ *спыніўся.)* — адсутнічае.

[38] Пасля: *позірку).* // Вы не варты свайго нябожчыка айца.

Стар. 186

[2] на тое,— адсутнічае.

[10–12] Чарноцкі ∽ цэлы.— адсутнічае.

[29] Зялёны — адсутнічае.

[35–39] Чарноцкі ∽ *плячыма.)* — адсутнічае.

Стар. 187

[2–3] Замест: Той ∽ *пінжака.)*

//Там вайска пераходы робяць. Вайска там як цёмныя хмары.

*(Паўза)*

[4–7] Ярашэвіч ∽ Ідзі.— адсутнічае.

[16] Замест: Ярашэвіч // Чарноцкі

[18–19] Замест: каб ∽ бацькам. // туды. Мне казалі.

[32–36] Ярашэвіч ∽ Ярашэвічам.— адсутнічае.

Стар. 188

[1] Пасля: Чарноцкі. // Чуеце.

[6] за два гады — адсутнічае.

[14] Пасля: бацькі. // Бацька яго там стары бальшавік, а сын ходзіць туды служыць нам.

[16] Пасля: *смелым.)* // А што ён, зайшоўшы да бацькі, не захоча гэтым займацца, дык можна прыдумаць прычыну трымаць пад пагрозай яго сям'ю.

Стар. 189

[16] Ірынка.— адсутнічае.

[22–23] Каб ∽ Ірынку...— адсутнічае.

Стар. 190

[3–4] Ён там, а я тут.— адсутнічае.

[19] Пасля: вечарам. // А цяпер, паночку,

Стар. 190—191

[20–12] Замест: Чарноцкі ∽ такую? // Пакуль зайду — дык і сонца высока падымецца.

Чарноцкі. Ну, калі ў суботу заплаціш... Дарэмна толькі цябе патурбавалі ўначы.

Мікалай. Мы, пане, прывыклі да ўсялякай турбацыі.

Чарноцкі *(ядавіта).* Хто ж цябе так турбуе заўсёды?

Мікалай. Жыццё наша такое турботнае.

Чарноцкі *(не можа вытрымаць раней штучна напушчанага на сябе спакою)*. Чыё гэта «наша»?

Мікалай. Я ж бачу, як людзі жывуць. *(Хітра глядзіць на Чарноцкага.)* Каб гэта ўсе пачалі разам прасіць, каб высокае начальства падбала аб простым народзе...

Ярашэвіч. У такія часы ты думаеш супроць айчызны.

Мікалай. Паночку, дык хіба гэта супроць айчызны, калі сказаць каб у айчызне чалавеку было добра.

Чарноцкі *(дайшоў бадай-што да істэрыкі)*. Дык у айчызне чалавеку нядобра? Айчызна дала чалавеку няшчасце? За такія словы да старасці і да смерці будзеш бачыць толькі турэмныя сцены і змрок у каменным мяшку. Будзеш енчыць перад богам, каб прыйшла смерць, але смерць так скора не прыйдзе.

Мікалай. Ці гэта я сню, ці сапраўды гэта чую.

Стар. 191

13–23 Чарноцкі S сон? — адсутнічае.

26 Пасля: расказваў, // забыўшыся, перад кім ты стаіш,

29 Ярашэвіч S сам.— адсутнічае.

30 Пасля: Мікалай // *(задрыжэў і задам адыходзіць да дзвярэй)*.

Пасля: Паночку, // я не забыўся, перад кім я стаю, але я думаў дайсці словамі да вашага сэрца, каб вы пашкадавалі

пашкадуйце — адсутнічае.

32–33 Замест: Хам! S *дзвярэй.)* // *(Бачачы, што Мікалай каля самых дзвярэй)*.

33–38 Замест: Мікалай S вобземлю. // Дайсці да майго сэрца? Да майго сэрца даўно ўжо дайшлі. Дваццаць год як дайшлі.

39–40 Пасля: свеце. //

Ярашэвіч. Справядліва? З вялікай справядлівасці сярод вас жывуць забойцы.

Мікалай. Паночку, якія забойцы?

Ярашэвіч *(холадна, не зводзячы з Мікалая дапытлівага позірку)*. Тыя, што забілі паліцыянта... Тут... непадалёку... Не Лямэнт жа яго забіў.

Мікалай *(поўная прыгнечанасць яго саступіла месца раптоўнаму хваляванню)*. Дык той, што забіў... Я ж не вінаваты, што нехта...

40–41 Я вока S ніколі.— адсутнічае.

Стар. 192

1 Замест: несці // мець

3 Як ты — адсутнічае.

Пасля: асмельваешся? // спадзявацца на літасць?

8–10 Калі S свет.— адсутнічае.

11 ад сухот — адсутнічае.

13–30 Замест: Не ўзніму S канца. // Можа мая дачка і з торбамі ходзячы па свеце не прападзе сярод людзей і вырасце такім чалавекам, на якога будзе зайздрасць глянуць.

Ярашэвіч. Будзеш шкадаваць, што не павесіўся раней. *(Дрыжыць, гатовы ўпасці ў істэрыку.)*

Мікалай. Няхай лепш, паночку, павесіцца кожны, хто маей пагібелі хоча.

Чарноцкі. Вон.

Ярашэвіч. Вон.

М і к а л а й *(шпарка выходзіць. Чарноцкі калоціцца ў істэрыцы. Ярашэвіч умошчвае яго ў крэсла, заспакойвае яго. Лямэнт стаіць як труп, страшна спалоханы. На дварэ днее, вокны святлеюць).*

Я р а ш э в і ч. Мой ласкавы, як вы не шануеце сябе. Так ірытавацца, так шкодзіць свайму спакою... *(Бачачы, што Чарноцкі паспакайнеў.)* Лямэнт, пакліч таго сюды. *(Лямэнт выходзіць у бакоўку.)*

Ч а р н о ц к і *(з нястрыманым гневам да Ярашэвіча).* Ён са мной так гаворыць, як бы гэта я жыву на яго зямлі, ■ не ён на маёй.

*(Уваходзіць Лямэнт і Хартановіч)*

Я р а ш э в і ч. Ідзі, Лямэнт, распарадзіся аб пасцелях.

Л я м э н т. Пасцелі гатовы, пане.

Я р а ш э в і ч. Аб снеданні ідзі распарадзіся. *(Лямэнт зразумеў, што яму трэба выйсці, кіўнуў галавой і выходзіць. Ярашэвіч звarачваецца да Хартановіча.)* Тутэйшы Міхалковіч пойдзе туды, да таго Міхалковіча.

[31] Пасля: Х а р т а н о в і ч // *(затросся ад радасці, падбягае да Чарноцкага і*

Пасля: *калена. // Не ведае да каго гаварыць — да Чарноцкага ці да Ярашэвіча.)*

[33–34] *Цяпер* ∽ на прымеце...— адсутнічае.

Стар. 192—193

[38–8] Замест: Чарноцкі ∽ Ты // *(Хартановіч трасецца. Чарноцкі з цікавасцю глядзіць на яго. На Чарноцкага твары ўпершыню за ўсю дзею з'яўляецца сапраўдная ўсмешка, яна застылая, сухая, акамянелая.)*

Я р а ш э в і ч *(да Хартановіча).* Зробіш так, каб ён сам пайшоў туды. Цяпер ён пойдзе. А не захоча сам ісці — угавары: старайся зрабіць так, каб не прыйшлося сілай выкідаць яго на той бок. Каб ён нічога не падазраваў і каб нічога кепскага аб усім гэтым не думаў.

Стар. 193

[13–18] А ты ∽ *(Рагоча.)* — адсутнічае.

[18] Пасля: ісці. // Я пасля скажу, што трэба рабіць.

[20–23] Замест: сядзіць ∽ Я р а ш э в і ч. //, *скланіўшыся стаіць перад Чарноцкім, чакаючы яго слова. На Чарноцкага твары акамянела ўсмешка, падобная да грымасы.)* (Чарноцкага ўсмешка мякчэе.)

Ч а р н о ц к і *(устае, з той самай усмешкай глядзіць на Ярашэвіча).* Скажаце мне, як будзе ўсходзіць сонца. *(Выходзіць у бакоўку.)*

Я р а ш э в і ч *(правёўшы Чарноцкага, садзіцца ў крэсла. Думае).* Які прыкры выпадак... Які недагляд. *(Уваходзіць Лямэнт. Ярашэвіч сярдзіта глядзіць на яго і пагрозліва трасе пальцам.)*

Стар. 194

[3] *(Кладзе на стол грошы.)* — адсутнічае.

[4] *(хавае грошы і грозіць пальцам).*— адсутнічае.

[13] Пасля: жыць. //

Я р а ш э в і ч. Колькі год маеш, Лямэнт?

Л я м э н т. Пяцьдзесят.

Стар. 195

1–3 Зыгмусь ∽ гэта? — адсутнічае.

Стар. 196

10 Я ∽ іграў...— адсутнічае.

38 Моцна спіць малая...— адсутнічае.

39–40 Уставай ∽ гэтай.— адсутнічае.

Стар. 197

17 Пасля: *адумаўшыся* // *і зразумеўшы сэнс рэчаў.*

17–18 Што робіш? — адсутнічае.

19 будзячы яе зранку,— адсутнічае.

27 Пасля: Мікалай // *(мнецца)*

27–28 Пасля: работу. // Я і сказаў ім так.

28 Замест: Не ∽ пачакай. // *(маўчыць).*

29 Пасля: Насця // *(з нецярплівай устрывожанасцю).*

29–31 То ∽ чаго? — адсутнічае.

32 Пасля: што... // З арэндай не гарыць, пачакай.

33 Пасля: Насця // *(паспакайнела).*

Стар. 198

5 Замест: тае травінкі // таго каменя

6 Замест: *Паўза.* // *моўчкі*

18 *На пальчыках* — адсутнічае.

42 Пасля: Ірынка // *(быццам з дакорам)*

Стар. 199

10 Замест: у нармальную // быццам у звыклую

Стар. 200

9–26 Замест: Ён ∽ жыццё. // Выходзіць, што бацька жыў, яны даўніх ненавідзелі адзін аднаго. Бо спачатку ён мне бацьку ўспомніў. А пасля я ўгнявіў яго, сказаў, што ў польскай айчызне чалавеку жыць нядобра.

Насця. Нашто ж ты такімі словамі кідаешся?

Мікалай. Нейк так сказалася...

Насця *(з горкай крыўдай).* Дык чаму ж у цябе так кажацца?

Мікалай. А якая з гэтага бяда? Толькі што крычаць пачаў, а без гэтага гаварыў бы спакойна. Ён жа мяне не на тое зваў, каб запытацца, ці заплачу я гэтую непатрэбную яму арэнду. Тут нешта... *(паніжае голас.)* Хадзі бліжэй...

Насця *(падыходзіць).* Ну што?

Мікалай. Успаміналі яны мяне... *(не адважваецца сказаць.)* Ці то з-за бацькі, ці то з чаго — але трэба ратавацца.

Насця. Ты нешта мне гаварыць не хочаш?

Мікалай *(мнецца).* Ну я ж кажу — тое, што было са мной уначы, так не скончыцца.

Насця. Сыдзі з дому.

Мікалай. Куды? А вы?

Насця. Што можа быць ужо горш як цяпер, калі Ірынка ледзьве жыве і я хаджу як цень? Каб гэта ведаць напэўна, што бацька там недзе жыве, ды каб пайсці да яго, ды расказаць, што мы тут гінем...

Мікалай. Што ж гэта паможа?

Насця. А колькі людзей выязджала туды да бацькоў або да дзяцей на тамашняе падданства?

Мікалай. Гэта раней было, а цяпер нешта нідзе не чуваць гэтага.

Насця. Дык трэба думаць што рабіць.

Мікалай. Я баюся, што і думаць няма калі, пасля таго, што было са мною ўначы.

Насця. Ты мне не гаворыш усяго.

Мікалай. Я сыду з дому. А калі вас выганяць з хаты — людзі не дадуць вам прапасці.

29 Пасля: галавой. // *(Вочы яе гараць хворым бляскам, яна ўзбуджана вельмі).* Ідзі туды. Шукай бацьку. Старайся аб нашым там падданстве праз бацьку.

Мікалай. А калі бацькі там жывога няма і мяне палічаць там немаведама за каго?

30–33 Мікалай ∽ нідзе.— адсутнічае.

35 Замест: вы? // калі вас выганяць з хаты? Дзе вы дзенецеся без мяне?

36–37 Насця ∽ дзенецеся? — адсутнічае.

41 Замест: Ну ∽ з дому. // Калі ты дзе-небудзь будзеш жыў і здароў, то і мы не прападзём.

Стар. 200—201

42–1 Мікалай ∽ Ідзі.— адсутнічае.

Стар. 201

30 неўзаметку — адсутнічае.

32 Пасля: таксама. // Шчасліва...

43 Мікалай. Што з ёй? — адсутнічае.

Стар. 202

10–11 Мікалай ∽ Юзя.— адсутнічае.

15 Пасля: кут. // Мікалай *(панура).* Як жа я яе пакіну ў такі момант. *(Садзіцца на лаву.)*

16 Пасля: Насця // *(з адчаем).* Яна не пажыве доўга.

16–20 Замест: *(угадваючы ∽ Хартановіч).* //

Мікалай *(устаў, глядзіць на акно, гаворыць быццам сам з сабою).* Пахаваю яе, а тады вазьму дубіну і пайду... аддзякую каму трэба за яе смерць... *(Маўчыць, стаіць тварам да акна, дастае з кішэні капшук з тутунём, круціць папяросу, ад хвалявання рассыпае тутунь з капшука на зямлю, шпурляе пусты капшук сабе пад ногі, разгублена азіраецца па хаце, хістануўся к акну, гаворыць бадай-што шэптам.)* Ідзе чалавек нейкі. *(Адварачваецца ад акна і становіцца тварам да дзвярэй. Пасля садзіцца ў Ірчыных нагах. У хату паволі і як бы нясмела ўваходзіць Хартановіч.)*

Хартановіч. Дзень добры.

Мікалай. Дзень добры.

Хартановіч *(бадай-што шэптам).* Ці гэта тут жыве Мікалай Міхалковіч?

Мікалай. Тут. А нашто?

Хартановіч *(праходзіць далей у хату, паволі садзіцца на лаву. Азіраецца па хаце).* Сам не ведаю, як вам сказаць. Тут доўгая песня выходзіць. Я прыйшоў параіцца з вамі.

Мікалай. Аб чым? А што ты, браце, за чалавек?

Хартановіч. Я сам з-пад Вялікае Слівы. Няшчасце мяне спасцігла. *(Трывожна, шэптам.)* Каля Вялікае Слівы я арэндаваў шэсць маргоў поля і хату. А гэта паблізу граніцы. Нехта, як на няшчасце тое, падказаў, што нібыта ў мяне два браты па тым баку бальшавіцкімі камісарамі. Я не тутэйшы родам, я арандатар. А цяпер нейкі Чарноцкі з Варшавы аб'язджае граніцу, правярае,

значыцца, і нехта на мяне яму сказаў. Ён распарадзіўся, каб у два дні мяне сагнаць з арэнды зямлі і з хаты. Хоць жабраваць ідзі. Я думаў, што якога-небудзь ратунку дайду — тут у мяне ёсць руа. У павятовага начальніка служыць шоферам мае жонкі стрыечны пляменнік. Ён учора зранку прывозіў да нас на граніцу і начальніка, і самаго Чарноцкага, а Чарноцкі, кажуць, нейкі як бы міністар. Дык я следам прыбег сюды і прашу жончынага пляменніка шофера, каб той паручыўся за мяне перад начальнікам, што я не злы чалавек і што ніякіх братоў у мяне няма,— мне абы з хаты не выкідалі, у мяне нідзе няма ні хаткі, ні градкі дзе дзецца на свеце. Тым часам прашу я ўчора ўвечары шофера, а ён сказаў пачакаць. Я, паверыш, браце, у тутэйшага вашага асадніка, дзе яны там спыніліся нанач, на сметніку за склепам скурчыўся і перакалаціўся ноч, а на світанні падышоў да мяне жончын пляменнік і кажа мне: нічога не будзе, кажа, міністар ачышчае граніцу, ратуйся, кажа, пакуль у Картуз-Бярозу не пагналі. Я абамлеў. А ён і тут, кажа, вялікае ачышчэнне будзе. Не аднаго і адгэтуль пагоняць у Картуз-Бярозу.

Н а с ц я. Адкуль?

Х а р т а н о в і ч. Адгэтуль... Я калачуся і пытаю ў шофера, каб ён мне хоць якую надзею падаў... А ён мне кажа — ніякай, кажа, надзеі. Тут, кажа, цэлую ноч трымалі нейкага Міхалковіча за тое, што яго бацька па бальшавіцкай граніцы такім вялікім начальнікам, чын якога ў Польшчы хіба можа зраўняцца з адным Чарноцкім. Той, кажа, Міхалковіч там як цар і бог — што захоча, тое і робіць. І што, кажа, тут усё згаворана, каб тутэйшага яго сына пагнаць у Картуз-Бярозу, а сям'ю выгнаць з хаты. От табе, кажа ён мне, і надзея твая. Нікому ніякай літасці. Мяне як бы хто за горла здушыў.

М і к а л а й *(у яго перарываецца голас)*. Мой бацька тут блізка на граніцы?

Х а р т а н о в і ч. Як удалося даведацца шоферу — твой, чалавеча, бацька жыве ў пакоях самога Чарноцкага. Унь... *(Заглядае ў вокны, паказвае пальцам праз акно.)* Унь у тым белым доме жыве твой бацька. Дзесяць крокаў ступіць і там.

Н а с ц я *(падступае да Хартановіча)*. Яго *(паказвае на Мікалая)* забяруць, а нас з хаты выганяць?

Х а р т а н о в і ч. Мусіць так.

Н а с ц я. Гэта вы прыйшлі папярэдзіць нас?

Х а р т а н о в і ч. Я вас ніколі ў вочы не бачыў, можа я і не пайшоў бы, каб у мяне не сваё няшчасце. Але я... чалавеча... *(падыходзіць да Мікалая)* будзь ласкаў, памажы мне ў няшчасці...

М і к а л а й *(збянтэжаны)*. Што я магу табе памагчы?

Х а р т а н о в і ч. Твой бацька там такую сілу мае, што мы нават і падумаць не можам. Каб ты як-небудзь... напісаў, ці як інакш... два словы толькі свайму бацьку, каб ён мне там памог, то я пайшоў бы туды і стаў бы тамашнім паддапным. Твой бацька гэта ў момант можа зрабіць.

М і к а л а й *(аж глытае Хартановічавы словы)*. А як жа ты граніцу пяройдзеш?

Х а р т а н о в і ч *(моцным шэптам)*. Жончын стрыечны пляменнік начальніка заўсёды па граніцы возіць. Дык там яму ўсе дружакі вялікія. П'юць разам. А ў адным месцы такі ў яго сябра там,

што толькі слова ён яму скажа, і той мяне сам перавядзе цераз граніцу. А там я да твайго бацькі.

Насця *(да Мікалая)*. Ты чуеш?

*(Мікалай садзіцца на лаву ў хмурай задуме. Хартановіч падыходзіць да яго.)*

Хартановіч. Тут, браце, няма калі раздумваць. Можа там дома мяне ўжо шукаюць... Прашу цябе, зрабі ласку, акажыся якнебудзь пра мяне свайму бацьку... *(Мікалай не адказвае, Хартановіч паварачваецца да Ірынкі.)* Што гэта... дзіця ў вас... хворае?

Насця. Гіне яна... малая... Не пажыве яна доўга на свеце. Яшчэ як з хаты выкінуць... Пад плотам зойдзецца...

Мікалай *(паднімае галаву)*. Вось пра што мне гаварыў уначы Чарноцкі. *(Дзіка азіраецца па хаце.)*

Насця. Дзесяць крокаў ступіць і ў бацькі будзеш, няхай ратуе нас, калі такую сілу мае, як умее няхай ратуе.

Хартановіч. Гэ, каб мой бацька там быў, і ў такой моцы. Ён бы мяне дзяржаўным парадкам выпатрабаваў бы туды к сабе.

Мікалай *(рашуча да Хартановіча)*. А калі я з табою пайду? *(Хартановіч затросся з радасці. Як ён ні стараецца — яму цяжка схаваць сваю радасць.)*

Хартановіч. Толькі там перад бацькам закінеш за мяне слова, а я тут шапну шоферу, каб там нас дваіх прапусцілі... Толькі не можна ні хвіліны марудзіць. Да вечара мы пераседзім пад вербамі... дзе-небудзь... ціхом...

Мікалай *(да Насці, спяшаецца як найхутчэй сказаць)*. Прыйдуць пытацца — скажы, што сама не ведаеш, куды пайшоў работы шукаць... Ну і ўсё там... Сама будзеш бачыць. Чакай ад мяне вестак. *(Адвярнуўся, выцер раптоўныя слёзы з вачэй. Сам сабе.)* Можа і на пагібель іду.

Насця *(пачула)*. І так будзе пагібель. *(Кладзе яму рукі на плечы.)*

21–22 Замест: *счакаўшы* ∽ *яго* // *да Мікалая*

22–23 *(Да* ∽ пагаварыць.— адсутнічае.

24 Пасля: Мікалай // *падыходзіць да Ірынкі, гладзіць яе па галаве. Ірынка садзіцца на пасцелі. Мікалай*

26 Пасля: Ірынка. // Гэта я спала?

28–29 Блізка ∽ прыходзь.— адсутнічае.

29 Пасля: *Мікалай* // *і Насця моўчкі пераглянуліся. Мікалай пацалаваў Ірынку ў галаву.*

29–30 не адказаў ∽ Ірынку — адсутнічае.

Стар. 203

14 Замест: *Неўзабаве ў хату* // *Нейкі час хата пустая, пасля*

17 Пасля: няма? // *(Усхапілася, шпарка ідзе да дзвярэй і адчыняе іх, каб выйсці.)*

19–20 Пасля: *хату.* // *Юзя варочаецца назад з-пад дзвярэй.*

34 Пасля: Зыгмусь. // Я цябе не ведаў, дзе знайсці. Я па тваіх слядах бег з навінай:

37 Пасля: не жыў. // Лямэнт стаў на калена і цалаваў Чарноцкаму нагу. Я глядзеў з сянец праз дзірку ў замку і хваліў Лямэнта:

Стар. 204

13 Пасля: берагла. // Якое шчасце, што нарэшце я магу не ісці за Лямэнта.

15–16 Замест: Лямэнту. // каму хочаш.

24 Пасля: прапасці. // Ты дасі мне шчасце. Ты ж бачыш, што я не шкадую сябе дзеля цябе.

31 Пасля: Юзю.) // Толькі ўмова — каб адразу сагнаць з зямлі людзей, перапісаць на цябе зямлю і ісці за Лямэнта.

Стар. 205

20 Пасля: казаў? //

Лямэнт. А ты хочаш, каб я перад табою спавядаўся?

Зыгмусь.

21 Пасля: жонка! //

Лямэнт. А-а-а, ласунчык. Яна варта мяне, а я яе.

Зыгмусь.

22 Пасля: ведаў. // Спадзяюся пабаляваць на вяселлі?

42 Пасля: пані... // На векі вечныя глядзець цябе буду...

Стар. 206

1 Пасля: *далей // ад яго і стаіць сумная і збянтэжаная.)*

2 Пасля: дзікая... // Пан міністр мне гэтую зямлю падараваў...

3 Пасля: людзі. // Няхай і жывуць тут.

26 Пасля: Вы // мяне не ашукаеце, вы

27–28 Пасля: дзяўбуць. // *(Лажыцца на сваю пасцель.)*

33–34 Замест: Бяда ∽ чую. // Ці на дабро яму пайшоў...

Стар. 206—207

39–3 Замест: Гэта ∽ *плача.* // Юзя, мы гэта ведаем... Чалавек прыходзіў, такі самы няшчасны, як і мы... Яго ўжо выкінулі з хаты...

Юзя. Які ж гэта чалавек?

Насця. Не вельмі даўно быў у нас... Казаў, што начаваў у Лямэнта на сметніку. Часам заікаецца. З нейкімі сінякамі на твары.

Юзя *(паднімае галаву)*. Невысокі? *(Хвалюецца.)* З рыжаватымі вусамі?

Насця. Але, Юзечка, шрам упоперак чэраз лоб.

Юзя. Выйшаў ён ад Лямэнта праз сад і пайшоў быў пад вашу хату. Я ж бачыла. Я не думала, што ён к вам. Ніякі ён не няшчасны.

Насця *(уздрыгнулася)*. Хто ж ён?

Юзя. Начаваў ён не на сметніку, а сядзеў у бакоўцы. А зранку снедаў з Лямэнтам разам. Мусіць ён...

Насця. Што, Юзечка, кажы хутчэй.

Юзя. Ці не туды ён часта ходзіць... Шпіёніць... *(Паказвае ў акно.)*

Насця *(ускрыкнула)*. Ён туды Мікалая павёў.

Юзя. Куды?

Насця *(сцішае голас, дрыжыць)*. Юзя, маўчы, нікому не гавары гэтага. Табе адной прызналася... Божа мой, божа мой, у пастку павёў Мікалая...

Юзя. У які бок яны пайшлі? *(Рвецца да дзвярэй.)*

Насця. Не ведаю. Юзя, не ведаю. Мы пад клянамі развіталіся...

Юзя *(адыходзіць ад дзвярэй)*. Усюды гады... Лямэнт... згубіцель... Я павінна ісці за яго замуж... *(Падае грудзьмі на стол і калоціцца з плачу.)*

Стар. 207

4 *(пасля жудаснага маўчання)* — адсутнічае.

5 Пасля: сышоў //, на пагібель павялі Мікалая...

[6] Пасля: вялікай, // ...калі жыва будзе Ірынка.
[7] Не пакінь Ірынку... Ірынку...— адсутнічае.
[8] Пасля: Ірынка... // На дарозе з птушак цешылася...
[11] Пасля: *Заслона* //

## Другая карціна
### другой дзеі

На ўзгорыстым беразе рэчкі. Рэчка дзесьці ўнізе, пад берагам, яе не відно, а тут старыя, пакрыўленыя і дупляватыя вербы густа купчасцяцца зялёным венцам і робяць гэты куток прывабным і прытульным. Блізка да захаду сонца; згушчаецца вечар, пануе цішыня і, здаецца, у гэты спакойны куток не даходзяць буры і вялікае ўтрапенне чалавечага жыцця.

Уваходзяць Хартановіч і Мікалай Міхалковіч.

Хартановіч. Тут мы пачакаем, пакуль добра ўмеркне, а тады пойдзем. Будзь спакоен. Там на ўзлеску нас спаткае той, з якім гаварыў шофер, і павядзе. Толькі будзеш старацца ціхом нагамі ступаць. *(Садзіцца на траву.)* Трэба ціха, бо калі заўважаць, то прападзём навек. Будзеш ціха паўзці скрозь, пакуль не выйдзем крыху ў тыл на тым баку.

Мікалай. І там паўзці трэба будзе? Чаму? Мы ж туды ідзем.

Хартановіч. Гэта нічога, што туды. Трэба, каб не злавілі, бо арыштуюць.

Мікалай. Ну дык няхай арыштоўваюць. Свае ж арыштуюць.

Хартановіч. Не, не. Мы кіламетраў са два адпаўзем, а тады адразу да твайго бацькі.

Мікалай *(доўга раздумвае, углядаецца ў Хартановіча)*. Слухай, гэта ўсё праўда, што ты мне гаварыў і гаворыш?

Хартановіч. Што гэта ў цябе за гаворка? *(Насцярожана сочыць за Мікалаем.)*

Мікалай. Нешта ты вельмі сплапаваў усё добра.

Хартановіч. У мяне рвецца ўсярэдзіне ўсё.

Мікалай. Усё ў цябе так гладка — цябе спаткаюць, цябе павядуць.

Хартановіч. Шофер — стрыечны пляменнік мае жонкі.

Мікалай. І якраз ты з сваім няшчасцем да майго няшчасця трапіў.

Хартановіч. Браце ты мой, дык не ідзі. Я пайду адзін. А ты вярніся ціхом дадому. Ідзі, браце, дадому, ідзі. А то якая няўдача — на мяне наракаць будзеш...

Мікалай *(паварачваецца бокам ад Хартановіча, у глыбокім задуменні глядзіць кудысьці паміж дрэў, адкуль ідзе бляск блізкага да заходу сонца, і маўчыць. Хартановіч у неспакоі і трывозе сочыць за ім. Мікалай садзіцца на траву поплеч Хартановіча. Маўчаць).*

Мікалай. Калі мы можам быць па тым баку?

Хартановіч. Калі ўсё добра ўдасца, дык гэта ж сотня крокаў! А там і твой бацька. *(Углядаецца ў Мікалая.)*

Мікалай. Чаго ты так уставіўся на мяне сваімі вачыма?

Хартановіч. Колькі жыву — першы раз бачу такога чалавека — а глядзіш на яго, а няпраўду яму кажаш.

Мікалай. Ты казаў, што ты з-пад Вялікай Слівы.

Хартановіч. З-пад Вялікай Слівы.

Мікалай. А ты ўжо загадзя ведаў, што тут гэтыя вербы растуць...

Хартановіч. Як я ведаў. Гэтыя ж вербы відны здалёк, калі ідзеш.

Мікалай. Ты яшчэ ў хаце казаў мне, што пад гэтымі вербамі будзем чакаць вечара.

Хартановіч *(тонам раззлаванасці)*. Я цябе, чалавеча, прасіў і зноў прашу, ідзі ты дадому. Не з тваёй натурай на такую справу ісці. Прападай тут. Я без цябе знайду там спосаб.

Мікалай *(зноў паддаецца ўгавору)*. А як жа ты там без майго бацькі абышоўся б?

Хартановіч. А, усё адно. К сваім жа іду.

Мікалай *(памаўчаўшы)*. А як мы там адразу будзем пытаць майго бацькі, ці як ты думаеш?

Хартановіч. У каго пытаць?

Мікалай. Ну, першых жа мы спаткаем пагранічнікаў.

Хартановіч. Я ж табе ўжо казаў раз. Мы будзем старацца пагранічнікам на вочы не трапляцца. Мы ціхом будзем паўзці, ты не зважай, калі можа цэлую ноч прыйдзецца дзе праляжаць у траве ці ў разоры.

Мікалай *(устрапянуўся)*. Чаму так?

Хартановіч. Калі нас пагранічнікі зловяць — дык гэта будзе цэлае следства. А так нам крышку ў тыл прабрацца. А там адразу ў той белы дом да твайго бацькі. Ты будзеш з бацькам гаварыць, раскажаш яму ўсё пра сябе і мяне, а я чакаць буду ў сенцах ці на двары. Пасля ты мяне паклічаш.

Мікалай. А ты што, баішся зайсці адразу да майго бацькі?

Хартановіч. Ён жа мяне не ведае.

Мікалай. Ну дык што?

Хартановіч. Так будзе лепш, як я кажу.

Мікалай. Адкуль ты ведаеш, што лепш?

Хартановіч. Адкуль жа я магу ведаць? Мне так здаецца.

Мікалай. Тут нас праз граніцу прапусцяць, а там нам паўзці і туляцца прыйдзецца? Ведаеш што? Я такі вярнуся.

Хартановіч *(устрывожаны падняў галаву)*. Вернешся? Ну як сабе хочаш.

Мікалай. Бывай здароў. Шчаслівай табе дарогі. *(Паволі пайшоў. Сонца на самым захадзе.)*

Хартановіч *(усхапіўся, зрабіў некалькі крокаў за Мікалаем)*. Пачакай, не ідзі.

Мікалай *(спыніўся)*. Што?

Хартановіч. Акажыся як-небудзь пра мяне свайму бацьку.

Мікалай. А ты ведаеш, што ён напэўна там?

Хартановіч. Нас з табой спасцігла няшчасце, а ты мне не верыш.

Мікалай. Я табе веру, але не магу адважыцца на такую справу.

Хартановіч. Удваіх, братка мой.

Мікалай. Мала што ўдваіх. Я не такі смелы, як ты.

Хартановіч. Прападзеш.

Мікалай. Што ты так клапоцішся, каб я не прапаў. *(Пайшоў.)*

Хартановіч. Пачакай, нешта скажу.

*(Мікалай не спыніўся. Хартановіч забег яму наперад.)* Пачакай, братка, пачакай. Адно толькі слова... *(Не пускае Мікалая.)*

Мікалай. Пусці.

Хартановіч. Хадзем ужо, раз выбраўся, ратунак будзеш мець.

*(Трымае Мікалая.)*

Мікалай *(злосна)*. Дай прайсці.

Хартановіч. Хадзем, кажу. Ратуй сябе.

Мікалай. Нешта ты як богам пасланы прыйшоў мне на ратунак. Хто цябе ведае, што ты за чалавек.

Хартановіч. Хадзем, кажу. Позна варочацца. *(Цягне Мікалая назад.)*

Мікалай. Позна. *(Хапае Хартановіча за каўнер.)*

Хартановіч. Даведаюцца, што да бацькі туды ўцякаў — на катаргу пойдзеш.

Мікалай. Ці не ты з даносам пабяжыш.

Хартановіч *(вырываецца з Мікалаевых рук, адбягаецца наперад)*. Братка, што ты выдумляеш. *(Просіць.)* Хадзем, прашу цябе. *(Хапае Мікалая за грудзі.)* Бачыш, ужо цёмна робіцца. Ісці трэба.

Мікалай. Утаплю, пусці.

Хартановіч. То хадзем разам да Лямэнта, кінемся ў ногі міністру, каб даў жыць...

Мікалай. Дык ты і Лямэнта ведаеш! *(Мікалай хапае Хартановіча за руку. Хартановіч вырываецца, выхватвае з кішэні наган і настаўляе на Мікалая, які кідаецца на яго.)*

Хартановіч. Ідзі да Лямэнта. Наперад выходзь. Застрэлю. Застрэлю...

*(Ён не скончыў слова. Мікалай рынуўся на яго, сціснуў аберуч і з усіх сіл штурхануў яго ўніз у рэчку. Чутно, як Хартановіч плюхнуўся ў ваду. Мікалай разгублена азіраецца. Чырвонае неба на захадзе меркне. Мікалай не знаходзіць сабе месца, пасля глядзіць з берага ўніз.)*

Мікалай *(сам сабе)*. Выплыве... Згубіць навек... *(Шпарка хапае з-пад ног камень і кідае аберуч уніз. Глядзіць прыгнуўшыся.)* Няма... Цяпер я вольны чалавек. *(Адыходзіцца ад берага.)* Неба над галавой, і зямля пад нагамі. І ўсё. Як вецер у полі. Дадому не патыкайся. Зараз пачнуцца пошукі і яго... і мяне... Бывай, Ірынка... Бывай, дачушка... Ці будзеш ты ў хаце жыць? Дзе і калі нам суджана ўбачыцца?.. Ці ўбачымся мы калі?.. Ці будзеш ты жывая?.. *(Выцер з вока слязу і пайшоў берагам. Спыніўся ў думе.)* А што калі бацька і праўда жыве там? Так блізка. А што калі адважыцца? Туды?

*(Шпарка пайшоў. Знік. Вечар. Цёмна. Цішыня.)*

*Заслона.*

Фінал другой карціны другой дзеі быў яшчэ раз перапрацаваны. Пасля: варочацца. //
Мікалай *(злосна)*. Позна? *(Задумаўся, сціх.)* Чаму позна?

Хартановіч. Вар'ят шалёны. Гаворыш, як дзіця. Даведаюцца, што да бацькі туды ўцякаў — на катаргу пойдзеш.

Мікалай *(з новай успышкай)*. Ці не ты з даносам пойдзеш?

Хартановіч. Што ты выдумляеш. Так я магу і на цябе сказаць, што ты станеш падбрэхачам і пабяжыш гаварыць, што я цябе цягнуў туды ісці.

Мікалай. Сабакам я яшчэ ніколі не быў.

Хартановіч. Дык як жа мне цярпець ад цябе такія словы?

Мікалай. Ты не крыўдуй.

Хартановіч. Мала што бывае скажа чалавек. Мы ж цяпер з табою не маем мясціны дзе галаву прыхіліць. Каб я яшчэ на цябе злаваў? Бог з табою, браце. Адкуль я магу ведаць, што там ужо не пытаюць, дзе я і дзе ты? Цяпер без катаргі не абыдзешся. А пройдзем туды, ніхто і ведаць не будзе. А там твой бацька выпатрабуе сям'ю тваю туды.

Мікалай *(задумёна маўчыць)*. Неба над галавою і зямля пад нагамі. І ўсё, нават памерці няма дзе. Ах! *(Рашуча махнуў рукой.)* Ну, пойдзем.

Хартановіч *(радасна)*. Чакай, няхай лепш прымеркне.

Мікалай *(маўчыць. Думае)*. Скажы, а чаму ты так хочаш, каб я канешна ішоў?

Хартановіч *(заплакаў)*. Калі ты пакінеш рваць на кавалкі маю душу.

*(Плача.)*

Мікалай *(доўга маўчыць, прыпіраецца галавой да вярбы, глядзіць удалячыню, быццам сочыць, як згушчаецца вячэрні змрок)*. Бывай, Ірынка, бывай, дачушка... Дзе і калі нам суджана ўбачыцца?.. Ці ўбачу я цябе калі?.. Ці будзеш ты жыць?.. *(Выцер з вока слязу, стаіць як акамянелы.)*

Хартановіч. Чуеш? Хадзем.

*(Пайшлі абодва. Зніклі. Вечар. Цёмна. Цішыня.)*

*Заслона.*

Стар. 208

19–20 Бачыш, як усюды чыста.— адсутнічае.

28–29 Замест: А вядро ∽ закрычыць. // А ты вельмі палахлівая, ды як пабяжыш, ды як закрычыш, ды ўся калоцішся ад страху. Збялела, спалатнела, дрыжыш, плачаш... *(Смяецца)*.

Стар. 209

11 Замест: правіць, // працуе,

24 Замест: важна, букет трымае... // з букетам, падкруціўшы вусы. Вясёлы. Сам сабе смяецца, на свой нос гледзячы.

26 Пасля: Міхалковіч // *(цяжка ўздыхнуўшы)*.

33–41 Замест: А трактар ∽ закрычыць. // А ты вельмі палахлівы, дык як пабяжыш, ды як закрычыш... збялееў, калоцішся, дрыжыш...

Міхалковіч. Ай, ай. Гэта ж ты не ходзіш, а ўсё бегаеш, пстрыкун.

Стар. 210

19 Пасля: адпачну // да вечара,

20 Замест: пасля // вечарам

33 Пасля: Міхалковіч // *(памаўчаўшы)*. Ну, добра, заграй. *(Садзіцца на верандзе, слухае, як Валя іграе.)*

Стар. 211

5 ўвесь ∽ мною.— адсутнічае.

6 ён — адсутнічае.

10 Пасля: далёка. // А пасля я напаткаў аднаго чалавека, які быў крыху ў той мясцовасці і ўцёк сюды з польскай турмы. Ён сказаў мне, што Мікалай жыве ўсё ў той хаце.

20 Пасля: Бачу. //

Міхалковіч. Бачыш правей ад дрэў адно адзінокае вялікае дрэва?

Валя. Бачу.

Стар. 212

19 Пасля: Міколку! // Глянь на тую зямлю, дзе ён пакутуе.

33 Замест: А ты? // Ну, хадзем.

34–36 Замест: А я? ∽ ідзі. // Ты ідзі, а я тут пачакаю, у садзе. А пасля ты мяне паклічаш.

Мікалай *(з ненавісцю глядзіць на Хартановіча)*. А чаму ты ісці не хочаш разам са мной?

Хартановіч. Мне нязручна так адразу. Ты раней сам з ім пагавары і пра мяне скажы. *(Паўза.)*

Стар. 212—213

39–29 Замест: Мікалай ∽ рабіць? //

Мікалай. А адкуль ты ведаеш, што тут мой бацька жыве?

Хартановіч. Я ж яшчэ табе ў хаце казаў, адкуль ведаю.

Мікалай. Ну дык хадзем.

Хартановіч. Кажу табе, прашу цябе — што нязручна мне адразу. От жа натура ў цябе.

Мікалай *(сілком уводзіць Хартановіча на веранду. Той упіраецца)*. Нешта ты вельмі баішся.

Хартановіч *(стараецца сысці з веранды назад у сад)*. Пусці, кажу. *(Просіць.)* Братка. Я тут пачакаю, уваходзь першы, адзін. От-бо чалавек.

Мікалай *(не пускае Хартановіча з веранды)*. Нешта табе вельмі лёгка ўдалося польскі бок перайсці?

Хартановіч. Знаёмства праз шофера. Ты мне не верыш?

Мікалай. Нешта ты вельмі доўга застаўляў мяне паўзці на гэтым баку.

Хартановіч *(напаўняецца злосцю і раптоўным выбухам страху)*. Слухай, што табе кажу. *(Штурхануў ад сябе Мікалая.)*

Стар. 213—214

30–3 Замест: Мікалай ∽ шукаючы. //

Мікалай *(штурхануў назад на веранду Хартановіча)*. Нешта ты цэлыя суткі трымаў мяне каля сябе пад кустамі ў канавах. Уваходзь у дом. Я пайду за табою. *(Пхае Хартановіча праз веранду ў дзверы.)*

Хартановіч *(грозна)*. Пусці. *(Стараецца збіць з свае дарогі Мікалая.)* Вар'ят шалёны.

Мікалай *(крычыць)*. Ідзі наперад.

Хартановіч *(моцным шэптам)*. Не крычы.

Мікалай. Ты тут ступіць баішся? Крыкнуць баішся? Усяго ты тут баішся? Там ты быў смялейшы.

Хартановіч. Дай дарогу. *(Кінуўся на Мікалая. Мікалай схапіў яго рукамі і ўвапхнуў, бадай-што ўнёс у пакой і штурхануў*

*яго на сярэдзіну пакоя. Хартановіч шпарка азірнуўся навокал.)* Пусці.

Мікалай. Тут будзеш.

*(У руках Хартановіча бліснуў нож, і ён прыняў паставу, каб прабіць сабе дарогу ў дзверы, якія Мікалай загарадзіў сабою.)*

Хартановіч. Трупам ляжаш. *(Рынуўся к дзвярам на Мікалая.)*

Стар. 214

5–6 Замест: Хартановіч ∽ ўлева і // Мікалай хістануўся ўбок,

8–9 Хартановіч ∽ Мікалаю.— адсутнічае.

21–26 Замест: Валя ∽ *слоў.* // *(Валя і Міхалковіч узыходзяць на веранду.)*

Валя. Гэта той, што гаварыў з табою, той высокі — гэта начальнік заставы?

Міхалковіч. Начальнік.

Валя. А чаму іх адразу не забралі, як убачылі, а яшчэ трэба чакаць і глядзець, куды яны пойдуць? *(Міхалковіч маўчыць.)* Дзядунь, мне страшна. Начальнік жа гаварыў табе, што яны ў гэты бок пайшлі.

Міхалковіч. Ціха, малая.

Стар. 215

13 Мікалай ∽ яго.— адсутнічае.

20 Я яго загнаў сюды...— адсутнічае.

21 Замест: А ён ∽ прыйшоў... // Канчаюся... Канчаюся...

28–29 Я ∽ вас.— адсутнічае.

32 Пасля: Каго? //

Валя. Таго пана?

Мікалай. Ён там усім свет завязаў. Ён згубіў Ірынку. Чаго я пайшоў сюды? Я думаў праз цябе знайсці ратунак сваёй Ірынцы, аж бачу — трэба браць дубіну і крышыць там усё, каб ведалі, што за Ірынку не будзе даравана на векі вечныя.

Валя. Хто гэта Ірынка?

33–38 Чарноцкага ∽ дзіця...— адсутнічае.

41 Пасля: божа мой... // Была там твая ўнучка Ірынка...

Стар. 216

3–9 **Мікалай** ∽ *да Міхалковіча.)* — адсутнічае.

10 Ад ∽ Усюды — адсутнічае.

11 Замест: усюды // ...дарогі скрозь...

11–12 Хіба ∽ туды.— адсутнічае.

13–15 Мікалай ∽ *ў яе.)* — адсутнічае.

17–19 Міхалковіч ∽ аднаго.— адсутнічае.

21 Замест: Чацвёртая // Трэцяя

Стар. 217

10 Пасля: Але // ён божыцца і клянецца, што і не глядзіць у той бок дзе яна. І

Стар. 218

21 Пасля: Чакай //, я зараз.

Стар. 219

26 Пасля: *калоціцца,* // *дробна стукае палкай у падлогу,*

28 Пасля: мая. // Я купіў у Чарноцкага.

Стар. 220

1 Пасля: быць. // Цяпер трэба старацца спакойна жыць...

[4] Пасля. *стары.)* // Калі айчызна... Калі гора вялікае здарыцца —

[5] Пасля: на зямлі... // Хоць пры смутку ў душы... Але ж жыць трэба будзе... Тут

[18] наймічка — адсутнічае.

Пасля: будзеш! //

Юзя. У чым мне каяцца?

Лямэнт. Калі я па сваёй добрасці толькі моўчкі глядзеў і маўчаў табе, дык ты думала, што я нічога не бачу. Адумайся. Раз можа быць даравана, але не два і не тры.

Юзя. Што даравана?

Лямэнт *(падбег да збанка, застукаў у яго палкай)*. Каму спрыяеш? З кім звязалася?

Юзя. Я памагаю няшчаснаму дзіцяці.

Лямэнт. Гэтае дзіця на дзесяць метраў навылёт у зямлю бачыць. Крывавая парода. Хто забіў чалавека, як не ён?..

Юзя. Вы бачылі, як ён яго забіў?

Лямэнт. Яшчэ не хапала, каб я глядзеў.

Юзя *(ажывілася)*. Дык вядома дзе ён?

Лямэнт. Узрадавалася? Наймічка. Пра сваё пачула?.. Я яшчэ магу табе дараваць усё, калі адумаешся.

Юзя *(падступае да Лямэнта)*. Я на вас глядзець не магу.

Лямэнт. Хамка.

[19] *з гордым выглядам* — адсутнічае.

[28] Пасля: Ірынка. // На дарозе вельмі цёмна і мокра.

Стар. 221

[26] Пасля: рабіць. //, калоціцца, дрыжыць...

[30] Пасля: ўцякаюць. // О, ён з Варшавы даўно ўжо, усё так недзе блытаўся... Сёння ўначы, па дарозе, от нядаўна, от толькі што, яму за шчасцем не быў канец. І я пры ім ледзьве з жыццём не развітаўся.

Юзя. Як гэта?

Зыгмусь. Гурт нейкіх мужыкоў нам дарогу загарадзіў. Пачалі ўжо цягнуць Чарноцкага з машыны, але я стрэліў і рвануў машыну...

[32] Пасля: справу? // *(Яна вельмі ажывілася)*.

Стар. 225

[8] Пасля: Зыгмусь. // У першыя дні вайны

[8–9] Пасля: раскрыла // перада мной

[11] Чаго ж — адсутнічае.

[15] Пасля: вам, // хоць і не паверыў,

[16] Пасля: раз'ездах // і не мог явіцца сюды.

[24] Пасля: няма вас. // Што другое — таксама.

[33] Пасля: кутку. // Каб і дух вон.

Стар. 226

[20] Пасля: Юзя. // Ірынка.

Пасля: хацелі. // Я ледзьве ўцякла.

[24] Замест: Адкуль ты ведаеш? // Чаму?

[25] Пасля: з сянец. //, як яны тут згаварыліся.

[27] Пасля: далёка. //, каб тут пра нас нават і не чуць было.

[31] Пасля: тады //, калі я далёка адыдуся,

[38] Пасля: Юзя // *(абы каб што сказаць)*

не скора.— адсутнічае.

[39] Пасля: ён? // Ты мусіць ведаеш, дык чаму ты мне не сказала?
[41] Пасля: дзед? //

Юзя. А можа ён тут, нават можа дзе блізка...

Ірынка. Дык чаму ж ён не аказваўся нам?

Юзя. Я нічога не ведаю, Ірынка. А тое што было з ім — то я табе раскажу.

Ірынка. Ну расказвай.

Стар. 227

[12] Пасля: за дзвярыма. //

*(Бразгаюць сенечныя дзверы.)*

Ірынка *(ужо на двары, каля акна)*. Нікога няма.

Юзя *(таксама на двары)*. Хадзем, Ірынка.

*(Сцэна нейкі час пустая. Пасля ўваходзіць Лямэнт. У яго змучаны і разгублены выгляд апанаванага адчаем чалавека. Ён зазірае ва ўсе куткі і прыпіраецца моўчкі плячом да сцяны, каб адысці ад сваё стомы.)*

Лямэнт *(сам сабе, цэдзіць па слову)*. Божа мой... Уцякла... Я адзін... За адну ноч старасць лягла па косці... Айчызна гіне... А мяне яна згубіць... Вораг мой навек яна... І ніколі не будзе яе ў мяне. Без яе... Старасць прыйдзе... Божа мой, божа мой... Юзя... Юзя... *(Садзіцца на тапчан, душыцца слязьмі.)* А можа гэты шчанок усё гэта выдумаў пра яе, з рэўнасці? *(Паднімае галаву.)* Юзя. *(Устае, прыслухоўваецца, адчыняе дзверы ў сенцы.)* Юзечка. Усё дарую, не пакідай мяне. *(Садзіцца на тапчан.)* А калі і выдумаў, дык яна ўсё роўна не будзе са мною. Яна так бы са мной не гаварыла. Гадаўка. Калі гора спасцігне, дык будзе яна са смехам глядзець мне ў вочы. Нідзе далёка яна не магла падацца.

*(Рашуча паднімаецца, ідзе да выхада. На двары каля хаты быццам нейкі лёгкі шум, нешта як бы стукнула, шарганулася аб сцяну. Лямэнт падаўся назад, прыпаў вухам да сцяны, трывожна слухае. Дзверы рвануліся і адчыніліся, і ў хаце з'яўляецца Мікалай з стрэльбай у руках.)*

Лямэнт. Ой!

Мікалай. Чаго ойкаеш? Адыдзі ад сцяны. Стой пасярод хаты. О так. Падымай рукі. Рукі падымай... Дзе Ірынка?

Лямэнт. Пайшла.

Мікалай. Ты яе выгнаў?

Лямэнт. Як матка памерла, дык яна сама пайшла...

Мікалай. Што? Матка памерла?

Лямэнт *(умільным тонам)*. Памерла...

Мікалай *(акідае вокам хату)*. Як звер уварваўся, раскідаў усё, паразбурваў, парасцягваў, да магілы давёў.

Лямэнт. Я ёй малако прысылаў.

Мікалай. Дзе падзеў Ірынку?

Лямэнт. Дальбог жа не ведаю, дзе яна.

Мікалай. Выходзь з хаты, вядзі, паказвай, дзе ў цябе там хаваецца Чарноцкі.

Лямэнт. Чарноцкага ў мяне няма.

Мікалай. А ну, ідзі. І яму і табе я падзякую за сіроцтва мае дачкі.

*(Лямэнт паволі ідзе да выхада. Мікалай на момант прыгінаецца к акну.)*

Мікалай. Івась, глядзі дзвярэй. Няхай двое стануць паабапал.

*(Выйшлі. Чутна, як людзі аддаляюцца ад хаты. Пуста. Ціха. Варочаюцца назад Юзя і Ірынка.)*

Ірынка. Чаму гэта яны не пусцілі прайсці?

Юзя *(прыслухоўваецца).* Ціха, Ірынка.

Ірынка. Чаму яны загадалі нам вярнуцца?

Юзя. К Лямэнту ехаў міністр Чарноцкі, а на дарозе на яго напалі нейкія людзі. Дык цяпер усё гэтае месца абкружылі паліцыянты.

Ірынка. Што ж нам рабіць, Юзя?

Юзя. Давай выйдзем на агароды. *(Выходзяць з хаты.)*

25 Пасля: прыйшла. // (Баіцца).

25–26 Замест: Што ∽ рабіць, //! Цяпер мы на дарогу не выйдзем.

Стар. 228

14 Пасля: крыўдзіць // ніколі.

16 Пасля: Армія. // Тут больш не будзе паноў.

31 Пасля: Лямэнт // ці той пан,

33 *(Цалуе Ірынку ў галаву.)* — адсутнічае.

42 адбягае ад акна і — адсутнічае.

Стар. 228—229

42–1 Нейкі час хата пустая.— адсутнічае.

Стар. 229

2 і Лямэнт. Чарноцкі — адсутнічае.

3 Пасля: адзежу. // *Ён да таго разгублены, што не можа знайсці сабе месца. Спачатку ён прыслухоўваецца да гукаў за хатай, а пасля пачынае маліцца.)*

Чарноцкі *(моцным шэптам).* Божа, дай ратунак і не даруй ім...

4–26 Лямэнт ∽ к сцяне.— адсутнічае.

27–34 Замест: пасярод ∽ чырвонаармеец // Чарноцкага, яна спачатку збянтэжылася, але адразу пасмялела і поўнымі агню вачыма глядзіць яна. Чарноцкі не вытрымлівае яе позірку і адварачваецца.

Чарноцкі *(нехаця).* Гэта ты тут жывеш? Я зараз пайду, я зайшоў толькі... Мне сказалі, што гэтая хата пустая.

Ірынка. Не, яна не пустая, я тут жыву... Цяпер тут смела можна быць, бо прыйшла Чырвоная Армія. *(Чарноцкі як адурнелы глядзіць на Ірынку.)* Чарноцкі майго тату недзе падзеў, цераз яго і мама памерла, і ён з Лямэнтам і мяне з гэтай самай хаты выгнаў, але цяпер я яго не баюся. Мне сам чырвонаармеец сказаў, каб я гнала яго вон з свае хаты, калі ён сюды прыйдзе.

*(Чарноцкі ўцягнуў галаву ў плечы, дзіка азіраецца, прыслухоўваецца да кожнага гуку. На двары чутны галасы. У хату ўрываецца Зыгмусь.)*

Стар. 229—230

35–18 сказаў ∽ да дзвярэй.— адсутнічае.

Стар. 230

19–20 Замест: *шпарка* ∽ *на Чарноцкага).* // А-а,

22 І ты, пане Лямэнт.— адсутнічае.

25 Замест: *у парозе* // *у дзвярах*

26 Замест: *выбягае* // *знікае з хаты*

27–33 Замест: **М і х а л к о в і ч** ∽ *перад ім.* || *(У дзвярах з'яўляецца Мікалай.)*

І р ы н к а. Тата прыйшоў.

*(Кідаецца да бацькі. Мікалай уваходзіць у хату, абнімаючы Ірынку, у той жа час не зводзячы вачэй з Чарноцкага.)*

М і к а л а й *(да Чарноцкага)*. Не хапіла б, пане Чарноцкі, і ўсёй тваёй Польшчы, каб выкупіць адну толькі слязу яе... Ірынкі... *(Чарноцкі ў знямозе прыпыніўся да сцяны.)*

Апошняя карціна чацвёртай дзеі была яшчэ раз перапрацавана:

### Апошняя карціна

Поле, пустая дарога, масток над ручаінай.
Ноч. На мастку стаяць Ю з я і І р ы н к а.

І р ы н к а. Юзя, чаго ты спынілася?

Ю з я. Пачакай, Ірынка, трэба падумаць. *(Маўчанне.)*

І р ы н к а. Нам няма куды ісці?

Ю з я. Чаму няма? Ёсць куды. *(Паказвае рукамі ва ўсе бакі.)* І сюды можна ісці... І сюды...

І р ы н к а. А куды ж мы прыйдзем?

Ю з я. Куды-небудзь прыйдзем. Абы далей адгэтуль.

*(Маўчанне.)*

І р ы н к а. Ну дык хадзем.

Ю з я. Чакай... Зараз... *(Прыслухоўваецца да цішыні.)* Ну, пойдзем.

*(Бярэ Ірынку за плячо. Сыходзяць з мастка.)*

І р ы н к а *(узбегла раптам назад на масток)*. Я не пайду далёка ад хаты.

Ю з я. Твой тата знойдзе цябе.

І р ы н к а. Не знойдзе. Я яго буду чакаць тут.

Ю з я *(з адчаем)*. А дзе ж ты жыць будзеш?

*Раптам вынырнуў з цемені ночы і з'явіўся каля самога мастка Л я м э н т.)*

Л я м э н т *(адразу)*. От дзе яна. Чаму ты тут?

Ю з я *(памаўчала, паказвае на Ірынку)*. З ёй. Таму што я хачу ўзяць яе сабе за дачку.

Л я м э н т *(здзівіўся, змоўк, задумаўся, надаў сваім словам тон просьбы)*. Дык гэта ж мне прыйдзецца быць яе айчымам?

Ю з я. Няўжо вы яшчэ і дагэтуль думаеце, што я пайду за вас замуж? Ніколі я за вас не хацела ісці.

Л я м э н т *(як звер)*. Дык ты гэта са мной так сабе, як з цацкай хацела гуляць?

Ю з я. Ай якая цацка, ну проста лялька.

Л я м э н т. Няшчасная служанка, хамка. Ты яшчэ будзеш думаць аба мне многа.

Ю з я. Я не буду пра вас думаць. Вы страшны, бессардэчны, вы ж не чалавек.

Л я м э н т. Гэта ўсё з-за гэтае малое?

Ю з я. З-за каго б там ні было.

**Лямэнт.** То можа з-за Зыгмуся? Што табе гэты Зыгмусь. Ён табе не дасць дабра. Ён цябе высушыць. Ён цябе ашукае. Ён голы, у яго нічога за душой няма.

Юзя. Ён такі самы гад, як і вы.

Лямэнт *(быццам павесялеў нават)*. Я табе дарую ўсе гэтыя твае словы... Юзя... Ты ж бачыш, які час настаў для айчызны. *(Уздыхае, дастае хустачку, адварачваецца ад Юзі, выцірае вочы; увесь згорбіўся, стаў як зусім немагушчы, стары.)* Калі айчызна... Цяпер трэба старацца ціха жыць на зямлі... Ты мне стала як чужая... Ты ўжо нават і гаварыць не даешся. Чаму гэта?.. Ну, добра. Я гэтай малой дам сто злотых, з такімі грашыма яна не прападзе на свеце.

Юзя. Я за вас замуж не пайду. І яе ад сябе не пушчу.

Лямэнт. Каяцца будзеш.

Юзя. У чым мне каяцца?

Лямэнт. Каму спрыяеш? З кім звязалася? Гэта крывавая парода. Хто забіў чалавека, як не ён?..

Юзя. Вы бачылі, як ён яго забіваў?

Лямэнт *(злосна да Ірынкі)*. Яшчэ не хапала, каб я глядзеў. Чаго ты трымаешся за яе. Што яна табе маці, ці што?

Ірынка. Мая маці праз вас памерла. І тата мой... Мой тата не такі, як вы гаворыце пра яго... Гэта вы такі самі, што мяне з хаты выгналі... Дзе мой тата?.. *(Раптам змоўкла і робіць крок назад. Азіраецца і бачыць перад сабой Зыгмуся, які яшчэ крыху раней ціха падышоў і стаў, слухаючы.)*

Зыгмусь *(да Лямэнта з пагардай)*. Ну што, пане Лямэнт, калі ж я на вашым вяселлі пабалюю?

Лямэнт *(злосна)*. А табе што.

Зыгмусь. Гнілая калода. Асалавеў, як старая свіння. Замест таго каб прыбраць гэтую гадаўку...

Лямэнт. Шчанюк.

Зыгмусь. Яе трэба ў турму зараз жа адправіць, а не замуж браць.

Лямэнт. Як — у турму?

Зыгмусь. Яна ўсюды хвалілася, што за старога Лямэнта замуж не пойдзе.

Лямэнт *(паварочваецца да Юзі)*. Але ж ты хацела за мяне ісці. Было ж усё згаворана.

Зыгмусь *(да Юзі)*. Патрабавала ты ад яго, каб ён на цябе ўсю маёмасць і грошы перапісаў?

Лямэнт. Так, патрабавала.

Зыгмусь *(да Лямэнта)*. Дык ты ведаеш, стары пацук, што гэта значыць? Гэта значыць, што як толькі ты на яе ўсё перапісаў бы і павянчаўся бы з ёю, яна адразу ж, заўладаўшы тваім дабром, зжыла б цябе з свету: пайшла б замуж за маладога.

Лямэнт *(закалаціўся, робіцца да Зыгмуся раптам далікатны)*. Адкуль пан Зыгмусь ведае?

Зыгмусь *(з адкрытым цынізмам, быццам бы Юзі тут няма і яна яго не чуе)*. У першыя дні вайны яна мне прызналася ў каханні і раскрыла перада мной гэтыя планы, жадаючы мяне завабіць на жыццё з ёй па вашым дабры. А цяпер яна гаворыць мне, што і рада, што не пайшла за вас. Бо, кажа, цяпер вам усё адно прыйшоў канец.

Лямэнт. Што? Што ты сказаў?

Зыгмусь. Так, так, Польшча гіне, а калі будзе што-небудзь новае — яна зробіць усё, каб загінулі і вы. *(Паварочваецца да Юзі.)* Я цябе адразу раскусіў.

Юзя *(ахопленая жахам, смуткам і ненавісцю)*. Гадзіна ты, з самых большых гадзін. Як цябе зямля трымае? Як ты ходзіш па зямлі, у чалавечым абліччы.

*(Не знаходзіць слоў. Паварачваецца да Ірынкі, бярэ яе за руку, і абедзве яны сыходзяць з мастка, каб ісці адгэтуль.)*

Зыгмусь *(да Лямэнта)*. Яна пайшла. Вы не бачыце?

Лямэнт *(устрапянуўся)*. Чакай. Стой. *(Кінуўся за ёю і загарадзіў ёй дарогу.)* Назад. *(Калоціцца ад злосці.)* Я табе зараз канец зраблю. Дома я з табой расправлюся.

*(Сілай адрывае Юзю ад Ірынкі і варочае яе назад. Штурхае перад сабой у дарогу і ідзе за ёю следам. Зыгмусь таксама разам з ім. Ірынка пастаяла момант і кінулася следам.)*

Ірынка. Юзя, што яны з табой зробяць?

Юзя *(на момант азірнулася)*. Ірынка, ідзі ў людзі, ідзі і не азірайся.

*(Усе зніклі. Пуста. Ціха. Ірынка неўзабаве прыбягае назад.)*

Ірынка *(сама з сабой)*. Я адна асталася... Ужо і Юзі няма... *(Пабегла кудысьці ў дарогу, знікла. Дзесьці стараной выбухае гул танкаў. Ён усё ўзмацняецца і даходзіць да вялікай сілы. Пачынае світаць. Ірынка прыбягае назад на масток.)*

Мусіць, вайна прыйшла... *(Дзіка азіраецца, шпарка садзіцца на мастку, прыціснуўшыся да парэнчаў. Дрыжыць ад страху. Дзень яснее. Ірынка ўглядаецца ўдалячыню.)*

Людзей многа на дарозе... *(Паднімаецца, углядаецца і кідаецца ва ўсе бакі, зноў садзіцца. Гул аддаляецца і пасля ледзь чуцен. Раптам Ірынка азірнулася на дарогу, усхапілася з месца і кінулася бегчы.)*

Чырвонаармеец *(з'яўляецца каля мастка)*. Пачакай, стой, малая. Чаго ты ўцякаеш? *(Ірынка спынілася па другі бок мастка, як аслупянелая. Баіцца.)* Чаго ты баішся? *(Спыніўся на мастку.)* Ну, хадзі сюды. Не бойся, ідзі. *(Ірынка нерашуча ўзыходзіць на масток.)* Што ты робіш тут адна, у полі, уночы?.. Чаму ты не спіш?

Ірынка. Мяне з хаты выгналі.

Чырвонаармеец. Хто ж цябе выгнаў?

Ірынка. Лямэнт.

Чырвонаармеец. А хто ён, гэты Лямэнт?

Ірынка. Тут яго дом... Я ў яго каровы пасвіла.

Чырвонаармеец. Дык, мусіць, пан або кулак які?

Ірынка. Не, ён асаднік.

Чырвонаармеец. Дык ты ідзі смела ў сваю хату. А калі прыйдзе гэты Лямэнт — гані яго вон. Смела будзь у сваёй хаце. І ўсюды, дзе толькі захочаш, будзь як гаспадыня... Ты ведаеш, хто я? Я чырвонаармеец. Сюды прыйшла Чырвоная Армія. Тут больш не будзе паноў... А як цябе зваць?

Ірынка. Ірына.

Чырвонаармеец. Ірына... Ірынка... Дык памятай, Ірынка, што я табе сказаў... Нас прыслаў сюды Сталін. Ніколі не забывай пра гэта. На ўсё жыццё памятай гэта...

Ірынка *(пасмялела, даверліва глядзіць чырвонаармейцу ў вочы)*. А яны Юзю некуды павялі, а майго тату некуды забралі, а мама памерла...

*(У часе Ірынкіных слоў прыбягае* Юзя. *Крычыць яшчэ здалёк.)*

Юзя. Ірынка... Ірынка... Чырвоная Армія прыйшла... У Лямэнтавым доме знайшлі Чарноцкага... *(Убачыла чырвонаармейца, з радасным узбуджэннем узыходзіць на масток. Глянула на дарогу.)* Унь твой тата ідзе, Ірына. *(Паказвае на дарогу.)*

Ірынка. Дзе тата? *(Углядаецца ў дарогу.)*

*(Чырвонаармеец паднімае яе на рукі, каб яна далей магла ўбачыць. Гул. Неба ўкрываецца самалётамі. Паказваецца на дарозе Мікалай).*

*Заслона.*

## УРЫВАК З НЯСКОНЧАНАЙ П'ЕСЫ (стар. 231)

Друкуецца па аўтографу, які захоўваецца ў сям'і пісьменніка. Аўтограф уяўляе сабой рукапіс на асобных вялікіх аркушах, пранумараваных з 3 па 15 стар. Аўтограф чарнавы: некаторыя словы выкраслены аўтарам.

Пачатак другой дзеі запісаны на асобным аркушы, без нумара.

## НЯСКОНЧАНЫЯ РАМАНЫ І АПОВЕСЦІ РОЗНЫХ ГАДОЎ

### ВЕЦЕР І ПЫЛ (стар. 245)

Пачатак аповесці. Друкуецца па час. «Полымя», 1927, № 3, дзе змешчаны ўпершыню. Першы раздзел аповесці друкаваўся як апавяданне ў час. «Чырвоны сейбіт», 1927, № 6—7 пад загалоўкам «Снегавыя дарогі» і падзагалоўкам «Урывак».

### МІХАЛ МАКАРЭВІЧ (стар. 277)

Урывак з аповесці «Вецер і пыл». Друкуецца па час. «Чырвоны сейбіт», 1928, № 9, дзе змешчаны ўпершыню.

### МЕСТАЧКОЎЦЫ (стар. 282)

Урывак з аповесці «Вецер і пыл». Друкуецца па час. «Узвышша», 1929, № 1, дзе змешчаны ўпершыню.

### НА ПАСЁЛКУ (стар. 304)

Урывак з аповесці «Вецер і пыл». Друкуецца па час. «Узвышша», 1929, № 3, дзе змешчаны ўпершыню.

### ТРЫЦЦАЦЬ ГОД (стар. 317)

Першая частка рамана. Друкуецца па час. «Полымя рэвалюцыі», 1934, № 2, 3, 4, дзе змешчана ўпершыню.

Урывак «Трыццаць год» быў змешчаны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1934, № 29, 1 чэрвеня.

У аўтабіяграфіі 1940 года К. Чорны пісаў: «Найбольш спелымі з маіх твораў я лічу п'есу «Бацькаўшчына», раманы «Трэцяе пакаленне», «Люба Лук'янская», «Трыццаць год»...»

## СПАТКАННЕ (стар. 412)

Урывак з рамана «Трыццаць год», тэкст якога істотна адрозніваецца ад тэксту першай часткі. Друкуецца па газ. «Звязда», 1934, № 12, 16 студзеня.

## ВАЛОДЗЯ КАСТРЫЦКІ НА РАДЗІМЕ (стар. 416)

Урывак з другой часткі рамана «Трыццаць год». Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1935, № 2, 14 студзеня, дзе змешчаны ўпершыню.

## ЗАВАЁВА СВЕТУ (стар. 421)

Пачатак рамана. Да гэтага часу нідзе не друкаваўся. У рукапісным архіве К. Чорнага, які захоўваецца ў сям'і пісьменніка, ёсць два аўтографы гэтага ўрыўка і паметка:

«Батуровічава Маня была ў сваёй душы чалавечная, але бачыла хамства маладога Вілача і думала, што гэта рэвалюцыя. І таму стала ненавідзець савецкую ўладу. З сваёй старэйшай сястрой яна «памірылася» ў часе гора і ўбачыла праўду сястры, якая была заўсёды з простым народам. Так у яе з'явілася сапраўднае пачуццё радзімы (бацькаўшчыны)».

Друкуецца па аўтографу № 1, які абрываецца на словах: «Як роўная з».

## У СЯМ'І КАЛАЦКІХ (стар. 430)

Урывак з рамана «Заваёва свету». Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1937, № 58—59, 6—7 лістапада, дзе змешчаны ўпершыню.

## ТОНЯ (стар. 432)

Урывак з аповесці для дзяцей. Друкуецца па час. «Іскры Ільіча», 1939, № 7, дзе змешчаны ўпершыню.

## СУДНЫ ДЗЕНЬ (стар. 437)

Пачатак рамана. Друкуецца па аўтографу, які захоўваецца ў рукапісным архіве К. Чорнага ў сям'і пісьменніка. Да гэтага часу нідзе не друкаваўся.

## ПАСЛЯ БОЮ (стар. 449)

Урывак з рамана «Судны дзень». Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1940, № 7, 3 сакавіка, дзе змешчаны ўпершыню.

## СВАЯ ХАТА (стар. 454)

Урывак з рамана «Судны дзень». Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1940, № 20, 11 ліпеня, дзе змешчаны ўпершыню.

## ЗАХАР ПАГУДА (стар. 460)

Пачатак рамана. Да гэтага часу нідзе не друкаваўся. Друкуецца па аўтографу.

Акрамя гэтага аўтографа, ёсць аўтографы ўрыўка з гэтага рамана, нататкаў да яго з пералікам дзеючых асоб і разгорнутага плана твора з умоўным падзелам на раздзелы.

Над гэтым раманам К. Чорны працаваў у апошнія гады свайго жыцця. У дзённіку 3 кастрычніка 1944 года ён пісаў: «Сёння ўночы... думаў аб Антаніне Лукашэўскай і двух яе сынах. Усё гэта можа пад маім пяром ажыць і жыць доўгім поўным жыццём. І да мяне прыйшла шчырая радасць».

## ЗАХАР ПАГУДА

Максім Грынявецкі.
Галена Грынявецкая.
Язэп (Юзя) Тамашэвіч.

Аляксандр Богуш.
Насця (яго сястра).
Мацей Скляпенчык (Насцін муж).
Лявон (сын).

* Антаніна (Анця) Лукашэўская з Калодзезнага.

У глыбокую восень 1939 года даволі яшчэ малады чалавек...

* Перш за ўсё, гэта быў чалавек тутэйшы. Вядома, прайшло год пятнаццаць... Аднак жа...

Трэба думаць, што яна адразу ўцяміла сэнс таго, чым жыла яго душа.

Валачашчая сука з шчанятамі ў агні.

«Маленькая жанчына» на дарозе.

У доме Скляпенчыка засталі сцэну...
Абарона Брэста.

У кожным новым раздзеле выводзіцца новая асоба і далей імкліває развіццё падзей.
Шырокая карціна вайны.

Адам Гаўрук. Мікадэм Кедыш. Раман Жыбурт. Клеманс Мазур. Разважнік. Варывода. Захар Пагуда. Гулейка. Каленчыц. Сабастыян Шкадарэвіч.

* У рукапісу закрэслена аўтарам.

Канцэнтрацыйныя лагеры.

Шырокая карціна, як немцы забіраюць насельніцтва ў Германію. Усіх у снежны лагер. Скляпенчык.

Нямецкі дэсант.

Палонныя — немцы і нашы.

* Максім Грынявецкі — Шпаруты паблізу шашы пад Піліпавічамі.

* Аляксандр Богуш пад Талачыном.

* Захар Пагуда — Пераброддзе на Уздзеншчыне.

Маладая жанчына, з выгляду дзяўчынка, прыйшла да тых руін (да таго месца) з дзіцем на руках (якое было дзіця ў той дзень).
Каб у кожнага і ўсюды было благаславенне жыцця; прага да яго. Аптымізм, як трава на сонцы, як «немец з гноем на вілах зранку», як пачатак «Воскресения» Л. Талстога.

Тры перыяды ў «доме». I: ён стаяў няскончаны. II: ён дайшоў да заканчэння і каля яго відна Галена ў клопаце; Клава з вышыўкаю. III: дом запуставаў.

Заўважылі, што на гэтым мерцвяку не было пояса. З гэтага падумалі, што гэты чалавек перад смерцю быў зняволены.

Вялікім героем рабіць Скляпенчыкавага маладога сына.

Назвы раздзелаў павінны быць рэалістычныя, спакойныя.

**Раздзелы**

Колькі момантаў з біяграфіі Максіма Грынявецкага.
Дачка Банадыся Варыводы. (Банадысь Варывода.)
Браты Янцэвічы.

У гэтым рамане прапаведаваць не нацыянальнае, а агульналюдскае, бо тут «доктар» і Антаніна.

Антаніна пайшла замуж раптам, так прымусіла жыццё.

Шлюб Барцёўскага.

Выказаць у рамане агульначалавечае, каб яно ў наступным рамане вылілася ў нацыянальнае на дзецях герояў і сыне Барцёўскага.

## ПЛАН РАМАНА

*(Падзел на раздзелы ўмоўны)*

I

Маладосць Максіма Грынявецкага, 1917—1919 годы. Пабудова дома, акупацыя, асоба Антаніны Лукашэвіч. Максім Грынявецкі

знік на доўгі час. Шлюб, нараджэнне дзяцей, двое, дочкі, смерць жонкі, псіхалагічная траўма, родны дом, новае мястэчка Шпаруты. Аўтобусы, малады пасажыр і Галена Грынявецкая. Шлюб. Душа Галены Грынявецкай. Ад'езд «назусім» у Мінск.

II

* «Немцы падпалілі Мінск» і далей так, як напісана і надалей спланавана. Канцэнтрацыйны лагер і Галена з дзіцем у Шпарутах.

III

Антаніна недзе згінула на захадзе. Яна доўга чакала замуства. Пайшла замуж за арандатара. Пакуль арандатар быў малады, ён рваўся ў «вялікія маштабы», а ў той меры, у якой ішоў час, ён апускаўся, бачыў, што «трэба жыць як набяжыць», заарандаваў паўвалоку і сам з Антанінаю рабіў на ёй.

Два сыны. Вось у дачыненні да іх ён не «зменшыў маштабаў». Ён то спрабаваў вучыць іх, то шукаў ім «спосабу»: а можа гандаль, а можа служба, а можа каб так што выдумаць ім.

Антаніна была пасіўная, два сыны — былі дзве натуры. Жыццёвыя дарогі іх пайшлі не раўналежна, і нарэшце яны сутыкнуліся паміж сабою з двух варожых лагераў. Маці іх любіць — трагедыя Антаніны. Гэтая лінія рамана канчаецца трагедыйна.

IV

Абарона Брэста. Адзін сын Антаніны — просты салдат, высокі і нават камляваты. Ці дзе ён у тылу і не ў Брэсце. (Бо не мог там быць). Ці ён быў мабілізован у польскую армію і прыйшоў з палону і рад, што прапала Польская дзяржава?

V

* «Самаахвярнасць» Антаніны Лукашэўскай. Яна любіла Максіма Грынявецкага і пабегла сказаць яму, рызыкуючы бацькавым шчасцем, бо толькі ён адзін ведаў пра гэта. Гэта пашкодзіла бацьку. Ён не ўратаваўся, яго выгналі са службы. Ён падаўся за Мір і там астаўся служыць і памёр, калі ўжо была граніца. След Антаніны страціўся.

VI

Максім Грынявецкі меў дом. Антаніна была бяздомная аж да таго моманту з дня нараджэння, пакуль у той мясцовасці не асталося ніводнага дома (вайна).

VII

Сцэна, як Антаніна з замілаваннем глядзіць сыноў, аднаго і другога.

VIII

І ён рашуча ўвайшоў у анатамічку.

IX

Два сыны — гэта былі дзве натуры.

X

Так як раман начаты, так вельмі добра. Павінна быць у рамане многа завязак і ліній, якія ст. за ст. развіваюцца, высвятляюцца і нарэшце скрыжоўваюцца ў канцы рамана ў агні вялікіх падзей.

XI

Максім, Антаніна, Алімпа, Лявонка, усе яны носяць у сабе вялікае благародства і чыстату імкненпяў. Кожны з іх апанован смагаю да шчасця і дзейнасці.

XII

Алімпа простая сялянка. Галена высокая інтэлігентка новай беларускай фармацыі. Антаніна — вялікая душа, загнаная ў цесны кут непамыснага жыцця.

XIII

Раман канчаецца адной лаканічнай фразай. Ужо ўсё выяснена і толькі: калі яго знайшлі, то ўбачылі, што пояса і ботаў на ім не было і твар быў змяты жалезным колам.

XIV

Патрэбна многа беглай апавядальнасці ад «першай» асобы, шпаркай і падрабязнай. Пісьмы (перапіска) паміж персанажамі.

XV

Трагічная канцоўка або ўсяго рамана, або вялікай квадры яго: Антаніна і сын. Яна ідзе шукаць другога сына. Знаходзіць яго, і пачынаецца вялікі працэс у яе душы. Але, мусіць, найлепш самая канцоўка момантам смерці сына. А «працэс у душы» ідзе ў далейшым апавяданні (частцы) рамана.

XVI

«Свядомасць жа яго, дзеля чаго ён гэта робіць, пачалася з мамантаў сустрэчы яго з новымі людзьмі (нацыянальная высокая свядомасць). Сустрэча з двума людзьмі, прадстаўніком ЦК і «Максімам Сцяпурам» з «Смагі».

17

Муж Галены Грынявецкай слабавольны чалавек і зрабіў паслугу немцам пад катаваннямі Барцёўскага, які служыць немцам? Тады можа Барцёўскі раней быў польскім вайскоўцам? Ці потым стаў у Варшаве?

18

Старацца, каб гэта не быў інтымны раман, а шырока-грамадскі, каб былі вялікія інтарэсы роднай зямлі.

19

Пакуль пайсці замуж, Антаніна трымала сябе высока. Пасля шлюбу яна пачала апускацца (стала падобна да простае сялянкі і такою стала, з мужам рабіла зямлю). У вайну выявіліся якасці гэтай асобы, і яна зноў узнялася высока.

Калі яна стала сялянкай, выявілася святасць яе душы: маці, жонка, яе думкі аб людзях: тое, што яна вучылася ў маладосці, не прайшло дарма. Яна тлумачыла мараль чалавецтва.

20

У першыя часы датла згарэла Антанініна сяліба і муж згарэў жывы, які ёй стаў за ўсе гады другам. Яны ўдваіх выгадавалі сваіх сыноў. Яна з попелішча пайшла ў Шпаруты, ратавацца ад адзіноты.

21

Ці не звязаць Богушаўскае котлішча з Варыводаўскім? Алімпа пісала пісьмо нейкаму Богушу? (Скляпенчыку)

22

Барцёўскі лічыць, што Сталавічы ў Польшчы.

23

Доктар яўрэй друг Грынявецкага (разам вучыліся). Яго расстрэльвалі немцы.

24

Боль душы Банадыся па сваёй унучачцы (Грынявецкага і Алімпы дачцэ).

25

Філасофія Скляпенчыкава: чалавек раз жыве на свеце.

26

Ужо ў часе вайны Антаніна ў сябе дома расказвае раненаму салдату, як яна любіла Максіма Грынявецкага.

27

У апошніх квадрах рамана Максім Грынявецкі, у якога за плячыма асталося ўжо ўсё, што было ў рамане, перайначыўся. Гэта своеасаблівы Жан Вальжан.

28

Максім Грынявецкі.
Алімпа.
Банадысь Варывода.
Антаніна Лукашэўская.
Анэта.
Марцін Цераховіч.
Марына Крыштафуцкая.
Барцёўскі.

29

Анэта дажыла да вайны. Яшчэ і цяпер яна не была ў вялікай старасці. Яна была самай шчырай сведкай таго, што рабілася ў Сталавічах.

30

Выхаванне дзяцей (дачкі?) і перыяд «доктарства» ў Шпарутах. Допыт яго ідэолагам нямецкага фашызму. «Я думаю аб вачах дзяўчынкі, калі яна канала ў пакутах».

31

Антаніна і раней не любіла таго свайго сына. Але ў рашучы момант перад ёю паўстае вобраз яго малога, і матчына сэрца не вытрымала. Яна ўпрасіла Грынявецкага даць яму роўную смерці задачу для выканання, каб неравысіць сваю віну і просіць яго не ўцякаць, а выканаць.

Пасля яна бачыла: цвёрда, сашчаміўшы зубы, пайшоў на шыбеніцу Банадысь Варывода, чакала сына.

32

Як ідуць з лагера на расстрэл мужчыны і жанчыны.

33

Пра Барцёўскага дакладна ведалі: у Варшаве ён не дайшоў да міністра. Яму толькі ўдалося тое, што ён жыў вельмі добра. (Ён «рэвізаваў» Навагрудчыну).

34

Максім Грынявецкі асмыслівае сваё жыццё, як працу на ўсё чалавецтва непасрэдна. Яго ратуе народнасць Алімпы.

Муж Антаніны Лукашэўскай усвядомлівае сябе праз беларускую нацыю. Пакуль ён сядзеў у польскай турме, Антаніна гадавала двух сыноў. Ужо адразу абрысоўваць мужа Антаніны, маладога хлопца, там, дзе яна прыехала пад Сталавічы. Можа, ён мае якое сваяцкае дачыненне да друга Адама Лукашэўскага, што выклікаў яго да сябе.

35

Смерць у агні Антанінавага мужа (абвуглены).

36

Антаніна ўгаворвае старэйшага сына пайсці на подзвіг. (Але як жа яна можа яго ўгаворваць, калі ён пад арыштам?) Яна сама робіць за яго той подзвіг. І становіцца «звышчалавечнай» жанчынай.

37

Не шкадаваць фарбаў на тую пакасць, якую робіць старэйшы Антанінін сын. Пісаць смела і праўдзіва.

38

Рысаваць Грыпявецкага, як мужнага, смелага і моцнага воляй заваёўніка прыроды — хірурга. Яго дружба з Марцінам Цераховічам.

### УРЫВАК З РАМАНА «ЗАХАР ПАГУДА» (стар. 487)

Друкуецца па аўтографу, які захоўваецца ў рукапісным архіве К. Чорнага ў сям'і пісьменніка. Да гэтага часу нідзе не друкаваўся.

### СУМЛІЦКАЯ ХРОНІКА (стар. 494)

Друкуецца па аўтографу, які абрываецца на словах: «... цалкам належыць да». Аўтограф захоўваецца ў рукапісным архіве К. Чорнага ў сям'і пісьменніка. Да гэтага часу нідзе не друкавалася.

### ЛЯВОНЧЫКАВА ЛІДА І ЯКУБАЎСКІ КАРЧМАР СЫМОН БІРУЛЯ (стар. 518)

Пачатак аповесці. Друкуецца па аўтографу, які захоўваецца ў рукапісным архіве К. Чорнага ў сям'і пісьменніка. Да гэтага часу поўнасцю не друкаваўся. Канец II раздзела, раздзел III і IV (без апошніх двух сказаў) пад рэдакцыйным загалоўкам «Перад дарогай» і падзагалоўкам. «Урывак з няскончанай аповесці» быў змешчаны ў часопісе «Беларусь», 1947, № 12.

### УРЫВАК З РАМАНА БЕЗ НАЗВЫ (стар. 537)

Друкуецца па аўтографу, які захоўваецца ў рукапісным архіве К. Чорнага ў сям'і пісьменніка. Да гэтага часу нідзе не друкаваўся.

Пад аўтографам паметка: «Назва першай часткі: Марная маладосць Зоі Хлябцэвіч, легкадумныя ўчынкі Костуся Чабатаронка, фанатызм Сухменьчыкавай Ганкі і вялікае расчараванне Юрася Гарашкевіча».

21 жніўня 1944 года ў сваім дзённіку К. Чорны пісаў: «Сённяшні момант беларускай гісторыі важан не толькі выгнаннем з Бела-

русі немцаў. Беларусь — усходняя славяншчына. Немец тут ніколі не будзе панаваць. Вельмі важным момантам сёння ёсць нам тое, што адбываецца ў Польшчы. Здаецца, што кладзецца канец польскаму зямельнаму магнацтву... Як бы там ні было, а раман аб Рыгору Сухменьчыку калі-небудзь павінен быць напісан. Пісаць буду ўжо здаўшы ў друк «Вялікі дзень», «Пошукі будучыні», «Скіп'ёўскі лес», «Смага», кнігу аповесцей «Сумліцкая хроніка», «Млечны Шлях», «Лявончыкава Ліда і якубаўскі карчмар Сымон Біруля», раман «Сыны Хведара Нявады» і драма.

Каб не выветрылася з памяці, запішу аб рамане пра Рыгора Сухменьчыка.

### Асобы рамана

1. Залеўскі (Эдвард Вайніловіч?), зямельны магнат.
2. Рыгор Сухменьчык, акопам, праваслаўны мужык з Кудзінавіч, салдат.
3. Сухменьчыха. Каталічка.
4. Анця. Дачка.
5. Яраслаў, сын.
6. Фэлька, Сухменьчышын брат, Сцяпура.
7. Яго жонка.
8. Юрась, іх сын.
9. Бацька Фэльчыхі сарвэтнік у Сумлічах — Цапры, Жупранах.
10. Другая жонка Залеўскага ў эміграцыі (у Польшчы).
11. Сын Залеўскага ад другое жонкі.
12. Васіль-Лукаш-Брандэцкі.
13. Сцяпан Хлябцэвіч.
14. Хлябцэвічыха.
15. Зоя Хлябцэвіч.
16. Студэнт Адамчук, яго трагічная смерць пасля.
17. Муж Зоі Хлябцэвіч.
18. Фэлькава дачка, Юрасёва сястра.

### Дзе адбываюцца падзеі рамана

1. Рачкевічы, Залеўскага ўладанне.
2. Мястэчка Сумлічы, адкуль родам Фэлькава жонка.
3. Сцяпура Фэлька родам з Якубаўшчыны. Там на вузкіх палосах паміж двух лясоў паставіў сабе хату і жыў там. (Гэта калі пашыралася пасля рэвалюцыі мястэчка Сумлічы).
4. Міроўшчына, прададзеная Залеўскім, дзе Рыгор Сухменьчык купіў сабе рату зямлі.
5. Горад Нясвіж. Каля яго дробны маёнтачак Раткава, дзе знайшоў сабе другую жонку з грашыма Залеўскі пасля лета 1920 года.
6. Мінск.
7. Варшава.

1. У рамане павінна быць добра і дакладна сказана аб мясцінах і пунктах, дзе адбыліся падзеі ў розныя часы і дзе завязаліся і развязаліся справы.

2. Павінен быць распрацаваны дакладна лёс кожнага персанажа.

3. Распрацаваць квадры — абсягі — малюнкі рамана.
4. Часткі рамана. Раздзелы. Змест іх усіх і нумарацыя.
5. Назва рамана.

## НА ТЫМ БЕРАЗЕ (стар. 539)

Урывак з рамана «Алеся». Друкуецца па аўтографу, які захоўваецца ў рукапісным архіве К. Чорнага ў сям'і пісьменніка. Упершыню змешчаны ў час. «Полымя», 1965, № 4 у публікацыі С. Х. Александровіча «Са спадчыны Кузьмы Чорнага».

Сярод аўтографаў К. Чорнага ёсць нататкі да гэтага рамана.

## АЛЕСЯ

(Прасмердлая душа)

*(Раман)*

(Кругавічная хроніка)

Назвы раздзелаў

Арцёмчык
Аперазнік
Жупранскі
Цішкевіч
Галубчык (гад).
Прозвішча маладога гада — Дошнавец. Аперазнік.

## ДЗВЕ ЧАСТКІ

Першая частка: (назва часткі)

(Ідуць раздзелы без назваў, адзін за адным з нумарацыяй парадкам. Сям'я Шастаковічаў і сям'я ёй супрацьлеглая, у сваіх справах ідуць раўналежна, раздзел за раздзелам, і ўжо ў першай частцы ўступаюць у канфлікт (неразбор.) і думаў: гад прычыніўся да гора Шастаковічаў). Ужо ў першай частцы, не далей як з якоганебудзь чацвёртага раздзела (першыя раздзелы ўступныя), падзеі разгортваюцца ў вайну.

І канчаецца першая частка ў самы разгар падзей. Другая частка пачынаецца, як працяг падзей (непасрэдна) першай часткі, але ўжо Алесіна душа і дзейнасць увайшла ў новую фазу.

Канец — развязка рамана павінна быць нечаканая і непрадбачаная чытачом.

Гэтую тэму льга ўмясціць у 6 аркушаў.

Куды будзе цікавей, і больш выявіцца натура і душа Алесі, калі яна будзе ведаць, што выхоўвае дзяцей сваіх ворагаў. Гэта павінна быць вялікая душа. Такім парадкам гад — жыў у мястэчку Карчма, і яго жонка прыехала сюды на працу і тут пайшла замуж. Абое яны «не тутэйшыя». І пасля выехалі ў Мінск, а пасля ў вайну кінулі дзяцей, і дзеці самі пачалі кіравацца простаю Мінскаю дарогаю ў Карчму і тут сышліся з Алесяй.

## ЗМЕСТ

### П'есы



### Няскончаныя раманы і аповесці



---

На белорусском языке
Кузьма Чорный
(Николай Карлович Романовский)
Собрание сочинений в восьми томах
ТОМ СЕДЬМОЙ

Рэдактар А. Д. Куліш. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень. Карэктар Я. А. Бебель.

АТ 04194. Здадзена ў набор 10/II 1975 г. Падп. да друку 30/X 1975 г. Тыраж 14 700 экз. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 30,6. Ул.-выд. арк. 32,8. Зак. 1924. Цана 1 руб. 28 кап. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.